# СЛОЎНІК ЛІНГВАСТЫЛІСТЫЧНЫХ І ТЭКСТАЛАГІЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

*Складальнікі:*
М. В. Абабурка
Т. А. Казімірская
В. М. Саўчанка

**Магілёў**
**УА «МДУ імя А. А. Куляшова»**
**2012**

Электронны аналаг друкаванага выдання:

Слоўнік лінгвастылістычных і тэксталагічных тэрмінаў
Складальнікі: М. В. Абабурка, Т. А. Казімірская, В. М. Саўчанка
Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2012. – 284 с.

ISBN 978-985-480-765-2

У слоўнік уключана філалагічная навуковая тэрміналогія, якая збіралася, занатоўвалася і часткова публікавалася ў розных навучальных дапаможніках складальнікаў з 1998 г.

Прызначаецца найперш студэнтам, магістрантам і аспірантам філалагічных спецыяльнасцей. Таксама прынясе вялікую карысць усім, хто вывучае непасрэдна тэрміны або толькі цікавіцца фарміраваннем самай сучаснай беларускай філалагічнай (лінгвастылістычнай і тэксталагічнай) тэрміналогіі.

**УДК 811.161.3'374.3**
**ББК 81.2 Беи – 4**

**Слоўнік лінгвастылістычных і тэксталагічных тэрмінаў** [Электронны рэсурс]. – Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2012. – 1 электрон. апт. дыск (DVD-R). – Сістэмныя патрабаванні: PC не ніжэйшы за клас Pentium II: 64 Mb RAM, свабоднае месца на дыску 16 Mb, Windows 98 і вышэй, Adobe Acrobat Reader, DVD-Rom, мыш. – 3 экз.

212022, г. Магілёў,
вул. Касманаўтаў, 1
тэл.: 8-0222-28-31-51
e-mail: alexpzn@mail.ru
http://www.msu.mogilev.by

**ISBN 978-985-480-827-7**
**(электроннае выданне)**

# УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

а) **агульнапрынятыя скарачэнні**

*абл.* – абласное слова (спалучэнне слоў);
*адз. л.* – адзіночны лік;
*аднакр.* – аднакратны дзеяслоў;
*ас.* – асоба дзеяслова (I, II, III);
*асудж.* – асуджальнае слова (спалучэнне слоў);
*б.* – былы;
*безас.* – безасабовы дзеяслоў (безасабовая форма);
*буд. ч.* – будучы час;
*бухг.* – бухгалтэрыя, бухгалтарскі ўлік;
*В* – вінавальны склон;
*в.* – вёска;
*в. а.* – выконваючы абавязкі;
*в-аў* – востраў;
*вобл.* – вобласць;
*воз.* – возера;
*вык.* – выказнік;
*выкл.* – выклічнік;
*высок.* – высокі стыль, высокае слова (словазлучэнне);
*выш. ст.* – вышэйшая ступень параўнання;
*г.* – год, горад;
*гг.* – гады;
*г. зн.* – гэта значыць;
*гіст.* – гістарызм, гістарычны тэрмін (адносіцца да гісторыі);
*гл.* – глядзі (глядзім, глядзіце);
*гр.* – грамадзянін, грамадзянка;
*груб.* – грубае слова (словазлучэнне);
*Д* – давальны склон;
*дадан.* – даданы сказ, член сказа;
*дзеепрым.* –дзеепрыметнік;
*дзеепрысл.* – дзеепрыслоўе;
*дзеясл.* – дзеяслоў;
*дзіц.* – дзіцячае слова (спалучэнне слоў);
*ж.* – жаночы род;
*жарт.* – жартоўнае слова (спалучэнне слоў, словазлучэнняў);
*заг. л.* – загадны лад;
*займ.* – займеннік;
*зак.* – закончанае трыванне;
*зал.* – залежны стан;
*зб.* – зборнік;
*зб. н.* – зборны назоўнік;
*злучн.* – злучнік;
*з нар.* – з народнай творчасці (лексіка, песні, казкі);
*знач.* – значэнне;
*зневаж.* – зневажальнае слова, словазлучэнне, спалучэнне слоў;
*зніж.* – зніжальнае слова, словазлучэнне, спалучэнне слоў;
*і г. д.* – і гэтак далей;
*інш.* – іншы, -ае, -ая, -ыя;
*інф.* – інфінітыў, інфінітыўны;
*і пад.* – і падобнае (падобныя);
*іран.* – іранічнае, у іранічным сэнсе;
*К* – клічная форма, клічны склон;
*кар. ф.* – кароткая форма;
*кніжн.* – кніжнае слова (словазлучэнне), кніжны стыль;
*кольк.* – колькасны лічэбнік, колькасць, колькасны склад;
*ласк.* – ласкальная форма, ласкавае слова (словазлучэнне);
*лаянк.* – лаянкавае слова (словазлучэнне, словаспалучэнне);
*ліч.* – лічэбнік; лічба, лічбавы;
*М* – месны склон;
*м.* – мужчынскі род;
*мн. л.* – множны лік;
*мнагакр.* – мнагакратны (шматкратны) дзеяслоў;
*Н* – назоўны склон;
*н.* – ніякі род;
*наз.* – назоўнік;
*напр.* – напрыклад;
*нар.-паэт.* – народна-паэтычнае слова (словазлучэнне, спалучэнне слоў);
*неадабр.* – неадабральнае слова (словазлучэнне);
*незак.* – незакончанае трыванне дзеяслова;
*несклан.* – нескланяльнае слова;
*н. ст.* – новы стыль;
*н. э.* – наша эра; новая эра;
*нязм.* – нязменнае слова;
*пабочн.* – пабочнае слова (словазлучэнне, сказ);
*памянш.* – памяншальная форма (слова, словазлучэння);
*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма (слова, словазлучэння);
*параўн.* – параўнай (параўнайце, параўнаем);
*парадк.* – парадкавы лічэбнік;
*паэт.* – паэтычнае слова, паэтызм;
*п-аў* – паўвостраў;
*перан.* – пераноснае значэнне слова;
*проціл.* – проціглеглае значэнне слова, словазлучэння, сказа;
*пр.* – прошлы час;
*прым.* – прыметнік;

*прыназ.* – прыназоўнік;
*прысл.* – прыслоўе;
*Р* – родны склон;
*р.* – рака;
*разм.* – размоўнае слова, словазлучэнне;
*р-н* – раён;
*руб.* – рубель;
*с.* – старонка;
*спалуч.* – спалучэнне, словазлучэнне;
*спец.* – спецыяльнае слова (словазлучэнне);
*сс.* – старонкі;
*с/с* – сельскі савет;
*ст.* – стагоддзе;
*стст.* – стагоддзі;
*ст. ст.* – стары стыль;
*ст.-слав.* – старaславянскае слова; ст.-слав. мова;
*Т* – творны склон;
*т.* – том;
*т-ва* – таварыства;
*т. зв.* – так званы (-ая, -ае, -ыя);
*тт.* – тамы;
*тс.* – тамсама;
*ужыв.* – ужыванне, ужываецца;
*уст.* – устарэлае слова;
*ф.* – форма;
*фам.* – фамільярнае слова;
*цяпер.* – цяперашні час.

б) **скарачэнні ў слоўніку, прынятыя яго складальнікамі**

*Абабурка, 1979* – Абабурка, М. В. Дыялектызмы ў творах беларускіх савецкіх пісьменнікаў: Кароткі слоўнік-даведнік / М. В. Абабурка. – Мінск: Выш. школа, 1979.
*Абабурка, 2010* – Абабурка, М. В. Рознастылёвыя тэксты і іх аналіз / М. В. Абабурка. – Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2010.
*Абабурка, 2011* – Абабурка, М. В. Лінгвастылістычныя і тэксталагічныя тэрміны: Слоўнік-даведнік / М. В. Абабурка. – Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2011.
*БелСЭ, 1-12* – Беларуская савецкая энцыклапедыя: у 12 т. – Мінск, 1969-1975.
*БМЭ* – Беларуская мова: Энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча. – Мінск, 1994.
*БМЭС* – Беларуская міфалогія: энцыклапедычны слоўнік / склад. І. Клімковіч. – Мінск, 2006.
*БПС* – Шынкароў, В. В. Беларускі палітычны слоўнік / В. В. Шынкароў, С. П. Раманава. – Мінск, 2011.
*БРПСС* – Белорусско-русский паралексический словарь-справочник: пособие для учителей / под. ред. А. Е. Михневича. – Минск, 1985.
*БРС-26* – Байкоў, М. Беларуска-расійскі слоўнік / М. Байкоў, С. Некрашэвіч. – Менск, 1926.
*БРС, 2004* – Беларуска-рускі слоўнік / аўтар-склад. У. І. Куліковіч. – Мінск, 2004.
*БРС, 2011* – Беларуска-рускі слоўнік / уклад. І. Л. Капылоў, І. У. Ялынцава. – Мінск, 2011.
*БРС-62* – Беларуска-рускі слоўнік / пад рэд. К. Крапівы. – М., 1962.
*БРС, 1-3* – Беларуска-рускі слоўнік: у 3 т. / пад рэд. А. І. Падлужнага. – Мінск, 2003.
*БСЭ* – Большая Советская Энциклопедия: в 30 т. / гл. ред. А. М. Прохоров. – М., 1969. – Изд. 3-е.
*Булыка, 1993* – Булыка, А. М. Слоўнік іншамоўных слоў / А. М. Булыка. – Мінск, 1993.
*Булыка і інш., ТС* – Булыка, А. М. Красамоўства ў Беларусі: Тэрміналагічны слоўнік / А. М. Булыка, Л. М. Мінакова, А. А. Станкевіч. – Мінск, 2002. – С. 170-179.
*Бурак, 1980* – Бурак, Л. І. Даведнік па пунктуацыі беларускай мовы / Л. І. Бурак. – Мінск, 1980.
*БФЭ* – Беларускі фальклор: Энцыклапедыя / гал. рэд. Г. П. Пашкоў. – Мінск, 2006.
*БЭ* – Беларуская Энцыклапедыя: у 18 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск, 1996-2004.
*БЭСЯ* – Большой Энциклопедический Словарь: (ЛЭС) Языкознание / гл. ред. В. Н. Ярцева. – М., 1998.
*Бялькевіч, 1970* – Бялькевіч, І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны / І. К. Бялькевіч. – Мінск, 1970.
*ВКЛ, 1-2* – Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 2 т. / рэдкал.: Г. П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелЭн, 2005.
*Гаўрош, 1998* – Гаўрош, Н. В. Слоўнік эпітэтаў беларускай мовы / Н. В. Гаўрош. – Мінск, 1998.
*Грабчыкаў, 2004* – Грабчиков, С. М. Белорусско-российский, русско-белоруский словарь / С. М. Грабчиков. – Минск, 2004.
*Грабчыкаў, 1994* – Грабчыкаў, С. М. Слоўнік паронімаў беларускай мовы / С. М. Грабчыкаў. – Мінск, 1999.
*ГС* – Гістарычны слоўнік беларускай мовы, в. 1-29. – Мінск, 1982-2009.
*ДАБМ* – Дыялекталагічны атлас беларускай мовы / пад рэд. Р. І. Аванесава, К. К. Крапівы, Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1963.
*ДЗБМ* – Булыка, А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы / А. М. Булыка. – Мінск, 1972.
*КЛС* – Макарэвіч, А. А. Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік / рэд. Д. Я Бугаёў. – Выд. 2-е. – Мінск, 1969.

*Клышка, 2005* – Клышка, М. К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М. К. Клышка. – Мінск, 2005.

*КЛЭ, 1-8* – Краткая литературная энциклопедия / гл. ред. А. А. Сурков. – М., 1962-1975.

*КПС* – Краткий психологический словарь. Сост. Л. А. Карпенко / под общ. ред. А. В. Петровского, М. Г. Ярошевского. – М., 1985.

*КС* – Шкраба, І. Крынічнае слова / І. Шкраба, Р. Шкраба. – Мінск, 1987.

*КСА* – Янкоўскі, Ф. Крылатыя словы і афарызмы / Ф. Янкоўскі. – Мінск, 1960.

*КСПС* – Краткий словарь по социологии / под общ. ред. Д. М. Гвишиани, Н. И. Лапина; сост. Э. М. Коржева, Н. Ф. Наумова. – М., 1989.

*ЛАБНГ, 1-5* – Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: у 5 т. / пад. рэд. М. В. Бірылы і Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1993-1998.

*Лазоўскі, 1999* – Лазоўскі, У. М. Слоўнік антонімаў беларускай мовы: Канкрэтныя выпадкі ўжывання / У. М. Лазоўскі. – Мінск, 1999.

*Ластоўскі, 1991* – Ластоўскі, В. Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Факсімільнае выданне. – Мінск, 1991.

*Лепешаў, 2008* – Лепешаў, І. Я. Слоўнік фразеалагізмаў беларускай мовы: у 2 т. – Мінск, 2008.

*Лепешаў, 2004* – Лепешаў, І. Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў / І. Я. Лепешаў. – Мінск, 2004.

*ЛітЭС* – Литературоведческий энциклопедический словарь / под общ. ред. В. М. Кожевникова и П. А. Никонова. – М., 1987.

*Ліхачоў, 1983* – Лихачев, Д. С. Текстология: на материале русской итературы X-XVII веков. Изд. 2-е. – Л. 1983. – Сс. 630-636.

*Львоў, 1988* – Львов, М. Р. Словарь-справочник по методике русского языка / М. Р. Львов. – М., 1988.

*ЛЭС* – Лингвистический энциклопедический словарь. – М., 1990.

*МБЭС* – Міфалогія беларусаў: Энцыклапедычны слоўнік. Склад. І. Клімковіч, В. Аўтушка / рэд. Г. Валодзіна, С. Санько. – Мінск, 2011.

*Мушынскі, 2007* – Мушынскі, М. І. Тэксталогія твораў Я. Купалы і Я. Коласа / М. І. Мушынскі. – Мінск, 2007. – С. 404-408.

*Насовіч, 1983* – Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы. факсімільнае выданне "Словаря белорусского наречия (СПб, 1870). – Мінск, 1983.

*НЗЛ* – Новое в зарубежной лингвистике. VIII-XVII. – М., 1978-1986.

*НССС* – Новые слова и значения: Словарь-справочник / под. ред. Н. З. Котеловой и Ю. С. Сорокина. – М., 1971.

*Ожагаў, 1960* – Ожегов, С. И. Словарь русского языка / С. И. Ожегов. – 4-е изд. – М., 1960.

*Пазнякоў, 1988* – Пазнякоў, М. П. Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы / М. П. Пазнякоў. – Мінск, 1988.

*Прыказкі і прымаўкі, 1-2* – Прыказкі і прымаўкі ў 2 кнігах / рэд. А. С. Фядосік. – Мінск, 1976.

*ПЭ* – Постмодернизм: Энциклопедия / отв. секр. и ред. А. И. Мерцалова. – Минск, 1988.

*Рагойша, 2001* – Рагойша, В. П. Тэорыя літаратуры ў тэрмінах / В. П. Рагойша. – Мінск, 2001.

*Рагойша, 2003* – Рагойша, В. П. На шляху да Парнаса / В. П. Рагойша. – Мінск, 2003.

*Рагойша, 2004* – Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік / В. П. Рагойша. – 3-е выд. – Мінск, 2004.

*РБС-28* – Некрашэвіч, С. М. Расійска-беларускі слоўнік / С. М. Некрашэвіч, М. Я. Байкоў. – Мінск, 1928.

*РБС-93, 1-3* – Руска-беларускі слоўнік / пад рэд. Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі. – Мінск, 1993.

*РБСДВ* – Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў / пад рэд. У. У. Язэпчыка і М. Н. Крыўко. – Мінск, 1996.

РБСЛТ – Русско-белорусский словарь лингвистических терминов / ред. Н. В. Бирилло, П. В. Стецко. – Минск, 1988.

*РБСОЛ* – Русско-белорусский словарь общеупотребительной лексики / ред.-сост. Н. Н. Кривко. – Минск, 1999.

*РБСС* – Руска-беларускі слоўнік скарачэнняў: у 2 т. – Мінск, 1995.

*РЯЭ* – Русский язык: Энциклопедия. – М., 1979.

*СБМ* – Слоўнік беларускай мовы / пад рэд. М. В. Бірылы. – Мінск, 1987.

*СБНГПЗБ, 1-5* – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча / пад рэд. Ю. Ф. Мацкевіч. – Мінск, 1979-1986.

*СВПТ* – Слоўнік выдавецкіх і паліграфічных тэрмінаў: ангельска-беларускі, беларуска-ангельскі / уклад. К. Санько. – Мінск, 2004.

*СИС* – Словарь иностранных слов / ред. А. Г. Спиркин, И. А. Акчурин, Р. С. Карпинская. – Изд. 7-е. – М., 1979.

*СЛТ, 1969* – Ахманова, О. С. Словарь лингвистических терминов / О. С. Ахманова. – М., 1969.

*СЛТ, 1972* – Розенталь, Д. Э. Словарь-справочник лингвистических терминов / Д. Э. Розенталь, Т. А. Теленкова. – М., 1972.
*СЛТ, 1983* – Лазарук, М. А. Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў / М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. – Мінск, 1983.
*СЛТ, 1990* – Сцяцко, П. У. Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў / П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкі, Л. А. Антанюк. – Мінск, 1990.
*СЛФ* – Слоўнік лексічных формаў: сінонімы, амонімы, антонімы, паронімы, амографы, амафоны / уклад. Я. І. Хвалей, У. В. Шарпіла. – Мінск, 2004.
*СМС* – Анічэнка, У. В. Слоўнік мовы Скарыны / У. В. Анічэнка. – Мінск, 1977-1982.
*СМЯК, 1-8* – Слоўнік мовы Янкі Купалы / склад. У. В. Анічэнка і інш. – Мінск, 1997-2009.
*СНСБМ* – Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. – Мінск, 2009.
*СРБСДШ* – Николаева, О. М. Современный русско-белорусский словарь для школьников / О. М. Николаева, Т. Н. Трухан. – Минск, 2009.
*ССБМ* – Завальнюк, У. М. Слоўнік сучаснай беларускай мовы / У. М. Завальнюк, М. Р. Прыгодзіч. – Мінск, 2009.
*ССЛТ, 1-2* – Словарь славянской лингвистической терминологии: Т. 1-2. – Прага, 1977-1974.
*ССРЛЯ* – Словарь современного русского литературного языка: в 20 т. / гл. ред. К. С. Горбачевич. – М., 1991.
*ССРЯ* – Александрова, З. Е. Словарь синонимов русского языка. – М., 1968.
*Старычонак, 1991* – Старычонак, В. Дз. Слоўнік амонімаў беларускай мовы / В. Дз. Старычонак. – Мінск, 1991.
*Струкава, 2007* – Струкава, С. М. Слоўнік архаізмаў і гістарызмаў па творах бел. маст. л-ры і публіц. / С. М. Струкава. – Мінск, 2007.
*СЦБМ* – Плотнікаў, Б. А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. – Мінск, 2004.
*СЭС* – Советский энциклопедический словарь / Гл. ред. А. М. Прохоров. – Изд. 3-е. – М., 1985.
*СЭСРЯ* – Стилистический энциклопедический словарь русского языка / под ред. М. Н. Кожиной. – Изд. 2-е. – М., 2006.
*ТСБЛМ, 2002* – Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко. – Мінск, 2002.
*ТСБМ, 1-5* – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / пад рэд. К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск, 1977-1984.
*ТСБМДСШ, 1-4* – Тлумачальны слоўнік беларускай мовы для сярэдняй школы / А. Я. Баханькоў, І. М. Гайдукевіч, П. П. Шуба. – Мінск, 1966-1990. – Выд. 1-4.
*УБС* – Лемцюгова, В. П. Украінска-беларускі слоўнік / пад рэд. А. Я. Супруна і М. В. Бірылы. – Мінск, 1980.
*ФС* – Гаўрош, Н. В. Фразеалагічны слоўнік / Н. В. Гаўрош, І. Я. Лепешаў, Ф. М. Янкоўскі. – Мінск, 1973.
*ФСГ* – Фальклорны слоўнік Гомельшчыны / У. В. Анічэнка і інш. – Гомель, 2003.
*ФЭ* – Философская энциклопедия: в 5 т. – М., 1960-1967.
*ЦСС* – Церковно-славянскій словарь / протоіерея А. Свирелина. – М., 1916.
*Шведаў, 2004* – Шведаў, С. М. Слоўнік сінонімаў беларускай мовы / С. М. Шведаў. – Мінск, 2004.
*Шкраба, 2009* – Шкраба, І. Слоўнік безэквівалентнай лексікі. – Мінск, 2009.
*ШТСРЯ* – Лапатухин, М. С. Школьный толковый словарь русского языка / М. С. Лапатухин, Е. В. Скорлуповская, Г. П. Снетова. – М., 1981.
*ШФСРЯ* – Жуков, В. П. Школьный фразеологический словарь русского языка / В. П. Жуков. – М., 1980.
*ЭБЭ* – Этнаграфія Беларусі: Энцыклапедыя / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мінск, 1989.
*ЭГБ* – Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. – Мінск, 1993-1999.
*ЭнЛіМБел, 1-5* – Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: у 5 т. / Рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш. – Мінск, 1984-1987.
*ЭС* – Экалагічны слоўнік / пад рэд. Н. М. Кручковай. – Мінск, 1993.
*ЭСБМ, 1-13* – Этымалагічны слоўнік беларускай мовы, тт. 1-13 / гал. рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск, 1978-2010.
*ЭСРЯ, 1-2* – Этимологический словарь русского языка / под ред. Н. М. Шанского: I, II. – М., 1963-1982.
*Юрчанка, 1969* – Юрчанка, Г. Ф. Народная сінаніміка / Г. Ф. Юрчанка. – Мінск, 1969.
*ЮЭС* – Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік / рэд.: С. В. Кузьмін і інш. – Мінск, 1992.
*Яскевіч, 1990* – Яскевіч, А. Абранне вечнасці: Універсалізм традыцыі і гістарызм сучаснасці / А. Яскевіч. – Мінск, 1999. – С. 276-282.
*Яшкін, 1971* – Яшкін, І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы / І. Я. Яшкін. – Мінск, 1971.
*Яшкін, 2009* – Яшкін, І. Я. Слоўнік беларускіх імёнаў / І. Я. Яшкін. – Мінск, 2009.

# УВОДЗІНЫ

*Прызначэнне Слоўніка.* Падрыхтоўка і выданне "Вучэбна-дапаможнага слоўніка лінгвастылістычных і тэксталагічных тэрмінаў" выклікана найперш развіццём у Рэспубліцы Беларусь такіх навуковых (навучальных) дысцыплін, як "Лінгвістычная стылістыка" ("Лінгвастылістыка"), "Літаратуразнаўчая стылістыка", "Функцыянальная і экспрэсіўная стылістыка", "Лінгвістыка тэксту" ("Тэкстазнаўства"), "Сацыялінгвістыка", "Тэксталогія", "Лінгвістычная паэтыка", "Лінгвістычная тэксталогія", "Тэорыя літаратуры" і "Эстэтыка". Акрамя таго, выдадзеныя раней лінгвістычныя, літаратуразнаўчыя і мастацтвазнаўчыя слоўнікі (і чыста філалагічнага, і энцыклапедычнага характару) нават і ў паўторна дапрацаваным выглядзе не зафіксавалі многіх тэрмінаў па названых дысцыплінах – не толькі вузкаспецыяльных, але і шырокаўжывальных як з колькаснага, так і з якаснага бакоў (асабліва тэрмінаспалучэнняў лінгвапрагматычнага, лінгваэстэтычнага і лінгватэксталагічнага зместу). Сённяшнія студэнты, і магістранты, і аспіранты не маюць пад рукой, увогуле на рабочым месцы спецыялізаванага аднатомнага тэрміналагічнага слоўніка, або карыснага даведніка і інтэрпрэтатара, самай сучаснай філалагічнай тэрміналогіі, у тым ліку і беларускай. Таму падрыхтаванае да друку выданне адрасуецца найперш гэтакім чытачам і даследчыкам. Таксама выкладчыкі (настаўнікі) такіх прадметаў, як "Стылістыка і культура маўлення", "Рыторыка", "Філалагічны (лінгвістычны) аналіз тэксту" і інш., асабліва ў сярэдніх агульнаадукацыйных спецыяльных установах, маюць вялікую патрэбу ў такога роду выданнях, бо самыя неабходныя тэрміналагічныя слоўнікі школьнага напрамку абноўлены ў апошняе дзесяцігоддзе пераважна з увядзеннем у дзеянне ўдасканаленай беларускай арфаграфіі і пунктуацыі паводле Закона Рэспублікі Беларусь ад 23 ліпеня 2008 г. (№ 420-3). Дадамо яшчэ, што апошнімі навучальнымі (адукацыйнымі) стандартамі рэкамендавана звяртаць асаблівую ўвагу ў дзейных навучальных праграмах на навуковую тэрміналогію выкладаемых дысцыплін, асабліва гуманітарнага цыклу. Актуальныя пытанні тэарэтычна-прыкладной стылістыкі і красамоўства, гісторыя літаратурнай мовы і мастацкай літаратуры, агульнага мовазнаўства і лексікаграфіі, тэкстазнаўства і перакладазнаўства пададзены ў даступнай для чытача (карыстальніка) форме ў чарговым нашым выданні, як і ў ранейшых.

*Структура Слоўніка і яго тэрміналагічны склад.* Выданне падрыхтавана як даведачнае, але не толькі з традыцыйным тлумачэннем тэрмінаў, а і з іх навуковай інтэрпрэтацыяй, пацверджанай прыкладамі з разнастайнай літаратуры (у аноўным мастацкай), часта са спасылкамі на тую ці іншую навуковую працу. У канцы слоўнікавага артыкула рэкамендуецца пасля паметы "*параўн.*" (параўнайце, параўнаем, параўнай) звярнуцца да пэўных лексікаграфічных крыніц (умоўна скарочаных паводле пачатковых літар) з мэтай паглыбіць свае веды ці атрымаць спіс неабходнай дзеля гэтага літаратуры, якая, як правіла, пададзена ў кожным энцыклапедычным выданні. Спіс такіх абрэвіятур і іх расшыфроўка прыкладаецца. Падаюцца і патрэбныя (неабходныя) старонкі названых выданняў з мэтай эканоміі часу карыстальніка нашым Слоўнікам. Іншыя ўмоўныя скарачэнні ці адсылкі агульнапрынятыя.

Большая частка тэрмінаў падаецца як асобныя лексічныя адзінкі, што ўжо маюць у іншых крыніцах свае дэфініцыі або лаканічныя навуковыя азначэнні (часта ўказваецца гэта крыніца з адпаведнай старонкай у тлумачальнай частцы, а не пасля паметы

“*параўн.*”). Такі прыём змяншае ганебнасць адносін да лексікаграфічнай працы як своеасаблівай кампіляцыі іншых прац ці значнай часткі іх. Месцамі ў падрыхтаваным выданні зміяшчаецца адпаведны сінанімічны рад, напрыклад:

АПАВЯДАЛЬНІК, АПАВЯДАЧ, РАСПАВЯДАЛЬНІК; АЎТАРСКІ НЕАЛАГІЗМ (НАВАТВОР), ІНДЫВІДУАЛЬНА-АЎТАРСКІ НЕАЛАГІЗМ (НАВАТВОР), НАВАТВОР – *гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМ; НЕАЛАГІЗМ; ЛАЦІНІЦА, ЛАЦІНКА, ЛАЦІНСКІ АЛФАВІТ; НЕСВАБОДНЫЯ, УСТОЙЛІВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ, або ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ; УСТУП, УВОДЗІНЫ; УСТУПНАЯ, УВОДНАЯ ЧАСТКА (ТЭКСТУ) і г. д. Бываюць і такія слоўнікавыя артыкулы: ЗВЫШФРАЗАВАЕ (ЗВЫШСКАЗАВАЕ) АДЗІНСТВА; ПРАЗАІЧНАЯ СТРАФА – *гл.* ПЕРЫЯД; АБЗАЦ; ЧЫРВОНЫ (НОВЫ) РАДОК.

Дзеля найлепшага ўспрымання і адрознення асобных навук ці іх галін прыняты параўнальна-супастаўляльная падача ці характарыстыка тэрмінаў накшталт такіх: СТЫЛІСТЫКА АГУЛЬНАЯ і ПРЫВАТНАЯ; СТЫЛІСТЫКА АПІСАЛЬНАЯ, або СТЫЛІСТЫКА РЭСУРСАЎ, і СТЫЛІСТЫКА ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ; СТЫЛІСТЫКА ГІСТАРЫЧНАЯ (ДЫЯХРАНІЧНАЯ) І СТЫЛІСТЫКА СУЧАСНАЯ (СІНХРАНІЧНАЯ); СТЫЛІСТЫКА ЛІНГВІСТЫЧНАЯ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЯ; СТЫЛІСТЫКА МОВЫ, МАЎЛЕННЯ, МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ; СТЫЛІСТЫКА ПАРАЎНАЛЬНАЯ І СУПАСТАЎЛЯЛЬНАЯ; СТЫЛІСТЫКА ТЭКСТУ І СТЫЛІСТЫКА ЎСПРЫМАННЯ (інакш – СТЫЛІСТЫКА КАДЗІРАВАННЯ І ДЭКАДЗІРАВАННЯ); СТЫЛІСТЫКА ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ І ЭКСПРЭСІЎНАЯ.

Крыніцамі для падбору рэестравых (загаловачных) слоў-тэрмінаў і тэрмінаспалучэнняў паслужылі навуковая і навучальная літаратура, усе беларускамоўныя лексікаграфічныя працы, падручнікі і метадычныя дапаможнікі па вышэйназваных дысцыплінах, асабліва па стылістыцы беларускай мовы, рыторыцы (красамоўстве, публічным выступленні) і культуры сучаснага беларускага маўлення. Таму такога роду тэрміналогія дамінуе ў падрыхтаваным да друку нашым выданні. Тэксталагічная тэрміналогія ўзятая пераважна з выданняў “Новое в зарубежной лингвистике” (вып. VIII-XVII. – М.: Прогресс, 1978-1986), “Текстология: на материале русской литературы X-XVII веков” Д. С. Ліхачова (выд. 2-е. – Л.: Навука, 1983), “Абранне вечнасці: Універсалізм традыцыі і гістарызм сучаснасці” А. А. Яскевіч (Мінск: Маст. літ., 1999) і “Тэксіалогія твораў Я. Купалы і Я. Коласа” М. І. Мушынскага (Мінск: Бел. навука, 2007), а таксама з шэрагу самых сучасных артыкулаў, змешчаных на беларускай мове ў Інтэрнэце (напр., В. Жыбуля, С. А. Важніка і інш.). Базавымі крыніцамі нашага выдання сталі “Лінгвастылістычныя і тэксталагічныя тэрміны: слоўнік-даведнік” М. В. Абабуркі (Магілёў: УА “МДУ імя А. А. Куляшова”, 2011) і “Стилистический энциклопедический словарь русского языка” пад рэд. М. Н. Кожынай (М.: Флинта; Наука, 2006. – Изд. 2-е).

У прапанаваным выданні змешчаны, растлумачаны і прааналізаваны звыш 1000 тэрмінаў-слоў і тэрмінаспалучэнняў, актыўных у сучасным навуковым, публіцыстычным і афіцыйна-справавым маўленні. Асноўнай мэтай Слоўніка з’яўляецца не сістэматызацыя і ўніфікацыя прааналізаванай навуковай тэрміналогіі, а раскрыццё яе сутнасці і сутнаснасці ў форме дэфініцый, каментараў, інтэрпрэтацый, даведачнага і бібліяграфічнага матэрыялу. Самі тэрміны размешчаныя і пададзеныя строга ў алфавітным парадку, трмінаспалучэнні падаюцца галоўным чынам паводле апорнага слова ў іх (напрыклад: *ЯКАСЦІ* МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ, *НОРМЫ* ЛІТАРАТУРНЫЯ, *ГУСТ* МАСТАЦКІ (ЭСТЭТЫЧНЫ), *АНАЛІЗ* ТЭКСТУ ЛІНГВАСТЫЛІСТЫЧНАЭСТЭТЫЧ-

НЫ, *АДЗІНСТВА* ЗВЫШФРАЗАВАЕ (ЗВЫШСКАЗАВАЕ), *АБАГУЛЬНЕННЕ* МАСТАЦКАЕ і інш). Некаторыя тэрміны пададзены лацінскім шрыфтам (напр. *emendation* – выпраўленае ізноў, *lektio facilior* – лёгкае чытанне, *lapsus linquae* – памылка ў маўленні (мове), *post factum* – пасля зробленага (сказанага, напісанага, надрукаванага), *status quo* – статус-кво – становішча без змен, *va banque* – ва-банк, па-банку – на ўсе грошы і г. д.).

*Пераемнасць развіцця беларускай лексікаграфіі.* Вышэй ужо гаварылася пра базавыя лексікаграфічныя крыніцы падрыхтаванага да выдання Слоўніка. Пераемнымі элементамі данай лексікаграфічнай працы патрэбна назваць адбор загаловачных (рэестравых) тэрмінаў, іх дэфініцыі і навуковыя каментары, цытацыю прыкладаў-ілюстрацый ці спасылкі на пэўныя навуковыя крыніцы, структуру слоўнікавых артыкулаў і інтэрпрэтацыю ўсяго матэрыялу ў іх. Пачатак шматлікіх слоўнікавых артыкулаў поўнасцю супадае з аналагічнымі не толькі ў слоўніку-даведніку М. В. Абабуркі, але і ў такіх беларускамоўных выданнях, як пяцітомная “Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі” (Мінск, 1984-1987), “Слоўнік лінгвістычных тэрмінаў” П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкага і Л. А. Антанюк (Мінск, 1990), “Беларуская мова: энцыклапедыя” (Мінск, 1994), “Паэтычны слоўнік” В. П. Рагойшы (Мінск, 1979-2004), “Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы” (Мінск, 2002) і інш. (*гл.* Спіс выкарыстаных лексікаграфічных крыніц і Спіс умоўных скарачэнняў і абрэвіятур).

Як і ў “Стылістычным энцыклапедычным слоўніку рускай мовы” (*гл.* СЭСРЯ), у нашым выданні рэестравую частку складаюць тры групы тэрміналагічных паняццяў: 1) тэрміны, што адлюстроўваюць лінгвастылістычныя з’явы і факты (анталогію) – моўныя сродкі стыляў, стылістычна афарбаваныя адзінкі сучаснай беларускай літаратурнай мовы на ўсіх яе ўзроўнях; 2) складзеныя і адстоеныя (метамоўныя) тэрміны-паняцці стылістыкі і тэксталогіі як навук; 3) тэрміны, што абазначаюць найбольш актуальныя праблемныя пытанні стылістыкі (класіфікацыя і ўнутраная дыферэнцыяцыя функцыянальных стыляў, напрамкі стылістыкі, стылеўтваральныя сродкі і фактары, інтэртэкстуальнасць, метады лінгвастылістычнага аналізу, глыбінны і паверхневы сэнс тэксту і шмат інш.). Асноўная ўвага надаецца пытанням пра стылістычныя (стылёвыя) нормы і іх парушэнні (ст. памылкі), стылярысы і асобныя функцыі розных стыляў мовы і маўлення, пра стылістыка-тэкставыя катэгорыі, напрамкі ў вывучэнні літаратурна-мастацкіх тэкстаў і г. д. Калі слоўнікавы артыкул прысвечаны надзвычай складаным пытанням, то ў ім спачатку падаюцца агульныя звесткі і азначэнне родавага паняцця, а відавыя або пералічваюцца, або робяцца неабходныя спасылкі на асобныя артыкулы Слоўніка дзеля іх лепшага разумення.

У слоўніку растлумачаныя і пракаментаваныя 1163 навуковыя тэрміны, з якіх 68 тэрмінаў-слоў і тэрмінаспалучэнняў апрацавалі і падрыхтавалі да друку Т. А. Казімірская і В. М. Саўчанка. Усё астатняе выканана М. В. Абабуркам.

18 лістапада 2011 г. г. Магілёў

# СЛОЎНІК

## А

**АБАГУЛЬНЕННЕ** – 1) пераход на больш высокую ступень абстракцыі *(гл.)* праз выяўленне агульных прымет; 2) атрыманне абагульняльных ведаў *(гл.)* пры аналізе і сінтэзе звязнага маўлення *(гл.)*, вуснай і пісьмовай разнавіднасцей агульнанароднай мовы *(гл.)*; 3) падагульненне. *Гл.* ВЫВАД, ВЫСНОВА, ЗАКЛЮЧНЫ АКОРД, ПАДАГУЛЬНЕННЕ. *Часамі ў творчасці паэта [А. Пісьмянкова. – М. А.] узнікаюць вобразы-сімвалы, абагульненні, нібыта дабрыні і заганы ў сярэдневяковым маралітэ, як, напрыклад, вобраз Саду ў вершы "І будзе дзень, і будзе вечар…"* (А. Яскевіч. Абранне вечнасці). АБАГУЛЬНЕННЕ ВОПЫТУ – 1) выяўленне наватарскіх, інавацыйных элементаў у даследчыцкай працы, пры выкладанні тых ці іншых дысцыплін і г. д. з мэтай выдзялення ў ім найбольш важнага і каштоўнага для тэарэтычнага абгрунтавання і ўкаранення ў масавую практыку; 2) укараненне перадавога даследчыцкага, педагагічнага і іншага вопыту для развіцця навукі і значнага паляпшэння працоўнай дзейнасці, правядзення эфектыўных заняткаў і г. д. *Абмен вопытам работы, абагульненне яго трэба паставіць на больш салідную навуковую і наватарскую аснову* (М. І. Мішчанчук. Настаўніку – пра настаўнікаў). АБАГУЛЬНЕННЕ МАСТАЦКАЕ – адзін з найважнейшых сродкаў мастацкага адлюстравання рэчаіснасці *(гл.)*, пры якіх мастак, малюючы канкрэтны аб'ект *(гл.)*, імкнецца паказаць не толькі асаблівыя, але і агульныя прыкметы; мастацкае пазнанне рэчаіснасці, пры якім вобразы *(гл.)* выступаюць як адзінства агульнага і асаблівага, тыповага і індывідуальнага, зместу і формы *(гл.)*. *Гл.* ВОБРАЗ МАСТАЦКІ, ТЫПОВАЕ, ТЫПІЗАЦЫЯ. *Сапраўднае мастацтва заўсёды абагульняе. Але характар гэтага абагульнення розны ў розныя эпохі* (А. М. Адамовіч. Беларускі раман). АБАГУЛЬНЯЛЬНЫЯ ВЕДЫ – больш глыбокае пранікненне ў сутнасць рэчаіснасці на аснове ўжо выпрацаваных паняццяў і суджэнняў або выпрацоўка такіх паняццяў, што выяўляюць тоеснасць ці падабенства двух і больш прадметаў, з'яў і да т. п. АБАГУЛЬНЯЛЬНЫЯ СЛОВЫ – словы ці словазлучэнні пры аднародных членах сказа або аднародных частках выказванняў (тэкстаў), якія выступаюць у той жа самай семантыка-сінтаксічнай ролі, што і самі аднародныя члены сказа ці іх часткі, эквівалентныя простым сказам у выказванні (тэксце). *Едзе цэлы абоз паліцыі: прыстаў, два ўраднікі, стражнікаў з дваццаць, са стрэльбамі, шаблямі, нагайкамі* (Я. Колас. "Слабода"); *Па тратуары ішлі дзеці, мужчыны, кабеты… і ўсе нязвычна паварочвалі зрок направа, усе пазіралі ў акно майстэрні* (Р. Мурашка. Сын); *Жах вайны. Гнеў вайны. Хто можа забыць пра вас, адмахнуцца ад вас?! Няма забыцця…* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

*Параўн.:* абагульняльныя словы (СЛТ, 1990, с. 5).

**АБ'ЕКТ** – 1) матэрыяльная, навакольная рэчаіснасць, усё тое, што існуе па-за намі, незалежна ад нас і нашай свядомасці; 2) з'ява ці прадмет, на якія накіравана чыя-небудзь дзейнасць; 3) граматычная катэгорыя з абазначэннем таго, на

каго (што) накіравана пераважна дзеяслоўнае дзеянне; дапаўненне як член сказа. А. выступае для суб'екта *(гл.)* "не "ў чыстым выглядзе", а ў формах дзейнасці, мовы і ведаў, выпрацаваных гістарычным развіццём грамадства" (У. К. Лукашэвіч).

*Параўн.:* аб'ект (БелСЭ, І, сс. 18-19), (БЭ, І, с. 10).

**АБ'ЕКТЫВАЦЫЯ** – 1) працэс матэрыялізацыі ідэальных рыс аб'екта ці суб'екта як адлюстравання аб'ектыўнай (суб'ектыўнай) рэчаіснасці; 2) тое, што і АБ'ЕКТЫВІЗМ *(гл.)*.

**АБ'ЕКТЫВІЗМ** – 1) навуковая канцэпцыя; 2) аб'ектыўны падыход да чаго-небудзь; непрадузятасць; пазбаўленне суб'ектывізму. "Аб'ектывізм – антынавуковы прынцып падыходу да рэальнасці, які адмаўляе права навукі рабіць светапоглядныя, партыйныя вывады і ацэнкі з'яў, падкрэслівае іх "непрадузятасць", "надкласавасць", "беспартыйнасць". Процілеглы сапраўдны аб'ектыўнаму пазнанню свету" (БелСЭ, І, с. 19). *Шукаючы незалежнасці ад буржуазнага грамадства ў сферы чыстай эстэтыкі, яны [Леконт дэ Ліль, Сюлі-Прудом і інш. – М. А.] не маглі пераадолець бясстраснасць і бяздумны аб'ектывізм* (У. В. Гніламёдаў. Сучасная беларуская паэзія).

**АБ'ЕКТЫЎНАЕ, АБ'ЕКТЫЎНАСЦЬ** – 1) тое, што належыць самому аб'екту, існуе незалежна ад дзеючага суб'екта *(гл.)*. Тэрмін А. мае некалькі аспектаў: анталагічны, гнасеалагічны і інш.; 2) пазбаўлены суб'ектывізму і звязаны са знешнімі ўмовамі; праўдзівы, бесстаронні (ТСБЛМ, 2002, с. 15). *У класічным рамане крытычнага рэалізму надзвычай смела сінтэзаваны і шырыня, аб'ектыўнасць паказу жыцця, характэрная для эпапеі, і напружанасць калізій, вастрыня, з якой характары сутыкаюцца звычайна ў драме…* (А. М. Адамовіч. Беларускі раман).

*Параўн.:* аб'ектыўная ісціна і аб'ектыўная рэальнасць (БЭ, І, с. 20).

**АБЗАЦ** – 1) водступ управа ў пачатку радка; чырвоны (новы) радок; 2) частка друкаванага ці рукапіснага тэксту ад аднаго чырвонага радка да другога, якая складаецца з аднаго ці некалькіх сказаў і характарызуецца адзінствам і адноснай закончанасцю зместу *(гл.)*; 3) састаўны кампанент тэксту *(гл.)*, адпаведны адной мікратэме *(гл.)*. У вусным маўленні А. выдзяляецца інтанацыйна, яго першыя сказы вымаўляюцца з большай сілай голасу, чым астатнія. Паміж абзацамі робіцца паўза большая, чым паміж сказамі А. У дыялогах і палілогах А. звычайна супадае з кожным асобным выказваннем *(гл.)*.

Паводле М. Я Цікоцкага, у залежнасці ад тэксту трэба адрозніваць А. дынамічны і статычны: першаму ўласціва абазначэнне паслядоўнасці дзеяслоўных дзеянняў, другому – звесткі апісальнага характару. У літаратурна-мастацкіх тэкстах *(гл.)* сустракаюцца надзвычай часта змешаныя тыпы А., асабліва ў празаічных творах *(гл.)*.

Ідэальны А. характарызуюць тры с т р у к т у р н ы я э л е м е н т ы: абзачны зачын (дэтэрмінант), асноўная фраза, тлумачальная (каментарная) частка. Адначасовае злучэнне зачыну *(гл.)*, асноўнай фразы *(гл.)* і каментарнай часткі *(гл.)*, уласцівае для тыповага А., надае мікратэксту адценне паслядоўнасці, паўнаты і адноснай завершанасці выказвання:

*Аднаго разу Гусоўскаму востра захацелася ўбачыць Строцы. Ён адшукаў той дом, ды ў паўпустых пакоях і за разьблёнымі дзвярыма ў канцы анфілады не было ні душы. На сухім дне келіха ляжала нежывая муха. Свечкі даўно дагарэлі, і скразняк варушыў на пыльным стале спісаныя аркушы. Ён узяў адзін з іх сабе на ўспамін, але потым перадумаў і, паклаўшы яго назад, прыціснуў аркушы кандэлябрам. Яму хацелася верыць, што гаспадар гэтага пакоя яшчэ вернецца…* (У. Арлоў. Дзень, калі ўпала страла).

У працытаваным А. выразна вылучаюцца абзацны зачын, выражаны дэтэрмінантам *"аднаго разу"*, абзацная фраза (*"Гусоўскаму востра захацелася ўбачыць Строцы")* і каментарная частка (наступная пасля першай фразы частка А.).

Аналітычна-сінтэтычны А. утрымлівае аналітычную (тлумачальную) частку ў абзацнай фразе, каментарная частка змяшчае абавязковае падагульненне *(гл.)*:

*У хатках, што чарнеліся ўздоўж вуліц, спалі са сваімі жонкамі і дзецьмі рымары і броннікі, кавалі і сырамятнікі, цесляры і скрыннікі, муралі і апоннікі. А яшчэ – дымары, плавільшчыкі жалеза. І гаплічнікі тыя, што з косці і дрэва выраблююць гузікі і кручкі для адзення. І кансвісары – адліўшчыкі царкоўных званоў. Тысячы сноў спляталіся ў адзін вялізны, усеабдымны і ў той жа час трывожны сон, бо хіба можна было спаць спакойна на самым пачатку трынаццатага стагоддзя, на самай мяжы Полацкай зямлі і ўладанняў рыжскага епіскапа Альберта* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

Паступовае спалучэнне ўсёй папярэдняй інфармацыі *(гл.)* лагічна прыводзіць да высновы *(гл.)*, выказанай у апошняй фразе *(гл.)*, якая звычайна, як і падкрэсленая фраза, адначасова з'яўляецца канцоўкай *(гл.)* складанага сінтаксічнага цэлага *(гл.)*.

У сінтэтычна-аналітычным А. абзацная фраза абагульняе ўвесь наступны інтанацыйна выдзелены мікракантэкст *(гл.):*

*Мінулае ішло заўсёды побач. Яно то мацнела, то слабела, але не знікала усё, на ўсім, чым жыла [Хадоська. – В. С.] цяпер, быў яго цень. Яно прыходзіла ноччу, ішло ўдзень, было ў думках, у настроі, ва ўчынках…* (І. Мележ. Подых навальніцы).

Калі аналітычна-сінтэтычны і сінтэтычна-аналітычны А. часцей за ўсё адпавядаюць дзвюхчасткаваму ССЦ, пазбаўленаму адпаведна зачыну *(гл.)* або канцоўкі *(гл.)*, то рамачны А. суадносны з трохкампанентным ССЦ, зачынам якога выступае абзацная фраза, а канцоўкай – заключны сэнсава аб'яднаны элемент каментарнай часткі А.:

*Першыя паслы з Чудскай зямлі прыйшлі ў Полацк на Вадохрышча, у самыя лютыя маразы, калі мядзведзь пераварочваецца ў берлагу на другі бок. На мірныя паселішчы эстаў наляцелі немцы з атрадамі перавернутых у новую веру ліваў. Мужчын забівалі на месцы, а жанчын, дзяцей і гавяду гналі ў Лівонію. Дзесяць дзён эсты адбіваліся ў замку, а на адзінаццаты, калі з абложнае вежы нямецкія латнікі з лукаў і прашчаў перабілі палову абаронцаў, мусілі скарыцца: пусцілі ў замак лацінскага святара і аддалі немцам у заложнікі сыноў сваіх старэйшын. Паслы прасілі полацкага князя ісці на Рыгу, а самі абяцалі паўстаць і цясніць вадой ліваў і летаў* (У. Арлоў. Дзень, калі упала страла).

Падкрэсленая першая і заключная фраза рамачнага А. цесна звязаны паміж сабой і ўтвараюць семантычна адзінае цэлае. Рамачнае акаймаванне А. выклікае эфект “закрытасці”, уяўнай нязвязанасці з сумежнымі кантэкстуальнымі адзінкакмі *(гл.)*. Рамачны А. не абмежаваны тэматыкай *(гл.)* і праблематыкай *(гл.)* мастацкага твора, але ўжываецца найчасцей з мэтай зніжэння імпліцытнасці, пры імкненні аўтара *(гл.)* да стварэння аб’ектыўнай карціны.

Па маладосці год і легкаумнасці Міхал не звяртаў увагі на “важлівыя дробязі”, і ўсё яму было хоць бы што. У сіле ён звыкнуў бачыць дабрадзейнасць, хоць скончыў школу пры калегіуме і павінен быў ведаць на прыкладах з Катула, што не заўжды дабрачынны Цэзар і што курульнае крэсла часта займае вадзянка. Бацька, чалавек, настроены па-старасавецку, таксама выбіваў з яго такія думкі цытатамі з Сымона Буднага. Гэта не дапамагала. Свет быў няўстойлівы, моцныя пагражалі адусюль, кароль не мог абараніць, схізматаў не крыўдзіў толькі ляноты. Катул быў паганец, а Буднага яшчэ дзвесце год назад абвінавацілі ў амярзіцельнай швейцарскай ерасі, і таму ён не меў рацыі. Сіла, і толькі сіла!

Ён не ведаў яшчэ, чым канчае кожная грубая сіла, і таму амаль весела падганяў каня ў напрамку да Знямяроўшчыны. Надзея калыхала яго.

Як добра, як прамудра ўсё на божым свеце!

*Каля самай дарогі стаяў нацэлены кудысьці аглоблямі воз без каня. Абады колаў былі забітыя, і воз стаяў як быццам на чатырох сонцах, бо спіцы нагадвалі прамені* (У. Караткевіч. Цыганскі кароль).

Падкрэслены сказ з’яўляецца “свабодным” і не ўключаецца ні ў папярэдняе, ні ў наступнае складанае сінтаксічнае цэлае *(гл.)*. Гэта своеасаблівае аўтарскае адступленне, якое выражае аўтарскія адносіны да ўжо сказанага і да таго, што будзе яшчэ гаварыцца. Несуадноснасць з папярэдняй і наступнай інфармацыяй спрыяе вылучэнню гэтага сказа ў асобны абзац, які з’яўляецца плаўным пераходам да новай мікратэме, да арганізацыі новага складанага сінтаксічнага цэлага, да наступнага мікравобраза.

Абзацаванне стрыжнёвай фразы выклікана суб’ектыўнымі фактарамі, у прыватнасці, жаданнем аўтара звярнуць увагу на выдзеленую інфармацыю, паказаць яе змястоўнасць для мікракантэксту:

*Нічога асаблівага не было ў гэты вечар, але памяць пра яго грэла і трывожыла іх потым многія гады* (І. Мележ. Людзі на балоце); *Тады было гэткае ж спякотнае лета…* (В. Быкаў. Кар’ер); *Багна спрадвеку ўмела хаваць свае таямніцы* (В. Быкаў. Аблава); *Змрочныя начныя кедры спявалі за сцяной* (У. Караткевіч. Чазенія).

Некаторыя даследчыкі лічаць А. адзінаццатым знакам прыпынку *(гл.)*.

*Параўн.:* абзац (ЭСРЯ, I, с. 14); (ССРЛЯ, I, с. 44).

**АБЗАЦАВАННЕ** – 1) падзел тэкстаў на абзацы; 2) вылучэнне ў абзац. Адрозніваюць наступныя п р ы н ц ы п ы абзацавання:

1) *кампазіцыйна-сэнсавы*, заснаваня на выдзяленні параўнальна новай інфармацыі:

*У другой палове дня чатырнаццатага лтстапада тысяча дзевяцьсот трыццаць дзявятага года ў Слоніме было яшчэ больш імжыста, чым у першай. Леўчык, выйшаўшы з хаты на двор, зрабіў руку паддашкам каля броваў, выглядаючы, а хто ж там ад веснiц да яго ідзе? Невысокі, стары, кучаравая сівізна стаўбуром, і вось ён пазнаў Купалу, пайшоў, ледзь ужо не ўподбежкі рынуўся насустрач, рукі разняўшы, як крылы для палёту. Разняў свае цяжкаватыя рукі і Купала, і так яны сустрэліся – грудзі ў грудзі – старэйшы Гальяш і маладзейшы Купала, былыя паэты-нашаніўцы, сённяшні вялікі народны паэт і забыты тады ў былой панскай Польшчы богам і людзьмі Гальяш Леўчык* (А. Лойка);

2) *экспрэсіўна-стылістычны:* абзацаванне адбываецца ў залежнасці ад жадання аўтара засяродзіць увагу на нечаканасці або значнасці дзеяння, падкрэсліць выказаную думку, паказаць яе сэнсавую важкасць, узмацніць экспрэсіўнасць, засяродзіць увагу рэцыпіента на пэўнай мастацкай дэталі:

*Радзіма.*

*Родная зямля.*

*Беларусь* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім);

3) *прынцып кантактнай неспалучальнасці:* у адзін абзац не могуць быць аформлены сказы, у якіх апошнія словы папярэдняга абзаца не звязваюцца з першымі словамі наступнага абзаца (найчасцей – займеннік адносіцца не да апошняга назоўніка таго ж роду і ліку, як таго патрабуюць правілы словаўжывання):

…Незразумелым болем замілавання душылі яго [Фішара. – В. С.] слёзы перад босымі нагамі "Блуднага сына", немы крык гневу і жаху заўжды рваўся з горла перад катастрофай Пампеі, хлопцу хацелася маліцца на "Джыяконду", бясконца разглядваць незвычайныя твары, позы, адзенне славутай Іванаўскай "Месіі", буйная сарамяжная радасць жыцця ахоплівала яго ля палотнаў Рубенса.

*І ён, не стаўшы мастаком, усё ж звязаў сваё жыццё з мастацтвам* (В. Быкаў. Жураўліны крык);

4) *прынцып структурнай суадноснасці абзаца і складанага сінтаксічнага цэлага:* у абзац часта вылучаюцца зачыны і канцоўкі складанага сінтаксічнага цэлага (стрыжнёвыя фразы), а таксама "свабодныя сказы", якія нельга аднесці ні да аднаго складанага сінтаксічнага цэлага:

Як чалавек, які не толькі замілавана гладзіў сытае, даверлівае цялятка, але ж і сам яго выкарміў, і быў аднойчы пастаўлены перад горкім абавязкам падысці да яго з нажом.

*Як чалавек, які не толькі ахвотна піў сырадой ці задаволена пакрэктваў над місай крамянага ды халоднага з пограба кіслага малака, але ж і сена карове касіў, і салому на подсціл ёй вымалочваў* (Я. Брыль. Гуртавое);

6) *прынцып змены функцыянальна-сэнсавага тыпу маўлення:*

Дзедава хата, куды перабралася Міцева сям'я, таксама блізка ля пераезда – асабліва люднага местачковага. Пыльная, пабітая на калдобіны вуліца ў гэтым месцы як бы разгаліноўваецца: правы бок цягнецца роўна, падступаючы будын-

камі ледзь не да самага пераезда, а левы крута адыходзіць, заварочваючы ў поле. Атрымліваюцца дзве вуліцы. У прамежку – зарослы муравой выган, які называюць мусамі.

*Адсюль, з дзедавага двара, добра відаць ранейшае Міцева аселішча – палявы пераезд, будка, сасна. Хутка месяц як няма бацькі. Пасля дыверсіі на чыгунцы, калі партызаны развінцілі рэйкі, скінулі цягнік і некалькі вагонаў, бацьку арыштавалі, трымалі ў турме. Набегла новая чарга адпраўкі ў Германію, і яго, хоць і немалады, пасадзілі ў вагон. Згоды не пыталі, добра, што дазволілі развітацца з сям'ёй* (І. Навуменка. Вецер у соснах).

Вылучэнне працытаваных абзацаў адбываецца ў сувязі са змяненнем тыпу маўлення *(гл.)*: у першым абзацы – апісанне *(гл.)*, у другім – апавяданне *(гл.)*.

*Параўн.:* абзацаванне (Абабурка, 2011, с. 6).

**АБРАЗА, АБРАЗЛІВАЯ ЛЕКСІКА** – *гл.* ПЕЯРАТЫЎНАЯ ЛЕКСІКА.

**АБРАЗОК** – мастацкая замалёўка з слаба разгорнутым сюжэтам *(гл.)* ці зусім без яго; малая празаічная форма.

*Параўн.:* "Абразкі" З. Бядулі і "Абразкі" Ф. М. Янкоўскага.

**АБРАКАДАБРА** – 1) бяссэнсавае паводле зместу (сэнсу) слова ці група такіх слоў, якім прыпісвалася ў старажытнасці магічная сіла, як і на сучасным этапе прыпісваецца цудадзейная сіла разнастайным замовам; 2) незразумелы набор слоў; бяссэнсіца. *А. – незразумелы набор слоў ці выказванняў, бязглуздзіца* (БЭ, І, с. 36).

**АБРАМЛЕННЕ** – 1) рамачнае ўпрыгожванне партрэта, верша, цытаты і пад.; 2) акаймаванне расповеду пейзажнымі замалёўкамі і інш. *Гл.* КАЛЬЦО, КАЛЬЦАВАЯ КАМПАЗІЦЫЯ, ПАРАЛЕЛІЗМ, ПАЎТОР.

**АБРЭВІЯТУРА** – складанаскарочанае слова, утворанае з назваў пачатковых літар (гукаў) ці з пачатковых частак слоў: *БАМ, МТС, БДУ, БелСЭ*, а спосаб утварэння абрэвіятур называецца АБРЭВІЯЦЫЯ.

*Параўн.:* аббревиатура, аббревиация (СЛТ, 1969, с. 27).

**АБСТРАКТНАЯ ЛЕКСІКА** – словы з адцягненым, абстрактным значэннем, пераважна ў навуковым стылі *(гл.)*. Надзвычай цесна звязана з тэрмінам АБСТРАКЦЫЯ – "мысленне", "паняційнае" вылучэнне істотных уласцівасцей і сувязей, агульнай адзнакі, якая характарызуе пэўны клас прадметаў і з'яў рэчаіснасці. Філасофія, як навука пра найбольш агульныя законы развіцця прыроды, чалавечага грамадства і мыслення, сцвярджае, што ўяўленне – гэта пачуццёвы, наглядны вобраз прадмета (рэаліі), у якім прыметы прадмета ці з'явы пададзены ў злітнай, нерасчлянённай форме, паняцце ж з'яўляецца веданнем істотных прымет (прызнакаў) прадмета. *Гл.* ЗНАЧЭННЕ, СЭНС І ЗНАЧЭННЕ.

*Параўн.:* абстрактнае і канкрэтнае, абстракцыя (БЭ, І, сс. 44, 45).

**АБСТРАКЦЫЯНІЗМ** – адна з плыней мадэрнізму *(гл.)*, заснаваная на ідэалістычным светапоглядзе і светаўспрыманні, што адмаўляюць магчымасць пазнання аб'ектыўнай рэчаіснасці. А. праяўляецца ў выяўленчым мастацтве, тэатрах і п'есах абсурду, у прозе і паэзіі з незразумелым чытачу ці гледачу зместам,

з фармалістычнымі выкрутасамі, нават без знакаў прыпынку і інш. *Абстракцыянізм – крайне фармалістычны кірунак, паслядоўнікам якога ўласцівы адрыў ад рэальнага жыцця і захапленне нагрувашчваннем абстрактных форм у выглядзе рознакаляровых плям, мазкоў, ліній* (ТСБЛМ, 2002, с. 23).

*Параўн.:* абстракцыя (БЭ, І, с. 45), (СЛТ, 1983, с. 5).

**АБЯЦАННЕ ЎРАЧЫСТАЕ** – клятва; прысяга як разнавіднасці ўрачыстага маўлення. *Урачыстае абяцанне юнага піянера. Параўн.:* "Прысяга над крывавымі разорамі" Цёткі.

**АВАНГАРДЫЗМ** – абагульненая, умоўная назва мастацкіх напрамкаў у ХХ ст., якім уласціва недаацэнка ці поўнае адмаўленне традыцый, абсалютызацыя наватарства, пошукі небывалых, часта штучных форм і сродкаў адлюстравання аб'ектыўнай ці суб'ектыўнай рэчаіснасці.

*Параўн.:* авангардызм (СЛТ, 1983, сс. 6-7), (ЛітЭС, с. 9).

**АВАНТЫТУЛ** – пачатковая старонка кнігі, што папярэднічае разгорнутаму тытульнаму лісту ці франтыспісу.

**АГЕНС** (АГЕНТ, АГЕНТЫЎ) – утваральнік дзеяслоўнага дзеяння; тыповая семантычная характарыстыка, роля ўдзельніка сітуацыі, што апісваецца ў сказе. Агентыўнае значэнне пэўнай асобы выражаецца пры дапамозе суфіксаў *-нік, -льнік, -чык, -шчык* і інш. *Гл.* АЎТАР, СУБ'ЕКТ, РЭФЕРЭНТ.

*Параўн.:* агенс (ЛЭС, с. 17).

**АГІЯГРАФІЯ** – царкоўна-рэлігійная літаратура з апісаннем жыцця і дзейнасці святых. *Гл.* ЖЫЦІЙНАЯ ЛІТАРАТУРА, ЖЫЦІІ.

**АГУЛЬНАДАСТУПНЫ ВЫКЛАД** – вусная або пісьмовая падача матэрыялу, даступная і зразумелая для ўсіх, а не толькі для спецыялістаў.

**АГУЛЬНАНАРОДНАЯ, АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА** – мова беларусаў як нацыі, г. зн. пачынаючы з XVI ст. і па сённяшні дзень; вусная і пісьмовая разнавіднасці беларускай літаратурнай мовы *(гл.)*; беларуская літаратурная і дыялектная мова *(гл.)* у сукупнасці. *Паступова беларуская мова стабілізуе пісьмовую і вусную формы і становіцца агульнанацыянальным сродкам зносін, найважнейшым элементам культуры* (СБМ, 1995, с. 5). *Гл.* НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА.

**АГУЛЬНАСЛАВЯНСКАЯ МОВА** – *гл.* ПРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА.

**АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ** – словы і выразы, што ўжываюцца ва ўсіх функцыянальных стылях *(гл.)* аднолькава, г. зн. не маюць ніякай стылістычнай афарбоўкі *(гл.)* і з'яўляюцца міжстылёвымі. *Гл.* НЕЙТРАЛЬНЫЯ МОЎНЫЯ АДЗІНКІ, СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ АДЗІНАК.

**АГУЛЬНАЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАЯ МОВА** – мова ўсходніх славян – беларусаў, рускіх і ўкраінцаў у цяперашнім разуменні гэтых тэрмінаў – з VI ст. па XIII стст.

*Параўн.:* старажытнаруская мова (СЛТ, 1990, с. 137).

**АГУЛЬНЫ АГЛЯД** – 1) звяртанне ўвагі на самае істотнае, без дробязей і дэталей; 2) неканкрэтны, схематычны аналіз *(гл.)*.

*Параўн.:* агляд (СВПТ, с. 53).

**АГУЛЬНЫЯ ПАМЫЛКІ** – генеалагічныя стэмы і зводныя крытычныя тэксты (паводле Д. С. Ліхачова, у літаратурнай тэксталогіі).

**АДАПТАВАНЫ ТЭКСТ** – 1) тэкст, прыстасаваны да сучаснай літаратурнай нормы *(гл.)* праз частковыя змены яе; 2) тэкст больш лёгкі для ўспрымання. Мае цесную сувязь з тэрмінам АДАПТАЦЫЯ – прыстасаванне, аблягчэнне тэксту для лепшага ўспрымання.

*Параўн.:* адаптаваць, адаптацыя (ТСБЛМ, 2002, с. 31), адаптации теория (ЛЭС, сс. 18-19), адаптаваць і адаптацыя (СВПТ, с. 53).

**АДВАРОТНЫ СЛОЎНІК** – слоўнік, у якім матэрыял падаецца ў алфавітным парадку, але не з пачатку саміх слоў, а з іх канца, г. зн. справа налева. Напрыклад, *"Адваротны слоўнік беларускай мовы"* Л. М. Вардамацкага і В. І. Несцяровіча (Мінск, 1994).

**АДГЕРЭНТНАЯ ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЯ АЦЭНКА** – аказіянальная эмацыянальная ацэнка ў патрэбным кантэксце *(гл.)*. *Гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМЫ.

**АДДЗЕЯСЛОЎНЫЯ ЎТВАРЭННІ** – 1) утварэнне новых аднакаранёвых слоў: *хадзіць – хадзьба – ходзікі – ход – ходнік – хадок*; 2) словаскладанне: *прайдзісвет, перакаці-поле*; 3) *гл.* РАСШЧАПЛЕННЕ ВЫКАЗНІКА.

**АДЗІНАПАЧАТАК**, або **АНАФАРА** – паўтор гука, слова, словазлучэння ў пачатку страфы, абзацаў *(гл.)*, частак ці раздзелаў твораў. Напрыклад:

*Я сустрэўся з табой маладою,*
*як быў я маладым.*
*Ты была маёй любай зямлёю,*
*я – морам тваім.*
*Ты імкнулася ўдалеч прастораў*
*бясконцых марскіх,*
*Я ж – да сэрца твайго,*
*дзесь схаванага ў нетрах лясных.*
(А. Куляшоў. Ты і я).

*Параўн.:* анафорическое отношение (ЛЭС, с. 32).

**АДЗІНКІ МОВЫ** (МОЎНЫЯ АДЗІНКІ) – *гл.* УЗРОЎНІ МОВЫ (МОЎНЫЯ ЎЗРОЎНІ).

**АДЗІНСТВА** – 1) маўленчы адрэзак, які аб'ядноўваецца і выдзяляецца рытмамеладычна, фанетычна, сінтаксічна, фразеалагічна і г. д.; складаная (састаўная) адзінка маўлення; 2) генетычная агульнасць, аднолькавае паходжанне; паходжанне ад адной мовы-асновы, напр., агульнаславянскае моўнае адзінства. АДЗІНСТВА ЗВЫШФРАЗАВАЕ (ЗВЫШСКАЗАВАЕ) – *гл.* АБЗАЦ, СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ, ПЕРЫЯД.

**АДЗІНСТВА ФРАЗЕАЛАГІЧНАЕ** – *гл.* ФРАЗЕАЛАГІЧНАЕ АДЗІНСТВА.

**АДЗІНСТВА ЧАСУ, МЕСЦА І ДЗЕЯННЯ** – асноўны прынцып нарматыўнай эстэтыкі і паэтыкі класіцызму. *Гл.* ЧАС, ДЗЕЯННЕ. *Змест літаратурнага твора заўсёды ўключаецца ў рамкі прасторы і часу: прыкметы часу раскрываюцца ў прасторы, а прастора вымяраецца часам… У творы падзеі могуць разгортвацца ў храналагічнай паслядоўнасці (лінейны час). Магчыма перабіў-*

*ка падзейнага часу рознымі адступленнямі, рэмінісцэнцыямі (“Знак бяды”, “Аблава” В. Быкава). У такім выпадку адрозніваюць фабульна-сюжэтны час і аповедны час. Мастацкая прастора твора таксама не замыкаецца на месцы развіцця падзей, а дзякуючы ўспамінам, снам, марам персанажаў “размыкаецца” ў шырокі свет* (В. П. Рагойша. На шляху да Парнаса).

*Параўн.*: адзінства часу, месца і дзеяння (ЭнЛіМБел, І, с. 46).

**АДЛЮСТРАВАННЕ** – 1) адбітак прадмета на гладкай люстраной паверхні; 2) адбітак у нашай свядомасці з’яў аб’ектыўнай і суб’ектыўнай рэчаіснасці; 3) перадача ў вобразах або паняццях аб’ектыўнай рэчаіснасці; 4) характарыстыка, перадача сутнасці, зместу, унутраных асаблівасцей чаго-небудзь; 5) тое, што і ўвасабленне ў мастацкіх вобразах і малюнках; 6) тое, што і выява; адбітак са знешніх бакоў. АДЛЮСТРАВАННЕ МАСТАЦКАЕ – адлюстраванне аб’ектыўнай і суб’ектыўнай рэчаіснасці ў мастацкіх вобразах *(гл.)*, у непадзельнасці рацыянальнага і эмацыянальнага, агульнага і асаблівага, формы і зместу *(гл.)*. *Беларуская літаратура адлюстроўвала барацьбу савецкіх людзей за чэсць і незалежнасць Радзімы, апявяла высокую гераіку мас, сцвярджала ратныя подзвігі народа-воіна. Яна праўдзіва выяўляла жывыя рысы гераічнай эпохі, была голасам народнай душы, выразнікам грамадскай свядомасці свайго часу.* (Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, Т. 2: Мінск, 1966). АДЛЮСТРАВАННЕ НАВУКОВАЕ – пазнанне ў форме паняццяў аб’ектыўнай ісціны, прычыннай абумоўленасці прыродай і грамадскімі адносінамі практыкі і пазнання; аксіялагічная накіраванасць і г. д. АДЛЮСТРАВАННЯ ТЭОРЫЯ – дыялектыка-матэрыялістычная тэорыя пазнання, паводле якой матэрыял, прырода існуе аб’ектыўна, незалежна ад свядомасці і адлюстроўваецца на ўзроўнях узаемадзеяння, адчування, уяўлення і мыслення (паводле ЭнЛіМБел, Т. І, с. 46).

*Параўн.:* адлюстраванне (ТСБЛМ, 2002, с. 39).

**АДНАЎЛЕННЕ, РЭКАНСТРУКЦЫЯ ТЭКСТУ** – устанаўленне тэксту ў першапачатковым выглядзе.

**АДУХАЎЛЕННЕ**, або **ПРАЗАПАПЕЯ** – троп, які заключаецца ў наданні неадушаўлёным прадметам (рэаліям) адушаўлёнасці (рыс адухаўлення). *Гл.* УВАСАБЛЕННЕ. Напрыклад:

*Ад шчасця сэрца скача, як дзіця,*
*Ад бед яно, як млын, шуміць начамі,*
*Варочае цяжкімі камянямі,*
*Падліваючы горычы жыцця.*

(А. Куляшоў. Ад шчасця сэрца скача, як дзіця…).

*Параўн.:* адухаўленне і ўвасабленне (персаніфікацыя) – (Рагойша, 2003, с. 140).

**АДУШАЎЛЁНАСЦЬ / НЕАДУШАЎЛЁНАСЦЬ** – лагічная і граматычная катэгорыя, якая адлюстроўвае падзел чалавекам навакольнай рэчаіснасці на жывое і нежывое. Выражаецца пераважна семантыкай *(гл.)* назоўніка і яго формамі назоўнага, роднага і вінавальнага склонаў як адзіночнага, так і множнага ліку.

*Параўн.:* адушаўлёнасць і неадушаўлёнасць (СЛТ, 1990, сс. 12, 88).

**АДЧЛЯНЕННЕ** – *гл.* АКТУАЛІЗАЦЫЯ, ДАЛУЧЭННЕ, ПАРЦЭЛЯЦЫЯ.

**АДЫМЕННЫЯ ЎТВАРЭННІ** – словы, утвораныя ад іменных часцін мовы, пераважна ад назоўніка і прыметніка:

а) адыменныя дзеясловы: *абедаць, працаваць, гаварыць*;

б) адыменныя прыметнікі: *жалезны, брызентавы, магілёўскі*;

в) адыменныя прыназоўнікі: *шляхам, за кошт, у адпаведнасці з*.

**АДЭКВАТ, АДЭКВАТНАСЦЬ** – адпаведнасць, тоеснасць. АДЭКВАТНЫ – роўны, адпаведны, тоесны. У тэорыі адлюстравання *(гл.)* А. выражае ступень дакладнасці, адпаведнасці пазнання таму аб'екту *(гл.)*, што адлюстроўваецца. *Гл.* ТСБЛМ, 2002 і інш.

*Параўн.:* адэкватнасць (ССБМ, с. 24).

**АЗНАЧАЕМАЕ / АЗНАЧАЛЬНАЕ** – паняцце субардынацыйных адносін як агульная аснова ўсялякіх сінтаксічных падпарадкавальных канструкцый. АЗНАЧЭННЕ – 1) у граматыцы: дадаты член сказа, што абазначае прымету, уласцівасць, якасць ці іншую адзнаку прадмета; 2) сэнс, змест слова, словазлучэння, сказа. *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ, ДЭФІНІЦЫЯ. АЗНАЧЭННЕ ВОБРАЗНАЕ – *гл.* ПРЫДАТАК, ЭПІТЭТ. АЗНАЧЭННЕ НАВУКОВАЕ – *гл.* ДЭФІНІЦЫЯ.

*Параўн.:* определение (СЛТ, 1969, сс. 290-291), (ЛЭС, сс. 348-349), дэфініцыя (СЛТ, 1990, сс. 53-54).

**АКАДЭМІЗМ** – 1) чыста тэарэтычны напрамак у навуковым і навучальным працэсе; адарванасць тэорыі ад практыкі і ад патрэб жыцця; 2) "сухі", лагізаваны, уласна навуковы выклад. *Гл.* НАВУКОВЫ СТЫЛЬ.

**АКАДЭМІЧНАЕ ВЫДАННЕ** – выданне з дакладна вывераным асноўным тэкстам *(гл.)* і ўсімі яго варыянтамі *(гл.)*, навукова падрыхтаванае і забяспечанае неабходнымі каментарамі і дадаткамі.

*Параўн.:* выданне (ТСБЛМ, 2002, с. 123), акадэмічная граматыка; акадэмічны стыль (СЛТ, 1990, с. 13).

**АКАЗІЯНАЛІЗМЫ** – 1) словы, утвораныя паводле прадуктыўных мадэляў, але выкарыстоўваюцца выключна ва ўмовах пэўнага кантэксту *(гл.)*: *рачуля* (Д. Бічэль-Загнетава), *лосьна, язьна* (Р. Барадулін); 2) тое, што і аўтарскія нававтворы *(гл.)*.

*Параўн.:* окказиональный (СЛТ, 1969, с. 284), (СЛТ, 1972, с. 218); аказіяналізмы (СЛТ, 1990, с. 13).

**АКАЛІЧНАСЦЬ** – умова, абставіны. У граматыцы: дадаты член сказа, які ўказвае на час, месца, спосаб дзеяння і пад. *Жыццёвыя акалічнасці. Акалічнасць часу* (ТСБЛМ, 2002, с. 52).

**АКРАВЕРШ** – верш; пачатковыя ці канцавыя літары радкоў, якія (калі чытаць іх зверху ўніз або знізу ўверх) называюць слова, імя ці фразу: "Четверной акростих" М. Багдановіча, "Акраверш з нагоды" Р. Барадуліна і інш. Паэт Э. Акулін стварыў акрапаэму "Шлях да Радзімы".

*Параўн.:* акраверш (Рагойша, 1979, сс. 235-236).

**АКСЮМАРАН** – троп, заснаваны на аб'яднанні двух супрацьлеглых паняццяў *(гарачы снег, звонкая цішыня, разумны дурань, жывы труп)*; стылістычны прыём, заснаваны на спалучэнні супрацьлеглых паняццяў:

*Ці доўга было гэта?*
*Можа, хвіліна,*
*Можа, паўвека, а можа, больш…*
*Але пакінула ты, дзяўчына,*
*Смутную радасць і светлы боль.*

(М. Лужанін. Смутная радасць).

А часам выкарыстоўваецца ў загалоўках твораў: І. Шамякін “Трывожнае шчасце”, А. Наўроцкі “Гарачы снег”. Праз А. рэалізуюцца філасофскія абагульненні – сентэнцыі *(гл.)*, напрыклад: *Бывае цёплы халадок і бывае халоднае цяпло – у прыродзе, як у чалавечых сэрцах* (І. Шамякін).

*Параўн.:* аксімаран, аксюмаран (ЭнЛіМБел, І, с. 200).

**АКТ** – частка драматургічнага твора, якая характарызуецца ўнутраным адзінствам і адноснай закончанасцю. *Гл.* ДЗЕЯ, З’ЯВА.

**АКТУАЛІЗАЦЫЯ** – рэалізацыя патэнцыяльных магчымасцей моўных элементаў у маўленні *(гл.)*. АКТУАЛЬНАСЦЬ – важнасць, значнасць; патрэбнасць, надзённасць. АКТУАЛЬНЫ – 1) вельмі важны для гэтага моманту; надзённы; 2) які праяўляецца ў рэчаіснасці; 3) значны, надзвычай неабходны ў даны момант. АКТУАЛІЗАТАР – спосаб пераводу мовы ў маўленне *(гл.)*.

*Параўн.:* актуальный, актуально (ШТСРЯ, с. 27).

**АКТУАЛЬНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СКАЗА** (ВЫКАЗВАННЯ) – сэнсавае чляненне сказа (выказвання) на аснове выражанага ў ім канкрэтнага зместу. Сказ (выказванне) пры гэтым падзяляецца на дзве часткі: *тэму* – прадмет паведамлення і *рэму* – тое, што паведамляецца пра гэты прадмет. *Тэмай* можа быць як састаў дзейніка (калі ён папярэднічае выказніку), так і частка саставу выказніка; *рэмай* – той ці іншы дадзены член сказа з саставу выказніка. Актуальнае чляненне сказа (выказвання) грунтуецца на тым, што наша думка рухаецца ад вядомага да невядомага, новага; першае – лагічны суб’ект, тэма – звычайна выказваецца ў пачатку сказа (выказвання); другое – лагічны прэдыкат, ядро – у канцы сказа (выказвання). Сродкамі выражэння актуальнага члянення сказа (выказвання) з’яўляюцца парадак слоў, інтанацыя і пунктуацыя *(гл.)*.

*Параўн.:* актуальнае чляненне сказа (СЛТ, 1990, с. 15).

**АКТЫЎНАЯ / ПАСІЎНАЯ КАНСТРУКЦЫЯ** – граматычнае супадзенне / несупадзенне суб’екта *(гл.)* і аб’екта *(гл.)*, г. зн. выканаўцы дзеяння, накіраванага на прамы аб’ект, і як быццам бы наадварот: *Студэнт напісаў канспект* і *Канспект напісаны (напісаўся) студэнтам.*

*Параўн.:* актыўная і пасіўная канструкцыя (СЛТ, 1990, сс. 15, 97).

**АКТЫЎНАЯ / ПАСІЎНАЯ ЛЕКСІКА** – агульнаўжывальныя, агульнанародныя словы, што не маюць прыкмет устарэласці або навізны і, наадварот, словы, якія ўяўляюцца як зусім новыя або ўстарэлыя ва ўжытку. *Гл.* АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА, АРХАІЗМЫ, ГІСТАРЫЗМЫ, НЕАЛАГІЗМЫ.

**АКУСТЫКА** – 1) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца гукі з фізічнага, фізіялагічнага боку; 2) чутнасць гукаў у памяшканні. АКУСТЫЧНЫ – які ўспрымаецца слыхам (на слых). *Гл.* ТСБЛМ і інш.

**АКЦЭНТ** – 1) *гл.* НАЦІСК; 2) міжвольная замена гукаў чужой мовы на гукі роднай мовы пры карыстанні замежнымі мовамі; 3) канцэнтрацыя асноўнай увагі на штосьці важнае і неабходнае ў першую чаргу.

*Параўн.*: акцэнтаванне, акцэнт, акцэнтуацыя (СЛТ, 1990, с. 16).

**АКЦЭНТАЛОГІЯ** – раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца такія пытанні націску, як прырода, тыпы, функцыі і інш. АКЦЭНТАЛАГІЧНЫЯ НОРМЫ – ЛІТАРАТУРНЫЯ НОРМЫ націску.

*Параўн.:* акцент, акцентировать, акцентология, акцентуация (СЛТ, 1972, с. 16).

**АКЦЭНТУАЦЫЯ** – 1) выдзяленне пры дапамозе націску асобных элементаў у слове або фразе; 2) сістэма націску ў той ці іншай мове або ў групе родных моў; 3) абазначэнне націску ў пісьмовым тэксце *(гл.)*. АКЦЭНТНА-СКЛАДОВЫ і АКЦЭНТНЫ ВЕРШ – *гл.* ВЕРШАВАННЕ, ВЕРШАСКЛАДАННЕ, ВЕРШАВАНАЯ МОВА.

**АЛАГІЗМ** – 1) адмаўленне лагічнага мыслення як сродку дасягнення ісціны; 2) знарочыстае парушэнне ў маўленні лагічнай сувязі з мэтай дасягнення пэўнага стылістычнага эфекту *(гл.)*. А. пабудаваны на збліжэнні слоў, у сістэме мовы звычайна несумяшчальных па сваім лексічным значэнні. Словы, што спалучаюцца ў такіх выпадках, не могуць уступаць у *антанімічныя* адносіны, таму такое спалучэнне будуецца не на супрацьпастаўленні, а на аддаленай асацыяцыі, супраць фармальнай логікі. А. шырока выкарыстоўваецца ў прыказках, прымаўках, загадках: *Пасля дожджычку ў чацвер; Лапатаю ходзіць, а рогам траву есць; Едзе кошка на шасцёх ножках, сама сёмая.*

*Параўн.:* алагізм (СЛТ, 1990, с. 16), (БелСЭ, I, с. 276), лагічныя памылкі (БелСЭ, VI, с. 239).

**АЛЕГОРЫЯ** – іншасказанне, якое з’яўляецца асновай вобразнасці тэксту *(гл.)*; стылістычны прыём стварэння алегарычнага выказвання *(гл.)*. Напрыклад:

*Я іду каля жыта.*
*Пакасілі яго кулямёты,*
*Усё пакасілі,*
*А тупыя фашысцкія боты*
*Яго малацілі.*
*Танкі гусеніц жорнамі*
*Жыта пасля памалолі*
*Коні потныя чорныя*
*Хлеб замясілі на полі.*
*Кроў была ім дражджамі,*
*Палілі агнём і жалезам,*
*І ляжыць камянямі*
*Хлеб пякарань фашысцкіх за лесам.*

(А. Куляшоў. Сцяг брыгады).

*Параўн.:* алегорыя (Рагойша, 2003, с. 11).

**АЛІТЭРАЦЫЯ** – свядомае нагрувашчванне ці паўтарэнне аднолькавых зычных гукаў: *У бубны дахаў вецер б’е…* (М. Багдановіч. Завіруха); *Свіснуў раз, // Свіснуў два // Шустры паравозік // І павёз, і павёз // За возікам возік…* (Я. Купала. Над ракой Арэсай); *І шуміць, і грыміць // Срэбразвонны ручэй* (Я. Колас. Ручэй).

*Параўн.:* алітэрацыя (ЛітЭС, с. 20).

**АЛОНІМ** – 1) варыянтнае найменне асобы, геаграфічнага аб’екта; 2) скарыстанне сапраўднага, але чужога імя ў якасці свайго псеўданіма: *Пабла Неруда* (Чылі) і *Ян Неруда* (Чэхія).

*Параўн.:* алоним (ЛітЭС, с. 20).

**АЛЬТЭРНАТЫЎНАЕ ПЫТАННЕ** – *гл.* ПЫТАННЕ, ПЫТАЛЬНЫ СКАЗ.

**АЛЮЗІЯ** – стылістычны прыём, які мае ў сваёй аснове схаваны намёк на агульнавядомы факт рэлігійнага, гістарычнага ці бытавога характару або ўзяты з мастацкай літаратуры. У якасці прыкладу можна прывесці наступны верш:

*Парог, вычасаны з успамінаў,*
*Астаўся за мной;*
*Дзверы, на завесах цвыркуновай песні,*
*Асталіся за мной;*
*Вокны, зашклёныя вачамі блізкіх,*
*Асталіся за мной;*
*Хата, пакрытая крыламі ластавак,*
*Асталіся за мной, –*
*Як жа мне не азірнуцца назад,*
*Нават калі б я застыў*
*Слупом солі?*

(М. Танк. Парог, вычасаны з успамінаў…).

Верш разлічаны на тое, што чытач валодае пэўнымі культуралагічнымі пазнаннямі. Пра гэта сведчыць выраз *слупом солі*, які выклікае ў памяці біблейскае паданне аб тым, як узніклі на берагах Чырвонага мора рэальныя саляныя слупы. Паданне гаворыць наступнае: у старажытных гарадах Садоме і Гаморы людзі ўшчэнт разбэсціліся, пачалі грашыць, жыць не па-людску (адсюль выраз “садом і гамора”, што значыць – разруха, непарадак, бесталкоўшчына). Бог вырашыў пакараць гарады, усіх іх жыхароў. Выключэнне зрабіў для прапаведніка Лота і яго жонкі. Сказаў, каб яны выйшлі за горад і ні ў якім разе не азіраліся назад, што б ні здарылася. Калі Лот з жонкаю ўзышлі на адзін з прыгарадных пагоркаў, раздаўся страшэнны выбух. Лот, як ні хацелася яму гэта зрабіць, не павярнуў галавы, не пасмеў аслухацца Бога. А яго жонка – відаць, таму, што любіла родны горад, дзе нарадзілася і вырасла, – азірнулася назад і навек застыла слупом солі. Такім чынам, у выраз застыць слупом солі аўтар укладвае значны сэнс. Нават ведаючы жахлівую меру пакарання, паэт азірнецца на родную хату, калі з ёй нешта здарыцца. І толькі вялікая любоў да Радзімы можа прывесці да такога ўчынку.

*Параўн.:* алюзія (СЛТ, 1983, сс. 12-13).

**АМАНІМАЦЫЯ** – стылістычная фігура, у якой спалучаюцца словы аднаго кораня, але розных граматычных катэгорый: *лазам лезе* (Я. Купала). *Гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМЫ, АЎТАРСКІЯ НАВАТВОРЫ.

**АМАНІМІЯ** – гукавое супадзенне дзвюх ці больш моўных адзінак, аднолькавых паводле гучання ці напісання, але розных паводле семантыкі *(гл.)*. Патрэбна адрозніваць *лексічныя амонімы* – словы аднолькавага гучання ў межах адной часціны мовы, але рознага значэння; *амафоны* – словы, што маюць аднолькавае гучанне, але рознае напісанне; *амографы* – моўныя адзінкі, якія маюць аднолькавае напісанне, але рознае гучанне; *амаформы* – розныя формы слоў аднолькавых ці розных часцін мовы, якія могуць супадаць і ў вымаўленні, і ў напісанні; *амамарфемы* – аманімічныя марфемы; *амалексемы* – аманімічныя лексічныя адзінкі; *амафраземы* – аманімічныя фразеалагічныя адзінкі; *амасінтаксемы* – аманіміч-

ныя сінтаксічныя адзінкі. АМАНІМІЧНАЯ РЫФМА – рыфма, заснаваная на аманіміі; рыфма з словамі, аднолькавымі паводле гучання, але рознымі паводле значэння (Рагойша, 1979, с. 155).

**АМБІВАЛЕНТНАСЦЬ** – 1) дваістасць перажывання, калі адзін і той жа прадмет, з'ява і інш. выклікае ў чалавека супярэчлівыя пачуцці, напр., любоў і нянавісць, задавальненне і незадавальненне; 2) спецыфічная ўласцівасць дыялектычна супярэчлівых вобразаў, у якіх арганічна знітаваныя адмаўленне і сцвярджэнне аднаго і таго ж. Праяўляецца А. найперш у розных абрадах (*сваты, карнавалы* і інш.), казачных вобразах (*нячысцікаў, дурняў, бабы Ягі* і інш.) і г. д.

*Параўн.:* амбівалентнасць (ЭнЛіМБел, І, с. 102).

**АМОНІМЫ** – словы, якія гучаць аднолькава, але маюць рознае значэнне: *поліс – дакумент аб страхаванні; поліс – горад-дзяржава з асобай формай сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця.* З'ява аманіміі вельмі распаўсюджаная, ахоплівае ўсе бакі мовы – лексіку, словаўтварэнне, граматыку. У навуковай літаратуры вылучаюь уласна амонімы (лексічныя – поўныя ці няпоўныя, сінтаксічныя) амафоны, амографы і амаформы.

Поўныя лексічныя амонімы – гэта словы адной часціны мовы, якія супадаюць ва ўсіх граматычных формах гучаннем і напісаннем, але зусім розныя па значэнні: *каса – прылада працы; каса – від прычоскі*.

Няпоўныя лексічныя амонімы адрозніваюцца ад поўных тым, што супадаюць гучаннем і напісаннем не ва ўсіх граматычных формах: *бокс – від спорту; бокс – асобная палата ў бальніцы*. У першым значэнні назоўнік *бокс* не мае формы множнага ліку.

Сінтаксічныя амонімы – словы, якія поўнасцю супадаюць гучаннем і напісаннем, але адносяцца да розных часцін мовы і, адпаведна, выконваюць у сказе розныя сінтаксічныя функцыі: *Добра* (прыслоўе) *адкармілася мядзведзіца за лета і восень* (В. Вітка); *Добра* (безасабова-прэдыкатыўнае слова) *было ў лесе, поўным птушыных галасоў* (І. Мележ).

Амафоны (фанетычныя амонімы) – словы, якія гучаць аднолькава, а пішуцца па-рознаму: *казка – каска; грыб – грып, Колас – колас.*

Амографы (графічныя амонімы) – словы, якія пішуцца аднолькава, а вымаўляюцца па-рознаму; *к**а**са – кас**а**; гал**і**на – галін**а**.*

Амаформы (марфалагічныя амонімы) – словы адной (радзей) ці розных (часцей) часцін мовы, якія супадаюць гучаннем і напісаннем толькі ў асобных граматычных формах: *лячу* (першая асоба адзіночнага ліку ад дзеясловаў ляцець і лячыць); *тры* (лічэбнік, дзеяслоў загаднага ладу); *вусны* (назоўнік і прыметнік).

На А. будуюцца загадкі, напрыклад: *Тры цяляці – колькі ног?* (Адказ: *Колькі ні тры – застанецца чатыры*).

*Гл.* АМАНІМІЯ.

**АМФІБА(О)ЛІЯ** – 1) двухсэнсавасць выразаў, што ўзнікае ў выніку рытміка-сінтаксічнай няўзгодненасці асобных частак выказвання, напр., *"ім панавалі"* і *"імпанавалі", "каля пяці – дзесяці разоў"* і *"каля пяцідзесяці разоў", "чыстыя займеннікі: ВЫ, МЫ, ТЫ, Я" і "вымытыя" (дзепрыметнік)*.

**АНАГРАМА** – 1) слова або словазлучэнне, утворанае перастаноўкай гукаў, літар ці складоў: *“камар” – “Макар” – “рамка” – “марка”*; 2) спосаб старажытнага вершаскладання, пры якім асобныя фанемы самага важнага слова паўтараюцца ў іншых словах гэтага твора, ад чаго ўтварылася так званая АНАГРАМНАЯ РЫФМА – рыфма, у якой можна ўбачыць ці пачуць анаграмы: *“лавы” – “валы”, “верш” – “рвеш”, “дзіва” – “вадзі”* (Рагойша, 1979, с. 158).

**АНАКАЛУФ** – стылістычная фігура ці стылістычны прыём, калі ў выказванні або сказе знарочыстая лагічная ці сінтаксічная няўзгодненасць: *Студэнты, студэнткі – іх зусім не бачна на марозе…; Прывязе яе* [елку. – М. А] *тата – у снезе, у снезе!.. Кучаравая, зялёная…* (Я. Брыль. Першы снег).

*Параўн.:* анаколуф (СЛТ, 1972, сс. 19-20), (КЛЭ, I, с. 190); анакалуф (ЭнЛіМБел, I, сс. 105-106).

**АНАЛІЗ** – разбор, расчляненне складанага моўнага цэлага (тэксту) на састаўныя часткі, яго кампаненты ці элементы. АНАЛІЗ / СІНТЭЗ – методыка даследавання, што заключаецца ў падзеле цэлага на часткі (састаўныя элементы) і наадварот – у адзінстве і ўзаемасувязі састаўных элементаў (кампанентаў, частак). АНАЛІЗ ЛІНГВІСТЫЧНЫ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ – разнавіднасць моўнага аналізу, мэтай якога з’яўляецца выяўленне сістэмы моўных сродкаў у перадачы ідэйна-тэматычнага і ідэйна-эстэтычнага зместу літаратурна-мастацкага твора, а таксама выяўленне адбору моўна-выяўленчых сродкаў аўтарам дзеля найбольшага ўздзеяння на чытача, слухача, гледача. Вельмі цесна звязаны з стылістычным і тэксталагічным аналізам *(гл.)*. АНАЛІЗ СТЫЛІСТЫЧНЫ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ – разнавіднасць разбору літаратурна-мастацкага твора паводле жанрава-стылістычнай прыналежнасці тэксту, мэтавай устаноўкі аўтара (яго камунікацыйнай і эстэтычнай задач), выкарыстання моўных і маўленчых сродкаў (танальнасць, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, спецыфічныя (індывідуальна-стылёвыя) рысы лексікі, фразеалогіі, сінтаксісу і інш.), спосабаў арганізацыі тэксту, наяўнасці стылістычных памылак *(гл.)*. АНАЛІЗ ТЭКСТАЛАГІЧНЫ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ – крытычнае прачытанне тэксту твора паводле вывучэння яго крыніц (рукапісаў і друкаваных варыянтаў), класіфікацыі і інтэрпрэтацыі перапрацовак тэксту (яго варыянтаў, рэдакцый і інш.), выяўлення яго асноўнага тэксту і працы пісьменніка з мэтай удасканалення плана выражэння *(гл.)*. Тэксталагічны аналіз у значнай ступені дапамагае літаратуразнаўчаму і лінгвістычнаму (лінгваэстэтычнаму) аналізам *(гл.)*. АНАЛІЗ ТВОРА ЛІТАРАТУРЫ МАСТАЦКАЙ – паводле высноў В. П. Жураўлёва, раздзяленне літаратурнага твора на састаўныя часткі з мэтай больш глыбокага вывучэння іх і ўсёй мастацка-вобразнай сістэмы, раскрыцця аўтарскай задумы і яе ўвасаблення. Памагае вызначыць сутнасныя, вузлавыя моманты, уласцівыя пэўным граням і часткам маст. структуры. У працэсе аналізу паўней і глыбей акрэсліваюцца адрозненні паміж выпадковым і неабходным, больш і менш значным. Так, у аналізе мастацкіх вобразаў, чалавечых характараў галоўнае – даследаванне прычын, матываў і стымулаў, якія абумоўліваюць паводзіны і ўчынкі герояў у пэўных жыццёвых абставі-

нах. Аналіз літаратурнага твора ўключае раскрыццё спецыфікі самой аналітычнай сістэмы, якая мае традыцыйныя, больш ці менш устойлівыя прыметы і ў той жа час вар'іруецца, змяняецца ў залежнасці ад характару аўтарскай задумы, тэмы, ідэі, мастацкай, жанравай прыроды твора, яго кампазіцыі, сюжэта і г. д. (*Гл.* ЭнЛіМБел, т. I, с. 107). АНАЛІЗ ТЭКСТУ І ЯГО КАМПАНЕНТАЎ такі: паводле вучэння Д. С. Ліхачова, паняцце "тэкст" неадрыўнае ад паняццяў "твор", "рукапіс", "спісак", "аўтограф", "чарнавік", "белавік", "копія", "рэдакцыя", "звод", "архетып", "пратограф", "аўтарскі тэкст", "задума і воля аўтара". Таму аналіз тэксту павінен быць "комплексным" з улікам як названых паняццяў, так і такіх, як "аналіз змен тэксту", яго "дубліровак", "гісторыі", "палеаграфіі", "розначытанняў", "перакладаў", "складу зборніка", "спісаў" і, вядома, "стылю" і "мовы". (*Гл.*: Лихачев, Д. С. Текстология. – Изд. 2-е. – Л.: Наука, 1983. – С. 8-636).

**АНАЛІЗ ТЭКСТУ ЛІНГВАСТЫЛІСТЫЧНАЭСТЭТЫЧНЫ** – гэта, паводле рэкамендацый М. Я. Цікоцкага, "структурныя адзінкі", "функцыянальна-сэнсавыя тыпы маўлення: апісанне, апавяданне (расповед), разважанне", "тыпы тэкстаў, звязаныя з пазіцыяй вытворцы маўлення", "архітактанічная функцыя моўных адзінак, вобраз аўтара і вобраз апавядальніка ў мастацкім і публіцыстычным тэксце", "чужое маўленне і яго стылістычныя функцыі ў розных відах тэкстаў", "характарыстыка тэкстаў паводле іх функцыянальна-стылёвых і жанравых асаблівасцей" у сукупнасці. (*Гл.*: Цікоцкі, М. Я. Стылістыка тэксту: вуч. дапам. для студ. ВНУ філал. профілю / М. Я. Цікоцкі. – Мінск: Бел. навука, 2002. – 223 с.).

*Параўн.*: аналіз, разбор, сінтэз (СЛТ, 1990, сс. 19, 112-114, 124-125).

**АНАЛОГІЯ** – 1) падабенства, супадзенне прадметаў, з'яў і інш. паводле тых ці іншых уласцівасцей; 2) розумазаключэнні паводле падобных, адпаведных тымі ці іншымі ўласцівасцямі прадметаў, з'яў і г. д.; 3) супастаўленне; аналаг. *Метафара – слова або выраз, ужытыя з пераносным значэннем на аснове падабенства, аналогіі* (А. К. Юрэвіч. Стылістыка беларускай мовы).

*Параўн.*: аналогія (СЛТ, 1990, с. 19), (ЭнЛіМБел, I, с. 108).

**АНАМАТАПЕЯ** – *гл.* ГУКАПЕРАЙМАННЕ.

**АНАНІМ** – аўтар, што жадае быць невядомым, г. зн. утойвае сваё аўтарства. *Гл.:* АЛОНІМ.

**АНАНІМНАЯ ЛІТАРАТУРА** – 1) творы невядомых аўтараў – ананімаў *(гл.)*; 2) беларуская мастацкая літаратура XVI-XIX стст. Пераважна з вострасюжэтнай і злабадзённай тэматыкай.

**АНАТАЦЫЯ** – кароткая, сціслая перадача зместу чагосьці напісанага да друку – манаграфіі, артыкула, увогуле рукапісу *(гл.)*. Пачынаецца звычайна словамі *"Праца (кніга, выданне, артыкул) прысвечана(ы) вывучэнню (разгляду, даследаванню, паказу, адлюстраванню, дыферэнцыяцыі, аналізу* і г. д.)".

**АНАФАРА** – паўтарэнне аднолькавых слоў ці выразаў у пачатку вершаваных радкоў, суседніх строф, сказаў *(гл.)* або абзацаў *(гл.)*. А. павышае эмацыянальнасць паэтычнага выказвання, узвышае яго тон, кампазіцыйна арганізуе, аб'ядноўвае асобныя радкі:

*Не бяжы,*
*не ўцячэш ад сябе,*
*Памяць лодкай*
*ударыцца ў бераг…*
*Буду клікаць цябе –*
*да цябе,*
*Буду клікаць.*
*І буду верыць.*
*Буду*
*садам тваім па вясне,*
*Буду*
*ў полі сцяжынкай забытай:*
*Перапёлка*
*на золку засне –*
*Прыбягай дажынаць сваё жыта.*
*Буду*
*цёплаю муравой*
*На тваіх лугах-сенажацях,*
*Буду*
*ў Нёмана сіні сувой,*
*Як русалку, цябе спавіваць я.*
*Буду*
*раніцай лёгкім дымком*
*Над страхой тваёй віцца ў просінь,*
*Буду*
*ціхім дамавіком*
*Сны жаданыя ў хату прыносіць*
*Буду*
*днём і ноччу лунаць*
*Над усмешкай тваёй*
*і над песняй…*
*… Прадчуванняў*
*напята*
*струна.*
*Што забыта даўно –*
*уваскрэсні!*

(В. Зуёнак. Не бяжы…).

А. цесна звязана з сінтаксічным паралелізмам і ў большай ступені характэрна для вершаванай мовы, аднак мае месца і ў празаічных тэкстах:

*Калі ў семдзесят гадоў няма ўнукаў, то і не будзе, калі ў шэсцьдзесят слава не знайшла, дык і не знойдзе, калі ў пяцьдзесят няма грошай, дык і не будзе, калі ў сорак няма кахання, дык і не будзе, калі ў трыццаць няма прафесіі, дык і не будзе, а ўсё таму, што ў дваццаць не было розуму* (Г. Марчук).

Звычайна, як у працытаваных прыкладах, А. з’яўляецца выразным паказчыкам перыяду *(гл.)*.

**АНАХРАНІЗМ** – 1) ужыванне слоў ці выразаў, якія не адпавядаюць дзейным нормам; 2) выпадковае або наўмыснае перанаясенне характэрных рыс жыцця адной эпохі зусім у іншую, напр., зброю ці тэхніку сённяшняга дня ў далёкае ад нас сярэдневечча, самагонны апарат у Эдэм і інш.

*Параўн.*: анахранізм (Булыка, 1993, с. 24); (ТСБЛМ, I, с. 232).

**АНДРОНІМ** – намінацыя, часцей за ўсё мянушка, жонкі паводле назвы мужа: *Лявоніха, Глушачыха, леснічыха* і г. д.

**АНЕКДОТ** – 1) жартоўнае апавяданне з нечаканай, дасціпнай канцоўкай *(гл.)*; 2) жартаўнік, якога называюць перыфрастычна: *“Хадзячы анекдот”.*

**АНЖАМБЕМАН** – стылістычны прыём, пры якім сінтаксічна цэласнае словазлучэнне, пачатак якога знаходзіцца ў адным вершаваным радку, заканчваецца ў наступным. А. заснаваны на несупадзенні рытмічнай міжрадковай паўзы з сэнсавай паўзай. На словазлучэнне, раздзеленае міжрадковай паўзай, звяртаецца асаблівая ўвага, а сама міжрадковая паўза набывае выразны экспрэсіўны характар, падкрэсліваючы словы, што стаяць перад ёй і – асабліва – за ёй. А. дапамагае стварыць размоўную інтанацыю, перадаць эмацыянальную напружанасць маў-

лення, падкрэсліць галоўную думку. Існуюць наступныя разнавіднасці А.: радковы, строфны і складовы. Пры радковым А. сінтаксічна цэласнае словазлучэнне можа запаўняць поўнасцю суседнія вершаваныя радкі або займаць першы радок і заканчвацца ў пачатку другога:

*Шлях ціснецца паміж ствaламі,*
*Каб ведаў кожны без прынук –*
*Наш лёс,*
*як дол,*
*прарос вузламі*
*Сялянскіх спрацаваных рук.*

(С. Законнікаў. Дарога ў Альбуць).

Пры радковым А. адзін радок можа заканчвацца злучнікам ці прыназоўнікам, а словы, да якіх яны адносяцца, пачынаюць наступны радок:

*Творчасць – гэта вечны сыход упрочкі ад*
*тых, каго любіш.*

(А. Белая. Творчасць – гэта вечны сыход упрочкі ад).

*Зноў хмара злуецца, зноў, мусіць, з тугі*
*Кідае свае бліскавіцы,*
*Рассунуць хацела б яна берагі,*
*Хацела б*
*Краямі ўмясціцца.*

*І не ўпершыню з непакоем былым*
*Удаль адплывае без згадкі.*
*А следам за ёй.*
*Як за лёсам сваім,*
*Спяшаюцца воблакаў статкі.*

*Глядзяцца – адбітыя ў завадзяў шкле –*
*З нябёс у люстраную плошчу,*
*Красу сваю бачаць, блакіт свій,*
*Але*
*З воблакам тым не зайздрошчу.*

(А. Куляшоў. Плыла, цалавалася хмара з зямлёй…).

Строфны А. прадугледжвае перанос сінтаксічна цэлага словазлучэння на іншую страфу, прычым міжстрофная паўза па працягласці крыху большая за міжрадковую:

*Не думай, што дзеля славы*
*Я песні свае пяю.*
*Паэзіі па праву*
*Поўнасцю аддаю*

*Сябе. Не заслоняць спіны*
*Яе ад мяне назаўжды,*
*Бо я без яе, як спінінг*
*Без сіняй рачной вады…*

(А. Сербантовіч. Не думай, што дзеля славы…).

Пры складовым А. міжрадковая паўза дзеліць на часткі не словазлучэнне, а слова:

*І з ахвотаю, са скрыпам*
*Стаў узнімацца <u>шлаг-</u>*
*<u>баум</u>. Шафёр прыспешваў крыкам*
*І крануўся ў шлях.*

(А. Вярцінскі. Здарэнне ля шлагбаума).

*Параўн.:* анжамбеман, перанос (Рагойша, 1979, с. 132).

**АНТАЛОГІЯ** – зборнік часцей за ўсё ліатратурна-мастацкіх твораў (асобна паэзіі, прозы, драматургіі) розных аўтараў. Можа быць анталогія песень, казак, старажытнай літаратуры і інш. *Анталогія беларускай паэзіі. Анталогія беларускага апавядання. Анатлогія публіцыстычнага нарыса. Анталогія афарызмаў.*

**АНТАНАМАЗ(С)ІЯ** – 1) стылістычная фігура, у якой замест уласнага назоўніка ўжываецца перыфраза: *аўтар паэмы "Курган"* – Я. Купала; 2) троп, заснаваны на выкарыстанні ўласнага імя замест агульнага назоўніка: *"баязлівец"* – Туляга і інш.

**АНТАНІМІЯ** – семантычная супрацьпастаўленасць, супрацьлегласць, што практычна выражаецца антонімамі: *добра / кепска, нядобра* і г. д. АНТОНІМЫ – пары слоў адной часціны мовы з супрацьлеглым значэннем і розным гукавым афармленнем: *праўда / няпраўда, крыўда; гарачы / халодны* і г. д. Калі падыходзіць фармальна да праблемы антонімаў як часткі лексічнай сістэмы, то іх можна падзяляць на моўныя, або слоўнікавыя, і маўленчыя, або кантэкстуальныя, аднакаркнёвыя і рознакаранёвыя; на антонімы-назоўнікі, антонімы-прыметнікі, антонімы-дзеясловы і г. д. Ад такіх лексічных антонімаў варта адрозніваць квазіантонімы накшталт: *люты* і *лёгкі* мароз; *беспрабудны* і *чуткі* сон і шмат інш. *Гл.* АКСЮМАРАН, АНТЫНОМІІ, АНТЫТЭЗА.

**АНТОНІМЫ** – пары слоў адной часціны мовы з супрацьлеглым значэннем: *сябар – вораг, высокі – нізкі, далёка – блізка*.

Псіхалагічная аснова існавання А. – асацыяцыя паводле кантрасту; лагічная – супрацьлеглыя і супярэчлівыя паняцці. Адносіны супастаўлення і супрацьпастаўлення ляжаць у аснове моўнай сістэмы на ўсіх узроўнях, але паняцце А. звычайна звязваецца з лексікай.

Асновай антаніміі з'яўляецца наяўнасць у значэнні слова якаснай прыметы, якая можа павялічвацца або памяншацца. Даходзіць да супрацьлеглай. Таму антанімічныя адносіны ў большай ступені ўласцівыя для прыметнікаў і прыслоўяў (*светлы – цёмны, позна – рана*). Асабліва многа А. сярод прыметнікаў, якія называюць якасці (*добры – дрэнны*); розныя адчуванні (*мокры – сухі*); паняцці аб'ёму, працягласці, памеру (*доўгі – кароткі*); вагі (*цяжкі – лёгкі*); формы (*востры – тупы*); колеру (*белы – чорны*); псіхалагічных ацэнак (*вясёлы – сумны*); часу (*ранні – позні*); прасторы (*блізкі – далёкі*); узросту (*малады – стары*). Акрамя прыметнікаў і прыслоўяў, антанімічныя адносіны могуць складвацца паміж словамі ў сістэме іншых часцін мовы: назоўнікаў (*свята – будзень*); дзеясловаў (*смяяцца – плакаць*); некаторых займеннікаў (*усе – ніхто*); слоў катэгорыі стану (*радасна – сумна*); прыназоўнікаў (*у – з, да – ад*).

Паводле структуры А. могуць быць рознакаранёвымі (*дзень – ноч, гаварыць – маўчаць*) і аднакаранёвымі (*высокі – невысокі, воблачны – бязвоблачны*).

Мнагазначныя словы ў розных сваіх значэннях могуць мець розныя А.: *свежы хлеб – чэрствы хлеб, свежая газета – старая газета*).

Ад уласна моўных А., уласцівых лексічнай сістэме беларускай мовы, неабходна адрозніваць кантэкстуальныя А. Ва ўласна моўных А. значэнне супрацьпастаўляецца ў самой лексічнай сістэме, па-за кантэкстам: *смелы – труслівы, дужы – слабы*. Такая супрацьлегласць слоў звязана з самой прыродай іх значэнняў і не залежыць ад кантэксту, аб'ектыўна існуючы ў самой сістэме мовы. Аднак у пэўным кантэксце антанімічныя адносіны могуць мець словы, якія па-за кантэкстам зусім не маюць супрацьлеглага значэння: *Не наглядзецца на воблакі ў бязветраны дзень. Яны могуць расці <u>знікаць</u> як дым* (І. Грамовіч). Па-за прыведзеным кантэкстам падкрэсленыя словы ўтвараюць свае антанімічныя пары: *расці – змяняцца; знікаць – паяўляцца*.

Антанімія ляжыць у аснове аксюмарана *(гл.)*.

*Параўн.:* антонімы, антытэза, антыфразіс (СЦБМ, с. 471).

**АНТРАПАЛОГІЯ** – навука пра паходжанне і эвалюцыю чалавека, утварэнне чалавечых рыс і нармальных варыяцый фізіялагічнай будовы чалавека. АНТРАПАГЕНЕЗ – раздзел антрапалогіі, які вывучае працэс гісторыка-эвалюцыйнага фарміравання фізіялогіі чалавека, яго маўлення і працоўнай дзейнасці. АНТРАПАЛАГІЗМ – філасофская канцэпцыя ў разуменні прыроды чалавека не ў сукупнасці грамадскіх адносін, а як нязменнай натуральнай істоты, таму прадстаўнікі А. зводзяць грамадскія адносіны чалавека да індывідуальных адносін яго. АНТРАПАЛАГІЧНАЯ ЛІНГВІСТЫКА – раздзел мовазнаўства, які вывучае беспісьмовыя мовы. АНТРАПАЛАГІЧНАЯ ШКОЛА – група вучоных (А. Весялоўскі, Э. Тайлар, Дж. Фрэйзер і інш.), якія тлумачылі сходнасць, падабенства міфалогіі і фальклору розных народаў тоеснасцю чалавечай прыроды і адзінствам першабытнага мыслення. АНТРАПАМАРФІЗМ – наданне чалавечых уласцівасцей, напр., свядомасць, адухаўленне *(гл.)*, адушаўлёнасць і інш., прадметам і з'явам нежывой прыроды. (*Гл.* МЕТАФАРА, УВАСАБЛЕННЕ, ПЕРСАНІФІКАЦЫЯ). АНТРАПАНІМІЯ – сукупнасць антрапонімаў. АНТРАПОНІМ – уласнае імя чалавека, яго прозвішча, імя па бацьку, мянушка, псеўданім і г. д. Напрыклад: *"Беларуская антрапанімія" М. В. Бірылы* (Мінск, 1966-1968).

**АНТРАПАНІМІКА ПАЭТЫЧНАЯ** – паэтыка функцыянавання ўласных імён у мастацкай літаратуры (ЛітЭС, с. 31). АНТРАПАСОФІЯ – разнавіднасць тэасофіі, якая тлумачыць розныя галіны ведаў, а таксама методыку развіцця "тайных уласцівасцей" чалавека.

*Параўн.:* антропософия (ФЭ, І, сс. 80-81).

**АНТРАПАЦЭНТРЫЧНАСЦЬ** – адна з асноўных адрознівальных рыс (побач з мастацкай інфармацыяй, мастацкасцю) літаратурна-мастацкага тэксту (твора), у якім адлюстраванне свету накіраванае найперш на пазнанне і адлюстраванне чалавека. Таму ў пераважнай большасці літаратурна-мастацкіх твораў ёсць цэлая

сістэма дзейных асоб (герояў, персанажаў). Сам пісьменнік з'яўляецца цэнтрам (цэнтральным суб'ектам) мастацка-пазанвальнай дзейнасці. Чытач (слухач, глядач) як завяршальнае звяно ўспрымае створаныя вобразы ў залежнасці ад уласных узаемаадносін з аб'ектыўнай рэчаіснасцю, узбагачаючы сваю духоўна-практычную дзейнасць. Такім чынам, катэгорыі "аўтар" – "персанаж" – "чытач" з'яўляюцца сэнсавымі цэнтрамі антрапаметрычнай структуры літаратурна-мастацкага твора.

**АНТЫКЛІМАКС** – 1) фігура маўлення з градацыйным размяшчэннем слоў ад семантычна больш істотных да менш істотных; 2) фігура маўлення, якая заключаецца ў разбурэнні рытарычнага эфекту, што дасягаецца клімаксам *(гл.)*, праз раптоўнае зніжэнне стылю.

*Параўн.:* антиклимакс (СЛТ, 1969, сс. 48-49).

**АНТЫМЕНТАЛІЗМ** – абмежаванне аб'екта лінгвістыкі тым, што непасрэдна дадзена ў маўленні, без уліку разумовых (ментальных) працэсаў, звязаных з прымяненнем мовы.

*Параўн.:* менталітэт (ТСБЛМ, с. 341), ментализм (СЛТ, 1969, с. 226).

**АНТЫНОМІІ** – супярэчнасці, якія пераадольваюцца паводле закона адзінства і барацьбы супрацьлегласцей, што з'яўляецца адным з найважнейшых фактараў самаразвіцця мовы. Да такіх моўных антыномій адносяцца ў першую чаргу наступныя:

1) а. азначальнага і азначаемага моўнага знака *(гл.)*;

2) а. моўнай сістэмы і нормы *(гл.)*;

3) а. коду і тэксту *(гл.)*;

4) а. інфармацыйнай і экспрэсіўнай функцый мовы *(гл.)*;

5) а. паміж патрэбамі выражэння думкі і наяўнымі моўнымі сродкамі *(гл.)*.

*Параўн.*: антиномии грамматической структуры (СЛТ, 1969, с. 49).

**АНТЫПАРАСТАС** – фігура маўлення, якая грунтуецца на адваротным: тое, што падлягае асуджэнню, паказваецца вартым пахвалы.

**АНТЫТЭЗА** – троп ці фігура маўлення, якія ўтвараюцца ў выніку кантрасту (супрацьпастаўлення). *Лепш з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці; Багаты беднаму не спагадае* (Прыказкі і прымаўкі); стылістычны прыём, заснаваны на супрацьпастаўленні процілеглых паняццяў. А. звязана з выкарыстаннем антонімаў:

*У славе ёсць хітрасць такая:*
*Навекі яна ці на міг –*
*Вялікай*
*на двух не хапае,*
*Маленькай*
*хапае на ўсіх.*
(У. Някляеў. Слава).

А. таксама можа грунтавацца на выкарыстанні такіх паняццяў, назвы якіх па-за кантэкстам не з'яўляюцца антонімамі. Прыкладам такой А. можа паслужыць наступны верш:

*І грэшныя чарэшні маняць сокам,*
*І свет чароўны так, як я хачу.*
*Гэй, хто сказаў, што па табе я сохну?*
*Глядзі, – як дрэўца юнае лячу!*
*Між грозных зім і лет – не адвясную*
*Нават тады, калі лісты згараць.*
*Адкуль ты ўзяў, што я цяпер сумую?*
*Мне ў самы раз*
*над песняй шчыраваць.*

(Я. Янішчыц. І грэшныя чарэшні маняць сокам…).

А. часта выкарыстоўваецца ў загалоўках, надаючы ім пэўную экспрэсіўную афарбоўку: К. Крапіва "Людзі і д'яблы"; І. Мележ "Блізкае і далёкае".

*Параўн.:* антытэза (СЛТ, 1990, с. 21).

**АНТЫФРАЗІС** – троп, заснаваны на іранічным пераасэнсаванні значэння слова. Напрыклад: *Ці то свінні елі, ці то шляхта папасвалася* (Я. Купала. Паўлінка).

*Параўн.:* іронія, антыфразіс (Рагойша, 1979, с. 42).

**АНТЫЦЫТАЦЫЯ** – 1) перанос слова ў наступны сказ са зменай яго значэння; 2) маўленчы прыём, калі адрасант фармулюе думкі ці пярэчанні адрасата, а пасля гэтага аналізуе іх, робячы выснову. Тыповы прыклад – зачын паэмы XIX ст. "Тарас на Парнасе".

**АНТЫЧНАЕ ВЕРШАСКЛАДАННЕ** – сістэма вершаскладання старажытных літаратур.

**АПАВЯДАЛЬНАЯ МОВА** – 1) мова апавяданняў, аповесцяў, раманаў, казак і інш.; тое, што і ПРАЗАІЧНАЯ МОВА ў дачыненні да мастацкай літаратуры; 2) асноўны сродак лагічнага і паслядоўнага арганізаванага паведамлення (маўлення); тое, што і МАНАЛОГ; 3) паведамленне пра факты жыцця героя (апавядальніка, расказчыка), пра тыя ці іншыя падзеі ў храналагічнай паслядоўнасці і ўнутранай сюжэтнай сувязі, апісанне і разважанне апавядальніка. *Гл.* АПАВЯДАЛЬНАЯ НОРМА і ФОРМА, ТЫПЫ МАЎЛЕННЯ, АЎТАРСКАЯ МОВА і МОВА ДЗЕЙНЫХ АСОБ.

*Параўн.:* повествование, функционально-смысловые типы речи (СЭСРЯ, сс. 288-290, 578-580).

**АПАВЯДАЛЬНАЯ НОРМА** – 1) у шырокім сэнсе – апавядальная мова; 2) агульнапрынятыя тыпы і разнавіднасці эпічнага, драматычнага і лірычнага выкладу, асабліва такіх універсальных катэгорый, як "герой" ("персанаж"), "час", "прастора", "крыніца інфармацыі", "вобраз аўтара", "вобраз чытача" і інш.; 3) аснова нацыянальнай апавядальнай традыцыі. Даследуючы шляхі станаўлення беларускай паэмы і рамана, а таксама генезіс народнай і купалаўска-коласаўскай паэтыкі, вучоныя ўстанавілі, што беларуская апавядальная традыцыя – гэта беларускае гутарковае і народна-дыялектнае вобразнае маўленне, беларускі фальклор і вопыт рускай, польскай, украінскай і іншых развітых літаратур. Я. Купала і Я. Колас у сваёй творчасці прадэманстравалі сінтэз стылістычных планаў і пластоў, аўтарскай мовы і мовы герояў (персанажаў), узаемадзеянне

гутарковага маўлення з кніжным, змену і сутыкненне розных эмоцый, стылістычнай афарбоўкі разам са зменай лексічнага значэння слова, камунікацыйнай функцыі таго ці іншага словазлучэння або нават сказа ці суцэльнага абзаца (звышфразавага адзінства). У выніку атрымліваўся той глыбінны змест як кантэксту, так і ўсяго тэксту, створанага на новай літаратурнай мове, той рэалізм і тая народнасць, якіх патрабавала і патрабуе апавядальная норма. Далей беларускія савецкія пісьменнікі развілі і ўдасканалілі намаганні Я. Купалы і Я. Коласа (найперш М. Чарот, У. Дубоўка, А. Куляшоў, К. Чорны, К. Крапіва, І. Мележ, Я. Брыль і інш.).

**АПАВЯДАЛЬНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА** – адлюстраванне аўтарскага выкладу, г. зн. таго спосабу расповеду, які выбіраецца аўтарам для выражэння ідэі (ідэй) у ягоным творы. А. П. літаратурна-мастацкага твора прадугледжвае ўзаемадзеянне яго суб'ектыўна-маўленчай, кампазіцыйна-сюжэтнай і прасторава-часавай арганізацыі, абумоўленае адпаведнай камунікацыйна-творчай стратэгіяй аўтара, г. зн. пісьменніка.

**АПАВЯДАЛЬНІК** – пісьменнік, АПАВЯДАЧ – суб'ект апаведу *(гл.)*. *Апавядач можа збліжацца з аўтарам, непасрэдна выяўляць яго думкі...* (Рагойша, 2003, сс. 14, 15).

**АПАВЯДАННЕ [1]** – невялікі апавядальны твор, у якім расказваецца пра нейкі адзін вызначальны выпадак (сітуацыю, падзею) з жыцця чалавека. У А. адна сюжэтная лінія, абмежаваная колькасцю дзейных асоб, характары якіх дастаткова сфарміраваны; розныя апісанні адсутнічаюць ці пададзены вельмі сцісла: *У. Караткевіч "КнігаНошы"; У. Арлоў "Пакуль не згасла свечка", "Клён"; М. Стральцоў "Сена на асфальце"* і інш.

Жанравымі разнавіднасцямі А. з'яўляюцца навела *(гл.)*, нарыс *(гл.)*, памфлет *(гл.)*, гумарэска *(гл.)*.

**АПАВЯДАННЕ [2], АПОВЕД** – тып маўлення, які служыць для адлюстравання паслядоўнасці падзей і з'яў, што адбываюцца не адначасова, а ідуць адна за адной ці абумоўліваюць адна адну, падаючы храналагічную паслядоўнасць дзеяння спецыфічнымі моўнымі сродкамі:

*Запомнілася і яшчэ адно бацькава апавяданне. Яно павінна было пераканаць нас, што ў нядзелю нельга ні шыць, ні сеч, наогул нічога рабіць.*

*Некалі нядзеля была жывая і хадзіла па зямлі. Сустрэлі яе аднойчы людзі і жахнуліся: яна была ўся ў крыві і струпах, пасечаная, паколатая, панівечаная. "Што з табою, святая нядзелька?" – пытаюцца сустрэчныя. "А гэта вы самі вінаватыя, – адказвае нядзеля, – не шануеце мяне, не хочаце свяціць, а ў мяне ад вашых нажоў і шылляў на целе знакі застаюцца. Калі будзеце і далей так рабіць, дык я хутка памру. А вы страціце адзін вольны дзень".*

*Застыдаліся людзі, стала ім шкада беднай нядзелі, і пачалі высцерагацца ад работы* (М. Лужанін. Колас расказвае пра сябе).

У прыведзеным прыкладзе звяртае на сябе ўвагу значная колькасць дзеясловаў і дзеепрыметнікаў закончанага трывання прошлага часу (*сустрэлі, жахнуліся, застыдаліся, пасечаная, паколатая*), прычым неабходна заўважыць, што

дзеянні падаюцца ў храналагічнай паслядоўнасці і носяць дынамічны характар. Абмежавана выкарыстоўваюцца назоўнікі і прыметнікі, але пашыраны аднасастаўныя выказнікавыя сказы (*Запомнілася і яшчэ адно бацькава апавяданне; У нядзелю нельга не шыць, ні сеч; Стала ім шкада беднай нядзелі*) і двухсастаўныя сказы з развітым саставам выказніка, а таксама неразвітым саставам дзейніка (*Яно павінна было пераканаць нас; Некалі нядзеля была жывая і хадзіла па зямлі*) і шмат сказаў з аднароднымі выказнікамі (*Людзі сустрэлі і жахнуліся; не шануеце, не хочаце свяціць, застыдаліся і пачалі высцерагацца*). Адзначаныя лексічныя і граматычныя сродкі спрыяюць цэласнаму раскрыццю цесна звязаных паміж сабой падзей мінулага.

*Параўн.:* аповед, аповяд, апавяд (СНСБМ, с. 46).

**АПІСАННЕ** – тып маўлення, які ўжываецца для падрабязнай характарыстыкі стану рэчаіснасці з падрабязным пералічэннем шэрагу аб’ектаў і іх прымет (прадмет, партрэт, пейзаж, інтэр’ер і інш., і інш.). Неабходна адрозніваць статычнае і дынамічнае А. Пры статычным А. цэлы шэраг разнастайных дзеянняў, прадметаў, уласцівасцей рэцыпіент успрымае адначасова, напрыклад:

*... УСХОД. Часам марэнныя гарады, часам раўніны. На водападзелах тарфяныя і мохавыя балоты. Дурманіць там галаву багун, а журавіны ўвосень збіраюць саўкамі. Тут трапляюцца бадай што найлепшыя на Беларусі сасновыя бары. Нацэленыя ў неба, звонкія, прапахлыя жывіцай. Грыбоў – хоць касой касі. На поўдні ўсё часцей і часцей трапляюцца дубровы з іхнім шырокалістоўным холадам. Шмат старых паркаў. У прыватнасці, парк пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, самы стары батанічны сад рэспублікі.*

*І паўсюль яры, поймы, паплавы, што шумяць разнаквеццем, сады* (У. Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі).

Пры статычным А. шырока выкарыстоўваюцца няпоўныя сказы з апушчаным выказнікам (*На водападзелах тарфяныя і мохавыя балоты*), назыўныя (*Шмат старых паркаў*) і генітыўныя сказы (*Грыбоў – хоць касой касі*), заўважаецца адразу вялікая колькасць назоўнікаў і прыметнікаў, абмежавана ўжываюцца дзеясловы, калі яны і выкарыстоўваюцца, то не паказваюць актыўнасць дзеяння і паслядоўны ход падзей (што характэрна для апавядання), а служыць для стварэння статычнага вобраза. У большасці сказаў адваротны парадак слоў (*дурманіць там галаву багун, трапляюцца сасновыя бары, трапляюцца дубровы* і інш.).

Дынамічнае А. у адрозненне ад статычнага стварае спецыфічную атмасферу дзеяння:

*Увогуле Птахава сяліба на вясёлым месцы. Люду тут паварочваецца за дзень процьма. Яшчэ на золку паўз будку шыбуюць у лес мястэчкоўцы. Ідуць кожны па сваёй патрэбе: хто па ягады, хто па грыбы, хто нарваць мяккага вішу на сяннік, а хто неўзаметку, патаемна ад леснікова вока, укасіць між кустоўя капу сена. Гадзін у восем з рогатам і крыкам падыходзіць да пераезда рамонтная брыгада. Пуцейцы спыняюцца, грузяць на ваганетку інструмент, рэйкі, шпалы і крочаць далей.*

*Яшчэ праз гадзіну валам валяць тыя, хто мае нейкі інтарэс у мястэчку. Калгаснікі на фурманках вязуць нарыхтоўку – свіней, малако ў бліскучых бітонах, гародніну, садавіны. Першыя найюольш спяшаюцца па асабістых патрэбах: прадаць яйкі і сушаныя грыбы, да пракурора ці ў райвыканкам са скаргай, у амбулаторыю да ўрача. Хлопчыкі і дзяўчаткі, якія, можа, упершыню ў жыцці адважыліся адмераць доўгія кіламетры ад сваёй вёскі да мястэчка, ідуць купляць падручнікі.*

*У гэты ранішні час пераезд становіцца людным, бойкім. Безупынна звініць ланцуг, і ў прорву бяздоннага ацэментаванага калодзежа з громам ляціць акаванае жалезнымі абручамі вядро. Пад сасной абуваюцца маладзіцы і дзяўчаты, якія, шануючы абутак, дагэтуль ішлі босыя. Тыя, хто едзе, кіруюцца звычайна пыльным шляхам, а пешыя стараюцца збочыць на прасёлкавую дарогу, што весела віецца між жытоў і ячмянёў.*

*Пад поўдзень сутыкаюцца два адваротныя патокі. Местачкоўцы вяртаюцца з лесу, вяскоўцы – з мястэчка. Гадзінам к пяці завяршае свой рабочы дзень стомленая і цяпер не вельмі гаманкая рамонтная брыгада. Яна згружае інструмент, пакідае некалькі гнілых шпал – абходчыку на паліва – і трымае цвёрды кірунак на станцыю, на спачын. І наступае цішыня…* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе).

Уся разнастайнасць падзей працытаванага ўрыўка ўспрымаецца адначасова, статычна, чаму спрыяе значная колькасць дзеясловаў незакончанага трывання цяперашняга часу (*шыбуюць, ідуць, спыняецца, становіцца, звініць*). Назіраецца спалучэнне двухсастаўных няпоўных сказаў (*Увогуле Птахава сяліба на вясёлым месцы; хто па ягады, хто па грыбы*), неаб'ёмных аднасастаўных і двухсастаўных поўных сказаў (*Люду тут паварочваецца за дзень процьма; Яшчэ на золку паўз будку шыбуюць у лес местачкоўцы; І наступае цішыня*). Пераважаюць двухсастаўныя сказы з развітым саставам дзейніка (*ляціць … акаванае жалезнымі абручамі вядро; сутыкаюцца два адваротны патокі; завяршае рабочы дзень стомленая і не вельмі гаманкая брыгада* і інш.). Часта дынамічнае апісанне адрозніваецца ад апавядання па форме трывання выкарыстаных дзеясловаў: для апісання ўласцівы дзеясловы незакончанага трывання, для апавяання – дзеясловы закончанага трывання.

**АРГАТЫЗМЫ** – 1) словы і выразы, што ўваходзяць у склад якога-небудзь арго *(гл.)*; 2) словы і выразы арго, выкарыстаныя ў літаратурным маўленні *(гл.)*, напрыклад, *"гой", "шэйгіц", "шантрапа", "замухрыжаны шкет", "начанька блакітная", "жысць размалінавая"* ў апавяданнях М. Лынькова "Гой" і "Над Бугам".

**АРГО** – *гл.* СЛЭНГ.

**АРГУМЕНТАЦЫЙНЫ ТЫП МАЎЛЕННЯ**: ДОКАЗ – функцыянальна-сэнсавы тып маўлення, які аргументуе змест *(гл.)*; падтып разважання ў шырокім разуменні апошняга. Камунікацыйна-пазнавальная функцыя доказу – устанаўленне праўдзівасці якога-небудзь сцвярджэння. Доказ звычайна ўжываецца ў тэкстах дакладных навук: матэматыкі, фізікі.

Структура доказу – тэзіс і аргументы, а таксама лагічная сувязь паміж імі. Аргументацыйная пабудова завяршаецца, як правіла, варыянтным паўторам тэзіса – вывадам, г. зн. ужо вядомым чытачу суджэннем, навізна якога заключаецца ў тым, што праўдзівасць ужо даказана. Паміж пачатковым і заключным сказамі існуе дыстантная лексічна-семантычная сувязь, якая, з'яўляючыся сігналам пачатку і канца доказу, выконвае асобую кампазіцыйную ролю – арганізуе тэкст.

Доказ характарызуецца выкарыстаннем тыповага набору сродкаў. Да стэрэатыпных спосабаў яго афармлення адносіцца абазначэнне паслядоўнасці аперацый пры дапамозе дзеясловаў 1-ай асобы множнага ліку: *знойдзем, памножым, параўнаем, вызначым* і г. д. Вынік гэтых аперацый уводзіцца словамі тыпу *будзе, будзем мець, атрымаем, адкуль атрымліваецца, адсюль вынікае, у такім выпадку* і інш. Для выражэння прычынна-выніковых сувязей выкарыстоўваюцца злучнікі і злучальныя словы адпаведнай семантыкі: *паколькі, так што, таму, значыць, такім чынам*. У доказе, што ажыццяўляецца пры дапамозе дадатковых дапушчэнняў, выкарыстоўваецца часціца *няхай*, дзеясловы ўмоўнага ладу.

**АРХАІЗАЦЫЯ** – 1) несвядомае выкарыстанне ў маўленні ўстарэлай лексікі і фразеалогіі; 2) знарочыстая стылізацыя *(гл.)* вуснага ці пісьмовага маўлення пад архаічны стыль *(гл.)*. АРХАІЗМЫ – устарэлыя літаратурныя нормы *(гл.)*, што перайшлі ў пасіўнае выкарыстанне ці зусім выйшлі з ужытку. *Уласналексічныя А.*: *лемантар* (буквар), *раць* (войска); *лексіка-семантычныя А.: жывот* (жыццё), двор (памесце); *лексіка-фанетычныя А.: кроніка* (хроніка), *дзэканне* (дзеканне); *лексіка-словаўтваральныя А.: злуч* (злучок), *прасвета* (асвета); *лексіка-марфалагічныя А.: кляса* (клас), *лякаматыва* (лакаматыў) і інш. (СЛМ, 1995, сс. 250-251).

**АРХЕАГРАФІЯ** – дапаможная гістарычная дысцыпліна, што распрацоўвае метады прынцыпы выдання старажытных пісьмовых помнікаў. Цесна звязаная з філалогіяй, палеаграфіяй *(гл.)*, тэксталогіяй *(гл.)* і інш. Дзякуючы А. мы ведаем і можам класіфікаваць беларускія берасцяныя граматы *(гл.)*.

**АРХЕТЫП** – невядомы нам тэкст, ад якога пайшлі вядомыя нам (тэксты). А. М. Ненадавец глыбока даследаваў архетыпы беларускага фальклору *(гл.)*.

*Параўн.:* архетып (ЛЭС, с. 47).

**АРХІВАЗНАЎСТВА** – навука, што распрацоўвае правілы збору, апісання, сістэматызацыі, захавання і прапаганды архіўных матэрыялаў – рукапісаў, дакументаў прыватных асоб, дзяржаўных устаноў, арганізацый і г. д. АРХІВАРЫУС, АРХІВІСТ – супрацоўнік архіва; спецыяліст архіўных спраў.

*Параўн.:* архівы (ЭнЛіМБел, I, сс. 178-179); архіварыус, архівіст (ТСБЛМ, с. 66); архівазнаўства (Рагойша, 2003, с. 17).

**АРХІТЭКТОНІКА** – агульная (знешняя) будова літаратурна-мастацкага твора; структурная арганізацыя твора як адзінага мастацкага цэлага. Залежыць ад ідэйна-тэматычных і жанрава-стылістычных законаў і індывідуальна-аўтарскіх памкненняў. Падзел твора на састаўныя часткі з'яўляецца не механічным, а глыбока творчым, прадыктаваны зместам. А. цесна звязаная з кампазіцыяй *(гл.)* – унутранай будовай твора.

*Параўн.*: архітэктоніка, архітэктанічнае кальцо (Рагойша, 1979, сс. 193, 210).

**АРХІЎ** – 1) установа для захоўвання старадаўніх ці старых дакументаў; 2) збор рукапісаў, пісем і інш., што дакументальна пацвярджаюць гісторыю дзейнасці або існавання каго-н. ці чаго-н. АРХІВЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА – спецыялізаваныя дзяржаўныя архівы, прысвечаныя жыццю і дзейнасці як асобных пісьменнікаў і мастакоў, так і ўсіх: рэспубліканскіх, саюзных, еўрапейскіх, сусветна-вядомых, напр., *Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы* (Вільнюс) і інш.

**АСНОЎНЫ ТЭКСТ** – тэкст, у якім увасоблена апошняя творчая воля аўтара.

**АСОБА [1]** – 1) асобны чалавек у грамадстве; індывід(ум); 2) персона; 3) чалавечае "Я"; чалавек як носьбіт нейкіх уласцівасцей. ФІЗІЧНАЯ АСОБА – грамадзянін дзяржавы; чалавек як суб'ект цывільнага права. ЮРЫДЫЧНАЯ АСОБА – арганізацыя, якая мае адасобленую маёмасць і можа ад свайго імя набываць маёмасныя і немаёмасныя правы і несці абавязак (ЮЭС, с. 63). *Гл.* САМАСЦЬ, Я, Я-канцэпцыя.

*Параўн.:* человек (ФЭ, У, с. 477), лицо, личность (Ожагаў, 1960, сс. 287-288), асоба, персона (ТСБЛМ, 2002, сс. 70, 474).

**АСОБА [2]** – граматычная катэгорыя дзеяслова, што абазначае адносіны дзеяння (стану) да ўтваральніка гэтага дзеяння – асобы або прадмета. Адрозніваюцца 3 асобы: першая, другая, трэцяя. Катэгорыя А. уласціва займеннікам, асабліва асабовым, якія "паказваюць на гаворачага або на асобу, якая не ўдзельнічае ў размове, ці на прадмет: я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны" (СЛТ, 1990, с. 56). *Гл.* ДЗЕЙНЫ АСОБЫ, СУБ'ЕКТ, ДЗЕЙНІК.

*Параўн.:* лицо (СЛТ, 1969, с. 220), (ЛЭС, с. 271), лицо глагола (СЛТ, 1972, сс. 150-152), личные местоимения (тамсама).

**АТРЫБУЦЫЯ** – устанаўленне аўтарства ананімнага ці надрукаванага пад псеўданімам або пад крыптанімам твора. Існуюць дакументальныя і ўскосныя спосабы атрыбуцыі. Прыёмы атрыбуцыі: *дакументальны аналіз, гісторыка-змястоўны і моўна-стылістычны* (Мушынскі, 2007, с. 404).

**АЎДЫЁВІЗУАЛЬНАЕ ЎСПРЫНЯЦЦЕ ТЭКСТУ** – сумешчанае ўспрыняцце (успрыманне) зрокам і слыхам відэазапісаў, кінафільмаў, тэлеперадач і інш.

**АЎТАБІЯГРАФІЧНЫ ЖАНР** – літаратурна-мастацкія ці публіцыстычныя творы, аўтары якіх прама ці ўскосна апісваюць, адлюстроўваюць сваё жыццё. Напрыклад: "Аўтабіяграфія" Нушыча ў перакладзе І. Чароты (Мінск, 1985).

**АЎТАЛОГІЯ** – выкарыстанне ў тэксце (творы) слоў і выразаў у іх прамых, не пераносных значэннях. АЎТАЛАГІЧНЫ СТЫЛЬ – стварэнне мастацкага твора (тэксту) моўнымі сродкамі ў прамым значэнні слоў, сказаў і выказванняў, г. зн. пры дапамозе аўталогіі. *Параўн.* МЕТАФАРЫЧНЫ СТЫЛЬ.

**АЎТАР** – стваральнік тэксту, выказвання; пісьменнік, публіцыст, вынаходнік і г. д.

*Параўн.:* адрасант, рэферэнт (ТСБЛМ, сс.44, 577).

**АЎТАРСКАЕ МАЎЛЕННЕ** – унутрытэкставае ўвасабленне аўтара (вобраза аўтара), адказнага за прапанаваную інфармацыю. Апошняя заўвага даволі

істотная, таму што, напрыклад, у вуснай калектыўнай народнай творчасці катэгорыя аўтара пазбаўлена асабістай адказнасці за паэтычнае выказванне. Месца аўтара займае ў такім выпадку выканаўца – спявак, апавядальнік. Тэрмін А. М. прымяняецца перш за ўсё да мастацкага маўлення, паколькі менавіта ў мастацкім тэксце сутыкаецца найбольшая колькасць пунктаў погляду, чужога маўлення як маўлення персанажаў або каго-небудзь, хто адрозніваецца ад самога аўтара тэксту. У мастацкім тэксце аўтар можа выступаць не толькі ў сваёй непасрэднай ролі, але і як аўтар-апавядальнік, лірычны герой, герой ролевай лірыкі і інш. Усе разнастайныя формы прысутнасці аўтара ў тэксце залежаць ад родавай і жанравай *(гл.)* прыналежнасці тэксту (твора). Больш за ўсё аўтар праяўляецца ў рамачных кампанентах тэксту *(гл.)* (у загалоўку, эпіграфе, пачатку і канцоўцы тэксту, псеўданіме), а таксама ў метатэксце *(гл.)*, што складае адзінае цэлае з асноўным тэкстам і ўключае прысвячэнні, аўтарскія заўвагі і рэмаркі, прадмовы, эпілогі, адступленні і г. д.

Апавяданне *(гл.)* (эпічнае ці лірычнае) заўсёды вядзецца ад нейкай асобы; у ім прама ці ўскосна прысутнічае апавядальнік – пасрэднік паміж адлюстраваннем у тэксце (зместам) і слухачом / чытачом. У А. М. апавяданне вядзецца аб'ектыўна ад аўтара; аўтар паведамляе ўсё ад сваёй асобы. Удзел аўтара адчуваецца ў выкарыстанні дэйктычных слоў *(гл.)*: займеннікаў (*я, якія*), часціц (*вось, вунь, менавіта*), пабочных слоў, устаўных канструкцый, якія падразумяваюць таго, хто гаворыць:

*Зірні на Неапаль, а потым памірай!*

*Так кажуць італьянцы аб гэтым горадзе. І багатыя людзі з усіх канцоў Еўропы з'язджаюцца, каб зірнуць – і не памерці, не, а добра пажыць, пагуляць.*

*І сапраўды, прыгожа тут, вельмі прыгожа. Цёмна-сіняе ціхае мора стварае жывапісную Неапалітанскую затоку. На берагах раскошныя вілы бялеюцца з-за пальмаў, памеранцаў, лімонаў, лаўраў і іншых заўсёды зялёных раслін. Сам горад акружае прыгожае каменнае ўзбярэжжа, дзе заўсёды прагульваецца шмат вясёлых, шчаслівых людзей. А збоку, бы вартаўнік, стаіць вулкан Везувій і курыць сваю люльку…*

*Зіма тут складаецца з двух-трох даджлістых асенніх тыдняў. Летам гарачыня не бывае звыш дваццаці чатырох градусаў. Неба заўсёды чыстае, сіняе; туманаў ніколі не бывае; дождж не затрымліваецца, праходзіць хутка* (Я. Маўр. Лацароні).

А. М. уласціва дастатковая ступень выразнасці, яно характарызуе не толькі аб'ект выказвання, але і апавядальніка.

**АЎТАРСКАЯ ВОЛЯ** – *гл.* ВОЛЯ АЎТАРА.

**АЎТАРСКАЯ ЗАДУМА** – першаснае ўяўленне аўтара пра задуманы твор. *Гл.* ЗАМЫСЕЛ, ЛЕЙТМАТЫЎ.

**АЎТАРСКАЯ МОВА** – 1) аўтарскае апавяданне, апісанне, разважанне ў літаратурна-мастацкім творы, што не адносіцца да мовы персанажаў; 2) часткі твора (тэксту), у якіх аўтар звяртаецца да чытача (слухача, гледача) ад сябе.

*Гл.:* МАНАЛОГ АЎТАРСКІ; 3) тое, што і РЭМАРКІ АЎТАРСКІЯ; 4) тое, што і ВОБРАЗ АЎТАРА, ВОБРАЗ АПАВЯДАЛЬНІКА, ВОБРАЗ ЛІРЫЧНАГА ГЕРОЯ.

**АЎТАРСКАЯ ПАМЫЛКА** – *гл.* ПАМЫЛКА.

**АЎТАРСКАЯ ПЕРАПРАЦОЎКА** – *гл.* РЭДАКЦЫЯ.

**АЎТАРСКАЯ ПРАЎКА** – 1) выпраўленне памылак у машынапісе самім аўтарам; 2) выпраўленне аўтарам недахопаў у карэктуры *(гл.)* твора (тэксту).

*Параўн.:* авторская правка (Ліхачоў, 1983, сс. 183, 574, 580).

**АЎТАРСКІ СТЫЛЬ** – гл. ІДЫЯСТЫЛЬ, СТЫЛЬ ІНДЫВІДУАЛЬНЫ.

**АЎТАРСКІ ТЭКСТ** – 1) *гл.* АЎТАРСКАЯ МОВА; 2) тэкст, які належыць аўтару яго як стваральніка і ўладальніка права на аўтарства.

**АЎТАРСКІЯ АДСТУПЛЕННІ АД НОРМЫ** – 1) адступленні аўтараў мастацкіх тэкстаў ад агульнапрынятых нормаў паэтыкі дзеля большага дасягнення змястоўнасці і мастацкасці; так званыя паэтычныя вольнасці; 2) адхіленні ад агульнапрынятых норм літаратурнай мовы на ўсіх узроўнях для адлюстравання моўнай сітуацыі, моўнай характарыстыкі і так званага мясцовага каларыту (пераважна пры выкарыстанні дыялектызмаў, прафесіяналізмаў, індывідуальнага маўлення і інш.).

**АЎТАРСКІЯ ЛІРЫЧНЫЯ АДСТУПЛЕННІ** – разнавіднаць аўтарскай мовы *(гл.)*, у якой выяўляюцца непасрэдныя адносіны аўтара да паказу, напрыклад, зачын аповесці Я. Коласа “У глыбі Палесся”, які звычайна называюць *“На прастор, на шырокі прастор!”.*

**АЎТАРСКІ МНОЖНЫ** (ЛІК) – так званае аўтарскае “мы”.

**АЎТАРСКІЯ НАВАТВОРЫ** – стылістычна абмежаваныя словы і выразы, створаныя аўтарам і мэтанакіравана ўведзеныя ў моўную фактуру літаратурна-мастацкага твора; ужываюцца з мэтай свежага і яскравага выражэння стылістычных эфектаў і мастацкіх дэталяў, каламбураў *(гл.)*; аказіяналізмы *(гл.)*. *Сярод наватвораў беларускіх пісьменнікаў вылучаюцца такія, як драпежназубы, белабярозава* (Я. Брыль), *гартанна-арганна* (А. Вярцінскі), *вятрыска-гулкі* (А. Грачанікаў), *высакадбайны* (В. Жуковіч), *беззваротна-шматдольны* (М. Дукса), *кінааслы* (У. Караткевіч), *каркаломны* (А. Лойка), *жыллёва-мікра-райбудоўля* (П. Панчанка), *цытатаразважны* (М. Танк), *бусладром* (Г. Тумас), *надорэміфасоліць* (Н. Гілевіч) і інш. (М. Р. Прыгодзіч. Словаскладанне ў беларускай мове).

**АЎТАРСКІЯ СЛОВЫ** – словы аўтара як кампанент канструкцыі з простай мовай *(гл.)*. *– Ну, як там Хадора? – спыталі жанчыны* (Л. Левановіч. Шчыглы); *І таму Валодзька адно сцішана мармытаў: “Тры танкісты, тры вясёлых друга...”* (Тамсама). *Гл.* СЛОВЫ АЎТАРА.

**АЎТАРЫЗАЦЫЯ; АЎТАРЫЗАВАНЫ ПЕРАКЛАД** – 1) адобранае аўтарам; 2) пераклад на іншую мову, ухвалены аўтарам (вусна ці пісьмова).

**АЎТАСЕМАНТЫЯ** – 1) катэгорыя тэксту, абумоўленая адноснай самастойнасцю пэўных адрэзкаў яго, у першую чаргу такіх, як сентэнцыі *(гл.)*, цытаты *(гл.)*, прыказкі *(гл.)*, афарызмы *(гл.)* і інш.; 2) прыём арганізацыі тэксту, заснаваны на выкарыстанні ў ім адносна самастойных адрэзкаў з мэтай найбольш паглыбленага раскрыцця змястоўна-канцэптуальнай інфармацыі *(гл.)*.

*Параўн.:* СІНСЕМАНТЫЯ.

**АЎТОГРАФ** – 1) тэкст, напісаны аўтарам; 2) уласнаручны надпіс ці подпіс. *Аўтограф паэмы "Бандароўна"* (ТСБМ, I, с. 303).

**АЎТЭНТЫК, АЎТЭНТЫЧНЫ ТЭКСТ** – арыгінал; сапраўдны тэкст, а не яго копія.

*Параўн.:* аўтэнтык, аўтэнтычнасць, аўтэнтычны (ТСБМ, I, с. 304).

**АФАРБОЎКА (СТЫЛІСТЫЧНАЯ)** – дадатковыя стылістычныя адценні, якія накладваюцца на асноўнае, прадметна-лагічнае значэнне слова, словазлучэння, сказа і выконваюць эмацыянальна-экспрэсіўную або ацэначную функцыю, прыдаючы выказванням характар урачыстасці, узвышанасці, фамільярнасці, грубаватасці і г. д.

**АФАРЫЗАЦЫЯ І АФАРЫСТЫЧНАСЦЬ** – увасабленне значнай і арыгінальнай думкі ў форме афарызма *(гл.)*; насычанасць маўлення афарызмамі. *А чаго ж, чаго захацелась ім, Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? – Людзьмі звацца* (Я. Купала. А хто там ідзе?).

**АФАРЫЗМ** – выказванне, у якім у трапнай, лаканічнай і звычайна вобразнай форме выказана арыгінальная думка. Афарыстычнасць уласцівая найперш прыказкам, прымаўкам, крылатым словам і выразам *(гл.)*.

**АФАРЫСТЫКА** – 1) сукупнасць выслоўяў, афарызмаў пэўнага часу або народа, фальклорнага або літаратурнага паходжання; 2) філалагічная дысцыпліна, што вывучае выслоўі, афарызмы аднаго народа ці сусветныя.

**АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫ (АФІЦЫЙНА-ДЗЕЛАВЫ, АФІЦЫЙНЫ) СТЫЛЬ** – *гл.* СТЫЛЬ, ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

# Б

**БЕЛАВІК, БЕЛАВЫ ТЭКСТ** – перапісаны або перадрукаваны начыста тэкст. Тое самае, што і чыставік – чыставы (белавы) рукапіс. Адрозніваецца ад чарнавіка – першапачатковага або толькі папраўленага (але не перапісанага) рукапісу (машынапісу), які не з'яўляецца апошняй рэдакцый *(гл.)*.

*Параўн.:* беловик (Ліхачоў, 1983, сс. 41, 44, 131), черновик (Ожагаў, 1960, с. 816).

**БЕЛЕТРЫСТЫКА** – мастацкая, пераважна празаічная літаратура.

**БЕЛЫ ВЕРШ** – нерыфмаваны верш у слабічнай і сілаба-танічнай сістэмах вершавання. Паходжанне тэрміна звязаа з практыкай ранняга кнігадрукавання, дзе рыфмаваныя радкі пазначаліся чырвонай фарбай, а нерыфмаваныя – звычайнай. Калі ва ўсім вершы не было рыфмаў, то ён друкаваўся звычайнай фарбай і называўся "белым". У Б. В. павышаецца сэнсавыяўленчая і інтанацыйная роля рытму, адкрываюцца магчымасці для перадачы жывога маўлення, для натуральнай пабудовы новай фразы:

*Нават тады,*
*Калі вечна я,*
*Вечна я слухала б*
*Словы кахання твае, –*
*Няўжо сапраўды*
*Табе думаецца,*
*Што якраз гэтых слоў,*
*Што так цяжка даюцца,*
*Нам трагічна так не стае?..*

(Н. Мацяш. Пытанне).

**БЕРАСЦЯНЫЯ ГРАМАТЫ** – пісьмы і дакументы на бяросце (XI-XV стст.), выяўленыя археолагамі (БелСЭ, I, с. 300).

*Параўн.:* береста і берёста, берестяной, -ые грамоты (СРБСДШ, с. 24).

**БІБЛІЯ** – "свяшчэнная кніга" іўдзейскай і хрысціянскай рэлігій; старажытны помнік пісьменства, зборнік твораў фальклорнага і літаратурнага паходжання. *"БІБЛІЯ" Фр. Скарыны.* БІБЛЕІЗМ – слова ці выраз, цытата з Бібліі.

**БІБЛІЯГРАФІЯ** – 1) улік друкаванай і рукапіснай прадукцыі, інфармацыя пра яе; 2) выбарачны або поўны спіс выкарыстанай літаратуры.

**БІЛІНГВІЗМ** – *гл.* ДВУХМОЎЕ.

**БІНАРНАСЦЬ, БІНАРНЫ** – што складаецца з дзвюх частак; БІРЭМА – выказванне, якое складаецца з 2 частак. *Гл.* МАНАРЭМА, РЭМА.

**БЛЕНД, БЛОНД, БЛЭНД** – 1) памылка; 2) змешванне ў адной моўнай адзінцы яе фармальных і семантычных асаблівасцей, напр., *ерундыцыя, ерундзіт* і інш. *Гл.* ПАМЫЛКА.

**БЫЛІНА, БЫЛЬ, БЫЛІННЫ ВЕРШ** – форма верша, звязаная з традыцыямі інтанацыйна-сказавага вершаскладання *(гл.)*; народная гераічная песня пра асілкаў ці людзей, здольных на подзвіг.

*Параўн.*: былина, быль, былинный стих (ЛітЭС, с. 59).

**БЫЛІЦА; БЫЛІЧКА** – эпічны жанр у беларускай літаратуры і вуснапаэтычнай творчасці XIX ст. *Быліцы В. Дуніна-Марцінкевіча*.

*Параўн.:* гавэнда, гутарка (ЭнЛіМБел, II, сс. 5-6, 24).

**БЫТАВАЯ ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ** – словы і выразы, якія адлюстроўваюць бытавыя прадметы і з'явы, а таксама выкарыстоўваюцца ў штодзённых моўных зносінах*: жыллё, лава, стол, печ, зэдлік* і інш.

**БЫТАВІЗМЫ** – словы, словазлучэнні, сказы штодзённага ўжытку ў маўленні носьбітаў той ці іншай нацыянальнай мовы.

*Параўн.:* бытавая лексіка (СЛТ, 1990, с. 31).

**БЯЗЗЛУЧНІКАВАСЦЬ, АСІНДЭТАН, АСІНДЭТОН** – стылістычны прыём, сутнасць якога заключаецца ў неўжыванні злучнікаў паміж граматычна аднароднымі словамі і сказамі. Напрыклад:

*Ноч. Халодная зямлянка.*
*Перастрэлка. Цішыня.*
*Неба чыстае як шклянка.*
*Тупат быстрага каня.*

(П. Глебка. Пасылка).

# В

**ВАДЭВІЛЬ** – драматургічны жанр; кароткая п’еса, у якой дыялогі чаргуюцца з песнямі і танцамі. *“Фарс-вадэвіль ці камедыя “Пінская шляхта” В. І. Дунін-Марцінкевіча?” – спытаў студэнт. “І тое, і гэтае”, – адказаў прафесар.*

**ВАКАТЫЎ, ВАКАТЫЎНЫ СКАЗ** – 1) слова, словаспалучэнне або словазлучэнне, якія абазначаюць тых, да каго звяртаюцца; зваротак; 2) зваротак, што вымаўляецца з інтанацыяй узрушанасці, перасцярогі і інш. Звычайна афармляецца як простая мова ў сказах ці выказваннях *(гл.). – Цімафей! – у шаленстве паклікаў Ізяслаў свайго рынду…* (Л. Дайнека. След ваўкалака).

*Параўн.:* вокатив, вокативный (СЛТ, 1969, с. 83).

**ВАЛЕНТНАСЦЬ (СЛОВА, ФРАЗЕАЛАГІЗМА)** – здольнасць слова ці фразеалагізма спалучацца з іншымі словамі (фразеалагізмамі).

*Параўн.:* валентность (ЛЭС, сс. 79-80), (СЛТ, 1972, с. 40).

**ВАЛІТЫЎ, ВАЛЮНТАТЫЎ** – мадальнае выражэнне волі, намеру.

**ВАРВАРЫЗМЫ** – словы і выразы іншых моў, не поўнасцю засвоеныя данай мовай, а выкарыстаныя дзеля характарыстыкі асаблівасцей жыцця, звычаяў, побыту тых народаў, моўныя адзінкі якіх сталі аб’ектам увагі: *– Біст ду дох аўх гір, майн лібэр кэрль? – засмяяўся начальнік* (Я. Брыль. Memento mori). Няпоўнае засваенне часцей за ўсё звязана з граматычнымі асаблівасцямі, г. зн. з неадпаведнасцю правілаў словаўтварэння, словазмянення і словаспалучэння. А таксама з адсутнасцю адпаведных рэалій у той мове, якая запазычвае гэтыя словы. Напрыклад, *авеню* – шырокая, звычайна абсаджаная дрэвамі вуліца; *дэндзі* – мужчына, які апранаецца па апошняй модзе; *мікада* – японскі імператар і інш.

В. выконваюць дзве функцыі. Па-першае, яны перадаюць некаторыя незвычайныя паняцці і ствараюць так званы мясцовы каларыт, што характарызуе быт розных краін, народаў. Так, у М. Танка ў вершы “Бікавэр” сустракаем наступныя радкі:

*Былую ўспомніў я сустрэчу ў Карабаху,*
*Дзе на пытанне пасланца Алаха:*
*– А што п’яце?*
*– Быка кроў –*
*– “Бікавэр”.*
*Калі не верыш тамадзе – правер.*
*Праверыў.*
*Спадабалася.*
*І разам*
*Піў грэшнае віно аж да намаза.*
*Сягоння ў чайхане маіх былых сяброў*
*Чуваць: п’е смерць не “Бікавэр”, а кроў.*

*“Бікавэр”* – віно, распаўсюджанае ў Сярэдняй Азіі; *намаз* – у масульман: штодзённая пяціразовая (у вызначаны час) малітва, якая суправаджаецца мыццём рук рытуальнымі рухамі; *чайхана* – чайная ў Сярэдняй Азіі, Іране.

Па-другое, выкарыстаныя ў маўленні В. могуць выступаць адным са сродкаў высмейвання тых, хто пакланяецца ўсяму замежнаму:

*Спачатку пазбавіцца рад*
*Ад бацькоўскае хаты,*
*Ад маці – у горад,*
*Даюць на яе*
*Трэці светлы пакой.*
*На хатчыны грошы,*
*На матчыны грошы*
*Абставіць кватэру багата,*
*А потым і маці цішком –*
*У дом састарэлых*
*На вечны спакой!*
*А там і ад мовы сваёй*
*Адцураецца:*
*Родная мова не ў модзе –*
*Даволі той бульбы!*
*Бывай, журавінавы гай!*
*Крышталь. Дываны.*
*А дзеці ў англійскую ходзяць.*
*Прыстойна. Прэстыжна.*
*О'кэй і гуд бай!*

(П. Панчанка. Хто вінаваты?)

Як правіла, В. уводзіцца ў тэкст у засвоеным беларускай фанетыкай і марфалогіяй выглядзе. У залежнасці ад мовы, з якой запазычваюцца, В. падзяляюцца на *галіцызмы* (французскага паходжання), *германізмы* (нямецкага паходжання), *паланізмы* (польскага паходжання), *амерыканізмы* (амерыканскага паходжання) і інш.

Даволі распаўсюджаныя іншамоўныя словы і звароты, што ўяўляюцца як клішэ, ідыяматычныя выразы, прычым яны могуць быць перададзены як пры дапамозе графікі той мовы, з якой запазычаны, так і пры дапамозе графікі беларускай мовы:

*happy end* – шчаслівы канец (англ.); *chercher la fam* – шукайце жанчыну (франц.); *a la querre comme a la querre* – на вайне як на вайне (франц.) – перададзены графікай мовы, з якой запазычаны;

*шэршэ ля фам* – шукайце жанчыну (франц.); *уік энд* – выхадныя дні ў канцы тыдня (англ.); *ва банк* – ісці на рызыку (франц.) – перададзены графікай беларускай мовы.

**ВАРЫЯНТ** – відазмяненне, разнавіднасць моўнай (маўленчай) адзінкі. ВАРЫЯНТНАСЦЬ, ВАРЫЯТЫЎНАСЦЬ – разнастайнасць мовы (маўлення), выкліканая living рознымі ўмовамі яе (яго) ужывання (выкарыстання). ВАРЫЯНТ ТЭКСТУ – параўнальна нязначныя адрозненні тэксту, прынятага за асноўны або ў дадзенай рэдакцыі.

*Параўн.:* варыянт (у тэксталогіі і фальклоры) – (ЭнЛіМБел, I, с. 577).

**ВЕРБАЛІЗАЦЫЯ** – выкарыстанне розных часцін мовы ў ролі дзеяслова-выказніка, напр., *Гыля* адсюль! *Прэч* адсюль! *Вон* адсюль! ВЕРБАЛЬНАЕ МАЎЛЕННЕ – абмен думкамі пры дапамозе слоў; моўныя зносіны. *Гл.* таксама: ВЫКАЗВАННЕ, КАМУНІКАЦЫЯ, МОВА І МАЎЛЕННЕ. ВЕРБАЛЬНЫ ТЭКСТ – звязная мова, якая атрымліваецца як вынік вербальнага (слоўнага) мыслення на вуснай ці пісьмовай мове *(гл.)*.

**ВЕРЛІБР** – *гл.* СВАБОДНЫ ВЕРШ.

**ВЕРСЭТ** – невялікі твор, паэтычны паводле зместу і празаічны паводле формы выяўлення гэтага ж зместу. *Гл.* ВЕРШ У ПРОЗЕ.

**ВЕРШАВАНАЯ МОВА** – мерная, рытмічна арганізаваная мова, інтанацыйна (а на пісьме – і графічна) падзеленая на супастаўляльныя паралельныя рады,

супрацьлеглая празаічнай мове *(гл.)*. Энцыклапедычнае азначэнне В. М. – гэта асаблівы тып эмацыянальна афарбаванай, згушчанай мовы, у якой гранічна адчувальны кожны элемент (кампанент), а найбольш значныя гукі і сугуччы, словы, паўзы, вобразы і мікравобразы не толькі акцэнтуюцца, але і ставяцца ў цэнтр увагі. Калі проза ў кожнай фразе мае іншую, пераменную інтанацыю, то ў вершы, наадварот, пастаянства аднароднай інтанацыйнай сістэмы, сіметрыя і перыядычнасць члянення сінтаксічных адрэзкаў, пэўным чынам арганізаваная рытмамелодыка *(гл.)*. ВЕРШАВАННЕ; ВЕРШАСКЛАДАННЕ – сістэма арганізацыі вершаванай мовы, у аснове якой ляжыць паўтарэнне пэўнага рытмастваральнага кампанента. ВЕРШАВАНЫ РАДОК – графічна і інтанацыйна выдзелены моўны рад у вершаваным творы.

*Параўн.:* вершаваная мова, вершаванне, вершаваны радок (Рагойша, 2003, сс. 28-29).

**ВЕРШАВАНЫ РЫТМ** – раўнамернае чаргаванне аднатыпных моўных з'яў – ненаціскных і націскных або кароткіх і доўгіх складоў, аднолькавай колькасці складоў ці моцных (апорных) націскаў у вершаваным радку, аднолькавых слоў, гукаспалучэнняў і г. д. ВЕРШАЗНАЎСТВА – раздзел паэтыкі *(гл.)*, што вывучае верш як пэўную з'яву або эстэтычную сістэму, яе гісторыю і тэорыю (Рагойша, 2003, с. 29).

**ВЕРШ У ПРОЗЕ** – напісаны рытмізаванай празаічнай мовай *(гл.)* невялікі лірычны твор, напрыклад, *"Раны"* Ядвігіна Ш.

*Параўн.:* рытмічная проза, вершаванае апавяданне, вершаваная аповесць, вершаваны раман (Рагойша, 2003, сс. 14-113).

**ВОБРАЗ МАСТАЦКІ Ў ТЭКСЦЕ** – форма пазнання і адлюстравання чалавека і прыроды, увогуле свету ў мастацкай літаратуры пры дапамозе слова, словазлучэння, сказа. В. М. выступае і як асноўнае звяно літаратурна-мастацкага твора (напрыклад, вобраз Сымона-музыкі ў паэме Я. Коласа), і як стварэнне мастацкага, вобразнага маўлення *(гл.)*, мастацкасці ўвогуле (напрыклад, паэма Я. Коласа "Сымон-музыка", вершаваная мова Я. Коласа, празаічная мова Я. Коласа, паэтыка Я. Коласа). Як дыялектычна супярэчлівае, рухомае адзінства формы і зместу В. М. адлюстроўвае не толькі агульны сэнс з'явы, але і непаўторную індывідуальнасць. Формы будовы В. М. самыя разнастайныя. Яны залежаць ад літаратурнага роду *(гл.)*, сюжэту *(гл.)*, жанру *(гл.)*, мастацкага метаду *(гл.)*, эстэтычнага ідэалу *(гл.)*, мастацкага і індывідуальнага стылю *(гл.)*. Паводле "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", мастацкае асэнсаванне свету фарміруе яго карціну, якая мае аб'ектна-суб'ектыўны характар, аднак В. М. – не толькі "вобразная ілюстрацыя" жыццёвых прататыпаў ці агульных ідэй, але і пэўная з'ява, кампанент адносін паміж творцам мастацкіх каштоўнасцей і тым, хто іх успрымае. Першапачаткова вобраз узнікае ў свядомасці мастака. Пры яго стварэнні важнае значэнне набывае светасузіральная пазіцыя пісьменніка, якая з мастацкім вымыслам, густам мастацкім, інтуіцыяй выступае ў якасці кампанента мастацкай творчасці. В. М. знаходзіць рэчыўнае афармленне ў розных відах мастацтва (слова ў мастацкай літаратуры, фарбы ў жывапісе, лініі ў графіцы і г. д.), раскры-

ваецца ў ідэі мастацкай, якая дыктуе вырашэнне тэмы і сюжэта, кампазіцыю *(гл.)* твора мастацтва. Сваё поўнае завяршэнне В. М. набывае ў працэсе яго ўспрымання рэцыпіентамі мастацтва.

*Параўн.:* образ художественный (ЛітЭС, с. 257).

**ВОБРАЗ АПАВЯДАЛЬНІКА** – разнастайнасць аўтарскага выкладу; вобраз асобы, ад якой вядзецца расповед (апавяданне, апісанне, разважанне); выяўленне спецыфічных адносін пісьменніка да тэксту твора. Пры наяўнасці апавядальнай перспектывы *(гл.)* можна адрозніваць тры тыпы В. А. : 1) апавядальнік збліжаецца з вобразам аўтара *(гл.)* і вядзе расповед ад імя 3-яй асобы; 2) апавядальнік як дзейная асоба, удзельнік падзей і каментар усяго; 3) апавядальнік вядзе свой расповед ад імя 1-ай асобы і нібы спавядаецца перад чытачом (слухачом, гледачом). Сустракаюцца творы з некалькімі апавядальнікамі (напрыклад, у В. Казько). Нельга атаясамліваць В. А. з вобразам аўтара *(гл.)*, вобразам лірычнага героя *(гл.)*, дзейнымі асобамі *(гл.)* у літаратурна-мастацкім тэксце *(гл.)*. У сучаснай мастацкай літаратуры могуць супадаць галасы аўтара, апавядальніка і дзейных асоб (герояў).

**ВОБРАЗ АЎТАРА** – самая агульная катэгорыя літаратурна-мастацкага твора, якая лічыцца індывідуальнай слоўна-маўленчай структурай, што пранізвае ўвесь лад твора. *“Вобраз аўтара – гэта цэнтр, фокус, у якім скрыжоўваюцца, аб’ядноўваюцца, сінтэзуюцца ўсе стылістычныя прыёмы слоўнага мастацтва”* (Виноградов В. В. О теории художественной речи. – М., 1971. – С. 151). В. А. прысутнічае (адкрыта ці завуалявана) у кожным творы незалежна ад спосабу выкладу (ад “Я”, ад “Ён”, “Яна”, “Яно” ці “Яны”, ад “Ты” і г. д.). Нельга атаясамліваць канкрэтную асобу аўтара, вобраз аўтара, вобраз апавядальніка *(гл.)* і вобраз лірычнага героя *(гл.)*.

**ВОБРАЗ ЛІРЫЧНАГА ГЕРОЯ** – вобраз асобы, якой належыць перажыванне, выяўленае ў лірычным творы. В. Л. Г. узнікае ў чытача ў выніку знаёмства з лірычнай творчасцю таго ці іншага паэта. В. П. Рагойша адзначае: “В. Л. Г. нельга просталінейна атаясамліваць з асобай паэта, яго перажываннямі – з пачуццямі і думкамі аўтара. Суадносіны паміж імі – гэта, кажучы некалькі спрошчана, суадносіны прататыпа і героя ў эпічным творы, які ўзнікае, як і В. Л. Г., у выніку адбору пэўнага жыццёвага матэрыялу, аўтарскага мастацкага домыслу, тыпізацыі *(гл.)*”. (Рагойша В. П. Паэтычны слоўнік. – Мн., 1979. – С. 17).

**ВОБРАЗ-МАЛЮНАК** – *гл.* ПАРТРЭТ, ПЕЙЗАЖ.

**ВОБРАЗ-СІМВАЛ** – *гл.* СІМВАЛ.

**ВОБРАЗ СЛОЎНЫ** – *гл.* ТРОПЫ.

**ВОБРАЗ-ТЫП** – *гл.* ТЫПІЗАЦЫЯ, ТЫПОВАЕ.

**ВОБРАЗ-ХАРАКТАР** – *гл.* ТЫПОВАЕ, ТЫПІЗАЦЫЯ.

**ВОБРАЗ ЧЫТАЧА** – вобраз таго, хто прымае літаратурна-мастацкае слова; рэцыпіент *(гл.)*. В. Ч. – вобраз дзейнай асобы, выразніка аўтарскай задумы *(гл.)*. Арыентацыя на В. Ч. часцей за ўсё бывае ў зачынах *(гл.)*, зваротах, пралогах, эпілогах *(гл.)* і інш.

*Параўн.:* вобраз літаратурны (Рагойша, 2003, сс. 30-32).

**ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ** – выказванне ці тэкст, што ўтрымлівае ў сабе вобраз (мастацкі, эстэтычны і інш.); фігуральнае маўленне, насычанае вобразамі *(гл.)*, заснаванымі на вобразна-метафарычнай і вобразна-характарыстычнай функцыях мовы. *Гл.* ВОБРАЗ МАСТАЦКІ.

**ВОБРАЗЫ ВЕЧНЫЯ** – такія вобразы, якія народжаны канкрэтнымі ўмовамі і якія разам з асаблівасцямі пэўнага сацыяльнага і нацыянальнага асяроддзя, пэўнай эпохі з выключнай паўнатой і сілай узбуйнена выяўляюць агульначалавечыя праблемы, імкненні, супярэчнасці. Гэта ў першую чаргу вобразы-персанажы *Праметэя, Фаўста, Дон-Жуана, Дон-Кіхота* і інш.

**ВОКЛІЧ РЫТАРЫЧНЫ** – 1) слова або выгук, вымаўленыя з моцным пачуццём; 2) выказванне, у якім эмацыянальны змест пераважае над інфармацыйным. *Гл.* ВАКАТЫЎ, ВАКАТЫЎНЫ СКАЗЫ.

**ВОЛЬНАСЦЬ ПРАЗАІЧНАЯ І ПАЭТЫЧНАЯ** – адступленне ад дзейных літаратурных норм у сувязі з патрабаваннямі стылю, рытму і рыфмы твораў прозы, паэзіі і драматургіі. *Гл.* АЎТАРСКІЯ АДСТУПЛЕННІ АД НОРМЫ.

**ВОЛЬНЫ ВЕРШ** – від сілаба-танічнага верша, пераважна з рыфмай, у якім у адвольнай паслядоўнасці спалучаюцца радкі з рознай колькасцю стопаў. *Гл.* ВЕРЛІБР, СВАБОДНЫ ВЕРШ.

**ВОЛЯ АЎТАРА** – змены тэксту (твора) у сувязі са зменамі задумы (замыслу) яго; адносіны аўтара да свайго твора (тэксту) і яго рэдакцыяй *(гл.)*.

**ВУЛЬГАРЫЗМЫ** – грубыя прастамоўныя словы і выразы, якія сустракаюцца ў размове, тэкстах СМІ, літаратуры, публіцыстыцы і г. д. Напрыклад:

*Спыталіся ў яго: – Ты ведаеш Іуду?*
*– Якога? Гэтага паскуду?*
*Іскарыёта, што прадаў Хрыста?*
*Гандляр паршывы! Свалата!*
*Ды я б яго павесіць загадаў:*
*Такі тавар! І танна так прадаў!*

(К. Крапіва. Эпіграма “На ананіма”).

В. вельмі блізкія да жарганізмаў *(гл.)* перш за ўсё сваёй рэзкай ацэначнасцю, экспрэсіўнасцю. Як правіла, гэта стылістычна зніжаныя сінонімы слоў і выразаў літаратурнай мовы: падхалімы – *халуі*; дрэнны чалавек – *гад, свалата*.

Ужыванне В. без стылістычнай мэты з’яўляецца парушэннем моўнага этыкету, нормаў літаратурнай мовы і паказчыкам нізкай агульнай культуры чалавека.

В. знаходзяцца па-за межамі літаратурнай мовы, але могуць выкарыстоўвацца ў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры як выяўленчыя ці выразныя сродкі *(гл.)*. Напрыклад: – *Ну, дзе ты там ужэ, жаніх? Два часы ўбіраешся! Саўсім умеркне. Выкураць цябе, качарга старая, з гэтае варты!*

*– Хто мяне выпра? Які ім дурань за гэтыя грошы гэтулькі цехнікі вартаваць адважыцца?*

*– А ты ўратуеш? Для прыклёпу цябе там дзяржаць, можа, каб якія пажарнікі не чапляліся ці начальства…*

*– Для прыклёпу, для прыклёпу! Сама ты прыклёп бесталковы! Падавай валёнак!*

*Дзед Ляксей злосна вышморгваў з жончыных рук валёнак, і яна брала напагатове другі.*

*– А то ж бо не? Які ж бы гэта дурань плаціў табе за тое, што пераспіш ноч у апілках…*

*– Тваю маць!.. Дурань нейкі ляпнуў, а ты і паўтараеш!* (А. Жук. Летнія прыгоды ў сучасным духу).

**ВУСНА-ГУТАРКОВАЕ МАЎЛЕННЕ** – *гл.* ГАВАРЭННЕ.

**ВУСНАЯ МОВА** – 1) беспісьмовая, народна-дыялектная мова *(гл.)*; 2) разнавіднасць літаратурнай мовы, вусная форма яе. *Гл.* ГАВАРЭННЕ.

**ВЫБАР МОЎНЫХ СРОДКАЎ** – скарыстанне фанетычных і інтанацыйных, лексічных і фразеалагічных, марфалагічных і сінтаксічных моўных адзінак не толькі ў строгай адпаведнасці з агульнапрынятымі іх значэннямі *(гл.)*.

*Параўн.*: выбор основного списка, текста (Ліхачоў, 1983, сс. 175-177, 42, 383).

**ВЫВАД(Ы)** – структурны (я) элемент (ы) разважання *(гл.)* з доказам або абвяржэннем тэмы (тэзіса) выказвання. *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ, ПАДАГУЛЬНЕННЕ, ВЫСНОВА(Ы).

**ВЫДЗЯЛЕННЕ** – прымяненне разнастайных фанетычных і інтанацыйных, графічных і сінтаксічных сродкаў для найбольшай увагі рэцыпіента *(гл.)* да пэўнай часткі выказвання *(гл.)*.

**ВЫКАЗВАННЕ** – 1) адзінка паведамлення, якая можа супадаць са сказам *(гл.)*, а можа не супадаць, як, напр., назоўны ўяўлення, словы-сказы *(гл.)*, рэплікі ў дыялогах *(гл.)*; 2) фрагмент тэксту, які выражае адносна закончаную, актуалізаваную думку, аформлены граматычна і інтанацыйна, захоўваючы сэнсавыя і фармальныя сувязі з кантэкстам *(гл.)* і даючы магчымасць усвядоміць і ўзнавіць кансітуацыю *(гл.)*. ВЫКАЗВАННЕ ВОБРАЗНАЕ (ФІГУРАЛЬНАЕ) – адзінка паведамлення, што мае вобразны змест; выказванне, якое надае маўленню эмацыянальна-экспрэсіўныя якасці.

*Параўн.:* высказывание (ЛЭС, с. 90).

**ВЫМАЎЛЕННЕ** – 1) агульнапрынятыя асаблівасці артыкуляцыі гукаў мовы; 2) сукупнасць арфаэпічных норм літаратурнай мовы *(гл.)*.

**ВЫРАЗ** – 1) разнавіднасць пабудовы маўлення са спецыфічнымі ўласцівасцямі: устойлівасцю, “крылатасцю”, сінанімічнасцю і г. д.; 2) словы, словазлучэнні, сказы з рознай стылістычнай афарбоўкай *(гл.)*; 3) уласцівасць моўнага (маўленчага) знака, даступнага дзеля яго ўспрымання. ВЫРАЗ КРЫЛАТЫ – *гл.* КРЫЛАТЫЯ СЛОВЫ І ВЫРАЗЫ. ВЫРАЗ УСТОЙЛІВЫ – *гл.* ФРАЗЕАЛАГІЗМ (Ы). ВЫРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ – уласцівасць маўлення (яго вобразнасць, экспрэсія) падтрымліваць увагу і цікавасць у чытача, слухача, гледача.

**ВЫРАЗНАЕ ЧЫТАННЕ** – 1) навучальная дысцыпліна, якая вучыць правільна і артыстычна чытаць мастацкія творы; 2) мастацкае чытанне ва ўмовах агульнаадукацыйнай школы; 3) самастойны від выканальніцкага мастацтва.

**ВЫРАЗНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ** – камунікацыйная якасць маўлення, якая характарызуе эфектыўнасць праяўлення індывідуальнасці аўтара з дапамогай розных маўленчых сродкаў. В. М. вызначаецца як сукупнасць такіх якасцей, як дакладнасць *(гл.)*, лагічнасць *(гл.)*, яснасць *(гл.)*, экспрэсіўнасць *(гл.)*, якія забяспечваюць яе паўнацэннае (максімальна набліжанае да разумення перадаваемай інфармацыі) успрыняцце адрасатам.

Якасці маўлення, якія абумоўліваюць яго выразнасць, валодаюць не аднолькавай ступенню рэлевантнасці і часткова рознымі сродкамі выражэння ў функцыянальных разнавіднасцях мовы. Так, у афіцыйна-справавым маўленні дакладнасць не дапускае дваякага тлумачэння і праяўляецца перш за ўсё ва ўжыванні спецыяльнай тэрміналогіі, у адназначнасці і нявобразнасці тэрміналагічнай лексікі. А дакладнасць у мастацкім маўленні прадугледжвае адпаведнасць моўных сродкаў эстэтычнай задачы стварэння вобраза, г. зн. іх матываванасць мастацкім кантэкстам.

**ВЫРАЗНЫЯ СРОДКІ МОВЫ** – вобразныя сродкі маўлення, якія выконваюць функцыю маляўнічага адлюстравання рэчаіснасці і асацыятыўна звязаныя з нашымі зрокавымі, слыхавымі, смакавымі і іншымі адчуваннямі. Найперш гэта тропы *(гл.)*, рытарычныя і стылістычныя фігуры *(гл.)*. Напрыклад:

*На хаце чырвоная зорка крылата*
*Напята – і прывітанне нам шле.*
*Вы лепей прыгледзьцеся: гэта ж не хата,*
*А шэры будзёнаўскі шлем.*
*Таго ўявіце, хто з ворагам біўся,*
*Крывавы пот выцер: "Цяпер зажывем!" –*
*І вобземлю шлем свой… Шлем хатай зрабіўся,*
*Бо – быў гэта волата шлем…*

(А. Пысін. Балада пра шлем).

Выразныя сродкі мовы спрыяюць дакладнасці, лагічнасці, яснасці, экспрэсіўнасці (эмацыянальнасці, ацэначнасці, інтэнсіўнасці і вобразнасці) і забяспечваюць паўнацэннае (максімальна набліжанае да разумення закладзенай у тэксце інфармацыі) успрыняцце маўлення адрасатам. Выбар і выкарыстанне В. С. М. залежыць ад сітуацыі зносін, жанру і стылю маўлення, а таксама ад аўтарскай індывідуальнасці. Традыцыйна вылучаюцца:

– *фанетычныя* В. С. М.: гукавыя паўторы *(гл.)*, націск *(гл.)*, інтанацыя *(гл.)*, гукапіс *(гл.)*, гукаімітацыя *(гл.)*, гукавы сімвалізм *(гл.)*;
– *лексічныя* В. С. М.: полісеманты *(гл.)*, амонімы *(гл.)*, сінонімы *(гл.)*, антонімы *(гл.)*, паронімы *(гл.)*, стылістычна афарбаваная лексіка *(гл.)*, фразеалагізмы *(гл.)*, лексіка абмежаванага ўжывання (дыялектызмы) *(гл.)*, прастамоўныя словы *(гл.)*, архаізмы *(гл.)*, гістарызмы *(гл.)*, неалагізмы *(гл.)*, запазычаныя словы *(гл.)* і інш.;
– *словаўтваральныя* В. С. М.: экспрэсіўныя афіксы, аказіянальнае *(гл.)* словаўтварэнне, словаўтваральныя архаізмы;

– *граматычныя* В. С. М.: сінанімія часцін мовы *(гл.)* і сінанімія сінтаксічных канструкцый *(гл.)*.

Акрамя таго, у маўленчых зносінах выкарыстоўваюцца невербальныя В. С.: у вусным маўленні – поза, жэсты, міміка; у пісьмовым – графічныя сродкі.

У якасці прыклада выкарыстання В. С. М. можна прывесці наступны верш В. Зуёнка:

*Рабіна –*
*Восені рыбіна*
*Чырванапёрая –*
*Трапеча ў імглістай стыні.*
*Рабыня*
*Вятроў –*
*Ты сталася мне апораю*
*У мітуслівай людской пустыні…*

*Густыя –*
*Луской*
*Шапатлівай –*
*Лісты а-*
*па-*
*да-*
*юць,*
*Як дні залатыя* (“Рабіна…”).

*Мае незваротныя.*
*З табою*
*Абое шукаем сустрэч*
*нешчаслівых,*
*Абое – сыходзімся, як маладыя, –*
*Абое смяротныя…*

*З табою мы*
*Горкаю часінаю,*
*Блуднай, знявечанай,*
*Ратуемся разам ад ліха:*
*Ты боль мой*
*Спагадай рабінавай,*
*Я твой – чалавечаю*
*Ціха*
*Вылечваю…*

У тэксце выкарыстаны фанетычныя В. С.: гукавая анафара (*рабіна, рыбіна, рабыня; знявечанай, чалавечай, вылечваю*); алітэрацыя на *[р]*, асананс на *[а]*; лексічныя В. С.: эпітэт (*людская пустыня; залатыя дні; горкая, блудная, знявечаная часіна*); перыфраза (*рабіна – восені рыбіна чырванапёрая, рабыня вятроў*); параўнанне (*лісты ападаюць луской шапатлівай, як дні залатыя*); граматычныя В. С.: інверсія (*восені рыбіна чырванапёрая*); эліпсіс (*я твой – чалавечаю ціха вылечваю)*; графічныя В. С.: неаднолькавы падзел на страфы і радкі, паскладовы запіс слова (*а-па-да-юць*).

**ВЫСЛОЎІ** – трапныя выказванні, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне як гатовыя, узнаўляльныя, нясуць глыбокую, лагічна закончаную думку – суджэнне *(гл.)* і ўваходзяць у ідыяматыку *(гл.)* мовы. Да В. адносяцца афарызмы *(гл.)*, крылатыя словы і выразы *(гл.)*, максімы *(гл.)*, прыказкі *(гл.)*, сентэнцыі *(гл.)* і інш.

**ВЫСНОВА (Ы)** – *гл.* ВЫВАД(Ы).

**ВЫСОКІ СТЫЛЬ** – *гл.* СТЫЛЬ, СТЫЛЬ МАЎЛЕННЯ.

**ВЯЛІКАЯ ЛІТАРА** – 1) загалоўная літара; літара, з якой пачынаецца новы сказ або новы абзац *(гл.)*; 2) літара як выдзяляльны знак. *Гл.* ВЫДЗЯЛЕННЕ.

# Г

**ГАВАРЭННЕ** – 1) адзін з відаў маўленчай дзейнасці *(гл.)*; 2) вуснае выказванне *(гл.)*; 3) *гл.* ГАВОРКА, ГУТАРКА, ДЫСКУРС, ДЫЯЛОГ.

**ГАВОРКА** – 1) размова; пагалоска; 2) спецыфіка вымаўлення і тэмпу гаварэння *(гл.)*; 3) найменшая дыялектная адзінка, якая ахоплівае мову аднаго або некалькіх населеных пунктаў; састаўная частка дыялекту.

**ГАВЭНДА** – эпічны жанр у беларуска-польскай і польскай літаратуры эпохі рамантызму.

*Параўн.*: гутарка (ЭнЛіМБел, ІІ, с. 241), гавэнда (тс, с. 5).

**ГАЗЕТНАЯ МОВА, ГАЗЕТЫЗМЫ** – 1) моўная спецыфіка газеты як газетна-публіцыстычнага падстылю публіцыстычнага стылю *(гл.)*; 2) заштампаваная, трафарэтная мова; газетныя моўныя штампы і трафарэты *(гл.)*.

**ГАЛОЎНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ)** – граматычная аснова *(гл.)* сказа ці аднасказавага выказвання *(гл.)*; дзейнік і выказнік *(гл.)*.

**ГАМІЛЕТЫКА** – 1) раздзел тэалогіі, у якім вывучаюцца тэарытычныя і практычныя пытанні царкоўнай пропаведзі; 2) павучальная і навучальная рэлігійная літаратура, асноўнымі жанрамі якой з'яўляюцца словы, казанні, павучанні, гутаркі і інш.

**ГАПАКС** – *гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМ (Ы).

**ГЕРМЕНЕЎТЫКА** – вучэнне пра тлумачэнне тэкстаў, пераважна старажытных, першапачатковы сэнс якіх незразумелы; вытлумачэнне тэкстаў. *Гл.* ТЭКСТАЛОГІЯ, ЭКЗЕГЕТЫКА.

**ГЕТЭРАНІМІЯ** – прадметныя назвы, якія збліжаюцца разам са словамі, што імі абазначаюцца, на паняційнай аснове; лексічны суплетывізм *(гл.)* накшталт *брат – сястра, селезень – качка* і інш.

**ГІБРЫД, ГІБРЫДНЫ** – складаны, скалькаваны з разнастайных частак, часцей за ўсё з розных моў: *аўтобусны* – з лац. *bus,* грэц. *auto* і слав. *-ны (й).*

**ГІПАЛАГА** – фігура маўлення з прыметнікам-эпітэтам, не ўласцівым даназоўніку: *дальнабачныя мячы* замест *дальнабачныя людзі*, што *куюць загадзя мячы*.

**ГІПЕРБАЛА, ГІПЕРБАЛІЗАЦЫЯ** – перабольшанне; свядомае перабольшванне пэўных якасцей або ўласцівасцей (чалавеку, жывёле, прадмету, з'яве і г. д.) з мэтай узмацнення выразнасці маўлення *(гл.)*. Напрыклад:

*Старое пілаваць не цяжка,*
*Ды раптам скрыгат…*
*Гоман сціх.*
*Глядзелі на пілу трывожна,*
*Стаў твар бялей ад палатна,*
*Калі мужчыны асцярожна*
*Вымалі кулю з бервяна.*
(С. Законнікаў. Куля).

**ГІПЕРНАРМАЛІЗАЦЫЯ** – замена правільных нормаў гіперкарэктнымі, г. зн. памылкова “выпраўленымі” на аснове няправільнай, часцей за ўсё народнай этымалогіі *(гл.)*.

*Параўн.:* гиперкарректность, гипернормализация (СЛТ, 1969, с. 99).

**ГІПЕРТЭКСТ** – тэкст, які змяшчае спасылкі як на ўласныя фрагменты *(гл.)*, так і на іншыя тэксты; тэкставы матэрыял можа засвойвацца з улікам не толькі лінейнага *(гл.)* спалучэння, а ўсёй магчымай сукупнасці ўнутрытэкставых узаемасувязей паміж яго структурнымі элементамі. Напрыклад, *манаграфія Я. Ф. Карскага “Беларусы” (1903-1922)*.

**ГІПАСТАЗІС** – *гл.* КАНВЕРСІЯ.

**ГІСТАРЫЗМЫ** – разнавіднасць архаізмаў *(гл.)*; словы і выразы, якія выйшлі з ужытку разам з прадметамі і з’явамі, што яны абазначалі: *воласць,ураднік, солтыс, соцкі, рабфак, кулак (заможны селянін), нэпман*. У мастацкай літаратуры Г. выкарыстоўваюцца для стварэння гістарычнага каларыту. Мова развіваецца, і тое, што раней успрымалася як новае, можа спачатку ўваходзіць у актыўны ўжытак, а потым успрымацца як устарэлае. Максімальная выразнасць пры стварэнні карціны мінулага дасягаецца пры выкарыстанні Г. у вершы Ф. Багушэвіча “Быў у чыстцы” (варта, аднак, заўважыць, што на час напісання твора гэтыя словы ўспрымаліся або як элементы актыўнай лексікі, або як неалагізмы):

*Раз у дзень задушны, якраз апаўночы,*
*Іду я дадому... а цёмна і ўюга —*
*Не каб заліўшы саўсім ужо вочы,*
*Але так, у меру падвыпіўшы туга;*
*Іду і мяркую: ці то цяпер шчасце,*
*Як паноў не стала, ці то была доля?*
*І лічу на пальцах: паншчызны дванасце,*
*А гадоў да трыццаць, як настала воля...*
*Там быў аконам, камісар і цівун,*
*Намеснік, ляснічы, хмістрыня, паны.*
*І кожны меў права узяць за бізун,*
*І кожны меў права да нашай спіны...*
*А цяпер?.. Ой, штосьці кепска выходзе,*
*Цяпер ці не болей пастала паноў?!*
*Не надта свабодна у гэтай свабодзе,*
*І давай я лічыць паноў новых зноў:*
*Стараста, соцкі, пісар, старшына,*
*Пасрэднік, ураднік, асэсар і суд,*
*З’езд міравы, прысутства і сход...*
*Аж паднялася са страху чупрына,*
*Аж пальцаў не стала на весь гэты шчот.*
*А пальцамі ж трэба карміць гэты люд!..*

Г. часам могуць зноў уваходзіць у сферу актыўнай лексікі: *бакалаўр, магістар, мэр*.

**ГЛАСЕМА** – 1) асноўная структурная адзінка плана зместу *(гл.)*, або найкарацейшая адзінка моўнага сэнсу, здольная вар'іравацца і ўзнаўляцца ў маўленні; 2) тое, што і СЛОВА, ЛЕКСЕМА. *Гл.* ГЛОСА.

**ГЛОСА (Ы)** – 1) паметы ці тлумачэнні на палях або ў тэксце незразумелых мясцін; 2) тлумачэнне тэксту. У мінулым глосамі называліся незразумелыя словы, а слоўнікі гэтакіх слоў – гласарыямі.

*Параўн.:* гласарый, глоса (СЛТ, 1990, с. 28).

**ГРАДАЦЫЯ** – фігура маўлення, якая ўтрымлівае ў маўленні працэс узрастання ці ўбывання (затухання) дзеяння і пад. (напр.: *рунець, красавацъ, налівацца* – пра жыта ці інш., напр., *зб. вершаў Р. Барадуліна*).

**ГРАМАДЗЯНСКАЯ ЛІРЫКА (ПАЭЗІЯ)** – лірыка, паэзія моцных грамадзянскіх пачуццяў; лірычныя або ліраэпічныя вершаваныя творы: вершы, балады, паэмы і г. д., дзе яскрава адлюстроўваюцца важныя грамадскія, палітычныя праблемы часу, выяўляецца грамадзянская пазіцыя аўтара, яго патрыятычныя пачуцці.

**ГРАМАТЫЧНАЯ АСНОВА СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ)** – дзейнік і выказнік сказа або аднасказавага выказвання *(гл.).* ГРАМАТЫЧНАЯ РЫФМА – гэта аднародная рыфма, якая паводле сугучча часцін мовы як апорных граматычных форм можа называцца назоўнікавай, дзеяслоўнай, прыметнікавай, прыслоўнай і г. д. ГРАМАТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІХ ТЭКСТАЎ – *гл.* ЛІТАРАТУРНАЯ НОРМА, ТЭКСТАЛОГІЯ, ЭКЗЕГЕТЫКА. ГРАФІКА-АРФАГРАФІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІХ ТЭКСТАЎ – *гл.* ЛІТАРАТУРНАЯ НОРМА, ТЭКСТАЛОГІЯ, ЭКЗЕГЕТЫКА. ГРАМАТЫЧНЫ ДЗЕЙНІК – *гл.* ДЗЕЙНІК І ВЫКАЗНІК СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ). ГРАМАТЫЧНЫ ВЫКАЗНІК – *гл.* ДЗЕЙНІК І ВЫКАЗНІК СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ).

**ГРАФІЧНАЯ ФОРМА ТВОРА** – *гл.* ФІГУРНЫ ВЕРШ.

**ГУКАПЕРАЙМАННЕ** – імітацыя ў маўленні рэальных гукаў з мэтай павышэння выразнасці, напружання дзеяння, дынамізму, эстэтыкі, гукапісу *(гл.)*: *Мелодыя гэтых слоў / З маленства ў душу запала. / У галавах маіх светлых сноў / Стаялі / Купалле / Купалка / Купала* (Р. Барадулін. Янку Купалу).

**ГУКАПІС** – гукавая арганізацыя мовы *(гл.)*: з аднаго боку – гэта рыфма і паўтор гукавы, а з другога – гэта не толькі ўсе чыста фанетычныя з'явы, але і рытмічныя, інтанацыйна-сінтаксічныя. *Гл.* РЫФМА, РЫТМАМЕЛОДЫКА, ПРАСОДЫКА, ПРАСОДЫЯ і інш.

**ГУМАРЭСКА** – невялікае апавяданне, у якім мякка, але дасціпна высмейваюцца нейкія рэальныя ці створаныя ўявай пісьменніка з'явы, падзеі, асобы: Ф. Багушэвіч "Дзядзіна"; Я. Колас "Недаступны", "Сацыяліст".

**ГУСТ МАСТАЦКІ (ЭСТЭТЫЧНЫ)** – абагульненне *(гл.)* мастацкага вопыту чалавека або грамадства, што вызначае здольнасць яго ствараць, успрымаць і ацэньваць эстэтычную каштоўнасць твораў мастацтва.

**ГУТАРКА** – 1) жанр беларускай літаратуры XIX ст.; 2) мастацкі, мастацка-публіцыстычны твор, часцей за ўсё ананімны, у якім ставяцца актуальныя задачы ці пытанні народнага жыцця або грамадскай маралі; 3) тое, што і ДЫЯЛАГІЧНАЕ МАЎЛЕННЕ, ДЫЯЛОГ *(гл.)*.

**ГУТАРКОВАЯ МОВА** – жывая вусная мова народа, якая служыць сродкам штодзённага абмену думкамі і характарызуецца вялікай адвольнасцю і варыянтнасцю норм *(гл.)* на кожным ўзроўні *(гл.)*. *Параўн.* ВУСНА-ГУТАРКОВАЕ МАЎЛЕННЕ, ВУСНАЯ МОВА, ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА, ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.

**ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ** – *гл.* СТЫЛЬ, ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

# Д (ДЖ, ДЗ)

**ДАВЕДНІК** – 1) даведачнае выданне; звод звестак навуковага, грамадска-палітычнага або бытавога характару; 2) збор у адным выданні ўсіх або асноўных правілаў, паняццяў ці намінацый з сістэматызацыяй і вытлумачэннем іх сутнасці: даведнік пунктуацыі, даведнік лінгвістычных тэрмінаў, энцыклапедычны даведнік, слоўнік-даведнік.

**ДАДАНЫЯ ЧЛЕНЫ СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ)** – 1) агульная назва азначэння, дапаўнення і акалічнасці *(гл.)*; 2) залежныя словы або словазлучэнні, што развіваюць дзейнік і выказнік як граматычную аснову *(гл.)*, або прэдыкатыўнае ядро *(гл.)* сказа (выказвання).

**ДАКЛАДНАСЦЬ** – камунікацыйная якасць маўлення, якая азначае адпаведнасць сэнсавага боку маўлення (плана зместу) прадметнай рэчаіснасці ці сістэме паняццяў. Д. маўлення цесна звязана з правільнасцю, бо парушэнне нормы (фанетычнай, арфаграфічнай або граматычнай) часта скажае або зацямняе семантыку слова. Напрыклад, парушэнне марфалагічнай нормы – памылковае ўжыванне кампаратыва ў сказе *Студэнты працуюць на важнейшых аб'ектах горада* (замест *найважнейшых, самых важных*) прыводзіць да непаразумення: гаворыцца пра важнейшыя аб'екты ў параўнанні з іншымі або гэта гранічна важныя аб'екты, якія выходзяць за межы параўнання? Асабліва цесна Д. звязана з лексічнай нормай, якая таксама патрабуе максімальнага выяўлення ў семантыцы слова, фразеалагізма сутнасці з'явы, прадмета. Адзінства думкі і слова ахоўвае выказванне ад двухсэнсавасці, скажонага ўспрыняцця і нават ад поўнага неразумення кантэксту. Так, Н. Шклярава ў вершы "Беларусь" піша:

*Рамонкай белай*
*Цвіці, зямля!*
*Суніцы спелыя –*
*Беларусь мая!*

*Дзяўчом басаногім*
*У прыполіку*
*Цябе, нямоглая,*
*Нясу я з Воленкі.*

Сэнс другой страфы цяжка ўспрымаецца праз недакладнае словаўжыванне. Калі дапусціць, што *Воленка* – гэта назва рэчкі, то што нясе басаногае дзяўчо з ракі? Суніцы? Але ж яны ў рацэ не растуць, ды і займеннік *цябе* адзіночнага ліку.

Выходзіць, лірычная гераіня Н. Шкляравай нясе ў прыполку Беларусь. Неасэнсаванасць думкі ўплывае на невыразнасць прыведзеных вершаваных радкоў.

**ДАЛУЧАЛЬНАЯ КАНСТРУКЦЫЯ** – словазлучэнне, словаспалучэнне або цэлы сказ, якія вылучаюцца лагічна і інтанацыйна, маюць вялікую сэнсавую і экспрэсіўную нагрузку, далучаючыся да асноўнага паведамлення як дадатак, далучэнне *(гл.)*.

**ДАЛУЧАЛЬНАЯ СУВЯЗЬ** – інтацыйна-сэнсавае вызяленне або адасабленне пэўнай часткі простага ці складанага сказа або аднасказавага выказвання з дадатковымі звесткамі, заўвагамі, тлумачэннямі; разнавіднасць злучальнай або падпарадкавальнай сувязі, якая заключаецца ў тым, што ўсё падаецца як дадатак да асноўнага паведамлення або выказвання.

**ДАЛУЧЭННЕ** – від сувязі сказаў, пры якім дадатковыя звесткі дадаюцца да асноўнага выказвання *(гл.)* ўжо пасля таго, як была выказана асноўная думка, кожная новая фраза *(гл.)* далучаецца без папярэдняга абдумвання, чым надаецца выказванню адценне гутарковасці, экспрэсіўнасці *(гл.)* і мастацкасці:

*Выбухі. Выбухі. Гучны пошчак нямецкіх буйнакаліберных кулямётаў. Здапнні аэрастатаў на фоне марознай зары. Недзе ў канцы Цвярскога бульвара.*

*... Ніколі яшчэ чаканне не было такім вострым. Нават потым...* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Першым яго [Івана – В. С.] адчуваннем ад свету рэальнага была цеплыня.

*Нават не цеплыня, а спёка, духата, парнасць...* (В. Быкаў. Альпійская балада).

**ДАМІНАНТА** – 1) пануючая ідэя або найважнейшая састаўная частка вуснага ці пісьмовага маўлення; 2) асноўны кампанент сінанімічнага рада *(гл.)* як носьбіт найбольш агульнага лексічнага значэння *(гл.)*, нейтральнага ў эмацыянальна-экспрэсіўных і стылістычных адносінах: *абвінавачваць, вінаваціць, вініць, складаць віну, ускладаць віну, прыпісваць віну* (Клышка, 1976, с. 11).

**ДАПАЎНЕННЕ** – адзін з даданых членаў сказа або аднасказавага выказвання, які абазначае аб'ект дзеяння прама, непасрэдна або ўскосна, г. зн. часткова ці пасіўна выражае аб'ект, звязаны з дзеяннем, асобай і інш.

**ДАЎНОМІНУЛЫ ЧАС** – *гл.* ЧАС ГРАМАТЫЧНЫ, ЧАС РЭАЛЬНЫ.

**ДВУКОССЕ, ДВУКРОП'Е** – *гл.* ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ, ПУНКТУАЦЫЯ.

**ДВУХМОЎЕ**, або **БІЛІНГВІЗМ** – 1) нармальнае валоданне дзвюма мовамі; 2) пераменнае выкарыстанне дзвюх моў. Не трэба зблытваць камунікацыйнае двухмоўе з мастацкім і перакладчыцкім. *Гл.* ДЗЯРЖАЎНЫ БІЛІНГВІЗМ. Матывы авалодання дзвюма мовамі могуць быць рознымі: эканамічныя, палітычныя і культурныя сувязі; атрыманне адукацыі; патрэбы навуковай дзейнасці і інш.

Вылучаюць наступныя разнавіднасці Д.: 1) *індывідуальнае*, калі дзвюма мовамі валодаюць толькі асобныя члены калектыву; 2) *групавое*, калі двухмоўнымі з'яўляюцца цэлыя групы або асобныя сацыяльныя слаі; 3) *поўнае* (ці суцэльнае), калі з'яўляецца характэрным для ўсіх сацыяльна-культурных груп народа; 4) *нацыянальнае*, калі пашыраны сярод прадстаўнікоў усёй нацыі; 5) *дзяржаўнае*, калі ў адной краіне статус дзяржаўнай ці афіцыйнай, маюць дзве мовы (напрыклад, у Беларусі – рус-

кая і беларуская, у Фінляндыі – фінская і шведская, у Канадзе – англійская і французская); пры гэтым дзяржаўнае двухмоўе можа суправаджацца індывідуальным аднамоўем, калі насельніцтва краіны распадаецца на некалькі аднамоўных калектываў.

Д. – з’ява складаная, шматбаковая, яна можа разглядацца ў наступных аспектах: 1) псіхалагічны аспект звязаны з асаблівасцямі псіхалагічнага складу індывіда, з яго разумовымі здольнасцямі, эмацыянальнай прыстасавальнасцю, з праблемай пераключэння з адной мовы на другую; 2) педагагічны аспект закранае розныя праблемы навучання другой мове, у тым ліку і ўплыў адной мовы на працэс засваення другой; 3) сацыялінгвістычная характарыстыка двухмоўя грунтуецца на такіх параметрах, як: сфера выкарыстання адной і другой мовы; ступень авалодання мовамі; набор сацыяльна-функцыянальных кампанентаў моў, якімі валодае двухмоўны індывід (літаратурная мова, дыялект, жаргон); размеркаванне камунікацыйных функцый паміж мовамі; кантынгент ахопленых двухмоўем членаў соцыуму і шырыня выкарыстання другой мовы; ацэнка двухмоўнымі індывідамі ўласнага двухмоўя як сацыяльна-лінгвістычнага феномена.

На тэрыторыі Беларусі Д. існавала даўно, хоць яго характар і састаўныя кампаненты мяняліся. Ужо ў перыяд Вялікага княства Літоўскага (XIII-XVI стст.) існавала беларуска-царкоўнаславянскае пісьмовае і вуснае Д. З пашырэннем на тэрыторыі Беларусі польскай мовы (пасля аб’яднання Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам) пачало складвацца беларуска-польскае Д. Пазней, пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795 гг.) беларускія землі адышлі да Расіі і пачало развівацца руска-беларускае Д. Так, у перыяд уваходжання беларускіх зямель у склад Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, а таксама ў апошнія дзесяцігоддзі ХХ стагоддзя характар і развіццё Д. і наогул моўная сітуацыя ў Беларусі ў пэўныя гістарычныя перыяды характарызавалася як шматмоўная, кампанентамі якой былі адзначаныя вышэй канкрэтныя разнавіднасці Д. пры фактычным аднамоўі значнай часткі беларускага насельніцтва.

Паняцце Д. улічвае і пасіўнае валоданне другой мовай (г. зн. успрыманне на ёй пэўнай інфармацыі). Таму сучасную моўную сітуацыю ў Беларусі можна характарызаваць як двухмоўную (з перавагай, аднак, рускай мовы).

Блізкім паняццем Д. з’яўляецца паняцце дыглосіі *(гл.)*.

**ДЖОКЕР** – дапамога залы або інш. у інтэлектуальнай пытальна-адказвай гульні.

*Параўн.:* джокер (СИС, с. 153).

**ДЗЕЙНАЯ АСОБА** – літаратурны герой, персанаж *(гл.)*, вобраз-характар, вобраз-тып *(гл.)*, праз якія пісьменнік выяўляе сваё разуменне чалавека, суадносячы яго асобу з гісторыямі і практыкай грамадства.

*Параўн.:* дзейная асоба (Рагойша, 2003, сс. 46, 48).

**ДЗЕЙНІК І ВЫКАЗНІК** – галоўныя члены сказа або аднасказавага выказвання; прэдыкатыўнае спалучэнне; прэдыкатыўнае ядро *(гл.)*; граматычная аснова двухсастаўных або аднасастаўных сказаў (у апошніх бывае толькі або састаў дзейніка, або састаў выказніка). Дз. абазначае прадмет думкі або ўтваральніка

дзеяння і характарызуецца выказнікам; В. абазначае дзеянне *(гл.)*, стан, якасць ці прымету, носьбітам якіх з’яўляецца дзейнік. Патрэбна адрозніваць граматычны Дз. і В. ад псіхалагічнага і лагічнага Дз. і В. Псіхалагічны дзейнік – гэта першае ўяўленне рэцыпіента *(гл.)*, напр., *У класе стала ціха* і *Стала ціха ў класе*. Лагічны дзейнік – гэта лагічны суб’ект *(гл.)*, а лагічны выказнік – гэта лагічны прэдыкат *(гл.)*: *S* і *P*.

**ДЗЕЯ** – частка драматычнага твора ці пастаноўкі яго на сцэне. *Гл.* АКТ, З’ЯВА.

**ДЗЕЯННЕ** – 1) *гл.* ДЗЕЯСЛОЎНАЕ ДЗЕЯННЕ; 2) паводзіны і ўчынкі дзейных асоб *(гл.)*; 3) сістэма падзей, што складае аснову сюжэта эпічных і драматычных твораў.

*Параўн.:* дзейнік, дзеяслоў (СЛТ, 1990, сс. 47, 48).

**ДЗЕЯСЛОЎНАЕ ДЗЕЯННЕ** – абазначэнне дзеясловам дзеяння як працэсу, які адбываецца ў часе *(гл.)* і характарызуецца рознымі адносінамі з суб’ектам *(гл.)* або аб’ектам *(гл.)*. Паняцце дзеяння як працэсу ўключае самыя разнастайныя значэнні дзеясловаў: канкрэтнае дзеянне *(грузіць, чытаць)*, рух *(ехаць, ісці)*, перамяшчэнне ў прасторы *(бегчы, каціцца)*, фізічны або душэўны стан *(спаць, маркоціцца)*, мову або думку *(гаварыць, думаць, марыць)* і шмат інш.

**ДЗЁННІК, ДЫЯРЫУШ** – 1) жанр гісторыка-дакументальнай прозы ў беларускай старажытнай літаратуры; 2) запісы аўтара або некалькіх аўтараў, якія адлюстроўваюць падзеі жыцця праз канкрэтныя дні ці месяцы, на фоне сучаснай рэчаіснасці; 3) форма апавядання, расповеду ў выглядзе запісаў па днях ад імя першай асобы, напр., *“Лісткі календара”* М. Танка. Форма дзённіка выкарыстана А. Куляшовым у паэме *“Сцяг брыгады”*, І. Шамякіным у аповесці *“Агонь і снег”*, а таксама іншымі пісьменнікамі.

**ДЗЯРЖАЎНЫ БІЛІНГВІЗМ** – узаконены білінгвізм *(гл.)*; афіцыйны Б., калі статус дзяржаўнай мовы маюць дзве мовы, напр., беларуская і руская ў Рэспубліцы Беларусь.

**ДОКАЗ** – *гл.* АРГУМЕНТАЦЫЙНЫ ТЫП МАЎЛЕННЯ.

**ДУБЛЕТЫ** – 1) варыянты на кожным моўным узроўні; 2) абсалютныя сінонімы; 3) два ці тры, ці большая колькасць тэрмінаў, што абазначаюць адно і тое ж навуковае паняцце: *лінгвіст, мовазнавец, моваве*д. *Гл.* ПОЎНЫЯ СІНОНІМЫ.

**ДУЖКІ** – *гл.* ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ.

**ДЫГЛОСІЯ** – 1) здольнасць свабодна карыстацца разнавіднасцямі нацыянальнай мовы, напрыклад, літаратурнай і дыялектнай; 2) тое ж самае ў літаратурна-мастацкім тэксце.

*Параўн.:* диглоссия (ЛЭС, с. 136).

**ДЫСАНАНС** – негарманічнае спалучэнне гукаў; адна з разнавіднасцей недакладнай рыфмы накшталт такой: *“бярог” – “бераг”, “нават” – “невад”, “хвіляю” – “хваляю”* і інш.

**ДЫСКУРС** – 1) звязны тэкст; 2) вусна-гутарковая форма тэксту; 3) дыялог; 4) група выказванняў, звязаных сэнсам; 5) маўленчы твор як наяўнасць (пісьмовая ці вусная).

**ДЫЯКРЫТЫЧНЫЯ ЗНАКІ** – дадатковыя знакі пры літарах, што сігналізуюць пра спецыфічнае вымаўленне гукаў, абазначаных тымі або іншымі літарамі, напр., беларускія *Ё, Ў* і інш.

**ДЫЯЛАГІЧНАЕ МАЎЛЕННЕ** – форма маўлення (звычайна размова, гутарка), уласцівая дзвюм ці некалькім дзейным асобам (героям, персанажам). Выказванні называюцца рэплікамі *(гл.)*. Мастацкія дыялогі хутчэй за ўсё з'яўляюцца стылізацыяй пад вусна-гутарковае маўленне і своеасаблівым прыдаткам да аўтарскай мовы (як бы яе працягам, асабліва ў празаічных творах, але з удзелам дзейных асоб). Таму ў літаратурна-мастацкіх творах пры дыялогах шырока выкарыстоўваюцца аўтарскія рэмаркі *(гл.)*. Сучасныя лінгвісты і літаратуразнаўцы разглядаюць дыялогі інфармацыйныя, сюжэтныя, дынамічныя і інш.

Дыялог – форма маўлення, якая характарызуецца зменай выказванняў (рэплік) двух ці некалькіх (палілог) суразмоўцаў і епасрэднай сувяззю выказванняў з сітуацыяй. Менавіта Д. з'ўляецца той формай маўлення, якая найбольш яўна і непасрэдна актуалізуе сацыяльную сутнасць мовы, яе камунікацыйную функцыю.

Размяжоўваюць Д. у шырокім і вузкім яго значэннях. У шырокім значэнні Д. улічваецца тая акалічнасць, што любы тэкст арыентаваны на яго актыўнае ўспрыняцце рэцыпіентам, а значыць можна гаварыць пра дыялагізаваную арганізацыю тэксту. Вузкае разуменне Д. звзана з супрацьпастаўленнем апошняга як формы маўлення, якая заключаецца ў абмене ўзаемаабумоўленымі рэплікамі, маналогу як выказванню адной асобы. Асноўнай уласцівасцю размежавання дыялагічнай рэплікі і маналога можна лічыць ступень самастойнасці выказвання (аўтасемантычнасць маналога, сінсемантычнасць дыялагічнай рэплікі).

Рэплікі ўдзельнікаў дыялога, як правіла, сціслыя, лаканічныя. Звычайна ў кожнай з наступных рэплік скарачаецца ўсё, што прагучала ў папярэдняй ці вядома з сітуацыі. Таму сэнс рэплікі становіцца поўнасцю зразумелым толькі ў сувязі з кантэкстам і сітуацыяй. Ілюстрацыяй сказанага можа выступаць наступны прыклад дыялога, узятага з рамана І. Мележа "Подых навальніцы":

*Ганне не хацелася спрэчкі: прыйшла пасядзець сярод сваіх, адпачыць ад працы, ад нямілай карчоўскай прагнасці.*

*– Жыць, канешне, трэба з нечага, – разважна, для прыліку, адказала яна мачысе. – А толькі, мамо, шчасце не ў адном багацці…*

*– Хто ж кажа, Ганно. Я толькі – што пра гаспадарку думаць трэба. Як жыць будзеш, думаць трэба!..*

*– Як е ў чалавека шчасце, мамо, так і гаспадарка значыць нешто. А як няма – які толк са ўсяго!..*

*– Яно, канешне, і без шчасця – не соладко! Але як есці не будзе чаго, як зубы на паліцу палажыць прыйдзецца, дак от будзе шчасце.*

У адрозненне ад маналога, які часта характарызуецца складанасцю сінтаксічнай арганізацыі, дыялагічнаму маўленню ўласціва прастата сінтаксісу. Сярод простых сказаў значная колькасць няпоўных, эліптычных, аднасастаўных. У Д. ма-

юць месца ўсе віды сказаў па мэце выказвання, інтанацыі, эмацыянальнай афарбоўцы.

У якасці адзінкі Д. як складанай цэласнай структуры выступае дыялагічнае адзінства, якое ўключае дзве ці больш рэплік, звязаных адзіным зместам. Адным з распаўсюджаных відаў дыялагічнага адзінства з'яўляецца пытальна-адказавы комплекс. Напрыклад:

*У руцэ пана Цабы пагойдваўся жоўты збанок, падвязаны за шыйку вяровачкай. Сівы цікнуў у яго раз, другі раз і, нічога не ўбачыўшы, спытаўся:*

*– Што там?*

*– Рыба, – адказаў настаўнік. – Не пашанцавала мне сёння, пане Даніла Малец, аднаго толькі акунька ашукаў.*

*– А чаму ж у торбе поўна?*

*– У торбе? Там сон руўнеж рыбы.*

*– А вы кажаце – толькі адну злавілі.*

*– Ну адну, а гэтыя купіў.*

*– Дзе купілі?*

*– Дзе? У склепе, ктуры называ сен Немэн. Ха, ха, ха!.. Не, злавіў усе, пане Малец, толькі адну нясу жывую.*

*– А чаму вы ілжаце?*

*– А што, ты ніколі не ілжэш?*

*– Ыгы.*

*Бачыў ты яго – ыгы. Ну, што ж, пане Малец, я табе за гэта ксёнжку дам, калі ты прыйдзеш у школу. З цацкамі* (Я. Брыль. Сірочы хлеб).

Асноўная сфера выкарыстання Д. – паўсядзённыя зносіны, вуснае маўленне. Акрамя таго, дыялагічная форма маўлення характэрна для мастацкай літаратуры (Д. персанажаў), публіцыстыкі (інтэрв'ю, дыскусія), для некаторых іншых сфер зносін.

Пры перадачы Д. у пісьмовай форме могуць узнікаць адрозненні ад разнамоўнага Д.: напрыклад, слабае адлюстраванне асаблівасцей парадку слоў вуснага маўлення. У мастацкім і публіцыстычным пісьмовым маўленні Д. з'яўляецца, як правіла, літаратурна апрацаваным. На адбор лексікі, сінтаксічных канструкцый, спосабаў узаемадзеяння рэплік накладваюць адбітак як жанрава-стылёвыя нормы, так і індывідуальны стыль пісьменніка, журналіста.

**ДЫЯЛАГІЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ** – гэта выяўленне ўзаемадзеяння асоб сродкамі мовы. Прычым такое ўзаемадзеянне разумеецца як суадносіны сэнсавых пазіцый, як улік рэакцый адрасата, як эксплікацыраванне ў тэксце прыкмет дыялога. Д. М. звязваецца з камунікацыйнай функцыяй мовы, з яе сацыяльнай сутнасцю. Выяўленне Д. М. мае надзвычай разнастайныя разнавіднасці і розную ступень эксплікацыраванасці ў тэксце. Адрозніваюць наступныя формы (спосабы) дыялагічнасці:

1) размова з узгаданай асобай / узгаданымі асобамі, ідэйнымі праціўнікамі або, наадварот, аднадумцамі, напрыклад:

*– Дык у чым справы, пані?*

*– На той бераг. Я вельмі спяшаюся, – усхвалявана сказала яна. – За ўсю дарогу я толькі тут на цэлуюгадзіну затрымалася.*

*– Давядзецца чакаць да раніцы, – спакойна адказаў Леановіч.*

*– Чаму?*

*– Вось загад генерала Фікельмонта ўначы абараняць паром, не падпушчаць чужых людзей. Тым больш цывільных… Пераначуйце тут. Пакой мы аддамо вам.*

*– Мне нельга.*

*– Вельмі шкадую, пані. Загад Фікельмонта. Ваенны час, пані. Інсургенты…*

*– Я не інсургент. Я толькі жанчына, маці.*

*– Захварэла дзіця? – пацікавіўся Пора-Леановіч.*

*– Не. Я не спяшаюся да мужа.*

*– Шкадую, пані, але дапамагчы не магу. Палявы суд – непрыемная штука. І ёсць загад Фікельмонта, – як маламу дзіцяці, добразычліва тлумачыў Леановіч.*

*– У мяне таксама загад. Яго сіяцельства. Прачытайце* (У. Караткевіч. Нельга забыць);

2) супастаўленне (сутыкненне) двух і больш розных пунктаў погляду, якія звычайна ў працэсе аналізу ацэньваюцца аўтарам, напрыклад:

*– …Прыйшоў, нарэшце, час сусветнага мастацтва, аднолькава зразумелага для ўсіх: для швейцарскага гандляра і для рыбака з Палінезіі.*

*– Не думаю. Рана.*

*– Чаму?*

*– А таму, што, па звестках “ЮНЕСКА”, на зямлі ледзь не палова людзей непісьменныя. Ёсць плямёны, у мове якіх пяцьдзесят слоў. Што ім да Суціна і Дос Пасаса? Раней за ўсё трэба зраўняць гэтую прорву, вучыць людзей мастацтву і ўсяму. А гэтаму лепш за ўсё вывучыш на сваім мастацтве… Можа, і сапраўды дурасць: у век, калі чалавек рве зямную цягу, трымацца за нацыянальныя адрозненні.*

*– Не думаю, – сказала яна.*

*– А я думаю. Школу нацыянальнага навучання павінен прайсці кожны. Яна – як фундамент. Гэта кажу вам я, грамадзянін зямлі, інтэрнацыяналіст* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

3) размова з чытачом, запрашэнне яго да роздуму, імкненне прыцягнуць яго ўвагу да зместу маўлення, напрыклад:

*Я аб’ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму і насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе людзей. І менавіта таму, дарагія дзяўчаты і хлопцы, я стану гаварыць з вамі толькі аб тым, што сам бачыў і чуў. Гэта будзе кніга, напісаная сведкам, які многае (што датычыць сучаснасці) бачыў на ўласныя вочы. І я дужа хацеў бы, каб вы мне верылі, нават, калі я стану вам расказваць самыя незвычайныя рэчы. Таму што жыццё багацейшае, чым мы яго ўяўляем. Жыццё часам бывае настолькі падобнае на казку, што нельга не ўскрыкнуць: “Ды не можа гэтага быць!”* (У. Караткевіч. Зямля пад белымі крыламі).

4) размова са сваім уласным “Я”, не двайнікам, а аб’ектываваным “Я”, прадстаўленым у тэксце як дыялог-самааналіз, самакантроль ці дыялог розных логік з мэтай праверкі доказнасці, напрыклад:

*Гледзячы ў акно на заснежаныя паўстанкі, ён [Андрэй] думаў. Як у кожнага, хто не спяшаецца выпускаць з рук напісанае, у яго было шмат амаль гатовых рэчаў. Іх трэба было скончыць, скончыць як мага хутчэй, за сорак пяць дзён, скончыць і аддаць у чужыя рукі. “Натхненне не прадаецца...”*

*Ён можа хадзіць насустрач ветру – ёй нельга. Ён можа глядзець у вочы небяспецы – яна павінна быць за яго спіной. І таму ён мог працаваць за яе не сем год, як той, з Бібліі, а ўсё жыццё, абы не падманулі, абы не падсунулі іншай...*

*Які шлях быў карацейшы? Раман аб паўстанні Каліноўскага? Раман быў напісаны на дзве трэціх. Адпадае. Доўга чакаць. Гэта потым. “Няхай другім разам”, – сказала адна шляхцянка сваёй паміраючай маці, калі тая папрасіла какавы.*

*Аповесць? Так, яна амаль скончана.*

*Ага, вось галоўнае, куды трэба ўбіць паўтара месяца! Ёсць п’еса, якую трэба толькі адшліфаваць, і яшчэ падрабязна распрацаваны план кінасцэнарыя. Вельмі падрабязна распрацаваны. Больш паловы сцэн напісаны, і гэта найбліжэйшы шлях да яе. Усяго дзён дваццаць. Глупства! Хіба гэта подзвіг? Калі ўжо гаварыць пра подзвіг адданага каханка, дык вось гэта подзвіг. Нейкі там даўні нібелунг зашыўся ў авечую шкуру і ішоў да замка каханай за трыдзевяць зямель год. І ўсё скончылася б выдатна, каб яго ля самага замка не з’елі сабакі, што не ўмелі адрозніваць зместу ад формы...* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Лінгвістычнае выражэнне першай і другой формаў дыялагічнасці ажыццяўляецца праз выкарыстанне чужой мовы: простай мовы ў выглядзе цытацыі і ўскоснай, трэцяя форма рэалізуецца рознымі дзеяслоўнымі формамі і зваротам да другой асобы, а таксама ў выглядзе прамых пытаняў, што актывізуюць увагу чытача. Чацвёртая форма дыялагічнасці непасрэдна звязана з разважаннем як тыпам маўлення і рэалізуецца пры дапамозе пытальна-рытарычных сказаў, пабочных слоў, устаўных канструкцый, а таксама выкарыстаннем структурных магчымасцей сказа. Кожны стыль характарызуецца спецыфічным выкарыстаннем і спалучэннем формаў дыялагічнасці. Для мастацкага стылю, як ні для якога іншага, характэрна поліфункцыянальнае, экспрэсіўнае афармленне дыялога.

**ДЫЯЛЕКТ** – група гаворак, аб’яднаных на аснове супольнасці падзей паводле іх асаблівасцей маўлення ў залежнасці ад тэрыторыі, прафесійнай накіраванасці або сацыяльнага асяроддзя. У Беларусі яскрава выдзяляюцца паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні дыялекты. *Гл.* АРГО, СЛЭНГ.

**ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА** – разнавіднасць агульнанароднай, агульнанацыянальнай мовы, яе адгалінаванне, што выкарыстоўваецца абмежаванай колькасцю людзей, абядназных тэрытарыяльнай, прафесійнай або сацыяльнай супольнасцю. Асноўныя прыметы Д. М.: вусная форма існавання, неўнармаванасць, адносная аднароднасць і аднафункцыянальнасць.

**ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК** – слоўнік адной гаворкі ці групы іх (дыялекту).

**ДЫЯЛЕКТЫЗМЫ** – 1) моўныя (маўленчыя) асаблівасці, уласцівыя дыялектам або асобным гаворкам і неўласцівыя літаратурнай мове *(гл.)*; 2) дыялектныя словы і выразы, якія адрозніваюцца ад літаратурных норм фанетыкай, словаўтварэннем, марфалогіяй, фразеалагічнасцю і выкарыстоўваюцца пераважна ў літаратурна-мастацкіх творах для стварэння мясцовага каларыту або індывідуалізацыі мовы дзейных асоб (герояў, персанажаў).

Д. адносяцца да пэўнага дыялекту і ўжываюцца ў літаратурнай мове са стылістычнымі мэтамі: для стварэння мясцовага каларыту, моўнай характарыстыкі персанажаў і пад. Напрыклад:

*– Дзядзько Іван, – гарлаў Ларывон Зайчыку, што тупаў побач з возам, які цягнуў сівы, стары конь, – чаго ето твой рысак так неахвотно цягнецца? Як усе адно – у калгас не хоча!*

*– Не хапаецца! – падчапіў Хадосьчын бацька. Радасна, на ўвесь голас пакпіў: – Несазнацельны, нібыто!*

*– Дай яму пад пузо, паганаму! – параіў Ларывон, давольны тым, што слухае столькі народу. Кеб бег і другім прыклад паказуваў!* (І. Мележ. Подых навальніцы).

Умела ўведзеныя Д. з'яўляюцца моцным экспрэсіўным сродкам. Злоўжыванне дыялектнымі словамі і зваротамі прыводзіць да засмечвання мовы і неразумення сэнсу сказанага. Таму ўключэнне Д. у тэкст (асабліва публіцыстычны) павінна быць дастаткова абгрунтаваным.

*Параўн.:* дыялектызмы ў творах (Абабурка, 1979, сс. 3-7, 8-130).

**ДЭКАДАНС, ДЭКАДЭНЦТВА** – крызісныя з'явы і ўпадніцкія тэндэнцыі ў філасофіі, літаратуры і мастацтве канца XIX – пачатку XX стст.

*Параўн.:* дэкадэнт, дэкадэнцтва (Булыка, 1993, с. 102).

**ДЭКЛАМАЦЫЯ** – 1) мастацкае, выразнае чытанне *(гл.)*; 2) ненатуральнае, пыхлівае маўленне; ілжывы пафас *(гл.)*.

**ДЭЛІМІТАЦЫЯ** – 1) упарадкаванне граніц; 2) падзел тэксту на складаныя і састаўныя сінтаксічныя адзінкі ў залежнасці ад зместу выказвання. ДЭЛІМІТАЦЫЙНАЯ ФУНКЦЫЯ – размежавальная функцыя.

*Параўн.:* делимитативная функция (СЛТ, 1969, с. 127).

**ДЭНАТАТ, ДЭНАТАТЫЎНЫ** – 1) тое, што і РЭФЕРЭНТ *(гл.)*; 2) паняційнае ядро значэння *(гл.)*, кампанент сэнсу *(гл.)*, абстрагаваны ад стылістычных, прагматычных, мадальных, эмацыянальных, суб'ектыўных і іншага роду адценняў. *Гл.* КАНАТАЦЫЯ, КАНАТАЦЫЙНЫ.

**ДЭНАТАЦЫЯ** – выражэнне зместу, асноўнага значэння моўнай адзінкі ў адрозненне ад яе канатацыі *(гл.)*.

**ДЭРЫВАТ, ДЭРЫВАЦЫЙНЫ** – утвораны ад іншай моўнай адзінкі. ДЭРЫВАЦЫЙНАЕ ЗНАЧЭННЕ – словаўтваральнае значэнне. ДЭРЫВАЦЫЯ – утварэнне ад данага слова новых слоў; *Гл.* СЛОВАЎТВАРЭННЕ.

**ДЭСЕМАНТЫЗАЦЫЯ, ДЭСЕМАНТЫЗАВАНЫ** – страта моўнай адзінкай уласнага значэння; асемантычнасць; асемантычны (СЛТ, 1990, с.25).

**ДЭТАЛЬ МАСТАЦКАЯ** – красамоўная падрабязнасць у літаратурна-мастацкім тэксце, якая ў кантэксце *(гл.)* набывае значную сэнсавую або эмацыянальна-эстэтычную нагрузку, напр., простая мова *(гл.)*.

**ДЭТЭРМІНАЛАГІЗАЦЫЯ** – страта тэрмінам спецыяльнага значэння.

**ДЭФЕКТНЫ СКАЗ (ТЭКСТ)** – сказ (тэкст) з прапушчанымі кампанентамі, якія не з'яўляюцца нарматыўным эліпсісам *(гл.)*.

**ДЭФЕМІЗМ, ДЫСФЕМІЗМ** – троп, сутнасць якога ў тым, што нарматыўная або натуральная намінацыя замяняецца на грубую, нават вульгарную лексічную адзінку: не *кемлівы, растаропны*, а *тугадум, балда* і г. д. С в е т а. *Вой!.. Вар'ят!.. Баюся!.. Упаду!.. Чуеш?* (К. Губарэвіч. З вяршыні відаць далей).

**ДЭФІНІЦЫЯ** – лагічнае раскрыццё сэнсу, значэння слова, яго паняцця. *Гл.* АЗНАЧЭННЕ.

**ДЭЭТЫМАЛАГІЗАЦЫЯ** – страта словам этымалагічнай матываванасці *(гл.)*: *сталіца* – ад *стол*, *масла* – ад *мазаць*, *тхор* – ад *дыхаць* (СЛТ, 1990, с. 54).

## Ж

**ЖАНР** – 1) разнавіднасць маўлення, якая вызначаецца данымі ўмовамі сітуацыяй і мэтай ужывання; 2) гістарычна выпрацаванае падраздзяленне ўнутры ўсіх відаў мастацтва; 3) форма літаратурна-мастацкага твора, якая склалася гістарычна на аснове ўвасаблення пэўнага зместу, аднак у выніку сваёй адноснай самастойнасці ў працэсе літаратурнага развіцця можа "адчужацца" ад яго і выражаць новы змест. Кожны з літаратурных родаў *(гл.)* мае свае жанры. Так, эпічнымі жанрамі з'яўляюцца раман, аповесць, апавяданне, навэла; лірычнымі – песня, гімн, дыфірамб і інш.; драматычнымі – камедыя, трагедыя, драма. Кожны Ж. мае свае, жанравыя асаблівасці (разнавіднасці), характар якіх залежыць ад канкрэтнага зместу твора. Так, эпіграма можа быць літаратурна-мастацкай, палітычнай, сацыяльна-бытавой, песня – інтымна-лірычнай, гістарычнай, патрыятычнай і г. д. Паколькі паміж рознымі літаратурнымі родамі няма рэзкай мяжы, то ўзаемадзеянне іх прывяло да шэрагу сінтэзаваных жанраў мастацкай літаратуры: ліра-эпічных (балада, паэма, верш у прозе) і ліра-драматычных (байка, драматычная паэма). На аснове ўзаемадзеяння жанраў і жанравых разнавіднасцей узніклі фарс-вадэвіль, трагікамедыя, сатырычная элегія, сатырычны раманс і г. д. Кожны перыяд літаратурна-мастацкага развіцця карыстаецца пэўнымі Ж. і жанравымі разнавіднасцямі. Складанасці ў падзеле літаратурна-мастацкіх твораў на жанры і іх разнавіднасці тлумачацца вялікай разнастайнасцю спосабаў і прыёмаў пісьменніцкага ўвасаблення жыцця, разнастайнасцю пісьменніцкіх талентаў, спосабаў выкладу, манер, індывідуальных стыляў *(гл.)* і г. д.

Вывучаючы ў цесным адзінстве змест *(гл.)*, стыль *(гл.)* і кампазіцыю індывідуальных выказванняў, М. М. Бахцін убачыў, што кожная сфера выкарыстання

іх выпрацоўвае “адносна ўстойлівыя тыпы выказванняў”, якія былі названыя даследчыкам як маўленчыя жанры. Аўтар раздзяліў усе маўленчыя жанры на першасныя (рэплікі бытавых дыялогаў і інш.) і другасныя (напр., раманы, аповесці і г. д.). Сёння маўленчыя жанры тыпалагізуюцца і паводле прыкметы інфармацыйнай або фактычнай мэтаўстаноўкі камунікантаў *(гл.)*, г. зн. устаноўкі на паведамленне ці на задавальненне ў патрэбе камунікацыі, напр., неабходныя пытанні і адказы на іх, просьбы і абяцанні, жарты, пахвала, слоўныя ўколы, флірт і г. д.

Не трэба зблытваць або атаясамліваць маўленчыя жанры з жанрамі функцыянальных стыляў той ці іншай літаратурнай мовы, напр., у гутарковым стылі – гутарка, ліставанне, тэлеграма і інш.; у афіцыйна-справавым – камюніке, дырэктыва, загад, заява, пратакол, даведка і інш.; у навуковым – манаграфія, падручнік, рэцэнзія, артыкул і інш.; у публіцыстычным – газетныя артыкулы, нарысы, інтэрв’ю, радыё- і тэлеперадачы, выступленні на сходах і г. д. ЖАНРАЗНАЎСТВА – новая лінгвістычная дысцыпліна, аб’ектам вывучэння якой з’яўляюцца маўленчыя жанры.

*Параўн.*: жанр літаратурны (Рагойша, 2004, сс. 52-54).

**ЖАРГАНІЗМЫ** – словы і выразы з таго ці іншага жаргону ў гутарковай мове або мове мастацкай літаратуры як характарыстыка сацыяльнага асяроддзя ці моўная характарыстыка персанажа (героя). ЖАРГОН – умоўная гаворка якой-небудзь групы людзей старцаў, зладзеяў, шаўцоў, краўцоў і інш. як адгалінаванне ад агульнанароднай мовы; Ж. ствараецца штучна з мэтай адасобіцца ад іншых, каб палюдна схаваць свае намеры, дзеянні, учынкі. *Гл.* АРГО, СЛЭНГ; словы і звароты, якія ўваходзяць у склад якога-небудзь жаргону і пры гэтым шырока выкарыстоўваюцца за яго межамі, у агульным маўленні. Напрыклад, *клёвы* – добры, *жэсць* – вельмі дрэнна, *шнуркі* – бацькі, *кімарыць* – драмаць. Ж. заўсёды ацэначныя, экспрэсіўныя і, як правіла, з’яўляюцца стылістычнымі дублетамі літаратурных слоў, г. зн. іх сінонімамі *(гл.)*. Крыніцамі Ж. могуць быць: запазычанні з іншых моў (*чувак* – з цыганскай, *атас* – з французскай, *мані* – з англійскай); пераасэнсаванне слоў літаратурнай мовы (*зліняць* – знікнуць; *рабіць ногі* – хутка ўцякаць); наваўтварэнні (*міжсабойчык* – сяброўскія неафіцыйныя зносіны); усячэнне (*прэпад* – выкладчык, *параўн. рус.* – преподаватель); суфіксацыя; канверсія; метанімія і інш.

**ЖАРТОЎНЫЯ СЛОВЫ І ВЫРАЗЫ** – *гл.* ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ ДЭМІНУТЫЎНАЯ.

**ЖЫВАЯ МОВА** – *гл.* ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА.

**ЖЫЦІІ, ЖЫЦІЙНАЯ ЛІТРАТУРА** – разнастайнасць старажытнай літаратуры, у якой вядзецца расповед пра жыццё і дзейнасць святых, г. зн. кананізаваных хрысціянскай царквой. *Гл.* АГІЯГРАФІЯ.

# З

**ЗАВЕРШАНАСЦЬ ТЭКСТУ** – 1) псіхалінгвістычная ўласцівасць цэлага тэксту ў адносінах да назвы (загалоўка), суадносная з вычарпальнай задумай аўтара; гэта функцыя аўтарскай задумы, пакладзенай у аснову твора і разгортваемай у працэсе камунікацыі; 2) у лінгвістыцы тэксту – гэта граматычная катэгорыя, якая рэалізуецца ў тэкстах розных функцыянальных стыляў праз суадносіны зместу тэксту і яго загалоўка (назвы). Назва – сціслы, нераскрыты змест тэксту; у ёй выражаецца асноўная ідэя аўтара. У навуковых тэкстах назва адлюстроўвае або тэму твора, або змястоўна-канцэптуальную сутнасць. У мастацкіх тэкстах назва толькі апасродкавана звязана са зместам, валодаючы здольнасцю абмяжоўваць тэкст і надаваць яму завершанасць. Аднак тэкст можа лічыць завершаным толькі тады, калі з пункту гледжання аўтара яго задума атрымала вычарпальнае адлюстраванне. Завершанасць тэксту – функцыя задумы, пакладзенай у аснову твора і разгорнутай у шэрагу паведамленняў, апісанняў, разважанняў і г. д. Паняцце завершанасці можна прымяніць да ўсяго тэксту цалкам, а не да любой з яго частак.

**ЗАГАЛОВАК ТЭКСТУ (ТВОРА)** – 1) назва тэксту (твора); 2) нераскрыты змест тэксту твора; 3) замысел, тэма або ідэя тэксту (твора).

**ЗАГАЛОВАЧНАЕ (ЗАГАЛОЎНАЕ) СЛОВА** – слова, з якога пачынаецца слоўнікавы артыкул у лексікаграфічных працах; выдзяляецца шрыфтам і тлумачыцца іншымі словамі, у тым ліку і сінонімамі *(гл.)*.

**ЗАДУМА, ЗАМЫСЕЛ** – зародак тэксту або твора; самы пачатковы этап у гісторыі данага тэксту (твора).

*Параўн.:* замысел (Ліхачоў, 1983, сс. 27, 33, 37 і інш.)

**ЗАКЛЮЧНЫ АКОРД** – заключная частка тэксту з вывадам ці падагульненнем *(гл.)*. – *Эх, позна, позна, і так рана..., рана...* (М. Лынькоў. Над Бугам).

**ЗАКЛЮЧЭННЕ** – апошні, заключны раздзел навуковага даследавання; выснова, вывад; падагульненне *(гл.)*.

**ЗАКОНЧАНАСЦЬ ТЭКСТУ** – 1) стан выканання задумы *(гл.)* аўтара; 2) суадносіны загалоўка тэксту з яго зместам *(гл.)*.

**ЗАМАЛЁЎКА** – *гл.* АБРАЗОК.

**ЗАПАЗЫЧАННЕ** – моўная адзінка, якая ўвайшла ў лексіку, марфалогію або фразеалогію данай мовы з іншай. *Гл.*, напр., ДЗБМ, СИС і інш.

**ЗАЧЫН** – устойлівая слоўная формула ў фальклорным творы; пачатак літаратурна-мастацкага тэксту. Напрыклад, *Жылі-былі дзед і баба...* (З нар.).

**ЗВУЖЭННЕ / РАСШЫРЭННЕ** – *гл.* ЗНАЧЭННЕ, СЕМАНТЫКА; ТЭКСТ.

**ЗВЫШФРАЗАВЫЯ АДЗІНСТВЫ** – *гл.* АБЗАЦ, ПЕРЫЯД, СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ, ФРАГМЕНТ.

**ЗНЕШНЯЕ МАЎЛЕННЕ** – маўленне ва ўласным сэнсе, г. зн. увасобленае ў гуках, якое мае гукавое выражэнне. *Параўн.:* УНУТРАНАЕ МАЎЛЕННЕ (СЛТ, 1990, с. 156).

**ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ** – 1) частка графічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы *(гл.)*: *кропка, коска, кропка з коскай, двукоссе, дужкі, клічнік, пы-*

*тальнік, працяжнік, шматкроп'е*; 2) агульнапрынятыя знакі для зручнейшай перадачы вуснага маўлення на пісьме; для афармлення тых асаблівасцей тэксту, якія не могуць перадаваць літары і іншыя нялітарныя знакі, напр., *лічбы*; для падзелу пісьмовага тэксту на асобныя сэнсава-інтанацыйныя часткі і характарыстыкі іх граматычнай будовы; для лепшага ўспрымання расчлененага звязнага маўлення і зрокам, і слыхам. Усе пералічаныя *10* З. П. шматзначныя і могуць выконваць выдзяляльныя, раздзяляльныя і стылістычныя функцыі. *Гл.* ПУНКТУАЦЫЯ.

**ЗНАЧЭННЕ** – 1) адлюстраванне рэчаіснасці моўнымі адзінкамі; 2) сукупнасць функцый моўных адзінак. *Гл.* СЕМАНТЫКА, СЕМАСІЯЛОГІЯ.

**ЗНАЧЭННІ МОЎНЫХ АДЗІНАК У ЗВЯЗНЫМ МАЎЛЕННІ** – 1) асноўныя прадметна-лагічныя значэнні як адлюстраванне аб'ектыўнай або суб'ектыўнай рэчаіснасці; дэнататыўныя значэнні; дэнатацыя *(гл.)*; 2) канатацыйныя або дадатковыя ці кантэкстуальныя значэнні; канатацыі *(гл.)*; 3) сукупнасць функцый моўных адзінак; усё тое, што гэтымі адзінкамі выражаецца, абазначаецца і складае іх змест; план выражэння і план зместу *(гл.)*.

*Параўн.:* значэнне (СЛТ, 1990, с. 61), знак языковой (ЛЭС, с. 167).

**ЗНОСКА, СПАСЫЛКА** – дадатковы тэкст, заўвага, тлумачэнне ў падрадкоўі або ў канцы артыкула, кнігі, увогуле творчай працы ў пісьмовай форме; пашпартызацыя цытат, фактычнага матэрыялу і інш.

**ЗРОКАВАЯ ПАЭЗІЯ** – 1) *гл.* АКРАВЕРШ; 2) фігурныя вершы, радкі якіх сканструяваны ў форме трохкутніка, ромба, зоркі, крыжа і інш. *Параўн.:* "ЛЕСВІЦА МАЯКОЎСКАГА".

**З'ЯВА** – састаўная частка драматургічнага твора. *Гл.* АКТ, ДЗЕЯ і інш.

# I

**ІДЫЁМЫ** – 1) тое, што і ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ ЗРАШЧЭННІ І АДЗІНСТВЫ *(гл.)*; 2) складаныя паводле структуры адзінствы з цэласным непадзельным зместам: *збіць з панталыку, гады ў рады* і інш.

**ІДЫЯМАТЫКА, ІДЫЯМАТЫЧНАСЦЬ** – 1) уласцівасць слоў, словазлучэнняў і сказаў станавіцца ідыёмамі *(гл.)*; 2) сукупнасць ідыём у мове.

**ІДЫЯСТЫЛЬ (ІНДЫВІДУАЛЬНЫ АЎТАРСКІ СТЫЛЬ, ІДЫЯЛЕКТ)** – сукупнасць моўных і стылістычна-тэкставых асаблівасцей, уласцівых мове пісьменніка, вучонага, публіцыста. Праблема індывідуальнага стылю зафіксавана ў літаратуры ў розных аспектах: гістарычна-навуковым, навуказнаўчым, псіхалагічным, функцыянальна-стылістычным. Адрозненні ў падыходах абумоўлены тым, якія ўласцівасці тэксту (канцэптуальна-змястоўныя, ідэйна-змястоўныя, камунікацыйна мэтазгодныя) разглядаюцца як асноўныя, у якой ступені яны адыходзяць ад нормаў функцыянальнага стылю, жанру.

Індывідуальны стыль маўлення фарміруецца ў залежнасці ад інтэлекту асобы. Але інтэлектуальныя ўласцівасці чалавека выразна праяўляюцца не ва ўсіх узроўнях выкарыстання мовы (у прыватнасці, не знаходзяць выражэння на струк-

турна-моўныя узроўні, які адлюстроўвае ступень авалодання паўсядзённай мовай), а толькі на самых складаных узроўнях – лінгвакагнітыўным і матывацыйным. Сувязь са складанымі ўзроўнямі можа стаць падставай для размежавання блізкіх, але не тоесных паняццяў “ідыястыль” і “ідыялект”. Калі ідыялект уяўляецца як сукупнасць уласна структурна-моўных асаблівасцей (стабільных характарыстык), якія маюць месца ў маўленні асобнага носьбіта мовы, то ідыястыль – гэта сукупнасць менавіта маўленчатэкставых характарыстык асобы, якія фарміруюцца пад уплывам усёй экстралінгвістычнай асновы – як функцыянальна-стылёвай, жанрава-стылёвай, так і індывідуальна-стылёвай. Ідыястыль мае рознаўзроўневы (па ступені абагульнення) інтэграваны характар ужо таму, што з’яўляецца пасрэднікам паміж тэкстам і яго стваральнікам.

Паняцце ідыястылю традыцыйна выкарыстоўваецца ў навуцы аб стылях мастацкай літаратуры для апісання стылю таго ці іншага пісьменніка, а таксама стылю асобнага мастацкага твора пры аналізе пытанняў інтэрпрэтацыі канкрэтных тэкстаў.

**ІДЭАЛ ЭСТЭТЫЧНЫ** – мастацка-вобразнае ўяўленне пісьменніка пра прыгожае ў жыцці. І. Э. вызначаецца грамадскімі поглядамі мастака: чым больш яны прагрэсіўныя, тым вышэйшыя І. Э., які вызначае ўсю сістэму вобразаў, выяўляецца як у станоўчым, так і ў крытыцы адмоўнага.

*Параўн.:* идеал эстетический (ЛітЭС, с. 113).

**ІДЭАЛЬНЫ ГЕРОЙ** – вобраз выразніка перадавых ідэй свайго часу, на прыкладзе якога пісьменнік (публіцыст) раскрывае свае ўяўленні пра чалавека, якім ён павінен быць. *Гл.* СТАНОЎЧЫ ГЕРОЙ.

**ІДЭЙНАСЦЬ, ІДЭАЛІЗАЦЫЯ** – якасная характарыстыка творчасці, прынцып і крытэрый ацэнкі мастацкага твора, які з’яўляецца носьбітам пэўнага ідэйнага зместу і светапогляду *(гл.)*; спосаб вобразанага ўвасаблення мастацкіх уяўленняў пра жаданае і належнае, якое атаясамліваецца з існым, сапраўдным. ІДЭЯ МАСТАЦКАЯ – асноўная думка мастацкага твора, якая фармуе яго змястоўнасць і ўваходзіць у склад вобраза мастацкага *(гл.)*. *Гл.* ІДЭЙНЫ ЗМЕСТ.

**ІДЭЙНЫ ЗМЕСТ** – выражэнне ў літаратурна-мастацкім творы абагульнена-эмацыянальнай думкі пісьменніка наконт таго, што ён адлюстроўвае (падзеі, з’явы, чалавечыя характары, замалёўкі прыроды і інш.), а таксама суадносіны адлюстраванага з пісьменніцкімі ідэаламі (эстэтычнымі, палітычнымі, грамадскімі і інш.). І . З. часта называюць ідэйна-тэматычным з-за адзінства (узаемадзеяння) тэмы і ідэі твора. Змест твора абумоўлівае і выбар пісьменнікам жыццёвых карцін, характараў дзейных асоб, кампазіцыі твора, яго мову, г. зн. форму літаратурнага твора. Дзякуючы форме твора змест праяўляецца ва ўсёй яго паўнаце і шматграннасці.

*Параўн.:* ідэйны змест (Рагойша, 1979, с. 15).

**ІЗАМАРФІЗМ** – структурная тоеснасць або паралелізм моўных адзінак у гукавым і семантычным плане. *Гл.* ПЛАН ВЫРАЖЭННЯ і ПЛАН ЗМЕСТУ.

**ІКАННЕ / ЫКАННЕ** – 1) дыялектнае вымаўленне ў першым складзе перад націскам; 2) парушэнне арфаэпічнай нормы акання-якання: *німа* замест *няма*, *выда* замест *вада* і г. д.

**ІЛЮСТРАЦЫЯ** – 1) выява (гравюра, малюак, рэпрадукцыя, фотаздымак і інш.), якая суправаджае, ілюструе тэкст; 2) прыклад, які пацвярджае тэарэтычны матэрыял або дэфініцыю *(гл.)*.

**ІМАЖЫНІЗМ, ІМАЖЫНІСТЫ** – літаратурны напрамак пачатку ХХ ст., які ў аснову паэтычнай творчасці ўзводзіў самацэнную вобразнасць, а паэтычны твор разумеў як своеасаблівы індэкс разнастайных тропаў *(гл.)*.

**ІМІТАЦЫЯ** – *гл.* СТЫЛІЗАЦЫЯ.

**ІМПЛІЦЫТ; ІМПЛІЦЫТНЫ** – той (тое), што падразумяваецца або чытаецца (угадваецца) паміж радкоў напісанага.

**ІМПРЭСІЎНАЯ МЕТАФАРА** – схаваная метафара.

**ІМПРЭСІЯ** – кароткае лірычнае апавяданне як адна з яго жанравых разнавіднасцей. *Гл.* ВЕРШ У ПРОЗЕ, ЗАМАЛЁЎКА.

**ІМПРЭСІЯНІЗМ; ІМПРЭСІЯНІСТЫ** – літаратурна-мастацкая плынь канца ХІХ – пачатку ХХ стст., якой было ўласціва праяўленне асаблівай увагі да суб'ектыўнага аўтарскага элементу, г. зн. аўтар павінен быў не столькі адлюстроўваць жыццё з яго праявамі, колькі перадаваць свае ўражанні ад усяго навакольнага, аб'ектыўнага. *Гл.* АБ'ЕКТ, СУБ'ЕКТ.

**ІНАВАЦЫЯ** – з'ява або заканамернасць змянення ў мове (маўленні) і інш.

**ІНВЕРСІЯ, ІНВЕРСІЙНЫ ПАРАДАК СЛОЎ** – адваротны парадак слоў у сказе або звязным маўленні: *выказнік знаходзіцца перад дзейнікам, азначэнне – пасля азначаемага слова, дапаўненне – перад выказнікам* і г. д. *Гл.* ПАРАДАК СЛОЎ ПРАМЫ.

**ІНГЕРЭНТНАЯ ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЯ АЦЭНКА** – узуальная эмацыянальная ацэнка, што выражаецца ўнутраным зместам і значэннем моўных адзінак. *Гл.* АДГЕРЭНТНАЯ ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЯ АЦЭНКА.

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ ВЫКЛАД** – *гл.* ІДЫЯСТЫЛЬ.

**ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ ТВОРЧАСЦЬ** – творчасць таленавітага аўтара, якая арыгінальная і вызначаецца індывідуальна-стылёвымі асаблівасцямі, што ўносяць уклад у развіццё нацыянальнай культуры.

**ІНІЦЫЯЛЫ**, або БУКВІЦЫ – 1) загалоўныя літары ў старажытных друкаваных і рукапісных кнігах; 2) пачатковыя літары імя і імя па бацьку або імя і прозвішча.

**ІНСЦЭНІРОЎКА** – перапрацоўка для сцэны твораў (празаічных або вершавана-паэтычных), якія не адносяцца да драматургічных.

**ІНТАНАЦЫЙНА-СІНТАКСІЧНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ВЕРШАЎ** – 1) упарадкаванасць інтанацыйнай і сінтаксічнай структуры вершаванага маўлення; 2) *гл.* МЕЛОДЫКА, ПРАСОДЫКА, СТРОФІКА.

**ІНТАНАЦЫЯ** – 1) рытміка-меладычны аспект маўлення, які служыць сродкам выражэння сінтаксічных значэнняў і эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў выказвання (вуснага маўлення); 2) выдзяленне голасам, падкрэсліванне пэўных думак, пачуццяў, канструкцый у літаратурна-мастацкім творы *(гл.)*. *Гл.* ПУНКТУАЦЫЯ.

**ІНТЭГРАЦЫЙНАСЦЬ ТЭКСТУ** – адна з уласцівасцей тэксту, суадносная з аб'яднаннем усіх яго частак у мэтах дасягнення цэласнасці. Інтэграцыя ўспры-

маецца як “скрытая” катэгорыя тэксту, таму што яна можа ажыццяўляцца праз кагезію *(гл.)*, а можа грунтавацца і на асацыяцыйных адносінах. У аснове І. ляжыць задума аўтара.

Інтэграцыя па-рознаму праяўляецца ў тэкстах навуковых, публіцыстычных і афіцыйна-справавых, з аднаго боку, і ў тэкстах мастацкіх – з другога боку. У пэўнай ступені яна з’яўляецца функцыяй аб’ёму тэксту: чым больш разгорнуты тэкст, тым менш выразна рэалізуецца катэгорыя інтэграцыі. У навуковых, афіцыйна-справавых, публіцыстычных тэкстах інтэграцыя лягчэй паддаецца аналізу, паколькі сувязь і ўзаемаабумоўленасць частак звычайна відавочныя. Разам з тым у навуковых тэкстах складаных жанраў (у манаграфіях, дысертацыях) магчымы адхіленні: аналіз праведзеных эксперыментаў, характарыстыка пунктаў погляду іншых даследчыкаў, гісторыя праблемы і інш. Найбольш поўна і ўсебакова інтэграцыя рэалізуецца ў вывадах і заключэннях навуковых даследаванняў, дзе можна ўбачыць не толькі працэс інтэграцыі, але і яго вынік. У мастацкіх тэкстах інтэграцыя набывае разнастайныя формы, прычым аб’яднаныя часткі не зайсёды падпарадкаваны адна адной і ўсе разам – адной, найбольш важнай. Інтэграцыя раскрывае ўзаемаабумоўленасць частак, часам ставячы іх у становішча раўназначных ці блізкіх па адлюстраваным у іх этычных прынцыпах або мастацка-эстэтычнай функцыі.

**ІНТЭКСТ** – насычаны адрэзак; урывак, фрагмент тэксту, складзены з групы сказаў аднолькавай семантыкі *(гл.)*.

**ІНТЭЛЕКТУАЛІЗМ** – перавага думкі над пачуццём, рацыянальнага над эмацыянальным у маўленні. *Для лірыкі Куляшова апошніх гадоў характэрнае высокі ўзровень яго інтэлектуальна-псіхалагічнай культуры, інтэлектуалізм…* (Гісторыя бел. сав. літаратуры).

*Параўн.:* інтэлектуалізм (ТСБМ, ІІ, с. 551).

**ІНТЭРВ’Ю** – публіцыстычны жанр, што ўяўляецца як дыялагічная форма паведамлення па літаратурных, культурных, грамадска-палітычных праблемах. Форма дыялога, які вядзе журналіст з інфармаванай асобай, абавязковая для інтэрв’ю.

І. бывае інфармацыйным і аналітычным. Інфармацыйнае І. канстатуе падзею і паведамляе кароткую інфармацыю пра яе дэталі. Журналіст задае пытанні пра некаторыя падрабязныя падзеі, а інфармаваная асоба сцісла на іх адказвае. Аналітычнае І. уяўляецца як разгорнуты дыялог па праблеме. Журналіст у сваіх пытаннях прапаноўвае розныя аспекты яе разгляду (сутнасць, прычыны, магчымыя наступствы, шляхі вырашэння), інфармаваная асоба на гэтыя пытанні падрабязна адказвае. Акрамя адзначаных асноўных разнавіднасцей, можна вылучыць больш прыватныя тыпы І., напрыклад, партрэтнае І., камбінаванае І. (у якім сумяшчаецца характарыстыка асобы і раскрыццё праблемы) і інш.

І. у электронных сродках масавай інфармацыі – гэта дыялог, які рэалізуе заканамернасці публічнага і спантаннага маўлення. З боку журналіста – гэта спалучэнне падрыхтаваных і сваюодна пададзеных у працэсе размовы пытанняў; жывая, часам эмацыянальная рэакцыя на адказы (згода, нязгода, удакладненне і г. д.); выказванне ўласнага меркавання. Журналіст сочыць за тым, каб

субяседнік не адхіляўся ад тэмы, тлумачыў дэталі, якія могуць быць цікавымі для слухачоў або гледачоў. З боку інфармаванай асобы – гэта глыбокая асвядомленасць па праблеме, што забяспечвае сфарміраванасць змястоўнага боку гутаркі, спантаннасць якой праяўляецца толькі ў непадрыхтаванасці канкрэтнай формы адказу. Адказ афармляецца ў адпаведнасці з тэмай размовы, залежыць ад формы пытання, ад папярэдне сказанага, ад аператыўнай заўвагі журналіста. На ўзроўні формы праяўляюцца ўсе асаблівасці дыялагічнага спантаннага вуснага маўлення: асаблівы рытм, паўзы, пошук найбольш адпаведнага слова, паўната сінтаксічных канструкцый, паўторы, перапытванні і г. д.

І. у прэсе – гэта пісьмовы тэкст, які перадае вусны дыялог і захоўвае некаторыя прыметы спантаннага вуснага маўлення: напрыклад, на стыку рэплік захоўваецца структурная непаўната наступнай рэплікі, ужыванне ўказальных займеннікаў, сэнс якіх раскрыты ў папярэдняй рэпліцы. Унутры рэплік могуць захоўвацца моманты пошуку слова, недаказанасць і пад.

Часта І. з’яўляецца часткай журналісцкага тэксту іншага жанру: рэпартажа, артыкула, рэцэнзіі.

**ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМЫ, ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА** – іншамоўныя словы і выразы, якія ўжываюцца не толькі ў дадзенай мове, але і ў іншых, пераважна ў якасці навуковых тэрмінаў: *граматыка, суфікс, фізіка, косінус* і г. д. Нельга зблытваць розныя запазычанні з інтэрнацыяналізмамі, напр., *ланцуг, варта, ліхтар*, запазычаныя беларускай мовай з нямецкай, але гэтыя словы І. не з’яўляюцца.

*Параўн.:* интернационализмы (ЛЭС, с. 197).

**ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ** – тлумачэнне, раскрыццё сэнсу, значэння чагонебудзь. Аб’ектам інтэрпрэтацыі з’яўляецца тэкст. Першапачаткова І. была асноўным паняццем герменеўтыкі (навукі аб правілах тлумачэння) і звязвалася з жаданнем рэцыпіента пераадолець культурную дыстанцыю, што аддаляе ягго ад разумення тэксту.

Значны ўклад у развіццё паняцця І. несла лінгвістыка тэксту. І. тэкст (маецца на ўвазе цэласнага твора) разглядаецца як састаўная частка структуры тэкставай дзейнасці. Знакавы характар тэксту і правілы дэкадзіравання дазваляюць чытачу інтэпрэтаваць тэкст. У аснову паняцця І. мастацкага тэксту пакладзена ідэя А. А. Патабні аб тым, што змест мастацкага твора развіваецца не ў тым, хто яго стварае, а ў тым, хто яго разумее. Механізмы І. хоць і абумоўлены сацыяльнымі і культурнымі фактарамі, аднак маюць індывідуальны характар.

**ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ТЭКСТУ** – 1) спосаб вывучэння твораў, растлумачэнне зместу, стылю, прынцыпаў, структуры тэксту; 2) тое, што і ЛІНГВАЭСТЭТЫЧНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ; 3) навучальная дысцыпліна (пераважна на аддзяленнях замежных моў і літаратур), якая вывучае тэорыю і практыку інтэрпрэтацый як арыгінальных літаратурна-мастацкіх твораў, так і перакладных. Узнікла як разнавіднасць герменеўтыкі і тэксталогіі *(гл.)*.

**ІНТЭРТЭКСТУАЛЬНАСЦЬ** – 1) адно з адгалінаванняў тэорыі тэксту *(гл.)*; 2) больш шырокае разуменне тэорыі цытатнасці; 3) уключэнне аднаго тэксту

ў іншы, нават зусім не звязаны з даным ні мовай, ні часам, ні эпохай (“тэкст у тэксце”).

Інтэртэкстуальнасць – тэкставая катэгорыя, што адлюстроўвае суаднесенасць тэксту з іншымі, дыялагічнае ўзаемадзеянне тэкстаў у працэсе іх функцыянавання. У мастацка-эстэтычнай сферы І. з’яўляецца адной з магчымасцей стварэння новага тэкставага сэнсу, сэнсавай поліфанічнасці тэксту і выражаецца як імпліцытнымі, так і эксплiцытнымі сплсабамі. Новы тэкст, які дыялагічна рэагуе на іншы тэкст, можа задаваць яму любую новую сэнсавую перспектыву: дапаўняць, аддаваць перавагу новым актуальным сэнсам, трансфармаваць іх, зыходзячы з мастацкай задумы аўтара (магчыма нават поўнае разбурэнне першаснай сэнсавай сістэмы, як гэта бывае, напрыклад, пры парадзіраванні). Стылістычны эфект масавай камунікацыі звязаны з падтэкставай інфармацыяй, таму праяўленне І. часта адбываецца на імпліцытным узроўні, пры дапамозе загалоўкаў, эпіграфаў, сэнсавых паўтораў. Загаловак ужо сам па сабе можа быць сродкам абазначэння сувязі аднаго твора з іншым (апавяданне Я. Брыля “Memento mori” і верш М. Танка “Memento mori”).

Вывучэнне І. у розных сферах камунікацыі паглыбляе ўяўленне пра тэкст не толькі як лінгвістычную, але і як сацыякультурную з’яву. Акрамя таго, тэорыя І. дазваляе растлумачыць такую ўласцівасць тэксту, як здольнасць да “прырашчэння” сэнсу, да новых асэнсаванняў праз узаемадзеянне з іншымі сэнсавымі сістэмамі.

**ІНТЭРФЕРЭНЦЫЯ** – міжвольнае перанясенне асаблівасцей роднай мовы ў іншую і наадварот: з іншай – у родную, напр., з беларускай мовы – у рускую і з рускай – у беларускую: мяккасць ці цвёрдасць *[ч]* і *[р]*, адсутнасць / прысутнасць акання-якання і шмат інш.

Узровень І. залежыць ад ступені авалодання другой мовай, ад умення адрозніваць факты розных моў і ншых прычын. Беларуска-руская І. – з’ява даволі распаўсюджаная і ў значнай ступені выяўляецца ў вусным маўленні, закранаючы націск, формаўтварэнне, сінтаксіс, выбар слоў. У маўленні беларусаў на рускай мове назіраюцца самыя разнастайныя працэсы, якія часткова супадаюць з працэсамі, характэрнымі для рускага прастамоўя. Сярод фанетычных рыс рускага маўлення беларусаў нельга вылучыць якую-небудзь адну, не вядомую рускаму прастамоўю ў цэлым. Аднак па сукупнасці найбольшш тыповых прымет рускага маўлення асобы можна зрабіць выснову аб прыналежнасці чалавека да пэўнага месца жыхарства.

Вылучаюць наступныя разнавіднасці беларуска-рускай інтэрферэнцыі:

1) *фанетычная* І. – у рускай мове білінгва сустракаюцца такія беларускамоўныя фанетычныя рысы, як цвёрдыя *[р]* і *[ч]* на месцы адпаведных мяккіх рускіх; фрыкатыўны *[к]* на месцы выбухнога рускага *[г]*; *[дз’]* і *[ц’]* на месцы рускіх *[д’]* і *[т’]*; ярка выражанае аканне;

2) *акцэнтная* І. – у рускую мову пранікаюць словаформы з беларускамоўнымі акцэнтнымі нормамі: *за г**о**д, на рук**у**, некот**о**рые, р**е**мень*;

3) *лексічныя* І. – вылучыць найбольш тыповыя запазычанні бывае цяжка. У першую чаргу да іх трэба аднесці безэквівалентную, наменклатурную лексіку

і экспрэсіўна афарбаваныя беларусізмы: *абібок – "лентяй", гультай – "бездельник", брахаць – "врать", хай, няхай, ці, каб*; фразеалагізмы: *кату па пяту, біць лынды, даць лататы*; прыказкі: *Хто парася ўкраў, у таго ў вушах пішчыць*.

Руская мова сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі таксама падвяргаецца ўплыву беларускай мовы. Прыклады лексічных беларусізмаў у сродках масавай інфармацыі: *днями – "на днях", досматривать – "заботиться, ухаживать", картофлянище* (беларуская калька ад назоўніка *"бульбянішча"*), *батьковщина* (калька ад *"бацькаўшчына"*) і інш.;

4) *словаўтваральная і формаўтваральная* І. – утварэнне слоў і словаформаў адбываецца па словаўтваральных мадэлях іншай мовы: *бабуля – "бабушка", сказавши – "сказав"*;

5) *марфалагічная* І. – неадпаведнасць у родзе (*рус. собака – ж. р.; бел. сабака – м. р.; рус. гусь – м. р.; бел. гусь – ж. р.; рус. шинель – ж. р.; бел. шынель – м. р.; рус. медаль – ж. р.; бел. медаль – м. р.*), ліку (*рус. дверь – ед. ч.; бел. дзверы – мн. л.*), блытаніна склонавых канчаткаў назоўнікаў (*с Ванем – "с Ваней"; по сторонах – "по сторонам"*); няправільнае ўжыванне ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў, парушэнне спалучальнасці лічэбнікаў з назоўнікамі і інш.;

6) *сінтаксічная* І. – праяўляецца ў няправільнай пабудове словазлучэнняў: *благодарить брату – "благодарить брата"*.

Блізкародны характар беларускай і рускай моў выклікае шматлікасць і ўстойлівасць інтэрферэнцыйных памылак на той ці іншай мове. Аднак яны, як правіла, не ўплываюць на працэс разумення выказвання. Таму праблема І. для беларуска-рускага двухмоўя стаіць пераважна як праблема культуры беларускага і рускага маўлення.

**ІНФАРМАЦЫЙНАСЦЬ ТЭКСТУ** – 1) псіхалінгвістычная ўласцівасць тэксту, суадносная з яго здольнасцю ўдзельнічаць у камунікацыі ў залежнасці ад сацыяльных, псіхалагічных, навукова-тэарэтычных, агульнакультурных, узроставых і іншых здольнасцей камунікантаў. Для аднаго атрымальніка паведамленне будзе новым, г. зн. інфармацыйным, для іншага гэтае ж самае паведамленне не будзе несці ніякай інфармацыі, паколькі змест яго ўжо вядомы або незразумелы; 2) у лінгвістыцы тэксту гэта асноўная катэгорыя, якая ўключае розную па сваім прагматычным прызначэнні інфармацыю: змястоўна-фактуальную, змястоўна-канцэптуальню, змястоўна-падтэкставую. Змястоўна-фактуальная інфармацыя змяшчае паведамленні аб пастаўленых праблемах; гіпотэзах; звесткі пра факты, падзеі, працэсы; шляхі вырашэння праблем пры дапамозе моўных сродкаў. Змястоўна-канцэптуальная інфармацыя служыць для перадачы разумення аўтарам адносінаў паміж з'явамі і адзначанымі вышэй сродкамі змястоўна-фактуальнай інфармацыі, для адлюстравання значнасці гэтых з'яў у сацыяльным, эканамічнымі, палітычным, культурным жыцці. Змястоўна-канцэптуальная інфармацыя ўяўляецца як творчае пераасэнсаванне адносінаў паміж з'явамі, фактамі, падзеямі, працэсамі, што адбываюцца ў грамадстве і паказваюцца пісьменнікам у створаным яго ўяўленнем свеце. Такая інфармацыя дае магчымасць розных яе тлума-

чэнняў і ўласціва тэкстам розных стыляў. Аднак калі ў навуковых тэкстах яна экспліцыруецца дастаткова выразна, то ў мастацкіх тэкстах яна непасрэдна звязана з аўтарскай задумай і яе зместам. Змястоўна-падтэкставая інфармацыя вылучаецца тым, што да непасрэдна ўспрымаемай далучаецца іншая, "схаваная" інфармацыя. Падтэкст запланаваны аўтарам тэксту і суіснуе разам з моўным, вербальным выражэннем. Гэта спецыфічны дыялог паміж змястоўна-фактуальнай і змястоўна-канцэптуальнай разнавіднасцямі інфармацыі. Дзве плыні паведамленняў у некаторыя моманты набліжаюцца, дапаўняюць адна адну, часам уступаюць у супярэчнасці, уплываючы на неаформленасць і няпэўнасць падтэксту.

**ІНФІНІТЫЎ** – няпэўная форма дзеяслова, якая лічыцца пачатковай; абазначае дзеянне, стан ці працэс у самым абстрактным выглядзе, г. зн. само па сабе, па-за сувяззю з суб'ектам, напр., *магчы, смяяцца* і інш.

**ІНФІНІТЫЎНА-НАЗЫЎНЫ СКАЗ** – разнавіднасць інфінітыўнага сказа з абазначэннем дзеяння, якое ацэньваецца з боку гаворачага, напр.: *Бегчы, але ж як і куды ж?* (Я. Брыль. У Забалоцці днее).

**ІНФІНІТЫЎНЫ СКАЗ** – аднасастаўны сказ, галоўны член якога выражаны інфінітывам, незалежным ад іншых членаў сказа, напр.: "*Гуляць дык гуляць!*" (Застольныя песні беларусаў); *Гэй, жыць – не ўміраць, Гуляць дык гуляць!* (У. Някляеў. Гуляць дык гуляць!).

**ІРЭЛЕВАНТНАСЦЬ** – нядольнасць моўных адзінак выконваць знакавую функцыю *(гл.)*.

# К

**КААРДЫНАЦЫЯ** – узаемнае дапасаванне або падпарадкаванне; сувязь паміж дзейнікам і выказнікам. *Чалавек... за раніцу абышоў усё ўзбярэжжа Марачанкі* (М. Лобан. На парозе будучыні).

*Параўн.:* каардынацыя (СЛТ, 1990, с. 60).

**КАГЕЗІЯ І КАГЕРЭНТНАСЦЬ** – звязнасць паводле сэнсу і формы элементаў тэксту, не меншых за сказ.

**КАДЫФІКАВАНАЯ НОРМА** – афіцыйна прынятае правіла і замацаванне ў неабходнай літаратуры; літаратурная норма. *Гл.*: ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА, НОРМА, НОРМА ЛІТАРАТУРНАЯ.

**КАДЭНЦЫЯ** – паніжэнне голасу ў канцы выказвання, вершарадка.

**КАКАЛОГІЯ** – няправільны выраз, які ўзнікае ў выніку кантамінацыі *(гл.)*: *выконваць значэнне, мець ролю* і інш.

**КАКАФОНІЯ** – немілагучнасць, якая ўзнікае часцей за ўсё ў вусным маўленні.

*Параўн.:* какаграфія (СЛТ, 1990, с. 66).

**КАЛАМБУР** – 1) фігура маўлення, якая заключаецца ў выкарыстанні мнагазначнасці і аманіміі слоў, а таксама гукавога падабенства ў словах, словазлучэннях, сказах дзеля дасягнення камічнага эфекту; гульня слоў; 2) верш, пабудаваны на так званай каламбурнай рыфме. Напрыклад: *Бацькі ў Галі не было.*

*Ніколі не было, хоць ён і жыў недзе, а можа, і сёння жыве...* (Я. Брыль. Галя); *Мой мілёначак харош, Хоць за пазуху палож...* (З нар.).

**КАЛІЗІЯ** – 1) сутыкненне супрацьлеглых поглядаў, імкненняў; 2) у літаратурна-мастацкім творы – супярэчнасць, якая рухае дзеянне, вымушаючы герояў рабіць пэўныя ўчынкі, выказваць розныя думкі і г. д. *У п'есе Я. Купалы "Раскіданае гняздо"* К. *утвараецца супярэчнасцю паміж беззямельным, бяспраўным сялянствам і буржуазна-памешчыцкім ладам...* (СЛТ, 1983, сс. 71-72). *Гл.* КАНФЛІКТ.

*Параўн.:* коллизия (ЛітЭС, с. 160).

**КАЛЬКАВАННЕ** – утварэнне слоў, выразаў, выказванняў паводле мадэляў іншых моў: бел. *гуртковец, кінаперасоўка* скалькаваныя на ўзор руск. *кружковец, кинопередвижка* і інш.

**КАЛЬЦАВАЯ КАМПАЗІЦЫЯ, КАЛЬЦО** – стылістычна-кампазіцыйны прыём; фігура маўленя, што ствараецца звычайна паўторамі ў зачыне ці канцоўцы ўсяго твора, асобнай страфы або частак вершаваных радкоў, напр., у вершы М. Багдановіча "Зорка Венера ўзышла над зямлёю...".

*Параўн.:* кольцо (ЛітЭС, с. 160).

**КАМЕНЦІРАВАННЕ (ЛІНГВІСТЫЧНАЕ) ТЭКСТУ** – 1) лінгвістычнае вытлумачэнне незразумелых ці малазразумелых мясцін таго ці іншага тэксту, пераважна літаратурна-мастацкага; 2) тое, што і ЛІНГВІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ, ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ТЭКСТУ, ЛІНГВАЭСТЭТЫЧНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ.

**КАМІЗЕРАЦЫЯ** – частка прамовы, разлічаная каб расчуліць суддзяў незайздросным лёсам абвінавачанага (віноўнага).

**КАМПАЗІТ, КАМПАЗІТА** – тое, што і складанае слова: *паравозавагонарамонтны* (завод), *дрэваперааапрацоўчы* (камбінат) і інш.

**КАМПАЗІЦЫЯ [1]** – утварэнне слоў шляхам складання некалькіх асноў розных слоў, напр., *высакавольтная электралінія*.

**КАМПАЗІЦЫЯ [2]** – будова літаратурна-мастацкага твора. Абумоўленая яго зместам, характарам, прызначэннем; важны элемент структуры мастацкага вобраза з мэтай яго найлепшага ўспрыняцця; уся знешняя (*гл.* АРХІТЭКТОНІКА) і ўнутраная структура мастацкага твора, размяшчэнне і спалучэнне асобных частак, састаўных элементаў сюжэта (экспазіцыя, завязка, развіццё дзеяння, кульмінацыя, развязка, эпілог), вобразаў-характараў, сцэн, эпізодаў, карцін, дыялогаў і маналогаў, падзел на часткі, раздзелы, строфы і г. д. К. вызначаецца задумай твора, адносінамі пісьменніка да таго, што ён адлюстроўвае, увогуле – ідэйным зместам твора *(гл.)*. К. залежыць і ад жанру твора *(гл.)*.

**КАМПІЛЯЦЫЯ** – 1) асноўны метад працы пры складанні слоўнікаў і напісанні навукова-папулярных прац; 2) запазычанне аўтарам матэрыялу ў іншых без спасылак і дакладнай пашпартызацыі.

**КАМУНІКАЦЫЙНАЯ АДЗІНКА** – адрэзак маўлення з самастойным паведамленнем, напр., сказ як самастойная К. А. у адносінах да выказвання і тэксту *(гл.)*.

**КАМУНІКАЦЫЙНАЯ СТРАТЭГІЯ І ТАКТЫКА** – вызначэнне і дасягненне галоўнай мэты маўленчых зносін людзей; выбар спосабаў зносін з аўдыторыяй. КАМУНІКАЦЫЯ – 1) паведамленне або перадача моўнымі сродкамі пэўнай

інфармацыі; 2) моўныя зносіны. КАМУНІКАЦЫЙНАЯ ФУНКЦЫЯ – асноўная функцыя моўных адзінак, г. зн. быць сродкам зносін паміж людзьмі.

**КАНАНІЧНЫ ТЭКСТ** – 1) адзінаправільны біблейскі тэкст; 2) аўтарскі белавы тэкст *(гл.)*; 3) апошняя прыжыццёвая рэдакцыя (публікацыя) твора (тэксту); 4) прыняты за сапраўдны, г. зн. які адпавядае ўстаноўленаму канону *(гл.)*. Напрыклад, *Біблія. Кнігі Святога Пісаньня старога і новага запавету. Кананічныя. У беларускім перакладзе Сяргеем і Васілём Сёмухамі* (USA, 2002. – 1534 с.).

**КАНАТАЦЫЙНЫ (Я)** – дадатковыя семантычныя ці стылістычныя адценні.

**КАНАТАЦЫЯ** – тое, што і АФАРБОЎКА СТЫЛІСТЫЧНАЯ *(гл.)*.

**КАНВАЛЮТ** – зборнік, складзены з некалькіх самастойных выданняў або рукапісаў, пераплеценых у адзіны том.

**КАНДУПЛІКАЦЫЯ** – паўтарэнне часткі выказвання, звычайна канцавой, з мэтай падкрэсліць значэнне гэтай часткі.

**КАНЕКСІЯ** – сукупнасць фармальных сродкаў, якія рэалізуюць звязнасць тэксту. КАНЕКТАРЫ – сродкі сувязі, якія аб’ядноўваюць адзінкі дыскурсу *(гл.)*.

**КАНОН** – 1) норма, правіла; 2) нарматыўная мадэль чаго-н. *Рэлігійны канон*. *Гл.* КАНАНІЧНЫ ТЭКСТ.

**КАНСІТУАЦЫЯ** – *гл.* СІТУАЦЫЯ.

**КАНСТРУКЦЫЙНЫ ПРЫЁМ** – від семантычных адносін паміж асноўнымі сэнсавымі элементамі лагічнага адзінства *(гл.)*, што выступае як сродак стылістычнай выразнасці і адпавядае пэўнай структурна-сэнсавай цэласнасці дыскурсу *(гл.)*. К. П., як і рытарычныя фігуры *(гл.)* (стылістычна значымыя адзінкі функцыянальна накіраванага маўлення – гіпербала *(гл.)*, метафара *(гл.)*, аксюмаран *(гл.)*, параўнанне *(гл.)* і інш.), адносяцца да сродкаў выразнага маўлення *(гл.)*, з той толькі розніцай, што адлюстроўваюць структурныя схемы, якія ляжаць у аснове канструкцыйных прыёмаў.

К. П. вылучаюцца ў межах лагічнага адзінства. Кожнаму лагічнаму адзінству ўласціва пэўная кампазіцыя *(гл.)*, аднастайныя спосабы арганізацыі сказаў рознай структуры, простых і складаных. Усе яны падпарадкаваны ідэі *паслядоўнага* і *паралельнага* счаплення, якое рэалізуецца пры дапамозе шматлікіх К. П.

Для *паслядоўнага* разгортвання сэнсавага адзінства выкарыстоўваюцца наступныя К. П.: 1) простае пералічэнне; 2) паслядоўнае дабаўленне; 3) прыём акумуляцыі; 4) лагічны вынік; 5) пытальна-адказавая форма; 6) прыём дынамічнага пералічэння (СЭСРЯ, 2006, сс. 176-177). Кожны з прыёмаў заснаваны на адметнай спалучальнасці сказаў.

1. Пры *простым пералічэнні* адносна самастойныя сэнсавыя адзінкі ідуць адна за адной:

*Граніца.*
*Восень.*
*Галасы*
*Вандроўных птушак у палёце,*
*І ціхі сум у пазалоце,*
*І смага ў кропельках расы.*

(Я. Янішчыц. Граніца. Восень. Галасы).

Стварэнне суцэльнай карціны адбываецца ў такім выпадку паступова, паэтапна. Кожны наступны сказ абмежаваны ў выбары сродкаў міжфразавай сувязі для злучэння з папярэднім. Найбольш распаўсюджаныя сродкі – злучнікі (як у працытаваным прыкладзе), а таксама пабочныя словы, якія паказваюць на парадак следавання думак, абгрунтаванняў, апісанняў і г. д.

2. Прыём *паслядоўнага дабаўлення* таксама прадугледжвае пералічэнне, аднак у такім выпадку кожны наступны сказ аб'ядноўвае ў пэўным сістэмным парадку самыя розныя ўласцівасці аднаго паняцця або асобы, розныя прычыны аднаго ўчынка:

*Маці падышла і прынікла галавою да грудзей Андрэя. Не, ён дарэмна думаў, што яму давядзецца падтрымліваць яе. Яна не магла дазволіць сабе слёз. У хаце таму, што яна была гаспадыня – маці ўсіх тут. На могілках – таму што не хацела, каб слёзы бачылі аматары бясплатных прадстаўленняў* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Такі тып сувязі больш свабодны ў выбары лексічных, марфалагічных і сінтаксічных сродкаў МФС: лексічны паўтор, асабовыя займеннікі, няпоўныя сказы.

3. Прыём *акумуляцыі* аб'ядноўвае знешне выпадковае, бессістэмнае пералічэнне фактаў або ацэнак:

*Рэйкі. Рэйкі. Рэйкі. Дымная сліна з комінаў пэцкае небасхіл. Марлокі даюць гарадам, залітым электрычнасцю, чорнае сонца. Уначы за крывавымі вялізнымі вокнамі раве дэман. Тысячы чырвоных, як гномы, людзей плюшчаць сталь. Змей крычыць медным голасам, падобны на голас гудка, і тысячы заспаных людзей бягуць на гэты голас, каб трапіць у разяўленую пашчу* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Прыём блізкі да простага пералічэння, адрозніваецца ад яго менавіта нагнятаннем апісваемых падзей, поўная карціна якіх не ўспрымаецца больш-менш выразна нават пасля ўсведамлення ўсёй сукупнасці сказаў. Перадаецца агульнае ўражанне жудасці, хаосу, бескарыснай мітусні.

4. *Лагічны вынік* характэрны не для ўсіх сказавых адзінстваў. Часта аўтар пакідае выказванне для самастойнага чытацкага асэнсавання, абдумвання. Абагульненне падводзіцца звычайна ў тым выпадку, калі двухсэнсоўнасць разумення непажаданая:

*Тылу не было ў гэты трывожны жнівень 1863 года вайна была паўсюль. "Белыя" спрачаліся з "чырвонымі", беларусы абураліся шавінізмам "белага жонду". Успыхвалі, затухалі і зноў выбухалі ачагі абурэння палітыкай цара.*

*Ераспелае жыта плакала зярнятамі, а ў жыце стаялі шыбеніцы. І не ўстаў ніхто добры, любоўны, і не сказаў людзям, што нельга рэзаць адзін аднаго, што свет вялікі і на кожнага выстачыць ніў, што хлеб аднолькава смачны, на якой мове яго ні называй. Не мог сказаць.*

*<u>Галоўным быў не хлеб. Галоўнай была свабода</u>* (У. Караткевіч. Нельга забыць).

Падкрэсленае выказванне – вынік з прыведзенага слоўнага (славеснага) ці моўнага адзінства, што выступае абагульняльным тлумачэннем прычыны папярэдніх дзеянняў. Важнасць гэтай прычыны абумовіла вылучэнне выніку ў асобны абзац.

5. *Пытальна-адказавая форма* арганізацыі маўлення ўжо сама па сабе, без дадатковых метадаў і прыёмаў, мае эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку:

*– Скажы, каханне, адкажы,*
*Што добрага табе найболей?*

*– Годнасць і воля.*

*– Скажы, каханне, адкажы,*
*Дзе смерць твая, тваё крушэнне?*

*– У прыніжэнні.*

(Н. Мацяш. Два адказы).

У залежнасці ад характару ўзаемаадносінаў паміж сэнсавымі элементамі пытальна-адказавы прыём можа мець розныя адценні. Пытанне можа адрасавацца асобе, жывой істоце, неадушаўлёнаму прадмету, нават пачуццю, – ад гэтага залежыць уключэнне ў кантэкст дадатковых вобразных сродкаў: метафары, метаніміі, сінекдахі, увасаблення і інш.

6. Прыём *дынамічнага пералічэння* вылучаецца пры супастаўленні з простым пералічэннем, а таксама з лагічным вынікам:

*Цяпер страляніна была такая, нібы на ўзгорку віраваў запеклы бой. Снапамі ўзляталі ўгору рознакаляровыя ракеты. Адна паляцела паралельна зямлі між двума кастрамі дроваў і зігзагамі, абвіваючыся па чарзе то ад аднаго кастра, то ад другога, памчала ў бок дамоў. Людзі шарахнуліся ў бокі. Пасля ў зеніт пайшла адна ніць, другая: сярод патронаў былі трасірныя* (У. Караткевіч. Лісце каштанаў).

**КАНТАМІНАЦЫЯ** – узаемадзеянне моўных адзінак шляхам перакрыжаванага аб’яднання двух слоў або словазлучэнняў, у выніку чаго атрымліваецца новая моўная адзінка, часам і няправільная: *мапед* ад *матацыкл + веласіпед; выконваць (іграць) ролю + мець значэнне = выконваць (іграць) значэнне* і *мець ролю*.

**КАНТРАРЫУМ** – элемент разважання, супрацьлеглы сваім сэнсам пратазісу.

**КАНТРАСТ** – літартурна-мастацкі прыём супрацьпастаўлення карцін, характараў з мэтай завастрыць увагу рэцыпіента.

**КАНТЭКСТ** – 1) сэнсава закончаны ўрывак пісьмовага тэксту *(гл.)*, які дае магчымасць выявіць значэнне асобнага слова ці фразы, выкарыстаных у ім; 2) лінгвістычнае акружэнне пэўнай моўнай адзінкі, умовы, асаблівасці яе ўжывання ў даным акружэнні; 3) фрагмент тэксту. Адрозніваюць мікракантэкст – мінімальны кантэкст і макракантэкст – максімальны кантэкст. *Параўн.:* МІКРАТЭКСТ і МАКРАТЭКСТ.

**КАНФЛІКТ** – аснова сюжэта *(гл.)*, яго рухаючая сіла ў літ.-маст. творы (тэксце); барацьба характараў, якая тлумачыцца адрозненнем пачуццяў, імкненняў, інтарэсаў у людзей.

**КАНЦОЎКА** – заключная частка літаратурна-мастацкага твора ці яго структурна-кампазіцыйнай адзінкі (раздзела, абзаца, страфы, паэтычнага радка). Разнавіднасцямі К. з’яўляюцца ПУАНТ, РЭФРЭН, ЭПІЛОГ.

*Параўн.:* концепт, концептуальное искусство (ПЭ, сс. 363, 364-366).

**КАНЦЫЛЯРЫЗМЫ** – 1) словы, выразы, формы і канструкцыі, уласцівыя афіцыйна-справавому стылю, асабліва яго адміністрацыйна-канцылярскаму падстылю; 2) словы і выразы, пазбаўленыя індывідуальнасці. *Гл.* МОЎНЫЯ ШТАМПЫ і ТРАФАРЭТЫ.

**КАНЦЭПТ** – 1) ідэя літартурна-мастацкага твора; 2) заменнік складаных значэнняў.

**КАРЭКТУРА** – асобны адбітак друкарскага набору для вычыткі.

**КАРЭЛЯТ; КАРЭЛЯТЫЎНЫ** – член пары або ўзаемна суадносных моўных адзінак; звязаны ўзаемнай залежнасцю, абумоўленасцю з іншым членам пары: *рашаць – рашыць, мыць – вымыць* і інш.

**КАРЭЛЯЦЫЯ** – 1) замена; чаргаванне; 2) прамежкавы від сінтаксічнай сувязі; 3) узаемная абумоўленасць, семіялагічная залежнасць адзінак мовы.

*Параўн.:* карэлят, карэлятыўны, карэляцыя (СЛТ, 1990, с. 69).

**КАРЭФЕРЭНЦЫЯ** – аднесенасць элементаў тэксту да аднаго і таго ж факта рэчаіснасці, дэнатата *(гл.)*.

**КАТАХРЭЗА** – 1) троп, у якім словы выкарыстаныя пераважна з супрацьлеглым значэннем. *Гл.* АКСЮМАРАН; 2) ужыванне ў тэксце (выказванні) слоў або выразаў не ў адпаведнасці з іх этымалагічным азначэннем, напр., *зялёнае чарніла, чорная бялізна…*

*Параўн.:* катахрэза (СЛТ, 1990, сс. 69-70).

**КЛАСІФІКАВАННЕ, КЛАСІФІКАЦЫЯ** – 1) сістэма супадпарадкаваных паняццяў, прадметаў, з'яў, агульных прыкмет і інш.; 2)размеркаванне тых або іншых прадметаў, катэгорый і інш. паводле агульнасці класаў, значэнняў, функцый і г. д.; 3) размеркаванне па групах, разрадах, відах, правілах і пад. КЛАСІФІКАЦЫЯ МАЎЛЕННЯ – *гл.* МАЎЛЕННЕ. КЛАСІФІКАЦЫЯ СКАЗАЎ – *гл.* СКАЗЫ. КЛАСІФІКАЦЫЯ ЗНАКАЎ ПРЫПЫНКУ – *гл.* ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ. КЛАСІФІКАЦЫЯ ТЭКСТАЎ – *гл.* ТЭКСТ. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФРАЗЕАЛАГІЗМАЎ – *гл.* ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ. КЛАСІФІКАЦЫЯ ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫХ СТЫЛЯЎ – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

**КЛІМАКС** – фігура маўлення; выказванне ў выглядзе ланцуга, у якім слова папярэдняй часткі паўтараецца ў наступнай і так далей. *Гл.* АНТЫКЛІМАКС.

**КЛІЧНАЯ ФОРМА** – форма назоўніка, з якой звяртаюцца да асобы або персаніфікаванага прадмета; форма зваротка. *Гл.* ВАКАТЫЎ, ВАКАТЫЎНЫ СКАЗ. КЛІЧНЫ СКЛОН – 1) сёмы склон назоўнікаў у старажытнай і сучаснай беларускай і ўкраінскай мовах; 2) старажытныя формы зваротка, якія ўжываюцца як нормы мовы сучаснай мастацкай літаратуры. Напрыклад: – *Пане Яне, пачакай / Пане Яне, не ўцякай…* (Я. Колас. Святы Ян); *Краю мой родны, як выкляты Богам…* (М. Багдановіч); *Хлопча, хлопча, няхай цябе качка стопча…* (Жарт); *Дзеду, дзеду, я на табе пад'еду…* (З нар.).

**КЛІЧНАЯ ІНТАНАЦЫЯ** – *гл.* ІНТАНАЦЫЯ, КЛІЧНЫ СКАЗ.

**КЛІЧНІК** – 1) знак прыпынку, што сведчыць пра эмацыянальную насычанасць выказвання; 2) умоўны знак, што абазначае перасцярогу або павысіць увагу; 3) знак на палях рукапісу або выдання ад захаплення таго, хто прачытаў. (!)

**КЛІЧНЫ СКАЗ** – выказванне або сказ з клічнай інтанацыяй; сказ, выказванне, у якім перадача зместу суправаджаецца выражэннем адпаведных эмацыянальных адносін: закліку, пажадання, здзіўлення, захаплення, радасці, абурэння і інш. *Гл.* ВАКАТЫЎ, ВАКАТЫЎНЫ СКАЗ. – *Я ім ў душы не лазіў! – А варта было б…* (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі).

**КЛІШЭ** – стэрэатыпны выраз, моўны (маўленчы) штамп *(гл.)*.

**КЛЮЧАВЫЯ СЛОВЫ** – 1) словы, якія выражаюць галоўную тэму (ідэю) тэксту (твора); 2) назвы тэкстаў (твораў); 3) выдзеленыя ў кантэкстах словы курсівам або разрадкай (﹏﹏﹏ , _ _ _ ).

**КНІЖНЫ, КНІЖНА-ПІСЬМОВЫ** – *гл.* СТЫЛЬ, МАЎЛЕННЕ, ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.

**КОМПЛЕКСНЫ АНАЛІЗ (МАСТАЦКАГА) ТЭКСТУ** – шматаспектны (лінгвістычны, стылістычны, лінгвастылістычны, лінгваэстэтычны і тэксталагічны) аналіз літаратурна-мастацкага твора. Гэта поўны змястоўны лінгвістычны аналіз тэксту, які мае на мэце высвятленне форм узаемадзеяння ўсіх моўных узроўняў тэксту ў суадносінах з ідэйным (ідэйна-тэматычным) зместам твора.

**КОПІЯ, КСЕРАКОПІЯ** – новы экземпляр, адэкватны першаму. *Ксеракопія – ксераграфічная копія* (ТСБЛМ, 2002, с. 305).

**КОРПУС** – 1) сукупнасць тэкстаў, выказванняў, фразелагізмаў і інш., падрыхтаваных для аналізу; 2) сума жанраў вуснага або пісьмовага маўлення. *Фразеалагічны корпус беларускай мовы складаецца з лексічных комплексаў, якія функцыянуюць у мове як гатовыя, узуальна замацаваныя…* (А. С. Аксамітаў. Беларуская фразеалогія).

**КОСКА, КРОПКА, КРОПКА З КОСКАЙ** – *гл.* ЗНАКІ ПРЫПЫНКУ.

**КРЫЛАТЫЯ СЛОВЫ І ВЫРАЗЫ** – вобразныя словы, словазлучэнні і выказванні вядомых людзей (пісьменнікаў, палітыкаў, вучоных і інш.); у шырокім сэнсе тое, што і АФАРЫЗМ. Напрыклад: *Дзе праца, там і перспектывы* (У. Караткевіч. – ЛіМ, 14.10.2011 г.).

**КРЫНІЦА** – дакументальна зафіксаваны тэкст, які адлюстроўвае адзін з этапаў працы аўтара па ажыццяўленні творчай задумы. Адрозніваюцца крыніцы рукапісныя, друкаваныя і вусныя (рукапісы, аўтографы, спіскі, копіі, аўтарызаваныя машынапісы, карэктуры, гука- і відэазапісы).

**КРЫНІЦА ІНФАРМАЦЫІ** – тэкст або ўрывак з яго, зафіксаваны на паперы ці на магнітнай плёнцы (ленце).

**КРЫПТАГРАФІЯ** – разнавіднасць пісьма, заснаванага на ўжыванні шыфру.

**КРЫПТАЛОГІЯ** – навука пра тайныя мовы, заканамернасці іх пабудовы і спосабы іх расшыфроўкі.

**КРЫПТАНІМ** – зашыфраваны подпіс (Мушынскі, 2007, с. 406).

**КРЫТЫКА ТЭКСТУ** – вывучэнне яго гісторыі. Адна з галоўных задач і мэт тэксталагічнага даследавання.

**КУЛЬТУРА МОВЫ (МАЎЛЕННЯ)** – 1) раздзел мовазнаўства, у якім устанаўліваюцца, фармулююцца літаратурныя нормы *(гл.)*, даследуецца ўзровень,

якасць правапісу, вымаўлення, формаўтварэння, словаўтварэння і спалучэння слоў, а таксама даследуецца ўзровень валодання імі; 2) нарматыўнасць маўлення той ці іншай асобы ці грамадства ў цэлым.

*Параўн.:* культура мовы (маўлення), нарматыўнасць (СЛТ, 1990, сс. 72, 87).

**КУРСІЎ** – друкарскі шрыфт, падобны да рукапіснага і прызначаны для выдзялення ў адрозненне ад прамога шрыфту. *Яна [Ганна. – М. А.] ужо без здзіўленасці і без няёмкасці хадзіла ў калідоры сярод таўкатні дзяцей...* (І. Мележ. Завеі, снежань).

*Параўн.:* курсіў, курсіўны (СВПТ, с. 70).

**КУРСУС** – асаблівасці рытмамеладычнай пабудовы празаічнага маўлення.

## Л

**ЛАГАПАТ і ЛАГАПАТЫЯ** – чалавек з лагапатыяй, або з заганамі вымаўлення (заіка, шапялявец, гугнявец і г. д.). ЛАГАПЕД і ЛАГАПЕДЫЯ – спецыяліст па лагапедыі; вывучэнне і выпраўленне дэфектаў вымаўлення.

**ЛАГІЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ** (як камунікацыйная якасць маўлення) – адна з найважнейшых камунікацыйных якасцей, што характарызуецца як паслядоўнасць, несупярэчнасць выказвання або пабудова маўлення ў адпаведнасці з законамі логікі, з адносінамі і сувязямі рэчаіснасці. Л., як і дакладнасць *(гл.)*, характарызуе маўленне з аднаго боку зместу.

Л. захоўваецца як пры экстралінгвістычных умовах (уменне лагічна думаць, веданне фармальных лагічных законаў), так і ўласна лінгвістычных. Адны лінгвістычныя ўмовы могуць дзейнічаць у межах аднаго выказвання, іншыя – у межах аб'яднання выказванняў, трэція – толькі на ўзроўні цэлага тэксту.

Умовай Л. на ўзроўні выказвання з'яўляецца несупярэчлівае спалучэнне слоў. Сцвярджэнне ўзаемавыключаных паняццяў (напр.: *Павялічыць сваю памяць вялікай тэхнічнай складанасці не ўяўляе*), спалучэнне лагічна неаднастайных паняццяў (напр.: *На балконе стаялі маці, бабуля і слоік з варэннем*) і іх супастаўленне (*Яна, акрамя мільёна рублёў, больш не дала яму ні капейкі*) вельмі часта, як відаць з прыкладаў, ствараюць камічны эфект.

Парушэнні Л. узнікаюць пры няправільным парадку слоў, напр.: *Патрабуецца спецыяліст для аддзела, які мае вышэйшую адукацыю*, што таксама стварае камічны эфект: *Ёгурт – харчовы прадукт, выраблены з вяршкоў з фруктовымі дабаўкамі*.

Акрэсленасць пераходаў ад адной думкі да другой з'яўляецца важнай умовай стварэння Л. маўлення. Пропуск звёнаў развіцця думкі прыводзіць да скажэння выкладу (напр.: *У сям'і яе не разумелі. Яна часта сядзела каля тэлівізара*) або да парушэння прычынных сувязяў (*Букавыя – лістападныя ці вечназялёныя дрэвы і кустарнікі. Дуб – лістападнае дрэва*).

Асаблівую ролю ў пабудове лагічнага тэксту выконваюць сродкі ўнутрыфразавай і міжфразавай сувязі (сродкі звязнасці): лексічныя (паўторы, сінанімічныя

замены, антонімы, словы са значэннем “часткі і цэлага”), марфалагічныя (займеннікі 3-яй асобы, указальныя займеннікі і прыслоўі, прыслоўі часу, парадкавыя і колькасныя лічэбнікі, прыназоўнікі *ў, да, на, ад, па; у дачыненні* і інш., злучнікі *і, а, але, не… а…, аднак; быццам, калі, каб, хоць, бо, таму што*, часціцы *бо, вось і, жа, ці*); сінтаксічныя сродкі (пабочныя словы і словазлучэнні, адзінства трывальна-часавых форм дзеясловаў-выказнікаў, пытальныя і клічныя сказы). Звычайна названыя сродкі ў тэксце выступаюць ва ўзаемадзеянні.

Сродкі ўнутрыфразавай і міжфразавай сувязі павінны ясна і правільна выражаць сувязь частак выказвання або паміж асобнымі выказваннямі ў тэксце. Няправільны выбар сродкаў сувязі прыводзіць да алагічнасці: *Зараз у Магілёве 20-22 градусы, а ў Мінску таксама 20-22*.

Тэкставыя сродкі міжфразавай сувязі, як правіла, выконваюць двайную функцыю: абагульняюць сказанае раней і пачынаюць наступную мікратэму апавядання. Існуюць два спосабы міжфразавай сувязі: 1) *ланцуговая*, 2) *паралельная*. Вялікую ролю ў маўленні выконвае ланцуговы від сувязі (80-85 % аб’ёму тэкстаў ва ўсіх стылях маўлення), што адлюстроўвае паслядоўны рух думкі, пры якім кожны наступны сказ развіваецца з папярэдняга: *“Яны ішлі праз лес глухой, замеценай снегам дарогай, на якой не было ні чалавечага следу, ні каляіны, ні нават знаку ад капыта ці полаза. Тут, мусіць, і ўлетку не часта ездзілі…”* (В. Быкаў. Сотнікаў).

Пры паралельнай сувязі маўленне набывае эмацыяльны, экспрэсіўны характар, калі сказы не развіваюцца, а супастаўляюцца. Кожны наступны сказ развіваецца па тыпе папярэдняга. Не выпадкова паралельная сувязь вельмі часта дапаўняецца фігурамі маўлення, якія ўзмацняюць яе выразнасць, напрыклад анафарай (адзінапачаткам): *“…Таму што гэта быў хлеб, а ён верыў хлебу. У хлеб можна было верыць. У хлеб трэба было верыць. Ад хлеба жыццё і ад хлеба адужанне”* (У. Караткевіч. Каласы пад сярпом тваім).

Л. маўлення на ўзроўні тэксту выяўляецца ва ўмела пабудаванай кампазіцыі *(гл.)*, законы якой шмат у чым вызначаюцца пэўным жанрам твора, але трохчасткавая пабудова маўлення (уступ, асноўная частка, заключэнне) – амаль універсальны закон канструявання немастацкага тэксту.

Уступ прадугледжвае ўводзіны ў тэму, азнаямленне з прадметам маўлення. Асноўная частка ўтрымлівае развіццё асноўнай думкі, вызначанае ва ўступе. Тут непасрэдна і markdownзнабакова раскрываецца тэма, вырашаюцца пастаўленыя праблемы, паведамляюцца асноўныя звесткі, сутнасць справы. У заключэнні звычайна прыводзіцца вынік, фармулююцца высновы, сумуецца сказанае.

Цэласць тэксту надае наяўнасць галоўнай думкі. Развіццё яе ў тэксце адбываецца праз развіццё мікратэм (звёнаў галоўнай думкі). Паказчыкам пераходу ад аднай мікратэмы да другой служыць абзац *(гл.)*. Паздел тэксту на абзацы палягчае яго ўспрыманне і разуменне.

Л. як агульная камунікацыйная якасць уласціва тэкстам любых функцыянальных стыляў *(гл.)*.

**ЛАГІЧНАСЦЬ ТЭКСТУ** (як стылявая рыса) – істотная ўласцівасць тэксту, якая вызначае якасць структуры, арганізацыі зместу маўлення ў плане адпаведнасці апошняга фармальна-лагічным законам мыслення.

Пад Л. Т. у функц. стылістыцы разумеюць структурна-лагічную схему цэлага тэксту, а таксама адпаведнае разгортванне гэтай схемы ў працэсе выкладу, асабліва навуковага зместу.

Л., як адна з найважнейшых стылявых рыс навук. маўлення, утварае спецыфіку навук. функц. стылю, можа разглядацца ў розных адносінах: паняційна-лагічным, псіхолага-камунікацыйным і кагнітыўна-эпістымічным. У паняційна-лагічным дачыненні Л. М. уяўляе сабой сукупнасць моўных адзінак са значэннем пэўных логіка-семантычных адносін паміж навук. паняццямі ў межах выказванняў рознай ступені складанасці (ад асобнага сказа да тэксту цэлага твора). У псіхолага-камунікацыйных адносінах Л. М. суадносіцца з аб'ектыўнай моўнай значнасцю той ці іншай адзінкі сярод адзінак з аналагічным значэннем. Так, у адрозненне ад дзеясловаў, якія падкрэсліваюць наяўнасць той або іншай уласцівасці дзеепрыметнікі і поўныя прыметнікі характарызуюцца меншай камунікацыйнай значнасцю: выступаючы ў ролі азначэнняў, яны з'яўляюцца факультатыўнымі кампанентамі сінтаксічнай структуры сказа. Напр.: *"гуркі характарызуюцца наступнымі асаблівасцямі"; "...паказчыкі, якія характарызуюць лагічнасць тэксту"; "выяўляць прыметы, характэрныя для стыляў мовы"*. У гэтым сэнсе перыферыйнае становішча займаюць і такія важныя, спецыялізаваныя ў моўная сістэме сродкі выражэння адносін паміж паняццямі, як прыназоўнікі. У камунікацыйным плане сродкі выражэння логіка-семантычных адносін паміж паняццямі адрозніваюцца ў адпаведнасці са ступенню іх актуальнасці / неактуальнасці з пазіцыі аўтара, а менавіта ў залежнасці ад яго псіхолага-камунікацыйнай установкі. У маўленні аўтар надае перавагу дзеясловам, дзеепрыметнікам альбо прыназоўнікам, усведамляючы або, магчыма, не ўсведамляючы таго, што дзеясловы канстатуюць адносіны, найбольш актуальныя ў працэсе камунікацыі, дзеепрыметнікі і адыменныя прыназоўнікі – менш актуальныя, невытворныя ж прыназоўнікі толькі сігналізуюць аб іх (напр.: *"прыкметы адносяцца да мнагазначнасці"; "...праблемы, якія адносяцца да аманіміі"; "у дачыненні да іншых пытанняў"; "...як гэта відаць у адносінах да арфаграфіі"; "...пытанні адносна скланення назоўнікаў"*). У тэкстах таго ці іншага функц. стылю псіхолага-камунікацыйныя адрозненні ў выражэнні Л. М. могуць быць устаноўленыя з улікам толькі ўсяго комплексу сродкаў, скарыстаных для падкрэслівання гэтай якасці маўлення ў тэкстах цэлых твораў. *Гл.* ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ.

**ЛАГІЧНЫ, ЛАГІЗАВАНЫ** – вытрыманы ў адпаведнасці з патрабаваннямі логікі; заканамерны, паслядоўны, разумны (падыход, выклад і інш.). ЛАГІЧНЫ НАЦІСК – інтанацыйнае выдзяленне аднаго з элементаў выказвання з мэтай павелічэння яго значнасці; выдзяленне пры дапамозе націску важнага ў сэнсавых адносінах слова. *Я сустрэў таварыша; Я сустрэў таварыша; Я сустрэў таварыша* (СБМ, с. 71).

**ЛАКАЛІЗМ** – слова ці выраз, абмежаваны тэрыторыяй яго выкарыстання. *Гл.* ДЫЯЛЕКТЫЗМ, ПРАВІНЦЫЯЛІЗМ.

*Параўн.:* лакалізаваны, лакальны, лакализмы (СЦБМ, сс. 328, 479)

**ЛАКАНІЗМ** – кароткае, сціслае, лаканічнае выражэнне думкі. *Гл.* ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ.

**ЛАКУНА** – прагал, прапушчанае месца ў тэксце.

**ЛАЛЕТЫКА** – раздзел мовазнаўства пра вуснае маўленне, гаварэнне.

**ЛАНЦУГОВАЯ СУВЯЗЬ** – спосаб злучэння сказаў, пры якім кожны наступны сказ звязаны з папярэднім. Л. С. утвараецца з дапамогай спалучэння лексічных, марфалагічных і сінтаксічных паўтораў (адпаведна – злучнікаў, злучальных слоў, часціц, прыназоўнікаў, займеннікаў або іншых дэйктычных слоў). Тыповы прыклад Л. С.:

*Выйшаўшы са старожкі, Аўсееў спыніўся і прыслухаўся. Пасля свята з грубкі, хоць і мізэрнага, у гэтай цемрадзі нічога не было відаць – адно шапаценне дажджу ды сутаргавыя парывы ветру. Байца адразу ахапіла восеньская начная няўтульнасць, цела скаланулася ад волкіх дрыжыкаў, ён наставіў каўнер і нерашуча ступіў у змрок ночы.*

*Пад чаравікамі цвякала гразь, лапацеў і лапацеў дождж па намоклай спіне, пілотцы, і невясёлае прадчуванне ўсё глыбей і глыбей караскалася ў душу байца* (В. Быкаў. Жураўліны крык).

**ЛАЦІНІЦА, ЛАЦІНКА** – 1) лацінскі алфавіт, лацінскі шрыфт; 2) мадыфікаваная лацініца для адлюстравання беларускага вуснага маўлення на пісьме. Шматлікія ўстойлівыя і трафарэтныя выразы перадаюцца лацінкай: напр., *emendation* – выпраўленае ізноў, *lektio facilior* – лёгкае чытанне, *lapsus linquae* – памылка ў мове (маўленні), *post factum* – пасля зробленага (сказанага, напісанага, надрукаванага), *status quo* – статус-кво – становішча без змен, *va banque* – ва-банк, па-банку – на ўсе грошы і г. д.).

**ЛЕГЕНДА** – 1) празаічны жанр, у аснове якога ідэальнае падаецца як рэальнае; 2) даведачная частка пра гісторыю тэксту, яго крыніцы, перавыданні (найчасцей у археграфіі *(гл.)*).

**ЛЕЙТМАТЫЎ** – мастацкі вобраз (дэталь, думка), што праходзіць праз увесь твор (тэкст), указваючы на важную ідэю (тэму) яго.

**ЛЕКСІКА** – 1) слоўнікавы запас (склад), састаў усіх носьбітаў той або іншай мовы ці асобага носьбіта; 2) сукупнасць слоў пэўнага дыялекту або адной гаворкі; 3) сукупнасць слоў пэўнага літаратурнага напрамку або аднаго мастацкага ці іншага твора. *Гл.* АГУЛЬНАЎЖЫВАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА, СПРАДВЕЧНАЯ І ЗАПАЗЫЧАНАЯ ЛЕКСІКА, СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ СРОДКАЎ.

**ЛЕКСІКА ДЭМІНУТЫЎНАЯ І ПЕЯРАТЫЎНАЯ** – словы, што выражаюць розныя пачуцці, а таксама характарызуюць, даючы як станоўчую, так і адмоўную ацэнку, пераважна суб'ектыўную: *малы – маленькі, вялізны – велічэзны, няўдалы – недарэчны – недарэка – неўдаль* і г. д.

*Параўн.:* деминутив, пейоративное слово (РБСЛТ, сс. 25, 77).

**ЛЕКСІКОН** – 1) устарэлая назва слоўніка; 2) запас слоў пэўнай асобы або сацыяльнай групы. *Старабеларускія лексіконы* (Мінск, 1990). *Лексікон (лексіка) дрыбінскіх шапавалаў, або катрушніцкі лемезень*.

**ЛЕКСІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ СЛОВА** – асноўнае значэнне слова побач з яго граматычным і інш. *Гл.* ЗНАЧЭННЕ МОЎНЫХ АДЗІНАК.

**ЛЕКСІЧНАЯ СТЫЛІСТЫКА** – *гл.* СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ СРОДКАЎ.

**ЛІНГВАСТЫЛІСТЫКА** – 1) навука пра стылі мовы, віды і тыпы маўлення, якія вызначаюцца ўмовамі, сітуацыяй, мэтай зносін і адрозніваюцца адпаведнымі сродкамі або насычанасцю імі; 2) стылістыка мовы і стылістыка маўлення ў сукупнасці. *Гл.* СТЫЛІСТЫКА, ПРАГМАТЫКА.

**ЛІНГВАСТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ (МТ)** – падрабязны аналіз ролі і функцый моўных сродкаў усіх узроўняў у арганізацыі і выражэнні ідэйна-тэматычнага зместу твора (тэксту).

Дзякуючы комплекснаму, сінтэтычнаму падыходу да даследавання МТ пераадольваецца пааспектнае, паўзроўневае яго вывучэнне. Менавіта комплексны аналіз дазволіў убачыць, што ўзаемадзеянне моўных адзінак у межах тэксту носіць не выпадковы, а мэтанакіраваны характар: моўная структура твора заўсёды глыбока прадуманая аўтарам з пункту погляду найбольш поўнай і эфектыўнай (а таксама эфектнай) рэалізацыі ў ёй эстэтычнай канцэпцыі.

У адрозненне ад літаратуразнаўчага аналізу прадметам Л. А. М. Т. служыць моўная арганізацыя тэксту, а менавіта сувязі і адносіны адзінак розных узроўняў, якія ў адзінстве выказваюць тую або іншую лінію эстэтычнай канцэпцыі твора. Таму матэрыялам Л. А. М. Т. аказваюцца: 1) архаізмы і гістарызмы; 2) незразумелыя факты паэтычнай сімволікі; 3) незнаёмыя або малазнаёмыя чытачу дыялектызмы, прафесіяналізмы, аргатызмы, жарганізмы і тэрміны; 5) ключавыя словы; 6) тропы; 7) асаблівасці сінтаксісу; 8) своеасаблівасць кампазіцыі; 9) спецыфіка ўжывання і спалучэння нейтральных і стылістычна значных (экспрэсіўных) моўных элементаў і структур; 10) асаблівасці моўнай арганізацыі падтэксту; 11) асаблівасці выбару і арганізацыі моўнага матэрыялу ў яго прыватнасцях і цэласнасці – маўленчая сістэмнасць; 12) узаемасувязь моўнага і сэнсавага ўзроўняў тэксту з пункту погляду паўнаты выражэння аўтарскай канцэпцыі і інш.

Асноўная задача Л. А. М. Т. заключаецца ў вывучэнні моўных сродкаў розных узроўняў у сістэме вызначанага МТ з пункту погляду іх адпаведнасці задуме аўтара і яго індывідуальнай манеры пісьма. Пры гэтым адзінства формы і зместу з'яўляецца зыходным метадалагічным прынцыпам сучаснага Л. А. М. Т. Разам з тым пры вывучэнні МТ нельга абмяжоўвацца толькі фармальным бокам тэксту. Таму тлумачэнне структурных асаблівасцей тэксту неабходна суадносіць са змястоўнымі паняццямі і катэгорыямі, такімі, як тэма, ідэя, аўтарская задума, мастацка-вобразная сістэма.

Асноўнай мэтай Л. А. М. Т. з'яўляецца разгляд МТ як арганізаванай сістэмы моўных сродкаў, якая адлюстроўвае вызначаны ідэйна-тэматычны, вобразны і эстэтычны змест тэксту ў іх агульных і асаблівых расах. Пры гэтым сукупнасць

моўных сродкаў пісьменніка павінна разглядацца не як мова, а як стыль, г. зн. само функцыянаванне мовы. *Гл.* СТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ, АНАЛІЗ і СІНТЭЗ.

**ЛІНГВАЭСТЭТЫЧНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ** – 1) моўны аналіз тэксту з улікам эстэтычнай функцыі мовы (маўлення); 2) аналіз літаратурна-мастацкага тэксту паводле схемы: а) агульная характарыстыка; б) лінгвістычная характарыстыка; в) эстэтычная характарыстыка. *Гл.* СТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ (ТЭКСТУ).

**ЛІНГВІСТЫКА ТЭКСТУ** – 1) у сярэдзіне XX ст. навука пра тэкст *(гл.)* з боку яго звязнасці і зразумеласці, правілаў выбару актуалізацыі пры пераходзе ад мовы да маўлення; 2) на сучасным этапе – напрамак лінгвістычных даследаванняў, аб'ектам якіх з'яўляюцца правілы пабудовы звязнага тэксту і яго сэнсавыя катэгорыі, што выражаюцца паводле правілаў; 3) тое, што і ТЭОРЫЯ ТЭСТУ. Л. Т. як навука фарміруе новыя анталагічныя асновы для аналізу ўзаемаадносін мовы і маўлення, дазваляе назіраць дадзеную сувязь апасродкавана, праз тэкст. Вытокамі Л. Т. трэба лічыць антычную рыторыку, паэтыку, якія вывучалі тэксты, фігуры маўлення, герменеўтыку, семіётыку, псіхалогію і інш. Аднак тэкст у дадзеных навуках разглядаўся толькі як аб'ект даследавання, у якасці аднаго з "пабочных прадуктаў" камунікацыі ў выглядзе статычнай структуры элементаў і тыпаў іх сувязей.

Фарміраванне і развіццё Л. Т. у 1970-я гг. супадае з узнікненнем новага напрамку – лінгвістычнага функцыяналізму, арыентаванага на вывучэнне дыскурса, паняцця больш шырокага за тэкст.

Л. Т. і тэорыя дыскурсу маюць "пункт перасячэння". Праца з тэкстам у межах Л. Т. не зводзіцца да простага выкарыстання чыстых аб'ектаў, а заўсёды абапіраецца на выніку разумення сэнсу маўленчых зносін, які падразумявае больш шырокі кантэкст дзейнасці. Выяўленне зместу тэксту на аснове аналізу яго кампанентаў можна суаднесці з інтэрпрэтацыяй тэксту, мэта якой заключаецца ўператварэнні зыходнага тэксту ў іншы тып. У гэтым сэнсе Л. Т. і тэорыя дыскурсу прыпадабняюцца.

Аб'ектам вывучэння Л. Т. з'яўляецца тэкст, які разглядаецца на фоне адзінства яго супярэчлівых уласцівасцей, якія выражаюцца ў тым, што, з аднаго боку, за кожным тэкстам стаіць сістэма мовы, г. зн. штосьці паўторнае, узнаўляльнае, а з іншага – індывідуальнае, непаўторнае. У Л. Т. 1970-ых гг. тэкст разглядаўся не толькі як вынік маўленчай дзейнасці, але і як працэс, як мова ў дзеянні. Аб'ект лінгвістыкі тэксту першапачаткова носіць інтэграваны характар, паколькі ўваходзіць у аб'екты вывучэння розных навук – філасофіі, логікі, сацыялогіі, псіхалогіі і інш. *Гл.* СТЫЛІСТЫКА, ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ СТЫЛІСТЫКА.

**ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ПАЭТЫКА** – 1) лінгвістычны падыход да вывучэння паэтычнай мовы; 2) лінгвістычнае разуменне літаратурна-мастацкага тэксту, мовы мастацкай літаратуры і мастацкасці ўвогуле (*гл.* адпаведныя артыкулы).

**ЛІНГВІСТЫЧНАЯ СТАТЫСТЫКА** – выкарыстанне статыстычных метадаў пры даследаванні як усёй моўнай сістэмы, так і выбраных яе ўзроўняў (помнікаў, тэкстаў).

**ЛІНГВІСТЫЧНАЯ СТЫЛІСТЫКА** – *гл.* ЛІНГВАСТЫЛІСТЫКА.

**ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ЭКАНОМІЯ** – імкненне камунікanta (гаворачага, пішучага) эканоміць намаганні пры карыстанні маўленнем, яго сродкамі.

**ЛІНГВІСТЫЧНЫ (СТЫЛІСТЫЧНЫ) ЭКСПЕРЫМЕНТ** – 1) адзін з асноўных метадаў лінгвістычнага (стылістычнага) аналізу тэксту *(гл.)*; 2) пошук магчымасцей замены адной моўнай адзінкі на іншую (варыянтную) у рамках асобнага тэксту *(гл.)*, калі ставіцца мэта выявіць сэнсавую, стылістычную, эмацыянальную і эстэтычную нагрузку таго моўнага сродку, які прыцягнуў увагу чытача або даследчыка.

**ЛІНЕЙНАЕ ПАРАДЖЭННЕ ТЭКСТУ** – апісанне параджэння тэксту, пры якім тэкставы ланцужок разгортваецца злева направа, з пэўнымі (адпаведнымі) змястоўнымі і фармальнымі характарыстыкамі.

**ЛІТАРАТУРНА-ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ (ТЭКСТ)** – 1) функц. разнавіднасць літ. мовы, ужывальная ва ўмовах неафіцыйных, нязмушаных зносін і супрацьпастаўленая ў межах літ. мовы як дыхатамічнай сістэмы стылю кніжнаму *(гл.)*. Літ.-гутарк. стыль у дадзеным значэнні разглядаецца па-за сістэмай функц. стыляў і можа быць пазначаны тэрмінам не стыль, а тып мовы. асноўная форма рэалізацыі Л.-Г. С. – вуснае маўленне *(гл.)*, аднак ён функцыянуе і ў некаторых жанрах пісьмовага маўлення *(гл.)*: запісках, прыватных лістах, дзённікавых запісах. Экстралінгвістычнымі фактарамі (арыентацыяй першым чынам на вусную форму маўлення, выкарыстаннем у неафіцыйным становішчы, пераважна ў прыватна-бытавых, штодзённых зносінах, радзей – у службовай і сацыяльна-культурнай сферы, але таксама ў сітуацыях непадрыхтаваных, неафіцыйных зносін) абумоўліваюцца асноўныя стылявыя рысы Л.-Г. С. (Т.) – натуральнасць, канкрэтнасць, экспрэсіўнасць, суб'ектыўная ацэначнасць. Гэтыя рысы знаходзяць яркае і паслядоўнае адлюстраванне ў складзе ўжывальных у Л.-Г. С. (Т.) моўных адзінак і асаблівасцях іх функцыянавання; 2) індывідуальная манера маўлення з "налётам" размоўнасці, або "фрагментарным" выкарыстаннем спосабаў і сродкаў Л.-Г. С. (Т.) у першым значэнні (*гл.* п. 1), г. зн. гэта стыль нязмушанага выкладу, магчымы ў розных функц. стылях і жанрах, у пісьмовай форме (пар., напр., індывідуальны стыль некаторых навукоўцаў). Дадзеная разнавіднасць маўлення з'яўляецца кніжна-гутарковай, або "аблітаратуранай" гутарковай, такім чынам, нарматыўнай, але якая характарызуецца больш вольнай формай выражэння, чым уласна-кніжнае маўленне; 3) наўмыснае выкарыстанне сродкаў разм. маўлення (нязмушанай, можа быць, нават фамільярнай) – сігналаў размоўнасці (разм.-прастамоўнай лексікі, разм. парадку слоў, няпоўных сказаў і г. д.) – для атрымання разм. афарбоўкі ў неразм. жанрах. Гэта, па-першае, стылізацыя разм. стылю і самога працэсу маўлення ў маст. літаратуры, калі размоўнасць выступае ў якасці эстэтычнай катэгорыі; па-другое, ужыванне разм. элементаў для дасягнення прастаты, даступнасці, эмацыянальнасці маўлення, стварэння ўражання меншай афіцыяльнасці ў прамоўніцкім мастацтве, СМІ, навукова-папулярным выкладзе (асабліва ў вуснай публічнай прамове, а таксама і ў пісьмовай), размоўнасць выяў-

ляецца пры гэтым як рытарычная катэгорыя. Паказанае значэнне Л.-Г. С. блізкае да папярэдняга (*гл.* п. 3), паколькі і ў тым і ў іншым выпадку размоўнасць характарызуе індывідуальна-аўтарскі стыль. Аднак у апошнім выпадку (у адрозненне ад папярэдняга) гэта якасць прамовы дасягаецца ўсвядомлена, намаганні аўтара спецыяльна, з пэўнай мэтай накіраваныя на перадачу асаблівасцей разм. маўлення.

Калі ў дачыненні да першага значэння (п. 1) больш дарэчны тэрмін "тып мовы", а ў другім выпадку маецца на ўвазе функцыянальны стыль (п. 2), то ў апошніх значэннях (п. 3 і 4) зафіксавана разуменне стылю.

Да ліку найбольш лінгвістычных прыкмет гутарковага маўлення (разм. сістэмы зносін) адносяцца наступныя: актыўнасць някніжных сродкаў мовы (са стылявой афарбоўкай размоўнасці і фамільярнасці), сродкаў суб'ектыўна-мадальнага і эмацыйна-ацэначнага характару на ўсіх узроўнях мовы; ужывальнасць моўных адзінак пэўнага значэння; няпоўнаструктурная афармленасць сінтаксічных канструкцый.

У лексіцы шырока выкарыстоўваюцца адзінкі бытавога, пэўнага зместу (бытавізмы): *чайнік, каструля, расчоска, шафа, куртка* і іншыя словы, якія спецыялізуюцца на паўсядзённым ужытку, утвараюць лексіка-семантычныя палі: *ежа, хата, вопратка* і да т. п. У Л.-Г. С. (Т.) абмежаваны склад абстрактнай лексікі, кніжных слоў, тэрміналогіі, неагульнавядомых слоў іншамоўнага паходжання. Пераважная колькасць слоў у разм. маўленні адносіцца да нейтральнай агульнаўжывальнай лексікі (напр., нейтральнае *гаварыць* выкарыстоўваецца значна часцей, чым *балбатаць*). Выкарыстоўваюцца ацэначныя словы (*балбес, няўклюда, дрыхнуць*). Адмоўную або (радзей) станоўчую адзнаку ў кантэкстах разм. маўлення набываюць словы нейтральныя (*сабака, карова, арол* і інш.). Экспрэсіўная афарбоўка мае шырокі дыяпазон – ад па-сяброўску фамільярнай да грубіянска-фамільярнай і лаянкавай.

Гутарк. маўленне багатае на фразеалагізмы: экспрэсіўна афарбаваныя гутарковыя (*кашу заварыць, з тропу збіць, вочы на лоб лезуць*), з прастамоўнай афарбоўкай (*мазгі ўставіць, хвастом віляць, галаву задурваць*), лаянкавыя (*ну іх да чорта, да ўсіх чарцей*) і інш. Прамоўцы (незалежна ад узроўню адукаванасці) бачаць у фразеалагізмах адзінкі са сталай экспрэсіяй, гатовыя выразныя сродкі і лёгка ўжываюць іх у спантанным маўленні.

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ТЭКСТ** – 1) арыгінальны твор мастацкай літаратуры, напісаны на літаратурнай мове, які мае сэнсавую і эстэтычную цэласнасць, а таксама інтанацыйную завершанасць; 2) фрагмент *(гл.)* літартурна-мастацкага твора, які з'яўляецца звязным сэнсавым выказваннем і завершаным сэнсаватэматычным, логіка-граматычным і інтанацыйным цэлым; 3) разнавіднасць аўтарскай мовы *(гл.)*.

*Параўн.:* ТЭКСТ, КАНТЭКСТ, ІНТЭКСТ, ФРАГМЕНТ *(гл.)*.

**ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА** – 1) вышэйшая форма агульнанароднай, агульнанацыянальнай мовы *(гл.)*, якая абслугоўвае культурныя запатрабаванні грамадства; 3) агульнапрынятая мова разнастайнай літаратуры.

Літаратурная мова – асноўная форма існавання нацыянальнай мовы, якая прымаецца яе носьбітамі за ўзорную; гістарычна складзеная сістэма агульнаў-

жывальных моўных сродкаў, якія прайшлі працяглую культурную апрацоўку ў творах знакамітых майстроў слова, у вусных зносінах адукаваных носьбітаў нацыянальнай мовы. Функцыянальане прызначэнне і ўнутраная арганізацыя Л. М. абумоўленая задачамі забеспячэння маўленчай камунікацыі ў асноўных сферах дзейнасці ўсяго гістарычна складзенага калектыву людзей, якія размаўляюць на дадзенай нацыянальнай мове. Па сваім культурным і сацыяльным статуце Л. М. супрацьпастаўляецца народна-разм. маўленню: тэрытарыяльным і сацыяльным дыялектам, якімі карыстаюцца абмежаваныя групы людзей, што жывуць у вызначанай мясцовасці або аб'яднаных у параўнальна невялікія сацыяльныя калектывы, і прастамоўю – наддыялектным некадыфікаваным вусным маўленні абмежаванай тэматыкі. Паміж формамі нацыянальнай мовы існуе ўзаемасувязь: Л. М. стала папаўняцца за кошт народна-разм. маўлення.

Л. М. уласцівыя наступныя асноўныя прыметы, якія вылучаюць яе сярод іншых форм існавання нацыянальнай мовы:

1. *Унармаванасць*. Моўная норма – агульнапрынятае ўжыванне, якое рэгулярна паўтараецца ў маўленні і прызнанае на дадзеным этапе развіцця Л. М. правільны, узорным. Літ. нормы ахопліваюць усе бакі (узроўні) моўнай сістэмы, і таму самі ўяўляюцца як вызначаная сістэма лексічных, фразеалагічных, марфалагічных, сінтаксічных, словаўтваральных, арфаэпічных, првапісных норм. Наяўнасць моўных норм з'яўляецца ўмовай усеагульнасці Л. М.

2. *Кадыфікаванасць*. Кадыфікацыя – навуковае апісанне норм, замацаванне іх у граматыках, даведніках, слоўніках; найбольш эксплiцытная і аб'ектываваная форма прызнання нарматыўнасці моўнай з'явы. Кадыфікацыя літ. норм абнаўляецца па меры змен у мове. У сучасным грамадстве кадыфікацыя літ. норм адбываецца пры актыўным ўдзеле навуковай, педагагічнай, пісьменніцкай грамадскасці, СМІ.

3. *Адносная стабільнасць* (гістарычная ўстойлівасць, традыцыйнасць). Без гэтай якасці Л. М. быў немагчымы абмен культурнымі каштоўнасцямі паміж пакаленнямі. Стабільнасць Л. М. забяспечваецца, па-першае, дзеяннем агульнаабавязковых кадыфікаваных моўных норм, па-другое, падтрыманнем стылявых традыцый дзякуючы пісьмовым тэкстам, г. зн. звязаная яшчэ адной прыкметай Л. М. – наяўнасцю яе пісьмовай фіксацыі. Стабільнасці бел Л. М. спрыяе таксама яе цэласнасць, адсутнасць істотна адрозных мясцовых варыянтаў. *Гл.* НОРМА, НОРМА ЛІТАРАТУРНАЯ.

**ЛІТАРАТУРШЧЫНА** – дрэнны мастацкі густ, які праяўляецца ў вычварнасці стылю, шаблоннасці вобразаў, адсутнасці прастаты і мастацкай праўды. *Параўн.:* літарацкі, літ-нэт (СНСБМ, с. 204).

**ЛІТОТА** – 1) троп, сутнасцю якога з'яўляецца ўжыванне антоніма з адмоўем, напр.: *Няцяжка здагадацца* замест *Лёгка здагадацца*; 2) троп, процілеглы гіпербале *(гл.)*, напр., *кату па пяту, вераб'ю па калена* – малы і інш.

**ЛОГІКА-ГРАМАТЫЧНЫ ПЛАН** – граматычная будова сказаў (выказванняў), адпаведная лагічнай будове.

**ЛЯПСУС** – надзвычай грубая памылка, пераважна ў вусным або пісьмовым маўленні: замест *транзітны* (білет) – *транзістарны* і інш.

# М

**МАБІЛЬНЫ СІНТАКСІС** – так званы малы сінтаксіс – сінтаксіс свабодных словазлучэнняў.

*Параўн.:* мабіла, мабільнік, мабільны (СНСБМ, с. 207).

**МАГІЧНАЕ МАЎЛЕННЕ** – тэксты малітваў, замоў, праклёнаў і пад.; жанры белай і чорнай магіі. МАГІЯ ЛЯЧЭБНАЯ І ЧАРАЎНІЧАЯ – выкарыстанне тэкстаў малітваў, замоў, праклёнаў і інш. у аздараўленчых і чараўнічых мэтах, пераважна праз сваё, чужое (вядзьмарскае) шаптанне, г. зн. замову.

**МАДАЛЬНАСЦЬ** – граматычна-семантычная катэгорыя, што выражае адносіны гаворачай асобы да выказвання або раскрывае адносіны зместу выказвання да аб'ектыўнай рэальнасці; выражаецца граматычнымі, лексічнымі і інтанацыйнымі сродкамі. *Гл.* ПРЭДЫКАЦЫЯ, СКАЗ.

**МАДРЫГАЛ** – адна з разнавіднасцей альбомнай лірыкі; невялікі верш-камплімент, прысвечаны жанчыне. *Гл.* ОДА.

**МАДЫФІКАЦЫЯ** – відазмяненне моўных элементаў, сродкаў у залежнасці ад пазіцыі або гістарычных умоў.

**МАДЭРН, МАДЭРНІЗМ** – 1) умоўная назва розных паводле характару нерэалістычных з'яў літаратуры і мастацтва ХХ ст.; 2) стыль дэкадэнцкага напрамку; 3) сучасны, модны, мадэрнавы.

*Параўн.:* мадэрнова, мадэрновы (СНСБМ, с. 209), мадэрны (СЦБМ, с. 295).

**МАКАРАНІЗМЫ** – словы або выразы з іншых моў, механічна ўключаныя ў выказванне (фразу, тэкст) дзеля стварэння гумарыстычнага ці сатырычнага эфекту. МАКАРАНІЧНАЯ МОВА – маўленне, перазагружанае макаранізмамі, варварызмамі, экзатызмамі *(гл.)*. Напрыклад:

*Яко ценцерук у лесе балбоча,*
*Так мое сэрца – да неба сакоча!*
*Ні верашчака, кілбаса, салянка –*
*Ніц мі не міло – без цябе, каханка!*
*Рве се мэ сэрцэ, як тая атоса,*
*Кеды торгаё пшэклентэ калёса!..*
*Рве се мэ сэрцэ – як гуж у хамуце!..*
*Калі пшыдзе і сядзе на куце.*
*Ды ўжо ж насохся! – Як лапаць на печы!*
*Горкая доля!.. А кту ж ме полечы?!*

(А. Рыпінскі. Плач пакінутага каханай).

**МАКРАТЭКСТ** – 1) тэкст вялікага памеру; 2) суцэльны тэкст разам з усімі яго варыянтамі. Напрыклад, трылогія І. Мележа "Палеская хроніка"; 3) сукупнасць выказванняў ці тэкстаў, аб'яднаных зместам або сітуацыяй, а таксама звязаных на аснове структурна-кампазіцыйнага і культурнага адзінства. Гэта цэласнае ўтварэнне, адзінства якога грунтуецца на тэматычнай агульнасці адзінак, якія ў яго ўваходзяць (*гл.* МІКРАТЭКСТ).

Пад М. разумеюцца: 1) адзінкі бязмерна вялікія (аб'яднанне ўсіх наяўных у культурнай прасторы тэкстаў; 2) самыя малыя (М. як аб'яднанне некалькіх выказванняў (мікратэкстаў) у межах аднаго структурна-сэнсавага цэлага, напрыклад у межах звышфразавага адзінства (ЗФА). У залежнасці ад памераў трактоўкі М. усе наяўныя падыходы да яго можна падзяліць на дзве групы: 1) М. як адзінка культурацэнтрычная і 2) М. як адзінка тэкстацэнтрычная.

М. як адзінка культурацэнтрычная паўстае як універсальная мадэль тэксту наогул, дзе тэкст разумеецца як інтэртэкст, які ўключае ў свой змест розныя іншыя, "чужыя" тэксты. Інакш кажучы, М. тут выступае як адзінка высокага ўзроўню абстракцыі, якая ахоплівае мноства драбнейшых, прыватных мікратэкстаў.

Існуе і больш вузкае разуменне М. як інтэртэксту, калі апошні звязаны з асобным тэкстам вызначанага стылю (маст., навук., публіц. і інш.) і ўяўляе сабою сэнсавую структуру, адчыненую для іншых сэнсаў ("чужых" тэкстаў). Гэтая "адкрытасць" рэалізуецца ў агульным маўленчым руху праз цытаты, спасылкі на іншых аўтараў і іх творы, адсылкі чытача да папярэдніх ідэй, меркаванняў, выказванняў, да ўскоснай цытаты, пры пераказванні, згадваннях, а таксама праз неэксплiцыраванную, ментальную апору на назапашаны чалавецтвам інтэлектуальны багаж і да т. п.

М. у аспекце тэкстацэнтрычнага падыходу паўстае як мадэль асобнага тэксту, які ўключае ў сваю сэнсавую структуру некаторы набор іерархічна спарадкаваных і ўзаемазвязаных мікратэкстаў. У межах дадзенай канцэпцыі таксама можна вылучыць групу больш "шырокага" і больш "вузкага" разумення М.

"Шырокае" разуменне М. звязана з функц.-сэнсавым падыходам да аналізу тэксту. У гэтым выпадку М. выступае ў якасці змястоўнай цэласнасці, у межах якой мікратэксты featured рознага рангу аб'ядноўваюцца не толькі на аснове структурна-кампазіцыйнага адзінства, але, галоўным чынам, на аснове сэнсавага ўзаемадзеяння і логіка-семантычнай узаемаабумоўленасці. Пры гэтым зыходным тлумачальным крытэрыем арганізацыі М. служыць функц. прынцып даследавання, які ўлічвае экстралінгвістычную перадвызначанасць унутранай будовы цэлага твора. Такі падыход дазваляе растлумачыць стылістычную спецыфіку сэнса-тэкстабудавання і самога тэкста як прадукта функцыянальна абумоўленай камунікацыйна-маўленчай дзейнасці.

Разнавіднасцямі мікратэксту ў дадзеным падыходзе служаць такія адзінкі, як

1) *субтэкст* (СТ) – адносна самастойная структурна-сэнсавая адзінка цэлага тэксту (напр., навуковага), якая з'яўляецца сродкам маўленчай рэалізацыі аднаго з аспектаў пазнавальнай, эпістэмічнай, сітуацыі (анталагічнага, метадалагічнага, камунікацыйна-прагматычнага або рэфлектыўнага), суаднясення з пэўным аб'ектам рэчаіснасці і вызначанай мэтаўстаноўкай у навукова-пазнавальнай дзейнасці. Сярод СТ як тэкстаўтвараючых адзінак вылучаюцца асноўныя і дадатковыя. Да асноўных адносяцца СТ новага ведання і метадалагічны СТ, якія найбольш цесна звязаны з асноўнай інфармацыяй твора, паколькі апрадмечваюць у тэксце само новае веданне і спосабы яго атрымання ў пазнавальным працэсе. Да дадатковых адносяцца СТ, якія фарміруюць кантэкст новага ведання, г. зн., якія нясуць дадатко-

вую інфармацыю аб ім; іншасуб’ектныя, рэфлектыўныя і прагматычныя СТ. Кожны з СТ уключае ў свой склад некалькі мікратэкстаў. Такім чынам, навуковы тэкст як макраструктура (макратэкст) аказваецца прадстаўленым сваёй сістэмай мікраструктур (мікратэкстаў) (*гл.* ІНТЭРТЭКСТУАЛЬНАСЦЬ);

2) *разгорнуты варыятыўны паўтор* (РВП) – гэта спецыфічныя мікраструктуры навуковага тэксту, якія ўяўляюць сабой структурна-сэнсавыя сегменты цэласнага апавядання, якая суадносіцца з раней выяўленай у тэксце думкай (становішчам). РВП аднаўляе гэтыя папярэднія думкі не даслоўна, а разгортваючы іх у змястоўным плане, узбагачаючы невялікімі “порцыямі” новага ведання. У залежнасці ад структурных і семантычных асаблівасцей, а таксама ад функцыянальнай ролі ў навукова-пазнавальным дыялогу РВП падраздзяляюцца на розныя групы, падгрупы і разнавіднасці, складаючы іерархічна арганізаваную сістэму мікраструктур у макратэксце;

3) *камунікатыўны блок* – структурна-семантычная тэкставая адзінка, што з’яўляецца вынікам моўнай матэрыялізацыі аднаго або некалькіх камунікатыўна-пазнавальных дзеянняў (сэнсаў) і якая функцыянуе ў навуковым тэксце ў якасці структурнага элемента яго зместу. У працэсе стварэння тэксту К. блокі рэалізуюць пэўныя камунікатыўна-пазнавальныя дзеянні аўтара і выконваюць функцыю ўздзеяння на адрасата. Вылучаюцца наступныя К. блокі ў залежнасці ад камунікатыўна-пазнавальных дзеянняў і ад фрагмента сэнсавага змест: уводзіны тэмы, фармулёўка праблемы, пастаноўка мэты і задач, вылучэнне гіпотэзы і інш. Кожная з гэтых адінак у адным і тым жа творы адзіная, г. зн. не паўтараецца; у межах цэлага тэксту, аб’ядноўваючыся, К. блокі арганізуюць іерархічна спарадкаваную сістэму. І як вынік, фарміруюцькампазіцыйна-сэнсавую структуру навуковагв твора. Такім чынам, К. блокі выступаюць у якасці яго будаўнічых камункатыўна і змястоўна маркіраваных кампанентаў цэлага, або мікратэкстаў (*гл.* КАМУНІКАТЫЎНЫ БЛОК);

4) *тыпавыя комплексы камунікатыўна-пазнавальных дзеянняў* аўтара навуковага твора, якія разумеюцца як жанравыя субформы навукована маўленчага твора (апісальны, класіфікацыйны і інш.). Гэтыя пазнавальна-камунікатыўныя дзеянні рэалізуюцца ў навуковым тэксце ў выглядзе стэрэатыпных у моўным і функцыянальным дачыненні структур і адлюстроўваюць кагнітыўна-стылістычныя асаблівасці маўленчай дзейнасці, якая матэрыялізуецца ў творы. Яны абумоўліваюць макрастуктуру і суперструктурную схему маўленчага жанру навуковага артыкула або манаграфіі, г. зн. іх найважнейшыя тэматычныя і кампазіцыйныя асаблівасці, аб’ядноўваючыся і ўзаемадзейнічаючы ў працэсе разгортвання маўленчай тканіны твора.

Са структурна-семантычным падыходам да аналізу тэксту звязана “вузкае” разуменне М. Тэкст як асобны твор у гэтым выпадку паўстае ў выглядзе макраструктуры, што ўзнікае на аснове логіка-семантычных адносін паміж суперсінтаксічнымі адзінкамі. Пры гэтым у якасці апошніх называюцца складаае сінтаксічнае цэлае (ССЦ), суперсінтксічнае адзінства, празаічная страфа, звышфразавае адзінства

(ЗФА), абзац, сегмент, суперсегмент і інш. Дадзеныя адзінкі вылучаюцца з тэксту на аснове крытэрыя тэматычнай пэўнасці і адрозніваюцца адна ад другой аб'ёмам сваіх мікратэм. Такі сінтактыка-тэматычны падыход да аналізу арганізацыі тэксту не ўлічвае змест цэлага твора і таму адлюстроўвае толькі яго структурныя асаблівасці, пакідаючы без увагі сам працэс, дынаміку тэкстаўтварэння.

Паводле лінгвасацыяпсіхалогіі, у якасці М. выступае сістэма сэнсавых элементаў, функцыянальна аб'яднаных у адзіную іерархічна арганізаваную камунікацыйна-пазнавальную структуру агульнай канцэпцыяй або задумай суб'ектаў зносін. Гэта сістэма фарміруецца мікраструктурамі, пад якімі разумеюцца рознапарадкавыя сэнсавыя блокі-прэдыкацыі: 1) прэдыкацыі першага парадку – гэта асобныя моўныя сродкі і цэласныя выказванні, якія перадаюць асноўную ідэю паведамлення; 2) прэдыкацыі другога, трэцяга і г. д. парадкаў – гэта моўны адзінкі розных рангаў, звязаныя з выражэннем неасноўных, дадатковых сэнсаў і якія адрозніваюцца адна ад другой ступенню аддаленасці ад прэдыкацый першага пардку (асноўнай інфармацыі). Пры гэтым размежаванне сэнсаў на розныя ўзроўні блокаў-прэдыкацый адбываецца з улікам псіхалагічных асаблівасцей успрымання і разумення тэкставай інфармацыі чытачом.

Ва ўсіх гэтых канцэпцыях цэлы тэкст паўстае як макраструктура, заснаваная на ўзаемасувязі іерархічна арганізаваных мікраструктур таго або іншага віду.

**МАКРАТЭМА** – тэма, звязаная найцяснейшым чынам з ідэйным зместам *(гл.)*. Напрыклад, назва рамана І. Мележа "Подых навальніцы" цесна звязана з паслярэвалюцыйным жыццём Палесся.

**МАКСІМА** – кароткае выслоўе. *Слова, дум ніхто не звяжа…* (Я. Купала. Курган).

**МАНАВЕРШ** – аднарадковы верш, напр.: *У родным краю, як у раю* (Прыказка).

**МАНАЛОГ** – разгорнутае, працяглае, тэматычна адзінае выказванне аўтара ці дзейнай асобы, звернутае да іншых асоб (чытача, слухача, гледача таксама) або да самога сябе. МАНАЛОГ АПАВЯДАЛЬНЫ – маналог, які што-небудзь паведамляе; лагічна і паслядоўна арганізаванае паведамленне. МАНАЛОГ АЎТАРСКІ – *гл.* АЎТАРСКАЯ МОВА, ВОБРАЗ АЎТАРА. МАНАЛОГ ДРАМАТЫЧНЫ – разнавіднасць маналога, у якім мова (слоўная інфармацыя) служыць дзеля суправаджэння іншай інфармацыі, г. зн. своеасаблівага тлумачэння мімікі, жэстаў, пластычных рухаў і інш. МАНАЛОГ ЛІРЫЧНЫ – такі маналог, які служыць дзеля выражэння разнастайных пачуццяў і перажыванняў. МАНАЛОГ УНУТРАНЫ – стылістычны прыём літаратурна-мастацкага адлюстравання рэчаіснасці праз унутранае маўленне дзейнай асобы. Напрыклад, маналог Каравая з п'есы А. Макаёнка "Таблетку пад язык".

Маналог – маўленне ад першай асобы, не разлічанае, у адрозненне ад дыялога *(гл.)*, на непасрэдную вербальную рэакцыю іншай асобы (асоб). М. валодае адносна вялікай працягласцю, вызначанай кампазіцыйнай арганізаванасцю і сэнсавай

завершанасцю. Маналагічная форма маўлення рэалізуецца ў розных функц. стылях (аўтарскае маўленне ў мастацкіх творах, тэксты навук. і аф.-справ. стыляў, артыкулы ў газетах, часопісах і да т. п.). М. можа здзяйсняцца як у пісьмовай форме, так і ў вуснай (прамоўніцкае маўленне, навучальная лекцыя, бытавы расповед і г. д.). У вусным М. моўныя сродкі могуць узмацняцца жэстамі, рознымі рухамі цела, мімікай. Гутарковыя маналагічныя тэксты ў параўнанні з адрэдагаванымі пісьмовымі і падрыхтаванымі вуснымі больш імпліцытныя. Шматлікія сэнсавыя сувязі не вербалізуюцца, паколькі прамоўца разлічвае на актыўнае ўспрыманне маўлення, на тое, што слухач сам выявіць гэтыя сувязі.

Тыповай сферай функцыянавання М. з'яўляецца драматургія. Арыентуючыся на вуснае выказванне, драматычны М. дапускае ўжыванне разм. і экспрэсіўна афарбаванай лексікі, выклічнікаў, гутаркова-экспрэсіўных сінтаксічных канструкцый. Для маналагічнага маўлення, якое мае знешняга адрасата, характэрныя такія моўныя сродкі, як звароты, займеннікі і дзеясловы 2-ой асобы, дзеясловы загаднага ладу і іншыя формы волевыяўлення (напр., Ц я р э ш к а *(пераступіўшы парог). Паліна! Полюшка-Поля! Дзе ты тута-а? А-а, вось яна дзе-е! Полюшка! Хуценька саланіну, нясі яйкі, нясі гурочкі-галубочкі, капустачку кісленькую.* – А. Макаёнак. Трыбунал).

Асаблівую разнавіднасць М. уяўляе сабою т. зв. УНУТРАНЫ М. – лінгвістычны прыём, які дазваляе аўтару маст. твора выклікаць у чытача уяўленне аб працэсах унутранага свету героя, сымітаваць эмацыйна-разумовую дзейнасць чалавека ў яе непасрэдным працяканні (струмень узбуджанай свядомасці). Напр., *Такія маглі думаць: знайшоўся смяльчак, цану сабе набівае, рэкламу стварае* (І. Шамякін. Атланты і карыятыды). Сінтаксічныя пабудовы, якія афармляюць рызважанне персанажа, звычайна характарызуецца эліптычнасцю, перарывістасцю. Тыповым для ўнутранага М. з'яўляецца пытанне, якое часта застаецца без адказу: *"Разважанні аб сваіх, з новаю сілай набеглыя на яго, захілілі на час яго раўнівыя выдумкі"*. (Ц я - р э ш к а. … *Яны толькі што… вывелі мяне… у на-чальства! Першы раз у жыцці начальнікам стаў. Ну і адпалілі штуку! А? а ці хто ждаў, а ці хто сніў?..* – А. Макаёнак. Трыбунал).

Маўленчыя тыпы М. (апавяданне, апісанне, разважанне) звязаныя з яго функцыямі (расповед аб падзеі, споведзь, развага на хвалюючую аўтара тэму і г. д.). Тып маўлення шмат у чым вызначае логіка-семантычныя, кампазіцыйна-структурныя, лексіка-граматычныя асаблівасці М. (*гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СЭНСАВЫЯ ТЫПЫ МАЎЛЕННЯ).

Любы маналагічны тэкст у той або іншай меры дыялагізаваны (гэта адносіцца і да тэкстаў, здавалася б, "чыста" маналагічных, напр., пісьмовым творам). Дыялагічнасць, г. зн. выражэнне ў тэксце ўстаноўкі на адрасата, – фундаментальная агульная ўласцівасць маўлення, абумоўленая сацыяльнай сутнасцю мовы і дыялагічнай прыродай мыслення (*гл.* ДЫЯЛАГІЧНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ).

**МАНАРЭМА, МАНАРЭМНЫ СКАЗ** – адначленнае выказванне накшталт *"Заходзьце!", "Змяркалася…"*. *Гл.* РЭМА, ТЭМА.

**МАНАСЕМІЧНЫ** – адназначны. МАНАСЕМІЯ – адназначнасць. МАНАСІЛАБ – аднаскладовае слова. МАНАСІЛАБІЗМ – аднаскладовасць як кананічны тып слова ў данай мове (маўленні).

*Параўн.:* моносиллабизм (ЛЭС, с.310).

**МАНЕР, МАНЕРА** – стылістычныя (стылёвыя) прыёмы, уласцівыя таму або іншаму творцу. *Гл.* ІНДЫВІДУАЛЬНЫ СТЫЛЬ, ІДЫЯСТЫЛЬ.

**МАНТАЖ, ЛІТМАНТАЖ** – злучэнне ў адно цэлае ўрыўкаў з літаратурна-мастацкіх тэкстаў (твораў) для дэкламацыі са сцэны.

**МАНУМЕНТАЛЬНАСЦЬ** – уласцівасць мастацкага вобраза, што адпавядае эстэтычнай катэгорыі ўзнёслага *(гл.)*.

*Параўн.:* монументальное искусство (СЭС, с. 828).

**МАНУСКРЫПТ** – старадаўняя назва рукапісу.

**МАРГІНАЛІІ** – 1) паметы на рукапісе або друкаваным выданні; 2) тэкставая рубрыкацыя, вынесеная за фармат паласы.

**МАРКІРАВАНЫ** – такі, які мае станоўчае моўнае выражэнне; які характарызуецца наяўнасцю карэлятыўнай прыкметы.

*Параўн.:* маркіраваны (СЛТ, 1990, с. 78), маркированный (СЛТ, 1972, с. 154).

**МАСТАЦКА-БЕЛЕТРЫСТЫЧНЫ, МАСТАЦКІ, ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ СТЫЛЬ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

**МАСТАЦКАЕ ВЫХАВАННЕ** – фарміраванне сродкамі мастацтва і мастацкай літаратуры эстэтычнага ўспрымання рэчаіснасці; састаўная частка эстэтычнага выхавання *(гл.)*.

**МАСТАЦКАЕ ЧЫТАННЕ** – від мастацкай дзейнасці, дакладней, эстраднага мастацтва; публічнага выканання твораў разнастайнай літаратуры: вершаў, прозы, публіцыстыкі, драматургіі.

**МАСТАЦКАСЦЬ** – асноўнае патрабаванне літаратурна-мастацкага тэксту *(гл.)*; заключаецца ў тым, што рэчаіснасць пры дапамозе мастацкага слова паказваецца ў агульных, тыповых і асаблівых, індывідуальных рысах, у выніку адлюстраванне атрымлівае надзвычай яркую, жывую і праўдападобную ці праўдзівую выразнасць. *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ МАСТАЦКАЕ.

**МАТЫВАЦЫЯ, МАТЫВІРОЎКА** – сістэма довадаў, аргументаў; абгрунтаванне.

**МАЎЛЕННЕ** – карыстанне мовай для перадачы думкі ў вуснай ці пісьмовай форме.

Агульнапрызнаным слоўнікавым азначэннем маўлення з’яўляецца наступнае: 1) вуснае і пісьмовае карыстанне моваю з мэтай зносін з іншымі членамі пэўнага калектыву або для ўнутранага маналога *(гл.)*; 2) стылістычная разнавіднасць зносін, якая характарызуецца спецыфічным адборам лексічных і граматычных сродкаў у залежнасці ад умоў і мэты камунікацыі *(гл.)*.

Сучаснае беларускае вуснае і пісьмовае маўленне можна класіфікаваць наступным чынам:

1. Уніфікаванае, агульнапрынятае, літаратурнае гутарковае і пісьмовае маўленне.

2. Нелітаратурнае гутарковае і пісьмовае маўленне.

3. Змешанае, гібрыдазаванае, стылізаванае гутарковае і пісьмовае маўленне.

*Параўн.*: речевая деятельность, речевое общение, речевой акт, речевой этикет, речь (ЛЭС, сс. 412-415).

**МАЎЛЕННЕ ДЫЯЛАГІЧНАЕ** – *гл.* ДЫЯЛАГІЧНЫЕ МАЎЛЕННЕ.

**МАЎЛЕННЕ МАНАЛАГІЧНАЕ**, або **МАНАЛОГ** – тып маўленчай дзейнасці чалавека (асобы), разлічанай на апасродкаванае ўспрыманне традыцыйных функцыянальна-сэнсавых разнавіднасцей мастацкага маўлення – апавядання, апісання і разважання (*гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ ТЫПЫ МАЎЛЕННЯ).

**МАЎЛЕНЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ** – сукупнасць псіхафізічных дзеянняў чалавека і яго арганізма, неабходных для фарміравання, перадачы і ўспрымання думкі. М. Дз. аб'ядноўвае мову і маўленне ў адно цэлае – выказванне (вуснае або пісьмовае). Да разнавіднасцей М. Дз. адносяцца гаварэнне і слуханне, пісьмо і чытанне. Вынікам М. Дз. з'яўляюцца выказванне і тэкст *(гл.)*.

*Параўн.*: речевая деятельность (ЛЭС, с. 412).

**МАЎЛЕНЧАЯ КУЛЬТУРА** – частка культуры народа, звязаная з выкарыстаннем мовы. У яе ўключаецца сама мова, яе этнічная спецыфіка, функцыянальныя і сацыяльныя разнавіднасці, увасобленыя ў вуснай або пісьмовай форме. Акрамя таго, у яе ўваходзяць і этнічныя асаблівасці моўнай карціны свету, і звычаі, і правілы паводзін (у тым ліку выкарыстанне невербальных сродкаў), сукупнасць тэкстаў на дадзенай мове. Кожны народ за стагоддзі свайго існавання выпрацаваў сваю М. К., і тое, што ўласціва маўленчай культуры аднаго народа, можа быць зусім неўласціва М. К. іншага народа, хоць ёсць і агульначалавечыя ўласцівасці ў любой маўленчай культуры: абавязкова ёсць уяўленне аб правільнасці маўлення, яе эталоне, прадстаўленыя у нейкіх тэкстах, ёсць перадача ведаў аб ёй (хоць самі спосабы перадачы могуць быць рознымі), абавязкова ёсць правілы ветлівасці (хоць самі гэтыя правілы таксама могуць адрозніваца). Таму можна гаварыць аб рускай, англійскай, кітайскай, японскай і г. д. маўленчых культурах і аб М. К. як агульначалавечым феномене.

Паняцце М. К. шырэйшае за паняцці культуры маўлення, у якое ўключаецца толькі характар выкарыстання мовы, адносіны да яе, але не сама мова і замацаваная ў ёй карціна свету. Рэалізуецца М. К. у маўленні, у працэсе зносін.

Любы народ не аднастайны ні па адукацыі, ні па ступені павагі да мовы, выпрацаваным за стагоддзі правілам зносін, ні па родзе дзейнасці. Адгэтуль паняцце ўнутрымоўных тыпаў М. К. Гэтыя тыпы могуць вылучацца ва ўсім народзеносьбіце той або іншай мовы або толькі сярод тых, хто гаворыць і піша на літ. мове.

Колькасць вылучаных тыпаў у сферы дзеяння літ. мовы зводзяць да 5: поўнафункцыянальны, няпоўнафункцыянальны, сярэднелітаратурны, літаратурнажарганізуючы і штодзённы. Кожны з іх распаўсюджаны ў вызначанай сацыяльнай групе, але гэта не тып маўлення, не сацыялект, а менавіта тып М. К. Сканцэнтруем увагу на больш распаўсюджаных.

*Поўнафункцыянальны* тып назіраецца сярод людзей з вышэйшай адукацыяй, характэрны для людзей з самым высокім узроўнем агульнай культуры. Для яго характэрныя: валоданне ўсімі функц. стылямі літ. мовы, звычка да самакантролю маўлення, навык звароту да слоўнікаў і даведнікаў не толькі ў рамках сваёй прафесіі, максімальна поўнае выкарыстанне ўсіх магчымасцей літаратурнай мовы пры вельмі асцярожным і заўсёды мэтазгодным ужыванні пазалітаратурных сродкаў, прытрымліванні арталагічных, камунікацыйных і этнічных норм. Для носьбітаў гэтага тыпу М. К. эталонам маўлення і прэцэдэнтнымі тэкстамі служаць тэксты класічнай маст. літаратуры і сапраўды ўзорныя тэксты іншых відаў маўлення. Валодаючы мовай (часта і некалькімі), носьбіты не злоўжываюць ні замежнымі, ні зніжанымі слоўцамі, не падмяняюць ні пісьмовае маўленне тым, што ўласціва вуснаму, ні вуснае маўленне канструкцыямі пісьмовага маўлення, свабодна пераходзяць з аднаго функцыянальнага стылю на другі ў залежнасці ад умоў і задач камунікацыі.

Спрыяюць фарміраванню поўнафункцыянальнага тыпу маўленчай культуры выхаванне і навучанне (сям’я, школа, ВНУ), характар прафесійнай дзейнасці, якая патрабуе сацыяльнай актыўнасці і шматрольнасці, але галоўнае – актыўная самаадукацыя, імкненне пашырыць свае пазнанні, праверыць сябе не толькі ў сваёй прафесіі, але і ў мове (праверыць правільнасць вымаўлення, напісання, значэння слоў і г. д.).

*Няпоўнафункцыянальны* тып блізкі да поўнафункцыянальнага і характэрны для людзей усё ж высокай культуры, хоць і менш высокай, чым носьбітаў поўнафункцыянальнага тыпу. Гэта таксама людзі з вышэйшай адукацыяй, але ступень валодання імі літ. мовай не дасягае ўзроўню поўнафункцыянальнага: валоданне не ўсімі функцыянальнымі стылямі (звычайна толькі прафесійна значнымі для іх і гутарковым); не ўсімі багаццямі лексічнай і граматычнай сістэмы (выкарыстоўваецца толькі малая частка сінанімічных магчымасцей мовы); не цалкам размяжоўваюцца імі вусная і пісьмовая формы маўлення (магчымая падмена або валоданне толькі адной з іх). У маўленні іх сустракаюцца парушэнні арталагічных, камунікацыйных і этычных норм (але грубыя парушэнні рэдкія) з-за недастатковай засвоенасці. Гэта як бы несфарміраваны поўнафункцыянальны тып М. К. Спрыяюць гэтаму некаторыя ўмовы сямейнага выхавання (нізкі культурны ўзровень бацькоў, адсутнасць хатняй бібліятэкі), дрэнныя настаўнікі ў школе і ў ВНУ, але галоўныя прычыны – выяўленая прафесійная і сацыяльная аднарольнасць (толькі прамоўца або толькі “кніжны чарвяк” – бухгалтар, працаўнік канцылярыі і г. д.) пры адсутнасці імкнення або належных намаганняў да пашырэння кола сваіх інтарэсаў, звычкі правяраць сябе не толькі ў прафесійнай сферы. Часта гэта інтэлігенты ў першым пакаленні, якія арыентуюцца не на слоўнікі і даведнікі ў тым, што мае дачыненне да мовы, а на тое, што яны чуюць па тэлебачанні, чытаюць у газетах. Іх прэцэдэнтнымі тэкстамі з’яўляюцца не толькі тэксты класічнай літаратуры, але і тэксты СМІ, тэксты “паўмаст.” твораў, тэксты, напісаныя начальнікам або настаўнікам. Паслаблена ў такіх носьбітаў крытычная ўвага да маўлення іншых і да свайго.

*Сярэднелітаратурны* тып характарызуе большасць насельніцтва з сярэдняй адукацыяй, але сустракаецца і ў людзей з вышэйшай адукацыяй. У гэтым тыпе М. К. парушэнні арталагічных, камунікацыйных і этнічных норм частыя і сістэмныя не толькі з-за недастатковага валодання літ. мовай, але найперш з-за свядомага ігнаравання яе норм пры вельмі вялікай самаўпэўненасці ў іх веданні. Як правіла, маўленчыя памылкі суправаджаюцца і фактычнымі, якія сведчаць як аб нізкім узроўні агульнай культуры (у газеце піша пра краіну Нябраска), так і аб празмернай самаўпэўненасці, калі блытаюць імёны і імёны па бацьку вядомых грамадскіх і палітычных дзеячоў.

Прыналежнасць да сярэднелітаратурнага тыпу некаторых журналістаў стварае заганнае кола, бо іх маўленне ўспрымаецца іншымі носьбітамі гэтага тыпу як эталон, а, такім чынам, памылкі журналіста тыражуюцца.

Адчуванне некаторай недасканаласці сваіх маўленчых магчымасцей пры ўласцівай ім самаўпэўненасці прыводзіць носьбітаў гэтага тыпу М. К. або да арыентацыі толькі на кніжнае маўленне, да шырокага ўжывання замежных слоў, або да наўмыснага эпатажу (лаянкавая лексіка аж да мацюка).

Паколькі прэцэдэнтнымі тэкстамі для носьбітаў сярэднелітаратурнага тыпу з'яўляюцца СМІ і псеўдамаст. літаратура, якая адлюстроўвае гэты ж тып, то ён заўсёды самаўзнаўляецца без намаганняў з боку яго носьбітаў.

*Штодзённы* тып не прадугледжвае свядомых адносін да свайго маўлення, выбару патрэбнай формы і патрэбнага стылю. Носьбіты гэтага тыпу М. К. – самага нізкага ў сферы дзеяння літ. мовы – у любых умовах, у тым ліку і афіцыйным становішчы, карыстацца толькі з дзяцінства засвоеным гутарковым маўленнем, і таму яны бездапаможныя перад неабходнасцю выкарыстання маўлення ў яго пісьмовай форме. Іх вусны маналог не будуецца як тэкст, а ўвесь час збіваецца на дыялог з кімсьці з слухачоў (*Зразумеў, не? Ты разумееш?*). У тэлевізійных перадачах, нават калі гэта выступленне запрошана на перадачу перад прысутнымі ў студыі (а галоўны адрасат – тэлегледачы), гэта фактычна дыялог са знаёмым вядучым, у некаторых радыёперадачах – дыялог дыджэя з адным са слухачоў, *што патэлефанаваў на радыё*.

За межамі літ. мовы вылучаюцца *прастамоўны, аргатычны і народна-маўленчы* тыпы, якія характэрны для маўлення малаадукаваных гараджан; фармуюцца ў пэўных сацыяльных групах дзеля "шыфроўкі", утойвання інфармацыі ад старонніх і ў парольнай функцыі; тыповыя для дыялектаносьбітаў з іх асобай культурай, асобымі моўнымі, камунікацыйнымі і этычнымі нормамі і нават уяўленнямі аб свеце. "Выцягванне" з гэтых тыпаў пэўных слоў і форм часам узбагачае літаратурную мову, але часцей засмечвае яе. *Гл.* КУЛЬТУРА МОВЫ (МАЎЛЕННЯ).

**МАЎЛЕНЧАЯ СІТУАЦЫЯ** – сітуацыя, у якой здзяйсняецца маўленчае ўзаемадзеянне паміж камунікантамі. Яе найважнейшыя параметры звычайна апісваюцца на аснове класічных мадэлей камунікацыйнага акту. У айчыннай стылістыцы існуе варыянт, у якім набор узаемазлучаных і часткова пераходзявых параметраў М. С. складаюць: а) партнёры па зносінах – адрасант (адпраўнік, суб'ект

маўлення) і адрасат (атрымальнік); б) рэферэнтная сітуацыя, якая ўяўляецца як фрагмент аб'ектыўнай рэчаіснасці, з якім суаднесены рэферэнцыяльны мост выказвання; в) дзейнасная сітуацыя, у рамках якой адбываецца маўленчае ўзаемадзеянне; г) прадметна-сітуацыйны фон, г. зн. месца і час зносін, усё тое, што адбываецца вакол, прысутныя пры зносінах людзі, сацыяльная, палітычная і гісторыка-культурная сітуацыя; д) канал сувязі, які можа быць акустычным або візуальным, што прадугледжвае наяўнасць або адсутнасць непасрэднага кантакту паміж камунікантамі. Пры гэтым выказванне дэтэрмінуецца не непасрэдна характарыстыкамі М. С., а ўяўленнем аб іх, што склалася ў свядомасці адрасанта.

Гэта мадэль, якая ўключае (у адрозненне ад іншых схем камунікацыйнага акту) параметр дзейнаснай сітуацыі і шырока трактуе прадметна-сітуацыйны фон, ахоплівае тым самым не толькі бліжэйшае, але і шырэйшае сацыяльнае асяроддзе. Менавіта гэта вызначае глыбінныя пласты структуры выказвання. Пры актуалізацыі перажывання ў закончаным выказванні першапачатковая сацыяльная арыентаванасць паведамлення ўскладняецца ўстаноўкай на бліжэйшую сітуацыю гаварэння.

Функцыянальная стылістыка класіфікуе экстралінгвістычныя фактары з пункту погляду іх значнасці для стылеўтварэння і ўводзіць у аналіз услед за базавымі з'явамі больш прыватныя дэтэрмінанты маўлення, а таксама параметры бліжэйшай сацыяльнай сітуацыі (*гл.* СІТУАЦЫЯ МАЎЛЕННЯ).

**МАЎЛЕНЧЫ АКТ** – мэтанакіраванае маўленчае дзеянне, якое здзяйсняецца ў адпаведнасці з прынятымі ў дадзеным грамадстве нормамі камунікацыі; элементарная адзінка моўных зносін. М. А., з'яўляючыся складанаструктураваным утварэннем, уключае: акт вымаўлення; пабудову выказвання па правілах граматыкі дадзенай мовы; прэпазіцыйны акт, які ажыццяўляе рэферэнцыю і прэдыкацыю; ілакутыўны акт, што выражае камунікацыйную мэту. Здзяйсненне маўленчага дзеяння выклікае вызначаныя наступствы (перлакутыўны эфект).

М. А. адбываецца ў пэўнай маўленчай сітуацыі *(гл.)*. Яго ўдзельнікі валодаюць агульнай маўленчай кампенсацыяй і агульнымі ўяўленнямі аб свеце.

Найважнейшым звяном у структуры М. А. з'яўляецца ілакутыўны акт, які называюць таксама ілакутыўнай сілай. Ён адлюстроўвае міжасобасныя адносіны і паказвае, чаго жадае дасягнуць прамоўца сваім выказваннем. Існуе шэраг вымярэнняў, у якіх адбываецца вар'іраванне ілакутыўных актаў. Гэта адрозненне ў мэце дадзенага акту, у выражаных псіхалагічных станах, у энергіі, з якой палаецца мэта, у статуце і становішчы прамоўцы і слухача і інш. У таксанаміі М. А. вылучаюцца наступныя базісныя катэгорыі: рэпрэзентатывы, або паведамленні: *Сёння панядзелак*; дырэктывы, якія з'яўляюцца актамі падахвочвання: *Выключыце тэлевізар*!; камісівы, г. зн. акты прыняцця абязацельстваў: *Абяцаю кінуць курыць*; экспрэсівы, якія выказваюць псіхалагічны стан, зададзенае умовай шчырасці: *Выбачце за тое, што наступіў Вам на нагу*; дэкларацыі, пасродкам якіх усталёўваецца адпаведнасць паміж прэпазіцыйным зместам і рэальнасцю.

Звычайна выказванне ўтрымлівае кампаненты, якія дазваляюць адрасату разважаць аб камунікацыйнай інтэнцыі моўцы, але існуюць і ўскосныя М. А., ілакутыўная мэта якіх не выяўляецца і ўсталёўваецца адрасатам дзякуючы яго камунікацыйнай кампетэнцыі: *Ці можаце вы падаць каву?* (просьба ў форме пытання).

Пад М. А. звычайна разумеюцца аднафразавыя выказванні. Аднак актамі маўленчай камунікацыі з’яўляюцца і тэксты. Вядомыя спробы класіфікацыі тэкстаў як “макраактаў” па ілакутыўнаму крытэрыю. Угэтым выпадку тып макраакту вызначаецца не па сукупнасці выказванняў, якія характарызуюцца той або іншай ілакутыўнай сілай, а па функцыі тэксту як цэлага ў працэсе зносін. Пры такім падыходзе навуковыя артыкулы кваліфікуюцца як рэпрэзентатывы, гарантыйныя лісты як камісівы, распараджэнні, указы як дэкларацыі і г. д. існуе іншы метад сістэматызацыі М. А. (незалежна ад іх памеру). М. А., у тым ліку макраакты, мадэлююцца на аснове семантычнай методыкі пры дапамозе паслядоўнасці сказаў, якія выказваюць матывы, інтэнцыі і іншыя ментальныя акты прамоўцы (Лектар: *Жадаю сказаць вам розныя рэчы аб X; Думаю, што вы павінны ведаць штосьці аб X; Думаю, вы ведаеце, што я ведаю шмат аб X; Гавару гэта, таму што хачу, каб вы ведалі штосьці аб X*).

**МЕДЫТАТЫЎНЫ, МЕДЫТАЦЫЯ** – паглыбленая самасканцэнтраванасць; адлучаны (адлучанасць) ад навакольнага свету.

*Параўн.:* медытацыя (СНСБМ, с. 218).

**МЕЛОДЫКА** – 1) характэрныя рухі голасу пры вымаўленні гукаў, слоў, словазлучэнняў, фраз; 2) сукупнасць уласцівасцей і заканамернасцей, якія вызначаюць тую або іншую мелядычную з’яву. *Гл.* ІНТАНАЦЫЯ.

**МЕТАД МАСТАЦКІ** – творчы метад; гістарычна абумоўлены спосаб адлюстравання рэчаіснасці і тып мастацкага мыслення, сукупнасць прынцыпаў мастацкага адбору. Суадносіцца з мастацкім светапоглядам і стылямі *(гл.)*, з’яўляецца адносна іх больш шырокім, сінтэзуючым паняццем.

**МЕТАД(Ы) ЛІНГВІСТЫЧНАГА АНАЛІЗУ** – гэта 1) сукупнасць розных прыёмаў аналізу тэксту (і яго моўных сродкаў), з дапамогай якіх у стылістыцы фарміруюцца веды аб заканамернасцях функцыянавання мовы ў розных сферах зносін; 2) спосабы тэарэтычнага асваення выяўленага ў працэсе даследавання. Нараўне з выкарыстаннем агульналінгвістычных метадаў стылістыка выпрацоўвае і свае, адпаведныя прадмету даследавання і мэтам аналізу. Методыкай стылістычнага аналізу з’яўляюцца правілы выкарыстання метадаў і прыёмаў. Акрамя таго, паняцце М. Л. А. (як і больш агульнае паняцце “метады лінгвістыч. аналізу”) звязана з паняццямі аспект, канцэпцыя і метадалогія, але не супадае па значэнні ні з адным з іх цалкам.

Агульнавядома, што аспект даследавання – гэта пункт погляду, на якім грунтуецца аналіз аб’екта рэчаіснасці, напрыклад, дыяхранія і сінхранія, парадыгматыка і сінтагматыка, мова і маўленне ў сукупнасці выкарыстаных пры іх вывучэнні метадаў і прыёмаў. Канцэпцыя – пэўны спосаб разумення, трактоўкі якіх-небудзь з’яў, цэнтральная ідэя для іх асвятлення, асноўная задума, канструктыў-

ны прынцып розных відаў дзейнасці; К. прадвызначае рэалізацыю (практычнай праверкі) сваіх уласных прынцыповых палажэнняў. Менавіта ў гэтым сэнсе стылістыка як пэўны спосаб бачання моўных з'яў не толькі па-свойму выкарыстоўвае наяўныя ў лінгвістыцы метады, але і прапаноўвае (распрацоўвае) свае ўласныя. Метадалогія – гэта вучэнне аб прыёмах і сродках навуковага пазнання, гэта сукупнасць метадаў, ужывальных у якой-небудзь навуцы. Такім чынам, метадалогія – гэта найбольш агульнае, найбольш шырокае паняцце. Яно можа быць асновай для шматлікіх канцэпцый. Метад як найважнейшая частка ўключаецца і ў матадалогію, і ў канцэпцыю, хоць распрацоўка яго асноўных прынцыпаў і прыёмаў, паслядоўнасць іх выкарыстання дыктуюцца найперш канцэптуальнымі ўстаноўкамі. Метад, як правіла, уяўляе сабою сукупнасць прыёмаў, якія дзейнічаюць у вызначанай паслядоўнасці.

Метадалагічнай асновай стылістычнага аналізу ў беларускай лінгвістыцы з XIX ст. з'яўляюцца фундаментальныя палажэнні аб сувязі мовы і мыслення, мовы і грамадства, аб сацыяльнай функцыі мовы і яго сутнасці.

З фарміраваннем функц. стылістыкі ў асобную навуковую дысцыпліну асабліва значэнне набываюць праблемы сістэмнасці аб'екта, сацыяльных функцый мовы, адрозніванне мовы і маўлення з акцэнтам на праблеме ўжывання мовы ў розных сферах зносін, звязаных з рознымі відамі дзейнасці і формамі свядомасці. У сувязі з гэтым метадалагічная аснова стылістыкі пашыраецца, абапіраючыся на веды сумежных гуманітарных навук – філасофіі, гнасеалогіі, псіхалогіі, псіхалінгвістыкі, навуказнаўства і інш.

Выкарыстанне таго або іншага метаду ў пэўнай даследчай практыцы залежыць ад мэты даследавання. Калі пад стылістыкай разумеюць лінгвістычную навуку аб сродках маўленчай выразнасці і аб заканамернасцях функцыянавання мовы, абумоўленых мэтазгодным выкарыстаннем моўных адзінак у залежнасці ад зместу выказвання, мэт, сітуацый, сферы зносін і інш. экстралінгвістычных фактараў, то варта прызнаць існаванне розных мэт стылістычнага даследавання, кожная з якіх фарміруе вызначаны методыка-стылістычны кірунак, аспект даследавання. Сёння вылучаюць шэсць такіх кірункаў, якія адрозніваюцца метадамі аналізу аб'екта даследавання: стылістыку рэсурсаў (у тым ліку практычную), функцыянальную стылістыку, стылістыку тэксту, стылістыку мастацкага тэксту, дыяхранічную і супастаўляльную стылістыкі як адгалінаванні ад стылістыкі рэсурсаў і функц. стылістыкі. Пры гэтым прынцыпе функц. стылістыкі – як метадалагічна шырэйшага кірунку – пранікаюць ва ўсе іншыя стыл. кірункі: у межах функц.-стылістычных даследаванняў могуць быць пастаўлены мэты і рашацца задачы, якія адносяцца да любога з кірункаў або адразу да некалькіх з іх, аднак канцэптуальная аснова, мэтавы пачатак усё ж будзе заставацца за функц. стылістыкай *(гл.)*.

**МЕТАМОВА** – спецыяльная мова, якая служыць для апісання іншай, пераважна фармалізаванай мовы.

**МЕТАФАРА** – троп, заснаваны на пераносе назвы (часцей за ўсё падабенства) прадмета ці з'явы, на аналогіі называння і пад. Разнавіднасцямі метафар

з’яўляюцца метаніміі, сінекдахі, увасабленні і інш. МЕТАФАРЫЧНЫ СТЫЛЬ – стварэнне мастацкага тэксту (твора) моўнымі сродкамі з пераноснымі значэннямі слоў. *Параўн.:* АЎТАЛАГІЧНЫ СТЫЛЬ.

**МЕТАФРАЗА** – 1) пераказ тэксту з захаваннем фразавага падзелу; 2) падрадковы пераклад; 3) празаічная перадача вершаў.

**МІЖМОЎНАЯ АМАНІМІЯ І ПАРАНІМІЯ** – гукавое супадзенне або блізкасць паводле гучання, але з неаднолькавымі значэннямі ў розных мовах, напр., бел. *араць* – руск. *орать*, далей адпаведна: *нядзеля – неделя, бялізна – белизна, карысны – корыстный, вячэра – вечерня*, *вячэраць – вечеря* і г. д.

**МІКРАТЭКСТ** – 1) тэкст невялікага памеру, напр., аднарадковік – верш у адзін радок; 2) звычайны просты развіты сказ: *Сонца свеціць на радасць усяму жывому.*

**МІКРАТЭМА** – падтэма. Напрыклад, падтэма кахання ў рамане І. Мележа “Людзі на балоце”.

**МІЛАГУЧНАСЦЬ** – розныя фанетычныя прыёмы: алітэрацыя, асананс, паўторы і інш., якія надаюць маўленню прыемныя, выразныя нюансы: *Усё мілагучна для слыху майго: І звонкае “дзе”, і густое “чаго”*... (П. Панчанка. Родныя словы).

**МІНІЯЦЮРА** – невялікі паводле аб’ёму вершаваны або празаічны твор, з завершанай формай і змястоўнай думкай. *Гл.* АБРАЗОК, ВЕРСЭТ, ЗАМАЛЁЎКА.

**МНАГАЗНАЧНАСЦЬ**, або **ПОЛІСЕМІЯ** – здольнасць моўнай адзінкі выступаць з 2 і больш значэннямі: *ідзе* (цягнік, конь, час, экзамен) і інш.

**МНЕМАНІЧНЫ ВЕРШ** – вершаваны твор практычнага або павучальнага зместу, які фактычна паэзіяй не з’яўляецца. Да М. В. адносяцца ў першую чаргу зарыфмаваныя, дзіцячыя дражнілкі, скорагаворкі *(гл.)*, лічылкі, прыгаворы і інш. Сюды таксама патрэбна адносіць і рэкламнае вершаванне накшталт такога, як:

*Купляйце беларускае, а не заморскае ці рускае!* (З нар.).

*Параўн.:* мнемоніка (БПС, с. 265).

**МОВА** – 1) гістарычная з’ява, якая ўзнікла разам з узнікненнем чалавечага грамадства ў выніку неабходнасці абмену думкамі пры працоўнай дзейнасці людзей; 2) галоўны сродак камунікацыі і мыслення ў чалавечым калектыве; 3) сістэма лексічных, фанетычных і граматычных сродкаў, якія выконваюць камунікацыйную функцыю і забяспечваюць фарміраванне, выражэнне думак, пачуццяў і волевыяўленняў чалавека.

**1) МОВА-АСНОВА; 2) МОВА-КРЫНІЦА; 3) МОВА-ПАСРЭДНІЦА** – 1) пачатковая мова адной групы або цэлай сям’і моў. *Гл.* АГУЛЬНАЎСХОДНЕСЛАВЯНСКАЯ МОВА, ПРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА; 2) мова, з якой запазычваюцца тыя або іншыя элементы, а таксама мова, з якой робіцца пераклад *(гл.)*; 3) мова, праз пасрэдніцтва якой замацоўваюцца інтэрнацыяналізмы *(гл.)* у данай мове.

**МОВА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА** – беларуская мова; мова беларусаў як народнасці і нацыі; старабеларуская мова *(гл.)* і сучасная беларуская мова *(гл.)* у сукупнасці. *Гл.* АГУЛЬНАНАРОДНАЯ, АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА.

**МОВА ДЗЕЙНЫХ АСОБ** – 1) мова герояў, персанажаў *(гл.)* у адрозненне ад аўтарскай мовы *(гл.)* у літаратурна-мастацкім творы *(гл.)*; 2) тое, што і РЭПЛІКІ, СКАЗЫ, ВЫКАЗВАННІ *(гл.)* у драматычным творы.

**МОВА МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** – 1) тое, што і СТЫЛЬ МАСТАЦКІ; 2) разнавіднасць літаратурнай мовы, пры дапамозе якой не абслугоўваюцца, а толькі адлюстроўваюцца ў літаратурна-мастацкіх тэкстах *(гл.)* усе сферы грамадскай дзейнасці людзей, самі людзі, жывая і нежывая прырода і інш. М. М. Л. выступае ў дзвюх разнавіднасцях: вершаванай і празаічнай. На вершаванай мове *(гл.)* часцей за ўсё пішуцца лірычныя і ліра-эпічныя творы, на празаічнай мове *(гл.)* – розныя жанры мастацкай прозы і драматургіі.

Патрэбна адрозніваць, а не атаясамліваць мову сучаснай беларускай мастацкай літаратуры і сучасную беларускую літаратурную мову.

**МОВА І МАЎЛЕННЕ** – супрацьлеглыя з'явы, адметнасць якіх у наступным: 1) мова як сродак паміж індывідамі ў грамадстве – з'ява сацыяльная, маўленне – індывідуальная; 2) мова – патэнцыяльная з'ява, якая ў адносінах да яе носьбіта – граматычная сістэма і слоўнік, маўленне – рэалізацыя гэтай з'явы; 3) мова – устойлівая і даўгавечная, маўленне – нядоўгавечнае, аднакратнае; 4) мова – узуальная з'ява, маўленне – аказіянальная; мова – агульная для ўсіх носьбітаў яе, маўленне – прыватнае; 5) мова – псіхічная з'ява, маўленне – псіхафізічная, матэрыяльная з'ява.

*Параўн.:* мова, мова жэстаў (БМЭ, сс. 352-355).

**МОВА І МЫСЛЕННЕ** – адна з актуальных і складаных праблем, як мовазнаўства, так і логікі, псіхалогіі, філасофіі. Прызнаючы адзінства мовы і мыслення, іх нельга атаясамліваць: 1) мова – асноўны аб'ект вывучэння мовазнаўства, мысленне – логікі, філасофіі, фізіялогіі, псіхалогіі, сацыялогіі і інш.; 2) асноўныя адзінкі мовы – фанема, марфема, слова, сказ, а формы мыслення – паняцце, суджэнне, розумазаключэнне; 3) мова – матэрыяльная: яе вусная форма ўспрымаецца на слых, пісьмовая – зрокава, а таксама і ідэальная: як семантыка яе моўных адзінак. Мысленне ж – ідэальнае; 4) мова рэалізуецца і развіваецца з улікам і агульных, і нацыянальных заканамернасцей.

*Параўн.:* мова і грамадства (БМЭ, сс. 355-356), мысленне палітычнае (БПС, с. 267).

**МОВА І ПАЗНАННЕ** – найвышэйшыя формы адлюстравання рэчаіснасці яе аналізу і ўзнаўлення навакольнага свету ў мысленні. Гэта працэс набыцця, фіксацыі праз мову ведаў, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне. Мова прымае дзейсны ўдзел як у замацаванні вынікаў пазнавальнай дзейнасці, так і ў самім пазнанні невядомага, якое ажыццяўляецца ў паняццях, суджэннях, розумазаключэннях і адбываецца ў напрамку ад з'явы да сутнасці, ад адзінкавага да агульнага, ад выпадковага да заканамернага і ўсеагульнага.

*Параўн.:* мова і культура, літаратура (БМЭ, сс. 356-361).

**МОЎНА-ВЫЯЎЛЕНЧЫЯ СРОДКІ ТЭКСТУ** – сродкі, што надаюць выказванню вобразнасць і выразнасць (*гл.* ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ), выконваюць функцыю маляўнічага адлюстравання рэчаіснасці і асацыятыўна звязаныя са

зрокавымі, слыхавымі і іншымі адчуваннямі; тропы *(гл.)* і фігуры маўлення *(гл.)*. М.-В. С. Т. могуць быць як нарматыўныя (агульнаўжывальныя), так і ненарматыўныя (аказіянальныя).

**МОЎНАЯ АДЗІНКА** – *гл.* АДЗІНКІ МОВЫ, УЗРОЎНІ МОВЫ.

**МОЎНАЯ ГРУПА** – група роднасных моў, якія маюць падабенства на сучасным этапе іх развіцця. Напрыклад, славянская група моў у індаеўрапейскай сям'і *(гл.)*.

**МОЎНАЯ КАМУНІКАЦЫЯ** – моўныя (маўленчыя) зносіны.

**МОЎНАЯ (ЛІНГВІСТЫЧНАЯ) КАТЭГОРЫЯ** – адна з сінтаксічных і семантычна-сінтаксічных катэгорый, якая ўказвае на агульнамадальны і агульнапрэдыкатыўны змест выказвання і атрымлівае канструктыўнае, прасадычнае і іншае выражэнне. *Гл.* МАДАЛЬНАСЦЬ, ПРЭДЫКАЦЫЯ, ПРАСОДЫКА.

**МОЎНАЯ НОРМА** – *гл.* НОРМА ЛІТАРАТУРНАЯ, ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА.

**МОЎНАЯ СІСТЭМА** – сукупнасць гістарычна ўзніклых і рэальных для пэўнай мовы ўзаемазвязных з'яў, якімі абумоўленыя фанетычныя, граматычныя, лексічныя і семантычныя асаблівасці мовы пэўнага народа.

**МОЎНАЯ СЯМ'Я** – сукупнасць некалькіх груп (падгруп) моў, якія паходзяць з адной мовы-асновы, напр., індаеўрапейская сям'я моў.

**МОЎНЫ** – прыметнік ад назоўніка МОВА: як азначальнае да азначаемага *(гл.)*.

**МОЎНЫЯ ШТАМПЫ і ТРАФАРЭТЫ** – *гл.* ШТАМПЫ МОЎНЫЯ. "Побач з канцылярызмамі вельмі псуюць тэкст м о ў н ы я ш т а м п ы і т р а ф а р э т ы. Асабліва многа іх сустракаецца ў газетных артыкулах і карэспандэнцыях. Тут, у першую чаргу, кідаецца ў вочы частае выкарыстанне слоў у нейкім агульным, няпэўным, прыблізным значэнні. Да ліку такіх універсальных слоў належаць *пытанне, мерапрыемства, работа, ахопліваць, моманты, за лік* і г. д. Пішуць: *Пытанні вучобы ў цэнтр увагі, пытаннем догляду пасеваў не надаецца належнай увагі, пытанні павышэння якасці прадукцыі, пытанні ўздыму культуры* і г. д." (М. Цікоцкі. Практычная стылістыка).

*Параўн.:* штамп (СЛТ, 1990, с. 171), клише, штамп (СЛТ, 1972, сс. 135-136, 485).

**МЯСЦОВЫ КАЛАРЫТ** – перадача ў творах мастацкай літаратуры асаблівасцей побыту, пейзажу, мовы, уласцівых пэўнай мясцовасці. Напрыклад, няпоўнае аканне ў рамане І. Мележа "Людзі на балоце": *багато, болото, дзіво, можно* і інш.

# Н

**НАБОР** – 1) друкарскі або камп’ютарны тэкст; 2) друкарскія літары для падрыхтоўкі друкаванага тэксту.

**НАВАТАРСТВА** – 1) дзейнасць наватараў; 2) усё новае, прагрэсіўнае; 3) абнаўленне і ўзбагачэнне зместу і формы *(гл.)* літаратуры (творчасці) новымі мастацкімі дасягненнямі. НАВАЦЫЯ – нешта новае; новаўвядзенне.

**НАВАТВОР, ІНДЫВІДУАЛЬНА-АЎТАРСКІ НАВАТВОР** – *гл.* АЎТАРСКІЯ НАВАТВОРЫ, АКАЗІЯНАЛІЗМЫ.

**НАВУКОВАЯ ПАЭЗІЯ** – жанравая разнавіднасць медытатыўнай лірыкі.

**НАВУКОВЫ СТЫЛЬ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

**НАЗВА, НАЙМЕННЕ, НАМІНАЦЫЯ** – 1) слова, словазлучэнне, сказ, выкарыстаныя ў назыўной, намінацыйнай функцыі; 2) *гл.* ЗАГАЛОВАК ТЭКСТУ (ТВОРА).

**НАРАТЫЎНАЯ СТРУКТУРА, НАРЭМА** – апавядальная (распавядальная) адзінка тэксту. *Гл.* АПАВЯДАЛЬНАЯ МОВА, РАСПОВЕД.

**НАРОДНА-ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА** – *гл.* ДЫЯЛЕКТНАЯ МОВА.

**НАРОДНАЕ ВЕРШАСКЛАДАННЕ** – самая старажытная сістэма вершаскладання, якая ўзнікла ў народнай паэтычнай творчасці ўсходніх славян у перыяд сінкрэтычнага мастацтва, дзе слова існавала непадзельна ад музыкі, жэсту, руху. Асноўнымі жанрамі Н. В. з’яўляюцца быліны, думы, галашэнні, замовы і інш.

**НАРОДНАЯ ЭТЫМАЛОГІЯ** – 1) пераасэнсаванне запазычаных моўных адзінак шляхам устанаўлення сувязі іх, часцей за ўсё фанетычных, з роднай мовай, напр., *пінжак* нібыта ад слова *спінжак*, што надзяваюць на спіну; 2) вызначэнне этымалогіі слова праз яго ўнутраную форму *(гл.)*, напр., *вецер* ад *вецце, горкі* ад *гора, казаць* ад *каза* і г. д.

**НАЦІСК** – 1) выдзяленне аднаго са складоў у слове: *слоўны* Н; 2) выдзяленне аднаго са словазлучэнняў у сказе (выказванні): *тактавы* (сінтагматычны) Н.; 3) выдзяленне фразы: *фразавы* Н.; 4) выдзяленне асобнага (важнага ў сэнсавых адносінах) слова, словазлучэння або невялікай фразы: *лагічны* Н.; 5) наўмыснае падаўжэнне вымаўлення галоснага ў слове: *эмфатычны* Н. Напрыклад: *Слава Радзі-і-іме*… (Гімн Рэспублікі Беларусь).

**НАТАТКА, ЗАМЕТКА** – 1) газетны жанр; 2) кароткі запіс.

**НЕАЛАГІЗМЫ** – словы або словазлучэнні, якія з’яўляюцца ў мове ў сувязі з узнікненнем новых прадметаў ці паняццяў пры росце навукі, тэхнікі, вытворчасці або пры змене грамадскага ладу, грамадскіх адносін паміж людзьмі. *Гл.* АЎТАРСКІЯ НАВАТВОРЫ.

**НЕВЕРБАЛЬНЫ КАНТЭКСТ (ТЭКСТ)** – кінетычны кантэкст, які ўключае міміку, жэсты, пантаміміку і заўсёды суправаджае вербальны тэкст, а часам і замяняе яго. НЕВЕРБАЛЬНАЕ МЫСЛЕННЕ – мысленне наглядна-вобразнае і практычна-дзейснае.

*Параўн.:* мова жэстаў (БМЭ, сс. 354-355).

**НЕДАКЛАДНАЯ, НЯПОЎНАЯ РЫФМА** – прыблізная рыфма, якая вызначаецца адсутнасцю поўнай эўфанічнай сугучнасці ў заключных частках рыт-

марада: *У гародзе, у гародзе расцвітаюць вішні, Дайце ж тога кавалера, Што пад мае мыслі* (Народная песня).

**НЕЙТРАЛІЗАЦЫЯ** – пазбаўленне дыферэнцыяльных прыкмет, паводле якіх супрацьпастаўляюцца моўныя адзінкі. НЕЙТРАЛЬНЫЯ МОЎНЫЯ (МАЎЛЕНЧЫЯ) АДЗІНКІ – такія М. (М.) адзінкі, якія пазбаўлены стылістычнай афарбоўкі і не замацаваныя за пэўным стылем мовы (маўлення).

**НЕЛІТАРАТУРНЫЯ МОЎНЫЯ АДЗІНКІ** – ненарматыўныя словы, словазлучэнні, сказы, якія не ўваходзяць у склад літаратурнай мовы, а ўжываюцца на пэўнай тэрыторыі або ў асяроддзі якой-небудзь сацыяльнай групы людзей. У мове мастацкай літаратуры такога роду моўныя адзінкі выступаюць як дыялектызмы, жарганізмы, вульгарызмы і інш., а таксама як прастамоўныя словы і выразы. *Гл.* ДЫЯЛЕКТЫЗМЫ, ЛАКАЛІЗМЫ, РЭГІЯНАЛІЗМЫ, ЖАРГАНІЗМЫ, ВУЛЬГАРЫЗМЫ, АРГАТЫЗМЫ.

**НЕПАСРЭДНАЕ ЗАПАЗЫЧ(В)АННЕ** – прамое запазыч(в)анне, узятае з чужой мовы самастойна, г. зн. без мовы-пасрэдніцы *(гл.)*: *школа, кафедра, акадэмія.*

**НЕСВАБОДНЫЯ, УСТОЙЛІВЫЯ СЛОВАЗЛУЧЭННІ** – вельмі моцна звязаныя і граматычна, і сэнсам словазлучэнні, у якіх словы-кампаненты трацяць свае лексічныя значэнні, а ўсё Н., У. С. набывае значэнне адзінага слова, паняцця, тэрміна, выступаючы як адзін член сказа або выказвання. *Гл.* ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ.

**НЕСПАЛУЧАЛЬНАСЦЬ МОЎНЫХ АДЗІНАК** – нязодльнасць моўных (маўленчых) адзінак як элементаў мовы (маўлення) злучацца (спалучацца) адна з другой.

**НІЗКІ СТЫЛЬ** – *гл.* СТЫЛЬ.

**НОВАЕ СЛОВА** – *гл.* НЕАЛАГІЗМЫ.

**НОРМА** – агульнапрынятае правіла ў мове, літаратуры, кнігадрукаванні.

**НОРМА ЛІТАРАТУРНАЯ** – абавязковая норма для ўсіх, хто карыстаецца данай літаратурнай мовай *(гл.)*. НОРМА ЛІТАРАТУРНАМОЎНАЯ – выпрацаванае на працягу развіцця мовы, найбольш пашыранае і агульнапрынятае выкарыстанне моўных сродкаў, якое стала ўзорным і таму заканадаўча замацаваным у выглядзе правіл, рэгламентацый. У нарматыўных граматыках і слоўніках разглядаюцца і тлумачацца фанетычныя і арфаэпічныя, графічныя і арфаграфічныя, лексічныя і фразеалагічныя, словаўтваральныя і марфалагічныя, сінтаксічныя і стылістычныя нормы на пэўным сінхронным зрэзе *(гл.)*. НЯЎСТОЙЛІВАЯ (СЛАБАЯ) НОРМА – норма літаратурнай мовы, што вар'іруецца і паступова выцясняецца найбольш ужывальным варыянтам. Тыповым прыкладам з'яўляецца выцясненне форм роднага склону формамі вінавальнага пры дзеяслоўным кіраванні з адмоўем "не": замест *не чытаў кніжкі* ўжо часцей ужываецца *не чытаў кніжку* і шмат інш.

**НЯПОЎНАГАЛОССЕ** – наяўнасць спалучэнняў *-ра, -ла, -ре, -ле* ў стараславянскай мове, а пад яе ўплывам у беларускай, украінскай і рускай мовах, напр.: *улада,* але *валодаць, валадар; срэбра,* але *серабро, сярэбраны; Млечны шлях,* але *малочныя берагі* і шмат інш.

**НЯПОЎНЫ СКАЗ** [1] – сказ (выказванне, рэпліка ў дыялогах) з пропускам тых або іншых членаў у залежнасці ад кантэксту і мэты выказвання; пропуск, відавочны з папярэдняга. Напрыклад:

*– Прыехаў! Не забуў! – голас яе [Ганны. – М. А.] перарываўся.*

*– Не…*

*– Я думала забуў!*

*– Скажаш!..*

*– Не прыязджаў доўго!*

*Ён [Васіль. – М. А.] памаўчаў.*

*– Не так проста…* (І. Мележ. Завеі, снежань).

**НЯПОЎНЫ СКАЗ** [2] – просты ці складаны сказ з прапушчанымі кампанентамі (членамі сказа), якія лёгка выяўляюцца з папярэдняга кантэксту або сітуацыі: *І Марыля заплакала. Заплакала невясельнымі слязьмі…* (Я. Брыль. Марыля).

**НЯЎЛАСНА-АЎТАРСКАЯ МОВА** – элементы дыялагічнага маўлення ў аўтарскім. Напрыклад: “Вось хоць бы гэты дзед Мікіта. Сівы, як голуб. Востры погляд, калючыя вочы, гатовыя пранізаць. Старасць прыгнула яго крэпкі стан і кінула на твар і на высокі лоб цэлую сетку маршчын. *Але што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады! І не было ў сяле роўнага яму. Такія штукі выкідваў дзед Мікіта, якіх цяпер ніхто не патрапіць, бо хіба цяпер такі народ? Ды што маладыя гады?* Нават і зараз, нягледзячы на свае восемдзесят год, дзед Мікіта за пояс маладога заткне” (Я. Колас. У палескай глушы).

**НЯЎЛАСНА-ПРОСТАЯ МОВА (ПРАМАЯ) МОВА** – падробка аўтарскай мовы пад мову героя, асабліва калі аўтар гаворыць нібыта словамі свайго героя накшталт наступнага ўрыўка: “Ён даўно ўжо Сяргей, а не Сярожа, ён ужо забыўся даўно, – відаць, выцер з памяці ўсё, што калісьці было. *А ты крычы, ты ўспамінай, раздзірай сваю душу, дурніца, хоць да крыві…*

*А то ж было яно, калі ён быў і для яе Сярожка. Ох, як даўно гэта было! Не, не даўно, здаецца толькі ўчора*” (Я. Брыль. Галя).

*Параўн.:* няўласна-простая мова (Рагойша, 2001, с. 214).

## О

**ОДА** – 1) урачысты верш, прысвечаны асобе ці падзеі; 2) іранічная агульная назва надзвычай хвалебнага верша; 3) сатырычная жанравая форма, напр., “Ода футбольнаму мячу” Н. С. Гілевіча. *Параўн.:* “Ода пешаходу” П. Панчанкі, “Ода Еве” П. Макаля, “Ода прозе” М. Стральцова, “Ода трактарнаму заводу” Хв. Жычкі і інш.

*Параўн.:* ода (Рагойша, 2001, сс. 214-215).

**ОКСІЯ** – знак націску над літарай у царкоўна-славянскіх кнігах. *Тма, мна знаю, а оксію не ўцямлю і дасюль* (Я. Купала. Гайдамакі).

**ОНІМЫ**, або **ПАЭТОНІМЫ** – геаграфічныя назвы і імёны людзей, выкарыстаныя тым або іншым пісьменнікам, напр., паводле В. Рагойшы, Я. Колас ужыў 252 мужчынскія імёны і 142 жаночыя (Рагойша, 2003, с. 67).

# П

**ПАБОЧНЫЯ КАМПАНЕНТЫ СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ)** – словы, словазлучэнні, сказы, якія выражаюць адносіны да таго, што гаворыцца, утрымлівае ацэнку сказанага або спасылку на крыніцу выказвання. *“Мусіць, я, дапраўды, ліха”, – сам сабе казаў Сымон…* (Я. Колас. Сымон-музыка).

**ПАБУДЖАЛЬНЫ СКАЗ** – сказ або аднасказавае выказванне, у якім выражаецца волевыяўленне, пабуджэнне да выканання просьбы, загаду, пажадання, парады, закліку. *Гл.* КЛІЧНЫ СКАЗ.

**ПАВЕДАМЛЕННЕ** – камунікацыйны аспект сказа, выказвання: інфармацыя, закладзеная ў выказванні.

**ПАДАГУЛЬНЕННЕ** – падвядзенне агульнай рыскі; заключэнне. *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ.

**ПАДРАЗУМЯВАННЕ** – перадача інфармацыі не шляхам адкрытага выражэння моўных адзінак, а схаванага “між радкоў”, імпліцытнага *(гл.)*. ПАДОБНАЕ, ПАДОБНАСЦЬ – наяўнасць агульных або падобных рыс; падабенства. ПАДТЭКСТ – 1) унутраны, прыхаваны сэнс якога-небудзь тэксту ці выказвання; 2) мастацкі прыём адлюстравання думкі, пачуцця, што выказаныя не непасрэдна, а падразумяваюцца, угадваюцца ў мастацкіх дэталях, рэпліках персанажаў *(гл.)*, у апісаннях прыроды, абстаноўкі і г. д. *Глухла поле, замірала, Як бы дух пранёсся злы, І ў задуме пазірала Даль з-пад шэрае імглы…* (Я. Колас. Сымон-музыка).

*Параўн.:* падобнасць, падтэкст (ТСБЛМ, 2002, сс. 414, 418).

**ПАЛАНІЗМЫ** – словы і выразы, запазычаныя з польскай мовы: *быдла, маёнтак, людовы дом, нех жые сто лят* і шмат інш.

**ПАЛЕАГРАФІЯ** – дапаможная гістарычная і філалагічная дысцыпліна, якая вывучае знешні выгляд, матэрыял і графіку рукапісаў.

**ПАЛЕАНТАЛОГІЯ ЛІНГВІСТЫЧНАЯ** – раздзел мовазнаўства, які мае на мэце ўстанавіць паводле лінгвістычных паказчыкаў характар мыслення, умовы жыцця і тэрыторыю распаўсюджання носьбітаў данай мовы.

**ПАЛІЛОГ** – 1) форма і жанр гутарковага маўлення, што зводзяцца да размовы некалькіх асоб; 2) адлюстраванне ў літаратурна-мастацкім творы размовы трох і больш асоб (герояў, персанажаў).

**ПАЛІНДРОМ** – слова, фраза, верш, што маюць аднолькавы сэнс пры чытанні іх злева направа і справа налева: *наган; шалаш; “Рогі гор”* В. Жыбуля і г. д.

*Параўн.:* паліндром (Рагойша, 2001, сс. 217-218).

**ПАМЫЛКА** – 1) няправільнасць; 2) парушэнне нормы *(гл.)*.

**ПАРАДАК СЛОЎ ПРАМЫ** – звычайны, агульнапрыняты, нармальны парадак членаў сказа (выказвання): дзейнік перад выказнікам, азначэнне перад дзейнікам, дапаўненне пасля выказніка, акалічнасць пера выказнікам.

**ПАРАЛЕЛІЗМ** – фігура маўлення, заснаваная на аднатыпных сінтаксічных канструкцыях (*гл.* ПАЎТОР). Напрыклад, у вершы *“Родная мова”* М. Танка.

**ПАРАЛЕЛЬНАЯ СУВЯЗЬ** – спосаб злучэння, пры якім сказы не звязваюцца адзін з адным, не нанізваюцца паслядоўна, а супастаўляюцца (супрацьпастаўляюцца) або адлюстроўваюць пералік пэўных дзеянняў, падзей, з’яў. Напрыклад:

*Хто ж ты ёсць, чалавек?*

*Як з’явіўся і для чаго існуеш?*

*Ты ўпрыгожанне на зямлі ці, наадварот, – яе ганьба і цвіль?*

*Маленькі ў макракосмасе і вялізны ў мікракосмасе?*

*Тут ты не ўмяшчаешся ні ў адну з ячэй, а там ніводная ячэя не заўважае цябе – ат, нейкая пылінка.*

*Ты ўвесь з супярэчнасцей і нечаканасцей.*

*Ты пішаш кнігі, і ты ж паліш іх потым на кастрах.*

*Ты паказваеш сябе разумным і робіш тое, што могуць зрабіць толькі дурні.*

*Ты нараджаеш чалавека – свой працяг, і ты ж знішчаеш гэтага чалавека – нібыта хочаш, каб працягу гэтага не было.*

*Дык што ж ты ёсць, чалавек?* (Я. Сіпакоў. Узятак з маўчання).

Пры паралельнай сувязі кожны раз сэнсава звязаны з першым, пазбаўленне ад якога прывяло б да страты сувязі паміж сказамі наступных структурных элементаў.

**ПАРАЛІНГВІСТЫКА** – раздзел мовазнаўства, які вывучае дыяпазон мадуляцый голасу, яго эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, жэсты, міміку і інш.

**ПАРАНАМАЗІЯ** – фігура маўлення, заснаваная на блізкіх па гучанні, але розных паводле значэння слоў у сказе. *Віцебшчына! Ты лёсам / Не выпешчана… Ты войнамі выпесчана* (Р. Барадулін. Віцебшчына! Ты лёсам…).

**ПАРАЎНАННЕ** – 1) троп; 2) паняцце большай або меншай ступені якасці. *Як сама царыца ў залатой кароне…* (Я. Купала. Жняя). ПАРАЎНАЛЬНЫ ПАРАЛЕЛІЗМ – выказванне, што мае форму складанга сказа, часткі якога з’яўляюцца параўнаннямі і знаходзяцца ў адносінах прамога або адваротнага паралелізму *(гл.)*. Напрыклад:

*Не віхор калыша лесам,*
*Не ваўкі заводзяць,*
*Не разбойнікі гурмою*
*За здабычай ходзяць.*

*На Украіне пан Патоцкі,*
*Пан з Канёва родам,*
*З сваёй хеўрай гаспадарыць*
*Над бедным народам.*

(Я. Купала. Бандароўна).

Такога роду паралелізм называецца адмоўным параўнаннем.

**ПАРТРЭТ** – апісанне ў літаратурна-мастацкім творы знешняга выгляду асобы (героя, персанажа), рыс твару, фігуры, адзення, манеры паводзіць сябе. У П. выяўляецца індывідуальнасць дзейнай асобы (героя, персанажа), яго сацыяльная і нацыянальная прыналежнасць, духоўны свет, псіхалогія і г. д. П. можа быць дынамічным, псіхалагічным і цэласным або дэталізаваным. ПАРТРЭТ ЛІТАРАТУРНЫ – літаратурная біяграфія, біяграфічны нарыс пра пісьменніка, мастака, культурнага ці грамадскага дзеяча. ПАРТРЭТ МАЎЛЕНЧЫ – маўленчая (моўная) характарыстыка персанажа (героя).

**ПАРЦЭЛЯЦЫЯ** – фігура маўлення, пры якой асобныя члены (часткі) сказа, самі сказы разглядаюцца як самастойныя і адасобленыя (інтанацыйна ці знакамі прыпынку). Напрыклад: *Тое, што выспела ў ім, ён выказаў. Далейшае ж было вельмі цьмяным. Трэба было разабрацца, падумаць. А думалася цяжка. У галаве не было яснасці. Цяжка, горача біла ў скроні* (І. Мележ. Завеі, снежань).

**ПАРЭМІІ, ПАРЭМІЯЛАГІЧНЫЯ СРОДКІ** – прыказкі і прымаўкі, вобразныя выслоўі, што выкарыстоўваюцца ў маўленні з мэтай узмацнення выразнасці: *Клін клінам выбіваюць; Рэшатам вады не наносіш...* (Прыказкі і прымаўкі).

**ПАСЛЯДОЎНАЯ СУВЯЗЬ** – *гл.* ЛАНЦУГОВАЯ СУВЯЗЬ.

**ПАСТАЯННЫ, ФІКСАВАНЫ НАЦІСК** – націск, замацаваны за пэўным складам слова, напр., у французскай мове – на апошнім, у польскай – на прадапошнім, у чэшскай – на першым.

**ПАЎЗЫ** – перапынкі ў гучанні паводле пэўных прычын. Трэба адрозніваць П. папераджальныя, раздзяляльныя, сэнсавыя і рытмічныя.

**ПАЎПРОСТАЯ**, або **ЎСКОСНА-ПРОСТАЯ, МОВА** – сінтэзаваная, або змешаная, ускосная і простая мова *(гл.)*. Напрыклад: “Пасля даклада дырэктара *аб тым, што “перад намі, таварышы, стаяць вялікія задачы*”, сядзелі, чухалі патыліцы, раіліся – як выйсці з гэтага цяжкага становішча” (І. Шамякін. Крыніцы).

**ПАЎТОР** – адзін з асноўных прынцыпаў арганізацыі мовы мастацкай літаратуры. Адрозніваюць П. рытмічныя, П. лексіка-стылістычныя, П. гукавыя, П. кампазіцыйныя і інш. (*гл.* РЭФРЭН, АНАФАРА, ЭПІФАРА, КАЛЬЦО).

Паралельная сувязь *(гл.)* сказаў з лексічна-семантычным і сінтаксічным П. Да П. К. паралельнага разгортвання сэнсавага адзінства адносяць наступныя: 1) прыём паралелізму; 2) раздзяленне; 3) ахоп, ці прыём рамкі; 4) прыём кантрасту; 5) канцэсія; 6) напружанне (або ўтрыраванне); 7) прыём дылемы [Н. У. Данілеўская, – СЭСРЯ, 2006, сс. 177-179]. Кожны з названых прыёмаў знайшоў адлюстраванне ў беларускіх літаратурна-мастацкіх тэкстах.

1. Самым распаўсюджаным з’яўляецца прыём *паралелізму*, якому ўласціва структурная і лексічная адпаведнасць элементаў страфы *(гл.)* (або строф):

*Попел і чорныя цені майна.*
*Вые ў комінах скруха.*
*Як называюцца слёзы? –*
*Вайна.*
    *Смерць.*
        *Галадоўка.*
            *Разруха.*
*Спее сусветнага жаху града.*
*Хто пазбірае каменне?*
*Як называюцца слёзы? –*
*Бяда.*
    *Здрада.*
        *Разрыў.*
            *Адчужэнне.*

*Мілы, мы знalі кахання палын,*
*Трушчыць як сэрцы – самота.*
*Як называюцца слёзы? –*
*Святлынь.*
*Здзіўленне.*
*Пяшчота.*
*Крэўнасць зарук, нібы іскры з кастра…*
*Свеце бянтэжны мой, дзе я?*
*Як называюцца слёзы? –*
*Маці.*
*Планета.*
*Надзея.*

(Я. Янішчыц. Як называюцца слёзы).

Працытаваны верш служыць прыкладам сінтаксічнага паралелізму *(гл.)* канцавых элементаў строф. Стылістычная функцыя праілюстраванага кампазіцыйнага прыёму ўзмацняецца паўторам пытальнага сказа (*Як называюцца слёзы?*), а таксама спецыфічным афармленнем, накіраваным на візуальнае *(гл.)* успрыняцце. Такая ступеньчатая арганізацыя стварае ўражанне паслядоўнага стварэння асацыяцыйнага рада, выкліканага адмоўнымі (першая і другая страфа) і станоўчымі (трэцяя і чацвёртая страфа) эмоцыямі. Адсутнасць радковага прабела паміж строфамі накіроўвае на роздум аб імпліцытным *(гл.)* аб'яднанні зместу: гора і радасць заўсёды ідуць побач, іншы раз і ўстанавіць выразна нельга, дзе заканчваецца адно і пачынаецца другое, а "паласатае" жыццё пароўну адмерае чалавеку і горкіх, і шчаслівых хвілін. Прыём паралелізму ўласцівы як для паэтычнага, так і для празаічнага маўлення, прычым заўсёды аказвае эмацыянальнае ўздзеянне на рэцыпіента:

*Наперадзе – бязмежны абсяг Дзвіны, чайкі, людскія ўсмешкі. За плячамі – сцяна, гісторыя, продкі…* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

2. *Раздзяленне*, у аснове якога знаходзіцца лагічная аперацыя падзелу паняцця:

*Шмат камянёў спрадвеку драмала на гэтай зямлі. Іх вырваў з абдымкў суровых паўночных гор ледавік, прывалок сюды і, страціўшы сілы, кінуў у дрымучых лясах, на зялёных лугах. Большасць з іх сцерлася на арэх, на гарох, але некаторыя, веліканы з веліканаў, палохалі людзей сваімі незвычайнымі памерамі. На гэтых камянях полацкія князі, пачынаючы з Рагвалода, загадвалі высякаць свае імёны* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

У мастацкіх тэкстах лагічнае раздзяленне не праводзіцца катэгарычна, яно "схавана", што пацвярджаецца прыведзеным прыкладам. Падзел закранае апісанне камянёў (*шмат камянёў*), супрацьпастаўляецца лёс *большасці з іх* і *некаторых*. Пры раздзяленні звычайна адсутнічае лексічны паўтор, таму асаблівая ўвага канцэнтруецца менавіта на сэнсавай адпаведнасці сказа, лагічнага адзінства.

3. *Ахоп, ці прыём рамкі*, грунтуецца таксама на паралелізме або лексічна-сінтаксічнай аднатыповасці (часам нават паўторы) канструкцый, але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра сугучнасць пачатку і канца лагічнага адзінства:

*Чалавек як бы раствараецца ў кругабезе няспынных дзён. Толькі зробіць адно, як навальваецца другое. Але на ўсёй Полацкай зямлі сонцаварот для смерда пачынаецца з Калядаў. А там ён ужо цвёрда ведае, што ад Калядаў да Звеставання 12 сядміц, да Юр'я – 16, да Міколы – 20, да Купалы – 26 і да Калядаў таксама 26 сядміц. Вось і ўвесь клубок часу, у які кароткай ніткай уплецена чалавечае жыццё* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

Падкрэсленыя першы і апошні сказы сугучныя па сэнсе, яны нібы акаймоўваюць лагічнае адзінства, ствараючы ўражанне сканцэнтраванасці ў іх асноўнай думкі. Рамачнае *(гл.)* афармленне можа спалучацца з іншымі прыёмамі, нават мець некаторыя ўласцівасці паслядоўнага злучэння, аднак асноўная мэта такога К. П. – менавіта поўнае (калі пачатковы і завяршальны радок адзінства мае аднолькавае лексічна-семантычнае афармленне) або частковае (як у прыведзеным прыкладзе) акаймаванне.

4. Прыём *кантрасту* будуецца на супрацьпастаўленні з'яў, фактаў, падзей, асоб і інш. Напрыклад:

*Ад вясенняй расы травы зелянеюць,*
*Ад асенняй – заўжды вянуць ды сівеюць.*

*Ад вясенняй расы граюць птушкі шчыра,*
*Ад асенняй – лятуць у далёкі вырай.*

*Ад вясенняй расы радуецца сэрца,*
*Ад асенняй – чамусьці ў трывозе б'ецца.*

*І таму выслухай ты маё маленне:*
*На сустрэчу прыйдзі па расе вясенняй –*

*Па расе, ад якой салаўі п'янеюць,*
*Расцвітаюць сады, травы зелянеюць.*

(М. Танк. Ад вясенняй расы травы зелянеюць).

У творах мастацкай літаратуры, асабліва вершаваных, адценне кантраснасці ўзмацняецца іншымі стылістычнымі прыёмамі *(гл.)* і фігурамі *(гл.)*. Працытаваны верш арганізаваны як перыяд *(гл.)*, у павышэнні танальнасці якога і змяшчаюцца супрацьпастаўляльныя адзінкі. Такое афармленне павялічвае сілу эмацыянальнага ўздзеяння твора на рэцыпіента *(гл.)*.

5. *Канцэсія* заснавана на так званай логіцы вяртання аргумента: адзін з субяседнікаў нібы пагаджаецца з другім, але потым выкарыстоўвае яго ж аргументы і накіроўвае іх супраць гэтага ж свайго апанента:

*– Сядай, князь, – падсунуў Клімята Вячку невялікі дубовы ўслончык. – Цесна і смуродна ў маёй каморцы, але ведай, што гэта святы пах – пах цялячай скуры і кінавары. Ты ваюеш, ты ўвесь час у сядле, ды сіла, князь, не ў мячы, а ў мудрасці. Запомні гэта.*

*– Пергаменамі, Клімята, не спыніш тэўтонаў. Трэба меч, востры, гартаваны меч, які не баіцца варожай крыві.*

*– Праўду кажаш, князь, – згадзіўся Клімята, трасянуўшы кужэльнымі валасамі, – але аднаго мяча мала. Я таксама быў нядрэнным ваяром, я біўся,*

*ты ж памятаеш, – з аўкштайтамі і селамі, пакуль жалеза не адгрызла мне руку. І ўсё-ткі мудрае слова мацнейшае за меч. Меч кароткі. Слова доўжыцца ў людскіх пакаленнях* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

Уласцівыя для такога П. К. абавязковая згода паміж субяседнікамі, Вячкам і Клімятам, паступова насычаецца контраргументамі і пераконвае ў абсалютна супрацьлеглым, што пацвярджаецца наступным выказваннем Вячкі:

*– Хай будзе па-твойму. Вы, кнігачоты, бліжэй да неба і да Божага прастола. Вы лепш бачыце дарогу жыцця і мудрацi.*

6. *Напружанне (або утрыраванне*) засноўваецца на ўзрастанні паслядоўнасці (па ступені іх значнасці) аднатыповых сцвярджэнняў з мэтай супрацьпастаўлення ім зусім іншых фактаў:

Улучыўшы момант, Вячка разбітым шчытом ударыў тэўтона па галаве і адначасова клінком мяча пырнуў яго ў грудзі. Кальчуга выратавала тэўтона, але ён збіў дыханне, захаўкаў ротам. Адразу ж пачаў заліваць вочы густы ліпкі пот. Уся агіда такога поту ў тым, што яго няма часу выціраць – рукі заняты зброяй, праціўнік атакуе.

*І ўсё-такі граф Пірмонт не сумняваўся ў перамозе* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

Паслядоўнасць пачатковых сказаў накіроўвае на адзіна магчымы вынік, пераконвае ў перамозе Вячкі. Аднак змест апошняга сказа з'яўляецца нечаканай супярэчнасцю да папярэдняга выказвання: тэўтон усё роўна спадзяецца на сваю перамогу.

7. *Дылема* прадугледжвае магчымасць альтэрнатывы:

*Маўчанне*
*Ніколі не было*
*І не будзе золатам:*
*Яно – або*
*У шмат разоў даражэйшае.*
*Або – нічога не вартае.*
(М. Танк. Маўчанне).

Выразнасць такога К. П. узмацняецца выкарыстаннем кантэкстуальных антонімаў *(гл.)* (*даражэйшае – нічога не вартае*). Указваючы на магчымасць толькі аднаго з элементаў выбару, аўтар супрацьпастаўляе праяўленне адной і той жа ўласцівасці (здольнасці маўчаць) у розных жыццёвых сітуацыях.

Мастацкі стыль прадугледжвае разнастайныя камбінацыі кампазіцыйных прыёмаў, змены паралельнага і паслядоўнага разгортвання сэнсавых адзінстваў *(гл.)*. Любы К. П. заснаваны на спалучэнні двух ці некалькіх сказаў, простых або складаных. Аднак складаны сказ у выпадку яго супадзення з лагічным адзінствам можа таксама выконваць ролю К. П. Прааналізуем наступны прыклад:

*Тэўтон быў гатовы заспяваць. Баец, як ніколі не быў пабіты да сінякоў, не можа, горды духам, уступіць у адзінаборства. <u>Хто бачыў сваю ўласную кроў, чые зубы скрыпелі пад кулакамі праціўніка, той, хто распасцёрты на зямлі,</u>*

*утаптаныў яе ворагам, не траціў мужнасці, той, хто ўзнімаўся яшчэ больш непахісны, колькі б яго ні збівалі з ног, ідзе ў бой з вялікай надзеяй. Узнагароды за цярпенне выплачваюцца ў храмах перамогі* (Л. Дайнека. Меч князя Вячкі).

Прыём дынамічнага пералічэння ў падкрэсленым сказе актуалізуе лагічныя сувязі і прыводзіць да адпаведнага для апісання сітуацыі выніку. Падкрэслены сказ па сутнасці выступае сентэнцыяй і можа існаваць самастойна. Уключаная ў кантэкст сентэнцыя ўступае ў сувязь з сумежнымі сінтаксічнымі азінкамі і пачынае функцыянаваць як неад’емны элемент іншага, больш буйнага лагічна-семантычнага адзінства, якое мае свой зачын (*Тэўтон гатоў быў заспяваць*) і сваю канцоўку (*Узнагароды за цярпенне выплачваюцца ў храмах перамогі*). А, на першы погляд, самадастатковае лагічнае адзінства падпарадкавана іншым сумежным сінтаксічным адзінкам.

Варта заўважыць таксама, што пры будове тэксту аўтар (на свядомым або падсвядомым узроўні) будзе карыстацца разнастайнымі прыёмамі кампазіцыйнай арганізацыі маўлення, што тлумачыцца інтэртэкстуальнасцю *(гл.)*. Аднак зноў жа сукупнасць экстра- і інтралінгвістычных фактараў *(гл.)*, абсалютна індывідуальная для кожнага пісьменніка, будзе ўплываць на пераважнае выкарыстанне нейкага комплексу прыёмаў з павышанай экспрэсіўнай афарбоўкай (прыём акумуляцыі, пытальна-адказавая форма) паралелізм, рамачная арганізацыя, прыём кантрасту, канцэсія, напружанне) або са схільнасцю да рэальнага адлюстравання рэчаіснасці (простае пералічэнне, паслядоўнае дабаўленне, лагічны вынік, раздзяленне, дылема). Выбар К. П. для аб’яднання сказаў уплывае на складанасць і выразнасць структуры як асобнага лагічнага адзінства, так і ўсяго літаратурна-мастацкага тэксту *(гл.)*.

**ПАЎУЗРОЎНЕВЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ** – *гл.* РАСЧЛЕНЕНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ.

**ПАФАС, ПАТЭТЫКА** – узнёслае пачуццё; выяўленне ідэйнага зместу твора праз павышаную эмацыянальную ўзрушанасць аўтара. *Гл.* УЗНЁСЛАЕ.

**ПАЭЗІЯ** – 1) славесная мастацкая творчасць; 2) творы, напісаныя вершаванай мовай; 3) прыгожае, велічнае, узнёслае, узвышанае. ПАЭТЫЗМ, ПАЭТЫЧНАЕ СЛОВА – 1) уласцівы паэзіі, вобразны, мастацкі; 2) кніжнае слова, якое найчасцей сустракаецца ў вершаваных творах, надаючы ім адценне лірычнасці, задушэўнасці, усхваляванасці. *Гл.* ТРОПЫ.

**ПАЭТЫКА** – 1) навука, якая вывучае структуру, характэрныя асаблівасці і змястоўнасць літаратурна-мастацкай формы. Падраздзяляецца на апісальную (аўтаразнаўчую), агульную і гістарычную П. Агульная П. разглядае ўсемагчымыя спосабы і прыёмы, а таксама сродкі ўвасаблення аўтарскай задумы, іх адпаведнасць літаратурным родам, відам і жанрам *(гл.)*. Апісальная П. даследуе эстэтычныя кампаненты твораў асобнага пісьменніка, літаратурнага напрамку ці цэлага перыяду. Гістарычная П. разглядае паходжанне мастацкіх кампанентаў (эпітэт, метафара, метрыка верша і інш.) і катэгорый у залежнасці ад сацыяльных і чыста літаратурных умоў; 2) сістэма мастацкіх прыёмаў таго ці іншага пісьменніка або асобнага літаратурна-мастацкага твора *(гл.)*.

**ПАЭТЫКА ФАРМАЛЬНАЯ** – 1) структурная паэтыка; 2) лінгвістычная паэтыка *(гл.)*.

**ПАЭТЫЧНАЯ МОВА** – 1) мова, уласцівая паэзіі; 2) вобразнае мастацкае маўленне; 3) у шырокім сэнсе мова мастацкай літаратуры *(гл.)*, слоўнае мастацтва; мова, заснаваная на эстэтычнай функцыі яе, на яе выяўленчых сродках, на яе эстэтычных магчымасцях і здольнасцях.

**ПЕДАНТЫЗМ** – непатрэбная, нават лішняя і стылістычна неапраўданая дакладнасць выказвання.

**ПЕЙЗАЖ** – 1) сродак мастацкай выразнасці; 2) карціны прыроды, вобразы-малюнкі ў літаратурна-мастацкім творы (тэксце). Ідэйна-мастацкія функцыі П. самыя разнастайныя: выконвае ролю апісання месца дзеяння, абстаноўкі, можа выяўляць думкі, настроі, пачуцці, перажыванні аўтара або дзейных асоб (герояў, персанажаў) і інш.

**ПЕРАКЛАД** – перадача зместу вуснага выказвання або пісьмовага тэксту сродкамі іншай мовы. Адрозніваюць даслоўны (літаральны) П., свабодны (вольны) П., мастацкі П., машынны П., падрадковы П. ПЕРАКЛАДАЗНАЎСТВА – філалагічная навука пра пераклад і яго разнавіднасці.

**ПЕРСАНАЖ** – 1) дзейная асоба *(гл.)*; літаратурны герой рамана, аповесці, драмы, апавядання і інш.; 2) другарадны, адмоўны герой ці вобраз у такіх жанрах, як байка.

**ПЕРСАНАЛЬНАЯ ТЭКСТАЛОГІЯ** – тэксталогія твораў канкрэтнага пісьменніка. Улічваецца адметнасць творчай індывідуальнасці, абставіны і ўмовы жыцця, тып таленту, асаблівасці творчай працы, адносіны да раней апублікаваных твораў, ступень непасрэднага ўдзелу ў іх падрыхтоўцы, захаванасць асабістага архіву. Распрацоўка праблем персанальнай тэксталогіі беларускіх класікаў знахозіцца на пачатковым этапе (Мушынскі, 2007, с. 40).

**ПЕРСАНІФІКАЦЫЯ** – троп, у аснове якога наданне прадметам ці з'явам прыроды ўласцівасцей чалавека або жывой істоты; адухаўленне і ўвасабленне *(гл.)*. *Ой, не шапчы, мая бярозка…* (П. Броўка. Бярозка).

**ПЕРЫФРАЗА** – семантычна непадзельны апісальны выраз, з дапамогай якога перадаецца сэнс іншага слова або выразу. П. не толькі называюць з'явы рэчаіснасці, але і характарызуюць іх. П. ствараюцца ў працэсе маўлення, у час мастацкага апісання, таму моўнымі адзінкамі не з'яўляюцца. *Я мужык – беларус, пан сахі і касы…* (Я. Купала. Мужык).

**ПЕРЫЯД** – шырока развіты, часцей за ўсё складаны сказ, які характарызуецца паводле зместу паўнатой і закончанасцю выказанай думкі, адзінствам тэмы, а паводле інтанацыі распадаецца на дзве супрацьпастаўленыя часткі: першую – павышаную і другую – паніжаную. Пераважна выкарыстоўваецца П. у мастацкай літаратуры. Я. Колас аформіў уступ-прысвячэнне як П. у паэме "Сымон-музыка", М. Танк – кожную страфу ў вершы "Родная мова", а таксама самастойныя вершы "Вяртанне", "Калі…" і шмат інш.

Перыяд – стылістычная фігура, якая ўяўляецца як семантычна-структурнае адзінства, утворанае простым ці складаным сказам *(гл.)*, а а таксама складаным

сінтаксічным цэлым *(гл.)*, што раздзяляюцца на дзве інтанацыйна *(гл.)* супрацьлеглыя часткі – протазіс (характарызуецца павышэннем тону) і аподазіс (характарызуецца паніжэннем тону і, з пункту погляду зместу (гл.), выражае вынік таго, пра што гаворыцца ў павышэнні). З боку зместу перыяд вызначаецца сэнсавай завершанасцю.

Стандартная сінтаксічная арганізацыя П. арыентуе на: 1) дзвюхчастковасць арганізацыі; 2) кантрасную афармленасць частак: павышэнне і паніжэнне тону; 3) перавагу аб'ему павышэння над аб'ёмам паніжэння тону; 4) працяглая паўза паміж протазісам і аподазісам; 5) выкарыстанне анафарычнасці *(гл.)* або шматзлучнікавасці *(гл.)* (полісіндэтону) ці шматпрыназоўнікавасці *(гл.)* пры арганізацыі павышэння; 6) структурна-семантычны паралелізм членаў пратазіса ці аподазіса. Выразным прыкладам П. можа быць ужо ўрывак з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі “Юдзіф”:

*Як ад нараджэння*
*звяры, што блукаюць у пушчах*
*помняць бярлогі свае;*
*як птушкі, што лунаюць у паднябессі,*
*ведаюць гнёзды свае:*
*як рыбы, што плаваюць у моры і рэках,*
*чуюць віры свае;*
*як пчолы бароняць вуллі свае, –*
*гэтаксама і людзі,*
*дзе нарадзіліся і выраслі з ласкі Божай*
*да того месца вялікую маюць любоў.*

(Пераклад М. І. Верціхоўскай).

Структура і сувязь П. з простым або складаным сказам абумоўліваюць яго разнавіднасці. Члены П., як і часткі складанага сказа, могуць выражаць часавыя, месцавыя, прычынныя, умоўныя, мэтавыя, параўнальныя, уступальныя, азначальныя, дапаўняльныя, супраціўныя, далучальныя, выніковыя і прэдыкатыўныя адносіны.

П. *часавы* тады, калі адна з частак (часцей тая, у якой адбываецца павышэнне голасу) паказвае на час дзеяння, указанага ў другой частцы; П. *умоўны,* бо павышэнне танальнасці паказвае на змяшчэнне ўмовы таго, пра што будзе ісці гаворка ў паніжэнні; П. *месцавы* тады, калі ў павышэнні танальнасці ўказваецца месца дзеяння, названга ў паніжэнні; П. *прычынны* тады, калі ў адной з яго частак заключаецца прычына, у другой – вынік; П. *мэтавы* тады, калі ў адной з яго частак тлумачыцца мэта дзеяння, заключанага ў другой частцы; П. *выніковы* тады, калі ў другой яго частцы (паніжэнні) заключаецца вывад, своеасаблівае абагульненне таго, аб чым ізе гаворка ў першай частцы (павышэнні); П. *уступальны*, калі паміж часткамі заключаюцца ўступальныя адносіны, звычайна ў павышэнні танальнасці такога П. пералічваюцца ўмовы, якія перашкаджаюць ажыццяўленню таго, пра што гаворыцца ў паніжэнні; П. *параўнальны*, калі змест частак параўноўваецца, таму

вельмі часта члены такога П. звязваюцца параўнальнымі злучнікамі, як і часткі складазалежнага сказа з даданай параўнальнай; П. *супраціўны*, у якім часткі супрацьпастаўляюцца, г. зн. змест адной часткі процілеглы зместу другой часткі; П. *азначальны* тады, калі павышэнне тону ўяўляецца як своеасаблівая якасная характарыстыка нейкай асобы, прадмета, падзеі і інш., пра што ідзе гаворка ў паніжэнні; П. *дапаўняльны*, калі адна частка (пераважна з паніжэннем тону) удакладняе змест другой, дапаўняе, развівае яе, звычайна да першай часткі можна ўмоўна паставіць пытанне дапаўнення; П. *далучальны*, калі паніжэнне яго змяшчае нейкае дадатковае паведамленне да сказанага ў павышэнні, своеасаблівае запрашэнне разважаць разам з аўтарам над закранутай ім праблемай. Часам аўтар быццам перакрэслівае сказанае і прымушае задумацца над праблемай, толькі на першы погляд не звязанай з той, што ўздымаецца ў павышэнні; П. *прэдыкатыўны*, калі дзейнік і выказнік яго знаходзіцца ў розных частках:

*Толькі я, зведаўшы ўсё:*
*Сцюжу, няволю, астрогі,*
*Попел разбураных сёл*
*І франтавыя дарогі*
*Скіб узараных цяпло,*
*Смак набрынялай чарэшні,*
*Дружбы, кахання святло,*
*Сілу магутную песні, –*
*Быць чалавекам я рад.*

(М. Танк. Быць чалавекам я рад…).

Іншы раз вылучэнне структурных элементаў П. і адпаведна суаднесенасць тэксту (мікратэксту) да перыядычнага маўлення ўскладняецца, што мае месца ў дачыненні да наступнага твора:

*Каб мары мае*
*Былі тваім жыццём,*
*Каб перамогі мае*
*Былі твaім жыццём,*
*Каб паражэнні мае*
*Былі твaім жыццём,*
*Каб смерць мая*
*Была тваім жыццём,*
*Айчына.*

(А. Барскі. Каб мары мае…).

З аднаго боку, тэкст мае ўсе прыметы класічнага павышэння тону: полісіндэтон *(гл.)*, сінтаксічны паралелізм *(гл.)*, анафарычнаксць *(гл.)* прыналежных займеннікаў *мае, тваім* і назоўніка *жыццём*. З другога боку, насцярожвае, што павышэнне арганізавна як парцэляваная *(гл.)* канструкцыя (сукупнасць аднародных даданых частак, якія адносяцца да неіснуючай галоўнай), а паніжэнне ўключае толькі адзін зваротак *(гл.)*, які не з’яўляецца членам сказа. Трэба заўважыць, што маюць месца ўсе астатнія прыметы дзвюхчасткавай арганізацыі: зваротак мае

спецыфічнае інтанацыйнае выдзяленне (менавіта перад звароткам адбываецца паніжэнне голасу), таму выступае другім кампанентам П., відавочна, меншыя па аб'ёме, чым павышэнне. П. з функцыянаваннем звароткa ў якасці асобнага элемента мэтазгодна называюць вакатыўнымі.

**ПЛАН ВЫРАЖЭННЯ** – успрыняцце выказвання (тэксту) на аснове граматычных адзнак моўных сродкаў, якія ўваходзяць у склад гэтага выказвання (тэксту), г. зн. успрыняцце элемента моўнага знака (кода).

**ПЛАН ЗМЕСТУ** – успрыняцце выказвання (тэксту) на аснове семантыкі моўных сродкаў, што ўтвараюць гэта выказванне (тэкст), г. зн. успрыняцце ўнутранага элемента моўнага знака (кода).

**ПЛЕАНАЗМ** – фігура маўлення з "лішнімі" словамі, словазлучэннямі, сказамі для ўзмацнення выразнасці маўлення *(гл.)*. *Кніга – яна вельмі патрэбная рэч..., У месяцы верасні выпала пароша...* (з нар.).

**ПОЛІСЕМАНТЫЗМ, ПОЛІСЕМІЯ** – уласцівасць моўных адзінак выступаць з 2 і больш значэннямі. *Гл.* МНАГАЗНАЧНАСЦЬ.

**ПОЛІСІНДЭТОН**, або **ШМАТЗЛУЧНІКАВАСЦЬ** – фігура маўлення з нагрувашчваннем злучнікаў (звычайна пры аднародных членах сказа).

**ПОЛІСТРАФІЧНАСЦЬ** – адвольнае або паслядоўнае чаргаванне ў вершаваным творы розных строф, графічна аддзеленых адна ад адной.

**ПОЛІФАНІЯ**, або **ПОЛІФОНІЯ** – у шырокім разуменні – гэта шматгалосся, у вузкім – від шматгалосся, заснаваны на гарманічным спалучэнні дзвюх і болей самастойных паводле значэння меладычных ліній (галасоў).

**ПОЎНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ** – аналіз літаратурна-мастацкага тэксту з ідэйна-тэматычным зместам яго. *Гл.* ЛІНГВІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ.

**ПОЎНЫЯ СІНОНІМЫ**, або **СЛОВЫ-ДУБЛЕТЫ** – словы, у якіх значэнні поўнасцю супадаюць: *лінгвістыка – мовазнаўства; лінгвіст – мовазнавец – мовавед.*

**ПРАВІЛЫ** – устаноўленыя, агульнапрынятыя нормы, у тым ліку і моўныя, парушэнні якіх лічацца памылкамі. Называюцца памылкі так, як і нормы: парушаецца арфаэпічная норма – атрымліваецца арфаэпічная памылка і г. д.

**ПРАВІЛЬНАСЦЬ МОВЫ (МАЎЛЕННЯ)** – асноўная камунікацыйная якасць маўлення. *Гл.* ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ.

**ПРАВІНЦЫЯЛІЗМЫ** – мясцовыя словы або выразы, выкарыстаныя ў літаратурнай мове, асабліва ў мове мастацкай літаратуры, для надання выказванню мясцовай афарбоўкі. *Гл.* ДЫЯЛЕКТЫЗМ, ЛАКАЛІЗМ, РЭГІЯНАЛІЗМ.

**ПРАГМАТЫКА** – 1) раздзел семіётыкі, які вывучае адносіны да знакаў тых, хто гаворыць (гаворачых); 2) навука, што вывучае функцыянаванне моўных знакаў у маўленні. Лінгвістычная П. займаецца вывучэннем пытанняў, звязаных з гаворачым суб'ектам, адарастам, іх узаемадзеяннем у камунікацыі, сітуацыяй моўных зносін. ПРАГМАТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ – функцыя ўздзеяння на слухача (чытача) у працэсе маўлення *(гл.)*.

**ПРАДМЕТНЫ, ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК** – даведачны спіс аб'ектаў увагі, спасылачных імёнаў, тэрмінаў і інш., звычайна ў канцы манаграфій, метадычных дапаможнікаў і г. д. *Гл.* ІНДЭКС.

**ПРАДМОВА / ПАСЛЯСЛОЎЕ** – слова да чытача ў пачатку або канцы кнігі, напісанае аўтарам ці іншай асобай – рэдактарам, рэцэнзентам, вядомым спецыялістам і г. д.

**ПРАЖСКАЯ ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ШКОЛА** – структурна-функцыянальна-стылістычны напрамак у мовазнаўстве.

**ПРАЗАІЧНАЯ МОВА** – 1) не вершаваная мова *(гл.)*; 2) мова мастацкіх празаічных і драматургічных твораў; 3) адна з форм маўлення *(гл.)*. П. М. вельмі блізкая да штодзённа-бытавой мовы, мовы навукі, прэсы і інш. Як і вершаваная мова *(гл.)*, але ў П. М. яны ўжываюцца не ў такой меры. Слова ў П. М., выступаючы сродкам адлюстравання і ўзнаўлення рэальных аб’ектаў, з’яў, перажыванняў герояў, мае канкрэтызаваны сэнс, пластычную дакладнасць. Яно менш, чым у творах паэзіі, засяроджанае само па сабе. Кожная дзейная асоба (герой, персанаж) празаічнага твора надзяляецца індывідуалізаванай мовай. Узаемадзеянне голасу пісьменніка і галасоў герояў адкрывае перад П. М. шырокія магчымасці шматграннага, шматгалосага, паліфанічнага маўлення. Некалькі інакш выглядае мова драматургічных твораў. У іх няма шырокіх апісанняў, замалёвак, як у раманах, аповесцях, апавяданнях. Мова драматычных твораў – амаль жывая гаворка паміж людзьмі, і таму шматлікія даследчыкі лічаць яе вусна-гутарковым маўленнем, гутарковым (размоўным) стылем *(гл.)*. Аднак гэта бліжэй за ўсё стылізацыя *(гл.)* вусна-гутарковага маўлення, а не само яно.

**ПРАЗАІЧНАЯ СТРАФА** – *гл.* СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ.

**ПРАЗАПАПЕЯ** – адухаўленне; увасабленне. Троп, засанаваны на наданні неадушаўлёным рыс адушаўлёных. *Гл.* ПЕРСАНІФІКАЦЫЯ.

**ПРАКЛЁНЫ**, або **КЛЕНІЧЫ** – беларускія ўстойлівыя славесныя формулы-пажаданні нягод і няшчасцяў чалавеку, жывёле, з’явам, прадметам навакольнага свету. *Каб цябе маланка спаліла* (З нар.); *Каб вас ліханька не ўзяло…* (З. Бядуля. Пяць лыжак заціркі).

*Параўн.:* праклён (МБЭС, сс. 370-371).

**ПРАЛОГ** – уступ да эпічнага, ліра-эпічнага і драматычнага твора.

**ПРАМАЯ (ПРОСТАЯ) МОВА** – чужая мова, якая перадаецца даслоўна і ўключаецца ў кантэкст пры дапамозе слоў аўтара *(гл.)*. Адрозніваюць П. М. як цытатную, дыялагічную, уключаную, нявыказаную. Фармальна П. М. з словамі аўтара нагадвае складаны бяззлучнікавы сказ, у астатніх выпадках – гэта або пытальна-адказавая форма, або просты сказ. *Параўн.:* ДЫЯЛОГ, МАНАЛОГ, ПАЛІЛОГ, РЭПЛІКІ *(гл.)*.

**ПРАСАДЫЧНЫ** – які адносіцца да прасодыкі; звышсегментны (у адносінах да фанетыкі або фаналогіі). ПРАСАДЭМА – 1) фанема, дыферэнцыяваная ў адносінах да сілы гука, працягласці, тону; 2) самая кароткая прасадычная адзінка, напр., склад у ўсходнеславянскіх мовах. ПРАСОДЫКА, ПРАСОДЫЯ – навука аб прынцыпах і сродках падзелу маўлення і злучэння структурных частак яго.

**ПРАСЛАВЯНСКАЯ МОВА** – агульная мова ўсіх славян, якая выдзелілася з індаеўрапейскай дзесьці на пачатку 3 тысячагоддзя да н. э.

**ПРАСТАМОЎЕ, ПРАСТАМОЎНАЯ ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ** – звычайна элементы вуснага нелітаратурнага маўлення з-за спрошчанасці і грубаватага

адцення; выкарыстоўваецца пераважна ў мове мастацкай літаратуры і гутарковым стылі як эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначныя сродкі *(гл.)*. Часта сустракаецца ў пародыях Г. Ф. Юрчанкі. Напрыклад:

*Вялікдзень курчыўся ў сівусе,*
*Смяяўся, плакаў, роў, бляваў…*
*Я Верамейчыну Марусю*
*Крысом да рання акрываў…*

(Г. Юрчанка. Вярхом на вожыку).

**ПРАТАТЫП** [1] – этымон; зыходнае слова, напр., *весь* да слоў *вёска, вясковы, вясковец* і інш.

**ПРАТАТЫП** [2] – канкрэтная , рэальная асоба, якая паслужыла асновай для стварэння вобраза дзейнай асобы, вобраза-характара, вобраза-тыпа *(гл.)*, напр., В. І. Талаш для *дзеда Талаша* ў аповесці Я. Коласа “Дрыгва”.

**ПРАФЕСІЯНАЛІЗМЫ, ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЯ ЛЕКСІКА І ФРАЗЕАЛОГІЯ** – словы і выразы, характэрныя для людзей пэўнай прафесіі або групоўкі (сацыяльнага дыялекту). *Гл.* ТЭРМІН, ТЭРМІНАЛОГІЯ.

**ПРАЦЯЖНІК** – знак прыпынку, які часцей за ўсё выступае ў тэкстах пісьмовага маўлення з выдзяляльнай і раздзяляльнай функцыяй. Нарыклад: *Я – мужык, а гонар маю…* (Я. Купала. Мужык); *Не каліна над вадою / Пахіліла голле – / Плача маці / Сярод поля, / Праклінае долю* (П. Трус. Дзясяты падмурак).

**ПРОСТЫ СКАЗ** – прэдыкатыўная адзінка, у якую ўваходзяць састаў дзейніка і састаў выказніка або састаў аднаго з іх: *Мы звыклі перашкодаў не баяцца…* (У. Дубоўка. Штурмуйце будучыні аванпосты). *Ужо добра развіднела...*

**ПРОЗА** – невершаваная творчасць; адзін з асноўных тыпаў літаратурна-мастацкага слова. *Гл.* ПРАЗАІЧНАЯ МОВА, МОВА МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ.

**ПРЫДАТАК** – азначэнне, выражанае агульным або ўласным назоўнікам, часцей за ўсё ў назоўным склоне: *“Песні-жальбы”, “Сымон-музыка” Я. Коласа*.

**ПРЫКАЗКА** – лагічна і граматычна завершаны афарыстычны выраз, у якім адлюстроўваецца шматвяковы вопыт народа, пераважна ў мастацка-вобразнай форме. *Як дбаеш, так і маеш; Не ўсё кату масленіца* і інш. (Прыказкі і прымаўкі).

**ПРЫТЧА** – павучальна-дыдактычны жанр апавядальна-філасофскага зместу, заснаваны на алегарычных сюжэтах і вобразнай сістэме сімвалічнага зместу. Напрыклад, “Прытча пра хлеб” М. Танка, “Тры словы нямых” В. Быкава.

**ПРЭДЫКАТ** – 1) выказнік; 2) прадмет думкі, які складае змест прэдыкацыі *(гл.)*. ПРЭДЫКАТЫЎНАСЦЬ – выражэнне адносін зместу выказвання да рэчаіснасці. ПРЭДЫКАТЫЎНАЯ АСНОВА-ЯДРО СКАЗА – 1) спалучэнне дзейніка і выказніка ў двухсастаўных сказах; 2) дзеяслоўная словаформа ў большасці аднасастаўных сказаў. ПРЭДЫКАЦЫЯ – суадносіны; суаднясенне зместу выказвання з рэчаіснасцю: *Вясёлы гром, нібы грукат ад калёс пракаціўся па небе…* (Я. Брыль. Зялёная школа).

*Параўн.:* прэдыкат, прэдыкатыўнае значэнне, прэдыкатыўная (адзінка і аснова сказа) сувязь, прэдыкацыя (СЛТ, 1990, сс. 109-110).

**ПРЭПАЗІЦЫЯ / ІНТЭРПАЗІЦЫЯ / ПОСТПАЗІЦЫЯ** – пазіцыя моўных адзінак у маўленні: *перад, унутры, па-за, ці пасля. Гл.* АЎТАРСКІЯ СЛОВЫ.

**ПСАЛ(Ь)МЫ** – рэлігійныя песнапенні і малітвы са Старога запавету. ПСАЛТЫР – кніга псал(ь)маў *(гл.)*. *И что ест, чего в псалмох не найдеш?* (Ф. Скарына. Прадмова ў псалтыр).

**ПСЕЎДАНІМ** – выдуманае прозвішча (Мушынскі, 2007, с. 406).

**ПСІХАЛАГІЧНЫ АНАЛІЗ** – раскрыццё псіхалогіі чалавека ў літаратурна-мастацкім творы *(гл.)*. П. А. характэрны для мастацкай літаратуры ва ўсе перыяды яе развіцця, бо аб'ект яе пазнання – духоўны свет чалавека. Асабліва праяўляецца ў рэалістычнай літаратуры, дзе чалавек паказваецца глыбока і шматбакова, у разнастайных сувязях з асяроддзем і абставінамі, трактуецца як мастацкі характар.

**ПСІХАЛІНГВІСТЫКА** – галіна мовазнаўства, якая даследуе маўленне, суадносіны паміж зместам моўнага акта і намерамі камунікантаў, сувязі паміж планам зместу і грамадскім мысленнем, грамадскім жыццём калектыву. ПСІХАЛОГІЯ ТВОРЧАСЦІ – раздзел у літаратуразнаўчай стылістыцы і стылістыцы дэкадзіравання *(гл.)*, дзе даследуецца працэс стварэння літаратурнага твора, індывідуальная псіхалогія аўтара, асаблівасці ўспрымання тэксту і сатворчасці чытача.

**ПУАНТ** – нечаканая канцоўка літаратурна-мастацкага твора *(гл.)*, у якой у афарыстычнай форме можа выяўляцца ідэя ці ідэйны змест *(гл.)* твора. Уласцівы пераважна байкам, жартам, анекдотам, эпіграфам і інш.

**ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

**ПУНКТУАЦЫЯ** – 1) сукупнасць знакаў прыпынку; 2) збор правіл расстаноўкі знакаў прыпынку; 3) расстаноўка знакаў прыпынку *(гл.)*.

**ПУРЫЗМ** – імкненне захаваць чысціню мовы шляхам барацьбы з неалагізмамі і запазычаннямі, а таксама з нелітаратурнымі элементамі.

**ПУСТАСЛОЎЕ** – балбатня, лухта, пустая размова, збыткоўная інфармацыя.

**ПЫТАЛЬНІК** – 1) знак прыпынку; 2) знак недаўмення ў рукапісах або на палях прачытанага тэксту: *Ці знаў хто з вас,браткі, Тараса?..* (Тарас на Парнасе).

**ПЫТАЛЬНЫЯ СКАЗЫ** – сказы, у якіх выражаецца прамое ці ўскоснае пытанне. Неабходна адрозніваць уласна пытальныя, агульна-пытальныя і пытальна-пабуджальныя сказы, а таксама пытальна-рытарычныя.

*– Дык што ж, выходзіць, мяне падманвалі? Аб чым жа гаворыць акт?*

*– Акт – гэта не факт…* – мармытаў Страйболаў. (Хв. Шынклер. Сонца пад шпалы);

*– Чаго ты стаіш? Бяжы скарэй!* (М. Лобан. Шэметы);

*– Можа па палетках праехалі б?* (Тамсама); *– Чаму па сабе?! Будзем сустракацца, раіцца, спрачацца…* (Тамсама).

*Параўн.:* вопросительное предложение (СЛТ, 1972, сс. 56-57), пытальныя сказы (СЛТ, 1990, с. 111).

**ПЫТАННЕ** – 1) непасрэдны зварот да субяседніка, камуніканта з мэтай атрымаць патрэбную інфармацыю; 2) невядомы, незразумелы або нявывучаны тэкст ці неабходны матэрыял. У маўленні сустракаюцца П. альтэрнатыўныя, сустрэчныя, паўторныя, спецыяльныя, сцвярджальныя і інш. *Гл.* ПЫТАЛЬНЫЯ СКАЗЫ.

# Р

**РАД СІНАНІМІЧНЫ** – група лексічных або фразеалагічных сінонімаў разам з іх дамінантай *(гл.)*: *запіска, паперка, пісулька, цыдул(ь)ка* (Клышка, 1976, с. 174)

**РАДОК ВЕРШАВАНЫ** – графічна і інтанацыйна выдзелены моўны рад у вершаваным творы; адзінка вершаванага рытму *(гл.)*; утварае страфу і вершарад. *Гл.* ВЕРШАВАНЫ РАДОК.

**РАЗБОР** – лінгвістычны аналіз моўных адзінак, выяўленне і характарыстыка ў пэўнай паслядоўнасці адзінак і ўласцівасцей.

**РАЗВАЖАННЕ [1]** – 1) шэраг думак, выкладзеных у лагічнай паслядоўнасці; вывад; выснова; 2) выказванні; абмеркаванні; размовы. У стылістыцы Р. адпавядае форме абстрактнага мыслення – розумазаключэнню. Разнавіднасцямі Р. з'яўляюцца ўласна разважанне, доказ, пацвярджэнне, абгрунтаванне, тлумачэнне.

**РАЗВАЖАННЕ [2]** – тып маўлення, прызначаны для тлумачэння пэўнага паняцця або з'явы, для доказу або абвяржэння пэўнай думкі. Часта выкарыстоўваецца ў творах мастацкай літаратуры:

*Усё, што Сотнікаў перажыў на вайне, яшчэ і каторы раз, даводзіла неабвержанасць не новага ўжо меркавання, што адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце – яго жыццё. Калі-небудзь у дасканалым людскім грамадстве яно стане катэгорыяй-абсалютам, мерай і цаною ўсяго. Кожнае такое жыццё, з'яўляючыся галоўным сэнсам чалавечага існавання, зробіцца не меншай1 каштоўнасцю для ўсяго грамадства наогул, сіла і гармонія якога будуць вызначацца шчасцем кожнага яго члена. А смерць што ж – смерці не мінуць нікому. Важна толькі пазбыцца гвалтоўных смерцяў, даць чалавеку магчымасць разумна і добра выкарыстаць і без таго не надта вялікі свій час у гэтым свеце. Пры ўсёй сваёй невераготнай магутнасці над прыродай чалавек, напэўна, доўга яшчэ астанецца ўсё такім жа абмежаваным у сваіх магчымасцях, калі самага маленькага кавалачка металу даволі на тое, каб назаўсёды адабраць адзінае і такое дарагое для кожнага жыццё* (В. Быкаў. Сотнікаў).

У прыведзеным прыкладзе выразна вылучаюцца тры часткі: тэзіс, які структурна супадае з зачынам: (*адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце – яго жыццё*); аргументацыя (доказ, які структурна супадае з развіццём думкі) і абагульняе (супадае з завяршэннем ССЦ), што заключаецца ў апошнім сказе. Раскрываючы думкі свайго героя пра жыццё і смерць, пісьменнік у мэтах дасягнення пэўнага мастацкага эфекту ўводзіць сентэнцыі *(гл.)*, першая з якіх супадае з зачынам, што дазваляе аўтару сканэнтраваць увагу на думках героя, тым самым падкрэсліваючы іх значнасць. Другую сентэнцыю *(гл.)* пісьменнік падае непасрэдна перад абагульненнем, яшчэ раз засяроджваючыся на філасофскай праблеме жыцця і смерці. У адрозненне ад апісання *(гл.)* і апавядання *(гл.)* прыведзены прыклад Р. не мае ярка выражаных марфалагічных і сінтаксічных сродкаў. Адзначаецца свабоднае выкарыстанне разнастайных часцін мовы, розных трывальных і часавых формаў дзеясловаў, сказаў

усякай будовы. Вызначэнне Р. як функцыянальна-сэнсавага тыпу маўлення адбываецца семантычна, спецыфіку лексікі абумоўлівае тэма Р. Так, абстрактныя паняцці жыцця і смерці ў прыведзеным ССЦ накіроўваюць на ўжыванне абстрактнай лексікі (назоўнікі і інш.; дзеясловы са значэннем абстрактнага дзеяння і думкі, а таксама своеасаблівыя звязкі: *пераўжыў, даводзіла, вызначацца, пазбыцца, стане, зробіцца, астанецца*).

**РАЗМОЎНАЯ (ГУТАРКОВАЯ) ФОРМА ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ** – разнавіднасць літаратурнай мовы, што выкарыстоўваецца пераважна ў вусных, неафіцыйных, простых, натуральных моўных зносінах. У некаторым плане супрацьпастаўлена пісьмовай, кніжнай разнавіднасці.

**РАЗМОЎНЫ**, або **ГУТАРКОВЫ, ВЕРШ** – верш, пабудаваны на інтанацыйнай аснове. Такі верш называюць яшчэ АРАТАРСКІМ. РАЗАНСТРОФНЫ ВЕРШ – верш, напісаны рознымі строфамі, аддзеленымі адна ад адной прагаламі.

**РАЗМОЎНЫ СТЫЛЬ** – тое, што і ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ.

**РАЗРАДКА** – спосаб друку ( _ _ _ ).

**РАМАН ВЕРШАВАНЫ** – эпічны твор, напісаны вершаванай мовай *(гл.)*. Напрыклад, раман у вершах *“Родныя дзеці”* Н. С. Гілевіча (1985).

**РАНДО** – вершаваная форма з абавязковым паўторам *(гл.)*, напр., *“Рандо”* М. Багдановіча (1911 г.).

**РАСПОВЕД** – функцыянальна-сэнсавы тып маўлення, прызначаны для адлюстравання паслядоўнага шэрагу падзей або пераходу прадметаў з аднаго стану ў іншы. Паводле выкарыстання сінтаксічных канструкцый Р. супрацьпастаўлены апавяданню (апаведу). *Гл.* АПОВЕД, РАЗВАЖАННЕ.

**РАСЧЛЕНЕНЫ (ПАЎУЗРОЎНЕВЫ) АНАЛІЗ ТЭКСТУ** – звычайна папярэдні этап у падрыхтоўцы да суцэльнага аналізу *(гл.)*, які, як правіла, праводзіцца паслядоўна, ад першага да апошняга слова (радка, абзаца) тэксту ці знака прыпынку.

**РАСШЧАПЛЕННЕ ВЫКАЗНІКА** – выкарыстанне замест аднаслоўнага і дзеяслоўнага выказніка інфінітыўнага словазлучэння накшталт наступных: *азеляніць* – правесці азеляненне, *паабяцаць* – даць абяцанне і г. д.

**РОД МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** – сукупнасць адзнак, паводле якіх вылучаюцца літаратурна-мастацкія творы *(гл.)*. Асноўнымі Р. М. Л. з’яўляюцца эпас, лірыка і драма. Яны самі па сабе не існуюць, а выяўляюцца ў розных відах і жанрах *(гл.)* літартурна-мастацкіх твораў *(гл.)*.

Р. М. Л. у сваіх жанрах, канкрэтных творах, як правіла, узаемадзейнічаюць, узаемапранікаюць. У эпічных творах можа ў значнай ступені праяўляцца лірычны або драматычны спосаб адлюстравання рэчаіснасці ці наадварот. Такое ўзаемапранікненне бывае настолькі значнае, што ў апошнія дзесяцігоддзі нават выдзяляецца чацвёрты (“змешаны”) род – ліра-эпічны.

**РОДНАСНЫЯ МОВЫ** – мовы, якія маюць агульныя рысы і адпаведнікі на ўсіх узроўнях, напрыклад, беларуская, украінская, руская і польская мовы.

**РУСІЗМЫ** – словы або выразы, запазычаныя з рускай мовы ці пабудаваныя на ўзор рускамоўных: *каляска, распашонкі, звезданучь, прычасіцца, расчыхвосціць, разлічвацца за даўгі* і інш.

**РУЧНАЯ (КІНЕТЫЧНАЯ) МОВА** – мова жэстаў; сукупнасць выразных жэстаў, розных рухаў цела, што выкарыстоўваюцца дзеля камунікацыі.

**РЫТАРЫЧНЫ ВОКЛІЧ, ЗВАРОТ** – звяртанне да асоб ці прадметаў як прысутных у эмацыянальнай форме, з павышанай інтанацыяй: *Добрай раніцы, людзі!* (Х. Чэрня). РЫТАРЫЧНАЕ ПЫТАННЕ – пытальны сказ са сцвярджальным зместам; не патрабуе адказу: *Ну, і каму ж гэта прыйшло ў галаву зрэзаць вяршок у ялінцы?!*

**РЫТМАМЕЛОДЫКА** – 1) чляненне маўлення ў адпаведнасці з пэўнымі інтанацыйнымі і рытмічнымі мадэлямі; 2) адзін з састаўных элементаў інтанацыі, яе павышэнне і паніжэнне пры маўленні; мелодыка; 3) тое, што адначасова адносіцца і да рытмікі *(гл.)*, і да мелодыкі *(гл.)*.

**РЫТМІКА** – 1) раздзел фанетыкі, які вывучае агульныя заканамернасці рытмічнай пабудовы маўлення; 2) раздзел вершазнаўства, які вывучае рытмічную будову нацыянальнага верша, цыкла ці вершаванага зборніка, усёй творчасці таго ці іншага паэта.

**РЫТОРЫКА** – навука пра выразнасць маўлення; тэорыя прамоўніцкага мастацтва і майстэрства; красамоўства.

**РЫФМА, РЫФМОВАЕ ЧАКАННЕ** – гукавы паўтор заключных частак вершаванага радка; псіхалагічны стан ва ўспрыняцці вершаванага твора, калі ў выніку паўтарэння гукаў або складоў чытач (слухач) чакае новага з'яўлення сугуччаў. *І люблю ж я, люблю / Гэту волю сваю!* (Я. Купала. Воля).

*Параўн.:* рыфма, рыфмоўка (Рагойша, 2003, сс. 117-120).

**РЭДАКЦЫЯ** [1] – 1) група работнікаў, што рыхтуюць тэксты да друку; 2) падрыхтаваны да друку тэкст; 3) варыянт тэксту. *Гл.* ВАРЫЯНТ (тэксту, выдання).

**РЭДАКЦЫЯ** [2] – перапрацаваны аўтарам, рэдактарам або цэнзарам тэкст, мастацкую форму або фактаграфічную аснову (Мушынскі, 2007, с. 406).

**РЭДУПЛІКАЦЫЯ** – поўнае або частковае паўтарэнне афікса, кораня, асновы ці цэлага слова як спосаб утварэння слоў або выразаў. *Не-не, – і марнае пытанне – чаму так здарыцца магло?* (Н. Гілевіч. Родныя дзеці).

**РЭМА** – *гл.* АКТУАЛЬНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ).

**РЭМАРКІ** – 1) заўвагі аўтара тэксту, якія ўдакладняюць ці дапаўняюць пэўныя дэталі; 2) тлумачэнні драматурга для чытача, пастаноўшчыка і акцёра ў тэксце п'есы; 3) аўтарская мова *(гл.)* у драматургічным творы.

**РЭПЛІКІ** – 1) асобныя выказванні ў дыялогах і палілогах *(гл.)*; 2) словы, з якімі адна дзейная асоба п'есы звяртаецца да другой. Варта адрозніваць Р.-СІГНАЛЫ (з іх пачынаецца дыялагічнае маўленне, яны вызначаюць тэму і мэту гутаркі) і Р.-РЭАКЦЫІ (яны адказавыя, бо раскрываюць тэму і мэту ў форме адказу на пастаўленае пытанне ў папярэдняй рэпліцы).

**РЭТАРДАЦЫЯ** – стылістычны прыём запаволення ў апісанні падзей або з'яў пры дапамозе лірычных адступленняў, пейзажных замалёвак, разгорнутых характарыстык і інш.

**РЭТРАСПЕКЦЫЯ** – звесткі, звернутыя назад; зварот да мінулага; сюжэтна-кампазіцыйны сродак самавыяўлення героя праз уключэнне ў тэкст успамінаў, рэалій з мінулага.

**РЭФЕРЭНТ** [1] – 1) асоба, што складае і чытае рэферат (даклад); 2) аўтар тэксту (выказвання).

**РЭФЕРЭНТ** [2] – прадмет думкі, з якім суадносіцца моўная (маўленчая) адзінка. *Гл.* ДЭНАТАТ.

**РЭФРЭН** – 1) слова, радок ці страфа, якія паўтараюцца праз пэўную колькасць радкоў у вершы; 2) канцоўка страфы ці верша, што была выказаная раней, напрыклад, у вершы Ф. Багушэвіча *"Дурны мужык, як варона".*

**РЭЦЫПІЕНТ** – успрымальнік тэксту, выказвання; чытач, слухач, глядач.

**РЭЦЭНЗІЯ** – 1) жанр літартурнай або мастацкай крытыкі, у якім даецца першая ацэнка твора; 2) жанр навуковага і публіцыстычнага стыляў.

**РЭЦЭПЦЫЯ** – запазычванне і прыстасаванне даным грамадствам сацыялагічных і культурных форм, у тым ліку і маўленчых, якія ўзніклі ў іншай краіне або ў іншую эпоху.

**РЭЧАІСНАСЦЬ МАСТАЦКАЯ** – аб'ектыўная эстэтычная рэальнасць, успрынятая і пераўтвораная суб'ектыўнасцю мастака, паўторна аб'ектываваныя ў выглядзе мастацкага твора; канкрэтная сукупнасць прыродных, грамадска-гістарычных і духоўных з'яў, якія маюць эстэтычнае значэнне.

**РЭЧЫТАТЫЎНАЕ ЧЫТАННЕ** – чытанне багаслужэбных тэкстаў рэчытатывам, г. зн. нараспеў, і ў царкве, і паўсюдна з царкоўнаславянскімі націскамі.

# С

**СААЎТАР (Ы), СААЎТАРСТВА** – 1) асоба(ы), якая(ія) з'яўляе(ю)цца аўтарам(і) твора(ў) літаратуры, мастацтва, навукі, падрыхтаваных для сумеснай творчай працы. *Не вельмі ахвотна згаджаўся Ф. М. Янкоўскі быць сааўтарам ці рэдактарам* (часопіс "Полымя"); 2) муза (ы).

*Параўн.:* сааўтар (ТСБЛМ, 2002, с. 578), сааўтарства (ЭнЛіМБел, IV, с. 592), соавтор і соавторство (РБС-93, III, с. 393), (СЭС, с. 1225), (ЮЭС, сс. 482-483), сааўтарства (Рагойша, 2001, с. 286).

**САВЕТЫЗМЫ** – словы ці выразы, што ўзніклі ў савецкі час: *камбеды* (камітэты беднаты), *НЭП* (новая эканамічная палітыка), *чырвонаармеец* (салдат ці афіцэр Чырвонай арміі), *БССР* (Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка). *...Новыя словы, якія называюць прадметы, з'явы і паняцці, характэрныя для савецкай рэчаіснасці, часам называюць саветызмамі.* (В. П. Красней. Лексіка і фразеалогія беларускай мовы).

Трэба адзначыць, што шматлікія С. сталі ўжо архаізмамі і гістарызмамі *(гл.).*

*Параўн.:* саветызмы (СЛТ, 1990, с.119), советизация (РБС-93, III, с. 397).

**САГА** – 1) старажытнаірландскі і старажытнаскандынаўскі эпас пра багоў і герояў. *Сагі пра вікінгаў;* 2) празаічныя пераклады рыцарскіх раманаў. *Рыцар-*

*скія сагі;* 3) цыкл іншых твораў. *"Сага пра святых" С. Унсет;* 4) легенда, паэтычнае сказанне *(гл.). Дзе вы, сумленныя, перадавыя паэты? Дзе вашы сагі?..* (М. Танк. Пасланне за мяжу).

*Параўн.:* саги (СЭС, 1153), сага (КЛЭ, VI, 591), сага (ТСБМ, V-1, с. 13), сага (СЛТ, с. 141), (Рагойша, 2001, с. 286).

**САКАВІТЫ** – 1) яркі, свежы; 2) прыемны, гучны, звонкі (голас, гук); 3) трапны, вобразны (пра словы, мову, маўленне). *Сакавітыя пожні мурожныя не забыць нам ніяк і нідзе…* (А. Ставер. Каб любіць Беларусь нашу мілую…); *Пытанне аб чыстаце мовы, аб яе паўнацэннасці, яркасці, вобразнасці і сакавітасці… набывае зараз дужа актуальнае значэнне.* (Я. Колас. Мова М. Лынькова па раману "На чырвоных лядах"). *… Невялікія сцэнкі ці п'ескі звычайна камічнага характару, напісанага сакавітай размоўнай мовай...* (В. Рагойша. На шляху да Парнаса).

*Параўн.:* сакавіты (ТСБЛМ, с. 580).

**САМААНАЛІЗ** – 1) аналіз уласных учынкаў і перажыванняў (ТСБМ, V-1, с. 24); 2) біяграфічнасць; аўтабіяграфічнасць (звычайна ў творчасці). *[Коласаву] біяграфічнасць нельга разумець спрошчана, кваліфікаваць як тэндэнцыю да самааналізу, як вынік працэсу саманазірання…* (Д. І. Гальмакоў. Стыль прозы Я. Коласа); 3) спасылка на свае працы. *Гл.* САМАКРЫТЫКА, САМАРЭКЛАМА, САМАЎСХВАЛЕННЕ.

*Параўн.:* анализ, анализирование (ССРЛЯ, I, сс. 160, 161), псіхалагізм (Рагойша, 2003, с.110-111), псіхалагічны аналіз (ЭнЛіМБел, IV, с.411), аналіз літаратурнага твора і аналіз мастацтвазнаўчы (ЭнЛіМБел, I, с. 107).

**САМААЦЭНКА (САМАКРЫТЫКА, САМАРЭКЛАМА, САМАЎСХВАЛЕННЕ)** – 1) ацэнка самога сябе, сваёй годнасці і недахопаў (ТСБМ, V-1, с. 34); 2) крытычныя адносіны да сваёй дзейнасці (ТСБМ, V-1, с. 40); 3) усхваленне сябе, сваіх поспехаў; праслаўленне сябе, сваіх заслуг і дасягненняў (ТСБЛМ, 2002, сс. 583, 584). *У век наш крытыкі сур'ёзнай І самакрытык агнявых Мы падыходзім вельмі грозна не да сябе, а да другіх* (Я. Купала. На тэму крытыкі і самакрытыкі); *Адчуванне К. Чорным форм і адценняў беларускай мовы, самаацэнка, патрабавальнасць да слова выключныя.* (А. М. Адамовіч. Культура творчасці); *Яны не шукаюць гучнай славы, яны не любяць самарэкламы…* (часопіс "Полымя").

*Параўн.:* самооценка, самофокусировка (СЭС, с. 1160).

**САМАБЫТНАСЦЬ (СВОЕАСАБЛІВАСЦЬ, АРЫГІНАЛЬНАСЦЬ)** – 1) уласцівасць самабытнага *(гл.)*; 2) сукупнасць спецыфічных асаблівасцей; 3) уласцівасць арыгінальнага (ТСБМ, I, с. 207). *Дыскусія 1957 г. аб рэалізме ў сусветнай літаратуры, таксама ўсесаюзная нарада… 1959 г. пацвердзілі неабсяжнае права пісьменніка на арыгінальнасць, самабытнасць, непадобнасць…* (У. В. Гніламёдаў. Сучасная беларуская паэзія); *…своеасаблівасць пісьменніка ўключае яго тэму, кола праблем, ідэй, матываў. Гэта і своеасаблівасць яго стылю, жанру, мовы, інтанацыі…* (Тамсама).

**САМАБЫТНЫ (СВОЕАСАБЛІВЫ, АРЫГІНАЛЬНЫ)** – 1) не падобны да іншых; самастойны ў сваім развіцці; 2) які сваімі адметнымі рысамі напамінае

што-н. ці каго-н.; 3) аўтэнтычны; створаны ў выніку самастойнай творчасці; дзіўны (ТСБЛМ, 2002, сс. 66, 582, 591). *У некаторых народных легендах захавалася самабытная вера беларусаў у тое, што вужы быццам бы сапраўды з'яўляюцца пасланцамі багоў і прыляцелі на зямлю з нябёс* (А. М. Ненадавец. Хто ён, вужыны цар?); *Своеасаблівы варыянт гэтай казкі зафіксаваны і на Піншчыне.* (Тамсама). *А між тым размова ідзе пра арыгінальнейшага і самабытнейшага раманіста (Я. Коласа – М. А.), які заўсёды ішоў ад самога жыцця* (А. М. Адамовіч. Беларускі раман).

*Параўн.:* оригинальный і оригинальность, самобытный і самобытность (Ожагаў, 1960, сс. 447, 685); арыгінальная літаратура (ЭнЛіМБел, I, с. 195); своеасаблíва, своеасаблівасць, своеасблівы (БРС-62, с. 847).

**САМАСВЯДОМАСЦЬ, СВЯДОМАСЦЬ** – 1) поўнае разуменне сваёй сутнасці, свайго значэння, сваёй ролі ў жыцці, грамадстве; 2) чалавечая здольнасць да ўзнаўлення рэчаіснасці ў мысленні; псіхалагічная дзейнасць як адлюстраванне рэчаіснасці; 3) стан чалавека пры здаровым розуме і памяці, здольнасць кантраляваць свае ўчынкі і пачуцці (ТСБМ, 2002, сс. 583, 592). *Творчасць сучасных паэтаў... дае шмат матэрыялу аб тым, як адлюстроўваецца ў асобе грамадзянская самасвядомасць народа, яго шматгранная стваральная дзейнасць* (У. В. Гніламёдаў. Сучасная беларуская паэзія). *...Адкрыцці ў літаратуры абумоўлены ўзроўнем мастацкай свядомасці народа, грамадзянскай пазіцыяй аўтара, яго сацыяльнымі і эстэтычнымі ідэаламі* (Тамсама).

*Параўн.:* самаўсведамленне, свядомы (ТСБМ, V-1, сс. 48, 97); самасвядомасць, свядомасць (БелСЭ, IX, сс. 346, 450), самосознание (ПЭ, с. 673-675).

**САМАСЦЬ** – 1) архетып, цэнтр сумарнай суцэльнасці свядомага і бессвядомага псіхічнага быцця; 2) філасофскае паняцце, што абазначае быццё Я (самабыццё); усё сутнаснае, якое можа вымавіць: "Я" (ПЭ, с. 675). *Гл.:* Я, Я-КАНЦЭПЦЫЯ. Найцяснейшым чынам звязана з катэгорыяй "Я", што абазначае ў хрысціянстве асобаснага і індывідуальнага пачаткаў (душа – "образ и подобие" персаніфікаванага Бога). Узыходзіць да старажытнаіндыйскіх Атмана (санскрытскае "Я – сам"). Персаналізм вучыць, што асоба ("персона") – вышэйшая каштоўнасць быцця "паміж Богам і светам" ("миром"). Паводле вучэння французскага філосафа Э. Левінаса, С. як "тоеснасць асобы (асобаснасці)", г.зн. "у быцці таго ж самага – у быцці самога сябе, у ідэнтыфікацыі інтэрыёрнага свету". Паняцце суб'ектыўнасці Э. Левінас не зводзіць ні да структурных сувязяў, ні да сістэмы рэфлексаў, ні да ўнутранага свету трансцэндэтальнай свядомасці.

*Параўн.:* индивид, индивидуализация, личность (КСПС, сс. 84, 85, 142-145), эгоизм, эгоцентризм (КПС, сс. 399-401), самость (ПЭ, с. 675).

**САЦЫЯЛІНГВІСТЫКА** – галіна мовазнаўства, што вывучае праблемы сувязі мовы з сацыяльным жыццём, задачамі і формамі правядзення моўнай палітыкі, праблемы павышэння моўнай культуры народа, зменай суадносін вуснай і пісьмовай форм маўлення ў сувязі з НТР і інш. Шырока выкарыстоўваецца і тэрмін "сацыяльная лінгвістыка", пад які падводзяцца найперш стыкавыя сувязі

мовазнаўства і сацыялогіі *(гл.)*, сацыяльнай псіхалогіі *(гл.)* і этнаграфіі *(гл.)*, псіхалінгвістыкі і тэкстазнаўства *(гл.)*. С. вывучае значны комплекс праблем, звязаных з сацыяльнай прыродай і мовы, і маўлення *(гл.)*, з іх грамадскімі функцыямі і механізмамі ўздзеяння сацыяльных фактараў на мысленне і маўленне, з роляй вуснага і пісьмовага маўлення ў грамадстве, дзяржаве і г. д.; сацыяльная дыферэнцыяцыя той ці іншай мовы вывучаецца на ўсіх узроўнях як літаратурнай, так і дыялектнай мовы, побыт нацыянальнай мовы. Самым важным ключавым паняццем С. з’яўляецца паняцце моўнай (маўленчай) сітуацыі *(гл.)*, якая пераважна вызначаецца як сукупнасць форм існавання мовы (моў, рэгіянальных койнэ, тэрытарыяльных і сацыяльных дыялектаў). Вялікае значэнне ў С. надаецца вывучэнню ўзаемадзеяння мовы і культуры, двухмоўя і шматмоўя *(гл.)* маўленчай дзейнасці і паводзін камунікантаў, маўленчага этыкету і моўнай нормы. Методыка С. канцэнтруецца на сінтэзе метадаў палявога даследавання і метадаў сацыялагічнага аналізу моўнага матэрыялу. Анкетаванне, інтэрв’юраванне, апытанні, таблічныя і верагоднасна-статыстычныя даныя дапамагаюць у значнай меры вызначэнню сацыяльных і індывідуальных адносін у грамадстве, палітыцы, камунікацыі, інфармацыі, вызначэнню моўных (маўленчых) інавацый у прасторавым і сацыяльным вымярэннях, вызначэнню магчымых вынікаў ці наступстваў, увогуле магчымыя і жаданыя вынікі працэсу ў выбары. Сацыялагічныя напрамкі актыўна распрацоўваюцца і выкарыстоўваюцца ў лінгвістыцы розных краін з канца XIX – пачатку XX стст.

Да сацыялагічных праблем так ці інакш адносяцца праблемы міжнацыянальных моўных зносін як у адной дзяржаве, так і на міжнародным узроўні. У СССР прэвалявала руская (расійская) мова, у розных калоніях і дамініёнах – англійская, французская, іспанская, партугальская і інш. Сусветнымі мовамі на сучасным этапе з’яўляюцца англійская, руская, іспанская, арабская і інш., выкарыстоўваюцца з гэтымі мэтамі і штучныя мовы тыпу эсперанта *(гл.)* і інш.

Беларуская сацыялінгвістыка, распачатая Я. Ф. Карскім і П. А. Бузуком, атрымала ўдалую далейшую распрацоўку Б. А. Плотнікавым, А. Я. Міхневічам, В. К. Шчэрбіным, А. А. Лукашанцам і інш.

*Параўн.:* социолингвистика (СЭС, с. 1245), (ЛЭС, сс. 481-482), сацыялінгвістыка, сацыялагічная лінгвістыка (ЭнЛіМБел, IV, с. 654), сацыяльная лінвістыка (БМЭ, сс. 471-472).

**САЦЫЯЛОГІЯ** – навука пра законы станаўлення, функцыявання і развіцця грамадства, сацыяльных адносін і сацыяльных груповак (згуртаванняў). С. цікавіцца суб’ектам *(гл.)* і прадуктам грамадскіх адносін, заканамернасцямі сацыяльных дзеянняў і масавых паводзін людзей. Разуменне сацыяльнага як спосабу ўзаемасувязі паміж суб’ектамі дзейнасці паводле станаўлення і змянення становішча (статусаў) гэтых суб’ектаў у грамадстве як суцэльнай (“целостной”) сістэме складае асобны аспект усіх грамадскіх адносін (сацыяльна-эканамічных, сацыяльна-палітычных, сацыяльна-псіхалагічных і г. д.). Канкрэтызацыя прадмета С. вылучана ў асобнае пытанне сувязі С. з іншымі навукамі, у першую чаргу грамадскімі.

У выніку ўзніклі так званыя стыкавыя навукі – сацыяльная лінгвітсыка *(гл.)*, сацыяльная псіхалогія *(гл.)*, сацыяльная геранталогія, сацыяльная антрапалогія і інш. На працягу XIX-XX стст. узніклі асобныя сацыялагічныя напрамкі, школы, плыні, напрыклад, Французская сацыялагічная школа, Пражскі лінгвастылістычны гурток, Жэнеўская школа і інш. На сучасным этапе развіцця С. павышаецца яе метадалагічная роля, узнікае магчымасць комплекснага падыходу да вывучэння сацыяльных праблем. С. як навука валодае шэрагам спецыфічных функцый у грамадстве (тэарэтыка-пазнаваўчай, свядомасна-ідэалагічнай, крытычнай, прыкладной, гуманістычнай і інш.). Прыкладная функцыя С. звязана з удасканаленнем кіраўнічых адносін. С. – шматгаліновая навука. Найбольш значнымі яе галінамі з'яўляюцца такія, як С. узросту, С. горада, С. вёскі, С. свабоднага часу (досуга), С. ведаў, С. культуры, С. масавай камунікацыі, С. міжнародных адносін, С. моладзі, С. маралі, С. грамадскай думкі, С. таварыстваў (арганізацый), С. полаў, С. палітыкі, С. права, С. рэлігіі, С. сям'і, С. працы, С. спорту, С. мовы і г. д.

*Параўн.:* социальное действие, социальность, социология (ПЭ, сс. 767-778), социологическое направление (ЛЭС, сс. 482-483), социограмма, социометрия (КПС, сс. 336-337), сацыялогія, сацыяльнае забеспячэнне (БелСЭ, сс. 390-391), сацыялогія, соцыўм (ТСБЛМ, 2002, сс. 588, 614).

**САЦЫЯЛЬНАЯ АЦЭНАЧНАСЦЬ (МАЎЛЕННЯ, ТЭКСТУ)** – адна з асноўных стылёвых рыс літаратурна-мастацкага маўлення (публіцыстычнага і мастацкага стыляў), абумоўленая не толькі інфармацыйным, але і ўздзейным (пераважна такім) характарам маўлення. Як важнейшы прынцып публіцыстычнай мовы, С. А. была абгрунтавана тэарэтычна і практычна ў працах Р. Я. Салганіка ў апошніх дзесяцігоддзях XX ст. Вучоны адзначыў, што "змена ідэалгічнай парадыгмы не адмяніла прынцыпа С. А." (СЭСРЯ, с. 396). Сутнасць С. А. заключаецца ў тым, што адрасант (журналіст, пісьменнік) ажыццяўляе сваю прафесійную дзейнасць як выразнік або абаронца інтарэсаў і каштоўнасцей пэўных сацыяльных груп (груповак, таварystваў, згуртаванняў). Нягледзячы на вырызную аўтарскую пазіцыю, адрасант узнаўляе ацэнкі якойсьці сацыяльнай групы ці падробліваецца пад "думкі, вобразы, малюнкі" (Я. Колас) адрасата. Размежаванне пазітыўнай і негатыўнай ацэначнасці ўскладняецца з-за пераходу моўных (маўленчых) сродкаў з так званай адмоўнай стылістычнай ацэначнасцю ў разрад станоўчай стылістычнай ацэнкі (асабліва ў дасавецкі, савецкі і постсавецкі час). Напрыклад, вобраз Леніна трактаваўся ў XIX ст. як вобраз злыдня і злачынца, ў XX ст. – як правадыра і лідэра КПСС, а ў XXI ст. – гэта ўжо прайдзісвет і забойца. (*Гл*. артыкулы "Ленініяна" і " Ленін У. І." ва ўсіх энцыклапедыях на рускай і беларускай мовах).

*Параўн.:* стылістычная (стылёвая) афарбоўка моўных сродкаў ва ўсіх "Стылістыках беларускай мовы" (найперш такіх аўтараў, як М. Я. Цікоцкі, А. А. Каўрус, А. К. Юрэвіч).

**САЦЫЯЛЬНАЯ ПСІХАЛОГІЯ** – галіна псіхалогіі, што вывучае заканамернасці паводзін і дзейнасці людзей, абумоўленыя фактам іх уключэння ў сацыяль-

ныя групы, а таксама псіхалагічныя характарыстыкі саміх гэтых груп (КПС, сс. 322-333). На працягу XIX ст. элементы С. П. фармаваліся ў такіх навуках, як антрапалогія, этнаграфія, мовазнаўства і, зразумела, псіхалогія і сацыялогія. Як самастойная навуковая дысцыпліна лічыцца з пачатку XX ст. (канкрэтна ў шматлікіх працах указваецца 1908 г. і імёны вучоных-стваральнікаў С. П. як навукі , так і самога навуковага тэрміна: англічаніна У. Макдугала і амерыканца Э. Роса). С. П. як навука ўключае ў сябе наступныя асноўныя раздзелы: заканамернасці моўных зносін ("общения") і ўзаемадзеяння ("взаимодействия") людзей, у прыватнасці, роль моўных зносін (камунікацыі) у сістэме грамадскіх і міжасобасных адносін; псіхалагічныя характарыстыкі сацыяльных груп, як вялікіх (класы, нацыі), так і малых (установы адукацыі, навукі, культуры і інш.); псіхалогія асобы (разам з праблемамі сацыяльнай устаноўкі, сацыялізацыі і інш.); практычныя дадаткі С. П. ставіць перад сабой галоўным чынам практычныя задачы: аптымізацыя кіравання (кіраўніцтва) сацыяльнымі працэсамі, стварэнне псіхалагічнай службы, якая магла б вырашыць прыкладныя праблемы ў эканоміцы, у сістэме выхавання, у сферы масавай інфармацыі, у спорце, у сферы быту і сям'і і г. д. Таму мае цесную сувязь з сацыялогіяй і яе напрамкамі, раздзеламі і адгалінаваннямі.

*Параўн.:* псіхалогія мастацтва, псіхалогія навукі, псіхалогія палавых адрозненняў, псіхалогія прапаганды, псіхалогія рэлігіі, псіхалогія спорта, псіхалогія творчасці, псіхалогія працы, псіхалогія кіравання (кіраўніцтва) і інш. (*гл.:* КПС, сс. 278-285 і інш.), псіхааналіз (ЛЭС, 1987, с. 311), псіхалагічны аналіз (ЭнЛіМБел, IV, с. 411), псіхалагізм (ТСБЛМ, с. 524), психологическое направление (ЛЭС, сс. 405-406).

**СВАБОДНЫ ВЕРШ**, або **ВЕРЛІБР** – разнавіднасць верша, які паводле характару гучання знаходзіцца на мяжы паміж вершаванай і празаічнай мовай *(гл.)*, хоць валодае многімі ўласцівасцямі твораў паэзіі (рытмічнасць, павышаная эмацыянальнасць, багацце і гнуткасць паэтычнай лексікі і паэтычнага сінтаксісу). Вельмі важным у С. В. з'яўляецца асобны радок, яго графічная разбіўка:

*Хто мы такія?*
*Толькі падарожныя, – папутнікі сярод нябёс.*
*Нашто ж на зямлі*
*Сваркі і звадкі, боль і горыч,*
*Калі ўсе мы разам ляцім*
*Да зор?*

(М. Багдановіч. Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы…).

*Параўн.:* верлібр, свабодны верш (СЛТ, 1983, с. 35), (Рагойша, 1979, с. 100).

**СЕГМЕНТАЦЫЯ [1]** – чляненне моўнай плыні, тэксту на сегменты (адрэзкі, элементы): фанемы, марфемы, словы, словазлучэнні (сінтагмы), спалучэнні слоў (словазлучэнні) і фразы (сказы, выказванні). Звычайна выдзяляюць 2 разнавіднасці С. – на гукавым (фанемным) узроўні і на ўзроўні значымых адзінак.

М. Я. Цікоцкі шырока разглядае "сегментаваныя канструкцыі з лагічным і эмацыянальна-экспрэсіўным падкрэсліваннем (актуалізаваннем) членаў сказа, са спецыфічным іх інтанаваннем" (*гл.:* Цікоцкі, 1976, сс. 43,44; 1995, сс. 251, 252).

Падзел звязнага маўлення (выказванняў, тэкстаў) на сегменты адбываецца на аснове разнастайных крытэрыяў: напрыклад, чляненне на фанемы адбываецца на аснове марфалагічных крытэрыяў, таму што фанема можа супадаць з марфемай; чляненне складанага выказвання на фразы можа адбывацца комплексна, з боку ўсіх прасадычных характарыстык, найперш зменай мелодыкі, тэмпу, інтэнсіўнасці, фразавага націску і г. д.

*Параўн.:* сегментацыя (ЛЭС, сс. 436-437), сегмент (СЛТ, 1990, с. 120), (ТСБЛМ, 2002, с. 593).

**СЕГМЕНТАЦЫЯ [2]** – від сувязі сказаў, пры якім асобна афармленыя члены сказа (у пераважнай большасці дзейнікі) акрэсліваюць тэму наступных сказаў, ствараючы напружанасць, спецыфічную танальнасць выкладу, павышаючы эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку. Звычайна сегментаваныя сказы як самастойныя адзінкі выступаюць у якасці зачынаў складаных сінтаксічных цэлых *(гл.)*, не толькі змяшчаючы ў невялікім аб'ёме асноўную тэму выказвання *(гл.)*, але і пачынаючы гэта выказванне. Аднак С. характарызуецца толькі ўмоўнай самастойнасцю: без далейшага апісання (апавядання *(гл.),* разважання *(гл.)*) яна губляе свой сэнс, сваю стылістычную каштоўнасць.

*Ноч. Ноч. Ноч.*

*Над вёскай, над усім светам стаіць ноч. Спіць бабуля, спіць Іванкава маці. Спіць Іванка. Ніхто не ведае, што сніцца яму. Пад ложкам, абкручаныя аборамі, ляжаць новыя чуні. Прачнецца заўтра Іванка, і першая ягоная думка будзе праіх. Узрадуецца тады Іванка. Добра заўтра будзе Іванку. Добра будзе яму* (М. Стральцоў. Адзін лапаць, адзін чунь).

У якасці сегментаваных выступаюць падкрэсленыя элементы зачыну прыведзенага складанага сінтаксічнага цэлага *(гл.)*.

*Параўн.:* сегментацыя (ЛЭС, сс. 436-437), сегмент (СЛТ, 1990, с. 120), (ТСБЛМ, 2002, с. 593).

**СЕМАНТЫЗАЦЫЯ, СЕМАНТЫЧНЫ АНАЛІЗ** – выяўленне значэння моўнай адзінкі, яе зместу; аналіз марфемы, слова, словазлучэння з пунтку гледжання іх значэння (СЛТ, 1990, сс. 120, 121). Значэнні моўных адзінак вывучаюць розныя навукі, але найбольш поўнае іх асвятленне робіцца семантыкай, або семасіялогіяй *(гл.)*. Напрыклад, у лексікалогіі найперш вызначаецца лексічнае значэнне слова – як слоўнікавае, так і кантэкстуальнае; паказваецца, што слова ці адназначнае, ці шматзначнае (калі такое, то ўказваюцца ўсе яго значэнні, або семантычныя варыянты, і прыводзяцца прыклады-ілюстрацыі гэтых значэнняў); называюцца сінонімы; антонімы гэтага слова; сваё (спрадвечнае) гэта слова ці запазычанае (калі апошняе, то ўказваецца прыкмета запазычанасці); актыўнае гэта слова ці пасіўнае паводле яго ўжывання (архаізм, гістарызм, неалагізм); агульналітаратурнае гэта слова (г. зн. з агульнапрынятым значэннем) ці стылістычна абмежаванае (гутарковае, навуковы тэрмін, тэрытарыяльны дыялектызм, жаргоннае слова і г. д.).

Значэнні моўных адзінак як асобных знакаў у знакавых сістэмах вывучае семіётыка, або семіялогія *(гл.)*, дзе ў раздзеле "семантыка" *(гл.)* вядзецца гаворка

пра семы – як мінімальныя кампаненты зместу (выражэння) і сememы як сукупнасць сем той або іншай моўнай адзінкі. З дапамогай дыферэнцыйных сем апісваюцца адрозненні адзінак так званага семантычнага поля, г. зн. сукупнасць відавых сем таго ці іншага самастойнага слова.

Яшчэ старажытныя вучоныя заўважылі, што шматлікія словы сваім значэннем з'яўляюцца не толькі роднаснымі і тоеснымі, але і ўтвараюць пэўныя сэнсавыя групы, своеасаблівыя класы і падкласы, родавыя і відавыя паняцці. Класіфікацыя лексікі на паняційнай аснове прывяла многіх лінгвістаў да выдзялення лексіка-семантычных груп, тэматычных лексічных гнёздаў і радоў, семантычна-асацыяцыйных аб'яднанняў. Вось такую лексіка-семантычную групу могуць складаць назвы, звязаныя з паняццем "школа": гэта і будынак (дом, аднапавярховы ці шматпавярховы, цагляны ці драўляны, пабелены ці пафарбаваны і г. д.), і школьны двор (разам з пляцоўкамі для лінейкі, гімнастыкі, розных гульняў і інш.), і разнастайныя гімнастычныя прыстасаванні (бум, турнік, лесвіцы і інш.), і прышкольны ўчастак (агарод, сад, парнік, аранжарэя і г. д.), і кожны клас (першы, другі і г. д.), і сістэма навучання і выхавання (політэхнічная, агульнаадукацыйная, пачатковая і інш.), і г. д. У гэтакую групу ўваходзяць лексічныя гнёзды, звязаныя з паняццем "дырэктар", "завуч", "настаўнік-прадметнік" і інш. Тут можна выдзеліць як асобныя тэматычныя рады накшталт *вучыцца, пазнаваць, атрымліваць веды, вывучаць* (батаніку, фізіку,матэматыку, літаратуру і інш.), *пераходзіць* (з класа ў клас) і г. д. Сюды адносяцца і такія вобразныя (семантыка-асацыяцыйныя) намінацыі, як *скарбніца ведаў, крыніца ведаў* (школа, кніга), *светач навукі, праваднік у крыніцу ведаў* (настаўнік) і шмат інш.

Усё адзначанае дало падставу сцвярджаць вучоным, што значэннем (семантыкай) слова з'яўляецца: 1) прадмет, які называецца; 2) уяўленне пра гэты прадмет; 3) паняцце; 4) адносіны паміж знакам і прадметам, паміж знакам і ўяўленнем пра прадмет, паміж знакам і дзейнасцю людзей, паміж самімі знакамі; 5) функцыя слова-знака; 6) структурная адзінка мовы, якая паведамляе што-небудзь; 7) адлюстраванне рэчаіснасці і інш.

*Параўн.:* сема (ЛЭС, сс. 437, 438), сема, семема (СЛТ, 1990, сс. 120,121), сема, семантема, семантизация (СЛТ, 1969, с. 400), семанализ, семиозиз (ПЭ, сс. 686-688).

**СЕМАНТЫКА, СЕМАСІЯЛОГІЯ** – раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца значэнні моўных адзінак, прычыны і ўмовы змянення гэтых значэнняў у мове. Семантыкай называюць надзвычай часта і само "значэнне моўных адзінак – марфем, слоў, словаформ, фразеалагізмаў, сказаў" (СЛТ, 1990, с. 120). Таксама называецца семантыкай адзін з асноўных "раздзелаў семіётыкі *(гл.)* і тыпалагічнай лінгвістыкі, які разглядае знакі паводле іх значэння і тэксты паводле іх сэнсу" (ЭнЛіМБел, IV, с. 700). Розніцу паміж семантыкай і семасіялогіяй добра вызначылі складальнікі ЛЭС яшчэ ў першым выданні: "С. – увесь змест, інфармацыя, што перадаецца мовай або я.-н. яе адзінкай (словам, граматычнай формай слова, словазлучэннем, сказам)" (с. 438) і "раздзел мовазнаўства, які займаецца лексічнай семантыкай, г. зн. значэннямі слоў і словазлучэнняў, што выкарыстоўваюц-

ца для называння, намінацыі асобных прадметаў і з'яў рэчаіснасці" (с. 440). Аднак гэтая розніца з удакладненнем: "у рускай і еўрапейскай традыцыі" (тс.). Практычна *семантыка* і *семасіялогія* – гэта сінонімы з лінгвістычнага пункту погляду сённяшняй навукі пра мову і моўныя знакі (*гл.* СЕМІЁТЫКА).

Асноўная ўвага ў С. удзяляецца цэнтральным адзінкам мовы (маўлення) – слову і сказу (выказванню). Паўназначныя словы з боку іх семантыкі (значэння, зместу, сэнсу) часцей за ўсё разглядаюцца паводле прынцыпаў "семантычнага трохвугольніка": *знешні бок* ( гучанне, графічнае адлюстраванне) + *унутраны сэнс* (сувязь з *дэнататам* – прадметам рэчаіснасці і *паняццем* – уяўленнем пра прадмет рэчаіснасці) + паслядоўнасць гукаў або літар. Знешні бок – гэта тое, што абазначае, а ўнутраны – абазначаемае, змест, сігніфікат, інтэнсіянал *(гл.)*.

Сказ (выказванне) мае свой *дэнатат* (або рэферэнт) з абазначэннем факта рэчаіснасці і *сігніфікат* (або сэнс), адпаведны суджэнню *(гл.)* пра гэты факт. Састаўнымі часткамі сказа з'яўляюцца састаў дзейніка (суб'ект) і састаў выказніка (прэдыкат). Паводле ЛЭС, "дзейнік (або суб'ект) дэнататны, рэферэнтны, а выказнік (або прэдыкат) сігніфікатыўны" (с. 438).

Аналагічна слову і сказу, паводле таго ж ЛЭС, арганізавана С. усіх адзінак мовы з боку 2 сфер: прадметнай, або дэнататнай (экстэнсіянальнай) і сэнсавай, або сігніфікатыўнай (інтэнсіянальнай) С. Напрыклад, значымыя часткі слова – каранёвыя і афіксальныя марфемы могуць быць кваліфікаваныя наступным чынам: карані выражаюць рэчыўныя, або лексічныя, значэнні, а афіксы – астатнія: граматычныя (род, лік, склон, асобу, трыванне і г. д.), дэрыватыўныя (словаўтваральныя) і канатацыйныя (дадатковыя да прадметна-лагічнага значэння, або эмацыянальныя, экспрэсіўныя, ацэначныя значэнні, г. зн. стылістычна абмежаваныя). Сума ўсіх значэнняў моўных адзінак з прамымі, намінацыйнымі значэннямі слоў – вытворныя, або пераносныя, значэнні моўных адзінак, якія ўтвараюцца часцей за ўсё ў карыстанні мовай (маўленні, маўленчай дзейнасці), у семантычную сістэму не ўваходзяць, але папаўняюць канатацыйны запас. Граматычныя значэнні падзяляюцца на катэгарыяльныя і рэляцыйныя.

Значэнні розных тыпаў аб'ядноўваюцца ў групы (групоўкі) і падзяляюцца на парадыгматычныя і сінтагматычныя. Парадыгматычныя існуюць у сістэме мовы і выдзяляюцца (вывучаюцца) як сінанімія, гіпанімія, антанімія, аманімія і г. д., сінтагматычныя выяўляюцца ў маўленчай дзейнасці, г. зн. у вусным ці пісьмовым маўленні.

Увогуле мэтай семантычнага аналізу з'яўляецца – устанавіць тыпы моўных значэнняў, адзінкі семантыкі, іх сістэмныя сувязі, структурныя суадносіны функцыі ў фарміраванні зместу і сэнсу выказвання (звязнага маўлення).

*Параўн.:* семантыка (БМЭ, с. 476-477), семантика, семасиология, синтагматика, парадигматика (СЛТ, 1969, сс. 400-401, 408-409, 310).

**СЕМІЁТЫКА, СЕМІЯЛОГІЯ** – навука, якая займаецца вывучэннем як розных уласцівасцей знакаў – сем, семем, так і разнастайных знакавых сістэм, якія выкарыстоўваюцца для перадачы інфармацыі, у тым ліку і мовы як сістэмы зна-

каў ("сістэмы сістэм"). Нам вядома з БМЭ, што сема, семема і лексема з'яўляюцца адзінкамі семантыкі *(гл.)*, складаюць аснову лексіка-семантычных палёў (БМЭ, с. 477). Аднак С. цікавяць як агульнае ў будове і функцыянаванні разнастайных знакавых (семіятычных) сістэм, што захоўваюць і перадаюць інфармацыю, напрыклад, мова, звычаі і абрады людзей, іншыя з'явы культуры і г. д., так і прыватнае (напр., лагічная развага, С. аднаго фільма, С. лірыкі М. Танка, С. тэксту аповесці Я. Коласа "Дрыгва" і г. д.). С. даследуе ўсялякія знакі і іх спалучэнні.

Сучасная С. складаецца з трох раздзелаў*: семантыкі* (вывучае заканамернасці ў адносінах паміж знакам (семай) і сэнсам (зместам), *сінтактыкі* (даследуе адносіны паміж самімі знакамі) і *прагматыкі* (вывучае адносіны паміж знакамі і тымі, хто іх выкарыстоўвае). З гэтай прычыны С. мае надзвычай цесную сувязь з усімі сучаснымі асноўнымі і дамінуючымі навукамі. Як лагічная навука, С. уплывае на развіццё не толькі сучаснай лінгвістыкі, асабліва лінгвастылістыкі, але і стала агульным метадам для даследаванняў у літаратуразнаўстве, мастацтвазнаўстве, тэорыі культуры ўвогуле. Сёння, у час найбольш шырокага кагнітыўнага падыходу да С., складваюцца новыя суадносіны яе раздзелаў: семантыка пачынае разумецца як галіна сапраўднасці ("истинности") выказванняў, сінтактыка – як галіна фармальнай высновы, а прагматыка – як галіна меркаванняў, ацэнак, прэзумпцый і ўстановак гаворачых. Дзякуючы гэтаму, у прыватнасці, стала магчымым вызначыць мастацкую літаратуру семіятычна (не эстэтычна і не канкрэтна-гістарычна) праз яе мову, як сферу дзеяння інтэнцыянальнай мовы, апошняя вызначаецца як мова, што апісвае магчымы, інтэнсіянальны свет (ЛЭС, с. 441).

Патрэбна адрозніваць моўныя і нямоўныя знакі. Да апошніх адносяцца знакі-копіі, знакі-прыкметы, знакі-сімвалы (БМЭ, с. 478). Цяжка сабе нават уявіць сучаснае жыццё без разнастайных знакаў, якія не толькі дапамагаюць арыентавацца ў ім, але і ўспрымаць і вывучаць яго, прымнажаць звесткі пра яго, перадаваць інфармацыю людзям у межах аднаго часу і пакаленням у межах часу гістарычнага (тамсама, с. 479).

Пачаткам С. як "навукі пра знакі" сталі працы Ч. С. Пірса і Ф. дэ Сасюра. Першы імкнуўся стварыць асобны варыянт матэматычнай логікі, апошні – новую навуку пад назвай "Семіялогія" з аб'ектам вывучэння разнастайных знакаў. З узнікненнем Пражскай лінгвістычнай школы і Капенгагенскага лінгвістычнага гуртка, а таксама рускай "фармальнай школы" ў 20-30-х гг. XX ст. узніклі С. мовы і літаратуры. Аснову такой гуманітарнай С. склалі 2 комплексы паняццяў: 1) найбольш агульныя семіялагічныя заканамернасці і 2) найбольш агульныя семіялагічныя падзелы (узроўні, аспекты) вывучаемых аб'ектаў.

*Параўн.:* семіётыка (ЭнЛіМБел, IV, с. 701), (СЛТ, 1990, с. 121), семиотика (ЛЭС, сс. 440-442), (КЛЭ, IV, сс. 746-749), (ПЭ, сс.689-691).

**СЕНТЭНЦЫЯ** – выслоўе павучальна-маральнага характару (ТСБЛМ, 2002, с. 595). Напрыклад: *Рупная пчала // Умее ў соты мёд збіраць і з горкіх кветак* (М. Багдановіч); *І трэба часам крыж пакуты // Панесці, мілыя мае вы, // Зазнаці і гора, неспадзевы! // Але раз ты наважыў дзела, // Ідзі спакойна, роўна, смела, // Ідзі, назад не аглядайся // І на другіх не пакладайся!* (*Я.* Колас. Новая

зямля). С. можна лічыць аб'ёмныя прыказкі тыпу: *Радаваўся старац, што пераржыў марац, ажно ж у маю панеслі яго да гаю; Не будзь у жыцці салодкім і горкім, бо салодкага з'ядуць, а горкага праплююць…* і шмат іншых. Вельмі часта выкарыстоўваюцца С. у зачынах і канцоўках розных казак. Ды і ў "Казках жыцця" Я. Коласа іх надзвычай многа. Вось некалькі прыкладаў:

*Спярша нават здавалася, што гэта закіданае адзіноаке Дрэва сталае з боку жыцця – больш гібела, чым жыло, а на праўду выходзіла, што яно жыло шмат паўней і глыбей пачувала жыццё нават ад тых дрэў, што раслі ў лесе. Такі ўжо характар адзіноты: гэта яе ўрода, яе істота. І хто хоча жыць паўнейшым жыццём і гастрэй пранікаць у яго тайны – глыбіні, той павінен быць адзінокім і незалежным* ("Адзінокае дрэва");

*З вялікага страху бедны Жолуд задрыжэў, вылузаўся з місачкі і ўпаў на зямлю ў двух кроках ад свінні! Але ўпаў ён якраз у тую яміну, што вырыла свіння сваім доўгім лычком.*

*І вось, што выйшла: свіння хацела паесці жалуды і памагла вырасці аднаму Жолуду, вырыўшы яму пасцельку. Жолуд на другі год прарос і стаў дубком, а свінню людзі закалолі, і яна стала мясам* ("Зло – не заўсёды зло");

*І стала прасіць маладое насенне, каб вецер узяў яго з сабою і панёс у аблюбаваную даль.*

*Старой ліпе шкада было пускаць дзіця ў чужы свет, невядома куды, але што парадзіць? Можа там і будзе лепей яму? Дык што станавіцца ўпоперак дарогі? Мо гэты шлях – шлях яго шчасця? Благаславіла маці свайго дзіця* ("Даль").

Як бачым, акрамя філасафічнай алегорыі, у прыведзеных С. шмат вобразных сродкаў мовы: эпітэтаў, метафар, параўнанняў, разнастайных паўтораў, асабліва паралелізму, антытэзы і інш. Таксама вобразна-выяўленчую ролю адыгрывае пытальная і клічная інтанацыя, пэўную жанрава-стылістычную нагрузку выконваюць імператыўныя формы і формы суб'ектыўнай ацэнкі. Некторыя даследчыкі лічаць разнавіднасцямі С. так званыя гномы і апафегісы.

*Параўн.:* сентэнцыя (ЭнЛіМБел, IV, с. 705), выслоўі (БМЭ, с. 116), сентенция (СИС, с. 460), (Ожагаў, с. 636)

**СІМВАЛ** – 1) у старажытных грэкаў умоўны рэчыўны знак розных груповак і таварыстваў (тайных, прафесійных і інш.);

2) прадмет ці вобраз яго, пры дапамозе якіх абазначаюцца (сімвалізуюцца) розныя паняцці, ідэі, атрыбуты. Напрыклад: *Вось сімвал твой, мой краю родны! // Зварушаны нарэшце дух народны, // Я верую, бясплодна не засне, // А ўперад рынецца, маўляў, крыніца, // Каторая магутна, гучна мкне, здалеўшы з глебы на прастор прабіцца* (М. Багдановіч. Паміж пяскоў егіпецкай зямлі…);

3) мастацкі прыём, вобраз, прызначаны ўвасабляць пэўную ідэю. Тыповымі прыкладамі такога С. з'яўляецца найперш самі назвы твораў: "Курган" і "Раскіданае гняздо" Я. Купалы, "Дрыгва" і "На ростанях" Я. Коласа, "Антланты і карыятыды" і "Сэрца на далоні" І. Шамякіна, "Зацюканы апостал" і "Трыбунал" А. Макаёнка і шмат іншых. Сімвалічныя ў мастацкіх творах разнастайныя эпізо-

ды, напрыклад, у рамане І. Мележа Ганна параўноўваецца з рабінай, якая “у жнівеньскім росквіце… заружавела, зазырчэла яркім, кідкім хараством, гарачым полымем агністых гронак… Як тая рабіна цвіла ў гэтае лета Ганна”. У славянскім фальклоры *рабіна* – сімвал дзяўчыны на выданні замуж, але з горкім будучым лёсам. Першае, што гэта прадказвае, – эпізод з гадзюкай, якая прапаўзла паміж Васілём і Ганнай, калі яны былі разам каля вады;

4) умоўнае абазначэнне, прынятае ў навуцы: хімічны С. – $H_2O$ (вада); матэматычны, фізічны і лінгвістычны С. – $<$ (“ад”, “паходзіць ад”, “утвораны ад”) і г. д.;

5) с. веры – кароткі выклад асноўных палажэнняў веравызнання. Напрыклад, асноўныя догматы хрысціянства выкладзены ў малітве “Верую…”, якая так і называецца: “Сімвал веры”.

Сімвалы бываюць не толькі агульнаславянскія (*сава* – сімвал мудрасці, *ліса* – с. хітрасці і г. д.), але і сусветныя (антычныя, біблейскія ці сучасныя накшталт *Голуб міру*), чыста нацыянальныя (фальклорныя, пісьменніцкія і інш.). Да апошніх адносяцца вобразы-сімвалы *музыкі, гусляра, дудара-званара, сейбіта, вясны, зімы, восені, кайданаў, путаў* і г. д., што набылі пры выкарыстанні іх рознымі беларускімі пісьменнікамі, у першую чаргу класікамі, чыста рэвалюцыйныя, рэалістычныя, нацыянальна-вызваленчыя, амбівалентныя рысы.

Беларускія літаратуразнаўцы пераканаўча даказалі, што кожны сімвал – гэта вобраз, а кожны мастацкі вобраз змяшчае ў сабе пэўны фрагмент сімвала. У параўнанні з вобразам сімвал выходзіць за межы свайго прадметнага значэння да больш шырокіх сэнсавых абагульненняў. Калі алегорыя – гэта толькі персаніфікацыя, увасабленне пэўнай абстрактнай ідэі, то ў сімвале вобразнасць захоўвае сваю адносную самастойнасць, мае мастацкую каштоўнасць з-за змяшчэння ў сабе мноства сэнсавых азначэнняў аб’екта. Інтэнсіўнасць мастацкай сімволікі залежыць ад пісьменніка: яго светапогляду і сілы творчага ўяўлення. У той час як мастакі і пісьменнікі барока і класіцызму шырока выкарыстоўвалі эмблематыку, алегорыю і ўвасабленне, прадстаўнікі рамантызму і рэалізму паказалі шматгранную змястоўнасць вобразаў, адзінства тыпізацыі і мастацкай індывідуалізацыі. *Гл.* МІФАЛАГІЧНЫЯ ВОБРАЗЫ (ЭБЭ, сс. 320-322).

*Параўн.:* сімвал (СЭС, с. 1202), (СИС, с. 464), (КЛЭ, с. 826, т. 6), (ЭнЛіМБел, IV, с. 720), (Рагойша, 2003, с. 141), (ПЭ, сс. 703-704).

**СІМВАЛІЗАЦЫЯ, СІМВОЛІКА** – 1) выражэнне ідэй, адлюстраванне прадметаў, з’яў і розных паняццяў пры дапамозе сімвалаў *(гл.)*; 2) сукупнасць сімвалаў *(гл.)*. “У адрозненне ад утылітарна-бытавых знакаў (напр., сістэма дарожна-транспартнай сігналізацыі), грамадска-паліт. знакаў-сімвалаў (гербы, флагі, узнагароды, званні і г. д.) і навук.-філас. паняццяў (матэмат. формулы, функцыі, тэрміны), каштоўнасць якіх у іх адназначнасці, змястоўнасць сімвала мастацкага ў сэнсавай варыянтнасці, што найчасцей не паддаецца толькі рацыяналіст. інтэрпрэтацыі і спасцігаецца пры дапамозе маст. інтуіцыі. Калі алегорыя – толькі персаніфікацыя, увасабленне пэўнай абстрактнай ідэі, то ў мастацкім сімвале вобразная выяўленчасць, маст. самакаштоўнасць і мае ў сабе мноства сэнсавых вызначэнняў аб’екта. Інтэнсіўнасць, узровень і характар мастацкай сімволікі залежаць ад

узроўню развіцця духоўнай культуры грамадства, ад творчага метаду, стылю і светапогляду стваральнікаў мастацтва, сац.-паліт. умоў іх творчасці, віду і жанру мастацтва (сімвалізм манум. мастацтва і архітэктуры, нацюрморта, лірычнай паэзіі і музыкі больш выяўлены і відавочны, чым сюжэтна-тэматычнай карціны, сац.-паліт. рамана і бытавой драмы) і, урэшце, ад індывід. асаблівасцей таленту і творчага ўяўлення" (ЭнЛіМБел, IV, с. 720).

Іншасказанне, якое называюць алегорыяй ці сімвалам, мае старажытную гісторыю, калі адным словам выражалася абстрактнае паняцце праз канкрэтны вобраз, як у метафары (вобраз лісы ці ліса – *хітрасць,* савы – *мудрасць*, бярозы ці рабіны – *дзяўчыны ці маладой жанчыны,* каня ці вала – *працавітасць* і шмат інш.), або шматзначны вобраз, што з'яўляецца ўніверсальным знакам і грунтуецца на паралелізме з'яў (*туман, хмары, ноч, дарога* – сімвалы смутку, журбы, небяспекі і смерці; *хлеб-соль* – сімвал гасціннасці; *дуда (дудка), жалейка, смык* – сімвалы паэзіі і шмат інш.). Мова беларускай мастацкай літаратуры ўвабрала ў сябе і агульначалавечую (антычную ці біблейскую), і фальклорна-нацыянальную сімволіку. Алегорыі баек і прытчаў Эзопа, прайшоўшы лафантэнаўска-крылоўскую апрацоўку, увасобіліся ў беларускамоўных байках Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, К. Крапівы і інш. Вобразы-сімвалы кайданаў, ланцугоў, путаў і г. д. набылі ад рамантычна-ўзнёслых рыс чыста рэалістычныя, рэвалюцыйныя, нацыянальна-вызваленчыя, амбівалентныя рысы (асабліва такія сімвалы, як *курган* – былая слава народа і яго заняпад, *папараць-кветка* – сімвал вечнага пошуку шчасця і яго нязбытнасці, *зіма* – фізічная моц народа і адначасова яго духоўны сон, *крыж* – сімвал, знак пакуты, смерці і выратавання і інш.). М. Багдановіч, Я. Купала і Я. Колас стварылі свае, уласныя, індывідуальныя вобразы-сімвалы і алегорыі, якія сталі нацыянальным здабыткам [Абабурка, 2008, сс. 37-68].

Дзякуючы беларускім пісьменнікам (паэтам, празаікам і драматургам) беларуская мастацкая літаратура асвоіла і зафіксавала ўсё багацце беларускай народнай сімволікі, якая не звязана ні з якім бы там не было сімвалізмам – рускім, французскім, італьянскім ці яшчэ якім. Беларуская народная сімволіка характарызуецца шматзначнасцю і адрасуецца да розных з'яў рэчаіснасці, але ні ў якім разе не супадае з алегорыяй, асабліва фальклорнай, бо сувязь алегорыі з паняццем хоць таксама ўмоўная, але гэта ўмоўнасць мае цалкам адназначны характар і адносіцца толькі да адной з'явы ці аднаго паняцця. Таму алегорыя пераважна выкарыстоўваецца ў такім жанры, як байка, у той час як сімвал – катэгорыя грамадскай свядомасці, навуковага пазнання і мастацкай творчасці.

Больш падрабязна пра сімвалізацыю і сімволіку можна даведацца з працы Я. Крука "Сімволіка беларускай народнай культуры" (Мінск: Ураджай, 2000).

*Параўн.:* символизм (КЛЭ, VI, сс. 831-839), сімволіка (ТСБЛМ, 2002, с. 597), сімвалізм, сімвалічная логіка (БелСЭ,9, с. 547).

**СІМПЛАКА** – фігура маўлення, заснаваная на спалучэнні анафары *(гл.)* і эпіфары *(гл.)*. Напрыклад:

*Мітынгі вялікай рэвалюцыі –*
*Боль адзін,*
*І стогн адзін,*
*І гнеў адзін.*

*Сходы для будзённай рэзалюцыі –*
*Шум адзін,*
*І сум адзін,*
*І сон адзін.*
*..............*
*Такія думкі ў нас,*
*Такія сэрцы ў нас,*
*Такая доля ў нас…*

(П. Панчанка. Мітынгі вялікай рэвалюцыі…).

*Параўн.:* сімплака (СИС, с. 465), (Рагойша, 1979, с. 137), (ЭнЛіМБел, IV, с. 723).

**СІНАНІМІКА, СІНАНІМІЧНАСЦЬ** – 1) тое, што сінанімія *(гл.)*; 2) раздзел лексікалогіі (семасіялогіі), што вывучае сінонімы *(гл.)*; 3) сукупнасць сінонімаў той ці іншай мовы, яе сістэмы або нават аднаго маўленчага жанра *(гл.)*.

Сінонімы – гэта тоесныя ці блізкія паводле значэння (але розныя паводле гучання) адзінкі мовы аднаго ўзроўню (марфемы, словы, словазлучэнні, сінтаксічныя канструкцыі). У залежнасці ад узроўню сінонімы пры іх класіфікацыі атрымалі назвы саміх узроўняў мовы (маўлення): лексічныя сінонімы (*гл.* сінонімы лексічныя), словаўтваральныя сінонімы (*гл.* сінонімы словаўтваральныя) і г. д. Аднак трэба памятаць, што найперш сінонімы разглядаюцца як моўныя (звычайныя, узуальныя) і маўленчыя (кантэкстуальныя, вытворныя, аказіянальныя). У сувязі з адзначаным А. Пяткевіч заўважыў: “Відаць, няма асаблівай патрэбы даказваць, што словы-сінонімы звычайна не тоесныя сваім семантычным зместам, што пэўнае слова сінанімічнага рада можа быць выкарыстана ў сваім, самастойным паняцці, і адвольны выбар сіноніма вядзе за сабой нярэдка сэнсавую памылку. Возьмем такія, скажам, сінанімічныя пары: *дачыненне і адносіны, сустрэча і спатканне, работа і праца, звязваць і злучаць, закрываць і зачыняць*. Пры ўсёй відавочнай блізкасці абодвух слоў у пары кожнае з іх мае сваё адметнае семантычнае адценне, якое выпрацавалася ў выніку працяглай моўнай практыкі, адпаведна замацавалася і ў літаратуры” (А. Пяткевіч. Слова жывое і штучнае).

У “Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў” М. К. Клышкі адзначана: “Багацце сінонімаў у мове – паказчык яе развітасці, выразнасці, здольнасці перадаваць найтанчэйшыя рухі думкі, выяўляць самыя складаныя адценні паняццяў, характарыстык, фарбаў і іх паўтораў пры апісаннях рэчаў, прадметаў, раскрыцці разнастайных з’яў рэчаіснасці, перажыванняў чалавека” (*гл.* I выданне. – Мінск: Выш. школа, 1976. – С. 3).

*Параўн.:* синонимика, синонимия, синонимы (СИС, с. 467), (СЛТ, 1969, сс. 406, 407).

**СІНАНІМІЯ** – супадзенне моўных адзінак (марфем, слоў, фразеалагічных адзінак, сінтаксічных канструкцый) у асноўным значэнні пры захаванні адрозненняў у сэнсавых адценнях і стылістычнай афарбоўцы (СЛТ, 1990, с. 122). Адрозніваюць С. лексічную – С. слоў (лексем): *мовазнавец – мовавед – лінгвіст;* С. словаўтваральную – С. словаўтваральных афіксаў (суфіксаў і прэфіксаў): *да-*

*радчык – дарадца, выступовец – выступальнік – выступоўца;* С. марфалагічную, або С. граматычных форм: *найлепшы – самы лепшы, вачыма – вачамі, ямо – ядзім, табой – табою, гэтай – гэтае;* С. сінтаксічную – С. сінтаксічных канструкцый (словазлучэнняў і сказаў): *ісці полем – ісці па полі, скрыпучая падлога – падлога, якая (што) скрыпіць, Завяршыўшы працу, чалавек радасна ўздыхнуў – Калі завяршыў працу, чалавек радасна ўздыхнуў – Пасля завяршэння працы чалавек радасна ўздыхнуў;* С. фразеалагічную – С. фразеалагічных адзінак: *аддаць Богу душу – пайсці на той свет – скласці на грудзях рукі – выцягнуць ногі – адкінуць хвост – задраць капыты (угору) – легчы ў дамавіну* і шмат інш.

*Параўн.:* сінанімія (ЭнЛіМБел, IV, с. 730), (СИС, с. 467), синонимы (КЛЭ, VI, сс. 860-862).

**СІНЕКДАХА** – *гл.* ТРОПЫ.

**СІНКРЭТЫЗМ** – 1) злітнасць, непадзельнасць, якая характарызуе першапачатковы, неразвіты стан чаго-небудзь, напрыклад, першабытнага мастацтва, дзе скокі, спяванне і музыка існавалі ў адзінстве, нерасчленена. Аднак неабходна адрозніваць ад С. складаныя віды мастацтва (тэатр, балет, кінематограф, эстрада і інш.), заснаваныя на сінтэзе *(гл.)* самастойных простых відаў творчасці (л-ры, музыкі, харэаграфіі, акцёрства і г. д.); 2) разнавіднасць эклектызму *(гл.)*, асабліва ў філасофіі, мастацтве, літаратуразнаўстве і інш.; 3) супадзенне ў працэсе развіцця моў функцыянальна разнастайных катэгорый і форм у адной форме, напрыклад, канчатак *-і* мае значэнне розных склонаў, лікаў, часцін мовы: *рукі* (Р. скл.) – *рукі* (мн. л.), *далі* (наз. мн. л.) – *далі* (дзеяслоў) і г. д. Некаторыя вучоныя адносяць такую з'яву да граматычнай аманіміі *(гл.)*; сумяшчэнне (сінтэз) дыферэнцыяльных структурных і семантычных прыкмет адзінак мовы (некаторых разрадаў слоў, значэнняў, сказаў, членаў сказаў і інш.), звязаных з'явамі пераходнасці. Гэта align розных гібрыдныя (кантамінацыйныя, прамежкавыя, дыфузныя) утварэнні. *Гл.* СІНКРЭТЫЧНАЕ МАЎЛЕННЕ, СІНКРЭТЫЧНАЯ ФОРМА.

**СІНКРЭТЫЧНАЕ МАЎЛЕННЕ** – сказ, чужое маўленне. *Гл.* СІНТЭЗАВАНАЕ МАЎЛЕННЕ.

**СІНКРЭТЫЧНАЯ ФОРМА** – форма, якая сумяшчае розныя граматычныя значэнні, нерасчлянёная форма. *Гл.* СІНКРЭТЫЗМ.

*Параўн.:* сінкрэтызм (СЛТ, 1990, с. 123), (ЭнЛіМБел, IV, с. 732), (ЛЭС, с. 598), сінкрэтызм, сінкрэтычнасць, сінкрэтычны (ТСБМ, V-1, с. 137).

**СІНОНІМЫ ЛЕКСІЧНЫЯ** – словы адной часціны мовы, якія з'яўляюцца назвай аднаго паняцця , аб'ядноўваюцца адным агульным значэннем, але адрозніваюцца адценнямі таго ж значэння, эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай, спалучальнасцю з іншымі словамі ці ўвогуле стылістычным выкарыстаннем (ужываннем). Таму С. Л. найперш кваліфікуюцца як *семантычныя,* або *ідэаграфічныя:* яны адрозніваюцца ўзуальнымі адценнямі значэння (*гарачы – душны – спякотны – пякучы* і інш.); *як стылістычныя, або характарыстычныя, ацэначныя:* яны адрозніваюцца сваёй прыналежнасцю да таго ці іншага стылю маўлення, (*ісці* – ужыв. як міжстылёвае слова, *крочыць* – як высокае, паэтычнае,

*плесціся* – як гутарковае, *цялёпкацца* – як прастамоўнае, *клыгаць* – як абласное і г. д.; або: *ісці – валачыся – пхнуцца – шкандыбаць – кульгіцаць – цялюхкацца – перастаўляць ногі – перабіраць нагамі* і інш.); *як семантыка-стылістычныя:* яны адрозніваюцца адначасова і адценнем значэння, і стылістычнай афарбоўкай *(гераічны – доблесны, хуткі – імклівы, прысяга – клятва* і інш.).

У межах адной часціны мовы С. Л. могуць быць абсалютныя, або поўныя: *грамадскі – сацыяльны, поезд – цягнік, ранкам – раніцай, досвіткам – досвета* і шмат інш., а таксама няпоўныя, або частковыя: *лінія – рыса (рыска, рысачка).* Таксама можна С. Л. падзяляць на ўзуальныя і аказіянальныя, або агульнамоўныя і індывідуальна-аўтарскія. Практычна, асабліва ў мове літаратурна-мастацкіх твораў, пераважна ў вершаваных, сінонімамі могуць быць словы з зусім далёкімі слоўнікавымі значэннямі. Напрыклад, у паэме Я. Купалы "Зімою" дзве першыя строфы маюць 5 сінанімічных радоў, у склад якіх уваходзяць ад 2 да 6 Л. С.:

*Калядная ночка ўвесь свет пакрывае,*
*Па белай ад снегу зямельцы снуе,*
*Мяцеліца ў полі сапе, завывае,*
*Свіст віхраў спакойна заснуць не дае.*

*У коміне вецер заціхнуць не хоча,–*
*Заносіцца песняй магільнай, дзікой,*
*То стогне, то плача, то дзіка рагоча,*
*Як быццам з нядолі смяецца людской.*

У прыведзеных радках у сінанімічныя адносіны ўступаюць словы *пакрывае і снуе, мяцеліца і свіст віхраў, сапе і завывае, заціхнуць не хоча – заносіцца – стогне – плача – рагоча – смяецца, магільнай і дзікай,* г. зн. палова ўсіх слоў з працытаваных строф выкарыстана ва "ўзаемазамяняльнай" функцыі для таго, каб прапанаваны аўтарам малюнак быў найбольш жывы, дзейсны, дынамічны і ўспрымаўся рэцыпіентам стопрацэнтна. У свой "Слоўнік сінонімаў беларускай мовы С. М. Шведаў уключыў "словы агульнаўжывальнай лексікі і фразеалогіі, навуковыя тэрміны, новыя словы, утвораныя з беларускай ці запазычаныя з іншых моў, архаізмы і гістарызмы, іншамоўныя словы, якія выкарыстоўваюцца ў замежным кантэксце…" (Шведаў, 2004, с. 3).

*Параўн.:* синонимы (ЛЭС, с. 447), синонимия, синонимы (СЛТ, 1972, сс. 348, 351), сінаніміка, сінанімія, сінонімы (СЛТ, 1990, с. 122-123).

**СІНОНІМЫ МАРФАЛАГІЧНЫЯ** – семантычна (сэнсава) тоесныя граматычныя формы (сродкі); сінаніміка *(гл.)* марфалагічных сродкаў: агульнамоўных (*далоней – далоняў, роднай – роднаю, крычыце – крычыцё* і г. д.) і стылістычных (*вачэй* (міжстылёвае) – *воч* (гутарковае) – *вочаў* (дыялектнае)), стылістычна нейтральных форм і форм суб'ектыўнай ацэнкі (*паны – панства і паночкі – панове, багацеі – багачы і багатыя – багатыры*). Часцей за ўсё сумесна выкарыстоўваюцца сінанімічныя словаформы ў мове мастацкай літаратуры (як вершавана-паэтычнай, так і ў апавядальна-празаічнай). Напрыклад:

*Перад хатай нізкай*
*Пасаджу я дрэўцы,*
*Ад аконцаў блізка*
*Падбяру ім месца.*
*Ой, кумы, кумочкі,*
*Міла паглядзеці,*

*Як пачнуць лісточкі*
*Трэсціся, шумеці,*
*Шаптаць, гаманіці,*
*Ціха між сабою,*
*Галоўку хіліці*
*Тут жа нада мною.*

(Я. Купала. Перад сёмухай).

Малады з *маладушкай* сюды-туды – і *дачушка,* праз *гадок – сынок*, а то і зноў *дачка*, і што ж – падай *малачка*! Не скупіся, пане Мікіта, і будзе ўсё на гэтым шыта-крыта… (Я. Брыль. Марыля).

Як у мове мастацкай літаратуры, так і публіцыстыкі ўжываецца сінаніміка граматычных форм у межах той ці іншай часціны мовы:

а) формы ліку і склону*: (Былі з голай галавой і Былі з голымі галовамі; Вакол пясок – Вакол пяскі; Два студэнты – Двое студэнтаў);*

б) формы часу, ладу і стану: *(Хутка паедзем (едзем, з'язджаем, выязджаем); Ідзі адсюль – Пайшоў бы ты адсюль; Канспекты пішуць студэнты – Канспекты пішуцца студэнтамі; Канспект напісаў студэнт – Канспект напісаны студэнтам* і шмат інш.);

в) прыназоўнікі *(даведка пра экскурсію – даведка наконт экскурсіі – даведка адносна экскурсіі – даведка аб экскурсіі; дом каля лесу – дом ля лесу – дом блізка лесу);*

г) злучнікі *(проза, а не паэзія – проза, але не паэзія – проза , ды не паэзія; Калі прыйдзе... – Пасля таго як прыйдзе... – Як (толькі) прыйдзе ... – Раз прыйдзе... – Толькі-толькі прыйдзе...* і шмат інш.).

*Параўн.:* синонимия (СЛТ, 1972, сс. 348-350), сінанімія (БМЭ, сс. 482-483), синонимы (ЛЭС, с. 447).

**СІНОНІМЫ СІНТАКСІЧНЫЯ** – канструкцыі (словазлучэнні, словаспалучэнні, сказы), адметныя семантычнымі адценнямі і стылістычнай афарбоўкай (у межах агульнага іх значэння): *ісці каля (ля) лесу – ісці паўз лес – ісці блізка лесу – ісці недалёка ад лесу* і г. д. *Гл.* СІНОНІМЫ МАРФЛАГІЧНЫЯ.

Прыназоўнікава-склонавыя канструкцыі шырока выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях, нават у афіцыйна-справавым і навуковым: *выступіць з прапановай аб скарачэнні штату і выступленне з прапановай наконт скарачэння штату, пастанова аб азеляненні двара – пастанова пра азеляненне двара; рэакцыя атрымалася з першага разу – рэакцыя атрымалася пасля першапачатковай спробы* і г. д.

Могуць быць сінанімічнымі беспрыназоўнікавыя і прыназаўнікавыя канструкцыі (як паміж сабою, так і ў межах адной канструкцыі): *песні ў садах і па садах – песні з садоў, песні ў касьбу і ў час касьбы – песні падчас касьбы, песні ў той дзень – песні таго ж дня – песні той дзень былі не вельмі вясёлыя* і г. д.

Сінанамічнымі з'яўляюцца простыя і складаныя сказы:

а) у залежнасці ад сувязі і інтанацыі:

*Зашуміць трава густая,*
*Кветкі ў лузе засмяюцца.*
*Вясна прыйдзе маладая,*
*Усюды песні панясуцца.*
(Я. Колас. Вясна).

Два бяззлучнікавыя складаныя сказы прыведзенай страфы будуць упаўне сінанімічныя, хоць мы зменім інтанацыю і аформім выказванні наступным чынам:

*Зашуміць трава густая…*
*Кветкі ў лузе засмяюцца…*
*Вясна прыйдзе маладая –*
*Усюды песні панясуцца…*

Так званыя паралельныя сінтаксічныя канструкцыі, у першую чаргу ускладнёныя простыя сказы і складаназалежныя сказы з даданымі азначальнымі, даданымі акалічнаснымі часткамі, заўсёды сінанамічныя незалежна ад таго, у якім функцыянальным стылі яны ўжываюцца (выкарыстоўваюцца): *Выправіўшы заўвагі навуковага кіраўніка, дысертант аддаў сваю працу на шырокае абмеркаванне – Пасля выпраўлення заўваг навуковага кіраўніка дысертант аддаў сваю працу на шырокае абмеркаванне – Пасля таго як дысертант выправіў заўвагі навуковага кіраўніка, ён аддаў сваю працу для шырокага абмеркавання – Як толькі…* і г. д.

М. Я. Цікоцкі заўважыў наступны факт: “У першай рэдакцыі трылогіі Я. Коласа «На ростанях» была такая фраза: *Смяяўся і пан падлоўчы, у гэты момант прыйшоўшы да гасцей.* Слова *прыйшоўшы* можна зразумець тут і як дзеепрыметнік, і як дзеепрыслоўе. Для таго каб не было двухсэнсавасці, пісьменнік перапрацаваў гэтую фразу наступным чынам: *Смяяўся і пан падлоўчы, які ў гэты момант прыйшоў да гасцей”* (М. Цікоцкі. Практычная стылістыка беларускай мовы. Частка II).

Адрозненні паміж паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі можна заўважыць пры іх стылістычным выкарыстанні: адасобленыя члены сказа (азначэнні, дапаўненні, акалічнасці) з’яўляюцца пераважна прыкметай кніжнага маўлення; аддзеяслоўныя назоўнікі часта прыдаюць выказванням навуковы ці канцылярскі выклад; даданыя ж часткі складаназалежных сказаў успрымаюцца часцей за ўсё як міжстылёвыя сінтаксічныя адзінкі.

*Параўн.:* синонимия (СЛТ, 1972, сс. 350-351), сінанімічныя канструкцыі (СЛТ, 1990, с. 122), (БМЭ, сс. 482-483).

СІНОНІМЫ СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ – аднакарнёвыя ці рознакаранёвыя словы з афіксамі (прыстаўкамі і суфіксамі), што маюць аднолькавае ці блізкае значэнне: *адзенне – адзежа – вопратка – апранаха; заглянууць – зазірнуць – наведаць – заявіцца – праведаць – даведацца* і інш. Сінанімічнымі з’яўляюцца афіксы, што абазначаюць людзей паводле пэўнай ці ўвогуле нейкай прафесіі: *футбаліст і балельшчык, духоўнік – святар і даяр, моўца і моўнік, паэтэса і паэтка, ткалля і ткачыха, прыбіральшчыца і прыбіралка, пралля і папрадуха;* з адмоўнымі якасцямі: *немагушчы – нездаленны – няздатны – нямоглы – нікчэмны – ніку-*

*дышны, бессардэчны – бессаромны – безуважны – бязвольны, амаральны – няўстойлівы – нявытрыманы – нявыхаваны – ненадзейны* і г. д.

Можна асобна выдзеліць С. С.: а) з адной асновай і рознымі афіксамі: *затухнуць – патухнуць – стухнуць, лімонны – лімонавы – ліманадны* і інш.; б) з рознымі асновамі: *бацькаў, сынаў, сястрын, мамін; дзіцячы – дзяціны* і інш.

Як і лексічныя сінонімы, С. С. служаць для дакладнага выражэння думкі, пазбегу таўталогіі *(гл.)*, для перадачы экспрэсіі *(гл.)*, стылістычнай афарбоўкі *(гл.)*, што ў значнай ступені дапамагае складаць парадагматыку і сінтагматыку семантычных адносін у мове (маўленні), а таксама ў самой сістэме стылістычнай парадагматыкі і сінтагматыкі *(гл.): аблом, пералом, злом* (Шведаў, 2004, с. 9).

*Параўн.:* синонимы (ССРЯ, сс. 381, 382), синонимия (СЛТ, 1972, сс. 348-349), сінаніміка, сінанімічны рад, сінанімія, сінонімы (СЛТ, 1990, сс. 122-123).

**СІНОНІМЫ ФРАЗЕАЛАГІЧНЫЯ** – такія фразеалагізмы, у якіх ці ў кантэксце, ці без кантэксту выяўляецца агульнасць семантыкі *(гл.)* ці блізкасць фразем *(гл.)* паводле яе самой: *з вока на вока – сам-насам – адзін на адзін – тэт-а-тэт* і інш.

У "Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў" М. К. Клышкі (выданні 1975 і 1993 гг.) словы-сінонімы падаюцца побач з фразеалагізмамі-сінонімамі: *аб, пра, адносна, наконт, да, над, па, на тэму; абмеркаваць, абгаварыць, абдумаць, разабраць, разгледзець, падзяліцца думкамі* і інш. (*гл.*, напрыклад, дамінанты *адзінока, даведацца, паведаміць, неўзабаве, палохаць* і г. д.).

Сустракаюцца ў памянёным слоўніку і сінанімічныя рады толькі фразеалагічных сінонімаў*: адзін на адзін, сам-насам, з вока на вока, нос у нос.* Калі падключыць да названага рада і фраземы з "Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы" І. Я. Лепешава (Мінск: БелЭн, 1993), то сінанімічны рад дапоўніцца яшчэ такімі фразеалагічнымі адзінкамі, як *вока на вока, на чатыры вокі, вочы ў вочы, лоб у лоб, твар у твар, тварам у твар, тварам да твару, грудзі ў грудзі, носам к носу, носам у нос* і інш.

Фразелагізмы, як і словы, – гэта моўныя адзінкі, што перадаюцца з (ад) пакалення ў пакаленне як гатовыя, з вызначанымі пэўнымі значэннямі, таму заканамерна падаюцца ў адным сінтаксічным радзе: *абавязкова, безумоўна, немінуча, непазбежна, няўхільна, няўмольна, неадменна; канечне, конча і любой цаной, якою б ні было цаной, у што б та (м) ні стала, як піць даць, напраміл*ы *Бог, кроў з носа, да зарэзу, хоць не хоць* і г. д.

Трэба памятаць, што фразеалагізмы-сінонімы не заўсёды могуць быць узаемазамяняльнымі. Напрыклад, шматзначныя фразеалагізмы накшталт *пальчыкі абліжаш, адзін на адзін, без аглядкі* і інш. могуць мець сінанамічныя рады, розныя для кожнага з асобных значэнняў, а некаторыя з такіх фразеалагізмаў могуць утвараць антанімічныя пары тыпу *мець вока і не мець вока, лёгкая рука і нялёгкая (цяжкая) рука* і г. д.

Патрэбна адрозніваць ад здольнасці аднаго і таго ж фразеалагізма выступаць у дзвюх і большай колькасці разнавіднасцей, або так званай варыянтнасці фразеалагізмаў. *Гл.* ВАРЫЯНТНАСЦЬ, ВАРЫЯТЫЎНАСЦЬ.

*Параўн.:* синонимы (СЭСРЯ, сс. 381, 382), синонимия фразеологическая (СЛТ, 1972, сс. 350-351), сінанімія фразеалагічная, фразеалагізм, фразеалагічны выраз, фразема, фраземаграфія (СЛТ, 1990, сс. 122, 163-164).

**СІНОНІМЫ ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-МАЎЛЕНЧЫЯ** – словы ці словазлучэнні, якія супадаюць паводле значэння з іншымі словамі ці словазлучэннямі толькі ў дадзеным маўленчым кантэксце. Напрыклад: *Верхнюю вопратку аддалі ў гардэроб (распранальню, раздзявальню, вешалку).* Выказванні з кожным словам, што ў дужках, будуць сінанімічныя , таму што слова *гардэроб, распранальня, раздзявальня, вешалка* з'яўляюцца лексічнымі сінонімамі. Аднак выказванні тыпу *Пайшлі ў гардэроб* і *Абнавілі гардэроб; Адрамантавалі вешалку* і *Паламалі вешалку* не будуць сінанімічныя, бо ў іх зусім розная семантыка, нават з супрацьлеглым значэннем у апошніх выказваннях.

Да С. Ф.-М. можна адносіць і такія, якія выкарыстаў Я. Купала ў сваёй паэме "Курган": *курган – удзірванелы курган векавечны – памятка дзён, што ў нябыт уцяклі – ён – памяць людская – паказ.* Такія сінонімы часцей за ўсё адносяць да тэкставых (кантэкстуальных).

*Параўн.:* синонимы (СЛТ, 1969, с. 407), синонимы контекстуальные (СЛТ, 1972, с. 351), сінонімы кантэкстуальныя (СЛТ, 1990, с. 123).

**СІНСЕМАНТЫЯ** – 1) катэгорыя тэксту, абумоўленая залежнасцю яго элементаў у адносінах да зместу ўсяго тэксту або яго частак. Паказчыкам сінсемантыі могуць быць некаторыя лексічныя (перыфраза *(гл.)*), марфалагічныя (некаторыя абстрактныя назоўнікі, займеннікі, займеннікавыя прыслоўі, трывальна-часавыя формы дзеясловаў, злучнікі, часціцы, мадальныя словы) і сінтаксічныя (няпоўныя сказы, парцэляваныя *(гл.)* і сегментаваныя *(гл.)* канструкцыі) сродкі міжфразавай сувязі *(гл.)*; 2) прыём арганізацыі тэксту, заснаваны на выкарыстанні ў ім залежных, узаемаабумоўленых адрэзкаў з мэтай найбольш паглыбленага раскрыцця змястоўна-канцэптуальнай інфармацыі.

**СІНТАГМА** – 1) паводле вучэння Л. У. Шчэрбы, гэта фанетычнае адзінства, якое выражае адзінае цэлае ў працэсе маўлення-думкі, адно паняцце ў даным кантэксце, што можа складацца з аднаго слова, групы слоў і цэлага сказа (фразы). Напрыклад: *Мой родны кут, / як ты мне мілы, // Забыць цябе / не маю сілы…* (Я. Колас. Новая зямля). Выдзеленыя інтанацыйныя адрэзкі можна падзяліць на драбнейшыя: *мой кут, родны кут; як мілы, мне мілы, ты мне мілы, як ты; род-ны, мі-лы* і г. д. Такім чынам, аб'ектам падзелу (чляненне) з'яўляюцца словы з боку іх сэнсава-лексічнай, гукавой і сінтаксічнай спалучальнасці. Важную ролю ў такой сегментацыі *(гл.)* адыгрываюць сінтаксічныя адносіны паміж словамі як членамі адзінага выказвання – прэдыкатыўныя, атрыбутыўныя, аб'ектыўныя і адвербіяльныя. Таму ў асобныя С. могуць выдзяляцца не толькі дзейнік і выказнік, іх саставы з залежнымі даданымі членамі сказа, але і адасобленыя члены сказа, пабочныя і ўстаўныя кампаненты (члены) сказа і да т. п. Падзел выказвання на С. можа залежаць і ад моўнай (маўленчай) сітуацыі *(гл.)*, функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі *(гл.)*;

2) спалучэнне дзвюх моўных адзінак, размешчаных ў лінейнай паслядоўнасці, г. зн. адна за адной, калі адна выступае як азначальнае, а другая – як азначаемае: *лоб-ік* (*лоб* – азначаемае, *-ік* – азначальнае, агульнае значэнне С. – (маленькі лоб)), *леда-кол* (агульнае значэнне С. – (калоць лёд)).

Такія С. называюцца ўнутранымі, а прыведзеныя вышэй – знешнімі;

3) тое ж, што маўленчае звяно. *Гл.* МАЎЛЕННЕ.

С. класіфікуюцца паводле ўзаемасувязі іх слоў-кампанентаў (С. атрыбутыўныя, рэлятыўныя і г. д.),паводле іх пазіцый у выказванні (С. канцавыя і неканцавыя), паводле тыпу афармлення іх інтанацыйнага контура (С. завершаныя, незавершаныя, уводныя, супрацiўныя, тлумачальныя і інш.). *Гл.* СІНТАГМАТЫКА.

*Параўн.:* синтагма, синтагматика (СЛТ, 1972, сс. 352-352), (ЛЭС, сс. 447-448), сінтагма, сінтагматыка (СЛТ, 1990, сс. 123-124).

**СІНТАГМАТЫКА** і **ПАРЫДАГМАТЫКА СТЫЛІСТЫЧНАЯ** – *гл.* СТЫЛІСТЫЧНАЯ СІНТАГМАТЫКА і ПАРАДЫГМАТЫКА.

СІНТАКСІС МАЎЛЕННЯ – 1) будова (канструкцыя) выказвання як адзінкі моўных зносін; 2) вучэнне пра структуру маўлення (маўленчай дзейнасці); 3) структура дыскурсу як звязнага тэксту і яго вывучэнне.

*Асноўная слабасць мовы Гартнага ў тым, што пісьменнік, вельмі шырока выкарыстоўваючы не толькі бытавую, але і дыялектную лексіку, празмерна занядбаў жывой граматыкай народнай мовы. Сінтаксіс Гартнага празмерна кніжны* (А. Адамовіч. Беларускі раман).

Прыведзеная цытата пралівае некаторае святло на сувязь маўлення індывіда з жывой агульнанароднай мовай. Аднак тэарэтычны і практычны сінтаксіс як мовы, так і маўлення трымаецца на спосабах аб’яднання форм слоў у словазлучэнні і сказы, а таксама простых сказаў у складаныя. Сёння сінтаксіс маўлення (дыскурсу) вывучае такія звышсказавыя адзінкі, як выказванні, складаныя сінтаксічныя цэлыя, мікратэксты і макратэксты *(гл.)*.

У беларускім мовазнаўстве грунтоўна вывучаныя наступныя сінтаксічныя паняцці: слова (член сказа, словаформа), словазлучэнне, сказ (просты, складаны, ускладнены, камбінаваны), выказванне, прэдыкатыўнае ядро сказа (выказвання), тыпалогія сказаў (тэкстаў) і інш. Побач з апісальным і гістарычным сінтаксісам беларускай мовы ў апошнія дзесяцігоддзі ХХ ст. пачалі актыўна даследавацца пытанні камунікацыйнага, функцыянальнага сінтаксісу, атрымаў пастаянную прапіску і семантычны сінтаксіс.

Сёння ўжо можна весці сур’ёзную гаворку пра сінтаксіс тэксту, сінтаксічную лінгвастылістыку і аўтарскі (індывідуальны) сінтаксіс. Ёсць сур’ёзныя публікацыі і паводле паэтычнага сінтаксісу (стылістычных і рытарычных фігур). Таксама выявілася ў ходзе даследаванняў сінтаксісу беларускай мовы і беларускага маўлення так званая нацыянальныя сінтаксічная ідыяматыка, што дало права вызначыць галоўнымі аб’ектамі (адзінкамі) мовы сказ і словазлучэнне, а маўлення – выказванне і тэкст.

Асаблівасць сінтаксічнага ўзроўню нашай мовы заключаецца ў тым, што яго адзінкі непасрэдна звязаныя з працэсам мыслення і моўных зносін. На нар-

матыўнасць (нормы ўтварэння і выкарыстання разнастайных канструкцый у працэсе камунікацыі) сінтаксічных адзінак уплываюць факты не толькі ўнутрымоўныя (фанетычныя, марфалагічныя, лексічныя, фразеалагічныя і інш.), але і знешнія, пазамоўныя (веданне і разуменне сітуацыі зносін, кантэксту маўлення, інтэлектуальны ўзровень і кругагляд тых, хто гаворыць, і г. д.). Таму пры пабудове розных сінтаксічных канструкцый і ўжыванні іх патрэбна трымацца трох асноўных момантаў: 1) правільнасць граматычнай будовы сказа, г. зн. трымацца яго так званай базавай мадэлі; 2) адпаведнасці выказвання законам логікі і мыслення пры перадачы пэўнага сэнсу; 3) камунікацыйна-стылістычная мэтазгоднасць адбору моўных (маўленчых) сродкаў.

Паколькі сінтаксіс – гэта найвышэйшы ўзровень структуры мовы, навука больш высокай ступені абстрагавання, чым лексікалогія і лексікаграфія, ад яго пачынаецца пераход ад мовы як статычнай сістэмы да маўлення як дынамічнай сістэмы. Вызначыць, правільна ці памылкова пабудаваны сказ (выказванне), можна толькі тады, калі параўнаем варыянты яго слоўнага і граматычнага афармлення. Як вядома, варыянты ў мове (маўленні) узнікаюць па розных прычынах – пры сутыкненні новага і старога, дыялектнага (неўнармаванага) і літаратурнага (унармаванага), нацыянальнага (уласнага, спрадвечнага) і запазычанага (іншамоўнага, чужога), кніжнага і гутарковага, стылістычна нейтральнага і афарбаванага, стандартнага і індывідуальна-аўтарскага, агульнаўжывальнага і функцыянальна абмежаванага і г. д. Таксама варта памятаць, што варыянтнасць сродкаў і спосабаў выражэння думкі ў сказе (выказванні) – уласцівасць любой развітой мовы, сведчанне яе зменлівасці, развіцця, багацця.

Творчы бок маўлення ў цэлым, канкрэтнасць маўленчых актаў прыводзяць не толькі да розных правільных маўленчых варыянтаў і сінонімаў, у тым ліку і сінтаксічных памылак, сінтаксічна-стылістычных недаглядаў. Яны настолькі разнастайныя, наколькі багатая і разгалінаваная сама падсістэма сінтаксічных сродкаў, умовы і мэты іх выкарыстання. Да найбольш тыповых граматычных (сінтаксічных, сінтаксічна-стылістычных) недакладнасцей адносяцца: 1) парушэнне заканамернасцей кіравання (не *дзякаваць вас,* а *дзякаваць вам*); дапасавання (не *два новых дома,* а *два новыя дамы*); 2) спалучэнне аднародных членаў (не *азнаёміцца і запомніць новых супрацоўнікаў,* а *азнаёміцца з новымі супрацоўнікамі і запомніць іх*); 3) парадак слоў (прамы – дзейнік перад выказнікам, азначэнне перад дзейнікам, дапаўненне пасля выказніка, выражанага дзеясловам, акалічнасць перад выказнікам; адваротны – усё пералічанае наадварот); 4) ужыванне дзеепрыметнікавых і дзеепрыслоўных словазлучэнняў (у сучаснай беларускай мове дзеепрыметнікі страцілі зваротную форму, а дзеепрыслоўі – суфіксы *-а, -я* і г. д.); 5) канструяванне складаных сказаў і звышсказавых адзінстваў – абзацаў, ССЦ, фрагментаў тэксту, мікратэкстаў, “тэкстаў у тэксце” і г. д.

Такім чынам, сінтаксіс маўлення – гэта аб’ект пераважна лінгвастылістыкі і лінгвістыкі тэксту, асноўнымі адзінкамі якога з’яўляюцца сказ, ССЦ, фрагмент, сам тэкст з яго разнавіднасцямі. Сувязь паміж адзінкамі тэксту, зразумела, у пер-

шую чаргу сэнсавая, а ў наступную – сінтаксічная, але не такая, як паміж словамі і сказамі ў сінтаксісе простага і складанага сказа, а звязаная з рухам нашай думкі і прыродай сказа (выказвання) як завершанай адзінкі. Таму словы-сінонімы, разнастайныя паўторы з іх займеннікавымі заменамі найперш забяспечваюць як сэнсавую, так і сінтаксічную сувязь паміж састаўнымі кампанентамі абзацаў, паэтычных і празаічных строф, мікракантэкстамі і макракантэкстамі, завершанымі лагічна і сінтаксічна фрагментамі і г. д. Гэта будзе так званая паверхневая сувязь паміж кампанентамі суцэльнага (звязнага) тэксту, якая кваліфікуецца даследчыкамі як ланцуговая, паралельная і далучальная. Важная роля адводзіцца ў тэкстах значных памераў сувязі зачынаў з развіццём тэм, падтэм, канцоўкамі, так званай дыстанцыйнай сувязі (семантыка-сінтаксічнай сувязі першых фраз як у саміх тэкстах, так і ў фрагментах). С. М. – адна з асноўных галін лінгвістыкі, семантыкі і стылістыкі тэксту.

*Параўн.:* сінтаксіс, сінтаксічныя нормы (БМЭ, сс. 484-487), дыскурс, речь, синтаксис (ЛЭС, сс. 136-137, 414-415, 448-450), сінтаксіс (ЭнЛіМБел, IV, сс. 733-734), сінтаксіс, тэкст (СЛТ, 1990, сс. 124, 152).

**СІНТАКСІЧНАЯ СТЫЛІСТЫКА** – *гл.* СТЫЛІСТЫКА СІНТАКСІЧНАЯ.

**СІНТЭЗАВАНАЕ МАЎЛЕННЕ** – 1) змешанае, або гібрыднае, гутарковае маўленне. Дакладней яго можна назваць літаратурна-дыялектным, дыялектна-літаратурным, дыялектна-прастамоўна-літаратурным і г. д. Самым яскравым прыкладам такога маўлення з'яўляюцца шматлікія творы (тэксты) мастацкай літаратуры; 2) "рознага роду гібрыдныя (кантамінаваныя, прамежкавыя, дыфузныя) утварэнні" (ЛЭС, с. 466).

Беларускую мову адносяць да сінтэтычных, бо ў ёй пераважаюць сінтэзаваныя (сінтэтычныя) формы скланення, спражэння, афіксацыі і падобныя; побач з сінтэтычнымі формамі тыпу *прачытаю, прыгажэйшы, [ісці] полем* у ёй шырока функцыянуюць і аналітычныя: *буду чытаць, больш прыгожы, [ісці] па полі*... (БМЭ, сс. 487-488). Паводле аналогіі з марфалагічнымі з'явамі лінгвісты шырока гавораць пра сінтэтызм і аналітызм у сінтаксісе (напр., *Ён шыракаплечы – Ён шырокі ў плячах* ці *Ён з шырокімі плячамі; Трэба азеляніць двор – Трэба правесці азеляненне двара* і шмат інш.). У ЛЭС (с. 451) прыводзіцца і такі прыклад: "бібліятэкарша" – "жанчына – бібліятэкар", што па-беларуску выражаецца яшчэ прасцей: *бібліятэкарка*.

С. М. шырока выкарыстоўваецца ў літаратурна-мастацкіх творах (тэкстах). Ужо нават падзел самога твора (тэксту) на некалькі "моў" гаворыць пра гэта маўленне пераканаўча: "аўтарская мова", "мова дзейных асоб", "простая мова" (дыялог, палілог, унутраны маналог), "ускосная мова", "няўласна аўтарская мова", "няўласна простая мова" і г. д. А калі падключыць яшчэ і такія паняцці, як "літаратурнае і нелітаратурнае маўленне", "тэрытарыяльныя і сацыяльныя дыялектызмы", "навуковыя тэрміны і прафесіяналізмы" і шмат іншага ў такім парадку, то ў кожным творы можна знайсці безліч прыкладаў С. М.

Што да сінтэзавання асаблівасцей розных стыляў і жанраў у тым ці іншым творы пісьменніка (нават у творах пісьменнікаў розных школ і напрамкаў), то

гэта з’ява дазваляе многім даследчыкам весці гаворку пра так званае змяшэнне стыляў, што ёсць нібыта парушэнне асноўнага патрабавання да кожнага стылю, г. зн. не вытрымана адзінства яго ўласных норм у выкарыстанні моўных і выяўленчых сродкаў (калі апошнія неабходны). Аднак, варта заўважыць, спецыфікай мастацкага стылю (стылю паэзіі, прозы і драматургіі) і з’яўляецца стварэнне мастацкага адлюстравання рэчаіснасці любымі сродкамі і прыёмамі, у тым ліку і праз узаемадзеянне ўласнастылёвых сродкаў і норм, праз выкарыстанне элементаў усіх стыляў беларускай літаратурнай мовы. Зразумела, што з адзінай мэтай – для стварэння мастацкага вобраза, мастацкага выказвання (тэксту), ідыястылю (манеры выкладу, вобраза- і тэкстаўтварэння).

У артыкуле “Сінтэз мастацтваў” (*гл.* ЭнЛіМБел, т. IV, сс. 734-735) чытаем: “С. М. – спалучэнне розных мастацтваў ці відаў мастацтва ў адзінае маст. цэлае, якое эстэтычна арганізуе матэрыяльнае і духоўнае асяроддзе чалавека. У выніку С. м. узнікае якасна новае ўтварэнне, якое не зводзіцца да простай сумы кампанентаў. Іх ідэйнае, вобразнае, кампазіцыйнае адзінства, удзел у маст. арганізацыі прасторы і часу, узгодненасць маштабаў, прапорцый, рытму спараджаюць у творы шматграннасць развіцця ідэі, рознабакова і эмацыянальна насычана ўплываюць на чалавека, актывізаваць яго ўспрыманне. С. М. увасабляе і адлюстроўвае цэласную карціну свету ў адзінстве грамадскіх і эстэтычных ідэалаў часу, іх матэрыяльнага ўвасаблення, адпаведных пэўнаму ўзроўню маст. культуры грамадства. Гэта вызначае вял. сацыяльна-выхаваўчую ролю С. М.”

*Параўн.:* синтетизм (ЛЭС, с. 451), синкретическая форма (СЛТ, 1972, с. 355), сінтэтычны лад мовы (СЛТ, 1990, с. 125).

**СІСТЭМЫ ВЕРШАСКЛАДАННЯ** – тыпы рытмічнай арганізацыі вершавай мовы, абумоўленыя найперш фанетычнымі асаблівасцямі, далей пануючымі традыцыямі і залежаць ад сукупнасці структурных адзінак верша. Сувязь паміж вершам і музыкай, напевам абумовіла асноўныя асаблівасці народнага В., наяўнасць у старагрэчаскай мове доўгіх і кароткіх складоў прывялі да антычнай метрычнай сістэмы В. У мовах з пастаянным, строга вызначаным націскам пануе сілабічная сістэма В. З XX ст. распаўсюдзілася танічнае і сілаба-танічнае В., а таксама актывізаваўся свабодны верш – верлібр.

Вершаскладанне, або вершаванне, – сістэма арганізацыі вершаванай мовы, у аснове якой – паўтарэнне пэўнага рытмастваральнага кампанента (вышыні гуку – у кітайскай паэзіі, працягласці вымаўлення галоснага – у антычнай, націскных або ненаціскных галосных – сілаба-тоніцы і г. д.). Мерай жа рытмічнай арганізацыі вершаванай мовы звычайна з’яўляецца вершаваны радок *(гл.)*.

Усе С. В. так ці інакш звязаны паміж сабой, узаемна ўплываюць (ці ўплывалі) адна на адну. Напрыклад, антычная С. В. аказала ўплыў на развіццё сілабічнага і сілаба-танічнага верша ў еўрапейскай і ўсёй сусветнай паэзіі, народнае вершаванне паўплывала на станаўленне сілаба-тонікі ва ўсходнеславянскай паэзіі, з’явілася асновай літаратурнага танічнага верша і г. д. Кожная з С. В. мае свае вершаваныя віды і формы. У прыватнасці, відамі танічнага верша з’яўляецца ак-

цэнтна-складовы і акцэнтны, або чыста танічны, верш, дольнік, тактавік. У сілаба-тоніцы суіснуюць разам вольны верш, вершы з цэзураванымі нарашчэннямі і ўсячэннямі і г. д. У адзін і той жа час у нацыянальнай паэзіі і нават у творчасці аднаго паэта могуць суіснаваць некалькі С. В. Так, у творчасці Ф. Багушэвіча сустракаюцца сілабічныя, танічныя і сілаба-танічныя вершы. М. Танк доўгі час пісаў сілаба-танічным вершам. У апошнія свае гады ён усё часцей аддаваў перавагу свабоднаму вершу *(гл.)*.

Гісторыя развіцця асобных С. В. у беларускай паэзіі пачынаецца з XVI ст., калі панаваў народны верш у дзвюх яго разнавіднасцях – музычна-моўнай (песеннай) і інтанацыйна-сказавай (рэчытатыўнай). Тады існаваў таксама і антычны (метрычны) верш (у творчасці беларускіх паэтаў-лацііністаў – Яна з Вісліцы, М. Гусоўскага, І. Іяўлевіча і інш.), але да канца стагоддзя разам са звужэннем функцыі старадаўняй латыні ў літаратурным жыцці Беларусі ён знік. З таго ж XVI ст. вядзе сваю радаслоўную і беларуская сілабіка (Ф. Скарына, А. Рымша, А. Пашкевіч, С. Полацкі і інш.), на аснове сілабічнага і народнага танічнага верша (асабліва яго сілаба-танічных форм), пад уздзеяннем рускай паэзіі ўзнікае беларуская сілаба-тоніка, якая неўзабаве (канец XIX ст.) поўнасцю выцясняе сілабіку. З сярэдзіны XIX – пачатку XX ст. да сілаба-танічнай С. в. далучаецца літаратурны танічны верш ва ўсіх сваіх відах, а таксама свабодны верш. Абсяг ужывання народнага верша ў гэты час прыкметна звужаецца, ён працягвае выкарыстоўвацца, бадай, выключна ў вуснай народнай творчасці (Рагойша, 2003, сс. 28-29).

*Параўн.:* стихосложение (КЛЭ, VII, сс. 202-204), стих, стиховедение (ЛітЭС, с. 423), вершаванне (Рагойша, 2001, с. 70).

**СІСТЭМЫ (СРОДКІ) КАМУНІКАЦЫІ** – сукупнасць усіх сродкаў, прызначаных для ажыццяўлення працэсу перадачы інфармацыі ў выглядзе вуснага ці пісьмовага маўлення, яго вербальных (слоўных) форм. Умоўна можна падзяліць усе сістэмы (сродкі) камунікацыі на 2 групы: *сістэма сродкаў масавай інфрмацыі* (СМІ) – радыё, тэлебачанне, друк і інш. і *сістэма (сродкі) камунікацыі паміж асобамі* (індывідамі) – тэлефон, тэлеграф, ліставанне, гутаркі, экзамены і інш. Асобнае месца займае INTERNET – як масавая, так і індывідуальная сукупнасць сетак і тэхнічных сістэм інфармацыі. У параўнанні з традыцыйнай інфармацыяй *інтэрнэт* – прадукт інфармацыйнай рэвалюцыі апошніх дзесяцігоддзяў, цесна звязаны з праблемай “мова і камп’ютар”. Можна лічыць камп’ютар моўным СМІ.

Як ужо адзначалася, вынікам маўленчай дзейнасці людзей з’яўляюцца выказванні і тэксты, а сам працэс вербальнай інфармацыі і моўныя зносіны людзей адбываюцца праз асноўныя віды маўленчай дзейнасці – гаварэнне, слуханне, чытанне, пісьмо. Тэхнічныя сродкі абмену інфармацыяй з’яўляюцца дапаможнымі да асноўных, бо служаць толькі дзеля павелічэння і пашырэння зоны дзеяння вербальных форм інфармацыі.

Часцей за ўсё рабоце над самастойным канструяваннем выказванняў папярэднічае аналіз спосабаў фарміравання і фармулявання чужых думак, зафіксава-

ных у разнастайных тэкстах, якія, як правіла, адлюстроўваюць вусную і пісьмовую формы маўлення, гутарковыя і кніжныя стылі, дыялогі і маналогі як формы моўных зносін. Увогуле ж задача камунікацыі ў тым, каб у свядомасці адрасата (рэцыпіента) узнікала такая ж інфармацыя, якую перадае адрасант (аўтар, рэферэнт).

Сістэмы (сродкі) масавай інфармацыі найцяснейшым чынам звязаны з публіцыстычным стылем *(гл.)*, асабліва такімі яго падстылямі, як газетна-публіцыстычны (газетна-інфармацыйны і газетна-аналітычны), газетна-часопісны, палітычны і прамоўніцка-публіцыстычны (агітацыя і прапаганда).

Галоўныя задачы С(С)МІ – паведамленне навін і іх каментар, ацэнка фактаў і падзей жыцця (палітычнага, эканамічнага, культурнага, спартыўнага і г. д.) Рэспублікі Беларусь і ўсяго свету, адлюстраванне людскога паўсядзённага жыцця і яго перыпетый, увогуле стварэнне “летапісу сучаснасці”. Дзеля ўсяго гэтага выкарыстоўваюцца побач з камунікацыйнай функцыяй мовы *(гл.)* функцыі ўздзеяння і інфармацыйная. Узаемадзеянне названых функцый і складае моўную (маўленчую) спецыфіку С(С)МІ.

Асобнымі сродкамі інфармацыі можна па-ранейшаму лічыць радыё і тэлебачанне, якія шырока выкарыстоўваюць як кадыфікаванае (літаратурнае) вуснае маўленне, так і некадыфікаванае (жывое, спантаннае). Разнастайныя інтэрв’ю і рэпартажы з іх спецыяльнай і спецыялізаванай інтанацыяй, лексікай, фразеалогіяй, рознастылёвымі элементамі і іх свядомым ці несвядомым змешваннем прымушаюць выдзяляць у асобную групу так званыя *электронныя сеткі (сродкі)* мовы.

Неабходна алрозніваць мову С(С)МІ ад літаратурна-мастацкіх жанраў, нават і саму аўтарскую пазіцыю. Фактычна гэта асноўныя адрозненні публіцыстычнага і мастацкага стыляў сучаснай літаратурнай мовы, яе жанравай стратыфікацыі. Аўтарскае “я” і “мы” фарміруе сённяшнюю сістэму жанраў і падзяляе іх на інфармацыйныя, аналітычныя і мастацка-публіцыстычныя (у публіцыстычным стылі) і на паэтычныя, празаічныя і драматургічныя (у мастацкім стылі), высоўваючы наперад дакументальнасць, афіцыйнасць і суб’ектыўнасць публіцыстычнага маўлення, г. зн. мовы і стылю сучасных С(С)МІ.

*Параўн.:* язык и стиль электронных СМИ, сети Интернет (СЭСРЯ, сс. 642-651).

**СІТУАЦЫЯ МАЎЛЕНЧАЯ** – умовы, пры якіх адбываецца акт маўлення, што ўплывае (аказвае ўплыў) на выказванне. *Сітуацыя – сукупнасць абставін, становішча.* (ТСБЛМ, с. 599).

Падзел літаратурнай мовы на вусна-гутарковую і кніжна-пісьмовую разнавіднасці дае права рабіць абмен думкамі, г. зн. ствараць моўныя зносіны (камунікацыю), пры дапамозе вуснага ці пісьмовага маўлення. Гэтым самым пацвярджаецца ісціна, што маўленне як спосаб прымянення моўных сродкаў неаднароднае, таму што мова функцыянуе не сама па сабе, а ў сувязі з патрэбамі маўленчых зносін. Таму камунікацыя лічыцца спецыфічнай формай узаемадзе-

яння людзей у працэсе іх пазнавальна-працоўнай дзейнасці. З гэтай прычыны камунікацыйная функцыя мовы (маўлення) лічыцца асноўнай функцыяй.

Камунікацыя складваецца з камунікацыйных актаў (як і маўленне складваецца з маўленчых актаў), а ўдзельнікі камунікацыі, якія нараджаюць выказванні (тэксты) і інтэрпрэтуюць іх, называюцца камунікантамі. Выказванні і тэксты як вынікі маўленчай дзейнасці (гаварэння і слухання, пісьма і чытання) – гэта нацыянальна-моўны вербалізаваны прадукт, заклікаы інфармаваць пра якія-небудзь ідэі, інтарэсы, эмоцыі камунікантаў.

Ад С. М. патрэбна адрозніваць моўную сітуацыю. "Моўная сітуацыя, – піша В. І. Рагаўцоў, – сукупнасць формаў існавання адной мовы (тэрытарыяльных і сацыяльных дыялектаў, функцыянальных стыляў) або розных моў, якія абслугоўваюць этнас ці палітычную супольнасць у межах пэўнай дзяржавы або рэгіёну. Інакш кажучы, гэта ўласцівы грамадству спосаб задаволення камунікацыйных праблем з дапамогай адной мовы (або яе разнавіднасцей) ці некалькіх моў. Моўная сітуацыя – адзін з найважнейшых аб'ектаў сацыялінгвістыкі, які звычайна характарызуецца на аснове колькасных, якасных, ацэначных крытэрыяў (паводле В. У. Вінаградава)". І далей: "Моўная сітуацыя ў шматмоўным грамадстве залежыць ад моўнай палітыкі: дзяржава можа не толькі садзейнічаць развіццю моў у шматнацыянальных краінах, але і стрымліваць або звужаць функцыянаванне моў недзяржаўных нацый. Напрыклад, да рэвалюцыі царскі ўрад забараняў навучанне ў школах Беларусі (якая вызначалася як Паўночна-заходні край) і друкаванне кніг на беларускай мове.

Моўныя сітуацыі бываюць аднамоўныя і шматмоўныя. У аднамоўнай сітуацыі моўнік у залежнасці ад абставін карыстаецца адной мовай – або літаратурнай, або яе дыялектнай формай, а ў шматмоўных – рознымі мовамі" (Рагаўцоў В. І. Агульнае мовазнаўства, сс. 78-80). Пры непасрэднай дыялагічнай камунікацыі шырока ўжываюцца (падключаюцца) і невербальныя сродкі выражэння: жэсты, міміка, рухі ўсяго цела. Гэта так званыя экстралінгвістычныя фактары *(гл.)*, да якіх у першую чаргу адносяцца сітуацыйная канкрэтнасць маўлення, нацыянальна-культурная традыцыя і інш.

Можна лічыць выказванне маўленчым знакам, які абазначаецца лексіка-граматычнай структурай сказа *(гл.)*, а абазначаемым – адпаведны адрэзак рэчаіснасці з усімі яго элементамі, характарыстыкамі, сувязямі, умовамі камунікацыі (моўных зносін) і да т. п. Семантычны аналіз выказванняў прадугледжвае зварот да кантэксту, сітуацыі, фонавых ведаў камунікантаў.

Асноўная асаблівасць выказвання – гэта арыентацыя на ўдзельнікаў маўлення (выклад пазіцыі гаворачага і разлік на веды і пэўную рэакцыю субяседніка). У выказванні інтэрпрэтуюцца адзінкі розных узроўняў, у ім узаемадзейнічаюць значэнні, што выражаюцца лексічна, граматычна, інтанацыйна. Выказванню ўласціва сітуацыйнасць, г. зн. суаднесенасць з канкрэтнай сітуацыяй, вядомай гаворачым, у сувязі з чым выкарыстоўваюцца дэйктычныя элементы, якія замяняюць прамыя абазначэнні, зразумелыя толькі ў дадзеным выпадку, і інш.).

Фарміруючы ў свядомасці прадметна-лагічныя мадэлі сітуацыі, той, хто гаворыць, можа па-рознаму выбіраць і групаваць яе элементы, у выніку чаго выказванні адрозніваюцца варыятыўнасцю (магчымасцю апісаць адну і тую ж М. С. рознымі спосабамі).

Выказванне ствараецца для абазначэння дадзенага адрэзка сітуацыі, у дадзеных умовах маўлення і ў дадзены момант. Аднак праяўляецца тэндэнцыя да стэрэатыпізацыі – у аднатыпных М. С. камунікванты выкарыстоўваюць тоесныя (блізкія, падобныя) выказванні (маўленчыя формулы, клішэ, што пераходзяць у сістэму мовы). Яскравым прыкладам выкарыстання С. М. з'яўляюцца няпоўныя сказы, асабліва так званыя сітуацыйна-няпоўныя сказы, у якіх не называюцца члены (кампаненты), зразумелыя з сітуацыі: *Я буду ў светлым* (абставіны паказваюць, што гаворка ідзе пра адзенне). Або зусім кароткі сказ тыпу *Вось імчыцца*, прамоўлены кімсьці ў чаканні цягніка. А найбольш сітуацыйна звязаныя паміж сабой рэплікі ў дыялагічным маўленні.

*Параўн.:* ситуация (СЛТ, 1972, с. 356), контекст, ситуативное высказывание и предложение, ситуация (СЛТ, 1969, сс. 94, 207, 413).

**СКАЗ** [1] – мінімальная граматычная і інтанацыйна цэласная адзінка мовы (маўлення), якая з'яўляецца асноўным сродкам фарміравання, выражэння і паведамлення думкі, волевыяўлення і эмоцый чалавека. Сказ тоеснасці –двухсастаўны сказ з фармальнай абарачальнасцю складаў дзейніка і выказніка: *Горад Мінск – сталіца* і *Сталіца – горад Мінск* (СЛТ, 1990, с. 125). С. характарызуецца наступнымі прыкметамі: 1) інфармацыйная закончанасць; 2) прэдыкатыўнасць *(гл.)*; 3) інтанацыйная закончанасць. Паводле мэты выказвання С. падзяляюцца на апавядальныя, пытальныя і пабуджальныя, у залежнасці ад структуры – на простыя і складаныя, поўныя і няпоўныя, у залежнасці ад сувязі састаўных частак у складаных С. – на складаназлучаныя, складаназалежныя, бяззлучнікавыя і камбінаваныя складаныя С.

У С. слова і спалучэнні слоў заўсёды граматычна арганізаваныя сінтаксічнымі адносінамі і сувязямі ў суцэльнае (цэласнае) адзінства, якое выражае (змяшчае) асобную простую ці складаную думку, пачуццё і вызначаецца адноснай сэнсавай і інтанацыйнай завершанасцю (закончанасцю): *Шмат злажылі казак, і легенд, і песнь людзі пра балота, пра сваё Палессе…* (Я. Купала. Над ракой Арэсай).

С. сумяшчае ў адной сваёй граматычнай форме некалькі значэнняў розных ступеняў абстракцыі *(гл.)*. Найперш – гэта прэдыкатыўнасць *(гл.)*, якая мадыфікуецца ў розных сінтаксічных (*гл.* СІНТАКСІС) формах, што выражаюць значэнні рэальнасці і ірэальнасці. Аднак у канкрэтных С. на значэнні прэдыкатыўнасці накладваюцца новыя значэнні, якія ідуць ад кампанентаў прэдыкатыўнага ядра *(гл.)* і ад іх адносін (суадносін), а таксама ад лексічнай семантыкі слоў, змешчаных у розных пазіцыях у адносінах да прэдыкатыўнай асновы: *Студэнт слухае лекцыю, хоць і нецікавую; Студэнт не слухае нецікавых лекцый; Студэнт не абавязаны слухаць нецікавыя лекцыі; Кожны студэнт або слухае, або не слухае цікавыя ці нецікавыя лекцыі* і г. д. Гэта так званыя трансформы *(гл.)*, якія

трэба адрозніваць ад структурных асаблівасцей тыпу: *Сонца свеціць; Зямля асвятляецца, ацяпляецца сонцам; Світае і цямнее ў залежнасці ад становішча зямлі да сонца; Штодзень світае, цямнее; Як цямнее, так і світае ў залежнасці ад сонца* і шмат інш.

У С. прысутнічае функцыянальнае значэнне, якое вызначаецца парадкам слоў або так званым актуальным чляненнем (падзелам) сказаў, ці інтанацыяй *(гл.)*.

С. валодае значным прагматычным патэнцыялам, таму што той, хто гаворыць ці піша, выражае ў С. свае адносіны да прадмета думкі (маўлення ўвогуле, яго аўтара), да сітуацыі *(гл.)*, да адрасата.

С. як інфармацыйная адзінка валодае неабмежаванымі структурнымі і камунікацыйнымі магчымасцямі. Тут С. можа ўваходзіць у склад выказвання *(гл.)*, супадаць з ім ці быць зусім самастойным, нават і не ўваходзіць у тэкст *(гл.)*. Уваходзячы ў тэксты як яго структурны кампанент, С. можа быць або звышфразавым (звышсказавым) адзінствам, або яго састаўной часткай (*гл.* ЗВЫШФРАЗАВАЕ АДЗІНСТВА, СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ, АБЗАЦ і інш.). С. вывучаецца ў логіцы, бо супадае з лагічным суджэннем *(гл.)*, у семантыцы і семіётыцы (з'яўляецца знакам, што мае пэўнае значэнне), у сінтагматыцы *(гл.)*, у прагматыцы *(гл.)*, у літаратуразнаўстве і шмат інш.

*Параўн.:* сказ (ЭнЛіМБел, IV, с. 739), (СЛТ, 1990, с. 125), предложение (СЛТ, 1969, сс. 347-349), (СЛТ, 1972, сс. 283-286) і інш.

**СКАЗ** [2] – 1) эпічны жанр у фальклоры; 2) стылізаваны пад вуснае маўленне маналог апавядальніка (апавядача); 3) тое, што і СКАЗАННЕ – паданне гістарычнага або легендарнага зместу (звычайна ў старажытнай літаратуры або фальклоры): *"Сказанне пра Мамаева пабоішча", "Сказ пра Вяля" М. Танка, "Сказ пра Лысую гару"* і інш. У беларускім фальклоры С. грунтуецца на рэальнай ці ўяўнай дакладнасці і звычайна пазбаўлены фантастыкі. Аднак мастацкая выдумка выкарыстоўваецца шырока, хоць і падаецца як факт, што мае сведку, ад імя якога звычайна вядзецца расповед *(гл.)*. Тэрміны "сказ", "сказанне" раўназначныя часцей за ўсё тэрмінам "паданне", "легенда", "вуснае народнае апавяданне" *(гл.)*. У сучаснай мастацкай літаратуры С. – гэта пераважна стылізаваны аўтарскі маналог, які можа быць настолькі аддалены ад самога аўтара твора, што ўспрымаецца як момант дзейнай асобы або апавядальніка (апавядача, распавядальніка). Аднак у творах са сказавым маўленнем *(гл.)* абавязковым з'яўляецца наяўнасць аўтара *(гл.)*, апавядальніка *(гл.)*, чытача і слухача. Вытокі літаратуразнаўчага С. – у міфалогіі, фальклоры, суседніх літаратурах. Актывізацыя С. звязаная з неабходнасцю жанрава-стылявых пошукаў і росшукаў (*гл.*, напрыклад, "*Веча славянскіх балад" Я. Сіпакова, "Смаргонская акадэмія" Р. Барадуліна, "Версэты" А. Разанава* і інш.).

*Параўн.:* сказ, сказание (КЛЭ, VI, сс. 875-877), сказ (ЭнЛіМБел, IV, сс. 739-740), сказ, сказанне (ТСБЛМ, с. 599).

**СКАРАЧЭННІ**, або **АБРЭВІЯТУРЫ** – вынік абрэвіяцыі *(гл.)*, аднаго з самых актыўных спосабаў утварэння новай лексікі беларускай мовы, асабліва са-

вецкага часу. У “Руска-беларускім слоўніку скарачэнняў” (Мінск, 1996, тт. 1-2) уключана каля 23000 такіх моўных адзінак, размешчаных у алфавітным парадку і расквaліфікаваных ва ўступным артыкуле як: 1) ініцыяльныя скарачэнні словазлучэнняў; 2) складанаскарочаныя словы змешанага тыпу; 3) складанаскарочаныя складовыя словы; 4) запазычаныя скарачэнні; 5) умоўныя графічныя скарачэнні простых слоў; 6) умоўныя графічныя скарачэнні складаных слоў; 7) умоўныя графічныя скарачэнні словазлучэнняў; 8) іншыя (маркіровачныя) скарачэнні. *Гл.* РБСС, т. 1, сс. 7-10.

**СКЛАДАНАЕ СІНТАКСІЧНАЕ ЦЭЛАЕ (ССЦ)** – полікамунікацыйная сінтаксічная адзінка, што арганізавана з двух ці больш самастойных сказаў (простых або складаных), аб’яднаных адпаведнымі сродкамі сувязі і па сэнсе. Стандартнаму ССЦ уласціва трохкампанентная арганізацыя (зачын, развіццё думкі, канцоўка). Напрыклад:

*У полі было куды халадней, чым у лесе. Насустрач дзьмуў пругкі, не моцны, але даволі марозлівы вецер, ад яго болем заходзіліся азызлыя без рукавіц рукі – як Сотнікаў ні хаваў іх то ў кішэні, то ў рукавах, то за пазухай – усё роўна мерзлі. Памарозіцца было надта проста, асабліва твар, ды і рукі; за ногі ён быў спакайнейшы – ногі на хадзе грэліся. Праўда, на правай адняліся, не чуваць сталі два пальцы, але яны адымаліся заўжды ад сцюжы і звычайна балелі ў цяпле. Тым не менш на холадзе ныла ўсё яго прастуджанае цела, якое сёння пачало яшчэ і ліхаманіць* (В. Быкаў. Сотнікаў).

У прыведзеным ССЦ *зачынам* выступае першы сказ, пачынае развіццё мікратэмы, вызначае далейшы ход яе развіцця. Часцей за ўсё ў якасці зачыну, як і ў працытаваным ССЦ, бывае просты поўны сказ, невялікі па аб’ёме, але семантычна насычаны. Наступныя сказы – сказы сярэдняй часткі *(развіцця думкі)* – менш самастойныя і часта залежаць ад зачыну: развіваюць яго змест, тлумачаць названую ў ім прычыну, удакладняюць акрэсленыя характарыстыкі і інш. Сярэдняя частка звычайна не мае асобых сінтаксічных сродкаў афармлення, можа ўключаць у сябе сказы рознага тыпу: простыя і складаныя, поўныя і няпоўныя, ускладненыя і няўскладненыя. Асноўнае развіццё *мікратэмы (гл.)* адбываецца менавіта ў гэтай частцы. *Канцоўка* ССЦ з’яўляецца падагульненнем сказанага, пэўным вынікам апісання або развіцця падзей другой часткі. Таму натуральна, што для канцоўкі, як і для зачыну, будуць існаваць абмежаванні пры пабудове сказаў: часцей за ўсё гэта просты сказ або неаб’ёмны складаны (як у прыведзеным прыкладзе) з абмежаванай колькасцю частак.

*Параўн.*: складанае сінтаксічнае цэлае (БМЭ, с. 498).

**СКОРАГАВОРКА** – 1) жанр народна-паэтычнай творчасці; 2) хуткае вымаўленне і ўсё вуснае маўленне таго або іншага індывіда з такім вымаўленнем; 3) спецыяльна прыдуманы сказ для карэкціроўкі цяжкага (выразнага) вымаўлення зычных гукаў. С. – 1. *Хуткае маўленне;* 2. *Спецыяльна прыдуманая фраза, пабудаваная на скарачэнні гукаў, якія робяць цяжкім хуткае вымаўленне яе, напр.: ліска лашчыць лісяня, а ласіха – ласяня…* (ТСБЛМ, 2002, с. 604). Часцей за

ўсё С. ужываюцца (выкарыстоўваюцца) у дзіцячым фальклоры і паэзіі: *“Лавіў рыбак судака, судзіў судак рыбака; лоўка, рыбак, ловіш, судаку сорам робіш”, “Пекар Пётр пёк пірог”, “Як без Пракопа кіпеў кроп, так і з Пракопам кіпіць кроп”* і шмат іншых прыкладаў, у якіх С. ператвараюцца ў алітэрацыю *(гл.)* накшталт такой: *Марозік крэпіць – лёд таўшчэе // І рэчка звонкая нямее…”* (Я. Колас. Зімою ). С. выкарыстоўваецца ў шматлікіх прыказках тыпу *Будзеш мець плеш, не бузеш хадзіць пеш; Усе старухі – сварухі; Чым сонца яснее, тым месяц смутнее; Не тады дождж, як ждуць, а тады, як жнуць* і г. д. Змест С. пераважна гумарыстычны, таму яна часцей за ўсё вывучаецца ў фальклоры, які шмат увагі ўдзяляе і прыказкам *(гл.)*. Функцыі С. у быце – гульнёвыя, трэніровачныя, таму яна з’яўляецца добрай дапамогай пры навучанні выразнаму чытанню *(гл.)*.

*Параўн.:* скарагаворка (ЭнЛіМБел, V, с. 26), (КЛЭ, VI, с. 894), скороговорочный (СЛТ, 1969, с. 417).

**СЛАВІСТЫКА, СЛАВЯНАЗНАЎСТВА; СЛАВЯНСКІЯ МОВЫ** – комплекс навук, што вывучаюць мовы, духоўную і матэрыяльную культуру славян у мінулым і на сучасным этапе іх развіцця; СЛАВЯНСКІЯ МОВЫ – асобная група індаеўрапейскай сям’і моў, якімі карыстаюцца як сродкам вусных і пісьмовых зносін. Славянскае мовазнаўства з’яўляецца адным з асноўных раздзелаў С., у якім грунтоўна ў гістарычным і тыпалагічным плане даследуюцца жывыя і мёртвыя С. М. Пачалося яно дзесьці ў XVI-XVII стст., асабліва калі з’явілася “Граматично языкознанье” Ю. Крыжаніча (1666 г.). Ранейшыя граматыкі (у першую чаргу “Грамматіка словенска совершенного искуства осми частій слова” Л. Зізанія (1596 г.) і “Грамматіки славенския правилное синтагма” М. Сматрыцкага (1619 г.) прызначаліся вучням ці слухачам брацкіх школ для вывучэння стараславянскай (царкоўнаславянскай) мовы. “Граматыка словенская” І. Ужэвіча, створаная беларусам у Парыжы (1643 г.), засталася ў 2 рукапісных варыянтах, але гэта была першая спроба стварэння параўнальнай граматыкі. Першым буйным слав. філолагам, заклаўшым асновы навуковага С., быў чэшскі вучоны Й. Даброўскі, які напісаў гісторыю чэшскай мовы і літаратуры (1792 г.), чэшскую граматыку (1809) і навуковую граматыку стараславянскай мовы (1822 г.). Паслядоўнік Й. Даброўскага П. І. Шафарык выдаў у 1826 г. “Гісторыю славянскіх моў і літаратур”, “Славянскія старажытнасці” (тт. 1-2, 1837), “Славянскае народазнаўства” (1842 г.). У апошняй шмат увагі ўдзяляецца беларусам, іх дзяржаве – ВКЛ, выданням Ф. Скарыны і Л. Зізанія, паэме “Энеіда навыварат” і вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа.

Значны ўклад у распрацоўку С. унеслі рускія і беларускія мовазнаўцы. М. В. Ламаносаў на аснове аналізу лічэбнікаў ад *аднаго* да *дзесяці* называе роднаснымі (“сродственными”) мовы рускую, грэцкую, лацінскія, нямецкія і дакладна ўстанаўлівае сям’ю славянскіх моў. А. Х. Вастокаў упершыню распрацаваў асновы параўнальна-гістарычнай фанетыкі і граматыкі славянскіх моў, вызначыў і паказаў адрозненні паміж славянскімі мовамі, спецыфічныя рысы стараславянскай мовы. Яго “Рассуждение о славянском языке, служащее введе-

ние к грамматике сего языка, составляемой по древнейшим оного письменным памятникам" (1820 г.) стала паваротным этапам у развіцці славянскага параўнальнага мовазнаўства. XIX ст. падаравала свету цэлую плеяду такіх рускіх кампаратывістаў, як І. І. Сразнеўскі, Ф. І. Буслаеў, А. А. Патабня, Ф. Ф. Фартунатаў, І. А. Бадуэн дэ Куртэнэ, А. А. Шахматаў, Я. Ф. Карскі і інш. У XX ст. значных поспехаў у С. дасягнулі Л. У. Шчэрба, А. М. Селішчаў, Л. А. Булахоўскі, П. А. Бузук і шмат інш.

*Параўн.:* славяназнаўства (ЭнЛіМБел, V, сс. 43-44), (БМЭ, сс. 507-508), славистика, слав. языки (ЛЭС, сс. 458-461), славяноведение, славистика (КЛЭ, VI, сс. 911-930).

**СЛАВЯНІЗМЫ, СТАРАСЛАВЯНІЗМЫ, ЦАРКОЎНАСЛАВЯНІЗМЫ** – словы і выразы, запазычаныя са старaславянскай (царкоўнаславянскай) мовы, для якой было характэрнае няпоўнагалоссе *(гл.)*; спалучэнні *ра, ла, је* ў пачатку слоў *(разумны, ладдзя, еднасць)* і інш.

Патрэбна адрозніваць (і колькасна, і якасна) прысутнасць С. (Ц.) у старабеларускай і сучаснай беларускай літаратурнай мове. У першай С. (Ц.) ужываліся вельмі часта, бо царкоўнаславянская мова – гэта фактычна абруселы і аббеларушаны варыянты старaславянскай мовы як мовы набажэнства, багаслужэння; у апошняй – С. складаюць каля 2 дзесяткаў лексічных адзінак і столькі ж выслоўяў (фразеалагізмаў, прыказак, афарызмаў, якія знаходзяцца ў актыўным ужытку). Гэта найперш такія словы і выразы, як *абраз, блага, благаславенне, благаславенны, благаславіць, благаслаўлёны, благавешчанне, благі, блазен, блазнота, блазнюк, вобласць, вобраз, вочы, вяшчун, слава, дрэва, дзяржава, дзясніца, ерась, зладзейства, злак, кратны, лік* (твар)*, неба, паблажліва, плашч, раб, святыня, свяшчэннік, свяшчэнны, скрыжалі, трэба, улада, храм, храбры, цвярдыня, чало, член, чэзлы, чэзнуць, чэсны, шлем, шчасце, юны; ад аза да іжыцы, вавілонскае стоўпатварэнне, вока за вока, зуб за зуб, краевугольны камень, прытча ў (во) языцах, святая святых, хлеб наш насушчны (надзённы)* і інш.

Сучасная беларуская мова па-свойму асвойвае (асімілюе) некаторыя С. (Ц.): *благаслаўляць, благаславенне – бласлаўляць, блаславенне, блага* і ўсе аднакарнёвыя словы перакладаюцца як *дабро, добра*, бо С. (Ц.) супаў з асімілюючым *блага* – кепска; прыстаўкі тыпу *из-, воз-, пред-* або апускаюцца (*исчезнути* – чэзнуць), або замяняюцца на іншыя (*возбраненіе* – забарона), або спрашчаюцца (*предстоящій* – прадстаячы); суфіксы накшталт *-ние, -ствие* і інш. таксама відазмяняюцца, хутчэй за ўсё спрашчаюцца (*издание* – выданне, *шествие* – шэсце) і г. д. Складаныя словы з элементамі *благо-* і *зло-* часцей за ўсё замяняюцца элементамі *дабра- (добра-)* і *зла-: благодетель, благонадежный* – дабрадзей, дабранадзейны; *зловеще* – златвесна; *злокачественный* – злаякасны; *злополучный* – злашчасны, але *злоупотребить, злоупотребление, злоупотреблять* – злоўжыць, злоўжыванне, злоўжываць. Сустракаюцца выпадкі знарочыстай замены С. (Ц.) усходнеславянскімі поўнагалоснымі формамі: *храм* – хорам ("Белы *хорам* стаяў непадступнай сцяной…" – Я. Купала. Курган), *шлем* – шолам ("А кургане мае –

воіны бывалыя, // пад трубамі спавіваныя, // пад *шаломамі* ўзлюляныя…” – Р. Барадулін. Слова пра паход Ігаравы). У гутарковай і дыялагічнай мове С. (Ц.) могуць мець іранічнае адценне*: І Максім, і я аскудзелі целясамі і заместа добрых піцій глытаем розныя мікстуры і таблецціі…* (М. Лынькоў. З ліста да Я. Брыля); – “*Се жэніх градзе!” – сказаў дзяк, адчыніўшы дзверы…* (Я. Колас. Пісаравы імяніны).

Выкарыстоўваюцца С. (Ц.) і як паэтычныя словы ці выразы (*гл.* ПАЭТЫЗМЫ). Напрыклад:

*І поўдзень, і вечар, і ззянне дзянніцы,*
*Прасторы надзем'я, ружовыя далі, –*
*У моманце кожным сустрэчнае хвалі*
*Пакінуў мне вобраз твой след бліскавіцы…*
(Я. Колас. Сымон-музыка);

*Благавешчанне,*
*Звеставанне –*
*Дзень прылёту буслоў.*
(Р. Барадулін. Звеставанне);

*– Рай зямны, – сказаў папок, азіраючыся навокал і прагнучы добрым словам памагчы чалавеку ўзараць загон, – птушкі спяваюць, бога хваляць, усялякае, значыцца, стварэнне…*

*– Але, але,ойча.*

*– “хвалите его в кимволех доброгласнех”.*

(К. Чорны. Бацькаўшчына).

Як асобная стылістычная катэгорыя С. (Ц.) у сучаснай беларускай літаратурнай мове не значацца, але да архаізмаў *(гл.)* адносяцца.

*Параўн.:* славянізмы і стараславянізмы, царкоўнаславянізмы (ЭнЛіМБел, V, с. 46), (КЛЭ, сс. 909, 910), (ЛітЭС, с. 429), (СЛТ, 1969, с. 419), (СЛТ, 1972, сс. 359, 421), (СЛТ, 1990, сс. 129, 137).

**СЛОВА [1]** – асноўная адзінка мовы, якая складаецца з аднаго або некалькіх гукаў і называе (абазначае) прадметы, працэсы, з'явы, якасці ці адносіны паміж імі або выражае валявыя і эмацыянальныя пабуджэнні. Важнейшай асаблівасцю С. з'яўляецца яго здольнасць да абагульнення, да абстракцыі. С. – асноўны сродак моўных зносін. Вядома, што са слоў складаюцца словазлучэнні і сказы, а пры дапамозе апошніх чалавек выражае свае думкі і перадае іншым праз вусны або пісьмовы шлях. Так адбываецца камунікацыя пры дапамозе мовы. Вельмі важнае тое, што С. здольнае называць не толькі пэўны, канкрэтны прадмет, але і паняцце пра яго. Аднак не ўсе словы могуць быць назвамі паняццяў. Даказана, што не называюць паняцці службовыя словы і выклічнікі, займеннікі і ўласныя імёны (уласныя назоўнікі). *Глытаць словы – гаварыць неразборліва* (ТСБЛМ, 2002, с. 608); *Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. 14. І Слова стала плоццю, і ўсялілася ў нас, поўнае мілаты і праўды; і мы бачылі славу Ягоную, славу, як Адзінароднага Айца.* (Біблія. Пераклад В. і С. Сёмухаў. – USA, 2002. – С. 1299); *Бяссмертнае слова, ты, роднае слова! // Ты крыўды,*

*няпраўды змагло; // Хоць гналі цябе, накладалі аковы, // Дый дарма: жывеш, як жыло!* (Я. Купала. Магутнае роднае слова). *Слова – радасць, слова – чары, // Вобраз вечна юных вёсен, // Ёсць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары, // Ты глядзіш праз неба просінь…* (Я. Колас. Слова – радасць…)

С. – асноўны аб'ект вывучэння ў мовазнаўстве як шматгаліновай старажытнай навуцы, што складаецца з самых разнастайных раздзелаў. Так, у лексікалогіі і семасіялогіі *(гл.)* С. разглядаецца і як асобная (цэнтральная адзінка мовы, і як сукупнасць усіх сем, семем і семантэм (лексіка-семантычная сістэма). У фаналогіі С. – гэта комплекс гукаў (фанем), што дае магчымасць адрозніваць іншыя С., у марфалогіі С. – гэта марфема або словаформа ці сукупнасць марфем або словаформ, у сінтаксісе С. – састаўная частка словазлучэнняў і член (кампанент) розных сказаў. Спецыфічная роля С. у фразеалогіі, парэміялогіі, афарыстыцы, логіцы і філасофіі. Сёння актыўна вывучаюць С. прагматыка, псіхалінгвістыка, стылістыка і тэкстазнаўства (лінгвістыка тэксту, транслінгвістыка). Аднак кожная з названых навук ці асобны раздзел іх найперш разглядаюць на сучасным этапе С. як найменшую самастойную значымую моўную адзінку ў звязным выказванні (маўленні).

У сістэме адзінак мовы (маўлення) адрозніваюцца ядзерныя і перыферыйныя С. "Ядро" – паўназначнае, самастойнае С., "перыферыя" – службовыя С., словаформы, марфемы. Прыкметы асобнага С. агульныя для ўсіх моў, маюць рознае выражэнне ў розных мовах: у адных – гэта націск, у іншых склад ці фанема. У маўленні С. можа ці змяняць, ці страчваць некаторыя прыкметы: у плане зместу *(гл.)* С. можа атрымліваць разнастайныя адценні ўжывання (выкарыстання), нават індывідуальныя (аказіянальныя): у плане выражэння *(гл.)* С. можа атрымліваць пазіцыйныя змены (розныя чаргаванні фанем, рух націску, страта націску і інш.). Аднак усё пералічанае і іншае не пазбаўляе самастойнасці С. і ў выказванні, і ў сказе, і ў кантэксце, і ў тэксце. У мове С. утварае лексіка-граматычныя і граматыка-семантычныя мікрасістэмы, якія класіфікуюцца як часціны мовы, сінонімы, паронімы, антонімы, амонімы. Спрэчнымі аказваюцца пытанні варыянтнасці С., дыяхранічнага і сінхранічнага словаўтварэння, вытворчасці прамых і пераносных значэнняў С., так званых форм суб'ектыўнай ацэнкі і інш.

Частотнасць як паказчык функцыянавання С. у маўленні залежаць ад семантыкі, граматычных асаблівасцей (уласцівасцей), ад зместу тэкстаў сацыяпрафесійнай характарыстыкі камунікантаў. Паводле ЛЭС, у любой мове 1000 самых ужываемых слоў утвараюць 85 % тэксту, а пры змене значэнняў С., асабліва пераносных, частотнасць С. значна павялічваецца. У гэтым плане адрозніваюцца так званыя "ключавыя С." С. убіраюць усё: і гісторыю народа з яго мовай, і гісторыю свядомасці і самасвядомасці, і адлюстроўваюць рэчаіснасць ("Рэчаіснасць-1") у самой мове ("Рэчаіснасць-2"), і з'яўляюцца мастацтвам С. ("Рэчаіснасцю-3").

*Параўн.:* слова (СЛТ, 1990, с. 129), (БМЭ, сс. 510-511), слово (ЛЭС, сс. 464-467), (РБСОЛ, с. 957), (ЛітЭС, с. 387), (СЛТ, 1969, сс. 423-425).

**СЛОВА [2]** – адзін з жанраў старажытнай літаратуры ва ўсходніх славян; твор аратарскай (прамоўніцкай) прозы ў форме казання (пропаведзі), паслання, прамо-

вы і інш. С. падзяляюцца на богаслужэбныя (царкоўныя) і свецкія. Тыповым прыкладам з'яўляецца "Слова аб Меркурыі Смаленскім", у якім усхваленне заступніцтва Меркурыя, што нібыта паспрыяў Смаленскай зямлі адстаяць сваю незалежнасць ад татара-манголаў. Хоць твор напісаны на царкоўнаславянскай мове, але ў ім шмат мясцовага матэрыялу. Моўна-выяўленчыя сродкі традыцыйныя, але сустракаюцца інавацыйныя, асабліва пры перадачы лірычных момантаў, у плачах-маналогах і вобразнай характарыстыцы дзейных асоб (герояў, волатаў, асілкаў). Літаратуразнаўцы адносяць да С. як апокрыфы тыпу "Слова пра Адама і Еву", так і "Слова пра паход Ігаравы" (*гл.* ЭнЛіМБел, V, сс. 51-52).

У сучаснай беларускай літаратурнай традыцыі "Слова пра паход Ігара(вы)" выкарыстоўвалі такія пісьменнікі, як Р. Барадулін, М. Гарэцкі, Я. Купала, А. Куляшоў і інш.

Параўн.: слова (КЛЭ, т. 6, сс. 958-963), "Слова" (ЭнЛіМБел, V, с. 51), (ЛітЭС, с. 387).

**СЛОВА** $^{3}$ – *гл.* МАЎЛЕННЕ.

**СЛОВА** $^{4}$ – *гл.* ПРАМОВА.

**СЛОВА** $^{5}$ – *гл.* ВЫСНОВА, ДУМКА.

**СЛОВА** $^{6}$ – *гл.* АБЯЦАННЕ.

**СЛОВА** $^{7}$ – *гл.* ТЭКСТ, ВЫКАЗВАННЕ.

**СЛОВА-АДНАДЗЁНКА** – *гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМ.

**СЛОВАЗМЯНЕННЕ** – *гл.* ФОРМАЎТВАРЭННЕ.

**СЛОВАПАРАДАК** – *гл.* ПАРАДАК СЛОЎ (у сказе, выказванні, тэксце).

**СЛОВА-ТЫП, СЛОВА-ЧЛЕН** – лексема; слова як адзінка маўлення, як канкрэтнае прымяненне лексемы ў данай маўленчай сітуацыі; словаформа.

Гэта не што іншае, як адзінка слоўнікавага складу мовы ў сукупнасці канкрэтных граматычных форм (пераважна канчаткаў, што выражаюць граматычныя значэнні гэтых форм).

Адрозніваючыся ад сукупнасці лексіка-семантычных варыянтаў і сінонімаў, словы (лексемы) характарызуюцца (валодаюць) як фармальным, так і сэнсавым адзінствам. Словаформы ў лексеме ствараюць парадыгму, напрыклад, выражаючы граматычнае значэнне катэгорыі склону ("дом" – "дома" – "дому" і г. д.), усе склонавыя канчаткі разам з кожнай словаформай складаюць парадыгму шасці склонаў у сучаснай беларускай і рускай мовах, а ва ўкраінскай – сямі, уключаючы старажытны клічны склон. Ад лексіка-семантычных варыянтаў, якія адрозніваюцца толькі паводле сэнсу (напр., мнагазначныя словы), С.-Т., С.-Ч., г. зн. лексемы і словаформы, могуць быць трансформамі, асабліва пры пераходзе адной часціны мовы ў іншую (т. зв. канверсіі). Словаформы ў межах адной лексемы – двухбаковыя адзінкі. Са знешняга боку – гэта паслядоўнасць фанем з указаннем месца націску ў бел. і рус. мовах; з унутранага боку – гэта складанае значэнне, у састаў якога ўваходзяць некалькі элементарных значэнняў. Усякае С. валодае пэўнымі сінтаксічнымі здольнасцямі спалучацца з іншымі С. пры пабудове фразы *(гл.)*. Такім чынам, словаформа – гэта дадзенае слова ў дадзенай форме, а лексема – слоўнікавая адзінка ва ўсёй сукупнасці і ўзаемазвязаных яе граматыч-

ных форм і значэнняў. У такой сувязі С.-Т. – гэта моўная адзінка, або канкрэтнае ўзнаўленне лексемы ў дадзенай маўленчай сітуацыі *(гл.).* Праяўляючыся спачатку як унутранае маўленне, а потым як знешняе маўленне, маўленчая дзейнасць чалавека ўяўляецца як індывідуальная звязная вусная ці пісьмовая форма мыслення. А гэта ўжо непасрэдная сувязь слова і паняцця, якія патрэбна адрозніваць. Найперш слова як цэнтральная адзінка мовы з'яўляецца паводле сваёй структуры двухбаковай: адзін яе бок – план зместу *(гл.)*, гэта знешняя матэрыяльная форма, другі – унутраная, або ідэальная, частка. Паняцце – аднабаковая мысленчая адзінка, у якой ёсць толькі ўстойлівая ідэальная форма існавання. Таму адно і тое ж паняцце можа ўвасабляцца рознымі знешнімі сродкамі: напрыклад, адсутнасць чаго-небудзь можна выразіць адмоўем "не", рухамі галавы, знакам "мінус", лічбай "нуль" і г. д. Да найбольш істотных адрозненняў паміж мовай (маўленнем) і мысленнем належыць прысутнасць у змесце *(гл.)* практычна кожнага агульнаўжывальнага слова пры яго выкарыстанні так званых канатацый *(гл.)* ці разнастайных дадатковых сэнсавых, пачуццёвых адценняў, якія суправаджаюць слова і выражаюць адносіны да зместу таго, хто гаворыць. Паняцце, як даўно даказана філосафамі, не мае эмоцый, якія ствараюць пачуццёвы свет унутранага жыцця чалавека і далучаюцца да саміх паняццяў (*гл.* УНУТРАНАЕ І ЗНЕШНЯЕ МАЎЛЕННЕ, УНУТРАНЫ МАНАЛОГ, УНУТРАНАЯ ФОРМА СЛОВА).

*Параўн.:* лексема, словоформа, слово-тип и слово-член (СЛТ, 1969, сс. 214, 426-428), (СЛТ, 1972, сс. 145, 383, 382-383), лексема, слово, словоформа (ЛЭС, сс. 257, 465-467, 470), слова, слова і паняцце (БМЭ, сс. 510-511).

**СЛОВАЎЖЫВАННЕ** – 1) заканамернасці выбару спалучэння слоў у маўленні; 2) ужыванне слова з тым або іншым значэннем у пэўнай, канкрэтнай мове. С. – *ужыванне слоў у мове* (ТСБЛМ, с. 608).

Выкарыстанне слова, яго ўжыванне – гэта магчымасць і здольнасць слова, яго форм спалучацца з іншымі словамі і іх формамі, функцыянуючы ў розных кантэкстах. Гаворачы па-навуковаму, гэта значыць: нормы сучаснага беларускага С. – найперш лексічныя нормы *(гл.)* сучаснай бел. літ. мовы, замацаваныя пераважна ў тлумачальных слоўніках, а таксама ў падручніках і дапаможніках па беларускай лексікалогіі. Асноўныя патрабаванні лексічнай нормы: 1) слова павінна быць агульнавядомым і ўжывацца калі не на ўсёй, то на значнай тэрыторыі нашай краіны ("старонкі роднай"); 2) слова павінна ўжывацца ў першую чаргу з тым значэннем, з якім яно замацавана спрадвечна ў лексіконе *(гл.)* беларускага народа; 3) слова павінна адпавядаць унутраным законам беларускай мовы, яе сістэмы і структуры, дакладней, кожнае слова мае агульнапрынятае лексічнае, граматычнае і функцыянальнае значэнне, мае гукавое афармленне, характэрнае для ўсёй фанетычнай сістэмы беларускай мовы; мае словаўтварэнне *(гл.)*, якое не выходзіць за рамкі словаўтваральнай сістэмы; само слова павінна быць агульназразумелае ці зразумелае большай часткі насельніцтва краіны і інш. Акрамя гэтага, пры вызначэнні літаратурнай нормы *(гл.)* ужываецца статыстычны, фармальна-лагічны, эстэтычны і нацыянальны крытэрыі.

Калі разглядаць нарматыўнасць мовы (маўлення) увогуле, то літаратурная мова з цягам часу паступова, але няўхільна змяняецца, адлюстроўваючы рухомасць жывой, гутарковай мовы розных сфер і пластоў нашага грамадства. Напрыклад, словы з коранем *–втор-* асутнічаюць у СБЛМ (акрамя спец. *утора* і агульнаўжывальнага *паўтараць* і іх варыянтаў), бо іх "выцеснілі" словы з коранем *друг-* яшчэ ў старажытнабеларускі перыяд, што не адбылося ў рускай мове. Параўнаем: руск. *втор-ой, втор-ичн-ый, во-втор-ых, втор-о-год-ник і* белар. *друг-і, друг-асн-ы, па-друг-ое, друг-а-год-нік.* Праўда, пры падрыхтоўцы нарматыўных слоўнікаў і іншага роду дапаможнікаў можа ў некаторай ступені адлюстравацца суб'ектыўны падыход да вызначэння той ці іншай літаратурнамоўнай нормы з боку складальніка пэўнага "кодэкса". Аднак у цэлым лексічныя нормы бел. літ. мовы – гэта адлюстраванне гістарычных заканамернасцей развіцця нашай мовы, якія замацаваліся ў лепшых узорах разнастайнай літаратуры (найперш мастацкай, публіцыстычнай і навуковай). *Гл.* ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ.

*Параўн.:* словаўжыванне (ЭнЛіМБел, V, с. 53), словоупотребление (СЛТ, 1969, с. 427, (СЛТ, 1972, с. 383), (СЛТ, 1990, с. 130).

**СЛОВАЎТВАРЭННЕ** – 1) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаецца структура слоў, шляхі і спосабы іх утварэння; 2) працэс або вынік утварэння новых слоў на базе існуючых пры дапамозе афіксаў ці бязафіксным спосабам.

"Словаўтварэннем называюць "вытворчасць" слоў, інакш кажучы, тыя шляхі і законы, якія вызначалі раней, вызначаюць цяпер своеасаблівасць і састаў слоўніка мовы ў цэлым і граматычны склад або будову кожнага слова", – стараецца найпрасцей вытлумачыць тэрмін "С." А. А. Крывіцкі ў сваім навукова-папулярным нарысе "Наша родная мова" (Выд. 2-ое. – Мінск: Нар. асвета, 1967. – С. 127). І ў энцыклапедыі "Беларуская мова" (Мінск: БелСЭ, 1994) таксама надзвычай папулярна гаворыцца: "Сярод розных спосабаў папаўнення слоўнікавага складу беларускай мовы адным з самых эфектыўных і пашыраных з'яўляецца словаўтварэнне, г. зн. утварэнне новых слоў ад ужо існуючых у мове лексічных адзінак з дапамогай наяўных у мове словаўтваральных сродкаў: *кніг-(а) > кні-ж-ачк-(а), мал-(ы) > мал-ават-(ы), еха-(ць) > пры-еха-(ць)"* (с. 519). Дадамо, што літаратуразнаўцы ў сваіх філалагічных слоўніках і энцыклапедыях уключаюць у гэты раздзел яшчэ і так званую аўтарскую словатворчасць – здольнасць аўтараў ствараць аўтарскія неалагізмы, або індывідуальна-аўтарскія наватворы *(гл.).* У "Слоўніку лінгвістычных тэрмінаў" П. У. Сцяцко, М. Ф. Гуліцкага і Л. А. Антанюк (СЛТ, 1990) С. прысвечаны сс. 130-134, дзе растлумачаны не толькі разглядваемы тэрмін, але і такія тэрміны, як "словаўтваральнае гняздо", "словаўтваральнае значэнне", "словаўтваральная аснова", "словаўтваральная база", "словаўтваральная катэгорыя", "словаўтваральная мадэль", "словаўтваральная матывацыя", "словаўтваральная прыстаўка", "словаўтваральная рэгулярнасць", "словаўтваральная сістэма", "словаўтваральная структура слова", "словаўтваральны аналіз", "словаўтваральны афікс", "словаўтваральны ланцужок", "словаўтваральны слоўнік", "словаўтваральны спосаб", "словаўтваральны сродак", "словаўтваральны

суфікс”, “словаўтваральны тып”, “словаўтваральны фармант”. Карыстаючыся гэтымі тэрмінамі, звернем асноўную ўвагу на такіх паняццях, як “словаўтваральная сістэма”, “словаўтваральныя нормы”, “словаўтваральная (марфалагічная) стылістыка”, “словаскладанне” і інш. У сучаснай лінгвістыцы шырока ўжываюцца тэрміны “дэрывацыя” – словаўтварэнне і “дэрываталогія” – словаўтварэнне як навука ці яе раздзел.

Цэнтральным паняццем у С. з’яўляецца паняцце словаўтваральнай вытворчасці, або матыванасці, калі ўсе словы можна падзяліць на вытворныя (матываваныя) ці невытворныя (нематываваныя). Аснова слова, якое паслужыла зыходнай базай для ўтварэння новага слова, называецца ўтваральнай (матывавальнай), а аснова ўтворанага слова – вытворнай (матываванай). Сродак, з дапамогай якога ўтвараецца новае слова, мае назву словаўтваральнага фарманта. Аснова невытворнага слова не падзяляецца на значымыя часткі (марфемы) і супадае з коранем слова. Асноўнымі словаўтваральнымі сродкамі ў беларускай мове, як і ў іншых славянскіх мовах, з’яўляюцца афіксы (прэфіксы, суфіксы, постфіксы, інтэрфіксы). Спосабы С. пры дапамозе афіксаў называюцца марфалагічнымі, астатнія (лексіка-семантычны, сінтаксічны і інш.) – немарфалагічнымі. Асобнага разгляду патрабуе адзін з марфалагічных спосабаў, які мае назву “словаскладанне” і разнавіднасцямі якога з’яўляюцца асноваскладанне і абрэвіяцыя *(гл.)*. Прыкладамі на асноваскладанне могуць паслужыць словы *“агульнаўжывальны”, “высокаідэйны”, “сацыяльна-эканамічны”, “жалезабетон”* і інш. Абрэвіятурамі, ці складанаскарочанымі словамі, лічацца найперш словы, утвораныя з пачатковых гукаў (літар), складоў і частак слоў з іх поўнымі назвамі: *МАЗ* (Мінскі аўтамабільны завод), *педвну* (педагагічная вышэйшая навучальная ўстанова), *ваенкамат* (ваенны камісарыят), *прафкам* (прафсаюзны камітэт), *дзяржстрахагенцтва* (дзяржаўнае страхавое агенцтва) і шмат інш.

Агульнасць словаўтваральнага фарманта, словаўтваральнага значэння, а таксама часціны мовы ўтваральнага слова абумоўліваюць аднясенне вытворных слоў аднаго тыпу, якія паводле здольнасці ўтвараць новыя словы, падзяляюць на прадуктыўныя і непрадуктыўныя. Сама ж словаўтваральная сістэма беларускай мовы – гэта не што іншае, як пэўным чынам арганізаваная сукупнасць вытворных слоў. Словаўтваральнай нормай лічыцца ўтварэнне слоў і іх ужыванне (выкарыстанне) у строгай адпаведнасці з правіламі (законамі) С., што вызначаныя і існуюць у беларускай літаратурнай мове. Калі гэта старажытная мова, то правілы (законы) – дыяхранічныя, калі сучасная – сінхранічныя, або сінхронныя (*гл.* ДЫЯХРАНІЯ і СІНХРАНІЯ). Словаўтваральныя нормы рэгулююць як утварэнне новых слоў, так і ўзнаўленне тых, што ўжо існуюць у маўленні. Найперш гэта мае дачыненне да сінтаксічных словаўтваральных тыпаў, напрыклад, такіх суфіксаў, як *-чык-, -шчык-, -нік-, -льнік-, -ец-, -ар-, -біт-: вазіць > возчык, вознік; выбіраць > выбарчык, выбаршчык, выбранік, выбіральнік; будзіць > будзільнік, будзільшчык; малаціць > малацьбіт, малацільнік, малацільшчык; гуляць > гулец; бубніць > бубнар, бубнаршчык* і г. д. Што да так званай словатворчасці, або аказіянальнага словаўтварэння (*гл.* АКАЗІЯНАЛІЗМЫ), то яно ўсё-такі павінна кваліфікавацца як парушэнне словаўтваральных норм (матываванае – прымальнае, нематыва-

ванае – непрымальнае). Урэшце толькі моўная практыка вызначае права на існаванне таго ці іншага парушэння як слова, так і маўленчай нормы.

На ўзроўні С. выдзяляецца стылістычная маркіраванасць *(гл.)* словаскладання (*дзяржыморда, ясназоры, вішнёва-ружовы*), а таксама стылістычная сінаніміка афіксаў: а) суфіксаў суб’ектыўнай ацэнкі – *мамка, мамачка, мамулечка; маленькі, маленечкі, малюпасенькі* (памяншальна-ласкавае адценне); *ваўчуга, велізарны і велічэзны, хрыбеціна* (гіпербалізацыя); *нядбайліца, няздара, нязграба* (пагардлівыя адносіны) і г. д.; б) прыстаўкі (прэфіксы) з так званай функцыянальна-стылёвай афарбоўкай – *антыграмадскі, ультрамодны, экстрасупераpдынарны* (кніжн.); *зашмат, удаваць, недалюбіць* (гутарк.) і шмат інш.

Індывідуальна-аўтарская словатворчасць можа прывесці да папаўнення асноўнага слоўнікавага фонду літаратурнай мовы. Так, Я. Купалу абавязана суч. бел. мова словамі *вісельня, гартоўна, крыўдзіцель, упрыгожыцца, цемрадзь* і інш., Я. Коласу – *авяваць, знаўства, светапогляд, прымарнавацца* і інш., У. Дубоўку – *адлюстраваць, дабрабыт, мілагучнасць* і г. д.

*Параўн.:* словообразование (СЛТ, 1969, с. 424), (СЛТ, 1972, сс. 376-378), (ЛЭС, сс. 467-469), словаўтваральныя нормы (БМЭ, сс. 518-519).

**СЛОВЫ АЎТАРА** – адна з састаўных частак канструкцыі з простай мовай, што ўводзіць у тэкст чужую мову, паказвае, каму яна належыць,да каго звернута. С. а. знаходзяцца або ў прэпазіцыі, або ў постпазіцыі, або ў інтэрпазіцыі паводле адносін да ўсёй простай (прамой) мовы *(гл.)*. Звычайна такое маўленне выкарыстоўваецца ў творах мастацкай і публіцыстычнай літаратуры. Напрыклад: *Стала цёмна.* Сцяпан усміхнуўся*: “Як яна, аднак, вырасла. Дзевяцікласніца!”...*

– *Сюды,* – шэптам сказала сястра, – *ці ж ты забыўся?...*

– *Як хараша, Ніна, га?* – на ўсе грудзі выдыхнуў ён і яшчэ глыбей зашыўся ў цёплае, пахкае сена. *(М. Стральцоў. Дома);*

– *Ну, што ж,* – сказаў Віктар. – *Будзем шукаць кватэру.*

*Шукаць прыйшлося доўга. У каго ні пытаеш – “Яно то няхай бы і жылі, але ж што дзіця малое...”*

– *Тут у нас адна хата пустуе – гаспадар на цаліну паехаў. Папытайцеся ў сваякоў, можа, пусцяць,* – параілі нам.

*Папыталіся. Пусцілі.* (В. Палтаран. Дзівасіл).

С. А., як відаць з прыкладаў, выконваюць наступаныя функцыі: 1) уводзяць простую (прамую) мову ў кантэкст; 2) паказваюць, да каго яна звернута і каму належыць; 3) паведамляюць пра абставіны, пры якіх вядзецца размова; 4) падагульняюць вынікі гутаркі (дыялогу, палілогу); 5) знаходзяцца ва ўсіх трох пазіцыях адносна самой простай (прамой) мовы.

Пераважна арганізуючым цэнтрам С. А., як у прыведзеных прыкладах, так і ўвогуле, з’яўляюцца:

а) дзеясловы маўлення або мыслення: *казаць, заўважаць, заявіць, думаць, прагаварыць* і г. д.;

б) дзеясловы, што характарызуюць манер маўлення, спосаб выказвання: *шаптаць, выпаліць, выдыхнуць, мармытаць, хрыпець, гудзець* і г. д.;

в) дзеясловы, якія ўказваюць на сувязь простай (прамой) мовы як з кантэкстам, так і з усім тэкстам: *адказаць, дадаць, пачаць,перарваць, працягваць, паўтараць, закончыць, параіць* і г. д.;

г) дзеясловы, што абазначаюць эмоцыі, пачуцці, паказваюць унутраны стан таго, хто гаворыць: *засмяяцца, зарадавацца, здзівіцца, камандаваць, пакрыўдзіцца, спалохацца, устрывожыцца, ажывіцца* і г. д.

д) дзеясловы, якія характарызуюць мэтанакіраванасць дзеяння ці выказвання: *дазволіць, загадаць, згадзіцца, камандаваць, меркаваць, навучаць, падбадзёрваць, параіць, прасіць, растлумачыць* і г. д.;

дж) дзеясловы, што абазначаюць міміку, жэсты, рухі, паказваюць дзеянні таго, хто гаворыць: *усміхнуцца, уздыхнуць, пазяхнуць, смяяцца, плакаць, прыжмурыцца, скрывіцца* і г. д.;

дз) дзеепрыслоўі: *[Садовіч] штурхануў у карак Янку Тукалу, сказаўшы: "А няхай ты згары!"* (Я. Колас. На ростанях);

е) дзеепрыметнікі: *Даўно сказана ў свяшчэнным пісанні: "Калі цябе вытнуць у левую шчаку, падстаў і правую..."* (Р. Мурашка. Сын);

ё) дзеяслоў з назоўнікамі:

– *Кось, кось, кось!.. – ужо з плачам у голасе кліча мама, утаміўшыся бегаючы* (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар);

ж) дзеяслоў з іншымі часцінамі мовы: *І выходзіла што:*

– *Нічога не будзе.*

Альбо:

– *Хто яго ведае* (Л. Калюга. Ні госць ні гаспадар).

Класічнымі трыма спосабамі ўводзяцца разнастайныя цытаты *(гл.)* у навуковым маўленні.

Некаторыя даследчыкі, ідучы за тлумачальнымі слоўнікамі лінгвістычных тэрмінаў, ужываюць паралельна тэрмін "аўтарскія словы" накшталт: *"Аўтарскія словы і простая мова звязаны сэнсава і інтанацыйна, як часткі складанага бяззлучнікавага сказа"* (А. Шубадзёрава. Чужое маўленне: сінтаксічны разбор).

*Параўн.:* авторские слова (СЛТ, 1972, сс. 11-12), словы аўтара (ЭнЛіМБел, V, с. 54), (СЛТ, 1990, с. 134).

**СЛОВЫ-БЛІЗНЯТЫ** – складаныя словы ці таўталагічныя фразеалагізмы, утвораныя шляхам а) паўтарэння састаўных частак або кампанентаў, б) асананса ці в) алітэрацыі. Напрыклад*: раз-пораз, час ад часу, воляй няволяй, вось-вось* і інш.; *І люблю ж я, люблю // Гэту волю сваю! // Зямлёй лягу ў зямлю – Вазьму волю сваю...* (Я. Купала. Воля); – *Дзын-дзын-дзын! Ддзын-дзын-дзын! Земскі прыехаў.* (Я. Колас. Выбар старшыні); *Дзы-ынь-дзы-ынь, дзы-ынь-дзы-ынь-дзы-ынь, – тонbackenька зазваніў аб даёнку тугі, пругкі струменьчык малака* (В. Палтаран. За ракой Гарынню).

*Параўн.:* слова-близнецы (СЛТ, 1969, с. 420).

**СЛОВЫ-ВОКЛІЧЫ** – словы, якія выступаюць у функцыі звароткаў. Напрыклад: *Гэй, варушыцеся, коні панурыя, // Досі ўжо працы, бо сонца зайшло!*

(М. Багдановіч. Досі ўжо працы…); *Вобразы мілыя роднага краю, // Смутак і радасць мая!* (Я. Колас. Родныя вобразы); – *Спі, засні, маленькі, родненькі саколік! // Ну, не плач, мой добры!..* (М. Танк. Песня кулікоў). *Гл.* РЫТАРЫЧНЫЯ ЗВАРОТЫ, ВАКАТЫЎ.

*Параўн.:* слова-вызвания (СЛТ, 1969, с. 420). *Гл.* СЛОВЫ-СКАЗЫ.

**СЛОВЫ-ПАРАЗІТЫ** – лішнія словы або словазлучэнні, якія ў выказванні не нясуць аніякай сэнсавай нагрузкі, а толькі засмечваюць маўленне надзвычай частым паўтарэннем: *значыць, значыцца, скажам, так сказаць, гэтае самае, ну!, ну дык!* і г. д.

Часцей за ўсё С.-п. выкарыстоўваюцца ў п’есах для стварэння камічнай сітуацыі. Напрыклад: Ц і х о н. *Ах ты, чортаў сыну, – хрэн табе ў вочы! Не годзе таго, што бацька да жывога мяне пакрыўдзіў, назваўшы не шляхцiцам, дык яшчэ сынок дачку нам баламуціць.*

Г р ы ш к а. *Дык я ж яе люблю і хачу з ёю жаніцца…*

Ц і х о н. *Ось я цябе так пажаню, як твайго бацьку! Жонка, а жонка! Дай мятлу, – хрэн табе ў вочы!* (В. Дунін-Марцінкевіч. Пінская шляхта);

П р а н ц і с ь. *Глупства, глупства, пане дабрудзею! Пахвалёны Езус. Собственно, адкупім, адкупім, вось-цо-да!*

С ц я п а н і А л ь ж б е т а. *Навекі.*

А л ь ж б е т а. *А мае ж вы, родненькія, ці ж гэта вы ўсё яшчэ з рынку едзеце? Здаецца ж, раней за нас выехалі?*

П р а н ц і с ь. *Собственно, вось-цо-да, кабыла заблудзіла, пане дабрудзею.*

А г а т а. *Тудэма-сюдэма, ці гэта мачыляпа калі прыехаў у сваім часе дамоў! Ён жа, як рызнік, то туды, то сюды блытаецца па дарозе.*

П р а н ц і с ь. *Пане дабрудзею, тваё бабскае дзела – маўчаць! Я, собственно, вось-цо-да, спрытны, – тонка панімаю, як і што раблю.*

А л ь ж б е т а. *Ды садзіцеся, мае міленькія!*

А г а т а. *Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты да дому, а гэты, тудэма-сюдэма, начніца касавокая, не вытрываў, каб людзям не нарабіць уночы неспакойства.* (Садзіцца, а за ёй – іншыя). (Я. Купала. Паўлінка).

*Параўн.:* слова-паразиты (СЛТ, 1969, с. 420), словы-паразіты (СЛТ, 1990, с. 134).

**СЛОВЫ-ПРЫВІДЫ** – ілжэсловы, утвораныя ад няправільнай падачы або няправільнага ўспрыняцця слоў іншага парадку, напр., *Імпанавалі – Ім панавалі, пабуджаныя – пабуджаны я* і г. д.

*Параўн.:* слово-призрак (СЛТ, 1969, с. 425).

**СЛОВЫ-СКАЗЫ** – нечлянімыя сказы, якія часцей за ўсё складаюцца са службовых слоў *(гл.)* і інш., напр., *але ж, дальбог жа ж, ага, так, не, анягож* і г. д.

– *А што ты ніколі не ілжэш?*

– *Ыгы.*

– *Бачыў ты яго – ыгы…* (Я. Брыль. Сірочы хлеб);

– *Ведаеш яго?*

– *Не* (І. Чыгрынаў. Плач перапёлкі);

*Цьфу ты! аж шкода яго стала –*
*Так вочы жаласна глядзяць,*
*Ну, вось, дальбог, шкада страляць!* (Я. Колас. Новая зямля).

Словы-сказы падзяляюцца на сцвярджальныя (*Так, Ага, Канечне*), адмоўныя *(Не, Ані-ні, Не-не),* пытальныя *(Няўжо?, Няўжо ж?),* пабуджальныя *(Ну!, Ну-ну!, Гайда!),* эмацыянальна-ацэначныя *(Ай-ай-ай!, А-я-яй!, Гм!)* і выклічнікавыя *(Авохці мне!, Ну і ну!, Вось (вот) табе і на!, Стоп!, Ура!).*

*Параўн.:* слова-предложения (СЛТ, 1972, сс. 360-361), слова-сказ (СЛТ, 1990, с. 130).

**СЛОЎНІК** – 1) сукупнасць слоў мовы (маўлення); 2) збор слоў або іншых моўных адзінак, размешчаных у алфавітным парадку; 3) кніга слоў (са слоў). *Слоўнік рыфмаў, або сучасны рыфмарый, уключае самыя розныя віды рыфмы, што выкарыстоўвала паэзія амаль за тысячу гадоў свайго рыфменнага развіцця* (В. Рагойша. На шляху да Парнаса). С. АКАДЭМІЧНЫ – 1) слоўнік, падрыхтаваны супрацоўнікамі той або іншай акадэміі; 2) поўны, аб'ёмны, надзвычай кваліфікавана падрыхтаваны слоўнік. С. ЛІНГВІСТЫЧНЫ (ФІЛАЛАГІЧНЫ) – слоўнік, у якім тлумачацца словы, даюцца ім розныя характарыстыкі з выкарыстаннем разнастайных памет, робяцца спасылкі на іншыя слоўнікі. С. ШКОЛЬНЫ – слоўнік, форма і аб'ём якога прыстасаваны для школьнага навучання. С. ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ – універсальны або галіновы даведнік пра ўсе дасягненні навукі, тэхнікі, матэрыяльнай і духоўнай культуры і г. д. Паводле слоў А. Франса, гэта *сусвет, размешчаны ў алфавітным парадку;* ["Лексікон" П. Берынды] *мае рысы тлумачальнага, энцыклапедычнага і этымалагічнага слоўнікаў* (БМЭ, с. 299); СЛОЎНІКАВАЕ ГНЯЗДО – група слоў аднаго кораня, аб'яднаных у адным слоўнікавым артыкуле (СЛТ, 1990, с. 135).

*Параўн.:* слоўнікі, слоўнік рыфмаў (Рагойша, 2001, сс. 306, 308).

**СЛУЖБОВЫЯ СЛОВЫ** – словы, якія не маюць самастойнага лексічнага значэння, а толькі служаць для выражэння розных адносін паміж самастойнымі словамі ў сказе або выказванні. Гэта найперш звязкі, злучнікі, прыназоўнікі і часціцы. *"Асноўныя С. С. паходзяць ад паўназначных, аднак часцей за ўсё гэта доказвае этымалагічны або гістарычны аналіз"* (БМЭ, с. 526).

*Якія знаёмыя назвы і словы,*
*Якая цудоўная родная мова!*
*І ўсё мілагучна для слуху майго:*
*І звонкае "дзе" і густое "чаго".*

(П. Панчанка. Родныя словы).

*Гл.* ШМАТЗЛУЧНІКАВАСЦЬ, ШМАТПРЫНАЗОЎНІКАВАСЦЬ.

*Параўн.:* службовыя словы (ЭнЛіМБел, V, с. 66), (СЛТ, 1990, с. 135).

**СЛЭНГ** – 1) варыянт прафесійнай мовы; 2) словы ці выразы, якія ўжываюць людзі пэўных прафесій ці сацыяльных груп, напр., С. маракоў, С. школьнікаў, С. жабракоў, С. мастакоў і інш. Гл. АРГО, ЖАРГОН.

**СПРАДВЕЧНАБЕЛАРУСКІЯ СЛОВЫ І ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ** – агульнаславянскія, усходнеславянскія і ўласнабеларускія словы і фразеалагізмы *(гл.).*

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц,*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што лягло ў аснову народа,*
*Святыні народа, бяссмерця яго, –*
*Ты выткана, дзіўная родная мова*

(М. Танк. Родная мова);

*Мы ў годы узлётаў і боек суровых*
*З Расіяй, Украінай разам былі.*
*Адзінага дрэва ў нас гучныя словы,*
*Як говар Дзвіны і гамонкі Дняпровы,*
*Яны нас ядналі на нашай зямлі.*

(П. Броўка. Беларусь).

"Спрадвечная лексіка з'яўляецца асновай усіх структурна-функцыянальных стыляў, г. зн. выконвае стылеўтваральную функцыю" (СБМ, 1995, с. 199).

*Параўн.:* лексіка, фразеалогія (СЛТ, 1990, сс. 74, 164)

**СРОДКІ ВОБРАЗНАЙ МОВЫ** – *гл.* ВОБРАЗ, ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ.

*Багата, родная ты мова,*
*Цябе стварыў і ўзнёс народ.*
*А вобразы якія ў словах,*
*А параўнанняў што за ўзлёт!*

(П. Броўка. Багата, родная ты мова…).

*Параўн.*: коммуникация, паралингвистика, синтаксис, члены предложения (ЛЭС, 1990, сс. 233, 367, 448-451, 584-585).

**СРОДКІ МІЖФРАЗАВАЙ СУВЯЗІ (МФС)** – маўленчыя адзінкі, пры дапамозе якіх адбываецца аб'яднанне сумежных фраз. Арозніваюць лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя сродкі МФС.

Да асноўных функцыянальных *лексічных* сродкаў МФС у лінгвістыцы тэксту адносяць лексічны паўтор, сінанімічную замену, выкарыстанне перыфраз. *Лексічны паўтор* – мэтанакіраванае паўтарэнне лексічных адзінак з папярэдняга тэксту ў наступным. Паўтор можа быць *поўны*, які прадугледжвае ўзнаўленне аднаго і таго ж слова або словаформы, і *няпоўны (частковы)*, які забяспечваецца выкарыстаннем аднакаранёвых слоў. Часта ў межах аднаго ССЦ рэалізуецца спалучэнне поўнага і няпоўнага лексічнага паўтору:

*Прачнуўся [Агееў. – В. С.] ад нязвыклай цішы, расплюшчыў вочы і не адразу сцяміў, дзе ён. Было зусім цёмна, за прыштораным акном ляжала летняя ноч, праз шчыліну каля дзвярэй прабівалася тоненькая палоска святла ад лямпачкі*

*з калідора. Аднекуль здалёк, з ускраіны пасёлка, далятаў ледзь чутны сабачы брэх, а наогул было маркотна і ціха. Неўзабаве ў гэтай душнай, гнятлівай цішы ён улавіў знаёмыя рухі рухавіка* (В. Быкаў. Кар'ер).

Павышаную значнасць у літаратурна-мастацкім тэксце набывае *анафарычны* паўтор (*Лес шумеў неяк вельмі нудна, Лес рэдка калі маўчыць.* – Я. Колас. Васіль Чурыла) і асабліва – у спалучэнні з абзацаваннем.

Адметнасць ужывання *перыфразы (гл.)* заключаецца ў яе эмацыянальнай насычанасці; у магчымасці ўключаць у сябе іншыя лексічныя сродкі, заснаваныя на *мнагазначнасці (гл.)*, *сінаніміі (гл.)*, *аманіміі (гл.)*, *антаніміі (гл.);* у здольнасць да яе хуткай “расшыфроўкі”; у насычанасці *імпліцытнасцю (гл.)*, напрыклад:

*А было ў яго [Хведара] тады шэсць душ: ён з жонкай Ганнай, двое старых, сынок Мікалай ды малая дачушка Волечка, якая ў той год нарадзілася. І ён, пагарджаны парабак, патомны беззямелец, стаў уладаром гэткага багацця зямлі з былога панскага прасцягу над лесам. Помніў, душа яго спявала ад шчасця, белы свет здаваўся несканчона з нізіны – цягне прыемнай вільготнасцю. Там, у нізіне, працуе голас кулік. Тысячамі шорахаў напоўнен майскі вечар – можа, прабудзіліся ад зімовай спячкі мышы і шасцяць у леташняй пожні, можа, жыруе на першай кводай траве заяц* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе).

Да *сінтаксічных* сродкаў МФС адносяцца парадак слоў, *парцэляцыя (гл.), сегментацыя (гл.) і няпоўныя сказы (гл.)*.

Парадак слоў прадугледжвае блізкае размяшчэнне слоў, што семантычна звязваюць сумежныя сказы ССЦ:

*Князю не спіцца, і, відаць, сон ягоны заблукаў недзе надоўга* (У. Арлоў. Дзень, калі ўпала страла); *Снег толькі што пайшоў, ціхі і спорны, калі яна пачыналася, белая сцежка. Пачаў яе слядамі сваіх ботаў гаспадар* (Я. Брыль. Сцежка-дарожка).

*Сегментацыя* прадугледжвае адчляненне таго ці іншага члена сказа ад асноўнай часткі выказвання і ў пэўнай ступені акрэслівае, вылучае тэму наступнага паведамлення:

*Клопаты. Клопаты. На другую раніцу. Чарнушка зноў выправіўся ў дарогу – цяпер ужо купляць Ганне на кофту. Дарога была недалёкая, хоць і даводзілася яшчэ ехаць у аб'езд, – напрасткі пакуль толькі хадзілі, – і гадзіны праз паўтары Чарнушкавы калёсы круціліся ўжо ў глінішчанскую вуліцу* (І. Мележ. Людзі на балоце).

*Трыццаць год… Здаецца ў такім вяку ўзышоў на эшафот смаленскі шляхціц Кахоўскі. Той самы, што на Сенацкай плошчы ці не адзіны з паўстанцаў адважыўся націснуць на курок. Столькі ж было Канарскаму і Францішку Савічу. Спадзяюся, ты ведаеш гэтыя імёны* (У. Арлоў. Пакуль не згасла свечка).

Пры *парцэляцыі* далучэнне новай інфармацыі адбываецца нібы спантанна, нібы без папярэдняга абдумвання:

*Чалавек зрабіў крок, і другі, і трэці. У цемру. З голымі рукамі. Задушаны рык нібы адскочыў ад самага агню ў змрок. І яшчэ на крок адскочыў. І яшчэ…* (У. Караткевіч. Чазенія).

Залежнасць *няпоўных* сказаў ад кантэксту відавочная: аказаўшыся па-за кантэкстам, яны страчваюць сувязь з сумежнымі сказамі і перастаюць успрымацца як цэласныя адзінкі звязнага маўлення. З'ява эліптычнасці прадугледжвае нерэалізаванасць абавязковай сувязі адзінкі (лексічнай ці сінтаксічнай) з сітуацыяй (макратэкстам *(гл.)*), магчымасць існавання суадноснага варыянта – больш поўнай і адпаведнай мікратэме адзінкай.

*Марфалагічныя* сродкі МФС не проста арганізоўваюць агульны план паведамлення, але і адначасова валодаюць *праспекцыйна-рэтраспекцыйнай (гл.)* накіраванасцю. Найбольш выразнай кантэкстуальнай залежнасцю валодаюць *займеннікі, займеннікавыя прыслоўі, злучнікі, часціцы, пабочныя словы*:

Быў будзённы дзень, і ў аўтобусе – самы раз, ніхто не стаяў. Большасць ехала ў Жодзіна, некаторыя – у Мінск. Побач са мною села вясковая кабета. Што была яна з вёскі – выдавалі рукі, вялікія, быццам мужчынскія, і мазолістыя, натруджаныя.

*Такія здольны трымаць вілы, што дзяруць пласты гною ў хляве.*

*Яны здольны трымаць сякеру, што можа расколоць якую хочаш плашку.*

*Яны здольны ўсю днёўку нароўні з мужчынамі класці ў пракосы траву.*

*Яны могуць утрымаць і зброю, калі гэта спатрэбіцца.*

*Яны, гэтыя рукі, здольны быць і пяшчотнымі, абдымаць каханага, гушкаць дзіця – будучае зямлі нашай…*

*Так думалася пра рукі мае суседкі.*

*Яшчэ думалася, што некалі складу пра іх лепшы свой гімн* (Я. Пархута. Зямля бацькоў нашых).

Сярод марфалагічных сродкаў МФС істотнае месца займае *трывальна-часавая суадноснассць дзеясловаў-выказнікаў*. Дзеяслоўная часавая суадноснасць стварае адзінства мадальна-часавага плану, а таксама выражае адносіны паслядоўнасці і адначасовасці:

*Павольна* спускаецца *на зямлю майскі вечар. Змрок мяккі, шэравата празрысты, колеры ў ім як бы злёгку проглушаны, змешчаны ў адной непадзельнай гаме. Чарнее голая яшчэ зямля, шарэюць кусты…*

*Параўн.:* средство (СЛТ, 1972, с. 452).

**СТЫЛЁВАЯ ПЛЫНЬ** – пісьменнікі, блізкія сваім стылем *(гл.)* у межах аднаго напрамку або метаду. Напр., у рэалізме акрэсліліся такія С. П., як псіхалагічны рэалізм і неарэалізм. *Гл.* СТЫЛЬ, СТЫЛЬ МАСТАЦКІ.

**СТЫЛІЗАЦЫЯ** – 1) імітацыя, падробка чаго-небудзь пад што-небудзь; 2) мэтанакіраванае ўзнаўленне ў мастацкіх творах моўных асаблівасцяў, стылю пэўнай эпохі, літаратурнага напрамку, сацыяльнага асяроддзя, індывідуальнай манеры пісьменніка, выбраных аўтарам у якасці аб'екта дзеля перайманя.

*Параўн.:* СТЫЛІЗАЦЫЯ, СТЫЛІСТЫКА (Рагойша, 2003, сс. 131-132).

**СТЫЛІСТЫКА** – 1) навука пра стылі *(гл.);* 2) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца спосабы выкарыстання моўных сродкаў і катэгрорый у адпаведнасці з характарам і ўмовамі выказвання, яго мэтай, а таксама сістэма стыляў *(гл.)* той ці іншай літаратурнай мовы; 3) раздзел літаратуразнаўства, у якім вывучаюцца мова літаратурна-мастацкага твора *(гл.)* у яе суадносінах з вобразнай структурай і ідэйна-тэматычным зместам гэтага твора, а таксама індывідуальныя стылі *(гл.)* таго ці іншага пісьменніка або цэлага літаратурнага напрамку. Адрозніваюць С. агульную і прыватную, лінгвістычную і літаратуразнаўчую, функцыянальную (тэарэтычную) і прыкладную (практычную), параўнальную і супастаўляльную, а таксама С. мовы і маўлення (*гл.* ЛІНГВАСТЫЛІСТЫКА). Цэнтральным аб'ектам увагі ў С. з'яўляецца СТЫЛЬ *(гл.)* ва ўсіх яго значэннях.

С. як навука мае цесную сувязь з іншымі навукамі, асабліва з паэтыкай *(гл.)* і рыторыкай *(гл.),* з якіх фарміравалася і развівалася як асобнае іх адгалінаванне; з прагматыкай *(гл.)* і лінгвістыкай тэксту *(гл.),* прадметам вывучэння якіх з'яўляюцца розныя маўленчыя акты *(гл.)* – як вусныя, так і пісьмовыя; з псіхалінгвістыкай *(гл.),* у якіх вывучаюць камунікацыю як сродак моўных зносін з розных бакоў маўленчай дзейнасці *(гл.)* людзей; з філалогіяй і літаратуразнаўствам, якія шырока вывучаюць індывідуальную творчую дзейнасць і г. д. Прадметам С. з'яўляецца найперш вывучэнне разнастайных канатацыйных (экспрэсіўных) сродкаў мовы (маўлення), тропаў *(гл.),* стылістычных і рытарычных фігур (*гл.* ВОБРАЗНАЕ І ФІГУРАЛЬНАЕ МАЎЛЕННЕ).

Паводле ўзаемадзеяння з герменеўтыкай *(гл.)* і тэксталогіяй *(гл.)* выдзяляецца С. ТЭКСТУ як асобная навука, дзе ў першую чаргу разглядаецца С. аўтара, а ў другую – С. жанравая і ў трэцюю – С. рэцыпіента (адрасата, чытача і інш.). Інакш кажучы, зусім нядаўна выдзеліліся ў асобныя адгалінаванні С. КАДЗІРАВАННЯ і С. ДЭКАДЗІРАВАННЯ *(гл.).*

*Параўн.:* стилистика (СЛТ, 1969, с. 454), (ЛЭС, сс. 492-494), (КЛЭ, VII, сс. 182-188), (ЛітЭС, с. 419).

**СТЫЛІСТЫКА АГУЛЬНАЯ І ПРЫВАТНАЯ** – разнавіднасці С. у залежнасці ад аб'ектаў вывучэння. С. А. вывучае агульныя пытанні, якія маюць дачыненне да стылістыкі ўсіх літаратурных моў, а С. П. – толькі да адной з іх.

Такая дыферэнцыяцыя стылістыкі як навукі і навучальнай дысцыпліны вядзецца з часоў французсага вучонага Ш. Балі. Аднак спробы сістэматызацыі шляхоў вывучэння і методыкі С. не прынеслі значных поспехаў, таму што нельга ўкласці ў адну схему розныя і разнастайныя напрамкі вывучэння пытанняў стылістыкі ўсіх літаратурных моў. У гэтым плане найбольш прымальнымі напрамкамі сталі структурная стылістыка, або стылістыка той ці іншай мовы, дакладней, яе рэсурсаў; функцыянальная стылістыка, г. зн. стылістыка маўлення, у тым ліку і стылістыка тэксту; стылістыка мастацкага маўлення, або камунікацыйная стылістыка (мастацкі стыль маўлення). Фактычна гэтым займаецца і С. П.

Стылістыка беларускай мовы як самастойная дысцыпліна развівалася з культуры беларускага маўлення, дакладней, з крытыкі беларускімі пісьменнікамі канца

XIX – пачатку XX стст. іхняга словаўжывання *(гл.)*. А. Абуховіч і Ф. Багушэвіч, К. Каганец і Ядвігін Ш., П. Глебка і А. Куляшоў, Я. Колас і У. Дубоўка, К. Чорны і М. Гарэцкі і шмат іншых беларускіх пісьменнікаў выступілі ў друку з аналізам правільнага і няправільнага тагачаснага мастацкага і штодзённага літаратурнага маўлення. У выніку былі выдадзены нават калектыўныя кнігі "Пра нашы літаратурныя справы" (1928 г.), "Пісьменнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы" (1934 г.), "Пісьменнік і мова" (1934 г.) і інш.

У пасляваенны час М. Я. Цікоцкі, Ф. М. Янкоўскі, А. А. Каўрус і А. К. Юрэвіч на працягу 1958-1992 гг. распрацавалі стылістыку беларускай мовы і як асобную навуку, і як асобную навучальную дысцыпліну. Асабліва прыярытэтнае значэнне набылі працы М. Я. Цікоцкага, які нават у назвах адлюстраваў сказанае: "Практычная стылістыка беларускай мовы: у ІІ ч. – Мінск, 1962-1965; "Стылістыка беларускай мовы". – Мінск, 1976 (2-е выд. ажыццёўлена ў 1995 г.); "Стылістыка публіцыстычных жанраў". – Мінск, 1971; "Сугучнасць слоў жывых… Нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры." – Мінск, 1981; "Стылістыка тэксту". – Мінск, 2002.

Галоўная задача сучаснай беларускай лінгвастылістыкі *(гл.)* – гэта вывучэнне заканамернасцей функцыянавання мовы ў розных сферах зносін, што адпавядаюць пэўнаму віду чалавечай дзейнасці, а таксама моўнай сістэмнасці функцыянальных стыляў *(гл.)*, іх разнавіднасцей, прынцыпаў адбору і спалучэння моўных (маўленчых) сродкаў *(гл.)*.

*Параўн.:* стылістыка (ЭнЛіМБел, V, с. 146), (СЭСРЯ, сс. 223, 408-414).

**СТЫЛІСТЫКА АПІСАЛЬНАЯ**, або **СТЫЛІСТЫКА РЭСУРСАЎ, І СТЫЛІСТЫКА ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ** – вывучаюць па-рознаму моўныя ўзроўні і функцыянальныя стылі. Таму ў першай як самастойныя вылучаюцца лексічная, марфалагічная, славаўтваральная, сінтаксічная, фразеалагічная і фанетычная стылістыкі, а ў апошняй – стылістыка афіцыйных папер, газет, часопісаў, інструкцый, рэкламы і шмат інш., дакладней, гэта стылістыка тэксту *(гл.)*.

А. С., або С. Р., называюць яшчэ сучаснай (сінхроннай) стылістыкай, структурнай С., традыцыйнай С. Сутнасць не мяняецца ў сувязі са зменай назвы, бо прадметам вывучэння тут з'яўляюцца ўсе моўныя ўзроўні (ад гэтага і розныя назвы, нават у поўнай адпаведнасці з узроўнем). Прытым вывучаецца са стылістычнага боку не толькі сам узровень, г. зн. сама лексічная, фразеалагічная ці граматычная адзінка, але і яе афарбоўка, яе сінонімы і антонімы, канатацыйныя значэнні і г. д. Рэкамендацыі А. с. наконт ужывання разнастайных стылістычных сродкаў у вусным і пісьмовым маўленні супадаюць у некаторым плане з рэкамендацыямі арталогіі *(гл.)*, культуры маўлення *(гл.)*. "Культура мовы патрабуе, каб ужыванне моўнай адзінкі грунтавалася на правілах, звыклых і абавязковых для ўдзельнікаў зносін, і адпаведна сітуацыі, сферы бытавання мовы. Матываванае выкрыстанне моўнага матэрыялу разглядаецца як аснова культуры мовы, яе цэнтральным паняццем з'яўляецца літаратурная норма.

Аднак задачу культуры мовы нельга зводзіць да вызначэння нарматыўнасці і мэтазгоднасці асобных ужыванняў, да выбару варыянтных сродкаў у залеж-

насці ад сферы іх выкарыстання. Яна павінна таксама захоўваць моўнае чуццё, густ, уменне як найлепш спраўляцца з патрабаваннямі моўных зносін, падтрымліваць лінгвістычную культуру", – адзначае А. А. Каўрус у сваёй "Стылістыцы беларускай мовы" (1980, 1987, 1992 гг.). Як бачым, задачы практычнай стылістыкі і культуры маўлення ў асноўным супадаюць.

Лексічную стылістыку найперш цікавяць словы з функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай *(гл.)*, мнагазначныя і сінанімічныя словы, іх варыянты і дублеты, словы абмежаванага ўжытку: архаізмы, гістарызмы, неалагізмы, экзатызмы, варварызмы, дыялектызмы, прастамоўная лексіка *(гл.)*. Асаблівасці лексікі кожнага функцыянальнага стылю *(гл.)* таксама ў полі зроку лексічнай стылістыкі.

Фанетычная С. беларускай мовы толькі на самым сучасным этапе яе развіцця выдзяляецца ў асобнае адгалінаванне з-за беднасці самой фанетыкі на стылістычныя (стылёвыя) рэсурсы, куды адносяць найперш разнастайны гукапіс, інтанацыйна-рытмічныя асаблівасці як вуснага, так і пісьмовага маўлення, галоўным чынам мастацкага і публіцыстычнага.

Славаўтваральная С. часцей за ўсё суадносная як з лексічнай, так і марфалагічнай С., асабліва з часцінамі мовы. Напрыклад, прэфіксы *анты-, архі-, дыс-, дэ-, звыш-, супер-, супраць-, неда-* і інш. надаюць назоўнікам і дзеясловам кніжную афарбоўку, а суфіксы *-ан, -ач, -ак (-як), -еч (-эч), -ячк- (-ачк-), -ун, -ух- (-юх-), -оўств-* і інш. – гутарковую. Заўважым, што аналагічную афарбоўку атрымліваюць не толькі асобныя часціцы мовы, але і ўвесь тэкст ці нават нязначны кантэкст *(гл.)*, у якім у наяўнасці адзначаныя або да іх падобныя марфемы.

Марфалагічную С. цікавяць у першую чаргу з'явы марфалагічнайварыянтнасці і сінанімікі (сінаніміі), а таксама шматлікія выпадкі ўзаемаўжывання граматычных форм і граматычных (лексіка-семантычных) катэгорый (напрыклад, узаемадзеянне часоў і ладоў дзеяслова, простыя і складаныя формы ступеняў параўнання прыметнікаў і прыслоўяў і шмат інш.).

Сінтаксічная С. грунтуецца пераважна на сінанімічных, блізказначных і паралельных сінтаксічных канструкцыях, таму што сінтаксіс белар. мовы, як і рускай ці ўкраінскай мовы, мае бязмежныя магчымасці ў стварэнні разнастайных стылістычных эфектаў *(гл.)*. Асабліва гэта мае дачыненне да так званых індывідуальных тэкстаў і кантэкстаў. Увогуле лексіка і сінтаксіс з'яўляюцца асноўнай базай адметных рыс кожнага функцыянальнага стылю сучаснай белар. літаратурнай мовы *(гл.)*.

У задачы фразеалагічнай С. уваходзяць наступныя:

1) вывучэнне стылістычных класаў фразем;
2) эмац.-экспрэсіўна-ацэначныя асаблівасці фразеалагічных адзінак;
3) прыёмы творчага выкарыстання фразем у вусным і пісьмовым маўленні.

Некаторыя лінгвісты (напрыклад, А. К. Юрэвіч) адносяць фразеалагізмы (фраземы, фразеалагічныя адзінкі) да вобразных сродкаў мовы. Вядома, значная частка іх сапраўды з'яўляецца такой, але ж ёсць і так званыя стылістычна нейт-

ральныя фразеалагізмы накшталт *з году ў год, час ад часу, падаць руку, у хуткім часе, бабіна лета* і інш.

Да вобразных сродкаў (рэсурсаў) беларускай мовы адносяцца тропы (эпітэты, метафары, метаніміі, сінекдахі, параўнанні, гіпербала, літота і г. д.), стылістычныя і рытарычныя фігуры (анафара, эпіфара, паўторы, рытарычны вокліч, звароты і звароткі, градацыя, перыяд і г. д.). *Гл.* ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ, ФІГУРЫ МАЎЛЕННЯ, ПЕРЫФРАЗА, ПЕРЫЯД.

Стылістыка тэксту – гэта самастойнае адгалінаванне ЛІНГВАСТЫЛІСТЫКІ *(гл.)* і ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЙ СТЫЛІСТЫКІ *(гл.)*.

*Параўн.:* стилистика ресурсов (СЭСРЯ, сс. 421-426), стилистика (ЛЭС, сс. 492-494), (ЛітЭС, с. 419).

**СТЫЛІСТЫКА ГІСТАРЫЧНАЯ (ДЫЯХРАНІЧНАЯ) І СТЫЛІСТЫКА СУЧАСНАЯ (СІНХРАНІЧНАЯ)** – такі падзел стылістыкі як навукі можна лічыць і асобнымі галінамі агульнай і прыватнай С. *(гл.)*. Што да С. Г. (д.) і С. С. (с.) беларускай мовы, то да гэтай пары грунтоўнага размежавання ў сучасным беларускім мовазнаўстве не зроблена. Прычына пакуль што адна – дысцыпліна *гісторыя беларускай літаратурнай мовы*, у якой на шырокім гістарычным фоне разглядаюцца народна-гутарковыя і кніжна-пісьмовыя стылі як старажытнай, так і сучаснай беларускай літаратурнай мовы. У сучасным рускім (расійскім) мовазнаўстве асноўным прадметам гісторыі літаратурнай мовы лічыцца вызначэнне шляхоў развіцця норм як аднаго з істотных паказчыкаў літаратурнасці мовы, а прадмет Г. С. – гэта станаўленне і развіццё стылістычных сродкаў мовы (традыцыйны аспект) і заканамернасці функцыянавання мовы ў розных сферах зносін – у функцыянальных стылях *(гл.)* і іншых маўленчых разнавіднасцях (у першую чаргу тэкстах розных тыпаў і жанраў). *Гл.* ДЫЯХРАНІЯ і СІНХРАНІЯ, СТЫЛІСТЫКА, СТЫЛЬ.

*Параўн.:* стилистика, стилистика историческая (диахроническая) – СЭСРЯ, сс. 416-419.

**СТЫЛІСТЫКА ЛІНГВІСТЫЧНАЯ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЯ** – адрозніваюцца тым, што першая вывучае літаратурную мову поўнасцю, г. зн. усе яе тыпы, формы і разнавіднасці, а апошняя – толькі мову літаратурна-мастацкіх твораў у яе суадносінах з вобразнай структурай і ідэйна-тэматычным зместам твора.

Паводле "Энцыклапедыі літаратуры і масатцтва Беларусі" (т. 5, сс. 146-147), л і н г в а с т ы л і с т ы к а – вучэнне заканамернасцей функцыянавання мовы ў розных сферах зносін, якія адпавядаюць пэўнаму віду чалавечай дзейнасці, а таксама моўнай сістэмнасці функцыянальных стыляў і іншых функцыянальна-стылёвых разнавіднасцей, прынцыпаў адбору і спалучэння ў іх моўных сродкаў. Л і т а р а т у р а з н а ў ч а я С. вывучае мову літ.-маст. твора ў яе суадносінах з вобразнай структурай і ідэйна-тэматычным зместам твора. Мова выступае як эстэт. катэгорыя, як асноўны матэрыял "слоўнага мастацтва". Слова разглядаецца як галоўны сродак стварэння вобраза, як сродак увасаблення мастацкай задумы аўтара.

Стылістыка мастацкага маўлення (мастацкі стыль, мова мастацкай літаратуры, лінгвістычная паэтыка) – гэта фактычна месца скрыжавання С. Л. і лінгвасты-

лістыкі. На сённяшнім этапе іх развіцця – гэта не толькі самастойная стылістычная навука (стылістыка тэксту), але і камунікацыйная С. мастацкага тэксту, экспрэсіўная С., стылістыка кадзіравання і дэкадзіравання *(гл.)*.

*Параўн.:* направления стилистики, стилистика (СЭСРЯ, сс. 233-234, 408-414).

**СТЫЛІСТЫКА МОВЫ, МАЎЛЕННЯ, МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ** – гэта лінгвастылістыка, прагмастылістыка, лінгвістычная паэтыка і часткова літаратуразнаўчая стылістыка.

У 1976 г. М. Я. Цікоцкі зазначыў: "Сучасная лінгвістычная стылістыка вывучае: 1) стылістычную афарбоўку моўных сродкаў – функцыянальна-моўную і эмацыйна-экспрэсіўную; 2) формы і тыпы (стылі) маўлення; 3) выяўленчыя сродкі мовы (тропы, фігуры); 4) суадноснасць сродкаў выражэння са зместам выказвання; 5) сінаніміку ў самым шырокім аб'ёме і значэнні" (Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы / М. Я. Цікоцкі. – Мінск: Выш. шк., 1976. – С. 26).

Як відаць з прыведзенага (працытаванага), прадмет сённяшняй лінгвастылістыкі, прагмастылістыкі і літаратуразнаўчай стылістыкі вызначаны як прадмет "лінгвістычнай стылістыкі" (г. зн. стылістыкі мовы і стылістыкі маўлення). У другім выданні названай працы М. Я. Цікоцкі дыферэнцыраваў сваё выказванне наступным чынам: "На сучасным этапе стылістыка разглядаецца як лінгвістычная навука, што вывучае сродкі моўнай выразнасці і заканамернасці іх функцыяніравання, абумоўленыя найбольш мэтазгодным і мэтанакіраваным выкарыстаннем у залежнасці ад зместу выказвання, мэтаў, сітуацыі і сацыяльнай сферы зносін". І далей ідзе больш дэталёвая дыферэнцыяцыя: "у межах стылістыкі гістарычна склаліся і развіваюцца тры асноўныя напрамкі: 1) стылістыка мовы, або "стылістыка рэсурсаў"; 2) стылістыка маўлення, або функцыянальная стылістыка. У яе задачы ўваходзіць вывучэнне рэалізацыі патэнцыяльных стылістычных магчымасцей мовы ў залежнасці ад мэтаў і задач зносін, ад характару, зместу жанравых форм выказвання; 3) стылістыкі мастацкай літаратуры, якая вывучае асаблівасці функцыяніравання мовы ў творах слоўнага мастацтва і пытанні індывідуальнага стылю мастакоў слова.

Першыя два накірункі аб'ядноўваюцца тэрмінам "лінгвастылістыка", трэці лічыцца аб'ектам "літартуразнаўчай стылістыкі" (Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы. – Выд. 2-е, перапрац. і дап. – Мінск: "Універсітэцкае", 1995. – С. 16).

Нягледзячы на значныя ўдакладненні, прагмастылістыцы і яе задачам месца не адведзена аўтарам прыведзеных прац і цытат з іх.

Між тым, у "Лінгвістычным энцыклапедычным слоўніку" (М., 1990; 2-е (рэпрынтнае) выд. ажыццёўлена ў 1998 г.) падкрэслена асобна: "Аднак задачы С. шырэйшыя за вывучэнне стылю; яна даследуе эвалюцыю стыляў у сувязі з гісторыяй *літаратурнай мовы, мову мастацкай літаратуры* ў яе эвалюцыі, універсальныя прыёмы моўнай пабудовы твораў л-ры (судакранаючыся з *паэтыкай*), а таксама жанры зносін (судакранаючыся з *прагматыкай*). Прадметам С. з'яўляецца таксама вывучэнне экспрэсіўнасці сродкаў мовы, *фігур маўлення і тропаў*, што не звязаныя з якім-н. адным пэўным стылем" (ЛЭС, 1990, с. 492). І ў "Беларускай мове: Энцыклапедыі" (Мінск, 1994) чытаем: "Стылістыка м а с т а ц к а й  л і т а р а т у р ы даследуе

ўзаемадзеянне літаратурнай мовы і мовы мастацкай літаратуры ў іх гістарычным развіцці, вызначае заканамернасці арганізацыі моўных адзінак, якія павінны забяспечваць пэўны (рэалістычны, рамантычны і інш.) стылістычны кірунак твора. Стылістыка мастацкай літаратуры асэнсоўвае эстэтычную значнасць моўных адзінак у кантэксце мастацкага твора, ацэньвае ролю вобразных сродкаў і сродкаў вобразнасці. Гэта збліжае стылістыку мастацкай літаратуры са стылістыкай літаратуразнаўчай, якая разглядае мову мастацкага твора як сродак стварэння вобразаў, сродак увасаблення аўтарскай задумы, што непасрэдна звязана са зместам і структурай твора". (С. 539).

З усяго вынікае, што С. (і лінгвістычная, і літаратуразнаўчая) – шматгранная навука і навучальная дысцыпліна.

*Параўн.:* стилистика (СЛТ, 1969, с. 454), (СЛТ, 1972, с. 426).

**СТЫЛІСТЫКА ПАРАЎНАЛЬНАЯ І СУПАСТАЎЛЯЛЬНАЯ** – асобныя лінгвастылістыкі. Адрозненні названых стылістык грунтуюцца на адрозненнях параўнальна-гістарычнага і супастаўляльнага метадаў вывучэння, выкарыстаных у стылістычным плане дзвюма або большай колькасцю як роднасных, так і няроднасных моў.

Традыцыйна С. П. і С. С. вывучаюць найперш стылістычныя рэсурсы дзвюх ці болей моў паводле ўзроўняў моўнай сістэмы, г. зн. лексіка і фразеалогія, фанетыка і словаўтварэнне, марфалогія і сінтаксіс тых ці іншых моў рэалізуецца ў лінгвасупастаўляльным плане праз лінгвастылістычную прызму. На сучасным этапе яшчэ значная ўвага ўдзяляецца функцыянальна-стылістычным праблемам супастаўляльных моў, так званай палявой структуры стыляў гэтых моў, а таксама апісваюцца стылістыка-тэкставыя своеасаблівасці супастаўляльных моў, аднолькавае і спецыфічнае не толькі ў сістэме іх стыляў, але і жанравай стратыфікацыі.

*Параўн.:* стилистика сравнительная (СЭСРЯ, сс. 426-428).

**СТЫЛІСТЫКА ТЭКСТУ І СТЫЛІСТЫКА ЎСПРЫМАННЯ** (інакш – СТЫЛІСТЫКА КАДЗІРАВАННЯ І ДЭКАДЗІРАВАННЯ) – гэта фактычна стылістыка ад аўтара тэксту да ўспрымальніка (рэцыпіента) яго.

С. тэксту – састаўная частка С. маўлення, функцыянальнай і экспрэсіўнай С. Сам тэкст спакон вякоў з'яўляецца аб'ектам тэорыі і практыкі Стылю *(гл.)*, таму што ён як непасрэдная, так і апасродкаваная ўласцівасць тэксту. Варта адрозніваць С. т. ад лінгвістыкі (граматыкі) тэксту і семіётыкі тэксту. Калі лінгвістыка тэксту вывучае найперш яго структуру, тэкставыя адзінкі, іх ролю ў стварэнні звязнасці і суцэльнасці тэксту, яго разгортванні, а семіётыка разглядае вербальныя і невербальныя знакі, іх ролю ў функцыянаванні і развіцці не толькі пэўнага тэксту, але і пра знакавыя ўласцівасці мовы, літаратуры, мастацтва і інш., то С. Т. вывучае структурна-стылістычныя магчымасці тэкстаў як маўленчай дзейнасці, як маўленчыя творы, камунікацыйна-стылістычныя тыпы і формы, разнастайныя прыёмы выкарыстання (ужывання) і функцыянавання ў маўленні моўных сродкаў. Адсюль вынікае, што асновапаложным у С. Т. з'яўляецца функцыянальны аспект (*гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ І ЭКСПРЭСІЎНАЯ СТЫЛІСТЫКА).

З развіццём тэорыі інфармацыі *(гл.)* у С. Т. пачалі разглядаць не так структурныя праблемы тэксту, як прыёмы і праблемы яго арганізацыі. Узніклі асобныя адгалінаванні, якія былі названыя як “стылістыка ад аўтара (адрасанта)” і “стылістыка ад чытача (адрасата)”. Пазней яны атрымалі такія назвы, як “стылістыка генетычная” і “стылістыка кадзіравання”, а таксама “стылістыка ўспрымання” і “стылістыка дэкадзіравання”. На аснове аналізу мастацкіх тэкстаў было паказана і даказана, што пісьменнік “атрымлівае разнастайную інфармацыю з навакольнай рэчаіснасці (крыніца інфармацыі), перапрацоўвае гэту інфармацыю і ўзнаўляе рэчаіснасць у мастацкіх творах (каналах перадачы інфармацыі), так арганізуючы іх структкру, што яны атрымліваюць здольнасць уздзейнічаць на свядомасць, пачуцці, волю чытача (прыёмніка інфармацыі). Інфармацыя ператвараецца ў кампазіцыі твора, сістэме вобразаў, характарах, абставінах, фабуле і кадзіруецца моўнымі сродкамі так, што паведамленне атрымлівае сваё лексічнае і граматычнае выражэнне. Кодам называецца набор значымых адзінак і правіл іх спалучэння, які дазваляе перадаваць паведамленні” (СЭСРЯ, с. 420).

Галоўнай задачай у С. Д. з’яўляецца вывучэнне кодаў і алгарытмаў дэкадзіравання твора для ўзроўняў мовы і культуры, а таксама і іх успрымальніка. Таму ў С. Д. падкрэсліваецца актыўнасць асобы, якая дэкадзіруе заключанае ў тэксце паведамленне. С. Д. з’яўляецца тэарэтычнай базай для разнастайнай інтэрпрэтацыі тэксту.

*Параўн.:* стилистика кодирования и декодирования (СЭСРЯ, сс. 414-416, 420).

**СТЫЛІСТЫКА ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ І ЭКСПРЭСІЎНАЯ** – адзін з цэнтральных напрамкаў як агульнай, так і прыватнай стылістыкі. Першая вывучае заканамернасці функцыянавання мовы ў розных сферах яе выкарыстання ў адпаведнасці з разнастайнымі разнавіднасцямі маўленчай дзейнасці людзей, разнавіднасцямі самой літаратурнай мовы, або яе функцыянальнымі стылямі і спецыфікай (у першую чаргу з так званымі экстралінгвістычнымі і інтралінгвістычнымі фактарамі). Другая – гэта вучэнне пра экспрэсіўныя сродкі моўнай сістэмы, іх выкарыстанне ў адпаведнасці з тэмай, зместам, жанрам і ўмовамі камунікацыі. І Ф. С., і Э. С. усё больш і больш зближаюцца з такімі сучаснымі мовазнаўчымі навукамі, як прагмалінгвістыка, псіхалінгвістыка, лінгвасацыяпсіхалогія, тэорыя маўленчых актаў, тэорыя тэксту і інтэртэкстуальнасці, тэорыя маўленчых зносін і інш. Некаторыя даследчыкі разглядаюць названыя стылістыкі і стылістыку мастацкага маўлення, якія на сучасным этапе вывучаюцца з трох бакоў: а) як мастацкі стыль (стыль мастацкай літаратуры, мастацка-белетрыстычны стыль, літаратурна-мастацкі стыль); б) як навука пра стыль мастацкай літаратуры, дакладней, як узаемадзеянне літаратурнай мовы ў сінхранічных і дыяхранічных аспектах; в) як мастацтва слова і як значная роля эстэтычнай функцыі мовы (маўлення). І Ф. С., і Э. С. вялікую ролю адыгралі пры станаўленні і развіцці такіх навучальных дысцыплін: “Лінгвістычны (філалагічны) аналіз мастацкага тэксту”, “Лінгвастылістычны аналіз м. т.”, ”Інтэрпрэтацыя мастацкага тэксту” і інш. Сёння лінгвістычныя веды пра маўленне і маўленчую дзейнасць уключаюць і фармі-

руюць устойлівыя паняцці пра разнавіднасці маўлення, пра невербальныя сродкі маўленчых зносін, пра асаблівасці педагагічнага голасу і педагагічнага дыялогу, пра ўменні пабудаваць гутарку з бацькамі і інш. Таму ў школьнай практыцы сталі хадавымі такія тэрміны, як *развіццё маўлення, вучэбна-маўленчая сітуацыя, віды камунікацыйнай дзейнасці, аўдзіраванне, выразнасць маўлення, дакладнасць і правільнасць маўлення, газетна-публіцыстычныя жанры, зачын і канцоўка тэксту, тэорыя маўленчых актаў, тропы, фігуры маўлення* і інш.

*Параўн.:* стилистика, функциональная стилистика, экспрессивная стилистика (СЭСРЯ, сс. 408-414, 576-577, 622-623).

**СТЫЛІСТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ** – асобная афарбоўка *(гл.)* моўнай адзінкі або выказвання (кантэксту, тэксту), што вызначае яе як яркую, выразную, незвычайную ці нетыповую для пэўнай маўленчай сферы. Гэта пераважна той кампанент сэнсавай структуры, выказвання або тэксту як звязнага маўлення, які здольны рэалізаваць свае функцыянальна-стылістычныя і эмацыянальна-экспрэсіўна-мастацкія патэнцыі, робячы моўную адзінку ў тым або іншым функцыянальным стылі ў якасці стылеўтваральнага фактара *(гл.)*.

Функцыянальна-стылістычнае значэнне моўных сродкаў указвае на тую ці іншую функцыю, якую выконваюць гэтыя сродкі ў пэўным стылі (камунікацыйную, інфармацыйную, эстэтычную і інш.). Гэта значэнне (афарбоўка) прымушае адрозніваць функцыянальныя стылі не адзін ад аднаго (прыярытэт тут надаецца так званай тэрміналогіі – навуковай, грамадска-палітычнай, канцылярскай і г. д.).

Эмацыянальна-экспрэсіўныя значэнні моўных сродкаў у асноўным паказваюць на ацэнку зместу выказвання (тэксту, кантэксту) або служаць для прыцягвання ўвагі да пэўнага суб'екта ці аб'екта: *пальчык, сябрук, верабейчык, аболтус, дармаед, лайдак* і г. д.; *ліса, варона, мядзведзь* – у адносінах да чалавека.

Асобныя моўныя адзінкі са стылістычным значэннем утвараюць цэлую групу – так званыя стылістычныя сінонімы, якія шырока вылучаюцца ў лексікалогіі, марфалогіі і сінтаксісе. Для стылістыкі яны таксама характэрныя, але найбольш важныя так званыя *кантэкстуальна абумоўленыя стылістычныя значэнні іх.*

Нейтральны тэкст атрымлівае функцыянальна-стылістычную і эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку ад слоў і выразаў з такім значэннем.

Сучасныя мовазнаўцы, у тым ліку і беларускія, усё часцей і часцей вядуць гаворку пра стылістычныя функцыі моўных адзінак як спецыфічна арганізаваныя ў пэўных кантэкстах, асабліва мастацкіх і публіцыстычных. Напрыклад, запазычаныя словы і выразы як навуковая тэрміналогія ў навуковых тэкстах выконваюць інфармацыйную функцыю, прыдаючы ім неабходную танальнасць. Аднак пры ўжыванні такіх слоў у пераносным значэнні (у камедыях К. Крапівы і А. Макаёнка) ствараецца зусім іншая танальнасць (камічная, гумарыстычная), і самі гэтыя сродкі выступаюць ужо як моўна-выяўленчыя сродкі, або сродкі сатыры і гумару. Але ж не варта забываць, што стылёвая функцыя моўных сродкаў (моўнага сродку) магчымая толькі на аснове стылістычнай, пастаяннай функцыі тых жа сродкаў і ў стылістычную структуру іх не ўваходзіць, бо залежыць ад пэўнага кантэксту *(гл.)*.

У самым агульным плане стылістычна значымымі (значнымі) у мове і маўленні лічацца ўсе тыя моўныя сродкі і прыёмы іх ужывання (выкарыстання), якія спрыяюць дасягненню эфектыўнай рэалізацыі камунікацыйных задач, выразнасці і дарэчнасці маўлення ў той ці іншай сферы чалавечай дзейнасці. Адзначанае займаецца як стылістычна маркіраванымі *(гл.)* у сістэме мовы, так і іншымі сродкамі, што набываюць С. З., становячыся стылістычна значымымі (значнымі) на фоне стылістычна нейтральных (міжстылёвых) адзінак. Гэта і ёсць прыкмета стылю *(гл.)*, у сувязі з чым стылістычнай можа быць не толькі аднесенасць сродкаў да пэўнай сферы, але і эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, ацэначнасць дадзеных і такіх сродкаў, што дазваляе гаварыць у больш шырокім сэнсе пра суб'ектыўную афарбоўку іх.

*Параўн.:* стилистическое значение (СЭСРЯ, сс. 493-495).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ СРОДКАЎ** – падзел усіх моўных сродкаў на стылістычна нейтральныя, або міжстылёвыя, і стылістычна афарбаваныя, або гутарковыя і кніжныя. Гэта нішто іншае, як прытрымліванне стылістычнай нормы, якая рэгулюе выкарыстанне моўных сродкаў з так званай функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай (канатацыяй).

З глыбокай старажытнасці ўсе моўныя сродкі падзяляюцца паводле ўжывання на "высокія", "сярэднія" і "нізкія". У сучасным мовазнаўстве гэта трыяда выглядае як "кніжныя", "нейтральныя" і "гутарковыя" моўныя адзінкі. Некаторыя мовазнаўцы ўвогуле падзяляюць усе моўныя сродкі на стылістычна нейтральныя і стылістычна афарбаваныя. Апошнія нібы супроцьпастаўляюцца як "гутарковыя" і "кніжныя" (паводле аналогіі з вусным і пісьмовым маўленнем). Шырока даследуюцца ў сучасным беларускім мовазнаўстве агульнаўжывальныя, вусна-гутарковыя і кніжна-пісьмовыя сродкі (і як сродкі камунікацыі моўна-выяўленчыя, і як стылістычныя сродкі).

Прынята называць сукупнасць аднародных моўных сродкаў (найперш сінанімічных) той ці іншай нацыянальнай мовы асновай стылістычнай сістэмы гэтай мовы, г. зн. стылістычнай дыферэнцыяцыі яе моўных сродкаў і вылучэння функцыянальных стыляў у залежнасці ад абставін, мэт і зместу выказвання (камунікацыі).

Стылістычная дыферэнцыяцыя беларускамоўных маўленчых сродкаў распачалася з выхадам у свет "Руска-беларускага слоўніка" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі (1953), дзе была выпрацавана сістэма стылістычных памет для сучаснай беларускай лексікі і фразеалогіі. Далей "Граматыка беларускай мовы" (Мінск, 1962-1966) і "Беларуская граматыка" (Мінск, 1985-1986) пашырылі "зону дзеяння" такіх памет на словаўтварэнне, марфалогію і сінтаксіс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Складальнікі "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мінск, 1977-1984) і "Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы" (Мінск, 1993) удасканалілі сістэму стылістычных памет і па-новаму перагледзелі сучасныя беларускія лексемы і фраземы з боку іх ужывання і выкарыстання ў розных стылях.

Стылістычная дыферэнцыяцыя моўных сродкаў грунтуецца на так званым стылістычным значэнні слова (словазлучэння, сказа), якое ўяўляецца як дадатковае да асноўнага намінатыўнага, прадметна-лагічнага і граматычнага значэнняў.

Інакш гэта называецца або *стылістычная афарбоўка,* або *стылістычная канатацыя.* Стылістычныя афарбоўкі, або стылістычныя канатацыі, абмяжоўваюць магчымасці ўжывання моўнага сродку пэўнымі сферамі і ўмовамі зносін і тым самым нясуць стылістычную інфармацыю. Звычайна падзяляюць стылістычныя значэнні (афарбрўкі, канатацыі) на разнавіднасці: 1) функцыянальна-стылістычныя і 2) эмацыянальна-экспрэсіўныя. *Гл.* АФАРБОЎКА (СТЫЛІСТЫЧНАЯ, СТЫЛЁВАЯ), КАНАТАЦЫЯ, СТЫЛІСТЫЧНАЯ (СТЫЛЁВАЯ) НОРМА, СТЫЛІСТЫЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ.

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ (СТЫЛЁВАЯ) З'ЯВА** – выкарыстанне стылістычна афарбаваных (канатацыйных) сродкаў для рэалізацыі пэўных функцыянальна-стылістычных і эмацыянальна-экспэсіўна-ацэначных задач у тым ці іншым выказванні (звязным маўленні). Словы і выразы з так званай нулявой стылістычнай афарбоўкай (міжстылёвыя, агульнаўжывальныя, стылістычна нейтральныя моўныя сродкі) у залежнасці ад кантэксту (тэксту, стылю) могуць набываць неабходную стылістычную (стылёвую) афарбоўку *(гл.)*. Напрыклад: *галава, рука, нага, зуб; галоўка, ручка, ножка, зубок* (часткі цела чалавека – дзіцяці) і *галава калгаса, калоны, цягніка; галоўка капусты, маку, цыліндра; рука руку мые, рука механічная; ручка ў дзвярах, ручка рэгулятара; ножка стала, хата на курыных ножках, рожкі ды ножкі; зуб на зуб не пападае, зубок часнаку, зуб (зубок, зубік) у піле, вастрыць зубы* (у піле і на кагосьці) і г. д. Або: *Цёплы вечар… Ціхі вечар… Свежы стог… і Цёплы вечар, ціхі вечар, свежы стог, // Улажылі спаць мяне вы на зямлі…* (М. Багдановіч. Цёплы вечар…).

Як відаць з прыведзенага фактычнага матэрыялу, стылістычныя кантэксты і тэксты ўтвараюцца як з аднатыпных, так і з разнатыпных стылістычных сродкаў. Апошнія могуць быць і стылістычна кантраснымі, г. зн. належаць да розных стыляў, што ў некаторым плане супроцьпастаўленыя, як супроцьпастаўлены вуснагутарковае і кніжна-пісьмовае маўленне *(гл.)*. Напрыклад: *Я добрасумленна выканаю ўсё запланаванае – Я выканаю запланаванае па поўнай праграме – Я зраблю ўсё ў строгай адпаведнасці з запланаваным – Я зраблю ўсё ад А да Я* і інш.

С. З. – гэта стылістычна ўсвядомленая мэта выказвання або тэксту (звязнага маўлення), установка аўтара (адрасанта, рэферэнта) маўлення на стварэнне стылістычна-афарбаванага (с. значымага) паведамлення, волевыяўлення, абмену думкамі і інш. Гэтым фактычна ствараецца побач са стылістычным заданнем і значэннем трэці сэнсавы кампанент – стылістычны эфект *(гл.)*.

С. З. адносіцца да так званай стылістычнай нормы *(гл.)*, якая патрабуе ад усіх, хто гаворыць, піша, матываванага ўжывання (выкарыстання) моўных адзінак у рамках камунікацыйнага кантэксту (тэксту), г. зн. узаемасувязі паміж зместам маўлення і сітуацыяй зносін.

*Параўн.:* стилистическая норма и с. значение, стилистическое задание и с. согласование, стилистический контраст и с. эффект (СЭСРЯ, сс. 433-499).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ КАНАТАЦЫЯ** – любая суб'ектыўная ці суб'ектывізаваная афарбоўка моўнай адзінкі (моўных адзінак), якая ў адносінах да прадметна-

лагічнага і граматычнага значэнняў вызначаецца як дадатковае (функцыянальна-стылістычнае або эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнае) значэнне. З аднаго боку, С. К. можа быць сацыяльна-палітычная, маральна-этычная, этнаграфічная і г. д., а з другога – экспрэсіўная (выразнасць, выяўленчасць), эмацыянальная (выражэнне эмоцый, пачуццяў), ацэначная ("добры" ці "дрэнны", паводле сацыяльнай нормы), вобразная (напр., так званая "ўнутраная форма") і інш. У кожнай маўленчай разнавіднасці актывізуюцца і ствараюцца разнастайныя, спецыфічныя С. К. згодна са сферамі і ўмовамі зносін, мэтанакіраванасцю маўленчага акта. Такімі, напрыклад, з'яўляюцца значэнні форм цяперашняга часу дзеяслова ў розных стылях: цяперашні пазачасовы – у навуковым; неабходнасці, павіннасці – у афіцыйна-справавым; жывога ўяўлення – у мастацкім; моманту гутаркі (маўлення) – у гутарковым, штодзённа-бытавым. Актывізацыя С. К. адбываецца практычна ва ўсіх моўных (маўленчых) адзінках.

*Параўн.:* стилистическая коннотация (СЭСРЯ, сс. 432-433), коннотация (СЛТ, 1969, сс. 203-204), (СЛТ, 1972, с. 139), (ЛЭС, с. 236).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ НОРМА** – сукупнасць гістарычна складзеных і разам з тым заканамерна развітых агульнапрынятых рэалізацый закладзеных у мове стылістычных магчымасцей. "Стылістычныя нормы – правілы ўжывання стылістычна афарбаваных лексічных адзінак, граматычных форм і сінтаксічных канструкцый у адпаведнасці са зместам і мэтай выказвання, умовамі кантактавання" (БМЭ, с. 541).

Паняцце стылістычнай нормы зручней раскрываць у супастаўленні з нормай літаратурна-моўнай, бо ў кожнай маўленчай сферы (дакладней, у кожным стылі) побач з агульнымі нормамі функцыянуюць прыватныя нормы, паколькі ў кожным функцыянальным стылі агульнаўжывальныя сродкі пераважаюць над уласнымі, г. зн. прыватнымі нормамі, то ў любым стылі рэалізуюцца найперш агульнамоўныя, або міжстылёвыя нормы: арфаэпічныя (аканне, яканне, дзеканне, цеканне, розныя асіміляцыі і інш.), арфаграфічныя (напісанні ва ўсіх стылях павінны быць адзіныя, паводле агульнапрынятых правілаў), лексічныя і фразеалагічныя (агульнаўжывальная лексіка і фразеалогія звязвае ў адно цэлае кожны стыль), граматычныя (марфалогія і сінтаксіс у большасці стыляў аднолькавыя). Таму стылістычная норма звязана з усімі стылямі; яна заснаваная на заканамернасцях адбору і арганізацыі сродкаў выражэння, што склаліся моўнай практыкай ва ўсіх стылях.

Аднак кожны функцыянальны стыль своеасаблівы і непаўторны, бо яму ўласцівы свае, толькі яго, функцыянальна-стылёвыя нормы. Функцыянальна-стылёвыя нормы – гэта нормы рэальнага выкарыстання мовы ў данай сферы грамадскага жыцця і адначасова правілы, а таксама прыёмы маўленчай дзейнасці ў адпаведнасці з канкрэтнымі задачамі камунікацыі. Стылёвыя нормы грунтуюцца на 3 асноўных параметрах таго ці іншага стылю: 1) адборы моўных сродкаў (якія словы, выразы, канструкцыі і г. д. падыходзяць для данага стылю, а якія – не); 2) правілаў спалучальнасці моўных сродкаў (часцей за ўсё злучэнне сродкаў

адной стылёвай танальнасці, вельмі рэдка – рознастылёвых, ды і то матываваных); 3) суадносіны або прапорцыі, міжстылёвых і ўласна стылёвых моўных з’яў. Стылёвыя нормы маюць канкрэтна-гістарычны характар. Іх змены адбываюцца пад уплывам як экстралінгвістычных (пазамоўных), так і інтралінгвістычных (унутрымоўных) фактараў *(гл.)*.

У межах кожнага функцыянальнага стылю дзейнічае свая сістэма нормаў, свая ступень іх строгасці і свабоды, а таксама ўстаноўлены свае крытэрыі правільнасці, дакладнасці і прыгажосці. Гэтыя крытэрыі адлюстроўваюць функцыянальную спецыфіку стылю, яго традыцыі, а таксама тыповыя формы яго маўленчай рэалізацыі. Так, правільнасць *афіцыйна-справавога стылю* – гэта захаванне стандарта і дакладнасць яго – прамое, уласна намінацыйнае значэнне лексікі і фразеалогіі; прыгажосць гэтага стылю – у яго строгасці, безэмацыянальнасці. У *гутарковым* жа *стылі* правільнасць – гэта адпаведнасць нормам не пісьмовага, а вуснага маўлення (*калісь,* а не *калісьці; выбер,* а не *выберы* і г. д.); дакладнасць у ім можа быць, як і ў навуковым маўленні, лагічная і зразумелая, а можа быць і расплывістая ці малазразумелая (гледзячы *хто*, пра *што* і *як* вядзе дыялог, гутарку); прыгажосць гутарковага стылю – яго эмацыянальнасць, яго багацце інтанацый, арыгінальныя адступленні ад стандарту і інш. У беларускім мовазнаўстве не заўсёды размяжоўваюцца стылістычныя і стылёвыя нормы. Такое ж шырокае разуменне і стылістычнай памылкі – незахавання ці парушэння стылітсычнай (стылёвай) нормы.

Традыцыйная стылістыка патрабуе трымацца адзінства стылю, таму зусім недапушчальныя тэксты з кантраснымі стылістычнымі маркіроўкамі. Аднак на сучасным этапе развіцця стылістыкі беларускай мовы дапускаюцца выказванні, што не адпавядаюць агульнапрынятым С. Н., – улічваючы фактар камунікацыйнай мэтазгоднасці. Таксама дапускаецца і значная варыянтнасць выказванняў (тэкстаў), асабліва пры перакладах з абедзвюх дзяржаўных моў.

*Параўн.:* стылістычныя нормы (БМЭ, сс. 541-543), стилистическая норма (СЭСРЯ, сс. 433-437).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ПАМЕТА** – лексікаграфічная памета, якая паказвае сферу стылістычнага выкарыстання моўнай адзінкі: гутарковае або кніжнае слова, прастамоўнае, устарэлае, спецыяльнае (лінгвістычны, матэматычны або іншы тэрмін) і г. д. *“Стылістычныя паметы, якія падаюцца ў сучасных лексікаграфічных даведніках, падкрэсліваюць тонкія адценні слоў паводле іх стылістычнай і эмацыянальнай афарбоўкі і памагаюць правільна выбіраць і выкарыстоўваць слова ў пэўнай моўнай сітуацыі”* (БМЭ, с. 542). Напрыклад, у “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” ў 5 тамах (6 кнігах) выкарыстаны наступныя С. П.: “*асудж.* – асуджальнае слова”, “*высок.* – высокі стыль”, “*гіст.* – гістарычны тэрмін”, “*груб.* – грубае слова, грубы выраз”, “*жарт.* – жартаўлівае слова, жартаўлівы выраз”, “*зневаж., зніж.”* – зневажальнае, зніжанае слова”, “*іран.* – у іранічным сэнсе”, “*кніжн.* – кніжны стыль”, “*ласк.* – ласкальная форма”, “*лаянк.* – лаянкавае слова”, “*нар.-паэт.* – народна-паэтычнае слова”, “*неадабр.* – неадаб-

ральнае”, “*пагард.* – пагардлівае”, “*памянш.-зніж.* – памяншальна-зніжаная форма”, “*памянш.-ласк.* – памяншальна-ласкальная форма”, “*паэт.* – паэтычнае слова”, “*пераносн.* – пераноснае значэнне”, “*проціл.* – процілеглае”, “*разм.* – размоўнае слова”, “спец. – спецыяльны тэрмін”, “ужыв. – ужываецца, ужыванне”, “*уст.* – устарэле слова, устарэлы выраз”, “*фам.* – фамільярнае слова”, “*царк.-слав.* – царкоўна-славянскае слова”. (*Гл.:* Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1 / пад агульнай рэдакцыяй К. К. Атраховіча (К. Крапівы). – Мінск: Галоўная рэд. БелСЭ, 1977. – Сс. 25-26). С. П. звычайна ставяцца пасля іншых памет – граматычных, структурных і перад тлумачэннем значэння слова ці яго адцення: АБАЛВАНЕЛЫ, -ая, -ае. *Разм.* Адурэлы, падобны на балвана, з рысамі балвана (с. 33); АБЗВАНІЦЬ, -званю, -звоніш, -звоніць; *зак.*, *каго-што*.

*Разм.* 1. Пазваніць да ўсіх ці да многіх па тэлефоне. *Абзваніць усіх знаёмых*. 2. *перан.* Апавясціць, расказаць аб чым-н. усюды; разнесці якую-н. вестку. *Абзваніць увесь свет* (с. 49).

У “Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы” пад рэд. М. Н. Крыўко і М. Р. Судніка (некалькі выданняў) павялічааная колькасць такога роду памет: “*адабр.* – адабральнае”, “*афіц.* – афіцыйнае”, “*кар. ф.* – кароткая форма прыметніка”, “*незадав.* – незадавальнгяльнае”, “*пыт.* – пытальнае”, “*узмацн.* – узмацняльнае” (ТБСЛМ, 2002, с. 9). Даныя дапаўненні гавораць пра тое, што ўзровень беларускай лексікаграфіі павышаецца ўпоравень з развіццём стылістыкі беларускай мовы. Але побач з гэтым заўважаецца, асабліва ў так званых школьных тлумачальных слоўніках, несупадзенне як з колькаснага, так і з якаснага боку тых ці іншых С. П. Гэта абумоўлена перш за ўсё хуткай зменай стылістычных норм *(гл.)* у параўнанні з агульнамоўнымі, літаратурнымі нормамі *(гл.)*, адсутнасцю спецыяльнай, лексікаграфічнай тэорыі слова, суб’ектыўным падыходам укладальнікаў тлумачальных слоўнікаў, адсутнасцю і ў лінгвістычнай, і ў стылістычнай навуцы адзінага пункту погляду (падыходу) да катэгорый эмацыйнасці, экспрэсіўнасці і інш.

*Параўн.:* стилистическая помета (СЭСРЯ, сс. 444-446), помета (СЛТ, 1972, сс. 271-272), стылістычная памета (СЛТ, 1990, с. 141).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ПАМЫЛКА** – парушэнне стылістычнай нормы. С. П. сустракаюцца часцей за ўсё: а) як слабае валоданне рэсурсамі мовы; б) як недастаткова развітае чуццё мовы; в) як парушэнне норм функцыянальных стыляў; г) як парушэнне стылістычных патрабаванняў пабудовы (прыдумвання) тэксту; д) як парушэнні стылістычных патрабаванняў кампазіцыйна-сюжэтнага характару.

Авалоданне правільнай, унармаванай, вобразнай і прыгожай мовай – адна з галоўных задач, якія стаяць перад сённяшняй сярэдняй і вышэйшай школай. Крытэрыі правільнасці, дакладнасці, прыгажосці мовы выпрацоўваюцца тым сацыяльным асяроддзем, якое карыстаецца ёю як сродкам зносін. Правільным, дапушчальным лічыцца ў мове тое, што адпавядае законам яе развіцця і спрыяе працэсу камунікацыі. Няправільнае, недапушчальнае – усё, што парушае агульнапрынятыя правілы і ўнутраныя законы мовы, перашкаджае ёй выконваць актыўную функцыю – быць сродкам зносін.

Фанетычныя, арфаграфічныя, лексічныя, фразеалагічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя нормы рэгламентуюцца фанетыкай, арфаграфіяй, лексікалогіяй, фразеалогіяй, марфалогіяй і сінтаксісам беларускай літаратурнай мовы. Стылістыка беларускай мовы рэгламентуе стылёвыя і стылістычныя нормы *(гл.)*.

Парушэнні ўсталяваных стылістычных норм прыводзяць да стылістычных памылак. Апошнія нельга атаясамліваць з лексічнымі ці фанетычнымі, фразалагічнымі ці сінтаксічнымі, марфалагічнымі ці словаўтваральнымі. Паводле М. М. Кожынай, патрэбна адрозніваць стылістчныя памылкі, звязаныя, па-першае, з слабым валоданнем рэсурсамі літаратурнай мовы (беднасць слоўніка і фразеалогіі, нематываванае ўжыванне моўных штампаў і трафарэтаў, слоў-паразітаў, нелітаратурных слоў і выразаў, аднастайных канструкцый і інш.); па-другое, недастаткова поўна развітае моўна-стылёвае чуццё (пачуццё) тых, хто валодае пісьмовай ці вуснай разнавіднасцямі літаратурнай мовы (“квяцістасць” маўлення, змешванне рознастылёвай лексікі і фразеалогіі, нелітаратурнасць і інш.); па-трэцяе, парушэнне патрабаванняў норм як таго ці іншага функцыянальнага стылю ўвогуле, так і шырокага кантэксту ў прыватнасці (злоўжыванне канцылярызмамі, тэрмінамі, дыялектызмамі, жарганізмамі і г. д., нематываванае змешванне асаблівасцей розных стыляў і інш.). Выпраўленнем стылістычных памылак патрэбна займацца не толькі на ўроках беларускай мовы і літаратуры, але і ў выніку кантролю за пазакласным чытаннем, ва ўсіх гуртках па вывучэнні роднай мовы і літаратуры, пры выкананні разнастайных творчых работ (пачынаючы з напісання розных сачыненняў і канчаючы напісаннем літаратурна-мастацкіх твораў, заметак у насценную і раённую газету, справавых папер і шмат інш.).

Наша класіфікацыя стылістычных (стылёвых) памылак наступная:

**1. Памылкі, звязаныя са слабым валоданнем рэсурсамі мовы:**

а) беднасць слоўніка і фразеалогіі (нематываванае паўтарэнне ў вузкім кантэксце аднаго і таго ж слова ці аднакаранёвых слоў, плеаназмы і таўталогія);
б) штампы і трафарэты;
в) словы-паразіты;
г) нематываванае ўжыванне нелітаратурнай лексікі (пераважна прастамоўных і дыялектных слоў);
д) аднастайнасць у пабудове сказаў, выбары канструкцый;
дж) адсутнасць вобразных сродкаў там, дзе яны неабходныя.

**2. Памылкі, якія паказваюць на недастаткова развітае чуццё мовы:**

а) пагоня за штучнай прыгажосцю (нематываванае ўжыванне вобразных сродкаў, так званая квяцістасць маўлення);
б) змяшэнне рознастылёвай лексікі і фразеалогіі;
в) немілагучнасць.

**3. Памылкі, звязаныя з парушэннем норм функцыянальных стыляў:**

а) злоўжыванне канцылярызмамі;
б) злоўжыванне спецыяльнымі тэрмінамі ў ненавуковых тэкстах;
в) нематываванае ўжыванне прастамоўных і дыялектных слоў.

**4. Парушэнні стылістычных патрабаванняў пабудовы (прыдумвання) тэксту:**

а) няма агульнастылёвай суцэльнасці тэксту (твора, сачынення);

б) адсутнічае сувязь зместу з тэмай , яе раскрыццём;

в) парушана адзінства стылю і ў наяўнасці змяшэнне стыляў, нематывавапае ўзаемадзеянне стыляў і г. д.

**5. Парушэнні стылістычных патрабаванняў кампазіцыйна-сюжэтнага характару:**

а) адсутнасць сюжэтнага суладдзя;

б) адсутнасць заключнага акорда;

в) несуладдзе плана, эпіграфа і зместу (твора, сачынення і г. д.).

*Параўн.:* ошибки (внутреннего диктанта, запоминания, осмысления, перевода, письма, прочтения, слуховые) (Ліхачоў, 1983, с. 633), теория общих ошибок, типы ошибок (Ліхачоў, 1983, с. 635), паняцце стылістчнай нормы і стылістычнай памылкі (Абабурка, 2002, сс. 10-12).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ПАРАДЫГМАТЫКА І СІНТАГМАТЫКА** – сукупнасць рознаўзроўневых моўных адзінак, што складаюць стылістчныя рэсурсы мовы і забяспечваюць магчымасці выбару для ажыццяўлення акта камунікацыі *(гл.)* з мэтай маўленчых зносін разам з усім комплексам экстралінгвістычных фактараў *(гл.)*; стылістычна значымыя лінейныя адносіны паміж рознаўзроўневымі моўнымі адносінамі, а таксама правілы аб'яднання адзінак у некаторыя паслядоўнасці (сінтагматычныя ланцужкі). С. П. ляжыць у аснове стылістыкі рэсурсаў *(гл.),* С. С. – у аснове стылістыкі маўлення *(гл.)*.

Стылістычную парадыгму ўтвараюць варыянты марфем і розных граматычных форм пры ўжыванні розных часцін мовы ў разнастайных стылях мовы і маўлення, парадыгматычная лексіка і фразеалогія ў трыядзе “высокае” – “сярэдняе” – “нізкае” або “гутарковае” – “міжстылёвае” – “кніжнае”, паралельныя сінтаксічныя канструкцыі, сродкі паэтычнага сінтаксісу і інш.

С. С. патрэбна вывучаць найперш для лепшага разумення маўленчай сістэмнасці функцыянальных стыляў *(гл.)*, а таксама для выяўлення механізмаў тэкстаўтварэння ў разнастайных разнавіднасцях маўлення*(гл.)*. Напрыклад, калі супаставім зарыфмаваныя вершаваныя тэксты і рытмізаваныя (бываюць таксама з рыфмай) празаічныя тэксты, то апошнія могуць быць расцэненыя як стылістычная пагрэшнасць, парушэнне стылістычнай (стылёвай) нормы *(гл.)*, аднак асанансы і алітэрацыі і там, і там могуць стварыць пэўны стылістычны эфект *(гл.)*. Разнастайныя паўторы *(гл.)* могуць кваліфікавацца і як стылістычна маркіраваныя (*гл.* ТРОПЫ, ФІГУРЫ МАЎЛЕННЯ, ВОБРАЗНАЕ І ФІГУРНАЕ МАЎЛЕННЕ), і як стылістычныя дэфекты (*гл.* ТАЎТАЛОГІЯ, ПЛЕАНАЗМЫ, ШМАТСЛОЎЕ (ПУСТАСЛОЎЕ) і інш.). Што да С. С. марфалагічных адзінак, то будзе зусім недарэчным у адным выказванні (тэксце) змешваць тыя або іншыя часавыя і трывальныя формы дзеяслова, памылковым будзе ўжыванне кароткіх форм прыметнікаў замест поўных, няправільнай будзе падмена адных форм ступеняў параўнання іншымі (напрыклад, простых – складанымі, складаных – простымі, прыметнікавых – прыслоў-

нымі, прыслоўных – прыметнікавымі і г. д.), нельга спалучаць зборныя лічэбнікі з парнымі назоўнікамі (напр., *двое лыжак* замест *дзвюх лыжак, два штаны* замест *двое штаноў*) і г. д.

*Параўн.:* стилистическая парадигматика, синтагматика (СЭСРЯ, сс. 439-444, 447-451).

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ФІГУРА** – *гл.* ФІГУРЫ МАЎЛЕННЯ, ФІГУРАЛЬНАЕ МАЎЛЕННЕ.

**СТЫЛІСТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ** – *гл.* ФУНКЦЫІ МОВЫ (моўных сродкаў).

**СТЫЛІСТЫЧНЫ І СТЫЛЁВЫ (СТЫЛЯВЫ)** – азначэнні-прыметнікі, якія адрозніваюцца найперш сваімі этымонамі – “стылістыка” і “стыль”. Першы абазначае найбольш агульную прымету моўных сродкаў, іх рэгулярную афарбоўку, а другі – больш прыватную, тую, што залежыць ад асобнага стылю або кантэксту (выказвання, тэксту). Таму паняцці “стылістычная норма” і “стылёвая норма” не ідэнтычныя, а дыферэнцыруюцца так, як і ўсе стылі або толькі функцыянальныя стылі *(гл.)*.

У расійскім мовазнаўстве ўжо з 60-70-х гадоў XX ст. адрозніваюць стылістычныя функцыі моўных адзінак як пастаянныя ад стылёвых (стылявых) функцый спецыфічна арганізаваных кантэкстаў (*гл.* працы А. І. Чыжык-Палейка, В. Р. Кастамарава і інш.). Яскравым прыкладам такой з’явы можна лічыць выкарыстанне навуковай тэрміналогіі як сродку сатыры і гумару, так званую другасную функцыю гэтых моўных (маўленчых) адзінак (напрыклад, ужыванне навуковых тэрмінаў у п’есах (камедыях) К. Крапівы “Хто смяецца апошнім” і “Брама неўміручасці”). Аднак варта адзначыць, што стылёвыя (стылявыя) функцыі (афарбоўкі) магчымыя толькі на базе (фоне) стылістычных, пастаянных функцый (афарбовак), і яны ў стылістычную структуру слова (словазлучэння, сказа) не ўваходзяць.

*Параўн.:* стилевые функции (СЭСРЯ, сс. 401-408).

**СТЫЛІСТЫЧНЫ АНАЛІЗ МАСТАЦКАГА ТЭКСТУ** – разнавіднасць аналізу літаратурна-мастацкага твора паводле жанрава-стылістычнай прыналежнасці тэксту, мэтавай устаноўкі аўтара (яго камунікацыйнай і эстэтычнай задач), яго выкарыстання моўных і маўленчых сродкаў (танальнасць, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, спецыфічныя, г. зн. індывідуальна-стылёвыя, рысы лексікі, фразеалогіі, сінтаксісу і інш.), спосабаў арганізацыі тэксту, наяўнасці стылістычных памылак.

Увогуле стылістычны аналіз – адзін з відаў моўнага аналізу як асобных стылістычных рэсурсаў – лексікі, словаўтварэння, марфалогіі, сінтаксісу, фразеалогіі, так і звязнага маўлення (выказванняў, кантэкстаў). Таму праблемы стылістычнага аналізу аднолькава цікавяць і стылістыку беларускай мовы, і методыку яе выкладання. Асабліва тут важныя такія пытанні, як развіццё вуснага і пісьмовага маўлення, будова (канструяванне) тэкстаў розных стыляў, рэдагаванне і шмат інш.

Мэтай стылістычнага аналізу з’яўляецца выяўленне так званага стылістычнага значэння ў словах, словазлучэннях, сказах, а таксама ўсіх экстралінгвістычных фактараў, што фармуюць дадзены (пэўны) стыль (як моўны, так і маўленчы; як пэўнай грамадскай сферы, так і індывідуальны).

Можна выдзеліць 4 метады стылістычнага аналізу, выкарыстоўваемых як у вышэйшай, так і ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе. Гэта: 1) апісальны; 2) супастаўляльны; 3) статыстычны і 4) стылістычны эксперымент. Пералічаныя метады звязаны з разнастайнымі прыёмамі, якія могуць быць як агульнапрынятыя, так і індывідуальныя (асабліва ў добра вядомых даследчыкаў). Найбольш распаўсюджанымі прыёмамі з'яўляюцца:

а) разнастайныя стылістычныя назіранні (напрыклад, назіранні за словаўтварэннем таго ці іншага пісьменніка і г. д.); б) класіфікацыя паводле пэўных стылістычных паказчыкаў (напрыклад, класіфікацыя эпітэтаў, матафар, метанімій і інш. у творах аднаго, двух, трох і г. д. пісьменнікаў); в) стылістычная інтэрпрэтацыя (тэксту, кантэксту, падтэксту); г) супастаўленне загалоўка і тых мясцін, дзе ён тлумачыцца; д) супастаўленне арыгіналу і перакладу; е) падлік слоў, словазлучэнняў, сказаў для пацвярджэння разнастайных высноў адносна правільнага // няправільнага, нарматыўнага // ненарматыўнага выкарыстання моўных адзінак і інш.; ж) эксперыментальны пошук замены адной моўнай адзінкі на другую; з) варыянтнасць і сінаніміка паралельных канструкцый і г. д.

Праграмай нашай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы патрабуецца ад настаўніка прывіць вучням наступныя ўменні і навыкі па стылістыцы беларускай мовы:

1. Вызначэнне стылю гатовага тэксту.
2. Рабіць стылістычны аналіз як гатовага тэксту, так і асобных моўных адзінак.
3. Удасканальваць стыль данага тэксту.
4. Будаванне тэксту ў пэўным стылі.

Значыць, каб навучыць пералічанаму, настаўніку патрэбна найперш самому ўмець усё гэта дакладна рабіць.

Звернем асаблівую ўвагу на другую пазіцыю ўказанага комплексу школьных уменняў і навыкаў.

Стылістычны аналіз бывае элементарны, частковы, поўны і шматаспектны. Прыкладам элементарнага стылістячнага аналізу можа быць выяўленне сродку стылістычнай афарбоўкі ў словах тыпу *пэцкаль, неўдаль; матуля, матулька; маленькі, малюпасенькі; плесціся, валачыся, цягнуцца* і г. д. або размеркаванне шэрагу слоў паводле разрадаў *"кніжнае" – "нейтральнае" – "гутарковае"; "высокае", "урачыстае" – "нейтральнае", "агульнаўжывальнае" – "грубае", "пагардлівае", "іранічнае"* і інш.

Інакш кажучы, мэтай стылістычнага аналізу з'яўляецца раскрыццё ўзаемаадносін паміж задачамі камунікацыі ў той ці іншай сферы маўленчай дзейнасці і маўленчай структурай, асаблівасцямі ўжывання моўных сродкаў.

Частковы, або фрагментарны, стылістычны аналіз – гэта выяўленне адной ці некалькіх стылістычных з'яў з цэлага комплексу іх. Напрыклад, аналіз стылістычнага паўтору прыназоўнікаў у наступнай страфе паэмы Я. Купалы "Курган":

*На гары, на крутой, на абвітай ракой,*
*Лет назад таму сотня ці болей*
*Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной*
*Грозна, думна глядзеў на прыволле.*

Поўны стылістычны аналіз – гэта выяўленне ўсіх стылістычных і стылёвых прыкмет, рыс, сродкаў, адзнак з тлумачэннем мэт і прычын іх выкарыстання. Можна скласці прыблізную схему поўнага стылістычнага аналізу звязнага маўлення, улічваючы такія асноўныя кампаненты, як: 1) Жанрава-стылістычная прыналежнасць; 2) Танальнасць; 3) Вобразныя сродкі; 4) Асаблівасці лексікі, марфалогіі і сінтаксісу; 5) Спосабы арганізацыі тэксту; 6) Стылістычныя памылкі (калі яны ёсць). У канцы артыкула будзе пададзена прыблізная схема, аналізу літаратурна-мастацкіх тэкстаў з большымі падрабязнасцямі.

Шматаспектны стылістычны аналіз – гэта такі аналіз звязнага маўлення, пры якім спалучаюцца метады і прыёмы як самога стылістычнага аналізу, так і іншых, у першую чаргу тэксталагічнага, эстэтычнага, літаратуразнаўчага і г. д. Прыкладам такога аналізу можа паслужыць артыкул П. Лявонавай "Шматаспектны аналіз мастацкага тэксту" (Роднае слова. – 1994. – № 7-9, 11, 12). Акадэмік М. П. Аляксееў з усіх бакоў разгледзеў верш А. С. Пушкіна "Помнік" ("Я памятник себе воздвиг нерукотворный…") у кнізе аб'ёмам больш за 300 с.

Прыблізна схема поўнага стылістычнага аналізу тэксту ці яго ўрыўка выглядае так:

I. **Жанрава-стылістычная прыналежнасць** (пісьмовая ці вусная форма маўлення, стыль, падстыль, жанр). На гэта найперш паказваюць:

а) храналагічная (часавая) і рэгіянальная (тэрытарыяльная, мясцовая) прывязка, асаблівасці графікі, арфаграфіі і інш.;

б) экзатызмы (на што яны ўказваюць: нешта знешняе, не агульнанароднае, чужое, запазычанае і г. д.);

в) уласныя імёны (пра што яны гавораць, на што ўказваюць).

II. **Танальнасць маўлення** (у межах аднаго і таго ж стылю (выкладу) можа быць розны аўтарскі падыход, стылізацыя пад што-небудзь):

а) тон сур'ёзны, "сухі", лагізаваны;

б) тон іранічны, скептычны, займальны, жартаўлівы, камічны;

в) тон аб'ектыўны (аўтар нідзе не ўпамінае пра сябе);

г) тон суб'ектыўны (аўтар знарок падкрэслівае, што піша ад сябе);

д) сумяшчэнне розных тонаў, аспектаў і інш. (г. зн. своеасаблівы мантаж).

III. **Агульнааўжывальныя вобразныя сродкі мовы** (пераважна лексікі і фразеалогіі):

а) выкарыстанне мнагазначнасці і пераноснага значэння слоў;

б) сінаніміка;

в) экспрэсіўнасць, г. зн. спецыяльныя прыёмы выразнасці (эпітэт, параўнанне, матафара, увасабленне, алегорыя, гіпербала, эліпсіс і інш.), станоўчая і адмоўная ацэнка, стылістычная афарбоўка (адценне пяшчоты, ласкі, грубасці, зневажання, пагардлівасці і г. д.);

г) новыя словы ці нязвыклыя спалучэнні слоў (абавязкова са стылістычнай мэтай яны могуць быць створаныя і выкарыстаныя).

IV. **Спецыфічныя асаблівасці лексікі, фразеалогіі, марфалогіі, сінтаксісу:**

а) адступленні ад агульнапрынятых нормаў, іх матывацыя;
б) формы суб’ектыўнай ацэнкі;
в) варыятыўнасць і сінаніміка слоў, словазлучэнняў, сказаў;
г) спецыфіка ў выкарыстанні часцін мовы;
д) спецыфіка ў выкарыстанні словазлучэнняў і сказаў;
ж) інтанаванне (інтанацыйнае афармленне; стылістычная роля інтанацыйнага афармлення, г. зн. інтанацыі як суцэльнага тэксту, так і ўрыўка з яго).

V. **Спосабы арганізацыі тэксту.** Сюды найперш варта аднесці:
а) чляненне на раздзелы, часткі, параграфы і г. д. (унутраная будова іх, што гэтым дасягаецца);
б) граматычныя канструкцыі (чаму такія, а не іншыя);
в) парадак слоў, частак, загалоўкаў і інш., іх стылістычныя функцыі;
г) сродкі сувязі звышфразавых адзінстваў (абзацаў, складаных сінтаксічных цэлых і г. д.).

VI. **Стылістычныя памылкі** (калі яны ёсць) (Абабурка, 2002, сс. 14-16).

Стылістычная дыферэнцыяцыя *(гл.)* як звязнага маўлення, так і моўных сродкаў былі ў полі зроку старажытных даследчыкаў. Так, у Старажытным Рыме маўленне адрознівалася як 1) узорнае – urbanitas; 2) не зусім правільнае – rusticctas; 3) няправільнае “чужаземнае” – peregrinitas, а моўныя сродкі залежалі (дыферэнцыраваліся) паводле трох жанраў славеснасці: 1) высокага; 2) сярэдняга і 3) нізкага.

Тэорыю трох “штилей” распрацоўваў і М. В. Ламаносаў.

Сёння таксама шматлікія мовазнаўцы, у тым ліку і беларускія, падзяляюць усе моўныя сродкі на “высокія” *(кніжныя)*, “сярэднія” *(стылістычна-нейтральныя, міжстылёвыя)* і “нізкія” *(прастамоўныя, гутарковыя)*. Некаторыя мовазнаўцы ўвогуле дзеляць усе моўныя сродкі на *стылістычна-нейтральныя* (міжстылёвыя, з нулявой стылістычнай афарбоўкай) і *стылістычна афарбаваныя* (з функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай).

Нават некаторым людзям з вышэйшай адукацыяй стылістычная пісьменнасць даецца цяжэй, чым агульнамоўная, “нарматыўная”. Авалодаць стылістычнай пісьменнасцю – значыць, па-першае, не дапускаць стылістычных памылак, па-другое, дамагчыся ўзроўню маўлення, яго культуры, якая патрабуе прафесійна карыстацца ўсімі функцыянальнымі стылямі беларускай літаратурнай мовы.

Як адзначалася, стылістычныя нормы як нормы, што рэгулююць выкарыстанне (ужыванне) моўных сродкаў (і нейтральных, і стылістычна афарбаваных) у адпаведнасці са зместам і мэтай маўлення, умовамі зносін, патрабаваннямі жанру і г. д., вельмі цесна звязаны з агульнапрынятымі, агульнамоўнымі нормамі. Аднак варта памятаць, што нормы беларускй літаратурнай мовы, на ўсіх яго ўзроўнях, акрамя стылістычнага, вызначаюць структуру самой мовы, а стылістычныя нормы – гэта нормы правільнага, дакладнага, лагічнага і эстэтычнага ўжывання фанем, марфем, лексем, фразем, словаформ і сінтаксем, а таксама пабудаваных з іх звышфразавых (звышсказавых) адзінстваў, выказванняў і тэкстаў. Засваенне правілаў стылістычнага ўжывання (выкарыстання) садзейнічае больш уважлі-

вым адносінам да новага, народнага слова, дазваляе пазбегнуць моўных штампаў і трафарэтаў, засцерагае ад безгустоўнага спрашчэнства і мудрагелістай псеўданавуковасці.

Парушэнні ўсталяваных стылістычных норм прыводзяць непазбежна да стылістычных памылак, якія нельга атаясамліваць з лексічнымі ці фактычнымі, фразеалагічнымі ці сінтаксічнымі, марфалагічнымі ці словаўтваральнымі. Паводле М. М. Кожынай, патрэбна адрозніваць стылістычныя памылкі, звязаныя, па-першае, з слабым валоданнем рэсурсамі літаратурнай мовы (беднасць слоўніка, фразеалагічная беднасць, нематываванае ўжыванне моўных штампаў і трафарэтаў, слоў-паразітаў, нелітаратурных слоў і выразаў, аднасастаўных канструкцый і інш.); па-другое, недастаткова поўна развітае моўнае чуццё (пачуццё) тых, хто валодае пісьмовай ці вуснай разнавіднасцямі літаратурнай мовы ("квяцістасць" маўлення, змешванне рознастылёвай лексікі і фразеалогіі, нелітаратурнасць і інш.); па-трэцяе, парушэнне патрабаванняў норм як таго ці іншага функцыянальнага стылю ўвогуле, так і шырокага кантэксту ў прыватнасці (злоўжыванне канцылярызмамі, тэрмінамі, дыялектызмамі і нематываванае змешванне асаблівасцей розных стыляў і інш.). Выпраўленнем стылістычных (стылёвых) памылак патрэбна займацца заўсёды пры першай магчымасці.

Паводле М. Р. Львова, стылістычны аналіз – адзін з відаў моўнага аналізу, мэтай якога з'яўляецца ўстанаўленне залежнасці паміж асаблівасцямі тэксту і той сітуацыяй, той установкай аўтара, што стварыў тэкст, якая ўсведамляецца на аснове сінтэтычнага, суцэльнага ўспрыняцця тэксту, на аснове моўнага пачуцця. Поўны стылістычны аналіз, на думку таго ж М. Р. Львова, па-першае, характарыстыка мэтавай установкі аўтара (яго камунікацыйнай задачы); па-другое, указанне агульных характарыстык: нязмушанасць – афіцыйнасць, эмацыянальнасць – безэмацыянальнасць, вобразнасць – бязвобразнасць, заклікавасць маўлення – адсутнасць яе і да т. п.; па-трэцяе, указанне моўных сродкаў – слоў, граматычных форм, з дапамогай якіх ствараецца асаблівасці стылю. Варта адзначыць, што прыведзеныя патрабаванні ў значнай меры перавышаюць патрабаванні школьнага стылістычнага разбору, прапанаванага ў калектыўнай працы "Виды разбора на уроках русского языка" пад рэдакцыяй В. В. Бабайцавай (М., 1985).

На наш погляд, стылістычны аналіз увогуле – гэта адзін з відаў моўнага аналізу як асобных стылістычных рэсурсаў – лексікі, словаўтварэння, марфалогіі, сінтаксісу, фразеалогіі, так і звязнага маўлення – выказванняў, кантэкстаў, тэкстаў. Таму праблемы стылістычнага аналізу аднолькава цікавяць і стылістыку беларускай мовы, і методыку яе выкладання. Асабліва тут важныя такія пытанні, як развіццё вуснага маўлення, будова (канструяванне) тэкстаў розных стыляў, рэдагаванне і шмат інш.

Мэтай жа стылістычнага аналізу з'яўляюцца раскрыццё ўзамаадносін паміж задачамі камунікацыі ў той ці іншай сферы маўленчай дзейнасці і маўленчай структурай, асаблівасцямі ўжывання моўных сродкаў. Інакш кажучы, мэта стылістычнага аналізу – гэта выяўленне так званага эстэтычнага (канатацыйнага)

значэння ў словах, словаформах, словазучэннях, сказах, а таксама ўсіх экстралінгвістычных фактараў, што фарміруюць стыль (як моўны, так і маўленчы; стыль як пэўнай грамадскай з'явы, так і індывідуальны) таго ці іншага тэксту або звязнага маўлення (вуснага ці пісьмовага). Да таго ж і архітэктоніка і кампазіцыя суцэльнага (цэласнага) тэксту патрабуюць звяртаць увагу не толькі на знешнюю структуру таго ці іншага тэксту (напрыклад, *абагульненне, міжфразавая сувязь паміж кампанентамі тэксту* і г. д.), але і імпліцытнае выражэнне думкі (як у мікратэксце ці кантэксце, так і ў падтэксце, калі яно ёсць).

**СТЫЛІСТЫЧНЫ ПЛАСТ** – падраздзяленне лексікі і фразеалогіі з улікам стылістычнай дыферэнцыяцыі *(гл.)*. Традыцыйныя С. П.: 1) гутарковая лексіка і фразеалогія; 2) міжстылёвая (стылістычна нейтральная) лексіка і фразеалогія; 3) кніжная лексіка і фразеалогія. На сучасным этапе развіцця лінгвастылістыкі *(гл.)* усе моўныя (маўленчыя) сродкі падзяляюцца на агульнаўжывальныя сродкі і сродкі абмежаванага ўжытку. Напрыклад, М. Я. Цікоцкі разглядае "Функцыянальна-стылістычныя тыпы лексікі" і "Эмацыянальна-экспрэсіўныя тыпы лексікі", а В. П. Красней – паводле прыналежнасці лексікі да функцыянальных стыляў і паводле яе эмацыянальна-экспрэсіўнай ацэнкі, выдзяляючы ў асобныя пласты "Стылістычна нейтральную лексіку" і "Эмацыянальна нейтральную лексіку".

*Параўн.:* стылістычны пласт (СЛТ, 1990, с. 141), лексіка літаратурная, лексіка пісьменніка (Рагойша, 2003, с. 65).

**СТЫЛІСТЫЧНЫ СРОДАК** – моўная адзінка, троп ці фігура маўлення *(гл.)*, а таксама стылістычны прыём, маўленчая стратэгія і тактыка, што выкарыстоўваюцца пры выражэнні стылю *(гл.)*. Фактычна гэта стылістычная канатацыя *(гл.)*, стылістычныя сінонімы *(гл.)*, стылістычна афарбаваныя моўныя адзінкі *(гл.)*, кантэксты *(гл.)* і мікратэксты *(гл.)* са стылістычным значэннем *(гл.)*. Аднак трэба ўмець выкарыстоўваць як належыць, у адпаведнасці са стылем мовы (маўлення), кожны С. С. Узнікненне нематываванага паўтору слоў можна здзейсніць у мастцкім стылі *(гл.)* пры дапамозе разнастайных сінонімаў, але ў афіцыйна-справавым і навуковым стылях гэта супрацьпаказана. У гутарковай мове пераважаюць словы і выразы з канкрэтным значэннем, у навуковай – з адцягненым, абстрактным значэннем (гэта асабліва прыкметна пры пераходзе звычайных слоў у тэрміны: *аснова* (у кроснах, будынку, слове і г. д.), *корань* (у дрэве, слове, матэматычнай формуле і г. д.), *плаваць* (у рацэ, на караблі, на экзаменах, у космасе), *мелка плаваць, плаваць як сыр у масле* і г. д.).

Адрозніваюць вобразныя сродкі мовы (маўлення), народна-паэтычныя сродкі, сродкі масавай інфармацыі (СМІ), сродкі вытворчасці, сродкі сувязі (камунікацыя), сродкі медыцыны, сродкі транспарту і г. д. Усе яны падзяляюцца на моўныя і нямоўныя, вербальныя і невербальныя, знакавыя і нязнакавыя.

С. С. маюць месца на ўсіх ўзроўнях моўнай (маўленчай) структуры, асабліва на лексічным і сінтаксічным узроўнях. На сучасным этапе – гэта шэрагі (стылістычныя пласты) слоў, сінтаксічныя рады слоў, словазлучэнняў, сказаў.

У стылістыцы тэксту *(гл.)* як інтэгральны спосаб пабудовы маўленчага твора разглядаецца выражэнне стылю *(гл.),* раўназначнае спосабу ажыццяўлення

тэкставай дзейнасці, дзе актыўны ўдзел прымаюць не толькі моўныя, але і тэматычныя тэктанічныя сродкі (тэкстатыпы). Побач са сродкамі славеснай вобразнасці да С. С. традыцыйна адносяцца сінонімы, асабліва лексічныя, семантычныя і стылістычныя *(гл.)*: *ісці, крочыць, ступаць, маршыраваць, плесціся, пхнуцца, цягнуцца, брысці, тэпаць, сыпаць, дыбаць, шыбаваць, шыбаць, часаць, сунуцца, валачыся, цёпкацца, цялёпкацца, цялюхкацца, цюпаць, клыпаць, сігаць, чухаць, біць ногі, трапаць ногі, перабіраць нагамі, пераступаць нагамі, сунуць ногі, перастаўляць ногі* (Клышка, 1976, с. 208).

*Параўн.:* средство (СЛТ, 1969, с. 452), сродак (ТБСЛМ, 2002, с. 622), стилистические средства (СЭСРЯ, сс. 482-483).

**СТЫЛІСТЫЧНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ** – *гл.* ЛІНГВІСТЫЧНЫ ЭКСПЕРЫМЕНТ.

**СТЫЛІСТЫЧНЫ ЭФЕКТ** – экстралінгвістычны кантэкст *(гл.)*, які тлумачыць спецыфіку структурна-лінгвістычнага плана маўлення. Фактычна гэта намер аўтара (адрасанта, рэферэнта) выказвання або тэксту выклікаць у адрасата (рэцыпіента) пэўную эмацыянальную рэакцыю на выказванне (тэкст) з дапамогай спецыяльных моўных (стылістычных, стылёвых) сродкаў *(гл.)*. С. Э. як канчатковы вынік стылістычнай (стылёвай) з'явы *(гл.)* не абыходзіцца без стылістычнага значэння (канатацыі) выбраных моўных сродкаў. Напрыклад, у абзацы пра адведзенае месца для могілак у рамане А. Кудраўца "Сачыненне на вольную тэму" праз словы, узятыя ў двукоссе, анахранізмы, двусэнсавыя словазлучэнні і словаспалучэнні выражаецца не толькі аўтарскі лёгкі гумар, але і яго іронія, сатырычныя адносіны, нават сарказм: "*Скажам проста: месца для могілак выбранае не самае лепшае, а можа, і горай таго. Нябожчыкам, хоць і цяпер нібыта ўжо і ўсё роўна, не пашанцавала. Хто гэта хавае людзей у самым сяле? Тут усё ўсякае – то "маць", то "госпадзі", то куры, то сабакі, а мёртвыя любяць ляжаць спакойна, і вушы ім не заткнеш*". Як бачым, С. Э. звязаны непасрэдна з праблемамі ўсрыняцця і разумення сэнсу выказвання (тэксту). Гэта ўжо з'явы камунікацыйныя: стылістычна афарбаваны кантэкст у выніку асаблівага адбору моўных (маўленчых) сродкаў як кампанентаў маўлення патрабуе для створанага С. Э. стопрацэнтнага разумення іх (менавіта так, як гэта мае на мэце аўтар). Таму даследчыкі класіфікуюць С. Э., па-першае, як запраграміраваныя, чакаемыя і, па-другое, як непадрыхтаваныя, спантанныя.

У жывым маўленні С. Э. можа адбыцца ці не, бо дадзеная, разнавіднасць камунікацыі пераважна спантанная. Акрамя таго ў дыялектычным маўленні сустракаецца як поўнае абсалютнае непаразуменне камунікантаў, так і частковае. Такім чынам, С. Э. як паспяховае (гарманічнае) завяршэнне камунікацыйнага акта магчымы толькі пры поўнай рэалізацыі стылістычнай з'явы *(гл.)* з абсалютна стылістычным значэннем *(гл.)*. Пры маўленча-мысленчай дзейнасці аўтара маўлення разлік на спецыяльнае стылістычнае заданне можа адсутнічаць, але яго ўзнікненне ў псіха-эмацыянальнай дзейнасці ўспрымальніка (рэцыпіента) неабходнае.

*Параўн.:* стилистическое задание, стилистический эффект (СЭСРЯ, сс. 488-489, 490-492).

**СТЫЛЬ** – 1) функцыянальная разнавіднасць літаратурнай мовы, што адрозніваецца адборам моўных сродкаў і ўжываннем іх адпаведнасці са зместам, тэмай, задачамі і сітуацыяй маўлення. Гэта С. мовы; 2) выкарыстанне функцыянальнай разнавіднасці мовы ў канкрэтнай сітуацыі маўлення. Гэта С. маўлення; 3) пабудова маўлення ў адпаведнасці з нормамі граматыкі і словаўжывання. Гэта так званы С. складаны, цяжкі, лёгкі, даступны і г. д.; 4) адбор сродкаў мовы, заснаваны на экспрэсіўна-стылістычнай іх афарбоўцы. Гэта С. урачысты, зніжаны і г. д.; 5) характэрная для таго ці іншага літаратурнага жанра *(гл.)*, пісьменніка ці яго твора сукупнасць прыёмаў выкарыстання моўных сродкаў. Гэта можа быць С. аповесці К. Чорнага "Лявон Бушмар", С. самога К. Чорнага і інш.

З прыведзеных дэфініцый можна зрабіць наступныя высновы: 1) паняцце "стыль" шматграннае, таму што яно мае непасрэднае дачыненне да функцыянальных стыляў *(гл.)* той ці іншай літаратурнай мовы *(гл.)*, маўленчай дыферэнцыяцыі і інтэграцыі *(гл.)*, сістэмы моўных (маўленчых) сродкаў, функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкі *(гл.)* іх, жанравай стратыфікацыі і ідыястыляў *(гл.)*; 2) "стыль" – гэта і сучасны і гістарычны падыход да звязнага маўлення пэўнай літаратурнай мовы; 3) "стыль" – гэта і спосаб выкладу думкі і манера пісьма (дзяржаўнага дзеяча, вучонага, публіцыста, пісьменніка, увогуле індывіда, што карыстаецца літаратурнай мовай як сродкам маўленчай дзейнасці і моўных зносін).

З філасофскага пункту погляду С. – гэта характэрнае фізіялагічнае адзінства якой-н. з'явы ў чалавечым жыцці і яго дзейнасці, тыповая (тыпічная) форма яго знешняга выражэння. Таму найперш вядзецца гаворка пра С. палітычнай дзейнасці, навуковых разважанняў, працы, жыцця, кіраўніцтва (кіравання) і г. д. Аднак паняцце С. не суадносіцца з прыродай, таму што С. заўсёды звязаны з свядомым або бессвядомным самапраяўленнем чалавека.

У тэорыях мастацкай дзейнасці (*гл.* ЭСТЭТЫКА, ЭСТЭТЫЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ) паняцце С. разнастайнае, бывае нават супярэчлівае (С. эпохі, С. мастацкага напрамку, індывідуальныя С.). Ува ўсіх такіх выпадках паняцце С. абазначае розныя аспекты знешняй арганізацыі мастацкіх твораў, пэўнае знешняе выяўленне адзінства мастацкага формаўтварэння.

У літаратуразнаўстве С. – гэта ўстойлівая суцэльнасць ("цэласнасць") ці агульнасць вобразнай сістэмы, сродкаў мастацкай вобразнасці, вобразных прыёмаў, якая характарызуе асобны твор мастацтва ці сукупнасці твораў. С. называецца таксама сістэма адзнак, паводле якіх такая агульнасць можа быць апазнаная (*гл.* ЭнЛіМБел, V, с. 147). Таксама пад С. разумеецца пісьменніцкая індывідуальнасць (*гл.* ІДЫЯСТЫЛЬ), сродкі і спосабы аўтарскага пісьма (*гл.* ВЫКЛАД, МАНЕРА ПІСЬМА, МАЎЛЕНЧАЯ СІТУАЦЫЯ). Вылучаецца і С. твора і ўсёй творчасці пісьменніка, яго прыналежнасць да пэўных літаратурных (маст.) школ і напрамкаў, С. часу і С. нац. літаратуры (*гл.* СТЫЛІСТЫКА…, ФУНКЦЫЯНАЛЬ-

НЫЯ СТЫЛІ, СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ (МАЎЛЕНЧЫХ) СРОДКАЎ і інш.).

У сучаснай беларускай філалогіі прыкметная тэндэнцыя да аб’яднання (сінтэзу) літаратурнай і лінгвістычнай стылістык на базе паглыбленай тэорыі С. – гэта выяўленыя пачуццём вузлавыя, найбольш характэрныя лініі спалучэння зместу і формы *(гл.)*, што з’яўляюцца носьбітамі адзінства твора і адначасова асаблівасцей аўтарскай індывідуальнасці.

С. – адно з ранніх фундаментальных паняццяў старжытных паэтык і рыторык Элады і Рыма. Спачатку гэта былі пытанні нарматыўнасці, а потым выклад і яго сродкі (тыпы і фігуры, склад лексікі, фразеалогіі, марфалогіі і сінтаксісу). У XVIII ст. С. тлумачыцца як своеасаблівасць мастацкага маўлення, дасягненне індывідуальнага “генія” – чалавека-творцы (мастака-жывапісца, пісьменніка і інш.). У 1753 г. Ж. Л. Л. Бюфон фармулюе паняцце С. так: “Веды, факты і адкрыцці лёгка адчуваюцца і пераўтвараюцца… гэтыя рэчы – па-за чалавекам. Стыль – гэта сам чалавек. Стыль не можа ні адчужацца, ні пераўтварацца, ні перадавацца” (*гл.:* ЛЭС, 1990, с. 495). У XIX ст. бюфонаўскае выказванне набыло новы сэнс: С. стаў выступаць як сімвал перамогі духа і прыкмета свабодных, чалавечых адносін да свету. Змаганне школы Фослера – Шпіцара і Ф. дэ Сасюра – Ш. Балі прывяло да перамогі вучэння Ш. Балі, які ў “Французскай стылістыцы” (1909 г.) раскрытыкаваў сваіх апанентаў за атаясамліванне паняццяў “літаратурная мова” і “мова мастацкай літаратуры” і за разуменне мовы як эстэтычнага феномену, а таксама за разгляд усіх праблем стылістыкі праз прызму мастацкага стылю *(гл.)*. Функцыянальны падыход Ш. Балі да праблем мовы і стылю быў падхоплены іншымі мовазнаўцамі, і ў XX ст. атрымала сваё развіццё функцыянальная стылістыка *(гл.)*, цэнтральным паняццем якой становіцца паняцце функцыянальнага С. *(гл.)* і яго экстралінгвістычных і інтралінгвістычных фактараў *(гл.)*.

*Параўн.:* стиль (КЛЭ, VII, сс. 188-196), (ЛЭС, 1990, сс. 494-495), (СЭСРЯ, сс. 507-513), стыль (ЭнЛіМБел, VII, сс. 147-151), (СЛТ, 1990, с. 141).

**СТЫЛЬ АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ, АФІЦЫЙНА-СПРАВАВЫ СТЫЛЬ.

**СТЫЛЬ ГУТАРКОВЫ (РАЗМОЎНЫ)** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ, ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ, ЛІТАРАТУРНА-ГУТАРКОВЫ СТЫЛЬ (ТЭКСТ).

**СТЫЛЬ ІНДЫВІДУАЛЬНЫ** – *гл.* ІДЫЯСТЫЛЬ.

**СТЫЛЬ КАНФЕСІЙНЫ** – *гл.* СТЫЛІЗАЦЫЯ, ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ.

**СТЫЛЬ МАСТАЦКІ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ, МАСТАЦКІ СТЫЛЬ, МАСТАЦКА-БЕЛЕТРЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ.

**СТЫЛЬ НАВУКОВЫ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ, НАВУКОВЫ СТЫЛЬ.

**СТЫЛЬ ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ** – *гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ, ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ.

**СТЫЛЯРЫСЫ, СТЫЛЁВЫЯ РЫСЫ** – прыкметы стылю тэксту, якія выражаюць спецыфіку адпаведнага функцыянальнага стылю дзякуючы рэалізацыі

функцый, абумоўленых экстралінгвістычнымі фактарамі *(гл.)*. Гэтым самым дасягаецца ўяўленне пра той ці іншы функцыянальны стыль *(гл.)*. Напрыклад, асноўнымі С. гутарковага стылю сучаснай бел. літ. мовы з'яўляюцца такія, як эмацынальнасць і экспрэсія *(гл.)*, ацэначнасць і натуральнасць (маўлення, маўленчай дзейнасці – выказвання, тэксту), адсутнасць строгай лагічнасці і паслядоўнасці і інш.

*– Быў на экскурсіі?*

*– Быў... Канечне, мне быць?!.*

*– Ды чаго я там ні бачыў?! Што я там пакінуў?!. Я яшчэ школьнікам там быў...*

Сучасная канцэпцыя С. выглядае наступным чынам: *экстралінвістычная словаўтваральная аснова (гл.) > мэтанакіраванасць камунікацыі (гл.) > с. рыса > стылістычнае значэнне (ст. афарбоўкі) > лінгвістычныя прыкметы (сродкі).* С. Р. падзяляюцца на анталагічныя *(гл.)* і ўласна камунікацыйныя *(гл.)*. Да першых адносяцца абстрактнасць (навук. маўленне), інфарматыўнасць (аф.-справ. маўленне), сацыяльная ацэнка (публіцыст. маўленне), мастацка-вобразная камунікацыя (маст. стыль). Уласна камунікацыйнымі С. Р. з'яўляюцца дакладнасць, лагічнасць, выразнасць, вобразнасць, катэгарычнасць / некатэгарычнасць і інш. (*гл.* ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ). Кожны функц. стыль валодае не адной, а некалькімі С. Р., цесна звязанымі паміж сабой. Можна падзяліць С. Р. на асноўныя (першасныя) і другасныя, абумоўленыя фактарамі ніжэйшых узроўняў, што адпавядаюць віду дзейнасці або камунікацыі. Тыповым прыкладам гэтага з'яўляюцца моўныя (маўленчыя) знаходкі, якія пры вельмі хуткім (частым) іх ужыванні пераўтвараюцца спачатку ў стэрыатып *(гл.)*, а потым у штамп *(гл.)*.

*Параўн.:* стилевые черты (СЭСРЯ, сс. 403- 407).

**СТЭРЭАТЫПНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ** – 1) ядро стылёвага ўзуса *(гл.)*, якое суадносіцца з паняццем камунікацыйна-стылістычнай мэтазгоднасці маўлення (выказвання, тэксту); 2) штамп, шаблон, трафарэт. *Гл.* МОЎНЫЯ ШТАМПЫ І ТРАФАРЭТЫ.

С. М. – гэта найперш традыцыя, арыентацыя на правільнасць маўлення, яго стандартызаванасць, на здольнасць засвойваць узоры ў кагнітыўных, ацэначных і этычных адносінах. С. М. ідзе ад С. мыслення, ад С. стылю, асабліва афіцыйна-справавога, навуковага і публіцыстычнага. Мінімальныя стэрэатыпныя словазлучэнні накшталт *трэба* (*неабходна, патрэбна, можна, нельга* і г. д.) + *вывучыць* (*даследаваць, выявіць, вызначыць, даказаць, знайсці, аргументаваць* і г. д.) + *пытанне* (*праблему, прынцып, сутнасць, заканмернасць, сцверджанне* і г. д.), злучаючыся (аб'ядноўваючыся) з іншымі кампанентамі выказвання (сказа, тэксту), у значнай ступені дапамагаюць ствараць логіка-семантычныя, а таксама інтэлектуальна- і эмацыянальна-ацэначныя кантэксты (інтэксты). Так атрымліваецца С. ядро стылю ці яго жанру.

Кожны стыль адбірае з агульналітаратурнай мовы тыя моўныя сродкі, якія найбольш адпавядаюць камунікацыйнаму прызначэнню. Іншыя ж моўныя

(маўленчыя) адзінкі падвяргаюцца зменам выканання асобнай функцыі таго ці іншага стылю, а сам стыль стварае своеасаблівае пераразмеркаванне і трансфармацыю моўных адзінак, таму і ўсе функц. стылі *(гл.)* выконваюць найважнейшую ролю ў станаўленні і развіцці ўсіх сістэм (падсістэм) самой літаратурнай мовы. Так выпрацоўваюцца С. тэкставыя адзінкі, абумоўленыя не толькі высокай частотнасцю моўных (маўленчых) адзінак , але і прынцыпамі сэнсавай структуры тэксту *(гл.)*, робяць магчымым разгортванне тэксту суцэльнага (“целого”) твора з яго жанравымі і функцыянальна-стылёвымі асаблівасцямі. Апошнія ўяўляюцца як адпаведнасць маўлення функц. стылю, або інварыянтнай уласцівасці тэксту, што разумеецца як дынамічны стэрэатып, які служыць для прымянення стылеўтваральных моўных адзінак, іх выбару ў працэсе рэалізацыі камунікацыйных задач, пастаўленых аўтарам тэксту (выказвання, сказа, рэплікі).

Прагматычная роля стандарта ў газетнай мове значна складанейшая і найбольш супярэчлівая, чым у навуковым і афіцыйным маўленні. У газетнай мове выступае ў адрознівальнай функцыі (рысе) непасрэдная абумоўленасць кантэкстам (як вузкім, так і шырокім). Увогуле газетна-моўныя стандарты просталінейна адлюстроўваюць сацыяльна-палітычныя ідэалы, густавыя памкненні, якія выконваюць пры адборы сродкаў асновапаложную ролю.

С. паўторы без усялякіх змен у выказванні (тэксце) прыводзяць да шаблону, так званых моўных (маўленчых) штампаў і трафарэтаў *(гл.)*, якія з пункту погляду культуры маўлення прыносяць нямала шкоды.

*Параўн.:* стэрэатып, стэрэатыпны (ТСБЛМ, 2002, с. 634), стереотипность речи (СЭСРЯ, сс. 397-400).

**СУБ’ЕКТ; СУБ’ЕКТЫЎНЫЯ АДНОСІНЫ** – 1) утваральнік дзеяння; прадмет думкі, з якім суадносіцца моўная адзінка; адлюстраваны ў свядомасці элемент аб’ектыўнай рэчаіснасці як унутраны бок слова, словазлучэння, сказа. Гл.: РЭФЕРЭНТ. *Дом будуецца рабочымі і Рабочыя будуюць дом;* 2) С.-дзейнік, супрацьпастаўлены дапаўненню – аб’екту *(гл.);* 3) чалавек як носьбіт чаго-н.; 4) прадмет суджэння *(гл.)*.

З філасофскага пункту погляду С. – гэта носьбіт прадметна-практычнай дзейнасці і пазнання (індывід ці сацыяльная група), крыніца актыўнасці, накіраванай на аб’ект *(гл.)*. Праблема адносін С. да аб’екта заўсёды была ў цэнтры ўвагі з самага пачатку ўзнікнення філасофіі як навукі ўсіх навук, таму ў логіцы і на сучасным этапе яе развіцця С. – гэта прадмет, пра які выносіцца суджэнне *(гл.)*, а яно ў сваю чаргу суадносіцца з прэдыкатам *(гл.)*, які абазначае тое, што выказваецца (пацвярджаецца ці адмаўляецца) аб суб’екце (пра суб’ект). *Гл.* ПРЭДЫКАТЫЎНАСЦЬ, ПРЭДЫКАЦЫЯ.

Адрозніваюць *граматычны* С. (дзейнік) і *семантычны* С. (агенс), *камунікацыйны* С. (тэма паведамлення, топік), *псіхалагічны* С. (суб’ект суджэння, частка сказа). Надзвычайная роля С. у семантычнай арганізацыі сказа (выказвання). Гэта пераважна ідэнтыфікацыя прадмета рэчаіснасці, пра які ідзе размова:

*Звон кафедральны кліча на Ave.*
*З цесных завулкаў злева і справа*
*Гуртам манашкі ў чорным адзенні*
*Цягнуцца, быццам сумныя цені.*
*Тут і старыя, і маладыя, –*
*Ave Maria…*

(М. Танк. Ave Maria).

У прыведзеных радках суб’ект, аб’ект і прэдыкат узаемазамяняльныя, чым узмацняецца мастацкасць (асацыятыўнасць) тэксту. Гэта так званыя эстэтычныя, суб’ектнааб’ектныя адносіны.

У ролі С. звычайна выступае чалавек (*гл*. АНТРАПАЦЭНТРЫЧНАСЦЬ), у ролі аб’екта – і чалавек, і ўся навакольная рэчаіснасць *(гл.)* як натуральная, так і створаная чалавекам. С. і аб’ект звязаны паміж сабой дыялектычна як непарыўнае адзінства, якое рэалізуецца як сукупнасць усемагчымых узаемадзеянняў і адносін паміж імі, што адзначаецца як практыка. З граматычнага боку С. адносіны – адносіны ў свабодных, сінтаксічных словазлучэннях: *адказы вучня на пытанні настаўніка* (СЛТ, 1990, с. 142).

*Параўн.:* суб’ект (ЭнЛіМБел, сс. 152-153), (ЛЭС, 1990, сс. 497-499).

**СУБ’ЕКТНАСЦЬ МАЎЛЕННЯ** – аўтарызацыя выказвання і тэксту як выніку маўленчай дзейнасці чалавека; усебаковая катэгорыя выказвання і тэксту, суадносная з суб’ектам і аб’ектам *(гл.)* у творчай дзейнасці з дапамогай маўлення *(гл.)*.

У сучаснай філасофіі стала агульнапрынятай выснова, што сапраўдным суб’ектам пазнання з’яўляецца грамадства, а індывіды выступаюць як суб’екты пазнання; як прадстаўнік грамадства ў той меры, у якой ён поўна выражае свае патрэбы грамадства як калектыўнага суб’екта пазнання. У псіхалогіі навукі асоба вучонага як суб’екта навуковай дзейнасці вывучаецца ў сувязі з псіхалогіяй навуковай творчасці, а таксама з працэсам фармавання вучонага. У функцыянальнай стылістыцы *(гл.)* пытанні пра суб’ектыўнасць разнастайнай дзейнасці, у тым ліку і навуковай, а таксама пра спосабы яе выражэння разглядаюцца па-рознаму, г. зн. побач з логіка-гнасеалагічнымі падыходамі на сацыяльным узроўні вывучаецца і псіхалагічны бок (пераважна на псіхалагічным).

Суб’ектны, асобасны характар тэкстаўтварэння праяўляецца неаднолькава ў розных функцыянальных стылях маўлення. Фактар С. М. не толькі абумоўлівае выкарыстанне ў маўленні моўных сродкаў асобных класаў, але пранізвае ўвесь тэкст у цэлым, утвараючы асобны план тэксту. У рамках дзейнаснай канцэпцыі маўлення фактар С. М. вызначаецца як інтэграцыйная катэгорыя, што з’яўляецца адзінствам экстралінгвістычнага (пазамоўнага), псіхалагічнага і лінгвістычнага кампанентаў зместу паняцця. Таму розныя бакі адлюстравання дзейнасці, свядомасці ў тэкстах разглядваюцца як агульная прыкмета – суб’ектыўнасць.

Камунікацыйна-прагматычны аспект, звязаны з узаемадзеяннем маўленчых партнёраў, акцэнтуе адрасатны (дыялагічны) бок маўленчай дзейнасці. Спе-

цыфіка зносін, напрыклад, у навуковай сферы абумоўлена імкненнем аўтара даказаць ісцiннасць выкладальнай канцэпцыі. Улік адрасата выражаецца ў дасягненні такой арганізацыі тэксту, якая была б максімальна мэтазгоднай у плане навуковай камунікацыі. У выніку развіцця беларускай літаратурнай мовы ў ёй развілася група стэрэатыпных *(гл.),* стылістычна маркіраваных адзінак для выражэння аўтарскага "я" і фіксіруючых псіхалагічныя ўстаноўкі аўтара, яго пачуцці і перажыванні, звязаныя з пошукамі і вербалізацыяй *(гл.)* новых ведаў. Гэтыя адзінкі (словы, словазлучэнні, сказы, а таксама асобныя тэкставыя фрагменты), інтэгруючы ў маўленчую тканіну тэкста (твора), фармулююць асобасны план тэксту, план аўтарызацыі *(гл.)*. Суб'ект аўтарызацыі ўяўляецца як сукупнасць сродкаў выражэння аўтарскага "я", а таксама псіхалагічных станаў суб'екта, звязаных з мысленчай дзейнасцю пасля атрымання і вербалізацыі новых ведаў.

У мастацкім стылі маўлення суб'ектыўнасць зместу рэалізуецца перш за ўсё ў галоўным кампазіцыйным прынцыпе стылістычнай арганізацыі тэксту ў яго суцэльнасці ("целостности"). Мастацкая кампазіцыя канкрэтызуецца суб'ектывацыяй расповеду, якая можа быць звязана з рознымі суб'ектыўнымі сферамі: аўтарам, расказчыкам (апавядальнікам) і персанажамі (*гл.* СЭСРЯ).

**СУВЯЗЬ, СІНТАКСІЧНАЯ СУВЯЗЬ** – 1) узаемадзеянне элементаў (кампанентаў) мовы (маўлення), абумоўленае лексічным значэннем, правіламі пабудовы і спалучальнасцю слоў у сказе (выказванні, тэксце); 2) асноўныя віды і спосабы аб'яднання сінтаксічных элементаў. *Сувязь слоў у сказе, выказванні, тэксце, маўленні увогуле:* а) Бяззлучнікавая сувязь – гэта сувязь аднародных членаў сказа ці частак складанага сказа без злучнікаў пры дапамозе адной інтанацыі: *Кантора якая... Вывеска толькі. Так, толькі назва адна...* (М. Зарэцкі. Голы звер); б) Злучнікавая С. – сувязь паміж словамі або сказамі, якая афармляецца з дапамогай злучнікаў: *І ніпачым ні мокры снег, ні бездараж* (М. Лынькоў. Векапомныя дні); *Ніне здалося, што Аляксандр Іванавіч усміхаўся і радаваўся, бо гэта быў не проста хлопчык, а Нінін сынок* (М. Лобан. Шэметы).

Злучальная С. – сувязь паміж сінтаксічна раўнапраўнымі адзінкамі (словамі ці сказамі): *Стукат колаў усё набліжаўся, і, нарэшце, са змроку пачала вылучацца цёмная пляма фурманкі, а збоку меншая – няйначай жарабя* (К. Крапіва. Мядзведзічы). Падпарадкавальная С. – сувязь паміж нераўнапраўнымі, залежнымі словамі ці часткамі скаданых сказаў: *Інстынктам, якім угадваюць любоў, я адчуваю, што гэты свет за акном – мой родны свет – становіцца іх светам, і пачуваюся, як старавер сярод ахрышчаных у яго веру нядаўніх бязбожнікаў* (В. Палтаран. Дзівасіл).

Камбінаваная С. – сінтаксічная сувязь у складаных сказах (выказваннях, тэкстах), дзе ў наяўнасці злучэнне і падпарадкаванне: *Адным словам, здавалася, што вецер раззлаваўся, як той дзядзька Піліп, які, бачачы, што ён адзін толькі працуе ў хаце, а ўсе туляцца ад работы, як сабакі ад мух, і што адзін ён нічога не ўскурае, – плюнуў, кінуў работу і лёг у халадок, сказаўшы: "Чорт жа вас быры!"* (Я. Колас. Недаступны).

У звышфразавых (звышсказавых) адзінствах *(гл.)* вылучаецца паралельная, ланцужковая і далучальная С. Напрыклад:

1. *Жыхары невялічкай вёскі Трасцянец, што кіламетраў за адзінаццаць на ўсход ад Мінска, ужо даўно не адважваліся наведацца на сваё поле за шашой, якое межавала з хвойным пералескам. Страшныя расказы ішлі пра гэты пералесак. Казалі, што гітлераўцы душаць у тым пералеску людзей, прывозячы іх на машынах з горада, а часам падвозячы свае ахвяры эшалонамі…* (М. Лынькоў. Векапомныя дні);

2. *Гітлераўцы паехалі, а некалькі афіцэраў ды салдаты ўсё нешта хадзілі, мералі зямлю, ставілі тычкі. Сяляне ціцком выглядалі з сваіх хат, пазіралі і думалі, гадалі, чаго з'явіліся сюды гітлераўцы, навошта мераюць яны іхнюю зямлю. Нехта сказаў:*

*– Няйначай новыя магілы будуць капаці, каб і тут людзей душыці…* (М. Лынькоў. Векапомныя дні);

3. *Так узнік Трасцянец. Не вёска Трасцянец, якая існавала даўно, а Трасцянецкі канцэнтрацыйны лагер, праз які прайшлі сотні тысяч людзей, прайшлі толькі ў адным кірунку: туды; адтуль назад ужо не вяртаюцца. Сентыментальныя душагубы абсадзілі кароткую прасёлачную дарогу ад шашы да лагера маладымі таполямі…* (М. Лынькоў. Векапомныя дні).

У пералічаных прыкладах ключавыя словы *(гл.) Трасцянец, шаша, пералесак, душыць, гітлераўцы, душагубы* і інш. дапамагаюць сінтаксічнай і іншай С. слоў у тэксце.

*Параўн.:* сувязь, сінтаксічныя адносіны, сінтаксічная сувязь (СЛТ, 1990, сс. 124, 143).

**СУДЖЭННЕ** – 1) думка, выражаная ў форме апавядальнага сказа *(гл.)*, у якім нешта сцвярджаецца / адмаўляецца, таму сама думка з'яўляецца аб'ектыўна або ісціннай, або ілжывай. Напрыклад: *Усе планеты верцяцца вакол Сонца* і *Студэнт здасць / не здасць экзамен на "10".* Першае суджэнне ісціннае, другое – ілжывае, бо *Студэнт можа зусім не здаць экзамен* або ў канчатковым выніку *Студэнт здаў экзамен на "2";* 2) тое, што і ВЫКАЗВАННЕ *(гл.)*. Да ліку С. не адносяцца думкі, што не могуць быць ахарактарызаваныя з пункту гледжання пытання (пытальныя сказы), загаду (пабуджальна-клічныя, імператыўныя сказы), просьбы, пажадання і г. д.

С. падзяляюцца на простыя і складаныя, адзінкавыя і агульныя, сцвярджальныя і адмоўныя, катэгарыяльныя і экзістэнцыяльныя і шмат інш. Складаныя С. узнікаюць з простых С. пры дапамозе розных звязак: злучнікаў "і" (кан'юнкцыя), "ці" і "або" (дыз'юнкцыя), "калі … то" (імплікацыя).

У традыцыйнай фармальнай логіцы ў якасці простых С. разглядаліся звычайна 4 віды С. (так званая Арыстоцелевая сілагістыка): 1) "Усе S ёсць P", дзе "S" – знак суб'екта, "P" – знак прэдыката, а "ёсць" – звязка: напр., *"Усе вожыкі калючыя"*; 2) "Ні адно S не ёсць P": *"Ні адзін кіт не ёсць рыба"*; 3) "Некаторыя S ёсць P": *"Некаторыя металы вадкія"*; 4) "Некаторыя S не ёсць P": *"Некаторыя металы не акісляюцца"*. Больш дэтальна разгледжаны С. у матэматычнай логіцы.

*Параўн.:* суждение (ФЭ, V, сс. 159-162), (ЛЭС, с. 499), (РБСОЛ, с. 1015).

**СУПЛЕТЫВІЗМ, СУПЛЕТЫЎНЫЯ ФОРМЫ** – утварэнне граматычных форм, самі формы таго самага слова ад розных каранёў або асноў накшталт *чалавек – людзі; ты – цябе; вялікі – большы* і г. д.

*Два браты, самыя меншыя Тарасавы сыны, выбіралі цёмны куток і пачыналі весці гутарку.*

*– А заўтра мы будзем шукаць на стале зярняты?*

*– А як жа?! І якіх зярнят больш будзе, тое збожжа налета лепш уродзіцца* (Я. Колас. Калядны вечар).

Формы, утвораныя шляхам суплетывізму, могуць быць: а) формы ступеняў параўнання прыметнікаў: *вялікі – большы; добры – лепшы; кепскі – горшы* і г. д.; б) формы ступеняў параўнання прыслоўяў: *добра – лепш, лепей; кепска – горш, горай; мала – менш* і г. д.; в) формы ліку назоўнікаў і займеннікаў: *чалавек – людзі; ты – вы* і г. д.; г) формы склону назоўнікаў і займеннікаў: *я – мяне;браты і сёстры – братоў і сясцёр; мы – нас* і г. д.; д) формы трывання дзеясловаў: *браць – узяць; гаварыць – сказаць* і г. д.

*Параўн.:* гетеронимия, суплетивизм (СЛТ, 1969, сс. 98, 463), (СЛТ, 1972, с. 433), (РЯЭ, с.340), суплетывізм і суплетыўныя формы (СЛТ, 1990, с. 144).

**СУФІКСЫ СУБ'ЕКТЫЎНАЙ АЦЭНКІ** – суфіксы, пры дапамозе якіх утвараюцца формы С. А. Найперш гэта ДЭМІНУТЫВЫ І ПЕЯРАТЫВЫ *(гл.)*.

*Правільней варочаў, капаў зямлю бацька, а ён, Міколка, больш важдаўся ля агню – пёк у прыску пячонікі, смажыў на ражончыку сала... Юлік Бязмен… жартаваў:*

*– Цётка Аўдуля, здымай з гарышча соль: А то соль праломіць столь!* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

*Параўн.:* суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі (СЛТ, 1990, с. 145).

**СЭНС, СЭНСАВАЯ СТРУКТУРА ТЭКСТУ** – *гл.* ТЭКСТ (МАКРАТЭКСТ, МІКРАТЭКСТ, ГІПЕРТЭКСТ).

**СЮЖЭТ, СЮЖЭТАБУДАВАННЕ** – 1) паслядоўнасць і сувязь падзей, іх апісанне ў літ.-мастацкім творы; 2) тое, што і ФАБУЛА *(гл.)*. "Добра разумеючы, што іменна чалавечы характар – аснова сюжэта ў рамане, "Ненавіснікі" гэтага жанра спрабуюць "выбіць" чалавечы характар з мастацкай літаратуры, прапануючы класці ў аснову кампазіцыі не "біяграфію чалавека", а "біяграфію рэчы", – піша з вялікай крыўдай А. М. Адамовіч у сваёй манаграфіі "Беларускі раман: станаўленне жанра" (Мінск: Выд-ва АН БССР, 1961. – С. 14). Такім чынам, С. – гэта сістэма падзей у творы, у якой раскрываецца і развіваецца характар. С. звычайна грунтуецца на канфлікце, на супярэчнасцях, што ўзнікаюць паміж дзейнымі асобамі (персанажамі, героямі), іх поглядамі і перакананнямі, пачуццямі і імкненнямі. Развіццё С. ідзе па наступных этапах: *экспазіцыя* (у ёй аўтар знаёміць з месцам, часам дзеяння і героямі (персанажамі, дзейнымі асобамі); *завязка* (падзея або некалькі падзей, якія ўцягваюць дзейных асоб у канфлікт, спрэчку, барацьбу дзейных асоб); *кульмінацыя* (момант найвышэйшага напружання ў развіцці дзеяння); *развязка* (падзея, у якой вырашаецца канфлікт і пасля якой развіццё дзеяння спыняецца). С. не заўсёды мае ў аснове вострую барацьбу.

Сюжэтаўтварэнне – гэта стварэнне сюжэта ў літаратурна-мастацкім творы. С. грунтуецца на канфлікце, на супярэчнасцях, што ўзнікаюць паміж персанажамі, іх поглядамі, перакананнямі, пачуццямі і імкненнямі. Гэта так званыя сюжэтныя лініі, якія часцей за ўсё прысутнічаюць у буйных эпічных творах, напрыклад, С. Л. Васіля, Ганны і Апейкі ў "Людзях на балоце" І. Мележа. Паводле высноў В. П. Рагойшы, лірычныя творы С. не маюць, а ў эпічных творах С. адсутнічае ў абразках, бо апавяданні і аповесці маюць толькі адну сюжэтную лінію.

*Параўн.:* сюжет (СЭС, 1985, с. 1291), (ЛітЭС, 1987, с. 431), сюжэт (ЭнЛіМБел, V, сс. 209-210), (Рагойша, 2003, сс. 134-135), (ПЭ, с. 785).

**СЯРЭДНЯВЕЧЧА** – тэрмін, упершыню ўжыты рымскім археолагам і гісторыкам Флавіё Біенда (1388-1464) у працы "Гісторыя ад падзення Рыма", дзе гэтак быў названы перыяд ад антычнасці да Новага часу. Як эпоху "сярэдняй" ці "нізкай" лаціны Сярэднявечча ўсведамлялі гуманісты XVI-XVII стст., якія разумелі Рэнесанс толькі як адраджэнне Антычнасці. І толькі ў канцы XVII ст. гэты тэрмін уводзіцца ў перыядызацыю гісторыі прафесарам філалогіі і геаграфіі ў Гале (паўднёваўсходняя Германія) Крыстаферам Келерам (ці Цэларыусам, 1634-1707), ён падзяляў гісторыю на тры перыяды: Антычнасць, Сярэднявечча, Новы час. У Цэларыуса Сярэднявечча пачынаецца з Канстанціна Вялікага (306-337) і канчаецца ўзяццем туркамі Канстанцінопаля (1453). У XVIII ст. "Сярэдневечча" – гэта часы забабонаў, цемрашальства, уціску розуму, асабліва для рэвалюцыянераў (якабінцаў). XIX ст. – эпоха Рэстаўрацыі, з зацікаўленнем пачынае даследаваць папярэдні гістарычны перыяд, прапануецца тэорыя аб непарыўным прагрэсіўным развіцці ад Сярэдніх вякоў да Новага часу. Эпоху феадалізму як сістэму даследавалі ў XIX ст. Гізо (1787-1874) і Фюстэль дэ Куланж (1830-1889). У расійскай гісторыяграфіі феадалізм напачатку разглядаўся толькі як заходнееўрапейская асаблівасць, потым ён стаў ужывацца ў дачыненні да цэнтральна-, усходнееўрапейскіх краін. Ва ўсіх цэнтральных і ўсходнееўрапейскіх краінах, у афра-азіяцкім рэгіёне рысы феадалізму захоўваліся да XIX ст., уводзіцца разуменне позняга Сярэдневечча (XIV-XVII стст.): эпохі Адраджэння, Барока, Класіцызму, Асветніцтва (Яскевіч, 1999, с. 280).

*Параўн.:* средневековье (РБСОЛ, с. 995).

# Т

**ТАЙНАПІС** – пісьмо, заснаванае на пэўных шыфрах, вядомых толькі асобнаму колу людзей. *Гл.* КРЫПТАГРАФІЯ.

*Параўн.:* тайный язык (РЯЭ, с. 346).

**ТАЙНЫЯ МОВЫ** – *гл.* АРГО, ЖАРГОН.

**ТАКТ МАЎЛЕНЧЫ** – звяно маўленчай плыні з сваім націскам. *Гл.* СІНТАГМА.

**ТАЛЕНТ** – 1) асаблівыя ад нараджэння здольнасці; Божы дар; прыродная адобранасць; 2) выключныя здольнасці чалавека ў якой-н. галіне. *Талент – гэта*

*высокае паэтычнае майстэрства, памножанае на вастрыню светаўспрымання і глыбіню светаразумення.* (В. П. Рагойша. Паэтычны слоўнік). *Гл.* ТВОРЧАСЦЬ, ТВОРЧЫ ПРАЦЭС.

*Параўн.:* талант (СЭС, 1985, с. 1296), талент (ТСБЛМ, 2002, с. 651), (Рагойша, 2003, с. 107).

**ТАНАЛЬНАСЦЬ** – 1) складаны комплекс прасадычных з'яў, якія ўключаюць мелодыку, рытм, інтэнсіўнасць, тэмп і лагічны націск, што служаць у сказе як для выражэння розных сінтаксічных катэгорый і значэнняў, так і экспрэсіўных ці эмацыянальных афарбовак; *гл.* РЫТМАМЕЛОДЫКА; 2) прынцып арганізацыі гарманічнага цэлага на аснове падпарадкавання сугуччаў, тонаў, паслядоўнасцей і інш. цэнтральнаму элементу; 3) сістэма лагічна дыферэнцыраваных сувязей на аснове галоўнага тону, які рэгулюе прыцягненне гукавышынных элементаў. *...Тэмп, рытм і танальнасць беларускага маўлення ў параўнанні з рускім характарызуюцца большай павольнасцю, плаўнасцю і мяккасцю...* (М. Я. Цікоцкі. Стылістыка беларускай мовы).

Тон – гэта найперш кантрастнае вар'яванне высотна-меладычных галасавых характарыстык пры вымаўленні моўных адзінак. Тон і Т. традыцыйна адносяцца да фаналогіі або акцэнталогіі, але ў сярэдзіне XX ст. узнікае асобная навука – таналогія як раздзел (падраздзел) прасодыкі *(гл.).* У таналогіі вывучаецца асобная ўласная адзінка – танема, як і фанема *(гл.).*

Тэрмін Т. выкарыстоўваецца пераважна ў музыказнаўстве, але з абазначэннем спалучэння колераў, каларыту, асноўнай эмацыянальнай настраёвасці (настрою, настроенасці) ужываецца ў літаратуразнаўстве. Лінгвістычнае разуменне танальнасці часцей за ўсё зводзіцца да разумення тону, тэмбру і інтанацыі *(гл.).* Паводле В. С. Ахманавай, Т. – 1) тое, што інтанацыя; 2) вышыня гука, што характарызуе галосны ў нармальнай шкале вышынь – и > о > а > е > і (СЛТ, 1969, сс. 476-477). У беларускім мовазнаўстве тэрміны "тон" і "танальнасць" як раўназначныя выкарыстала В. М. Саўчанка ў калектыўнай манаграфіі "Мова сучаснай беларускай мастацкай літаратуры" (Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2005. – Сс. 100-126): "Павышэнне і паніжэнне танальнасці перыяду ў прыведзеным прыкладзе (*М. Танк. Я не наракаю на вецер... – М. А.*) аформлена ў асобныя сказы, далучэнне паніжэння стварае эфект падачы інфармацыі нібы без папярэдняга абдумвання. Але такім чынам толькі ўзмацняецца сэнсавае і лагічнае выдзяленне паніжэння тону, удакладненага аднароднымі выказнікамі, якія раскрываюць сэнс усіх строф павышэння тону..." (с. 103).

*Параўн.:* тон (КЛЭ, VII, с. 575), (ЛЭС, 1990, с. 515), танальнасць (ЭнЛіМБел, V, с. 234), (ТСБЛМ, 2002, с. 652).

**ТАЎТАЛОГІЯ** – нематываванае, адначасовае, збыткоўнае выкарыстанне блізказначных слоў ці выразаў; нелагічны паўтор таго самага ў маўленні.

М. Я. Цікоцкі лічыць Т. разнавіднасцю плеаназма *(гл.)*, або гіперхарактарызацыяй моўных сродкаў (М. Я. Цікоцкі. Стылістыка беларускай мовы. – Выд. 2-е. – Мінск: Універсітэцкае, 1995. – С. 85). Прыклады могуць быць самыя разнастайныя:

1. *Масла масленае. Свая аўтабіяграфія. Пабег подбегам* і г. д.

2. *... з гаражовай страхі белым пылам сплывала завея і сцябала твар* (І. Канановіч. Дзверы).

3. *Усе мы ведалі, што ён тут быў два разы. Сустракаўся з мясцовымі людзьмі і ведае пра выток Дняпра столькі, што мы разам таго не ведаем* (П. Сабіна. Рака трох народаў).

Аднак такога роду стылістычныя (стылёвыя) памылкі *(гл.)* не варта зблытваць са стылістычнымі прыёмамі, калі знарочыста моўныя адзінкі паўтараюцца (*гл.* ПАЎТОРЫ) для ўзмацнення стылістычнага эфекту *(гл.)*. Напрыклад:

1) *Выспела дзеўка, глядзі, пераспее.* (У. Міхно. Каскадзёр); *Хаты былі на востраве. Востраў гэты, праўда, не кожны прызнаў бы за востраў – аб яго не плёскаліся ні марскія, ні нават азёрныя хвалі. Навокал адно гніла куп'істая дрыгва ды моклі панурыя лясы* (І. Мележ. Людзі на балоце).

2) *Праблема станаўлення жанра рамана ў нацыянальнай літаратуры – гэта амаль заўсёды адначасова і праблема сталасці літаратуры* (А. М. Адамовіч. Беларускі раман).

3) У залежнасці ад адносін дзеяння да аб'екта дзеясловы падзяляюцца на дзве групы: дзеясловы пераходныя і непераходныя. Да пераходных адносяцца дзеясловы, што выражаюць дзеянне, якое непасрэдна або ўскосна пераходзіць на другі прадмет (у граматычным сэнсе гэтага слова): *жаць авёс, кляпаць касу, прыпыніць бег, выпіць квасу, смуткаваць па сябрах, камандаваць палком* і інш. (Граматыка беларускай мовы. Том І. Марфалогія. – Мінск: Выд-ва АН БССР, 1962. – С. 308).

Нельга зблытваць Т. з рэдуплікацыяй *(гл.)* накшталт *дзе-нідзе, ледзь-ледзь, раз-пораз* (прыслоўі), *ку-ку, кра-кра, кар-кар* (гукаперайманні), *белы-белы, высокі-высокі* (прыметнікі), *гогаль-могаль, фіглі-міглі, шуры-муры* (назоўнікі) і інш.

Ёсць вялікая колькасць унармаваных (нарматыўных) таўталагічных фразеалагізмаў тыпу *даўным-даўно, з году ў год, хочаш не хочаш, вока за вока, зуб за зуб, воляй няволяй, седзьма сядзець, крычма крычаць* і шмат інш.

У гутарковых стылях, а пад іх уплывам у паэтычных творах шырока выкарыстоўваецца Т. як экспрэсіўна-эмацыянальны сродак: *Свіснуў раз, свіснуў два // Шустры паравозік, // І павёз, і павёз // За возікам возік…* (Я. Купала. Над ракой Арэсай).

*Параўн.:* тавтология (КЛЭ, VII, с. 236), (СЛТ, 1969, с. 457), (ЛЭС, 1990, с. 501), таўталогія (СЛТ, 1990, с. 147), (ЭнЛіМБел, V, с. 251), (Рагойша, 2001, с. 322.).

**ТВОРЧАСЦЬ, ТВОРЧЫ ПРАЦЭС** – адухоўленая дзейнасць творцы (мастака), у выніку якой ствараецца мастацкае ці іншае звязнае маўленне.

У "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" пад рэд. М. Н. Крыўко і М. Р. Судніка (Мінск, 2002) слова "творчасць" тлумачыцца, як "Дзейнасць чалавека, накіраваная на стварэнне культурных, духоўных і матэрыяльных каштоўнасцей" (с. 656). Практычна кожны чалавек – тварэц думкі, якую перадае іншым у вусным ці пісьмовым маўленні. Аднак у пераважнай большасці творчымі людзьмі лічацца вучоныя, пісьменнікі і журналісты, бо іх творчы працэс, асаблі-

ва яго вынікі, у кожнага на віду ці афармляецца як разнастайная друкаваная прадукцыя. І, зразумела, перавага тут аддаецца пісьменнікам, нават і не з вялікім талентам *(гл.)*. Ды і літаратуразнаўцы не супраць узвысіць магутны талент над усім светам, амаль нароўні з Богам. Вось, напрыклад, у 1961 г. У. Юрэвіч выказаўся так: *"Творчасць кожнага пісьменніка нельга разглядаць, пакідаючы паза ўвагай яго асобу, як чалавека з пэўным жыццёвым вопытам, асаблівасці яго светаадчування і склад яго мастацкага таленту, бо ўсё гэта кладзе адбітак на ўсе яго творы, вызначае своеасаблівасць яго творчага шляху, з'яўляецца адной з адзнак яго стылю"* ("Слова і вобраз", с. 66).

Паводле "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (т. V, с. 252), творчасць мастацкая – гэта галіна эстэтычнай дзейнасці, скіраваная на стварэнне якасна новых духоўных каштоўнасцей ці напаўнення традыцыйных новай якасцю. Таксама там жа адзначаецца, што сапраўдная Т. адрозніваецца ад рамяства (майстэрства), якое толькі ўзнаўляе традыцыю і з'яўляецца неабходным грунтам, і што разглядаецца Т. М. на 2 узроўнях: філасофскім і псіхалагічным.

Паводле "Філасофскай энцыклапедыі" (т. 5. – М.: СЭ, 1970. – С. 185), Т. – гэта дзейнасць, якая нараджае нешта новае, ніколі раней не былое ("бывшее"). Дзейнасць індывіда можа выступаць як Т. у любой сферы: навуковай, мастацкай, вытворча-тэхнічай, гаспадарчай, палітычнай і г. д., увогуле ўсюды, дзе ствараецца, адкрываецца, вынаходзіцца нешта новае. Тамсама ўдакладняецца, што з філасофскага пункту погляду патрэбна даць адказ на пытанне, як увогуле магчыма Т. і які анталагічны сэнс акта Т., а з псіхалагічнага – які псіхалагічны "механізм" працякання акта Т. як суб'ектыўнага акта індывіда. Філосафы лічаць, што Т. уяўляецца як узнікшая ў працы здольнасць чалавека з матэрыялу рэчаіснасці ствараць на аснове пазнання заканарнасцей аб'ектыўнага свету новую рэальнасць, адпаведную (патрэбную, якая задавальняла б многіх) шматлікім грамадскім патрэбам ("потребностям"). Таму любая праца можа быць Т., а віды (разанвіднасці) яе вызначаюцца характарам стваральнай дзейнасці: Т. вынаходніка, арганізатара, навукоўца, мастака і г. д. Магчымасці для дзейнасці залежыць ад грамадскіх адносін.

Псіхолагі лічаць, што, будучы па сваёй сутнасці культурна-гістарычнай заўвагай, Т. мае найперш псіхалагічны аспект: асобасны і працэсуальны. Яна прадугледжвае наяўнасць у асобы здольнасцей, матываў, ведаў і ўменняў, дзякуючы якім ствараецца прадукт, што адрозніваецца навізной, арыгінальнасцю, унікальнасцю. Вывучэнне гэтых уласцівасцей асобы выявіла важную ролю ўяўлення, інтуіцыі, неўсвядомленых кампанентаў разумовай актыўнасці, а таксама патрэбнасці асобы ў самаактуалізацыі, у раскрыцці і пашырэнні сваіх стваральных магчымасцей. Абумоўленасць Т. той сферай культуры, у якой яна аналізуецца (вытворчасць, тэхніка, мастацтва, навука, палітыка, педагогіка і інш.), патрабуе выявіць своеасаблівасць псіхалогіі Т. у кожнай з іх, а таксама характар адносін паміж імі.

Т. працэс у мастацтве – гэта адухоўленая дзейнасць мастака (творцы), у выніку якога ствараецца мастацкі твор *(гл.)*. На асобасным узроўні адбываецца

пераход ад суб'ектыўнага ўсведамлення мастацкай задумы да яе завершанай аб'ектывацыі (у форме мастацкага твора), якая ажыццяўляецца індывідуальна. Т. П. немагчымы без дастатковай сацыялізацыі асобы, без яе далучанасці да скарбніц духоўнай культуры. Узроўні Т. П. рэалізуюцца ў гарманічным развіцці, узаемадзеянні і адпаведна як узроўні эмацыянальнага і рацыянальнага, дыялектычна-супярэчлівае адзінства якіх і складае аснову Т. П. Творчая гісторыя таго ці іншага літаратурна-мастацкага твора разглядаецца тэксталогіяй або гісторыяй тэксту *(гл.)*.

*Параўн.:* творчество (ФЭ, V, 1970, сс. 185-188), (КЛЭ, VII, сс. 429-431), (КПС, 1985, сс. 351-352), творчасць і творчы працэс (ЭнЛіМБел, V, сс. 252-253).

**ТВОРЧАЯ ГІСТОРЫЯ** – узнаўленне працэсу напісання твора, вывучэнне літаратурных, грамадскіх умоў, біяграфічных, сацыяльна-псіхалагічных фактараў, якія ўплывалі на ўзнікненне і ажыццяўленне творчай задумы, на яе эвалюцыю, змену першапачатковых планаў; вывучэнне працы аўтара па ўдасканальванні мовы, стылю, вобразнай сістэмы, кампазіцыі твора. У працэсе вывучэння выкарыстоўваюцца падрыхтоўчыя матэрыялы, планы, чарнавыя накіды, варыянты і рэдакцыі, карэктуры, прыжыццёвыя друкаваныя выданні, сведчанні ў лістах, дзённіках, у мемуарнай літаратуры (Мушынскі, 2007, с. 406).

Пытанні, народжаныя непасрэдна практыкай падрыхтоўкі розных выданняў, неабходна прыняць як канкрэтныя рашэнні, напрыклад:

– якую крыніцу тэксту таго ці іншага твора абраць за асноўную і дзе найбольш поўна праявілася аўтарская творчая воля?

– якімі павінны быць змест і структура рэальнага, гісторыка-літаратурнага, бібліяграфічнага каментара, форма падачы рэдакцыяй і варыянтаў у новых выданнях пры параўнанні з ранейшымі Зборамі твораў?

– як дакладна ўстанавіць розніцу паміж новай рэдакцыяй і перапрацоўкай твора, звязанай з яго стылёвым удасканальваннем?

– як датаваць творы, што ў пазнейшы час зведалі значную тэкставую перапрацоўку? Да якога перыяду дзейнасці іх трэба адносіць і ў якім раздзеле друкаваць, калі, напрыклад, верш Купалы ці Коласа дарэвалюцыйнай пары быў істотна перагледжаны ў 40-50-я гады?

– ці мэтазгодна, як гэта рабілася папярэднікамі, друкаваць у новых Зборах твораў публіцыстычныя і літаратурна-крытычныя артыкулы без дыферэнцыяцыі ці лепей змясціць іх пад самастойнымі рубрыкамі, паколькі яны з'яўляюцца адметнымі жанравымі формамі?

Асаблівую складанасць для складальнікаў пэўных тамоў уяўляла гісторыя рэдагавання твораў, высвятленне прычын, якія паўплывалі на змену тэксту: што было тут галоўным, вызначальным – творча-мастацкія фактары, пераасэнсаванне ідэйнай задумы ці, наадварот, пабочнае ўмяшанне?

Гэтакімі ж актуальнымі заставаліся і пытанні выпрацоўкі плана-праспекта і агульнай канцэпцыі шматтомных Збораў твораў, пытанні арганічнай спалучальнасці, узгодненасці жанравага і храналагічнага прынцыпаў размяшчэння

вершаў, апавяданняў, паэм, аповесцей ва ўсім выданні і ў асобных тамах. Канцэпцыя новага Збору твораў павінна была ўлічваць шматлікія моманты, такія, у прыватнасці, як стан вывучанасці і захаванасці літаратурнай спадчыны пісьменніка; паўната і фармат выдання яго твораў; ступень навуковага асэнсавання персанальнай тэксталогіі твораў; умовы і абставіны, у якіх жыў і працаваў пісьменнік.

Згаданыя тут моманты і сапраўды маюць непасрэднае дачыненне да характару выдання, між іншым, не толькі Купалы і Коласа. Так, калі Збор твораў рыхтуецца ўпершыню, а творчасць пісьменніка вывучана недастаткова, у такім разе патрэбен грунтоўны літаратурны каментарый або разгорнутыя прадмовы ці пасляслоўі як эфектыўны сродак папулярызацыі твораў паэта ці празаіка. Пры наяўнасці ж некалькіх навукова каментаваных Збораў твораў новае выданне пажадана зрабіць калі не поўным, дык набліжаным да поўнага. Адпаведна і змест каментарыя, форма падачы ў ім варыянтаў будуць шмат у чым інакшымі, разлічанымі на падрыхтаванага, дасведчанага чытача (Мушынскі, 2007, с. 7).

**ТРОПЫ** – 1) адзін з найважнейшых і старажытнейшых прыёмаў стварэння мастацкага вобраза *(гл.)*; 2) слоўныя вобразы, заснаваныя на ўжыванні слоў, словазлучэнняў, сказаў з пераносным значэннем дзеля ўзмацнення выяўленчасці і выразнасці маўлення. Т. дапамагаюць лаканічна і вобразна выявіць сутнасць з'явы, індывідуалізаваць яе, даць ёй ацэнку. У магчымасці пазнання і адлюстравання жыцця, павялічваюць сэнсавую ёмістасць слова, узбагачаюць маўленне новымі адценнямі, дапамагаюць пісьменніку стварыць яркія вобразы і праз іх выяўляюць сваю ацэнку жыццёвых з'яў, свае адносіны да іх. Адрозніваюць Т. простыя: *эпітэт, параўнанне;* складаныя: *метафара, метанімія, сінекдаха,алегорыя, сімвал (гл.), гіпербала, літота, іронія, гратэск, перыфраза, паэтычны этымалагізм;* канкрэтна-пачуццёвыя: *успрымаюцца* з дапамогай асацыятыўных магчымасцей зроку, слыху, дотыку, абаняння і асязання; умоўна-асацыятыўныя: *вызначаюцца* вялікай доляй умоўнасці, здольнасцямі лагічнага мыслення чалавека, яго ведаў, жыццёвай дасведчанасці. Багацце Т. прадвызначае метафарычны ("вобразны") стыль, адсутнасць іх – аўталагічны ("бязвобразны") стыль маўлення. *Гл.* ФІГУРЫ МАЎЛЕННЯ.

*Параўн.:* троп, тропический (СЛТ, 1969, с. 481), тропы (ЛЭС, сс. 520-521), троп (СЛТ, 1990, с. 149), (СЭСРЯ, 2006, сс. 559-560).

**ТРЫ ЗАКОНЫ ДЭКАРЭЛЯЦЫІ** – працэс, калі з'ява дэкарэляцыі закранае марфалагічную прыналежнасць слова. Напрыклад, формы на *-у / ючый, -а / ячый* – не з'яўляюцца дзеепрыметнікамі цяперашняга часу ў сённяшнім нашым разуменні. Як зазначае Г. М. Міляйкоўская, поўныя дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу нават у старажытнарускай мове ўтвараліся ад вельмі нямногіх асноў дзеяслова, былі няўстойлівыя, а таму пераходзілі амаль адразу ў прыметнікі (*ползучий, летучий* і г. д.). Апошняе мела асаблівае распаўсюджанне ў старабеларускай мове. Менавіта такія, на думку А. Клышкі, аддзеяслоўныя прыметнікі (а не дзее-прыметнікі!) увайшлі ў беларускую мову і сустракаюцца цяпер пераважна ва ўстойлівых выразах: *прапашчы чалавек, валачашчы сабака, калючы дрот, ляжачы камень* і інш. Магчыма, ужыванню некаторых з гэтых

форм, такіх, як *стаячы, ляжачы*, спрыяе тое, што ў сучаснай мове іх як бы падмацоўваюць назоўнікі *“стаяк”, “ляжак”*, ствараецца падабенства адназоўнікавымі прыметнікамі (*рыбак – рыбачы, прымак – прымачы*). Няцяжка заўважыць, што першая ступень дэкарэляцыі, набыўшы ўсе правы гістарычнай з’явы, з тых часоў захавалася ў беларускай мове і дала цікавыя словаўтваральныя вынікі.

Пад другую ступень дэкарэляцыі пераходных форм аддзеяслоўных прыметнікаў (субстантывацыя па тыпу *падарожны*), як паказвае матэрыял старабеларускіх помнікаў, падпалі нешматлікія словы: *стяжатель – набываючий, стрететатель – заостряющий, наказатель – караючий*.

Але паколькі нашай мове формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану, асабліва субстантываваныя, не былі характэрныя (нават Ламаносаў дазваляў іх выкарыстоўваць толькі ў высокім стылі), таму ў старабеларускай мове яны выкарыстоўваліся толькі ў царкоўнаславянскім (беларускай рэдакцыі) пласце, якому, дарэчы, яны былі характэрны ў значна меншай ступені, чым адпаведнаму ў старарускай. Такія формы адчувалі сябе ў мове, ва ўласна беларускай, мякка кажучы, эўфанічна няўтульна.

Таму невыпадкова, што беларускім прыметнікам на *-уч* звычайна адпавядаюць назоўніккі (*рашучы – рашучасць, скрыпучы – скрыпучасць, неўміручы – неўміручасць*). Гэта, відавочна, III ступень дэкарэляцыі дзеепрыметнікаў. Мова не прымала субстантываваных дзеепрыметнікаў. І, як у выпадку з супінам і неазначальным ладам, што пераканаўча паказаў А. А. Патабня ў сваёй доктарскай дысертацыі “Из записок по русской грамматике”, моўны механізм перакадзіраваў іх праз аддзеяслоўныя прыметнікі ў аддзеяслоўныя назоўнікі: *набываючий – набыццё, заостряючий – завастрэнне, караючий – пакаранне*. Зазначым, шго III законы дэкарэляцыі былі адкрыты Іванам Ужэвічам (Яскевіч, 1999, с. 281).

**ТЫПІЗАЦЫЯ** – працэс раскрыцця і ўзнаўлення тыповых характараў і тыповых абставін у літаратурна-мастацкім творы *(гл.)*, асноўны метад мастацкага пазнання, адлюстраванне тыповага *(гл.)*. Ажыццяўляецца шляхам вобразнага выяўлення ў прыродзе, грамадскім і духоўным жыцці эстэтычна значымых заканамерных прыкмет, што з’яўляюцца агульнымі для ўсіх ці большасці індывідуальных з’яў і прадметаў данага віду або роду. У аснове Т. – наяўнасць тыповага ў самой рэчаіснасці і здольнасць мастацкага маўлення да абагульнення, вобраза мастацкага *(гл.)*.

**ТЫПІЗАЦЫЯ І ТЫПОВАЕ** – лінгватэксталагічныя катэгорыі.

**ТЫПОВАЕ** – адзінства агульнага і індывідуальнага ў канкрэтна-пачуццёвым вобразе (мастацкім вобразе, вобразе-характары, вобразе-тыпе), у тыповых характарах і іх узаемадзеянні, у іх сувязях з абставінамі рэчаіснасці; пamастацку ўвасоблены змест і сутнасць канкрэтных узаемаадносін асобы з грамадствам, навакольным светам, часам. Т. – гэта форма мастацкага абагульнення жыцця, уласцівая рэалізму. У рамантычных творах, напрыклад, пісьменнік ідзе шляхам ідэалізацыі характараў, паказу герояў і абставін незвычайных, выключных. У Т. адлюстроўваюцца і агульначалавечыя рысы. Літаратурныя вобразы-тыпы і вобразы-характары маюць вялікае пазнавальнае і выхаваўчае значэнне. Яго маюць не толькі станоўчыя, але і адмоўныя вобразы-тыпы і вобразы-

характары: яны “папярэджваюць” нас ад памылак у жыцці, паказваюць, да чаго апошнія прыводзяць.

*Параўн.:* тип, типическое (КЛЭ, VII, сс. 507-511), тып, тыпізацыя, тыповае (ЭнЛіМБел, V, сс. 296, 298-300).

**ТЫПЫ І ВІДЫ ВЫДАННЯЎ**. ТЫП выдання залежыць ад характару работы над тэкстам, ВІД – ад складу выдання. Паводле ТЫПАЎ выданні падзяляюцца на *дакументальныя, крытычныя і масавыя.* Паводле ВІДАЎ – *на поўны збор твораў, збор твораў, выбраныя творы, зборнік твораў, выданне аднаго твора.* У *дакументальных* выданнях тэкст крыніцы ўзнаўляецца з заахваннем усіх асаблівасцей – фотамеханічным спосабам (факсімільнае выданне) і наборным (дыпламатычнае выданне, пераважна ў медыявістыцы *(гл.)*). *Крытычныя* – гэта выданні, пры падрыхтоўцы якіх тэкстолагам праводзілася навуковая крытыка тэксту. Прызначэнне крытычных выданняў – даць чытачам, спецыялістам дакладны аўтарскі тэкст, раскрыць лабараторыю творчасці пісьменніка, вызначыць этапы стварэння твораў і ў выніку паказаць фарміраванне асобы пісьменніка. Служыць асновай для разлічаных на шырокую чытацкую аўдыторыю папулярных *масавых* выданняў, у якіх устанаўліваюцца адпаевдныя суадносіны паміж науковымі патрабаваннямі і практычнай неабходнасцю. У залежнасці ад мэтавага прызначэння крытычныя выданні могуць быць а к а д э м і ч н ы м і, н а в у к о в ы м і і н а в у к о в а - м а с а в ы м і. Акадэмічныя выданні – вышэйшы тып навуковага выдання. Характарызуецца дакладнасцю тэксту; паўнатой корпуса, поўным зводам рэдакцый і варыянтаў; грунтоўным каментарыем і навукова-даведачным апаратам: дакладны тэкст ўстанаўліваецца на аснове вывучэння гісторыі тэксту і ўсіх наяўных друкаваных і рукапісных крыніц. Паўнату забяспечваюць уключаныя ў выданне завершаныя і незавершаныя мастацкія, публіцыстычныя, літаратурна-крытычныя творы, навуковыя працы, творы, напісаныя ў сааўтарстве, калектыўныя творы, накіды, планы, іншыя рэдакцыі і варыянты, творы, якія прыпісваюцца аўтару, лісты, дзённікі, запісныя кніжкі, дарчыя надпісы, дзелавыя паперы і г. д. У навуковым каментарыі абагульняюцца вынікі даследавання тэкстаў і прыводзяцца звесткі пра яго крыніцы, пра існуючыя рэдакцыі, даецца абгрунтаванне выбару тэкстаў, атрыбуцыі, датавання і іншых тэксталагічных рашэнняў. Акдэмічныя выданні выкарыстоўваюцца для даследаванняў гуманітарнага профілю, замяняюць першакрыніцы, якія сталі бібліяграфічнай рэдкасцю (Мушынскі, 2007, сс. 406-407).

Тыпы каментарыя: тэксталагічны, гісторыка-літаратурны, рэальны, слоўнікавы (лінгвістычны). Змест *тэксталагічнага* каментарыя складаюць крыніцазнаўчыя, бібліяграфічныя даведкі, пытанні атрыбуцыі і датавання, выбар крыніцы асноўнага тэксту. *Гісторыка-літаратурны* каментарый уключае дакументальныя сведчанні пра ўмовы і абставіны жыцця і дзейнасці пісьменніка, пра ўзнікненне і выспяванне задумы твора, пра падзеі, якія леглі ў яго аснову, і рэальных прататыпаў літаратурных герояў, прыводзяцца крытычныя водгукі на твор і адносіны да іх з боку аўтара. *Рэальны* каментарый растлумачвае гістарычныя

імёны, факты, згаданыя ў творы, забытыя падзеі, бытавыя рэаліі, устанаўлівае крыніцы цытат, расшыфроўвае аўтарскія намёкі, алюзіі. *Слоўнікавы (лінгвістычны)* – тлумачыць асаблівасці мовы твора, словы і словазлучэнні, якія выйшлі з ужытку, дыялектызмы, архаізмы, замежныя запазычванні (Мушынскі, 2007, сс. 407-408).

**ТЭКСТ** [1] – 1) напісанае, надрукаванае (выказванне, абзац, раздзел твора і г. д.) або выказанае вуснае паведамленне, якое характарызуецца сэнсавай і структурнай завершанасцю, яго можна ўзнавіць, паўтарыць у тым самым выглядзе; 2) паслядоўнасць з некалькіх ці многіх сказаў, пабудаваных адпаведна з правіламі і сэнсавымі заканамернасцямі той ці іншай мовы, яе звязнасцю, парадкам слоў і інтанацый; 3) твор пісьменнасці, літаратуры ці фальклору, што напісаны, надрукаваны ці бытуе ў вуснай форме; 4) аўтарскі твор без каментарыяў і дадаткаў да яго; 5) слоўная частка ілюстраванага выдання. *Гл.* ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ТЭКСТ, ТЭКСТАЗНАЎСТВА, ІНТЭРТЭКСТУАЛЬНАСЦЬ, ТЭОРЫЯ ТЭКСТУ, ТЭКСТАЛОГІЯ.

*...Усе мы жывём у свеце тэкстаў: чытаем газеты, кнігі, слухаем радыё, глядзім тэлевізійныя перадачы, самі пішам і гаворым. І ўвесь час маем справу з тэкстам як вышэйшай адзінкай маўлення* (Я. М. Цікоцкі. Стылістыка тэксту).

У энцыклапедыі “Беларуская мова” (Мінск, 1994) вельмі папулярна растлумачаны першасныя нашы тэксты, створаныя як пісьмова, так і вусна: “Тэкст – гэта вынік маўленча-мысліцельнай дзейнасці людзей, які фіксуецца ў вуснай ці пісьмовай форме. Звычайна пад тэкстам разумеюць менавіта пісьмовы прадукт гэтай дзейнасці, таму што ён даволі істотна адрозніваецца ад спантаннага маўлення не толькі сваёй матэрыяльнай формай. Так, вуснае маўленне мае пераважна від дыялога, а пісьмовы тэкст выступае ў форме маналога; вуснае маўленне заўсёды працякае на базе агульнай для субяседнікаў сітуацыі, што робіць яго эліптычным, а пісьмовы тэкст, як правіла, максімальна стандартызаваны, нарміраваны і разгорнуты. У параўнанні з вусным маўленнем пісьмовы тэкст мае больш багаты лексічны склад, шматпланавую семантычную арганізацыю, часцей выкарыстоўвае сінтаксічна складаныя сказы. Вусны тэкст існуе толькі ў працэсе маўлення, пісьмовы тэкст застаецца на ўвесь час існавання матэрыялаў, на якіх ён напісаны” (с. 566).

Самымі старажытнымі навукамі, што вывучалі і каментавалі тэксты “Бібліі”, былі герменеўтыка і экзегетыка *(гл.)*. Самымі маладымі навукамі, што вывучаюць тэксты з розных бакоў, з’яўляюцца лінгвістычная тэксталогія *(гл.)*, лінгвістыка тэксту (тэкстазнаўства), стылістыка і семіётыка тэксту *(гл.)*. Тэорыя тэксту, інтэртэкстуальнасці і цытатнасці як асобныя навукі разам з граматыкай тэксту склалі ў другой палове XX ст. адзіную лінгвістыку тэксту, якая на сучасным этапе актыўна ўзаемадзейнічае з лінгвапрагматыкай, псіхалінгвістыкай і сацыялінгвістыкай *(гл.)*.

Шматлікасць разнастайных азначэнняў (дэфініцый) Т. тлумачыцца вывучэннем яго ў розных дысцыплінах, і таму Т. дзеляцца найперш тэматычна, г. зн.

у адпаведнасці з іх адносінамі да канкрэтных навук (навучальных дысцыплін), сфер дзейнасці і заняткаў людзей, а ўнутры кожнай такой сферы робіцца больш падрабязнае разгалінаванне пісьмовых тэкстаў. Так, мастацкая літаратура для літаратуразнаўства – гэта не толькі вобразнае адлюстраванне рэчаіснасці (тэксты, створаныя на вершаванай і празаічнай мастацкай (паэтычнай) мове, але своеасаблівы дакумент, у якім адлюстраваны тая ці іншая эпоха, той ці іншы факт аб'ектыўнай рэчаіснасці. Для лінгвістыкі Т. – гэта найперш звязнае маўленне, пры дапамозе якога ствараецца і перадаецца пэўная інфармацыя як у вусным, так і пісьмовым выглядзе.

На самым сучасным этапе развіцця лінгвастылістыкі і тэкстазнаўства Т. вывучаюцца пераважна з трох бакоў: семантычнага (семіятычнага), граматычнага і стылістычнага. У семантыку Т. уключаюць перш за ўсё яго змест (у аспекце *аўтар-тэкст*) і сэнс Т. (у аспекце *тэкст-рэцыпіент*). Наяўнасць зместу ў Т. – фундаментальная ўласцівасць мовы, абумоўленая мысленнем. Сэнс Т. трымаецца на вербальнай аснове, на разуменні рэцыпіентам як асобнага слова, так і ўсяго паведамлення, яго тэм *(гл.)*, падтэм і мікратэм *(гл.)*. Граматычны падыход да разумення Т. як узроўню моўнай сістэмы раўназначны падыходу да аналізу рэалізацыі лагічных законаў развіцця думкі і ўзаемасувязі выказванняў *(гл.)*. У граматыцы Т. апісваюцца разнастайныя тыпы ўнутрытэкставых сувязяў (фармальна-граматычныя, лагічныя, імплікацыйныя і інш.), а таксама сродкі іх рэалізацыі (паўторы, службовыя словы, інтанацыя, акцэнтныя выдзяленні, тэмарэматычныя элементы і інш.). Са стылістычнага боку, менавіта ў функцыянальнай стылістыцы *(гл.)*, Т. суадносіцца найперш з яго экстралінгвістычнай асновай (сферай моўных зносін, жанрам і г. д.), выяўляецца камунікацыйная мэтанакіраванасць выкарыстання моўных рэсурсаў і сітуацыя зносін, г. зн. ажыццяўляецца выхад у знешняе асяроддзе, да самага шырокага сацыякультурнага кантэксту *(гл.)*, за рамкі ўсёй моўнай сістэмы. Такім чынам, Т. а) выступае ўніверсальнай формай камунікацыі паміж аўтарам і адрасатам; б) з'яўляецца творам маўлення, а не моўнай адзінкай вышэйшага ўзроўню *(гл.)*; в) заўсёды мае ідэю (канцэпт), што адлюстроўвае аўтарскую задуму (замысел) і забяспечвае суцэльнасць (цэласнасць) маўленчаму твору; г) уяўляецца як маўленчая сістэма, уласцівая пэўнай сферы зносін; д) заўсёды арыентаваны на адрасата (рэцыпіента), нават калі ім з'яўляецца сам аўтар (рэферэнт); дж) нясе інфармацыю (сэнс); дз) валодае прагматычным эфектам (эфектам уздзеяння).

Структура тэксту – гэта форма існавання яго зместу, якой уласцівая пэўнасць, упарадкаванасць, члянімасць і суцэльнасць (цэласнасць). Побач з гэтым Т. характарызуецца адзінствам яго ўнутранай і знешняй форм. Прадмет інфармацыі падпарадкоўваецца мэце, што нараджае і арганізуе тэкст. Асноўная канцэпцыя (замысел) паведамлення выражаецца ў апорных сэнсавых вузлах Т. (фактах, ключавых словах і інш.), якія ўтвараюць логіка-факталагічны ланцуг як сэнсавы стрыжань Т.

Складанасць і шматаспектнасць паняцця “тэкст” прыводзіць да неадназначнай тыпалогіі тэкстаў. Звычайна ў аснову класіфікацыі іх кладуцца лінгвістычныя і экстралінгвістычныя, аб’ектыўныя і суб’ектыўныя фактары *(гл.)* тэкстаўтварэння і ўспрымання *(гл.)*. Найбольш распаўсюджаная класіфікацыя Т. паводле жанрава-стылістычнай прыналежнасці *(гл.* прыблізную схему стылістычнага аналізу Т.). У лінгвастылістычнае даследаванне Т. найперш уваходзіць вывучэнне не толькі прынцыпаў пабудовы і маўленчай арганізацыі Т. у канкрэтнай камунікацыйнай сферы ці выяўлення структурна-стылістычных магчымасцяў маўленчых твораў, кампазіцыйна-стылявых тыпаў і форм, але і канструктыўных прыёмаў і функцыянавання ў маўленні моўных сродкаў. Практычна стылістыка Т. заклікана садзейнічаць, па-першае, поўнаму і глыбокаму разуменню маўленчага твора; па-другое, развіццю і ўдасканаленню культурна-маўленчых навыкаў і ўменняў, указваючы шляхі і сродкі канструявання Т., якія належаць розным функцыянальным стылям *(гл.)*.

Т., як адзінка камунікацыі і камунікацыйнай дзейнасці адпраўляльніка і атрымальніка (у маналогах) або актыўных субяседнікаў (у дыялогах), у цэлым адлюстроўвае ў сабе камунікацыйны акт. Тэкставая катэгорыя як сэнсавая частка Т. адлюстроўвае адзін з кампанентаў камунікацыйнага акта, у колькасць якіх уваходзіць прадмет маўлення; суб’ект (ы) маўлення, г.зн. аўтар (ы) Т. у цэлым; ацэначны пункт погляду суб’екта, яго эмацыянальна-псіхалагічны настрой; прастора і час як неад’емныя сітуацыі, у якіх нараджаецца тэкст; адрасат моўных (маўленчых) зносін. Адпаведна выдзяляюцца катэгорыі тэмы, суб’екта (аўтарызацыі), ацэначнасці, танальнасці (тэкставай мадальнасці), тэкставай прасторы і часу, адрасата, а таксама да іх далучаецца структурная тэкставая катэгорыя – кампазіцыя. Колькасць тэкставых катэгорый пастаянна павялічваецца, напрыклад, лакацыя (прагматычная катэгорыя “суб’ект – прастора – час”), праспекцыя і рэтраспекцыя *(гл.)*, падтэкст *(гл.)*, лагічнасць, іерархія, дыялагічнасць, гіпатэтычнасць, партытурнасць і інш.

Матэрыяльным элементам Т. (кожнай яго катэгорыі) могуць выступаць як непадзельныя адзінкі мовы / маўлення (фанема, інтанема, слова, марфема, фразема), так і моўная або маўленчая структура (сказ, выказванне, звышфразавае адзінства, мікратэкст: загаловак, уступ і інш.).

Інтэграцыйнасць Т. – адна з параметральных уласцівасцей (катэгорый) Т., суадносная з аб’яднаннем усіх яго частак у адно цэлае. У аснове інтэграцыйнасці Т. (незалежна ад формы яго існавання) ляжыць замысел (задума) аўтара. Таму інтэграцыя па-рознаму праяўляецца ў тэкстах навуковых, публіцыстычных, афіцыйна-справавых, з аднаго боку, і ў тэкстах мастацкіх – з другога боку. У пэўнай ступені яна з’яўляецца функцыяй аб’ёму Т.: чым больш разгорнуты Т., тым менш выразна рэалізуецца катэгорыя інтэграцыі. У навуковых, афіцыйна-справавых, публіцыстычных тэкстах інтэграцыя лёгка паддаецца аналізу, таму што сувязь і абумоўленасць частак відавочная. У мастацкіх тэкстах інтэграцыя набывае разнастайныя формы, бо састаўныя часткі цэлага не заўсёды падпарадкоўваюцца

адна адной і ўсе разам – адной, найбольш вольнай. Галоўнае ў працэсе інтэграцыі Т. – цэнтра-імкненне частак Т.

Змястоўную структуру Т., або яго ўнутраную форму *(гл.)*, складаюць дэнататы – адзінкі думкі, прычым у якасці элементаў структуры выступаюць прадмет і яго прыметы, а не сказ і слова. У любым Т. выдзяляецца галоўны прадмет (тэма) і шэраг іншых элементаў зместу (падтэмы), што непасрэдна або апасродкавана раскрываюць аспекты галоўнага прадмета. Аб’ектывацыя зместу ў Т. падпардкоўваецца моўнаму закону лінейнасці. Уласна камунікацыйны аспект тэкставай арганізацыі з’яўляецца спецыяльным прадметам вывучэння ў лінгвасацыяпсіхалогіі, псіхалінгвістыцы, прагматыцы, герменеўтыцы і інш.

У Т. як расчляняюцца (адмяжоўваюцца) тэкставыя адзінкі (элементы) – сказы, звышсказвыя адзінствы, абзацы і інш., так і звязваюцца ў адзінае цэлае. Сродкамі выражэння выступаюць найперш злучнікі (*і, а, але, аднак, таму што* і інш.), лексічныя паўторы, асабовыя і ўказальныя займеннікі, асобныя прыслоўі, фразеалагізмы накшталт *у гэтым выпадку, на гэтай аснове, мець на мэце* і інш. Напрыклад:

*З даўніх часоў людзі лічылі лес сваім сябрам. Ён карміў, апранаў, саграваў, абараняў іх, даваў святло, здароўе, натхненне. Любую радасць яны дзялілі з ім.*

*Даследчыкі ў галіне розных навук сцвярджаюць: калі ў акіяне зарадзілася жыццё, то ў лесе развіліся яго вышэйшыя формы. Лес спачатку быў калыскай чалавецтва, а потым стаў яго домам. Шанаванне дрэваў была своеасаблівым рытуалам маленцаў, звернутых да вегетатыўнай сілы прыроды. Свет у цэлым уяўляўся старажытнаму чалавеку адушаўлёным, і дрэвы, вядома не былі выключэннем. Наш продак верыў у тое, што яны маюць душу, валодаюць пачуццямі, як і людзі, у цяжкую хвіліну абавязкова дапамогуць. Па гэтай прычыне ён пакланяўся ім, надаваў розныя цудадзейныя ўласцівасці. Вядомы беларускі пісьменнік Ул. Караткевіч у апавяданні “Кніганошы” з уласцівым яму гумарам так вызначыў ролю лясоў: “У сасновым лесе – маліцца, у бярозавым – любіцца, у дубовым волю каваць, у яловым – душу д’яблу прадаваць”* (А. М. Ненадавец. Святло таямнічага вогнішча).

Словы “людзі”, “дрэвы”, “чалавек”, “продак”, займеннікі “ён”, “яны”, словазлучэнне “па гэтай прычыне” і інш. змацоўваюць усе выказванні ў адзінае сэнсаваграматычнае цэлае, або празаічную страфу *(гл.)*.

Сучаснае мовазнаўства разглядае і такія паняцці, як “звыштэкст” (супертэкст), “гіпертэкст” (віртуальны тэкст), “перадтэкст”, “паслятэкст” і інш.

**ТЭКСТ [2]** – зафіксаванае пісьмо або ў друкаваным выглядзе адносна цэласнае і самадастатковае выказванне аўтара. ТЭКСТАЛОГІЯ – галіна філалагічнай навукі, якая вывучае гісторыю літаратурных, фальклорных тэкстаў, а таксама навуковых, калі яны звязаны з даследаваннем літаратуры, фальклору і мовы. Адрозніваюць тэксталогію антычнасці, Сярэднявечча, фальклору, усходніх літаратур, літаратуры Новага часу, гістарычных і лінгвістычных крыніц. ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА ТЭКСТАЛОГІІ – устаноўленае і крытычнае прачытанне тэксту з мэтай выпраўлення яго пашкоджанняў і падрыхтоўкі да публікацыі пры абавязковым захаванні прынятых правіл перадачы тэксту. Сутнасць паняцця “ТЭКСТАЛОГІЯ”

раскрываецца праз узаемасувязь трох яе кампанентаў – гісторыі тэксту, творчай волі пісьменніка і навуковай крытыкі тэксту (Мушынскі, 2007, с. 404).

*Параўн.:* текст (СЭС, с. 1308), (ЛЭС, с. 507), (РЯЭ, с. 348), тэкст (ЭнЛіМБел, V, сс. 320-321), (БМЭ, сс. 566-567), (ТБСЛМ, с. 672), Т., Т.-наслаждение, Т.-удовольствие, текст. анализ, текстуальные стратегии (ПЭ, сс. 798-802).

**ТЭКСТАЗНАЎСТВА** – *гл.* ЛІНГВІСТЫКА ТЭКСТУ.

**ТЭКСТАЛОГІЯ** [1] – 1) дапаможная навука ў літаратуразнаўстве, якая займаецца вывучэннем тэксту, устанаўленнем варыянтаў і галоўнай рэдакцыі твораў, а таксама тлумачэннем пры публікацыі; 2) галіна філалогіі, што вывучае гісторыю тэксту твораў пісьменнасці, літаратуры і фальклору для даследавання і публікацыі. Галоўная задача Т. – устанаўленне і крытычнае прачытанне тэксту на падставе вывучэння яго крыніц (рукапісаў, друкаваных выданняў), класіфікацыі і інтэрпрэтацыі перапрацовак тэксту, выяўленне скажэнняў, зробленых пабочнымі асобамі. Т. патрабуе шырокай дасведчанасці даследчыка, выкарыстанне даных бібліяграфіі, крыніцазнаўства, палеаграфіі, археаграфіі, гісторыі грамадскай думкі, мовы і г. д. *Гл.:* ГЕРМЕНЕЎТЫКА, ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ТЭКСТУ, ЛІНГВІСТЫКА ТЭКСТУ, ТЭОРЫЯ ТЭКСТУ.

**ТЭКСТАЛОГІЯ** [2] – 1) галіна філалогіі, якая займаецца ўсталяваннем дакладнага тэксту літаратурных помнікаў і гістарычных дакументаў для іх навуковага выдання (ТСБМ, 5, с. 572); 2) галіна філалагічнай навукі, якая вывучае творы пісьменнасці, літаратуры, фальклору з мэтай праверкі і ўсталявання дакладнага іх тэксту для іх далейшага навуковага вывучэння і выдання. (СЛТ, 1990, с. 152); 3) лінгвістычная дысцыпліна, асноўнымі задачамі якой з'яўляюцца:

а) выяўленне дапрацаваных і перапрацаваных моўных (маўленчых) адзінак, фрагментаў, варыянтаў і г. д. першаснага тэксту ў параўнанні з асноўным (канчатковым, аўтэнтычным) тэкстам *(гл.)*;

б) вызначэнне ролі фанетычных, марфалагічных, сінтаксічных, фразеалагічных, лексічных і стылістычных замен, перастановак, трансфармацый і інш. для павышэння культуры мовы (маўлення), паляпшэння ўспрыняцця мастацкага вобраза *(гл.)*, ліквідацыі стылістычных недаглядаў *(гл.)* і г. д.;

в) адшукванне, класіфікацыя і вызначэнне функцый разнастайных паўтораў *(гл.)* моўных (маўленчых) сродкаў, структурных частак *(гл.)* і інш. як у асноўным тэксце, так і ў яго варыянтах *(гл.)*;

г) каментаванне змен у структуры абзацаў *(гл.)*, раздзелаў *(гл.)*, параграфаў *(гл.),* графічныя выдзяленні *(гл.),* замена знакаў прыпынку *(гл.)* і г. д.;

д) параўнанне матэрыялаў перакладу *(гл.)* як паміж сабой, так і з арыгіналам *(гл.),* тлумачэнне прычын адхіленняў ад патрабаванняў адэкватнасці і мастацкасці (Абабурка, 2008, с. 126).

Т. судакранаецца і перакрыжоўваецца з герменеўтыкай *(гл.)* і экзегетыкай *(гл.)*, гісторыяй і археаграфіяй *(гл.)*, семіётыкай *(гл.)* і лінгвістыкай тэксту *(гл.)*, эстэтыкай *(гл.)* і псіхалогіяй творчасці *(гл.).*

Як літаратуразнаўчая дысцыпліна трымаецца на метадах і прыёмах даследавання, вызначаных тэорыяй літаратуры *(гл.)*, літаратурнай крытыкай *(гл.)* і эды-

цыяй *(гл.)*, так і лінгвістычная – лінгвастылістыкай *(гл.)* і гісторыяй літаратурнай мовы *(гл.),* крыніцазнаўствам *(гл.)* і перакладазнаўствам *(гл.)*, дыяхронным, сінхронным і супастаўляльным мовазнаўствам *(гл.)*.

У сучаснай Т. выкарыстоўваюцца верагоднасна-статыстычныя, кібернетычныя, матэматычныя, семіятычныя, фотамеханічныя і іншыя нетрадыцыйныя метады *(гл.)*. Шырока выкарыстоўваецца дапаможная метадалогія такіх навук, як бібліяграфія, палеаграфія, гістарычная паэтыка і стылістыка, улічваецца светапогляд, напрамкі і школы, да якіх належаў аўтар тэксту, біяграфічныя і культурна-гістарычныя перадумовы ўзнікнення твора, аўтарская воля наконт ягоных тэкстаў і іх перапрацовак, рэдакцый, перавыданняў *(гл.)* і шмат інш.

Асноўнымі патрабаваннямі да Т. як комплекснай і сінтэзаванай навукі з'яўляюцца: гістарызм і ідэалагічная сувязь кантэксту *(гл.)* усяго данага тэксту з эпохай, культурна-гістарычнымі абставінамі; комплекснасць *(гл.)*; улік усіх змен у дадзеным тэксце, а не толькі светапоглядныя; разгляд твора як цэлага і пошук ягоных элементаў у іншых творах аўтара ці ў творах іншых аўтараў; устаноўлены асноўны тэкст і яго аналіз не павінен быць адарваным ад усіх рэдакцый і варыянтаў, створаных як самім аўтарам, так і рэдактарамі, цэнзурай і інш. (гэта мае дачыненне да розных старажытных зводаў *(гл.)*, пратографаў, архетыпаў *(гл.)*).

Філалагічны аналіз тэксту – асноўны метад тэксталагічных даследаванняў, асабліва твораў мастацкай літаратуры як эпахальнай з'явы, які дазваляе правільна і дакладна растлумачыць узнікненне разнастайных варыяцый усіх фармальных і змястоўных элементаў тэксту, матэрыялаў, што раскрываюць сутнасць аўтарскіх задум і намераў, аўтэнтычнасць твораў аўтара, таямніцы ягонай творчасці і ягонай "творчай лабараторыі". Толькі пры дапамозе філалагічнага аналізу можна зрабіць максімальна даступныя ці агульна зразумелыя – liectio oiffiolior *(гл.)* і spuria *(гл.)* – іншыя цяжкаўспрымальныя элементы і фрагменты *(гл.)*.

Прыватнымі пытаннямі тэарэтычнай Т. з'яўляюцца пытанні атрыбуцыі *(гл.)*, а таксама аттэтэзы *(гл.)*, датавання *(гл.)*, лакалізацыі *(гл.)* і інш.

Асноўнымі пытаннямі перакладной Т. з'яўляюцца пытанні падрыхтоўкі тэкстаў (твораў) да выдання *(гл.)* – акадэмічнага ці масавага (папулярнага). Вялікае значэнне дзеля гэтага маюць не толькі аўтографы, але і чарнавікі, рукапісы і машынапісы, дзённікі, эпісталярная і мемуарная спадчына аўтараў, асабліва пісьменнікаў і публіцыстаў.

Значны след у беларускай Т. пакінулі Ф. Скарына, С. Будны, М. Сматрыцкі, В. Дунін-Марцінкевіч, А. Ельскі, Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі), Я. Ф. Карскі, Я. І. Барычэўскі, А. М. Вазнясенскі, Ю. С. Пшыркоў, І. І. Бас, У. В. Анічэнка, Ф. М. Янкоўскі і шмат іншых. М. І. Мушынскі стварыў сваю школу беларускіх тэкстолагаў у канцы ХХ ст.

*Параўн.:* КЛЭ, 1972, сс. 443-453; ЭнЛіМБел, 1987, сс. 320-321; Рагойша, 2003, с. 145 і інш.

**ТЭМА [1]** – назва; аснова чаго-н.; 2) прадмет, асноўны змест думкі, разважання, выказвання, тэксту, творчасці як прафесіі. "*Беларусь лапцюжная" М. Чарота.*

*Горад Магілёў. Тэма "Белавежская пушча" ў "Стылістыцы беларускай мовы" А. К. Юрэвіч. Тэма рэвалюцыі... вядучая ў казках жыцця, але казкі гэтыя не толькі пра яе...* (А. Лойка. Гісторыя беларускай літаратуры: дакастрычніцкі перыяд).

Т. – сэнсавае ядро маўленчага твора. У любым тэксце Т. стварае разам з усімі яе падтэмамі, або мікратэмамі *(гл.)*, так званае тэматычнае поле. У Т. полі найбольш важнымі з'яўляюцца прадметныя назвы разам з іх прыметамі, функцыямі і г. д. Звычайная намінацыя і яе ўласнае імя (напрыклад, *возера Нарач*) складаюць сэнсавае адзінства, пераважна ядзернае. Дадатковымі намінацыямі могуць быць у першую чаргу такія, як: а) сінонімы і полісеманты; б) трансформы; в) субстытуты – няпоўназначныя заменнікі назвы (напрыклад, *горад – ён*). Канкрэтны склад і структура тэматычнага поля вызначаюцца не толькі самім аўтарам выказвання (тэксту), але і патрабаваннямі таго функцыянальнага стылю *(гл.)*, у рамках якога ствараецца выказванне (тэкст). Жанравае і індывідуальнае маўленчае вар'яванне абмяжоўваецца дзеяннем агульных функцыянальна-стылёвых заканамернасцей.

*Параўн.:* тема I, II (СЛТ, 1969, с. 471), тема текста (СЭСРЯ, сс. 542-544), тэма ў літаратуры (ЭнЛіМБел, V, сс. 332-333).

**ТЭМА** [2] – 1) лагічны суб'ект суджэння *(гл.)*; 2) адзін з асноўных кампанентаў актуальнага падзелу (чляненне) сказа *(гл.)*. Т. можа быць любы член (або члены) сказа, асабліва ў пачатковай пазіцыі сказа (выказвання). Т. разам з рэмай *(гл.)* змацоўваюць выказванне (тэкст) у адзінае цэлае, ад правільна выбранай Т. залежыць сітуацыйная звязнасць сказаў. Узаемазамену Т. з рэмай можна наглядаць у так званых тоесных сказах (выказваннях) накшталт *Наша задача – пяцігодка за тры гады* і *Пяцігодка за тры гады – наша задача.*

*Параўн.:* тема (ЛЭС, с. 507), тэма (СЛТ, 1990, с. 153).

**ТЭМА** і **ІДЭЯ** (у літаратурна-мастацкім творы) – тое, што ляжыць у аснове задумы аўтара(ў) літаратурна-маст. твора і ўвасабляецца ў асноўнай думцы, якая сцвярджаецца ўсім моўна-вобразным ладам; кола грамадскіх з'яў і звязных з імі жыццёвых пытанняў, якія аўтар кладзе ў аснову зместу твора і раскрывае ў святле асноўнай думкі. У значным мастацкім творы можна сустрэць шматтэмнасць з выдзяленнем (вылучэннем) галоўнай, вядучай Т. Напрыклад, у "Палескай хроніцы" І. Мележа раскрываюцца такія тэмы: 1) *класавая барацьба ў беларускай вёсцы;* 2) *шляхі пераўтварэнняў беларускай вёскі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі;* 3) *становішча жанчыны ў сялянскай сям'і* і інш. Вядучай, галоўнай Т. гэтага твора з'яўляецца *тэма станаўлення новага жыцця ў беларускай вёсцы ў паслякастрычніцкі час*.

*Параўн.:* ідэя, тэма (СЛТ, 1983, сс. 64-65, 163-164), тема і тенденция (ЛітЭС, с. 437), тэма (ЭнЛіМБел, V, с. 332).

**ТЭМП МАЎЛЕННЯ** – хуткасць працякання маўлення ў часе, яго паскарэнне ці замаруджванне, што абумоўлівае ступень яго артыкулятарнай напружанасці і слыхавой выразнасці. Паводле "Слоўніка лінгвістычных тэрмінаў" В. С. Ахманавай, можа быць Т. М. хуткі (скарагаворны), павольны (марудны) і перарывісты

(калі маўленне рэзка падзяляецца на кароткія адрэзкі). Хуткасць вымаўлення элементаў маўлення (гукаў, слоў, складоў і г. д.) у пэўны прамежак часу (секунду, мінуту) вымяраецца часцей за ўсё сярэдняй іх працягласцю. Т. М. з'яўляецца адным з кампанентаў інтанацыі *(гл.)*, асабліва пры супрацьпастаўленні чагосьці вельмі важнага і не вельмі ў выказванні (вельмі важнае заўсёды вымаўляецца запаволена). Збыткоўная або другасная інфармацыя (напрыклад, пабочныя словы, плеаназмы і інш.) вымаўляецца больш хутка. Абсалютны Т. М. залежыць ад індывідуальных асаблівасцей тых, хто гаворыць, іх эмацыянальнага стану, а таксама ад сітуацыі маўлення або стылю вымаўлення – поўнага (акадэмічнагая) і няпоўнага (скарагаворнага, гутарковага). Існуе залежнасць Т. М. ад даўжыні маўленчай адзінкі: чым большая даўжыня слова ці сінтагмы *(гл.)*, тым меншая сярэдняя працягласць гука (склада) у іх. *Гл.:* ТЭМП, РЫТМ, ТЭМПАРЫТМ.

*Параўн.:* темп речи (СЛТ, 1969, с. 472), (ЛЭС, с. 508), тэмп маўлення (СЛТ, 1990, с. 152).

**ТЭМП, РЫТМ, ТЭМПАРЫТМ** – хуткасць, упарадкаванасць і інтанацыйна-дыхальныя заканамернасці мастацкага маўлення. *Вершаваны рытм – адзін з магутнейшых узбуджальнікаў эмоцый, таму паэзія карыстаецца звычайна не празаічным спосабам арганізацыі моўнага матэрыялу, а вершаваным. У той жа час нельга змешваць паэзію і верш, для існавання якога дастаткова толькі аднаго рытму. У прозе таксама некаторыя даследчыкі таксама вылучаюць своеасаблівы рытм, так званы рытм прозы (або тэмпарытм). Але засноўваецца ён не на нейкіх рытмічных адзінках мовы (націсках, колькасці складоў і г. д.), а на асаблівасцях сінтаксічнай пабудовы фразы, законах дыхання і інш.* (В. П. Рагойша. На шляху да Парнаса). Увогуле рытм – гэта раўнамернае чаргаванне якіх-небудзь з'яў у часе ці прасторы. Па тым, як чаргуюцца гэтыя з'явы, адрозніваецца *рытм часавы* (напрыклад, біццё сэрца, прылівы і адлівы, ход нябесных свяціл і інш.), *рытм прасторавы* (размяшчэнне дарожных прысад, тэлефонных слупоў і інш.), *рытм вершаваны* (рытмастваральных кампанентаў, саміх вершаваных радкоў і інш.). Вершаваны рытм узнік з *працоўнага рытму* (працы, працоўнай дзейнасці чалавека, працоўнай песні, музыкі, танца і г. д.). Рытмізаваны вершаваны радок выконвае разнастайныя функцыі: эмоцыястваральныя, моўна-эстэтычныя і інш. Раздзел вершазнаўства, які вывучае рытмічныя асаблівасці верша, называецца рытмікай *(гл.)*.

*Параўн.:* ритм, ритмика, ритм прозы (ЛітЭС, сс. 326-327), рытм, рытміка, рытмічная проза, р. схема (ЭнЛіМБел, IV, сс. 553-557).

ТЭОРЫЯ ІЕРАРХІІ МОЎНЫХ УЗРОЎНЯЎ – адрозненні ў падпарадкаванні (паслядоўнасці) узроўняў (ярусаў) мовы (маўлення). "Сутнасць гэтай тэорыі заключаецца ў тым, што моўныя адзінкі планам выражэння звязаны з адзінкамі ніжэйшага ўзроўню, а планам зместу – з адзінкамі вышэйшага ўзроўню", – адзначае В. І. Рагаўцоў у дапаможніку "Агульнае мовазнаўства" (Магілёў, 2006). Т. І. М. У. была сфармуляваная французскім мовазнаўцам Э. Бенвеністам.

Іерархічныя адносіны паміж моўнымі адзінкамі – гэта адносіны ніжэйшага і вышэйшага ўзроўняў мовы ў плане іх залежнасці: марфемы іерархічна звяза-

ныя з фанемамі, лексемы – з марфемамі, сінтаксемы – з лексемамі. У адрозненне ад парадыгматычных і сінтагматычных адносін паміж адзінкамі аднаго моўнага ўзроўню іерархічныя адносіны ўзнікаюць паміж адзінкамі розных моўных узроўняў. Напрыклад, афікс *-ў* у словаформах тыпу *глядзе-ў, слуха-ў* мае значэнне граматычнай формы прошлага часу; але *нёс, мёрз* (мёрзнуў); *прынёс, змёрз* (змёрзнуў).

*Параўн.*: иерархия (СЭС, 1985, с. 476), уровни языка (ЛЭС, 1990, с. 539).

**ТЭОРЫЯ ІНФАРМАЦЫІ** – 1) раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца спосабы вымярэння, перадачы,ператварэння і захавання інфармацыі; 2) агульная тэорыя сувязі, якая распрацоўвае эфектыўныя метады перадачы інфармацыі па лініях сувязі. Тут вывучаюцца праблемы аптымальнага кадзіравання і фільтрацыі інфармацыі, выяўленне і прадказанне сігналаў. Даследуюцца таксама пытанні аналізу змястоўнасці і вызначэння каштоўнасці інфармацыі.

Тэрмін “інфармацыя” ў ХХ ст. пашырыў сваё значэнне: побач з абазначэннем звычайных звестак і паведамленняў ён набыў і такія значэнні, як абмен звесткамі паміж людзьмі, чалавекам і аўтаматам, аўтаматам і аўтаматам; абмен сігналамі ў жывёльным свеце; перадачы прымет ад клеткі да клеткі, ад арганізма да арганізма; адно з асноўных паняццяў кібернетыкі. Паводле “Слоўніка лінгвістычных тэрмінаў” В. С. Ахманавай, інфармацыя – гэта звесткі, якія маюць месца ў даным маўленчым паведамленні і разглядаюцца як аб’ект перадачы, захоўвання і перапрацоўкі (*Гл.:* СЛТ, 1969, с. 184). Яшчэ ў СССР з’явіўся тэрмін “інфарматыка” з разуменнем яго і ў самым шырокім сэнсе – сістэма ведаў, якія адносяцца да вытворчасці, перапрацоўкі, захавання (у памяці) і распаўсюджванні ўсіх відаў інфармацыі ў грамадстве, прыродзе і тэхнічным абсталяванні. Нават выдзялялася асобна *інфармацыя сацыяльная* як сукупнасць ведаў, звестак і паведамленняў, што фармуюцца і ўспрымаюцца ў грамадстве для рэгулявання сацыяльнага ўзаемадзеяння, грамадскіх адносін, а таксама адносін паміж чалавекам, грамадствам і прыродай. Узнік і такі тэрмін, як “інфарматызацыя грамадства” з абазначэннем сукупнасці працэсаў, якія адбываюцца ва ўсіх сферах і падсістэмах грамадства і звязаны з якасна новым узроўнем (формамі) вытворчасці, перапрацоўкі і захавання, а таксама распаўсюджання інфармацыі. На сучасным этапе развіцця нашага грамадства ўзнік негатыўны тэрмін “інфармацыйная вайна”.

Інфармацыйнасць маўлення (тэксту) – гэта 1) псіхафізічныя ўласцівасці, суадносныя са здольнасцю ўдзельнічаць у камунікацыі *(гл.)* у залежнасці ад сацыяльных, псіхалагічных, навуковых, тэхнічных, агульнакультурных, узроставых і іншых асаблівасцей камунікантаў. Аднаму адрасату паведамленне (інфармацыя) будзе новае, для іншага ж – яно будзе не інфарматыўнае, паколькі змест яго ўжо або вядомы, або зусім незразумелы; 2) у лінгвістыцы тэксту *(гл.)* – гэта асноўная катэгорыя тэксту, якая ўключае разнастайную паводле свайго прагматычнага прызначэння інфармацыю: а) змястоўна-фактуальную; б) змястоўна-канцэптуальную і в) змястоўна-падтэкставую *(гл.* ПАДТЭКСТ). Змястоўна-фактуальная інфармацыя змяшчае ў сабе паведамленне пра пастаянныя

праблемы, што ўзнікаюць з гіпотэз або выражаюцца, звесткі пра факты, падзеі, працэсы, што праходзяць ці праходзілі або будуць праходзіць у навакольным асяроддзі, сапраўдным або ўяўным. Змястоўна фактуальная інфармацыя – эксплiцытная паводле сваёй прыроды, г. зн. заўсёды выражаецца вербальна, прытым моўныя адзінкі звычайна ўжываюцца ў іх прамых, прадметна-лагічных, замацаваных у слоўніках значэннях. Змястоўна-канцэптуальная інфармацыя служыць дзеля перадачы зразумеласці (разумення) аўтарам адносін паміж з'явамі, апісанымі сродкамі змястоўна-фактуальнай інфармацыі, значнасці гэтых з'яў у сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай, культурнай жыццядзейнасці народа. Такога роду інфармацыя бярэцца з кожнага твора і ўяўляецца як творчае перасэнсаванне адносін паміж з'явамі, фактамі, працэсамі, якія адбываюцца ў грамадстве. Падтэкст *(гл.)* суіснуе з вербальным выражэннем і спадарожнічае з ім і рэалізуецца аўтарам тэксту; гэта своеасаблівы "дыялог" паміж змястоўна-фактуальнай і змястоўна-канцэптуальнай разнавіднасцямі інфармацыі. Да паняцця падтэксту блізкае паняцце прэсупазіцыі як сэнсавага кампанента сказа, які павінен быць ісцінным. Прырост сэнсу спантанна ўзнікае ў працэсе рэалізацыі лексічных, сінтаксічных, кампазіцыйных асаблівасцей тэкставых адзінак. Катэгорыя інфармацыйнасці ўяўляецца як абавязковая прымета звязнага маўлення (выказвання, тэксту) і можа праяўляцца ў розных формах – ад нулявой, калі ў маўленні няма нічога новага, да канцэптуальнай, для выяўлення якой патрэбны спецыяльны аналіз *(гл.).* Як і ўсялякая катэгорыя, інфармацыйнасць праяўляецца ў пэўных формах, у першую чаргу такіх, як апісанне, разважанне, расповед, пісьмо, рэзалюцыя, замова, артыкул, заметка, даведка і інш.

*Параўн.*: информация, информации теория, информационный язык (СЭС, 1985, с. 498), теория информации (СЛТ, 1969, с. 473), (ФЭ, V, сс. 210-213).

**ТЭОРЫЯ ТРОХ СТЫЛЯЎ** – вучэнне пра падзел мовы на тры стылі: высокі, сярэдні і нізкі. Узыходзіць да антычнай класіфікацыі моўных сродкаў. Сённяшні падзел сродкаў на гутарковыя, кніжныя, міжстылёвыя (агульнаўжывальныя) грунтуецца на вучэнні М. В. Ламаносава аб трох "штилях".

Гісторыя ўзнікнення Т. Т. С. пачынаецца дзесьці ў антычнасці. Асабліва актуальная была ў XVII-XVIII стст., калі на беларускіх і расійскіх землях выкарыстоўваліся разнастайныя рыторыкі. Сутнасць Т. Т. С. заключаецца ў размеркаванні моўных (маўленчых) сродкаў паводле іх афарбоўкі, жанравай і стылявой дыферэнцыяцыі (прыналежнасці). Так, высокім стылем павінны былі складацца (пісацца) оды, гераічныя паэмы, трагедыі; сярэднім – элегіі, сяброўскія лісты ў паэзіі, эклогі; нізкім – камедыі, эпіграмы, сяброўскія лісты ў прозе. Нізкі стыль лічыўся самым дэмакратычным, бо ў ім дапускалася ўжыванне (выкарыстанне) прастамоўнай лексікі і фразеалогіі. Высокі стыль з самага пачатку лічыўся стылем знаці, вышэйшых пластоў грамадства. Пастуова высокі стыль станавіўся кніжным, а нізкі – гутарковым. Нават і зараз некаторыя даследчыкі супрацьпастаўляюць як самі функцыянальныя стылі *(гл.)* і іх жанры, так і стылеўтваральныя сродкі паводле восі "кніжнае / гутарковае". Міжстылёвыя, або стылістычна нейтральныя,

сродкі засталіся ў якасці звязнага звяна. *Гл.* СТЫЛІСТЫЧНАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ МОЎНЫХ (МАЎЛЕНЧЫХ) СРОДКАЎ.

*Параўн.*: стиль (ЛЭС, сс. 494-496), (СЭСРЯ, сс. 557-558).

**ТЭОРЫЯ ТЭКСТУ** – філалагічная навука, асноўным аб’ектам якой з’яўляецца вербальны (слоўны) тэкст, асабліва з боку яго звязнасці і суцэльнасці. Агульная функцыянальная накіраванасць Т. Т. вельмі важная для аналізу мастацкага тэксту, дзе праводзіцца вызначэнне яўных і няяўных сэнсаў, улічваючы паказчыкі ўсіх моўных узроўняў. Устаноўка на абавязковае дэкадзіраванне змястоўнага боку Т. Т. адрозніваецца ад ранейшых чыста апісальных падыходаў да тэксту.

Т. Т. – адзін з асноўных раздзелаў лінгвістыкі тэксту як самастойнай навукі і навучальнай дысцыпліны. Т. Т. ахоплівае любыя знакавыя сістэмы, аднак асноўным яе аб’ектам з’яўляецца вербальны тэкст *(гл.)*. Абапіраючыся на тэорыю інтэртэкстуальнасці і цытатнасці, Т. Т. улічвае абумоўленасць аўтарскага выбару сродкаў выражэння сэнсавай структуры. Вывучаючы тэксты з боку іх кадзіравання і дэкадзіравання *(гл.)*, Т. Т. арыентуецца на двайную прыроду моўных знакаў, якія валодаюць аднačасова і сэнсавымі, і фармальнымі асаблівасцямі (паказчыкамі, прыкметамі, носьбітамі пэўнага значэння). Пры дэкадзіраванні (расшыфроўцы) тэкстаў метадамі Т. Т. звяртаецца ўвага не толькі на змястоўнасць і суцэльнасць структуры тэксту, але і на адносіны аўтара да свайго паведамлення, і на аўтарскія намеры. Сённяшняя Т. Т. абавязвае вывучаць як уласна тэксты, так і проста – тэксты, перадтэксты, звыштэксты, паслятэксты і падтэксты *(гл.)*. Гэтым самым падкрэсліваецца цесная сувязь Т. Т. з такімі старажытнымі навукамі, як герменеўтыка, экзегетыка, паэтыка і інш.

*Параўн.:* теория текста (ЛЭС, с. 508), интертекстуальность, лингвистика текста (СЭСРЯ, сс. 104-107, 191-194).

# У

**УЗНЁСЛАЕ** – 1) адна з асноўных эстэтычных катэгорый, якая суадносіцца з прыгожым, гераічным і трагічным, супрацьпастаўляючыся нізкаму, агіднаму і камічнаму; 2) пафаснае, урачыстае і велічнае маўленне.

У адрозненне ад гарманічнай суладнасці прыгожага У. выяўляе перавагу агульнага над прыватным, грамадзянскага над асабістым, духоўнага над цялесным. У прыродзе – магутнасць, бязмернасць, неабсяжнасць з’яў; у грамадскім жыцці – гераічнасць падзей і ўчынкаў, духоўная стойкасць і самаахвярнасць чалавека; у мастацтве – манументальнасць кампазіцыі, напружанасць сюжэту, высокі стыль і адпаведная сістэма вобразаў і сімвалаў *(гл.)*. Так, У. заняло цэнтральнае месца ў творах Я. Купалы (“Курган”, “Раскіданае гняздо”, “Адвечная песня”, рамантычная лірыка). Паэт стварыў узнёслыя гімны працы і змаганню за лепшую долю, за права “людзьмі звацца”. Нават у савецкі час Я. Купала марыць ад імя ўсяго беларускага народа пра новы лад і сваю дзяржаўнасць:

*Прыдзе новы – а мудры – гісторык,*
*А ён прыдзе – ужо ён ідзе –*
*І сказ дзіўны, праўдзівы ад зорак*
*І да зорак аб нашых прасторах,*
*Аб падзеях, людзях павядзе…*

(Я. Купала. Песня будаўніцтву).

Пафаснае, велічнае, урачыстае маўленне знаходзім і ў творах Я. Коласа (як вершавана-паэтычных, так і ў апавядальна-празаічных). Напрыклад:

*Мае браты, мае суседзі,*
*Свабодны, новы польскі люд!*
*Няхай жа песняй звонкай медзі*
*Красуе наша дружба тут!*

*Няхай жа стане тленню, прахам*
*Жыцця мінулага ярмо!*
*Мы пойдзем далей новым шляхам,*
*Друг другу руку падамо!*

*Сустрэнем дружна дзень наш новы,*
*У мірны рушымся паход.*
*Няхай не будзе больш згрызот,*
*І змоўкнуць непрыязні словы!*

(Я. Колас. Рыбакова хата).

Героіка працы і гераічныя ўчынкі заўсёды падаваліся ва ўсіх стылях і жанрах і вуснага, і пісьмовага маўлення. Сучасныя тлумачальныя слоўнікі не абыходзяцца без такіх стылістычных (стылёвых) памет, як “узнёслае”, “урачыстае”, “рытарычнае”, “высокае”, “кніжнае” і інш. У публіцыстыцы да гэтага дадаецца спецыфічная інтанацыя, рытарычныя звароты, воклічы і заклікі, рытмізаваны сінтаксіс. Усё гэта яскрава выразілася ў своеасаблівым звароце мёртвых да жывых у хатынскім надпісе, складзеным Н. С. Гілевічам: “Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць вы мір і спакой на зямлі, каб нідзе і ніколі ў віхуры пажараў жыццё не ўмірала!” (Надпіс на мемарыяльным вянцы ў Хатыні).

Сёння на сучаснай беларускай мове можа быць сказана высокая прамова нават не з самай высокай трыбуны, можа быць урачыстае і ўзнёслае юбілейнае віншаванне, можа быць прыўзняты выклад у тым ці іншым абразку або этымалагічным эцюдзе А. Разанава, можа быць і стылізаванае пад У. маўленне (напрыклад, шмат-лікія творы і выказванні Я. Сіпакова).

Такім чынам, У. М. – гэта маўленне, у якім выражаецца эстэтычны сэнс і значэнне гераізму, гераічных учынкаў, значных падзей і іх адлюстраванне ў розных жанрах публіцыстыкі і мастацкай літаратуры. У. як эстэтычная катэгорыя выклікае ў чалавека асобныя пачуцці і перажыванні, якія ўздымаюць яго над усім нікчэмным і пасрэдным, вядуць яго на барацьбу за высокія ідэі. Таму У.

вельмі цесна звязанае з катэгорыяй цудоўнага, але не раствараецца ў ёй, хоць і яна з'яўляецца станоўчым увасабленнем перадавога эстэтычнага ідэалу *(гл.)*.

Патрэбна адрозніваць празмерна ўзнёслае маўленне, якое ў навуцы называецца *бамбаст* (замест *Гэта маладая прыгожая актрыса – Сія юная гадаванка Таліі і Мельпамены, шчодра адораная Апалонам*).

*Параўн.:* возвышенное (ФЭ, І, сс. 267-268), (КЛЭ, І, сс. 1006-1007), узнёслае (ЭнЛіМБел, V, сс. 350-351).

**УЗРОЎНІ МОВЫ** – падсістэмы мовы (фаналагічная, лексічная, марфалагічная, сінтаксічная, стылістычная і інш.), якія вызначаюцца ў працэсе даследавання мовы ў розных аспектах і разглядаюцца ў іх іерархічнай сувязі. Ад У. М. патрэбна адрозніваць У. аналізу мовы (маўлення).

Паводле навучальнага дапаможніка "Агульнае мавазнаўства" В. І. Рагаўцова, моўны ўзровень гэта сукупнасць адносна аднародных адзінак мовы і правілаў іх функцыянавання. Вылучаюцца ў сістэме мовы 4 асноўныя У. М.: фанемны, марфемны, лексічны і сінтаксічны. З улікам знакавага статусу моўных адзінак названыя ўзроўні падзяляюцца на субзнакавы (фанемны), знакавы (марфемны, лексічны) і суперзнакавы (сінтаксічны). Кожны з У. М. мае сваю ўнутраную адзінку: фанемны – фанему, марфемны – марфему, лексічны – лексему (слова), сінтаксічны – сінтаксему (канструкцыю). У маўленні можа парушацца спалучальнасць аднаўзроўневых адзінак, што ўскладняе ўзроўневую арганізацыю мовы. Так, простыя афіксы аказваюцца разам з асноваю слова, словы – побач з фразеалагізмам. Аднароднасць аднаўзроўневых адзінак можа парушацца пры іх канкрэтнай рэалізацыі. Лічыцца, што сістэмнасць розных узроўняў градуальная, г. зн. адрозніваецца ступенню сістэмнасці. Яна залежыць ад колькасці адзінак М. У.: чым менш адзінак ён мае, тым больш сістэмны і наадварот. Найбольш сістэмным з'яўляецца фанемны ўзровень і найменш сістэмны – лексічны. Узроўні аналізу мовы не маюць прамой адпаведнасці з У. М. Узроўні аналізу мовы залежаць ад мэт і задач даследавання, у многім вызначаюцца яго падыходам да аб'екта вывучэння (напр., семантычны, функцыйны, структурны і да т. п.).

*Параўн.:* уровни языка (ЛЭС, с. 539), узроўні мовы (СЛТ, 1990, сс. 154-155).

**УЗУАЛЬНЫ** – агульнапрыняты, адпаведны кадыфікаванаму, узаконенаму; супрацьлеглы (процілеглы) аказіянальнаму *(гл.)*; УЗУС – агульнапрынятае ўжыванне моўных адзінак *(гл.)*. Паняцце У. цесна звязана з паняццямі моўнай (маўленчай) нормы і моўнай (маўленчай) сістэмы *(гл.)*. Як вядома са школьнай парты, літаратурная норма – гэта ўзаконеныя, агульнапрынятыя правілы ўжывання (выкарыстання) моўных адзінак ва ўсіх сферах і відах чалавечай дзейнасці, у тым ліку і маўленчай *(гл.)*. На маўленчыя нормы, заснаваныя на моўных, накладваюцца ўплывы іншых норм – прававых, маральных, этычных і г. д. Гэта найперш адлюстроўваецца на агульнапрынятых формулах маўленчага этыкету *(гл.)*. Адсюль бяруцца аказіяналізмы *(гл.)*, пеяратывы *(гл.)*, дысфемізмы *(гл.)* і інш. Таму некаторыя моўныя (маўленчыя) нормы, – напрыклад, арфаграфічныя, – не толькі кадыфікуюцца ў пэўных крыніцах (граматыках, слоўніках і г. д.), але абавязваюцца зака-

надаўствам (напрыклад, рэформы і ўдакладненні беларускага правапісу ў 1933 г., у 1957 г. і ў 2008 г.).

*Параўн.:* узуальный, узус (СЛТ, 1969, с. 484), (ЛЭС, с. 532), (СЛТ, 1990, с. 155).

**УМАЎЧАННЕ, УМОЎЧАННЕ** – адна з стылістычных фігур, змест якой заключаецца ў раптоўным перапынку выказвання, падкрэсленым інтанацыйна – паўзай *(гл.)* і графічна – шматкроп'ем *(гл.)*.

Найчасцей гэты стылістычны прыём выкарыстоўваецца ў паэзіі (увогуле ў паэтычным маўленні). У. можа абрываць фразу *(гл.)* на паўслове, асабліва ў канцы радка ці сказа (напрыклад, верш П. Панчанкі “Напаўголасу…”). У. разлічана на здагадку рэцыпіента, на заканчэнне думкі ім самім. Тыповым прыкладам такога У. з'яўляюцца вершы Я. Купалы “У лесе” і “Свайму народу”.

1. *Зязюлька ў тахт “ку-ку” кукуе,*
*Як ёй хто голас натачыў;*
*Лічу, ці доўга павякую…*
*Замоўкла… мала налічыў.*
2. *Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,*
*Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;*
*Як падарожны без пуцця знябыўся,*
*Як сірата, якой недзе заснуць…*

Бывае, што У. называюць НЕДАСКАЗ, АБРЫЎ *(гл.)*. Разнавіднасцю У. з'яўляецца ЭЛІПС (ЭЛІПСІС) *(гл.)*.

*Параўн.:* умолчание (СЛТ, 1969, с. 485), (КЛЭ, VII, с. 807), недасказ, абрыў, умаўчанне (Рагойша, 2003, с. 127), умаўчаць, умоўчаць (ТСБЛМ, 2002, с. 689).

**УМОЎНАСЦЬ МАСТАЦКАЯ** – асноватворная ўласцівасць мастацтва, якое праз суб'ект (творца і выкладальнік) і суб'ект (рэцыпінет) толькі адлюстроўвае рэчаіснасць, а не з'яўляецца самой аб'ктыўнай рэчаіснасцю. *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ МАСТАЦКАЕ, ВОБРАЗ МАСТАЦКІ, ТЫПОВАЕ, ТЫПІЗАЦЫЯ.

Любы фальклорны ці арыгінальны літаратурна-мастацкі твор – гэта У. М. Таму мастацкі вобраз ніколі не бывае калькай (копіяй) аб'ектыўнай рэчаіснасці; гэта заўсёды мастацкае абагульненне, тыпізацыя; гэта свядомы адыход аўтара ад жыццёвай прасторы, нават праўдападобнасці (напрыклад, “Брама неўміручасці” К. Крапівы) дзеля выяўлення сутнасці розных з'яў, чалавечых характараў, сваіх адносін да іх і г. д. У. М. грунтуецца на суб'ектыўнасці і дае пісьменнікам практычна неабмежаваныя магчымасці для іх фантазіі. Пры гэтым мастацкая арыгінальнасць – самастойная эстэтычная каштоўнасць, хоць яна падпарадкоўваецца глыбіні, яркасці і праўдзівасці паказу жыцця як вызначальнаму крытэрыю ацэнкі вартасці твора. Як і мастацтва ў цэлым, У. М. – спецыфічны сродак пазнання свету: яна пераўтварае адлюстраванне аб'екта *(гл.)* суб'ектам *(гл.)*, і суадносіны іх кладуцца ў сістэму мастацкіх напрамкаў. У. М. вымагае ад рэцыпіента адпаведнай падрыхтоўкі, ведання з'яў таго самага шэрагу, без чаго твор не робіцца фактам мастацтва. Пры адсутнасці такога стаўлення ўзнікае сітуацыя непаразумення,

непрымання, апрашчэнства. Таму ўлік і аналіз У. М. – важная частка эстэтычнага выхавання *(гл.)*.

*Параўн.:* умоўнасць (СЛТ, 1983, с. 166), умоўнасць мастацкая (ЭнЛіМБел, V, с. 363).

**УНІВЕРСАЛІІ** – агульныя паняцці. Праблемы У. у гісторыка-філасофскай традыцыі такія: праблема суадносін адзінкавага і агульнага; праблема суадносін канкрэтнага і абстрактнага, праблема ўзаемасувязі дэнатата з дэсігнатам, праблема прыроды імя (анталагічная і канвенцыянальная); праблема анталагічнага статуса ідэальнага канструкта, праблема суадносін быцця і мыслення. Набор культурных У. дастаткова стабільны (свет, змена, прычына, цэлае і да т. п. – У. аб’ектнага шэрагу; чалавек, шчасце, дзяржава, справядлівасць і да т. п. – У. суб’ектнага шэрагу; пазнанне, ісціна, дзейнасць і да т. п. – У. суб’ектыўна-аб’ектнага шэрагу). У. моўныя – уласцівасці характэрныя для ўсіх “моў” ці большасці з іх. Тэорыя моўных У. разглядае: 1) агульныя ўласцівасці ўсіх чалавечых моў у адрозненне ад моў жывёл; 2) сукупнасць змястоўных катэгорый, што выражаюцца тымі або іншымі сродкамі ў кожнай мове; 3) агульныя ўласцівасці саміх моўных структур, якія адносяцца да ўсіх моўных узроўняў. Калі ў класічнай лінгвістыцы паняцце «У.» ўжывалася для абазначэння рэлевантных уласцівасцей моў і адносін паміж гэтымі ўласцівасцямі, то ў сучаснай лінгвістыцы яно фіксуе пазамоўныя анталагічныя структуры, што стаяць за структурамі граматыкі (напр., “пазамоўныя катэгорыі” О. Есперсена і “паняційныя катэгорыі” І. І. Мешчанінава).

*Параўн.:* универсалии (ЛЭС, сс. 535-537), (ПЭ, сс. 833-834).

**УНУТРАНАЯ ФОРМА СЛОВА (ФРАЗЕАЛАГІЗМА)** – матываваная сувязь гукавой абалонкі (іншых кампанентаў) слова (фразеалагізма) з яго значэннем: *пятніца* (пяты дзень тыдня), *намыліць шыю* (увагнаць у пот, нібы намыць з мылам). У. Ф. С. (ф.) з часам забываецца, і яе ўстанавіць дазваляе этымалагічны аналіз слова (фразелагізма). Ад тэрміна “У. Ф. С. (ф.)” патрэбна адрозніваць тэрмін “УНУТРАНАЯ ФЛЕКСІЯ” – гукавая змена ў корані слова; граматычнае чаргаванне накшталт такога: *выбар – выбраць – выбіраць* і г. д.

У. Ф. С. матывуе гукавы воблік слова, паказвае на прычыну, паводле якой данае значэнне стала выражаным менавіта даным спалучэннем гукаў. Выбар прыкметы, што лягла ў аснову намінацыі, не абавязкова вызначаецца яе істотнасцю, гэта можа быць кідкая ў вочы прыкмета. Таму ў розных мовах, нават у такіх блізкіх, як руская і беларуская, адзін і той жа прадмет (суб’ект) можа быць названы на аснове выдзялення розных прыкмет (напрыклад, руск. *портной* ад *порты* (адзенне), а белар. *кравец* ад *краіць* (разразаць); руск. *сапожник* ад *сапог* (бот), а белар. *шавец* ад *шыць* (змацоўваць ніткай і шылам) і г. д.). У. Ф. С. фактычна з’яўляецца *канатацыяй (гл.)* або асновай *канатацыйнага* значэння *(гл.)*.

З развіццём фразеалогіі ўзнікла патрэба разглядаць унутраную форму фразем (фразеалагізмаў, фразеалагічных адзінак) як відавочнасць сінтаксічнай адзінкі, з якой узнікла даная (дадзеная) фразема. Напрыклад, фразеалагізм *як жару ўхапіўшы* (хутка; спяшаючыся) ўзнік з былога свабоднага словазлучэння, калі людзі

эканомілі на запалках і насілі жар (вугалі з агню), перакідваючы з рукі ў руку. “Гаваркімі” засталіся фраземы *вокам (позіркам) працяць, вочкамі (вачыма) страляць, дарогу перабегчы, дарогу перасякерыць, на свае вушы (чуць), сам сабе пан, са свету звесці, хоць вушы затыкай, цяжкі хлеб, язык высалапіць (высалапіўшы), язык прыкусіць* і інш.

У. Ф. прасвечваецца не ва ўсіх словах і фразеалагізмах. Шматлікія з іх так змянілі сваё аблічча, што цяжка нават спецыяльным, этымалагічным аналізам даказаць іх матывацыю і матывurbanасць (калі слова *гарод* і фразема *гарод гарадзіць* яшчэ не страцілі ні фанемнай, ні сэнсавай блізкасці, то тыя ж моўныя адзінкі цяжка зараз супастаўляць (этымалагізаваць) са словамі *жэрдка, жардзіна, жэрдзе, Жардзяжжа* (вёска) і г. д.).

*Параўн.:* внутренняя форма слова, внутренняя синтагма, внутренняя флексия (СЛТ, 1969, сс. 80-81), В. Ф. С. (ЛЭС, сс. 85-86), унутраная форма слова, унутраная флексія (СЛТ, 1990, с. 156).

**УСКОСНА-ПРОСТАЯ МОВА (ПРАМАЯ) МОВА** – *гл.* ПАЎПРОСТАЯ МОВА.

**УСКОСНАЯ МОВА** – перадача чужога выказвання (маўлення) у форме даданай часткі складаназалежнага сказа, а ў галоўнай частцы, як правіла, паведамляецца, каму належыць выказванне. Класічным з’яўляецца наступны прыклад: *Дзед Талаш і Мартын Рыль сталі раіцца аб тым, што рабіць далей і куды ісці*. (Я. Колас. Дрыгва).

М. Я. Цікоцкі падзяляе У. М. на дзелавую, або інтэлектуальную, і мастацкую. Да першай адносяцца выказванні такога кшталту, тыпу:

1. *Нават бывалыя земляробы-палешукі не памятаюць такога, каб з вясны, з пачатку пасяўной, на зямлю не ўпала ні кроплі дажджу;*

2. *Менавіта пра тое, у што паверыць цяжка, гаварылі аўтару гэтых радкоў кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў Пінскага і Столінскага раёнаў;*

3. *Дырэктар ААТ “Пінскае ПСМ” Пётр Калеснікoвіч кажа, што больш за месяц на пасевы і пашы не выпала ніводнага міліметра ападкаў, а норма на гэты час складае ад 57 да 75 мм* (Газ. “Звязда”, 8.06.2011 г.);

4. *Кіраўнік дзяржавы таксама адзначыў, што за $30 млрд можна пабудаваць яшчэ як мінімум тры такія прадпрыемствы, як “Белкалій”, па найноўшых тэхналогіях. І яшчэ грошы застануцца для народа;*

5. *Паводле яго слоў, сыравіннай базы дастаткова, аднак дзейнічаць тут трэба акуратна, каб не абваліць цану на калійныя ўгнаенні* (Газ. “Звязда”, 11.06.2011 г.).

Да мастацкай У. М. належыць не толькі прыведзены вышэй коласаўскі выраз, але і такі:

*Пустэльня, як заўсёды, цямнелася па-свойму гэтым вячэрнім часам яго-ных пагулянак: цямнела яму ў вочы ціхі бяздум. Яна не ведала, бо не чытала ў кнігах, што ёсць шырэйшы свет з шырэйшаю культураю. Яна быццам і ведаць не хацела шпаркасці жыцця і клопатаў далёкае адгэтуль цывілізацыі, зусім чужой і непатрэбнай дзеля пустыннага спакою. Маўчала так, каб і атручаны чужніцай сын яе забыўся тут, на родненькіх улоннях, на ўсё тое, што ўдзень*

*казалі, а нават і на тое, што час ад часу даводзілі яму так пільна нецярпліва чаканая і так марудная ў сваім жыцці і яшчэ больш у сваім паштовым падарожжы газета адраджэнцаў "Наша ніва"* (М. Гарэцкі. У чым яго крыўда?).

Як відаць з працытаванага ўрыўка, У. М. варта лічыць любы пераказ чужога маўлення. Праўда, і ў даным выпадку сустрэліся клішаваныя канструкцыі накшталт *казалі (гаварылі), што…, перадалі (паведамілі), што…, заявілі (пісалі), каб…, калі…, куды…* і г. д.

Яшчэ ў даваенны перыяд М. М. Бахцін падзяляў У. М. на прадметна-аналітычную і славесна-аналітычную. У "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (т. 5, с. 370) адзначаецца: "Пры перадачы чужога выказвання спосабам У. М. замяняецца суб'ектна-аб'ектны і мадальны аспект чужой мовы: адбываецца адпаведная замена асабовых форм дзеяслова, асабовых і прыналежных займеннікаў з арыентацыяй на апавядальніка, але часам план чужога выказвання захоўваецца… Пытальныя сказы прамой мовы афармляюцца ў У. М. як ускосныя пытанні і далучаюцца да слоў аўтара пры дапамозе пытальных займеннікаў, прыслоўяў і часціцы "ці". У. М. менш эмацыянальная, чым прамая і няўласна-прамая мова".

Такім чынам, У. М. – гэта стылістычны прыём, які лічыцца спосабам перадачы чужога выказвання (маўлення), не захоўваючы, як у простай мове, тыя ж самыя граматычныя, лексічныя і стылістычныя асаблівасці. Таму У. М. найчасцей сустракаюцца ў афіцыйна-справавым і навуковым стылях.

*Параўн.:* косвенная речь (СЭСРЯ, сс. 185-186), ускосная мова (СЛТ, 1990, с. 157).

**УСПРЫМАЛЬНІК (РЭЦЫПІЕНТ, АДРАСАТ, ЧЫТАЧ)** – суб'ект чытання і ўспрымання тэксту *(гл.)*. Праблема "аўтар-тэкст-рэцыпіент (чытач, слухач, глядач)" узнікла пасля зніжэння ролі ідэі Бога як стваральніка, г. зн. Аўтара ўсяго навакольнага, светлага і цёмнага, напісанага і надрукаванага. На аснове маўленчай дзейнасці людзей (аўтараў) узнікаюць разнастайныя тэксты, звязаныя з іншымі відамі дзейнасці людзей (цэлых калектываў): а) гаспадарчай, б) рэлігійнай, в) культурна-асветніцкай, г) адукацыйнай і г. д. У канцы XIX ст. вылучаецца ў асобную праблему "Чытач і пісьменнік", якая ў "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" тлумачыцца як "гістарычна замацаваная сувязь творцы і рэцыпіента мастацкага слова; шматгранная праблема тэорыі і практыкі літаратуры: сацыяльнай псіхалогіі ўспрымання, эвалюцыі творчай індывідуальнасці, узаемадзеяння, уплываў і г. д." (т. 5, с. 538). Далей канстатуецца, што У. як аб'ект і суб'ект літаратурнага працэсу знаходзіць паэтычна-апасродкаванае адлюстраванне ў творчасці пісьменніка (ЭнЛіМБел, V, с. 538). У другой палове XX ст. узнікаюць стылістыка тэксту і стылістыка ўспрымання яго. Апошняя атрымала яшчэ і назву стылістыкі дэкадзіравання, таму што ў працэсе маўленчай дзейнасці чалавек (аўтар, пісьменнік) адбірае патрэбную інфармацыю, кадзіруе яе і перадае іншым (адрасату, рэцыпіенту), карыстаючыся пісьмом ці пэўным каналам сувязі. Задача ж рэцыпіента (успрымальніка, чытача, адрасанта) – правільна ўспрыняць тэкст (твор) на аснове яго кода і прынцыпаў кадзіравання, якімі карысталіся (ці карыстаецца) аўтар (адра-

сант, рэферэнт). Так узнікла і стылітсыка (вобраз) чытача, і стылістыка (вобраз) аўтара ў мастацкай літаратуры. Прытым сацыялагічныя даследаванні паказалі, што суб’ектыўнасць і агульнасць пісьменніцкага бачання чытача дае права падзелу яго на чытача рэальнага (шырокага, масавага) і ідэальнага-пажаданага, чытача-субяседніка, сябра. Увогуле, паводле энцыклапедыі “Постмадэрн” (Мінск, 2001), “чытанне – сукупнасць практык, методык і працэдур работы з тэкстам, якое ўзнікла разам са з’яўленнем пісьменнасці, пісьма як формы фіксацыі; выражаны ў мове змест, знакавыя сістэмы камунікацыі людзей, што спачатку канстатытуіруецца як стратэгія пераводу пісьма ў вуснае маўленне; з аднаго боку, як яго літаральнае адчуванне, а з другога – як тлумачэнне замацаванага ў ім інварыянтнага (надчасавага і надпрасторавага) зместу ў канкрэтных прагматычных сітуацыях запатрабаванасці гэтых зместаў” (с. 938).

*Параўн.:* читатель, чтение (ПЭ, сс. 933-942).

**УСПРЫМАННЕ МАСТАЦКАЕ** – адлюстраванне ў індывідуальнай і грамадскай свядомасці твораў мастацтва (мастацкай літаратуры). *Гл.* АБАГУЛЬНЕННЕ МАСТАЦКАЕ, СТЫЛІСТЫКА ДЭКАДЗІРАВАННЯ, СТЫЛІСТЫКА ТЭКСТУ, ТЫПОВАЕ, УЗНЁСЛАЕ.

*Успрыманне – непасрэдна пачуццёвае адлюстраванне рэчаіснасці ў свядомасці; здольнасць успрымаць, адрозніваць і асвойваць з’явы навакольнага свету* (ТСБЛМ, 2002, с. 697). Спецыфіка У. М. абумоўлена тым, што ў аснове кожнага мастацкага твора – мысленне ў вобразах (*гл.* ВОБРАЗ МАСТАЦКІ, ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ). Таму У. М. адрозніваецца ад іншых форм У. агульнафіласофскага, навуковага і г. д. У. М. вызначаецца перш за ўсё якаснай характарыстыкай аб’екта адлюстравання, але гэты працэс дае не пасіўна-халодны, а актыўна-абумоўлены адбітак. Рэцыпіент (чытач, слухач, глядач) успрымае мастацкі твор тым глыбей і дакладней, чым больш ён развіты як асоба, грамадзянін. Увогуле У. – сацыяльная з’ява разуменне і ацэнка людзьмі маст. твораў як саміх сябе, іншых людзей, сацыяльных груп, вялікіх сацыяльных згуртаванняў. Псіхолагі лічаць, што У. – гэта суцэльнае адлюстраванне прадметаў, сітуацый і падзей, што ўзнікаюць пры непасрэдным уздзеянянні фізічных раздражняльнікаў на рэцэптарныя паверхнасці органаў пачуццяў. Разам з працэсамі адчування У. забяспечваюць непасрэдна-пачуццёвую арыенціроўку ў навакольным свеце. Будучы неабходным этапам пазнання, У. М заўсёды ў большай ці меншай ступені звязана з мысленнем, памяццю, увагай, накіроўваецца матывацыяй і мае пэўную эфектыўнасць і эмацыянальнасць афарбоўкі. Варта адрозніваць успрыманні, адэкватныя рэальнасці і ілюзіі – скажоныя ўяўленні ці ўражанні. У. М. не пасіўнае калькаванне імгненнага ўздзеяння, а жывы, творчы працэс пазнання *(гл.).* На акт У. М. уплываюць густ мастацкі *(гл.)*, асабістыя зацікаўленні, а таксама патрабаванні часу, маральныя нормы і патрабавнні калектыву. У цэлым У. М. вымагае вялікай увагі, актывізацыі ўсяго духоўнага патэнцыялу чалавека, інтэлектуальных і эмацыянальных намаганняў. Поўнага, стопрацэнтнага супадзення меркаванняў аўтара (адрасанта) і таго, хто ўспрымае твор ці тэкст (адрасата, рэцыпіента) быць не можа, што вынікае з самой

прыроды мастацкага вобраза *(гл.),* яго незавершанасці, накіраванай на дадумванне яго суб'ектам (успрымальнікам). У канчатковым выніку эмацыянальны і рацыянальны бакі У. М. зліваюцца ў адно, агульнае ўспрыманне, якое ў эксперыментальнай і агульнай фанетыцы вывучаны як сукупнасць механізмаў, што забяспечваюць пераход ад першаснага фанетычнага апісання гука ці гукавой паслядоўнасці да інтэрпрэтацыі яго як пэўнай адзінкі сістэмы мовы.

*Параўн.:* восприятие, восприятие речи (ФЭ, I, сс. 292-295), (КПС, 1985, сс. 52-54), (ЛЭС, сс. 86-87), успрыняцце мастацкае (ЭнЛіМБел, V, сс. 370-371).

**УСТАРЭЛЫЯ СЛОВЫ, ВЫРАЗЫ, ЗНАЧЭННІ** – *гл.* АРХАІЗАЦЫЯ, АРХАІЗМЫ.

**УСТАЎНЫЯ СЛОВЫ, СЛОВАЗЛУЧЭННІ, СКАЗЫ** – інтанацыйна і графічна адасобленыя сінтаксічныя адзінкі, якія ўводзяцца ў асноўны сказ для выражэння рознага роду заўваг як да ўсяго сказа, так і да яго членаў.

*Кожны пісьменнік, калі ён сапраўдны мастак, узбагачае літаратурную мову новымі сродкамі – фразеалагізмамі, метафарамі, параўнаннямі і г. д.* (Р. Шкраба. Літаратура і мова); *У працах нашых беларускіх літаратуразнаўцаў* (С. Андраюка і інш.) *ужо адзначалася, што вобразы герояў Мележ стварае талстоўскім метадам* (З. У. Драздова. Майстэрства слова).

Устаўныя кампаненты трэба адрозніваць ад пабочных слоў, словазлучэнняў, сказаў *(гл.).* Устаўныя словы, словазлучэнні, сказы – гэта моўныя (маўленчыя) адзінкі, якія ўзнікаюць у працэсе выказвання (як вуснага, так і пісьмовага) і выконваюць функцыю мімаходных заўваг, дадатковых паведамленняў. Аб'ём значэнняў, што выражаюць "устаўкі", практычна неабмежаваны, сказы з устаўнымі кампанентамі характарызуюцца своеасаблівым, "перарваным" сінтаксісам, куды можа быць ўстаўлена ўсё – ад звычайнага слова да шматкампанентнага, камбінаванага, складанага сказа. Каментары – ўстаўкі могуць быць самыя розныя, нават у адным сказе (выказванні). Напрыклад: 1. *Захапленне – у нашым заходнебеларускім асяроддзі – урбанізмам, тэхнікай, астранамічнымі сюжэтамі (на што адзін раз перахварэў і я) было смешнай данінай людзей* (М. Танк. Лісткі календара); *Кампанія таксама, – а было падлеткаў чалавек з дзеясяць, – прысаромленая, пайшла сваёй дарогай.*

*– Які вы смелы! – выказала незнаёмаму ўголас я сваё захапленне. (Прызнаюся, я марыла менавіта пра такога чалавека, калі думала, хто будзе ў мяне муж.)* (Б. Сачанка. Тыя). Паводле назіранняў А. М. Базыленкі, матывы для ўставак у асноўны тэкст могуць быць самыя разнастайныя. Так, у мове літаратурна-мастацкіх твораў устаўныя кампаненты – гэта праднамераны стылістычны (стылёвы) прыём; у мове публіцыстыкі і навуковых твораў устаўкі шырока выкарыстоўваюцца пры тлумачэнні пэўнага навуковага палажэння або малазразумелых слоў ці выразаў (архаізмаў, іншамоўных слоў, тэрмінаў і інш.); у гутарковай, дыялагічнай мове ўстаўкі выконваюць ролю мімаходных заўваг, выкліканых спантаннасцю маўлення, хуткасцю самой маўленчай плыні. У адрозненне ад пабочных кампанентаў сказа (выказвання) устаўныя кампаненты далучаюцца да паясняльных ці ўдакладняльных членаў асноўнага сказа пры дапамозе

сэнсава-інтанацыйнай сувязі, злучнікаў ці злучальных слоў і займаюць у адносінах да іх постпазіцыйнае становішча.

*Параўн.:* устаўныя сказы і ўстаўныя словы (ЭнЛіМБел, V, сс. 371-372), устаўныя канструкцыі (СЛТ, 1990, с. 158).

**УСТУП, УВОДЗІНЫ, УСТУПНАЯ (УВОДНАЯ) ЧАСТКА** – пачатковая, растлумачальная частка кнігі, брашуры, звязнага тэксту *(гл.)*.

Часцей за ўсё У. – гэта сціслы публіцыстычны ці навукова-тэарэтычны (папулярны), гісторыка-літаратурны ці іншы подступ да тэмы. Звычайна ідзе за прадмовай *(гл.),* нібы паглыбляючы яе. У навуковай літаратуры абавязкова ва У. Ч. вызначаецца мэта, ставяцца задачы даследавання, робіцца агляд важнейшай літаратуры паводле тэмы. Аднак і ў мастацкай літаратуры можна сустрэць такія структурныя найменні, напрыклад, у паэме “Над ракой Арэсай” Я. Купалы пачатак мае назву “Замест уступу”, а заканчэнне – “Замест заключэння”, хоць традыцыйна павінен быць “Пралог” і “Эпілог” (*гл.*, напрыклад, паэму А. Куляшова “Антон Шандабыла”). У юрыдычных і палітычных жанрах (тэкстах) у ролі У. Ч. выступаюць прэамбулы, а ў музычных – прэлюдыі, якія могуць прыстасоўвацца і да літ.-мастацкіх (напрыклад, І раздзел “Новай зямлі” Я. Коласа мае назву “Леснікова пасада” і часта называецца прэлюдыяй да ўсёй паэмы).

Уступныя часткі (уступы, уводзіны) ствараюцца для падрыхтоўкі чытача да найхутчэйшага раскрыцця тэмы працы (твора, тэксту), расшыфроўваюцца папярэдне (наўперад) цяжкія або спрэчныя пытанні, падаецца спіс умоўных скарачэнняў разам з іх поўнымі назвамі і інш. Усё адзначанае робіцца дзеля лепшага ўспрымання чытачом зместу прапанаванага: тэксту (тэкстаў), кнігі, брашуры, артыкула і г. д.

*Параўн.:* уступ (ЭнЛіМБел, V, с. 372).

## Ф

**ФАБУЛА** – 1) сістэма знешняга дзеяння ў творы, якая можа перадавацца немастацкім спосабам, пераказваецца; 2) тое, што і сюжэт *(гл.)*.

Як тэрмін, “Ф.” часцей за ўсё ўжываецца ў літаратуразнаўстве, бо ў мастацкай літаратуры яна ствараецца ўчынкамі, паводзінамі, дыялогамі персанажаў (герояў) і служыць для канкрэтызацыі зместу твора. У значнай ступені залежыць ад ідыястылю аўтара тэксту, а таксама асаблівасцей яго сюжэту. Фабульнае дзеянне актывізуе сюжэт, надаючы яму выразнасць і канкрэтнасць. Ф. уласціва пераважна значным эпічным і драматургічным творам, а для лірыкі зусім не характэрная. Моцная Ф. у творах пісьменнікаў, што паказваюць дзеянне ў дынаміцы, захапляюцца інтрыгамі герояў (персанажаў), раскрываюць характары праз спробы дзейных асоб (Я. Маўр, І. Шамякін, У. Караткевіч і інш.). Захапленне фабульнымі сродкамі адлюстравання прыводзіць да схематызму і фармалізму.

*Параўн.:* фабула (КЛЭ, VII, сс. 873-874), (СЛТ, 1983, с. 1670, (ЭнЛіМБел, V, сс. 378-379), (Рагойша, 2001, с. 338).

**ФАКСІМІЛЕ, ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ** – 1) дакладнае ўзнаўленне рукапісу, дакумента, старадаўняга выдання ці подпісу; 2) дакладна ўзноўленае выданне фотамеханічным або іншым спосабам.

Паводле "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (т. 5, сс. 379-380), Ф. – гэта "выраб друку, які графічна дакладна (уключаючы асаблівасці паперы і пераплёту) узнаўляе арыгінальнае выданне або рукапіс. Мэта Ф. В. – зберагчы і зрабіць даступным шырокаму колу чытачоў рэдкія, унікальныя або вельмі каштоўныя ў розных адносінах помнікі (кнігі, рукапісы і інш)". Дзеля ўсяго гэтага прымяняецца разнастайная тэхніка, пераважна фотамеханічны спосаб. Так, "Біблія" Ф. Скарыны была ўзноўлена ў 3 тамах і 2419 с. у 1990-91 гг. выдавецтвам "Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя П. Броўкі. На працягу 1981-1994 гг. выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла ў свет Ф. В.: зборнікі твораў М. Багдановіча "Вянок" (1981), "Жалейка" Я. Купалы і "Песні-жальбы" Я. Коласа (1982), "На этапах" М. Танка і "Матчын дар" А. Гаруна (1988), "Пад сінім небам" Н. Арсенневай (1991), "Рунь" М. Гарэцкага (1994) і інш. У 1993 г. выдавецтва "Беларусь" узнавіла 4-е выданне "Геаграфіі Беларусі" А. Смоліча, а ў 1991 г. выдавецтва "Народная асвета" – 5-е выданне "Беларускай граматыкі для школ" Б. Тарашкевіча.

*Параўн.:* факсіміле (ТБСЛМ, 2002, с. 705), факсімільнае выданне (ЭнЛіМБел, V, сс. 379-380).

**ФІГУРАЛЬНАЕ МАЎЛЕННЕ** – *гл.* ВОБРАЗНАЕ МАЎЛЕННЕ.

**ФІГУРНЫ ВЕРШ** – верш, радкі якога сканструяваны ў форме трохкутніка, ромба, зоркі, крыжа і інш. Нетрадыцыйнае афармленне літаратурна-мастацкага тэксту звязваецца ў першую чаргу з *візуальным (гл.)* яго ўспрыняццем. Тэрмін "фігурны верш" пакуль яшчэ рэдка выкарыстоўваецца ў сучасных беларускіх літаратуразнаўчых артыкулах і даведніках, дарэчы, як і тэрмін "візуальная паэзія". Праўда, у сваім "Паэтычным слоўніку" В. Рагойша пацвярджае наяўнасць такога тыпу вершаў яшчэ ў Сімяона Полацкага, "які вершаванымі радкамі "маляваў" контуры васьмівугольнай зоркі, сэрца, крыжа і інш.". Аднак даследчык літаратуры мяркуе, што такі запіс ці друкаванне вершаў мае пераважна фармальны характар, а самі фігурныя вершы могуць успрымацца як "своеасаблівыя забаўкі" ў выданнях для дзяцей, радзей – у дарослай паэзіі.

У апошні час у творчасці беларускіх пісьменнікаў назіраецца схільнасць да сінтэзу паэзіі з графікай і нават архітэктурай, фігурныя вершы сталі карыстацца папулярнасцю:

*Маўчу –*
*словатворчасцю*
*не парушу застылую цішу*
*бязмежнае белае далі;*
*гук мембрану кране*
*першым промнем*
*вясёлкі Эрота –*
*то ўжо нечая*
*музыка будзе.*

(В. Аксак. Зімовы эцюд).

*Я,*
*вы,*
*яны:*
*неба,*
*зямля,*
*валуны,*
*селішча,*
*імгненне.*
*(Да мяне так прыходзіць*
*НАТХНЕННЕ)*
(У. Дзянікін. Натхненне).

Запіс кожнага з працытаваных твораў уяўляе пэўную сіметрычную фігуру. Такая “архітэктура” твора не толькі знешне прываблівае сваім нечаканым выглядам, але і змяшчае значную *падтэкставую (гл.)* інфармацыю.

*Параўн.:* зрокавая паэзія, графічная форма (Абабурка, 2011, с. 32), (Рагойша, 2003, с. 40).

**ФІГУРЫ МАЎЛЕННЯ** – выслоўі, фразы, якія выкарыстоўваюцца дзеля ўзмацнення выразнасці выказвання. Вылучаюцца своеасаблівай сінтаксічнай будовай. Падзяляюцца на рытарычныя і стылістычныя (сінтаксічныя) фігуры. Да Р. Ф. М. адносяцца рытарычнае пытанне, рытарычны зваротак і рытарычны вокліч. Да С. Ф. М. адносяцца разнастайныя паўторы (анафара, эпіфара, кальцо, падваенне, шматзлучнікавасць, шматпрыназоўнікавасць і інш.), усе віды і формы парушэння звычайнай сінтаксічнай ці лагічнай сувязі (інверсія, анакалуф, эліпсіс, недаказ і інш.), супастаўленне і супрацьпастаўленне пэўных сінтаксічна-інтанацыйных адзінстваў (паралелізм, антытэза, ампліфікацыя, перыяд і інш.).

Даследуюцца Ф. М. з часоў Арыстоцеля, калі былі даказаныя неабходнасць іх выкарыстання і неабходнасць іх адрознення як паміж сабою, так і ад тропаў *(гл.)*. Класіфікаваліся Ф. М. паводле двух прынцыпаў: семантычна-стылістычнага і структурнага. Таму і па сённяшні дзень яны падзяляюцца, з аднаго боку, на рытарычныя (у першую чаргу рытарычныя воклічы, звароткі, пытанні і інш.) і стылістычныя (сінтаксічныя): анафара, эпіфара, градацыя, інверсія, паралелізм, шматзлучнікавасць, шматпрыназоўнікавасць, эліпсіс і г.д. Сучасныя тэкстазнаўчыя тэорыі, найперш тэорыя тэксту, да Ф. М. адносяць любое ўжыванне моўнага (маўленчага) знака ў няпершаснай яго функцыі (як семантычнай, так і сінтаксічнай), пры нараджэнні новага сэнсу, пры непадпарадкаванні (парушэнні) агульнапрынятай абавязковай літаратурнай норме і г. д. Сёння статус Ф. М. знаходзіцца ў цеснай залежнасці ад характару самога маўлення (выказвання, тэксту). Вызначаецца нават *метафарычны стыль* (з фігурамі маўлення) і *аўталагічны стыль* (без іх) маўлення (выказвання, тэксту).

*Параўн.:* фигура речи (СЛТ, 1969, с. 492), (РЯЭ, сс. 368-370),фигуры речи (ЛЭС, 1990, сс. 542-543), фігура маўлення (СЛТ, 1990, с. 161).

**ФОНІКА** – 1) раздзел паэтыкі, які вывучае гукавую арганізацыю вершаванай мовы *(гл.)*; 2) гукавая арганізацыя вершаванай мовы: рытм, рыфма, строфіка,

паэтычны сінтаксіс (рытмамелодыка і мелодыка), інтанацыя; 3) гукаперайманне (алітэрацыя, гукаперайманне, асананс і інш.). *Гл.* ГУКАПІС.

Увесь гукавы лад вершаванай мовы разлічаны на гучанне і таму ўсе яго выяўленчыя магчымасці рэалізуюцца пры дэкламацыі ці спяванні (напрыклад, калі верш становіцца песняй – ці арыгінальнай, ці народнай). Інструментоўка верша ўплывае на яго мілагучнасць, на яго сэнсавую выразнасць і своеасаблівасць інтанацыйнага малюнка. Рыфма як разнавіднасць гукавога паўтору, самі гукавыя паўторы (у першую чаргу асананс і алітэрацыя), рытм, строфіка, асобныя фігуры паэтычнага сінтаксісу *(гл.)* ствараюць патрэбную гармонію, мелодыку і захапленне. Інтанацыйнасць – гукавая арганізацыя паэтычнага маўлення – залежыць ад індывідуальнага спрыту яго ствральніка (паэта), эмацыянальна-сэнсавага напаўнення ўсяго твора разам з яго фанетычнымі асаблівасцямі. Аднаго нейкага (пэўнага, канкрэтнага) універсальнага спосабу арганізацыі вершаванай мовы не існуе, але Ф. мае цесную сувязь з развіццём лірычнай тэмы (увогуле лірызму) таго ці іншага твора. Ды і формы таксама надзвычай разнастайныя. Мілагучнасць, або эўфанія, абумоўліваецца ўсёй гукавой сістэмай беларускай нацыянальнай (літаратурнай і дыялектнай) мовы: поўнагалоссем, выразным аканнем і яканнем, дзеканнем і цеканнем, падваеннем і падаўжэннем зычных, асіміляцыйнай мяккасцю і інш.

*Параўн.:* фоніка (Рагойша, 2003, сс. 41-43), фоника, фонология (ЛітЭС, сс. 470-471).

**ФОРМЫ МАЎЛЕННЯ** – 1) маўленне як вынік маўленчай лзейнасці: гаварэнне, слуханне, пісьмо, чытанне; 2) маўленне як разнавіднасць камунікацыі пры дапамозе мовы: літаратурнае і нелітаратурнае (дыялектнае); 3) маўленне як разнавіднасць літаратурнай мовы: вуснае і пісьмовае *(гл.)*; 4) маўленне як выказванне ці тэкст *(гл.)*: аўтарская мова *(гл.)*, мова дзейных асоб *(гл.)*; 5) маўленне як дыялог *(гл.)* і маналог *(гл.)*.

Вучоныя даўно ўжо даказалі, што маўленчая дзейнасць – гэта сукупнасць псіхафізіялагічных дзеянняў чалавечага арганізма, неабходных для фарміравання, перадачы і ўспрымання думкі. Маўленчая дзейнасць людзей аб'ядноўвае мову і маўленне ў адно цэлае – выказванне (вуснае ці пісьмовае). Звычайна гэта звязнае маўленне, якое ў большасці выпадкаў называюць тэкстам. У прынцыпе – гэта шлях ад сэнсу да тэксту і ад тэксту да сэнсу: у жывой, вуснай мове думка ідзе ад гаварэння да слухання і ад слухання да гаварэння; той, хто перадае свае думкі ў пісьмовым выглядзе, ажыццяўляе ўсё спачатку ва ўнутраным маўленні (нібы моўчкі "прагаворвае" сам сабе). Маўленне (і вуснае, і пісьмовае) ствараецца як паслядоўнасць "знакаў мовы" (найперш гэта словы, словазлучэнні, сказы) паводле пэўных правіл у адпаведнасці з мэтай выказвання, патрабаваннямі неабходнай інфармацыі. Таму да разнавіднасцей маўленчай дзейнасці людзей адносяцца гаварэнне, слуханне, чытанне і пісьмо. Вуснае ці пісьмовае маўленне аднаго чалавека (індывіда), якое ўспрымаецца як працэс, дзейнасць таго, хто гаворыць ці піша, прынята называць *звязным маўленнем (звязнай мовай)*.

У сучаснай беларускай лінгвістыцы і методыцы выкладання роднай мовы актыўна выкарыстоўваюцца тэрміны “звязная мова” і “звязнае маўленне”. Фактычна яны раўназначныя і ўзаемазамяняльныя. Праўда, у методыцы мовы разуменне іх значна шырэйшае, чым у лінгвістыцы: 1) працэс выражэння думкі, або дзейнасць таго, хто гаворыць (піша); 2) прадукт маўленчай дзейнасці, г. зн. тэкст (выказванне); 3) раздзел методыкі развіцця мовы (маўлення): методыкі пераказу, сачыненняў і іншага роду творчых прац.

Як вядома, асноўным аб’ектам культуры мовы і маўлення з’яўляецца правільнае, дакладнае, лагічнае, чыстае, дарэчнае, выразнае і разнастайнае маўленне індывіда, якое ўспрымаецца як працэс, дзейнасць таго, хто гаворыць ці піша. Таму сувязь культуры мовы і маўлення самая непасрэдная і надзвычай цесная.

Сучасная лінгвістыка пашырыла свае межы, зрабіўшы прадметам вывучэння тэматычна-кампазіцыйныя адзінствы – складаныя сінтаксічныя цэлыя, абзацы, выказванні і тэксты. Апошнія – гэта часцей за ўсё два ці больш сказаў, аб’яднаных сэнсавымі і фармальнымі сувязямі. Традыцыйна такую звязную мову называюць або апавяданнем, або апісаннем, або разважаннем. У школьнай практыцы падзяляюцца на ўказаныя разнавіднасці элементарныя тэксты ці абзацы з іх.

Аднак варта заўважыць, што апісанне, апавяданне, разважанне – гэта традыцыйныя функцыянальна-сэнсавыя тыпы мастацкага маўлення, прытым маналагічнага маўлення ў літаратурна-мастацкіх тэкстах. Сучасныя даследчыкі функцыянальных тыпаў маўлення (напрыклад, Р. Я. Салганік, В. В. Адзінцоў і інш.) разглядаюць маналагічнае маўленне як сукупнасць лагічных адзінстваў вышэйшага (вызначэнне, розумазаключэнне, характарыстыка, паведамленне) і ніжэйшага (тлумачэнне, разважанне, апісанне, апавяданне) парадку. Дыялагічнае ж маўленне (дыялог інфармацыйны і дыялог сюжэтны) на сучасным этапе развіцця лінгвістыкі звязваецца толькі з лагічнымі адзінствамі ніжэйшага парадку. Выказванні ў дыялогах называюцца рэплікамі, якія ў сваю чаргу разглядаюцца як рэплікі-сігналы (з іх пачынаецца дыялагічнае маўленне, яны вызначаюць тэму і мэту гутаркі) і рэплікі-рэакцыі (яны адказавыя, бо раскрываюць тэму і мэту ў форме адказу на пастаўленае пытанне ў папярэдняй рэпліцы).

У практыцы школьнага выкладання беларускай мовы і літаратуры адрозніваюць выказванне як адзінку паведамлення і тэкст як твор вуснага ці пісьмовага маўлення. Выказванне звычайна адрасуецца слухачу і мае трохчленную структуру: матыў, аналіз-сінтэз і выкананне. Выказванні бываюць разгорнутыя (пераважна маналогі) і эліптычныя (у дыялогах). У гутарковай мове выкарыстоўваюцца сітуацыйныя выказванні, якія могуць быць зразумелыя толькі ў данай маўленчай сітуацыі. Фарміруецца выказванне ва ўнутраным маўленні, і таму думка атрымлівае форму звязнай мовы не адразу, а па частках. Камунікацыйныя задачы (растлумачыць, пераканаць, абмеркаваць і г. д.) вырашаюцца ўменнем перадаваць думку правільна, эмацыянальна, даступна, выразна. Будова сказаў, адказы на пастаўленыя пытанні і заданні, разгорнутае раскрыццё той ці іншай тэмы – тыповыя прыклады элементарных, школьных выказванняў, якія поўнасцю павінны адпавядаюць патрабаванням камунікацыйных якасцяў маўлення. Часцей за ўсё

разнастайныя выказванні звязваюць з вусным маўленнем, галоўным чынам з гаварэннем.

*Гаварэнне* – гэта перавод унутранага маўлення ў акустычнае, г. зн. знешняе, інакш кажучы, гаварэнне – гэта перакадзіроўка думкі ў гукавыя сігналы. Цяжкасці ў авалоданні гаварэннем для вучняў заключаюцца ў хуткасці і непадрыхтаванасці, немагчымасці абдумаць, за долі секунды ацаніць сітуацыю, вызначыць матывы і план выказвання, выбраць найбольш дакладныя словы, размеркаваць іх у неабходным парадку, звязаць іх з дапамогай канчаткаў, прыназоўнікаў, злучнікаў, уключыць у дзеянне свой маўленчы апарат і аформіць выказванне акустычна, г. зн. вымавіць фразу, прыдаўшы ёй патрэбныя інтанацыі, націскі, тэмбр голасу і г. д.

*Слуханне* (аўдзіраванне) – гэта ўспрыняцце маўлення на слых і разуменне яго. Паводле метадычных даследаванняў, на ўроку на 50% агучанага маўлення вучняў і настаўніка не ўспрымаецца і не ўсведамляецца пэўнай часткай вучняў (Львоў, 19).

*Пісьмо* як від маўленчай дзейнасці чалавека – гэта працэс кадзіравання слоў і тэкстаў з дапамогай графічных знакаў, пераважна літар.

*Чытанне* – працэс перакадзіравання графічна зафіксаванага тэксту ў час маўлення, яго разуменне (пры чытанні ўслых), ці перавод непасрэдна ў сэнсавыя адзінкі, нават без гукавога афармлення (пры чытанні моўчкі, г. зн. самому сабе).

*Гаварэнне і пісьмо* лічацца прадуктыўнымі тыпамі маўленчай дзейнасці, а *чытанне і слуханне* – рэцэптыўныя віды маўленчай дзейнасці.

*Параўн.:* формы речи, функционально-смысловые типы речи (СЭСРЯ, сс. 572, 577-580).

**ФОРМУЛЫ МАЎЛЕНЧАГА ЭТЫКЕТУ** – моўныя звароты, асноўная камунікацыйная функцыя якіх – устанаўленне і падтрымка кантакту са слухачамі. Тыповымі прыкладамі Ф. М. Э. з'яўляюцца прывітанні, пажаданні (здароўя, шчасця і інш.), кампліменты і г. д..

Маўленчы этыкет – гэта сукупнасць прынятых грамадствам правілаў маўленчых паводзін у адпаведных сферах і сітуацыях моўных зносін. Ф. М. Э. выпрацоўваюцца і рэгулююцца сацыяльнай іерархіяй, нацыянальнай культурай, уласна этыкетам і рытуалам, выхаванасцю асобы, пастаяннай граматыкай і свядомым кантролем. Ф. М. Э. – гэта разнаўзроўневыя моўныя адзінкі, пачынаючы ад паўназначных / непаўназначных слоў і канчаючы фразамі ці суцэльнымі выказваннямі: *"Здароў!", "Добрага здароўя!", "Бывайце здаровы, жывіце багата!..", "Бывайце здаровы, як рыжыкі баровы!"* і г. д. Звычайна Ф. М. Э. класіфікуюцца паводле разнастайных этыкетных сітуацый: 1) зварот у звычнай ці ветлівай форме: а) *"Ты, дружа, пасядзі тут"* Або: *"Вы б, калі ласка, пайшлі ў дом…"*; б) *"Украіне! Цвеце любы…"* (Я. Купала. Тарасава доля); 2) звяртанне ўвагі, вокліч: *"Эй ты, галава і два вухі…"* – (жартоўна, у гутарковым стылі); 3) знаёмства: *"Будзьма знаёмыя… Мяне завуць (клічуць)… А скажыце, калі ласка, як Вас?!.;* 4) вітанні і прывітанні: *"Прывет табе, зямля на волі!.."* (Я. Колас. Вітаю вас…); 5) развітанне: *"Дабранач, усяго Вам найлепшага!";* 6) удзячнасць: *"Дзякуй табе,*

*браце, Бурачок Мацею…”* (І. Гурыновіч); 7) віншаванне: *“З Новым годам, дарагія сябры…”*; 8) пажаданні: “Жадаю вам таго, чаго жадаеце сабе вы самі…”; 9) камплімент: *“Будзь, маладзічка, заўсёды, як сунічка…”;* 10) суцяшэнне і спачуванне: “Ну, не плач, каточак, вава хутка зажывець…”; 11) запрашэнне: *“Сардэчна запрашаем вас наведаць нас…”, “Просім, госцікі дарагія, за стол садзіцца…”;* 12) згода ці адмова *“Ага”, “Анягож”, “Ну, але, але…”, “Не-не-не!”, “Ані ў якім разе… Не-не-не!”, “Нізавошта!”* і інш.

Некаторыя Ф. М. Э. устарэлі або страцілі сваю актуальнасць: *Божа літасцівы! Божа міласцівы! Ваша мосць, Ваша міласць, Ваша ягамосць…* Могуць выступаць у ролі эўфемізмаў ці дысфемізмаў, асабліва ў п’есах, гутарковых жанрах, напрыклад:

К р ы н і ц к і. *Каханенькая, радненькая, дзве дзюркі ў носе і скапчылося…* (Я. Купала. Паўлінка).

Значны эфект Ф. М. Э. у так званай дзіцячай паэзіі. Напрыклад:

*Не сядзіцца ў хаце*
*Хлопчыку маломy:*
*Кліча яго рэчка,*
*Цягнуць санкі з дому…*

*– Мамачка-галубка!*
*Просіць ён так міла, –*
*Можа б ты на рэчку*
*Пагуляць пусціла?*

*Я не буду доўга,*
*Зараз жа вярнуся,*
*Трошачкі на рэчцы*
*Ў санках паважуся*

*– Ну, ідзі, пабегай,*
*Толькі апраніся*
*Ды, глядзі ў палонку,*
*Сынку, не ўваліся…*

(Я. Колас. На рэчцы зімою).

Маўленчы этыкет беларускага народа, яго формулы яшчэ чакаюць дбайнага і скрупулёзнага даследчыка, бо гэта неад’емны элемент культуры нашага народа, яго найважнейшы прадукт культурнай маўленчай дзейнасці.

*Параўн.:* речевой этикет (ЛЭС, сс. 413-414), (СЭСРЯ, сс. 354-357), этыкет (ТБСЛМ, 2002, с. 777).

**ФРАГМЕНТ** – 1) асобная частка ці ўрывак *кампазіцыйнага адзінства (гл.)*; у якасці Ф. у гэтым выпадку можа выступаць любы, нават семантычна не завершаны элемент тэксту; 2) тэматычна аб’яднанае *звышфразавае адзінства (гл.)*, што мае прыкметы непаўнаты, незавершанасці; урывак тэксту. Прыкладам фрагмента ў такім азначэнні можа быць урывак з рамана Л. Дайнекі “Меч князя Вячкі”:

1) *Хлопчык ганяўся за матыльком. Матылёк быў невялікі, дужа прыгожы, з шырокімі цёмна-чырвонымі крылцамі, на якіх бачыўся незвычайны малюнак – сінія і зялёныя рыскі спляталіся ў адзіны вузел, і дзесяць сонцаваротаў хлопчык такога матылька сустрэў упершыню і таму вельмі хацеў спаймаць яго, хацеў несці яго ў руках, склаўшы далоні кубарыкам, пагуляць з ім, пацешыцца, а потым паказаць маці.*

*Яны мітусіліся на цёплым сонечным лужку, між травы і кветак.*

2) *Матылёк як бы дражніў малога. То высока ўзвіваўся ўгору, нібы іскра з вогнішча, то, робячы шырокія плаўныя кругі, раптам садзіўся на якую-небудзь аблюбаваную кветку і сам рабіўся кветкай, і нялёгка было зноў убачыць яго.*

3) *Хлопчык то прыпадаў да самай зямлі, заміраў і чуў, як усхвалявана трапечацца разагрэтае вясёлым паляваннем сэрца, то кідаўся на кветку з матыльком, сціскаў галоўку кветкі ў далонях, але ў самы апошні міг, з-пад самага носа ў яго, матылёк вырываўся ў неба.*

4) *Горача свяціла сонца. Быў яркі летні поўдзень з мяккімі белымі воблачкамі ў сінім небе, з лёгкім ветрыкам. Мясціна, дзе гулялі хлопчык з матыльком, знаходзілася на невысокай травяністай выспе, у самым сутоку дзвюх рэк. Якраз тут залатая ад сонца Свіслач улівалася ў срэбную ад сонца Бярэзіну. Чуўся плёскат вады. Лётала мноства прыгожых стракоз. Але матылёк быў адзін, адзін на цэлым свеце, і толькі за ім цікавалі радасна-насцярожаныя карычневыя вочы хлопчыка.*

Ф. можа супадаць са *складаным сінтаксічным цэлым (гл.)*, можа ўключаць некалькі складаных сінтаксічных цэлых. Прыведзены Ф. складаецца з чатырох тэматычна аб'яднаных складаных сінтаксічных цэлых.

**ФРАГМЕНТАРНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ** – асобны (лінгвістычны) аналіз якой-небудзь часткі (нават самай мінімальнай) тэксту *(гл.)*; ФРАГМЕНТ – 1) асобная частка ці ўрывак кампазіцыйнага адзінства; 2) урывак тэксту. *Гл.*: АБЗАЦ, КАНТЭКСТ, МІКРАТЭКСТ, СКАЗ.

Звычайна пад фрагментам разумеюць або частку мастацкага твора (тэксту), або яго ўрывак (лагічна, сэнсава і сінтаксічна завершаны). Аднак тэрмін "фрагмент" варта разумець і ў шырокім, і вузкім сэнсе. У шырокім сэнсе – гэта ў вусным маўленні звычайная фанацыйная (дыхальная) група (*гл*. СІНТАГМА, СЛОВАСПАЛУЧЭННЕ, СКАЗ, ФРАЗА), а ў пісьмовым – лагічная частка тэксту ад аднаго знака прыпынку да другога. У вузкім сэнсе – гэта састаўная частка тэксту, якая або ўключаецца, або выключаецца аўтарам у адносінах да асноўнага тэксту. Таму часцей за ўсё – гэта мікратэкст *(гл.)* ці нават кантэкст *(гл.)*. Ф. можна называць фразу, абзац і звышфразавае адзінства *(гл.)* у сукупнасці як адзіную састаўную частку тэксту (макратэксту).

Фрагментарны лінгватэксталагічны аналіз атрымліваецца тады, калі аналізуюцца тыя фрагменты літаратурна-мастацкага твора, якія з пэўнымі мэтамі аўтарам апускаюцца ці дапісваюцца ў параўнанні з асноўным (канчатковым) тэкстам. Найчасцей названы аналіз неабходны пры параўнанні розных дапрацовак аднаго ці некалькіх фрагментаў найперш з боку мовы і стылю як асобнага ўрыўка, так і ўсяго твора. Яскравым прыкладам да сказанага з'яўляецца кожны раздзел паэмы Я. Коласа "Новая зямля".

Раздзел-прэлюдыя "Леснікова пасада" ва ўсіх хрэстаматыях, нават і ў дапаможніку для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ РБ "Лінгвістычны аналіз тэксту" (Выд. 1, 2. – Мінск: Выш. школа, 1982-1992), падаецца ў скарочаным выглядзе. На самой справе зачын паэмы такі:

*Мой родны кут, як ты мне мілы!..*
*Забыць цябе не маю сілы!*
*Не раз, утомлены дарогай,*
*Жыццём вясны мае убогай,*
*К табе я ў думках залятаю*
*І там душою спачуваю.*

*О, як бы я хацеў спачатку*
*Дарогу жыцця па парадку*
*Прайсці яшчэ раз, азірнуцца,*
*Сабраць з дарог каменні тыя,*
*Што губяць сілы маладыя, –*
*К вясне б маёй хацеў вярнуцца… і г. д.* (Зб. тв. 2008 г.).

Дапрацоўка пачатковага тэксту была нязначная. Гэта відаць з супастаўлення першапублікацыі, ажыццёўленай “Нашай нівай” за 19 ліпеня 1912 г. (№ 28-29) з падзагалоўкам “Адрывак з расказа “Новая зямля” і канчатковым варыянтам яго. Там знаходзім такое:

*Каля пасады лясьніковай*
*Цягнуўся зграбнаю падковай*
*Стары, высокі лес цяністы.*
*Тут верх асіны кругалісты*
*Сплетаўся з хвоямі, з дубамі,*
*А ёлкі хмурымі крыжамі*
*Высока ў небі выдзелялісь,*
*Сумна з хвоямі шэпталісь.*
*Заўсёды смутные, як удовы,*
*Яны найбольш адны стаялі,*
*І так маркотна пазіралі*
*Іх задуменныя галовы!*
(Наша ніва)

*Каля пасады лесніковай*
*Цягнуўся гожаю падковай*
*Стары высокі лес цяністы.*
*Тут верх асіны кругалісты*
*Сплятаўся з хвоямі, дубамі,*
*А елкі хмурымі крыжамі*
*Высока ў небе выдзялялісь*
*Таемна з хвоямі шапталісь.*
*Заўсёды смутныя, бы ўдовы,*
*Яны найбольш адны стаялі,*
*І так маркотна пазіралі*
*Іх задуменныя галовы!*
(Зб. тв., 1953 г.).

Як відаць з працытываных фрагментаў, дапрацаваны варыянт адрозніваецца ад першаснага на лексічным узроўні *(зграбнаю – гожаю, сумна – таемна, як – бы)*, арфаграфічным *(лясьніковай – лесніковай, ёлкі – елкі)*, марфалагічным *(небі – небе)*, сінтаксічным *(выдзелялісь, і Сумна выдзялялісь, і Таемна)*; пунктуацыйным *(Стары, высокі – Стары высокі)* і фанетычным *(шэпталісь – шапталісь)*.

Далей сустракаюцца і больш значныя перапрацоўкі, але за межы фрагментаў яны не выходзяць. Напрыклад:

*Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,*
*Лучамі сонейка заліты,*
*Стаіш у мяне перад вачыма.*
*Ты міл і смуцен, як радзіма,*
*Як наша ціхая старонка,*
*Дзе смагі сіняя пялёнка*
*У паўднёвы час дымком звісае*
*І даль задумай спавівае…*
(Наша ніва, 1912 г.)

*Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,*
*Праменнем сонейка заліты,*
*Увесь стаіш перад вачыма,*
*Ты міл і смуцен, як радзіма,*
*Як наша ціхая старонка,*
*Дзе смугі сіняя пялёнка*
*У летні час дымком звісае*
*І даль задумай спавівае…*
(1952, 1953, 1974 гг.).

Калі параўнаць дапрацоўку дадзенага фрагмента з папярэднім, то тут заўважаецца не замена больш дакладным сінонімам, а ўдакладняецца сэнс мовы *(У паўднёвы час – У летні час)* або рускамоўная ці дыялектная адзінка замяняецца агульнапрынятай, літаратурнай нормай *(Лучамі – Праменнем, смагі сіняя – смугі сіняя)* і г. д.

Фрагментарны лінгватэксталагічны аналіз збліжаецца сваёй тэхналогіяй з так званым паўузроўневым лінгвістычным (лінгвастылістычным, лінгваэстэтычным) аналізам тэксту. Асабліва прымальны, больш падатлівы для сказанага стылістычны ўзровень, вядома ж, і з падключэннем астатніх. Практычна гэта можна прадэманстраваць на вершы "Родная мова" М. Танка.

1. Верш напісаны ў 1943 г., калі былі ўжо вызваленыя першыя гарады і вёскі ад нямецка-фашысцкай навалы. Бачачы вялікі аўтарытэт рускага народа і вялікую сілу рускай мовы, М. Танк напамінае беларусам пра іх будучыню, пра іх сапраўдную радзіму, пра іх надзённыя клопаты. Праўда, амаль праз дзесяць гадоў (у 1952 г.) з'явіцца з-пад пяра паэта і верш "Руская мова".

2. Твор "Родная мова" – своеасаблівы ўнутраны маналог, звернуты да беларускай мовы, якая "не проста сродак зносін паміж людзьмі, а сімвал душы народа, увасабленне нацыянальнай свядомасці, асаблівасці характару, бясцэнны скарб, які дае права народу на несмяротнасць" (У. Калеснік). Твор складаецца з трох строф, якія прынята называць перыядамі, бо яны адрозніваюцца адноснай самастойнасцю тэмы (першая страфа – нібы мінулае роднай мовы, другая – сучаснасць, трэцяя – будучыня), закончанасцю выказвання і падзелу яго інтанацыйна на дзве часткі (кульмінацыйны пункт, выдзелены ў кожнай страфе коскай з працяжнікам). Паўторы прыназоўніка "з" і злучніка "і" (першая страфа), слова "няма" і прыназоўніка "над" (другая страфа), злучніка "і" і слова "ізноў" (трэцяя страфа), а таксама гукаў [э], [о], [а], [і] забяспечваюць вершу ўрачыста-ўзнёслае гучанне, запаволены рытм, узмацняюць эмацыянальнае ўздзеянне верша, звяртаючы ўвагу слухача (чытача) на асобныя словы і фразы, з якіх яны пачынаюцца ці канчаюцца. Займеннік "ты" знітоўвае ўвесь тэкст, забяспечваючы нават фармальную суцэльнасць твора (калі замяніць яго, як у першай страфе, словазлучэннем "родная мова", то фармальны бок адыдзе на задні план). Асанансы, гукаперайманні і алітэрацыя дапамагаюць паэту яскравей не толькі выразіць, але і ўявіць прадмет думкі ("калосся цяжкога жытоў і пшаніц", "грымучага ззяння бурлівых крыніц", "З птушынага шчэбету, шуму дубровы", "прашуміш дажджом", "ізноў зазвініш", "сярэбраны гром"). Адступленні марфалагічных норм тлумачацца або чыста рытмічнымі (націскныя склады ў словаформах "цяжкога" і "жытоў"), або чыста стылістычнымі (множны лік рэчыўных назоўнікаў " жытоў" і "пшаніц" паказвае на шматлікасць тых прадметаў (рэчываў), якія яны абазначаюць, а адзіночны лік не выклікае падобныя асацыяцыі (параўн.: *З калосся цяжкога жыта і пшаніцы*), як з нарматыўнымі патрабаваннямі. Словаформу "васкросшыя" (літаратурная норма ад дзеяслова "ўваскрашаць" – "уваскрэслы" мае памету "разм.", а ад стылістычна нейтральных дзеясловаў "уваскрэсіць" і "ўваскрэснуць" – "уваскрэшаны" не падыходзіць з рытміка-меладычнага (боку) паэт выкарыстаў хутчэй за ўсё як "шумавое афармленне" ("васкросшыя закаласяцца"). Спалучальнасць слоў тыпу "грымучага ззяння", "дзіўная родная мова", "стаіць акрываўлены вораг з пятлёй", "вусны расквеціш усмешкай дзіцяці" мае глыбокі падтэкст (тут недастаткова будзе сказаць, што тое ці іншае слова – эпітэт, метафара, метанімія, гіпербала), таму гэтыя і іншыя словазлучэнні варта разглядаць

з лексіка-семантычнага боку, прытым кожны кампанент асобна: чаму ззянне грымучае? – таму што вада ў крыніцах пераважна пульсуе, шуміць і грыміць, як коласаўскі ручэй, як навальніца з дажджом, громам і маланкай; чаму "дзіўная", а не "дзівосная"? – таму што ў старажытнасці апошняе слова адсутнічала, яно развілося тады, як узнікла слова "дзівакаваты", сінанімічнае слову "дзіўны"; чаму "стаіць акрываўлены вораг з пятлёй"? – таму што ён ужо напалову разбіты, але яшчэ на амаль усёй Беларусі, у прыватнасці, на Мядзельшчыне – радзіме паэта, працягвае рэзаць, забіваць, вешаць ні ў чым не вінаватых людзей; чаму "вусны расквеціш"? – таму што ўпрыгожыш маўленне вясёлымі, радаснымі словамі, словазлучэннямі, бо прыйдзе вызваленне і наступіць радасць, шчасце, весялосць, адродзіцца ўсё і забудзецца гора, як забываюцца крыўды радасным і шчаслівым дзіцем і г. д.

3. Акрамя мастацка-выяўленчых сродкаў твора (у даным выпадку ўсяго верша "Родная мова"), якія знаходзяцца як бы на паверхні, патрэбна вызначыць і так званыя глыбінныя. Так, у "Роднай мове" бачым, што яна – сапраўды аснова народа як народнасці і нацыі, яго "святыня і бяссмерце". Паэт лічыць, што няма нічога на свеце, каб мова не ўвасабляла, не мела ў сабе, таму кожны павінен насіць у сваім сэрцы родную мову, роднае слова, як "святло незгасальнае", як купалаўскі "светачполымя". Недарэмна яшчэ Ф. Багушэвіч у празаічнай форме да прадмовы паэтычнага зборніка "Дудка беларуская" папярэджваў кожнага беларуса: "Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю так, як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі! Пазнаюць людзей ці па гаворцы, ці па адзежы: хто якую носе; ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы". Прадбачанне М. Танка збылося, і ён дастойна праспяваў сваю песню да самага апошняга дыхання.

Фрагментарным лінгватэксталагічным аналізам можна лічыць супастаўляльна-стылістычны аналіз арыгіналаў і іх перакладаў (як асноўных тэкстаў, так і іх варыянтаў), асабліва калі аднамоўны арыгінал, а пераклады разнамоўныя. Напрыклад:

*Як ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны,*
*Родны Мінск я пакінуў, нямецкай бамбёжкаю гнаны.*
*Міма дрэў, міма дрэў*
*Усю ноч я ішоў, – за спіною*
*Родны горад гарэў,*
*І не ведала сэрца спакою.*
*Я здарожыўся, сеў каля хатак,*
*Чакаючы сонейка,*
*У блакнот свой заношу пачатак*
*Вандроўнага дзённіка,*
*Дзень учорашні, вечар,*
*Ноч і сённяшні досвітак шэры,*
*Усе ростані і сустрэчы*
*Пішу на паперы.*

(А. Куляшоў. Сцяг брыгады);

*Как дубовый листок,*
*что оторван от ветки родимой,*
*Минск родной я покинул,*
*немецкой бомбежкой гонимый.*
*До утра я шагал*
*Все вперед и вперед… А за мною*
*Город мой полыхал,*
*Подожженный войною.*
*Утомленный, я сел у дороги,*
*Ждал восхода. И в час ожиданья*
*Торопливо набрасывал строки*
*В дневнике своего скитанья.*
*День вчерашний и вечер,*
*Ночь, рассвет этот серый в пути,*
*Расставанья и встречи –*
*Все захотелось в дневник занести.*
(Пераклад М. Ісакоўскага);

*Мов дубовий листок,*
*збитый буре з гілкі неждано,*
*Рідні Мінськ я покинув,*
*Німецькими бомбами гнаний.*
*Я всю ніч поспішав*
*Повз хліба і дерева зелені,*
*И до світанку мой город палав*
*За плечима у мене.*
*Присівши спотичи край хати,*
*Я почав у блокноти*
*Мандрівний щоденник писати.*
*День вчорашній, і ніч, і оцей*
*Сірий ранок в тумані густому,*
*Плач і стогін людей –*
*Все списав я, забувши про втому.*
(Пераклад І. Выргана).

Першапачатковы лінгватэксталагічны аналіз паказвае, што перад намі – мастацкі пераклад зачына паэмы А. Куляшова “Сцяг брыгады” на рускую і ўкраінскую мовы. Фрагментарны лінгватэксталагічны аналіз дазваляе гаварыць, што абодва пераклады максімальна эквівалентныя арыгіналам толькі паводле зместу, дакладней – паводле вобразнасці і мастацкасці адлюстравання рэчаіснасці. Рытмамелодыка і рыфмоўка радкоў прымусілі перакладчыкаў адысці не толькі ад фармальнага сінтаксісу (*гл.* нават першы сказ), але і ад даслоўнага перакладу арыгінальных беларускіх слоў (*гл.* пераклад сказаў са словамі *здарожыўся, вандроўны, досвітак,* словазлучэннямі *не ведала сэрца спакою, міма дрэў, сеў каля хатак, чакаючы сонейка* і інш.). Нягледзячы на ўказаныя і

да іх падобныя адступленні, пераклады атрымаліся высокамастацкія і максімальна блізкія да арыгіналу.

*Параўн.*: фрагмент (СЭС, с. 1422), (ТБСЛМ, 2002, с. 713).

**ФРАЗА** – 1) асноўная найменшая адзінка маўлення, што выступае як актуалізаваная адзінка зносін і адпавядае розным тыпам сказаў-выказванняў; 2) інтанацыйнае адзінства, якое выступае як закончаны паводле сэнсу адрэзак мовы паміж дзвюма паўзамі і аб'ядноўвае некалькі тактаў *(гл.)*; 3) тое, што і ВЫКАЗВАННЕ, СКАЗ.

У традыцыйным мовазнаўстве Ф. лічыцца найбольшая адзінка члянення гукавой плыні, якая паводле сэнсу адпавядае простаму сказу (прэдыкатыўнаму спалучэнню), вылучаецца з тэксту (выказвання) адноснай закончанасцю інтанацыі і думкі. Ад сказа адрозніваецца тым, што Ф. – фанетычная адзінка мовы (маўлення), а сказ – граматычная (сінтаксічная). Так, у мікратэксце *"Была восень. Цёплыя туманы стаялі над зямлёю, і ціхімі раніцамі чуваць было, як шуршыць жоўтае лісце"* (К. Чорны. Зямля) першы сказ супадае з фразай, другі – мае 3 прэдыкатыўныя асновы (словаспалучэнні), але 2 фразы (паміж імі – паўза, а таксама злучнік "і"). Фраза ў сваю чаргу падзяляецца на сінтагмы *(гл.),* а яны – на лексічныя і фанетычныя словы (разам з праклітыкамі і энклітыкамі). Аднак з пункту погляду сучаснай лінгвістыкі, сказ – гэта і не фраза, і не "адносна закончаная простая ці складаная думка", таму што сказы суадносяцца з свядомасцю чалавека. А, як вядома ўсім з псіхалогіі і філасофіі, свядомасць уключае ў сябе ўсе формы псіхічнай дзейнасці – і пачуццёвыя (адчуванні, успрыманні, уяўленні, эмоцыі, волю), і разумовыя (паняцці, суджэнні, развažанні), што вербальна выражаецца ў "думках, вобразах, малюнках" (Я. Колас). Сутнасць свядомасці заключаецца ў адлюстравнні рэчаіснасці і ў мэтанакіраванай дзейнасці ці паводзінах чалавека. Мысленне – вышэйшая форма свядомасці, але не адзіная, таму і сказы з'яўляюцца не адзінымі выразнікамі думкі (адчуванняў, уяўленняў, эмоцый і г. д.) у іх непасрэдным, нават алагізаваным выглядзе. Таму Ф. стаіць бліжэй да выказвання як адзінкі маўленчых зносін, асабліва пры функцыянальным падыходзе да яго, калі падключаецца мадальна-камунікацыйны аспект, што праяўляецца найперш у інтанацыі *(гл.)* і актуальным чляненні (падзеле) сказа *(гл.)*. У сучасным мовазнаўстве выказванне лічыцца маўленчым знакам, азначальным якога з'яўляецца лексіка-граматыка-інтанацыйная структура сказа, а азначаемым – суадносны з ім адрэзак рэчаіснасці з усімі яго элементамі, характарыстыкамі, сувязямі, умовамі зносін і да т. п., а ў выказванні моўная семантыка зліваецца з прагматыкай *(гл.)*. Як і выказванне, Ф. можа выступаць у мове (маўленні) у якасці асобнага паведамлення (інфармацыі). Тады Ф. з'яўляецца фанетычна-сінаксічным цэлым, якое мае сінтаксічную структуру, сэнсавую завершанасць і інтанацыйную аформленасць. У паэтычным тэксце Ф. укладваецца ў вершаваны радок, але можа быць разарванай у выніку несупадзення сінтаксічнай паўзы з рытмічнай. Тэрмін "фраза" можа абазначаць напышлівы выраз, якім прыкрываецца ілжывасць і беднасць сэнсу, што прыводзіць да пустаслоўя, або фразёрства – любові і схільнасці да напышлівых выразаў і так званых "громкіх фраз".

*Параўн.:* фраза (СЛТ, 1969, сс. 502-503), (РЯЭ, сс. 380-381), (ЛЭС, 1990, сс. 558-559), (СЛТ, 1990, с. 163), (ЭнЛіМБел, V, с. 416).

**ФРАЗЕАЛАГІЗМЫ** – устойлівыя словазлучэнні (фраземы, фразеалагічныя адзінствы і зрашчэнні), якія не ствараюцца ў маўленні, а выкарыстоўваюцца як гатовыя, адноўленыя ў памяці: *галава і два вухі, светлая галава, без цара ў галаве, задраўшы галаву* (бегчы) і інш.

*Параўн.:* фразеалагізм (СЛТ, 1990, с. 163), фразеологическая единица, фразеология (СЛТ, 1972, сс. 468, 469).

**ФУНКЦЫІ МОВЫ** – здольнасць як усёй мовы ў цэлым, так і яе асобных адзінак, напр., слоў, словазлучэнняў, сказаў, выконваць тое або іншае прызначэнне; выкарыстанне яе сродкаў для розных мэт у працэсе маўленчай дзейнасці. Асноўнымі Ф. М. з'яўляюцца: *камунікацыйная Ф.* – Ф. зносін, г. зн. узаемнага абмену паміж камунікантамі думкамі, інфармацыяй, ведамі; *намінацыйная Ф. М.* – уласцівасць і здольнасць называць і абазначаць аб'ектыўную і суб'ектыўную рэчаіснасць; *акумулятыўная, або пазнавальная, Ф. М.* – гэта Ф. М. як сродку пазнання і адлюстравання чалавекам рэчаіснасці, набыцця і памнажэння ведаў, перадачы іх з пакалення ў пакаленне; *паэтычная, або мастацкая, Ф. М.* – яна дасягаецца звязнай вобразнасцю, сродкамі мастацкай выразнасці; *экспрэсіўная, або эмацыянальна-ацэначная, Ф. М.* – функцыя выражэння пачуццяў, перажыванняў, настрою людзей, іх здольнасць даваць пры дапамозе мовы станоўчую або адмоўную ацэнку адзін аднаму і г. д. Такія Ф. М. называюцца *базавымі, або першаснымі, фундаментальнымі.* Яны адносяцца да агульнамоўных і могуць праяўляцца ў любых выказваннях (тэкстах) незалежна ад іх стылістычнай (стылёвай) прыналежнасці. Таксама могуць выступаць як прыватныя Ф., што залежаць ад сферы, дзе адбываецца камунікацыя, ад маўленчай сітуацыі *(гл.)*, умоў, мэт і задач камунікацыі. Так, камунікацыйная Ф. у канкрэтных маўленчых сітуацыях рэалізуецца як *валюнтатыўная* (уздзеянне) ці *фатычная* (кантактаўстанаў-лівальная); *намінацыйная* – як спосаб дэнатацыі, прэдыкацыі, рэферэнцыі і інш.; *экспрэсіўная* – як выразнасць, выяўленчасць, вобразнасць выказвання і інш., і г. д. Пералічаныя і да іх падобныя Ф. М. з'яўляюцца ўласна лінгвістычнымі Ф. моўных адзінак як у той ці іншай сістэме мовы, так і ў вербальным кантэксце. Аднак іх трэба адрозніваць ад сацыяльных Ф. моўных і тэкставых (маўленчых) адзінак, іх ролі ў рэалізацыі мэт і задач камунікацыі і іншых словаўтваральных (перш за ўсё экстралінгвістычных) фактараў пэўнай маўленчай разнавіднасці, яе прызначэння ў соцыўме. Менавіта гэта значэнне звязана з стылёвымі функцыямі, рэалізацыя якіх у тэксце стварае адпаведныя стылярысы *(гл.).* Стылістыка-маўленчымі функцыямі лічацца такія, як Ф. выразнасці, выяўленчасці, вобразнасці; эстэтычная Ф.; Ф. уздзеяння; агітацыйна-прапагандысцкая Ф.; папулярызатарская, рэкламная, сацыяльнай ацэнкі Ф.; Ф. прадпісання, канстатацыі і інш.

*Параўн.:* функции языка (СЛТ, 1969, сс. 506-508), (РЯЭ, сс. 385-387), (ЛЭС, 1990, с. 564), стилевые функции (СЭСРЯ, сс. 401-403), функцыі мовы (СЛТ, 1990, с. 165).

**ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СТЫЛІСТЫЧНАЯ АФАРБОЎКА** – тып афарбоўкі *(гл.)*, звязаны з непасрэднай прыналежнасцю да пэўнага функцыянальнага стылю *(гл). Гл.* АФАРБОЎКА СТЫЛІСТЫЧНАЯ.

**ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ СТЫЛІСТЫКА** – 1) навука пра функцыянальныя стылі *(гл.)*; 2) адзін з цэнтральных напрамкаў стылістыкі *(гл.)*, які вывучае заканамернасці функцыянавання мовы ў разнастайных сферах маўленчых зносін, што адпавядае тым або іншым разнавіднасцям дзейнасці людзей. Адрознівальнай рысай названага напрамку даследаванняў з'яўляецца вывучэнне не самой мовы, яе структуры, а выкарыстанне яе ў рэальных актах маўленчых зносін, што залежыць не толькі ад будовы мовы, колькі ад экстралінгвістычных фактараў (ад сферы зносін, разнавіднасці дзейнасці формы грамадскай свядомасці, тыпу мыслення, мэт і задач камунікацыі, тыпу зместу, жанра і шмат інш.). Таму на самым сучасным этапе развіцця Ф. С. усё цясней збліжаецца з прагмалінгвістыкай, лінгвасацыяпсіхалогіяй, тэорыяй маўленчых актаў і тэорыяй маўленчых зносін, г. зн. дысцыплінамі камунікацыйнага маўленчазнаўчага плану. *Гл.* ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ І ЭКСПРЭСІЎНАЯ СТЫЛІСТЫКА.

**ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ** – функцыянальныя разнавіднасці літаратурнай мовы, што вылучаюцца ў адпаведнасці з функцыямі мовы, са сферамі моўных зносін і канкрэтнай формай грамадскай свядомасці чалавека (права, палітыка, навука, мастацтва, рэлігія, штодзённы быт). У сучаснай беларускай літаратурнай мове яскрава выдзяляюцца 6 базавых функцыянальных стыляў: *афіцыйна-справавы* – стыль афіцыйных дакументаў, урадавых пастаноў, справаздач, службовай перапіскі, справаводства і г. д.; *публіцыстычны* – стыль грамадска-палітычнай літаратуры, перыядычных выданняў, палітычных выступленняў, радыё- і тэлеперадач і г. д.; *навуковы* – стыль навуковых прац, манаграфій, падручнікаў, метадычных дапаможнікаў, маўленчай дзейнасці ў галіне навукі, тэхнікі і інш.; *мастацкі (мастацкай літаратуры)* – стыль, што абслугоўвае духоўную культуру і эстэтычныя праблемы жыцця чалавека, рэалізуючы функцыю ўздзеяння мовы праз мастацкія вобразы і вобразныя сродкі маўлення; *канфесійны (рэлігійны)* – стыль богаслужэбнай літаратуры, служэння Богу па-беларуску ў касцёлах і цэрквах (капліцах), на радыё і тэлебачанні; *гутарковы* – стыль літартурна-гутарковага, штодзённа-бытавога маўлення па-беларуску паміж культурнымі і адукаванымі людзьмі. Кожны з пералічаных Ф. С. мае свае падстылі ў залежнасці ад жанраў або іншага стылю: *заканадаўчы і адміністрацыйна-канцылярскі* (афіцыйна-справавы Ф. С.), *уласна-публіцыстычны, публіцыстычна-прамоўніцкі і газетна-часопісны* (публіцыстычны Ф. С.), *уласна-навуковы, навукова-папулярны і навучальны* (навуковы Ф. С.), *паэзія, проза і драматургія* (мастацкі Ф. С.), *малітвы, пропаведзі, пераклады Біблії* і інш. (канфесійны Ф. С.), *бытавы, эпісталярны, прастамоўны* (гутарковы Ф. С.).

Функцыянальна-стылістычная і эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка (канатацыя) моўных сродкаў цесна звязаная з экстралінгвістычнымі (пазамоўнымі) і інтралінгвістычнымі (унутрымоўнымі) прыкметамі кожнага функцыянальнага стылю як разнавіднасці літаратурнай мовы. Найперш экстралінгвістычнымі фактарамі лічацца тэма і змест маўлення, формы моўных зносін (вусная ці пісьмовая, маналагічная ці дыялагічная), мэта і задачы выказвання, сацыяльная сфера зносін і г. д.

Сістэма функцыянальных стыляў сучаснай беларускай літаратурнай мовы з улікам пераважна экстралінгвістычных фактараў выглядае наступным чынам:

| Стылі (падстылі) | Сфера выкарыстання | Мэты зносін | Асноўныя стылярысы | Асноўныя жанры (віды тэкстаў) |
|---|---|---|---|---|
| **Гутарковы (літаратурна-гутарковы, штодзённа-бытавы, эпістолярны)** | Сямейна-бытавыя і сяброўскія моўныя зносіны | Абмен думкамі, разнастайнай інфармацыяй пераважна ў вуснай форме | Жывое, натуральнае маўленне; эмацыянальнасць і экспрэсія; ацэначнасць, адсутнасць строгай лагічнасці і паслядоўнасці | Гутаркі (дыялогі і палілогі), інтымныя запіскі і лісты, ліставанне ўвогуле |
| **Афіцыйна-справавы (заканадаўчы, канцылярскі)** | Афіцыйныя моўныя зносіны, права, справаводства | Прадпісанне, загад, указ, рэгламентацыя | Бясстраснасць, афіцыйнасць, строгая дакладнасць, стандартнасць і “сухасць” маўлення | Законы, дагаворы, загады, службовыя паперы (даведкі, распіскі, пратаколы, справаздачы) і г. д. |
| **Навуковы (уласна-навуковы, навучальны, навукова-папулярны)** | Навука і тэхніка, навучальны працэс, слоўнікі | Інфармацыя пра дасягненні ў навуцы і тэхніцы, прапаганда іх | Доказнасць, лагічнасць, дакладнасць, абстрактнасць мысленння і маўлення | Манаграфіі, падручнікі, навучальныя дапаможнікі, артыкулы, лекцыі і даклады на навуковыя тэмы, дыспуты і інш. |
| **Публіцыстычны (уласна публіцыстычны, публіцыстычна-прамоўніцкі, газетна-часопісны)** | Грамадскае і палітычнае жыццё, прэса і перыёдыка | Інфармацыя пра палітыку і грамадскае жыццё, уздзеянне СМІ разам з жывым словам на свядомасць і пачуцці грамадзян | Заклікавасць і палымянасць выстпленняў, агітацыя і прапаганда палітыкі партыі (урада), даходлівасць і эмацыянальнасць | Выступленні на сходах і мітынгах, газетныя і часопісныя артыкулы, заметкі, рэпартажы, нарысы, фельетоны, памфлеты і інш. |
| **Мастацкі (паэзія, проза, драматургія)** | Мастацкая літаратура, тэатр, паэтычныя віншаванні | Эстэтычнае ўздзеянне на духоўны свет чалавека з улікам яго пазнавальна-выхваўчых магчымасцей | Мастацкая вобразнасць, яе канкрэтнасць і ўздзеянне, эмацыянальнасць і ацэначнасць моўных сродкаў, экспрэсія праз эксплліцытнае і імпліцытнае выражэнне думкі | Быліны, вершы, апавяданні, аповесці, раманы, трагікамедыі, драмы і інш. |

З усяго сказанага і паказанага вынікае, што стыль мовы (маўлення) – гэта такая з’ява, якая можа быць поўнасцю залежная не толькі ад якасці моўных сродкаў, але і ад мэты, задач, сітуацыі і сферы моўных зносін, а таксама самога зместу

выказвання (тэксту). Пры сістэматызацыі функцыянальных стыляў лагічна абапірацца на вядомыя формы грамадскай свядомасці (навука, палітыка, права, мастацтва). Кожнай з іх адпавядае пэўны від дзейнасці, сацыяльна значымая, тыпізаваная і традыцыйная сфера зносін, якая мае свой базавы комплекс стылеўтваральных фактараў, што вызначаюць спецыфіку таго ці іншага стылю (падстылю). У сваю чаргу стылі (падстылі) падзяляюцца на яшчэ больш прыватныя разнавіднасці (напрыклад, жанры), нават да праяўлення ў маўленні індывідуальнай своеасаблівасці. Так, мастацкі стыль можна класіфікаваць не толькі ў адпаведнасці з родамі, відамі і жанрамі мастацкай літаратуры, але згодна з той ці іншай эпохай (напрыклад, старажытная ці савецкая літаратура), з тым ці іншым літаратурным напрамкам (напрыклад, класіцызм, рамантызм), з тым ці іншым вядомым пісьменнікам (напрыклад, стыль Я. Коласа, К. Чорнага, А. Куляшова і інш.). Урэшце, як відаць, праблема зводзіцца да індывідуальнага стылю (метаду, манеры, почырку).

Усе функцыянальныя стылі праяўляюцца як у пісьмовай, так і ў вуснай форме маўлення. Аднак функцыянаванне адных стыляў у вуснай форме абмежаванае (мастацкі, афіцыйна-справавы), іншыя маюць абмежаванне і ў пісьмовай форме (гутарковы).

Кожны функцыянальны стыль своеасаблівы і непаўторны, бо яму ўласцівы свае, толькі яго, функцыянальна-стылёвыя нормы. Функцыянальна-стылёвыя нормы – гэта нормы рэальнага выкарыстання мовы ў данай сферы грамадскага жыцця і адначасова правілы, а таксама прыёмы маўленчай дзейнасці ў адпаведнасці з канкрэтнымі задачамі камунікацыі. Стылёвыя нормы грунтуюцца на 3 асноўных параметрах таго ці іншага стылю: 1) адборы моўных сродкаў (якія словы, выразы, канструкцыі і г. д. падыходзяць для данага стылю, а якія – не); 2) правілаў спалучальнасці моўных сродкаў (часцей за ўсё злучэнне сродкаў адной стылёвай танальнасці, вельмі рэдка рознастылёвых, ды і то матываваных); 3) суадносіны, або прапорцыі, міжстылёвых і ўласна стылёвых моўных з’яў. Стылёвыя нормы маюць канкрэтна-гістарычны характар. Іх змены адбываюцца пад уплывам як экстралінгвістычных (пазамоўных), так і інтралінгвістычных (унутрымоўных) фактараў.

У межах кожнага функцыянальнага стылю дзейнічае свая сістэма нормаў, свая ступень іх строгасці і свабоды, а таксама ўстаноўлены свае крытэрыі правільнасці, дакладнасці і прыгажосці. Гэтыя крытэрыі адлюстроўваюць функцыянальную спецыфіку стыляў, яго традыцыі, а таксама тыповыя формы яго маўленчай рэалізацыі. Так, правільнасць *афіцыйна-справавога стылю* – гэта захаванне стандарта і дакладнасць яго – прамое, уласна намінаацыйнае значэнне лексікі і фразеалогіі; прыгажосць гэтага стылю – у яго строгасці, безэмацыянальнасці. У *гутарковым* жа *стылі* правільнасць – гэта адпаведнасць нормам не пісьмовага, а вуснага маўлення (*каліcь*, а не *калісьці*, *выбер*, а не *выберы* і г. д.); дакладнасць у ім можа быць, як і ў навуковым маўленні, лагічная і зразумелая, а можа быць і расплывістая ці малазразумелая (гледзячы *хто*, пра *што* і *як* вядзе дыялог, гутарку); прыгажосць гутарковага стылю – яго эмацыянальнасць, яго багацце інтанацый, арыгі-

нальныя адступленні ад стандарту і інш. У беларускім мовазнаўстве не заўсёды размяжоўваюцца стылістычныя і стыёвыя нормы. Такое ж шырокае разуменне і стылістычнай памылкі – незахаванне ці парушэнне стылістычнай (стылёвай) нормы.

Кожнаму індывіду стылістычная пісьменнасць даецца цяжэй, чым агульнамоўная, "нарматыўная". Авалодаць стылістычнай пісьменнасцю – значыць, па-першае, не дапускаць стылістычных памылак *(гл.)*, а па-другое, дамагчыся ўзроўню маўлення, яго культуры, якая патрабуе прафесійнага карыстання ўсімі функцыянальнымі стылямі *(гл.)*. У сучасным як рускім, так і беларускім мовазнаўстве адсутнічае дакладнае тлумачэнне (азначэнне) стылістычнай памылкі. Часцей за ўсё ўласна стылістычныя памылкі зблытваюцца з маўленчымі і інш. Найбольш прымальнымі застаюцца пакуль што высновы М. М. Кожынай, сфармуляваныя ў яе кнізе "Стылістыка рускай мовы" (М., 1977, 1983, 1993).

# Х

**ХАРАКТАРЫСТЫКА МАЎЛЕНЧАЯ (ГЕРОЯЎ, ПЕРСАНАЖАЎ)** – маўленчы партрэт; асобы падбор слоў, выразаў, кантэкстаў і г. д. як сродак адлюстравання дзейных асоб літаратурнага твора; ХАРАКТАР – вобраз чалавека, яго ўнутранай сутнасці, распрацаваныя ў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры.

*Раскрыццё характару персанажаў адбываецца праз паводзіны, звычкі, учынкі і праз аўтарскую характарыстыку, у якой пісьменнік дае сваё разуменне асаблівасцей псіхалогіі і дзеянняў той ці іншай асобы, праз апісанне іх знешняга аблічча – партрэт.* (У. Юрэвіч. Слова і вобраз); *Дыялектызмы ў "Палескай хроніцы" надаюць мове вобразнасць і каларыт, робяць больш рэльефнай, яркай характарыстыку персанажа, індывідуалізуюць яго мову* (З. У. Драздова. Майстэрства слова).

Літаратурны вобраз (*гл.* В.-ГЕРОЙ, В.-ПАРТРЭТ, В.-ПЕРСАНАЖ, В.-СІМВАЛ, В.-ТЫП) – гэта своеасаблівы, асобны спосаб адлюстравання аб'ектыўнай і суб'ектыўнай рэчаіснасці ў канкрэтнай, індывідуальна-пачуццёвай форме. Літаратура і мастацкая публіцыстыка, нават эсэістыка, як і мастацтва ўвогуле, – вобразане мысленне, або "мысленне ў вобразах". Недарэмна выказванні Я. Коласа накшталт "Вобразы мілыя роднага краю, Смутак і радасць мая!" ці "Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе не маю сілы…" сталі кралатымі.

Мова – першаэлемнт літаратуры. Моўныя адзінкі – фанетычныя, лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя – у мастацкім творы так узаемазвязаныя, так ва ўмелым выкарыстанні падпарадкаваныя антрапацэнтрычнасці і мастацкасці ўвогуле, што заснаваныя вобразы выклікаюць у нас жывыя асацыяцыі, прыводзяць да вялікага роздуму і моцна ўзрушаюць. Антрапацэнтрычнасць – адна з асноўных адрознівальных рыс (побач з мастацкай інфармацыяй, мастацкасцю) літаратурна-мастацкага тэксту (твора), у якім адлюстраванне свету накіраванае найперш на пазнанне і адлюстраванне чалавека. Таму ў пераважнай большасці

літаратурна-мастацкіх твораў ёсць цэлая сістэма дзейных асоб (герояў, персанажаў). Сам пісьменнік з'яўляецца цэнтрам (цэнтральным суб'ектам) мастацка-пазнавальнай дзейнасці. Чытач (слухач, глядач) як завяршальнае звяно ўспрымае створаныя вобразы ў залежнасці ад уласных узаемаадносін з аб'ектыўнай рэчаіснасцю, узбагачаючы сваю духоўна-практычную дзейнасць. Такім чынам, катэгорыі "аўтар" – "персанаж" – "чытач" з'яўляюцца сэнсавымі цэнтрамі антрапаметрычнай структуры літаратурна-мастацкага твора. Таму ў ім вобраз чалавека распрацаваны ў яго ўнутранай сутнасці, індывідуальнай адметнасці, таму мастацкі Х. заўсёды псіхалагічна змястоўны. Як мастацкая рэальнасць, ён адыгрывае ў вобразнай сістэме твора найважнейшую ідэйна-эстэтычную ролю, увасабляе аўтарскую канцэпцыю жыцця. У гэтым сэнсе Х. літаратурнага героя адрозніваецца ад Х. як жыццёвай рэальнасці, што вывучаецца ў педагогіцы, псіхалогіі, сацыялогіі і мае навуковую класіфікацыю, якая ў значнай ступені ўступае вобразу-Х. – спецыфічнай асаблівасці мастацкай літаратуры і публіцыстыкі. Мастацкая Х. уяўляецца як дыялектнае адзінства агульнага ў жыцці і індывідуальна-канкрэтнага. Стварэнне вобразнасці пры дапамозе слова, словазлучэння, сказа – гэта не проста стылістычны (стылёвы) прыём, а натхнёная, плённая творчасць, у працэсе якой для пісьменніка ці публіцыста адкрываюцца невычэрпныя крыніцы нацыянальнай мовы і выключныя магчымасці для глыбокага і поўнага раскрыцця сваіх "думак, вобразаў, малюнкаў". У кожнага чалавека працэс слоўнага афармлення думак – творчы працэс, але ў пісьменніка (публіцыста) гэты працэс адбываецццца з павышанай адчувальнасцю слова як "інструмента і матэрыялу творчасці" (Я. Колас). Побыт і праца простых людзей з'явіліся той жыватворчай сілай, што зрабіла творы Я. Коласа "энцыклапедыяй дарэвалюцыйнага жыцця працоўнай беларускай вёскі", велічным гімнам беларусу-працаўніку. Для Я. Коласа не мела прынцыповага значэння, ці вершавана-паэтычным, ці апавядальна-празаічным маўленнем адлюстроўваць у мастацкіх вобразах рэчаіснасць. Параўнаем, напрыклад, першыя апублікаваныя творы Я. Коласа "Наш родны край", "Думкі ў дарозе", "Веснавая дарога" і ўбачым, што пісьменніку як бы ўсё роўна: вершаваная гэта мова або празаічная. Нават ствараецца ўражанне, што празаічнае маўленне ў аўтара больш паэтычнае, чым вершаванае, бо самыя звычайныя словы тыпу *сцежкі, дарогі, балоты, клёны, бярозы, туманы, песні, слёзы, неба* і інш. набылі ў творах пісьменніка спецыфічны, іншасказальны сэнс, стаўшы неад'емнай часткай коласаўскай сімволікі: *цемната, зіма, путы, аковы* – цяжкае жыццё; *грамада, каса, сонца* – выйсце з няволі; *наш родны край, забыты Богам край, родны кут, Бацькашчына* – радзіма, родная Беларусь і г. д.

Што да літаратурных характарыстык, як выдзяленне адрознівальных асаблівасцей персанажаў, падзей, перажыванняў, то да іх даследчыкі адносяцца паразнаму. Напрыклад, моўная (маўленчая) характарыстыка дзейных асоб (герояў, персанажаў) ужо вывучаліся ў антычнасці, а Х. як сродак раскрыцця характараў і вобразаў-тыпаў – пераважна ў канцы XIX ст. з узнікненнем шырокай раманнай творчасці. На самым сучасным этапе вывучэння літаратурна-мастацкай творчасці

да Х. (“пейзажнай”, “партрэтнай”, “псіхалагічнай”) падыходзяць па-рознаму: і як да кампазіцыйнага сродку, і як да сродку мастацкай дэталізацыі, і як да індывідуалізацыі дзейных асоб, і як да цеснага ўзаемадзеяння аўтарскай мовы і “чужой”, і інш. Увогуле шматлікія літаратуразнаўцы лічаць мову мастацкай літаратуры формай, пры дапамозе якой (праз якую) выражаецца ўсялякі змест. У сваім слоўніку “На шляху да Парнаса” (Мінск: Маст. літ., 2003), адрасаваным маладым літаратарам як даведнік, В. П. Рагойша раскрывае артыкул “Змест і форма” наступным чынам: “З. і Ф. – паняцці, якія паказваюць на тое, ШТО выяўляецца ў літаратурным творы і ЯК яно выяўляецца. Ідэйна асэнсаваныя, эстэтычна асвоеныя ЖЫЦЦЁВЫЯ З’ЯВЫ, у тым ліку ДУМКІ, ПАЧУЦЦІ, ПРАБЛЕМЫ складаюць З. (або ідэйны З.) твора, характар жа эстэтычнага асваення гэтых з’яў, СПОСАБА ВЫЯЎЛЕННЯ ЗМЕСТУ – яго Ф. <…> З. у мастацкім творы адыгрывае вядучую ролю. Аднак Ф. не пасіўная ў адносінах да яго. Яна глыбей раскрывае або, наадварот, прытушоўвае З., часам набывае адносна самастойнае, арганізуючае значэнне. Да літаратурнай формы адносяцца сістэма прамых і пераносных значэнняў слоў…, сінтаксічных сродкаў…, сюжэт, кампазіцыя, сродкі стварэння вобразаў, жанравыя адзнакі, рытмамелодыка, у паэзіі – метрыка, рыфміка, строфіка і інш. З. і Ф. у літаратуры моцна ўзаемазвязаны, не толькі З. у ёй аформлены, але і Ф. змястоўная. Прычым З. і Ф., валодаючы сваімі спецыфічнымі рысамі, нярэдка пераходзяць адно ў другое, бываюць тым і другім адначасова. Так, змястоўная сутнасць вобраза выяўляецца ў мове, якая з’яўляецца ў адносінах да яго Ф. У той жа час вобраз сам з’яўляецца Ф. у адносінах да ідэйнага З. усяго твора. На непарыўную еднасць З. і Ф. указваў яшчэ В. Бялінскі. “Калі форма з’яўляецца выражэннем зместу, – падкрэсліваў ён, – яна звязана з ім так цесна, што аддзяліць яе ад зместу – значыць знішчыць форму”. “Аддзяленне” З. і Ф. (і наадварот) адбываецца толькі ў адным выпадку – пры навуковым аналізе структуры твора. Аднак неабходна заўсёды помніць пра ўмоўнасць такога “аддзялення”, падначаленасць формы З., пра патрэбу ў канчатковым выніку навуковага сінтэзу, г. зн. характарыстыкі твора як мастацкага цэлага, У АДЗІНСТВЕ З. і Ф. Гэтыя патрабаванні ляжаць у аснове так званага цэласнага аналізу твора” (с. 57). У рэалістычнай літаратуры адлюстроўваюцца тыповыя характары ў тыповых абставінах.

*Параўн.*: характер литературный, характеристика литературная (КЛЭ, VIII, сс. 215-219), (ЛітЭС, с. 481), характар літаратурны (СЛТ, 1983, сс. 170-171), характар, характарнасць (ЭнЛіМБел, V, сс. 434-435), вобраз літаратурны (Рагойша, 2003, сс. 30-32).

**ХРАНАЛОГІЯ** – 1) пералік падзей у іх часавай паслядоўнасці; 2) устанаўленне часу існавання чаго-н.; храналагізацыя; 3) дапаможная галіна літаратуразнаўства, якая займаецца вызначэннем дакладных звестак, дат, звязаных з літаратурным працэсам.

Тэрмін “Х.” прымяняецца найперш пры пералічэнні ці саміх твораў, ці падзей у іх, ці нават герояў (пераважна паводле ўзросту). Напрыклад, І. Чыгрынаў пісаў і публікаваў сваю ваенную пенталогію ў такім парадку: “Плач перапёлкі”,

“Апраўданне крыві”, “Свае і чужынцы”, “Вяртанне да віны”, “Мы не згінем”. Аднак Х. як дапаможная галіна філалогіі, – дакладней тэксталогіі *(гл.)*, – звязаная найбольш з устанаўленнем часу стварэння твора, з аднаўленнем поўнай гісторыі тэксту (як макратэксту і мікратэксту). У кампетэнцыі Х. – вызначэнне часу (даты) пачатку і заключнай працы над творам (тэкстам), прамежкавыя моманты творчага працэсу, першапублікацый. Калі дакладна ўстанавіць дату цяжка ці нават немагчыма, то ўстанаўліваецца terminus ante quem і terminus post quem (час, не пазней якога напісаны твор) і (час, не раней якога напісаны твор). Жанрамі Х. на сучасным этапе з’яўляюцца летапісы жыцця і творчасці пісьменнікаў, а таксама літаратурнага жыцця. Напрыклад, “Летапіс жыцця і творчасці Я. Коласа” М. І. Мушынскага і “Хроніка літаратурнага жыцця” ў “Гісторыі беларускай савецкай літаратуры (тт. 1-2, 1965-1966).

*Параўн.:* храналогія (ТСБЛМ, 2002, с. 724), (ЭнЛіМБел, V, с. 453), (Рагойша, 2003, сс. 148-149), хранатоп (Рагойша, 2001, с. 342).

**ХРОНІКА** – 1) запіс у храналагічнай паслядоўнасці; летапіс; 2) аддзел паведамленняў у журналісцкай справе; 3) літаратурны твор, у якім паслядоўна паказваецца гісторыя грамадскіх, палітычных, сямейных і іншых падзей. Напрыклад, *Хроніка Быхаўца, “Палеская хроніка” І. Мележа* і інш.

У старажытнасці Х. называліся гісторыка-літаратурныя творы (летапісы), дзе падзеі падаюцца ў часавай паслядоўнасці, адпаведна пэўнай гістарычнай канцэпцыі. Першымі беларускімі Х. лічацца “Летапісец вялікіх князёў літоўскіх” і “Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага”. Некаторыя даследчыкі да Х. адносяць так званыя хранографы – зводныя агляды ўсеагульнай гісторыі ў эпоху феадалізму (“Вялікая хроніка”, “Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і Ўсяе Русі” М. Стрыйкоўскага, “Хроніка Еўрапейскай Сарматыі” А. Гваньіні і “Хроніка ўсяго свету” М. Бельскага). Цікавымі не толькі паводле зместу, але і мовы з’яўляюцца Баркалабаўская хроніка (Баркалабаўскі летапіс) і Магілёўская хроніка – помнікі беларускага летапісання (XVII-XIX стст.). У гэтых помніках паказана ў храналагічнай паслядоўнасці гісторыя як адной з вёсак Магілёўшчыны, самога Магілёва, так і ўсёй Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі XVII-XVIII стст. Падаюцца некаторыя звесткі пра жыццё сялян, іх побыт, звычаі і імкненні да лепшага будучага, пра стыхійныя бедствы і інш. нават канца XVI ст. у в. Баркалабава (цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.). Баркалабаўская Х. стаіць каля вытокаў жанра беларускай гісторыка-мемуарнай літаратуры. Магілёўская Х. – пераважна своеасаблівы дзённік г. Магілёва, які ў пэўных месцах перарастае ў летапіс.

*Параўн.:* хроніка (СЛТ, 1983, с. 172), (Рагойша, 2003, с. 149), хронікі, хранограф (ЭнЛіМБел, V, сс. 453, 456-457).

**ХРЭСТАМАТЫЯ** – 1) навучальны дапаможнік, у якім змяшчаюцца і часцей за ўсё каментуюцца мастацкія, навуковыя, публіцыстычныя тэксты паводле якой-небудзь галіны ведаў; 2) збор выбраных твораў для масавага чытача. *Гл.* АНТАЛОГІЯ; 3) вучэбны дапаможнік, складзены з разнастайных гуказапісаў паводле праграмы пэўнага навучальнага прадмета; фонахрэстаматыя.

У беларускай філалогіі можна налічваць значную колькасць разнастайных Х. Больш за ўсё – гэта Х. па беларускай мастацкай літратуры, якія можна кваліфікаваць як друкаваныя і рукапісныя, аднаразовыя (паводле выдання) і шматразовыя, для асветніцкіх мэт і навучальныя (для сярэдняй і вышэйшай школ) і г. д. Найбольшую вядомасць маюць такія Х., як “Хрэстаматыя беларускае літаратуры. XI век – 1905 г.” М. Гарэцкага (Вільня, 1922), рукапісная Хрэстаматыя Б. І. Эпімаха-Шыпілы “Беларуская хрэстаматыя” (1889-1931, зберагаецца ў БДАМЛМ), “Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў ВНУ. Склаў А. Ф. Коршунаў” (Мінск, 1959), “Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. I, II. Вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалаг. факультэтаў ВНУ” (Мінск, 1961-62), “Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра” / уклад. і камент. А. В. Сабалеўскага (Мінск, 1997) і інш. А ў Х. “Беларуская літаратура XIX стагоддзя” свая гісторыя: складальнікамі 1 і 2 выданняў былі В. В. Барысенка, М. Г. Ларчанка і Л. І. Фіглоўская (першае выд. выйшла пад рэд. Я. Купалы ў 1940 г., другое – пад рэд. Ю. С. Пшыркова ў  1950 г.; абодва выданні убачылі свет у выдавецтве АН БССР); у 1956 г. В.В. Барысенка пусціў у свет выданне “Беларускія пісьмен-нікі другой паловы XIX ст.” пад рэд. М. Ц. Лынькова, а ў 1971 і 1988 гг. С. Х. Александровіч, А. А. Лойка і В. П. Рагойша выдалі асучасненыя тэксты XIX ст. пад назвай “Беларуская літаратура XIX стагоддзя. Хрэстаматыя” ў мінскім выдавецтве “Вышэйшая школа”. Праўда, у прадмове (уступным слове) да I выдання ёсць такая заўвага: “Тэксты друкуюцца паводле норм сучаснай арфграфіі і пунктуацыі. Характэрныя для пісьменнікаў лексічныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці мовы поўнасцю перададзены. Аднак складальнікі лічаць немэтазгодным у кнізе, адрасаванай шырокаму колу чытачоў, захоўваць некаторыя дыялектныя, у асноўным фанетыка-марфалагічныя рысы…”. Думаецца, што ў хуткім часе з’явіцца і III выданне ў адпаведнасці з удакладненымі правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі 2008 г., а таксама з новымі матэрыяламі, знойдзенымі ў архівах і бібліятэках як нашай рэспублікі, так і краінах блізкага ці далёкага замежжа. Ды і на выхад у свет абодвух выданняў “адгукнуліся бадай усе цэнтральныя перыядычныя выданні, некаторыя ўсесаюзныя і нават замежныя…” (*гл.* Уступнае слова да другога выдання, с. 5).

Што да школьных хрэстаматый, то яны пераважна называюцца або “падручнік-хрэстаматыя”, або “хрэстаматыя-падручнік” з указаннем, для якіх класаў адрасаваныя.

*Параўн.:* хрэстаматыя (ТСБЛМ, 2002, с. 726).

# Ц

**ЦАРКОЎНАСЛАВЯНІЗМЫ** – *гл.* СЛАВЯНІЗМЫ, СТАРАСЛАВЯНІЗМЫ.

**ЦАРКОЎНАСЛАВЯНСКАЯ МОВА** – старажытная літаратурная мова славян, якая паходзіць са старaславянскай, што падверглася ўплыву жывых моў такіх народаў, як балгары, македонцы, сербы, харваты, румыны, чэхі, усходнія славяне. На сучасным этапе выконвае пераважна богаслужэбную функцыю.

У 988 г. стольны Кіеў прыняў адзінабожжа з хрышчэннем кіяўлян у Дняпры. З таго часу старaславянская мова, на якой былі напісаны малітвы і евангеллі, стала богаслужэбнай і штодзённай у праваслаўнай царкве ўсходніх славян. Паступова першая пісьмовая мова славян стала абрастаць мясцовымі асаблівасцямі і нават пачала называцца царкоўнаславянскай, асабліва калі Кіеўская Русь распалася на асобныя княствы-дзяржавы. З узнікненнем кнігадрукавання ў XV-XVI стст. стала магчыма адрадзіць старaславянскую мову, аднак ні брацкія школы, ні прымусовае выпраўленне рукапісных кніг не прынеслі жаданага поспеху – царкоўнаславянская мова працягвала па-ранейшаму абрастаць новымі мясцовымі элементамі. Да таго ўзніклі розныя пераклады-варыянты Біблії (скарынаўскі, астрожскі і інш.), якія ўносілі разнабой у само веравызнанне. Усё ж нягледзячы ні на што, пашырэнне старaславянскай (Ц.) мовы далучала ўсходніх славян да агульнаславянскай асветы і культуры, умацоўвала духоўныя сувязі ўсходніх славян з іншымі народамі і дзяржавамі.

*Параўн.:* царкоўнасл. мова (БМЭ, сс. 600-601), церковнослав. язык (ЛЭС, сс. 575-576).

**ЦЫТАТА** – даслоўная вытрымка з якога-небудзь тэксту або літаральна перададзеныя чые-небудзь словы; Ц. выкарыстоўваюцца для пацвярджэння ці тлумачэння аўтарскай думкі. *Гл.* ЭПІГРАФ, ПРОСТАЯ МОВА.

З пункту погляду тэкстазнаўства, Ц. – гэта не што іншае, як мікратэкст *(гл.)* або кантэкст *(гл.)* з так званай чужой мовай (чужым маўленнем). Разнастайныя ЭВМ дазволілі весці падрыхтоўку і выпускаць у свет слоўнікі Ц. – шматтомныя канкардансы. Ц. падзяляюцца на *дакладныя* (называецца аўтар, твор ці яго фрагмент, месца публікацыі і год, а таксама старонкі выдання), *агульныя* і *прыватныя* (называецца аўтар і яго твор, радзей – толькі аўтар). Можна называць Ц. звычайнымі, навуковымі, публіцыстычнымі, мастацкімі (вершаванымі, празаічнымі, драматургічнымі) і афарыстычнымі. Апошнія часцей за ўсё сустракаюцца ў вусным маўленні, але іх трэба адрозніваць ад крылатых слоў і выразаў *(гл.)*, якія вельмі часта цытуюцца як у вусным, так і ў пісьмовым маўленні. Ц. маюць самыя разнастайныя канструкцыі і могуць поўнасцю супадаць паводле сваёй структуры са сказамі і выказваннямі *(гл.)*. Ц. могуць быць рознай структуры, але мець адну тэму, нават адзін змест *(гл.)*. Простую (прамую) мову, якая перадаецца (датуецца) без усялякіх змен, называюць цытатнай або цытаванай (*гл.* ПРОСТАЯ МОВА).

*Параўн.:* цитатная речь (СЛТ, 1969, с. 511), цитата (СЛТ, 1972, с. 478), цытата (СЛТ, 1990, с. 167).

**ЦЫТАВАННЕ, ЦЫТАЦЫЯ, ЦЫТАТНІЦТВА** – перадача чужога маўлення ў форме цытат; выкарыстоўваецца пераважна ў пісьмовым маўленні – навуковых працах, дакументах, іншых крыніцах.

Цытаванне, або цытацыя, – гэта адзін са спосабаў перадачы чужога маўлення ў форме цытат *(гл.)*. Фактычна цытаты дапамагаюць абгрунтаваць суджэнні *(гл.)* ці высновы *(гл.)* у навуковых артыкулах, публіцыстычных выступленнях, увогуле ў навуковых даследаваннях. Асноўнае патрабаванне да цытацыі (цытавання) – гэта дакладнасць, якая пацвярджаецца спасылкамі на крыніцы, адкуль узятыя выказванні (тэксты) з чужой мовай (чужым маўленнем). Вельмі часта разнастайныя цытаты выступаюць у ролі эпіграфаў *(гл.)*, аўтарытэтных выказванняў з мэтай падмацавання ці супрацьпастаўлення свайго (аўтарскага) пункту погляду, ілюстравання арыгінальнай думкі. Асноўнае правіла цытавання – моўная адпаведнасць цытаты (асабліва эпіграфа) таму тэксту, з якога яна ўзятая, і таму тэксту, у які яна ўведзеная. Усе асаблівасці першакрыніц павінны быць захаваныя ў цытаце, за выключэннем тых, калі цытату падаюць у скарочаным выглядзе. Празмернае цытаванне і хаванне за аўтарытэтнае выказванне ці аўтарытэтны пункт погляду прыводзіць да цытатніцтва – неадабральнага выказвання думак зробленых на іх аснове вывадаў.

*Параўн.:* цытата (ЭнЛіМБел, V, с. 489), цытацыя (СЛТ, 1990, с. 167), цытатніцтва (ТСБЛМ, с. 735).

# Ч

**ЧАС** – філасофскае паняцце, якое разам з паняццем “прастора”, абазначае адну з асноўных форм існавання матэрыі. Ч. існуе аб’ектыўна і непарыўна звязаны з вечна рухомай матэрыяй, а таксама з прасторай. Розніца іх у тым, што Ч. мае адно вымярэнне, а прастора – тры. Рух матэрыі ў часе працякае ад мінулага да будучага, але рух з’яўляецца сутнасцю часу, значыцца, матэрыя, рух і прастора нераздзельныя. Навукай дакладна ўстаноўлена, што працяканне часу і працягласць цел залежыць ад хуткасці руху гэтых цел і што структура або геаметрычныя ўласцівасці прасторы-часу змяняюцца ў залежнасці ад напаўнення масы рэчыва і спараджальнага імі поля цягацення. Гэта ўсё гаворыць пра тое, што працягласць працэсаў залежыць ад хуткасці руху матэрыяльных аб’ектаў; пры змене хуткасці цела змяняюцца як яго прасторавыя памеры, так і працягласць працэсаў у ім; узаемасувязь часавых і прасторавых характарыстык, паказаных у мастацкіх творах з’яў, з лёгкай рукі М. М. Бахціна называюць у літаратуразнаўстве ХРАНАТОПАМ. М. М. Бахцін лічыў, што “жанры і жанравыя разнавіднасці вызначаюцца менавіта Х., прычым у літаратуры вядучым пачаткам у Х. з’яўляецца час…” Яшчэ ў антычным вершаванні адрознівалі chronos protos – першасны час. Сёння ЧАС МАСТАЦКІ – увасобленыя ў мастацтве, у тым ліку і мастацкай літаратуры, спецыфічныя формы часу разам з формамі прасторы, якія вы-

яўляюцца ў сюжэтах і вобразах арганізуюць кампазіцыю твораў і забяспечваюць іх цэласнае ўспрыманне як мастацкай рэальнасці. У гісторыі беларускай культуры ў большай або ў меншай ступені выявіліся ўсе вядомыя еўрапейскаму мастацтву тыпы мастацкага хранатопа. Ад яго адрозніваецца ЧАС рэальны і ЧАС граматычны. ЧАС РЭАЛЬНЫ – 1) бесперапынная змена мінут, гадзін, дзён, месяцаў, гадоў і г. д.; 2) прамежак пэўнай працягласці, у які адбываецца што-н.; 3) нейкі пэўны момант, у які што-н. адбываецца; 4) перыяд, эпоха; 5) пара дня, года; 6) зручны момант, спрыяльная пара; 7) мясцовы час: час, які ўстанаўліваецца для пэўнага геаграфічнага пояса (ТСБЛМ, 2002, с. 744). ЧАС ГРАМАТЫЧНЫ – граматычная катэгорыя дзеяслова, якая выражае адносіны дзеяння (стану) да моманту гутаркі, які служыць пунктам адліку для размежавання трох Г. Ч.: *цяперашняга часу*, што ўключае момант гутаркі; *прошлага часу*, які абазначае дзеянне да моманту гутаркі і *будучага часу*, што абазначае дзеянне пасля моманту гутаркі. *Гл.* ДЗЕЯННЕ, ДЗЕЯСЛОЎНАЕ ДЗЕЯННЕ.

Псіхолагі выдзяляюць у асобную катэгорыю ПСІХАЛАГІЧНЫ ЧАС – адлюстраванне ў псіхіцы чалавека сістэмы часавых адносін паміж падзеямі яго жыццёвага шляху. Гэта: а) адзінкі адначасовасці; паслядоўнасці, працягласці, хуткасці працякання розных падзей жыцця, іх прыналежнасць да цяперашняга, мінулага і будучага; б) перажыванне сціспласці і расцягненасці, перарывістасці і неперарывістасці, абмежавансці і неабмежаванасці часу; в) усведамленне ўзросту, узроставых этапаў (дзяцінства, маладосці, сталасці, старасці); г) уяўленні аб верагодным працягу жыцця з жыццём папярэдніх і наступных пакаленняў сям'і, грамадства, чалавецтва ў цэлым. П. Ч. адлюстроўвае не проста храналагічныя інтэрвалы і падзеі самі па сабе, а складаную сістэму ўзаемна абумоўленых міжпадзейных сувязей тыпу "прычына – вынік", "мэта – сродак".

Сацыёлагі адрозніваюць ЧАС САЦЫЯЛЬНЫ – спецыфічныя характарыстыкі часу, у якім існуюць і развіваюцца грамадства, сацыяльныя згуртаванні, індывіды. Уласцівасці і працяканне Ч. С. залежаць ад форм жыццядзейнасці людзей і характарызуюцца сваімі рытмамі, цыклічнасцю, тэмпамі працякання, а таксама адносінамі людзей да самога Ч. С., іх перажываннямі, успрыманнем (успрыняццем). Так, жыццё і праца сельскіх (вясковых) людзей валодаюць сезоннасцю, рытмічнасцю, якая не такая, як у горадзе. Тэмп жыцця ў горадзе вышэйшы, чым у вёсцы. Імкнучыся інтэграваць сацыяльна-эканамічныя працэсы, грамадства стараецца "ўпраўляць" Ч. С.: яно ўводзіць часавыя паясы, дзеі адзінага транспартнага, зімовага і летняга часу, розных рэжымаў, раскладаў, рэгламентацый. Магчымая і "арытмія" сацыяльна-эканамічных працэсаў (несупадзенне тэмпаў эканамічнага і дэмаграфічнага росту, адставанне духоўнай сферы і інш.). Суадносіны трох модусаў Ч. С. – мінулага, цяперашняга і будучага – таксама не застаецца нязменным: сучасныя навукі адзначаюць рост значнасці будучага, яго зваротнага ўплыву на сучаснае (цяперашняе). Будучае становіцца прадметам сацыяльных даследаванняў, распрацоўваюцца метады прагназавання і мадэлявання будучага. Узнікла ў далёкім замежжы асобная навука ФУТУРАЛОГІЯ, якая выву-

чае філасофска-ідэалагічныя асновы сацыякультурнага прагназавання. Важнейшымі элементамі Ч. С. з’яўляюцца *рабочы* і *вольны час*. Паказчыкі часу шырока прымяняюцца ў сацыялагічных даследаваннях у выглядзе працягласці жыцця, бюджэту часу, фактару сацыяльных паводзін. Багаты матэрыял для даследавання Ч. як спецыфічнай катэгорыі змешчаны і ў навуковай (філасофскай), і ў мастацкай літаратуры.

*Параўн.:* время (СЛТ, 1969, сс. 87-89), (ФЭ, I, с. 298), время глагольное (ЛЭС, с. 89), хранатоп (Рагойша, 2003, с. 149).

**ЧАСТОТНАСЦЬ** – паказчык частаты ўжывання ў вызначаных тэкстах пэўнай моўнай адзінкі, канструкцыі і інш.; распаўсюджанасць у маўленні.

У навучальным дапаможніку “Агульнае мовазнаўства” В. І. Рагаўцоў пераконвае, што выкарыстанне падлікаў пры вывучэнні мовы і маўлення – гэта колькасныя, або статыстычныя, метады, якія звычайна выкарыстоўваюцца пры даследаванні адзінак маўлення (тэксту) і вельмі рэдка адзінак мовы, пераважна лексічных (напрыклад, колькасны падлік слоў у частотных слоўніках розных тыпаў полісеміі). І далей аўтар названага дапаможніка сцвярджае: “Пры дапамозе колькасных метадаў могуць даследавацца многія мовазнаўчыя праблемы (як тэарэтычныя, так і прыкладныя), у прыватнасці:

а) вызначаецца аўтарства ананімных або псеўданімных твораў;
б) устанаўліваецца час дыферэнцыяцыі моў;
в) выяўляецца мадэль апісання слоў паводле частаты іх ужывання;
г) акрэсліваецца ступень блізкасці моў;
д) вывучаюцца розныя моўныя адзінкі (фанемы, марфемы, словы) у тэксце: частата ўжывання, спалучальнасць з іншымі адзінкамі, сустракальнасць у тэкстах розных жанраў і інш. ці асаблівасці класаў адзінак (частата ўжыванняў пэўнай граматычнай формы ў якой-небудзь сінтаксічнай функцыі, сярэдняя даўжыня слова або сказа і да т. п.);
е) апісваюцца стылістычныя асаблівасці мовы мастацкага твора або аўтара (выкарыстоўваецца крытэрый стабільнасці адноснай частаты найбольш ужывальных слоў, якая з’яўляецца сталай);
ё) выяўляюцца тыпалагічныя адрозненні паміж моўнымі адзінкамі;
ж) складаюцца частотныя слоўнікі”. (Рагаўцоў, В. І. Агульнае мовазнаўства / В. І. Рагаўцоў. – Магілёў: МДУ імя А. А. Куляшова, 2006. – Сс. 371-373).

Улічваючы частотнасць ужывання лексічных запазычанняў ва ўсходнеславянскіх мовах, кампаратывісты даказалі, што ў сучасных рускай, беларускай і ўкраінскай мовах ужываецца больш за 10 % запазычаных слоў і выразаў. Таксама ўстаноўлена, што колькасць слоў, якія ўжываюцца ў пэўным тэксце па адным разе, складае каля 30 % і што гэтых слоў значна больш, чым слоў, якія ўжываюцца па 2-3 разы; што самыя частыя словы пакрываюць большую частку тэксту (на 1000 самых частых слоў прыходзіцца да 80 % усіх ужыванняў, а на астатнія дзесяткі тысяч слоў – 20 %) і інш. Увогуле Н. С. Мажэйка і А. Я. Супрун у сваім “Частотным слоўніку беларускай мовы” выявілі наступнае: “Толькі адзін чалавек

на працягу года будуе і ўспрымае тэксты колькасцю не менш як паўтара – два мільёны гукаў! Калі ж улічыць, што мовай карыстаецца некалькі мільёнаў чалавек на працягу многіх стагоддзяў, то тэксты, якія будуюцца пры дапамозе сарака гукаў ці літар, патрэбна вымяраць ужо мільярдамі і яшчэ большымі лічбамі адзінак мовы. Так, паводле вельмі прыблізных падлікаў, за год на беларускай мове ўтвараюцца і ўспрымаюцца тэксты даўжынёй у 10 000 000 000 000 гукаў (10 трыльёнаў. – *М. А.*). Калі прыняць сярэднюю даўжыню слова за 7 гукаў (а так прыблізна і ёсць), то аказваецца, што гэта складае каля 1 500 000 000 000 слоў. Між тым, колькасць розных слоў, якія ўжываліся для стварэння гэтых тэкстаў, наўрад ці перавышае 200 тысяч".

*Параўн.:* количественные методы (ЛЭС, сс. 231-232), частотнасць (СЛТ, 1990, с. 169).

**ЧЛЯНІМАСЦЬ, ЧЛЕННАСЦЬ ТЭКСТУ** – уласцівасць (катэгорыя) тэксту як твора маўленчатворчага працэсу; функцыя кампазіцыйнага плана тэксту суцэльнага твора; наяўнасць дыскрэтных адзінак тэксту, абумоўленых камунікацыйным (сэнсавым) адзінствам і цэласнасцю тэксту твора; сінонім да тэрміна "чляненне". Варта адрозніваць 2 тыпы Ч. Т.: 1) сінтактыка-сэнсавы і 2) кампазіцыйна-сэнсавы. Ч. Т. раўна-значная дэлімітацыі тэксту *(гл.),* падзелу тэксту на мікратэмы і мікратэксты *(гл.)*, на састаўныя часткі такога кшталту, як уступная, уводная частка, прадмова, уводзіны і г. д. або заключная частка, заключэнне, высновы, рэзюмэ і інш. Нельга забываць і пра раздзелы, часткі, параграфы, страфы (вершаваныя і празаічныя), складаныя сінтаксічныя цэлыя, абзацы і інш.

У літаратуразнаўстве ўжываюцца тэрміны "архітэктоніка" *(гл.)* і "кампазіцыя" *(гл.),* а таксама "эксплiцытнае і імпліцытнае выражэнне думкі" *(гл.).* Гэта не што іншае, як павярхоўны (знешні) і глыбінны (унутраны) строй тэксту (*гл.* ГЛЫБІННЫ і ПАВЯРХОЎНЫ АНАЛІЗ ТЭКСТУ). Аднак у сучасным расійскім мовазнаўстве сустрэліся 2 канцэпцыі Ч. Т. – 1) аб'ёмна-прагматычная – сінтактыка-сэнсавая і канкрэтна-варыятыўна-кампазіцыйна-сэнсавая; 2) фармальна-моўная і тэма-рэматычная. Усё залежыць ад такіх адрэзкаў (урыўкаў, фрагментаў) тэксту, як абзац *(гл.),* звышфразавае адзінства *(гл.),* складанае сінаксічнае цэлае *(гл.),* фрагмент (кантэкст, інтэкст, параграф) – *гл.,* частка, раздзел, уступ (уступная частка, уводзіны, уводная частка), заключэнне (высновы, заключная частка, рэзюмэ, эпілог) – *гл.*, эпіграф *(гл.),* прадмова *(гл.),* пасляслоўе *(гл.).* Разбіўка тэксту на састаўныя часткі (элементы) лічыцца як аб'ектыўнай (строфы, часткі, раздзелы, параграфы), так і суб'ектыўнай (абзац, анафара, эпіфара, паралелізм, градацыя і інш.). Можна таксама разважаць пра паняційна-стылістычнае і кампазіцыйна-стылістычнае Ч. Т., але як бы там ні было тэкст – гэта звязнае (кагезійнае) адзінства з яго знешнім падпарадкаваннем і суцэльнае (цэласнае, кагерэнтнае, інтэграцыйнае) з яго змястоўным і сэнсавым упарадкаваннем.

Кожны жанр функцыянальнага стылю *(гл.)* мае свае спецыфічныя асаблівасці ў архітэктоніцы і кампазіцыі тэксту. Нярэдка для выразнасці Ч. Т. ужываюцца лічбы і літары ў алфавітным парадку. Таксама ў шматлікіх тэкстах яскрава

відаць аўтар-ская канцэпцыя адносна ўзаемаабумоўленасці састаўных частак тэксту, а аб'ёмна-прагматычнае Ч. Т. ажыццяўляецца з улікам аб'ёму (памеру) часткі і ўстаноўкі на ўвагу чытача.

У літаратурна-мастацкіх жанрах неабходна ўлічваць так званае кантэкстна-варыятыўнае Ч. Т.: 1) аўтарскае маўленне (уласна аўтарскае і няўласна аўтарскае): а) аповед; б) апісанні прыроды, знешняга выгляду героя, сітуацыі, месца дзеяння і інш.; в) разважанні (як аўтара, так і яго героя (вобраза); 2) чужое маўленне: а) дыялог; б) цытаваная простая мова; в) паўпростая мова; 3) ускосная і няўласна простая мова.

Ч. Т. мае на мэце 2 асновы: 1) *прагматычную* – падаць рэцыпіенту фрагменты (урыўкі, адрэзкі) тэксту, каб аблегчыць успрыняцце расповеду; 2) *суб'ектыўна-пазнавальную,* каб вызначыць часавыя, прасторавыя, вобразныя, лагічныя сувязі кампанентаў расповеду.

*Параўн.:* членимость текста (СЭСРЯ, сс. 617-621).

**ЧУЖАЯ МОВА, ЧУЖОЕ МАЎЛЕННЕ** – выказванне іншай асобы, уключанае ў аўтарскі расповед *(гл.).* З улікам спосабаў перадачы Ч. М. адрозніваць простую (прамую) мову, няўласна простую (прамую ) мову, ускосную мову і ўскосна-простую (прамую), або паўпростую, мову *(гл.).*

Фактычна пералічаныя некаторыя тэрміны ўзаемазамяняльныя. У "Беларускай граматыцы" (Мінск: Навука і тэхніка, 1986) выкарыстаны тэрмін "чужаслоўе", які пачынае ўжывацца як родавае паняцце да прапанаваных, традыцыйных. *Простая (прамая) мова* – гэта часцей за ўсё канструкцыя, якая структурна супадае з складаным бяззлучнікавым сказам і мае ў адной частцы ўласна простую (прамую), або чужую, мову, а ў другой – словы аўтара, якія могуць быць у прэпазіцыі, інтэрпазіцыі і постпазіцыі ў адносінах да яе: *[Фірага] закрычаў на ўвесь двор:*

– Гарым, матка-а!..; – Кінь ты, матка… – патрос ён пальцам. – Я цябе знаю. Нічога не прапусціш. Дай, матка, яшчэ раз нап'юся.

*– Можа чаго лепшага? – спытала яна, адпусціўшыся* (І. Пташнікаў. Алімпіяда).

У навуковай і газетнай мове чужаслоўе выкарыстоўваецца ў форме цытат *(гл.)* з дакладнай пашпартызацыяй іх або з указаннем (спасылкай) на аўтара: "Вельмі цікавыя… разважанні М. М. Кожынай, аўтара грунтоўных прац па праблемах функцыянальнай стылістыкі. "Функцыянальная стылістыка, – адзначае яна, – гэта навука, якая разглядае маўленне ("паток маўлення, у прыватнасці тэкст") не як матэрыял для вывучэння сістэмы мовы, а, так бы мовіць, "у сябе і для сябе", яна даследуе законы, характар, спецыфіку, экстралінгвістычную абумоўленасць менавіта функцыянавання сродкаў мовы ў разнавіднасцях маўлення". (Кожына М. Н. О специфике художественной научной речи в аспекте функциональной стилистики. Пермь, 1966. – С. 13-141)". (М. Я. Цікоцкі. Стылістыка тэксту). Далей М. Я. Цікоцкі пераходзіць да пераказу чужога маўлення ("аўтара грунтоўнай манаграфіі "Русская словесность" А. І. Гаршкова (1995): "Ён служна заўважае, што стылістыка тэксту павінна заняць вядучае месца ў праграме выкладання курса стылістыкі як у

сярэдняй школе, так і ў вышэйшых навучальных установах” (Тамсама). Гэта ўжо *ўскосная мова*, перададзеная ў форме складаназалежнага сказа (*гл.* УСКОСНАЯ МОВА). У апошнія дзесяцігоддзі ў беларускім мовазнаўстве шмат ўвагі удзяляецца так званай *паўпростай (паўпрамой) мове*, а таксама *няўласна аўтарскай* і *няўласна простай мове*. М. В. Абабурка, інтэрпрэтуючы іх як асобныя стылістычныя і тэкстазнаўчыя катэгорыі, аб’ядноўвае, як і сказавае маўленне, у адзін тэрмін – “сінкрэтычная мова” (*гл.* ягоныя працы “Станаўленне і развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры” (Магілёў, 2000) і “Стылізаваныя і сінтэзаваныя тэксты: кантэксталагічны аналіз” (Магілёў, 2010)).

*Параўн.:* чужая речь (СЛТ, 1972, с. 484), речевая деятельность, речевой акт, речь (ЛЭС, сс. 412-415), чужая мова (ЭнЛіМБел, V, с. 530), (СЛТ; 1990, с.171).

**ЧЫРВОНЫ (НОВЫ) РАДОК** – *гл.* АБЗАЦ.

# Ш

**ШАБЛОН** – 1) узор, па якім штампуюць штосьці аднолькавае; 2) збіты ўзор, які слепа пераймаюць; гл. ШТАМП, МОЎНЫЯ ТРАФАРЭТЫ, КЛІШЭ.

У “Лінгвістычным энцыклапедычным слоўніку” (М., 1990) тэрмін “ШТАМП” тлумачыцца так: “стылістычна афарбаваны сродак маўлення, які адклаўся ў калектыўнай свядомасці носьбітаў данай мовы як устойлівы, “гатовы да ўжывання” і пэўнага моўнага зместу, што мае экспрэсіўную і вобразную нагрузку” (с. 588). Крыху ніжэй гаворыцца больш крытычна: “Тэрміны “штамп”, “шаблон” (“трафарэт”) маюць негатыўна-ацэначнае (часам суб’ектыўнае) значэнне і адносяцца галоўным чынам да бяздумнага і безгустоўнага выкарыстання выразных магчымасцей мовы. У гэтым заключаецца адрозненне Ш. ад нейтральных паняццяў с т а н д а р т, с т э р э а т ы п (к л і ш э), якія маюць інфармацыйна-неабходны характар і адносяцца да мэтанакіраванага прымянення гатовых формул у адпаведнасці з камунікацыйнымі патрабаваннямі той або іншай маўленчай сферы” (сс. 588-589).

У сучаснай беларускай літаратурнай мове самымі заштампаванымі з’яўляюцца афіцыйна-справавы і навуковы стылі, часткова такімі можна лічыць і публіцыстычны стыль, асабліва яго газетныя інфармацыйныя жанры, якія цесна звязаны з афіцыйна-справавым і навуковым маўленнем, іх стандартызаванасцю і стэрэатыпнасцю. Нягледзячы на тое, што з моўнымі (маўленчымі) штампамі і трафарэтамі вядзецца пастаянная культурамоўная барацьба, моўныя адзінкі накшталт “фронт палявых работ”, “стаяць на працоўнай вахце”, “быць правафланговым”, “быць маяком” і інш. не знікаюць са старонак не толькі раённых і абласных газет, але і рэспубліканскіх, цэнтральных. А перыфрастычныя выразы тыпу “чорнае золата” ці “людзі ў белых халатах” абрастаюць новымі значэннямі, становяцца полісемантычнымі: калі ў даваенны час каменны вугаль называлі “чорным золатам”, то зараз гэта найменне набылі торф і нафта; калі да вайны і ў вайну медыкі былі “людзі ў белых халатах”, то зараз – гэта і повары, і атамнікі, і

працаўнікі мяса-малочнай прамысловасці. Самымі заганнымі сталі канцылярызмы *(гл.)* у іншых стылях, акрамя афіцыйна-справавога: *“Згодна з месячнымі, квартальнымі і гадавымі планамі...”* (у навуковым і публіцыстычным стылях), *“адзначаныя недахопы...”, “зараз карціна змянілася...”, “з’явілася магчымасць выканаць запланаваны графік...”* (у публіцыстычным і гутарковым стылях), *“у сваёй рабоце практыкуем...”, “мы прапанавалі ўвядзенне спецыяльных графікаў правядзення кантролю за выкананнем запланаваных мерапрыемстваў...”* (у навуковым і публіцыстычным стылях) і г. д. Можна сустрэць на сучасным этапе развіцця беларускай літаратурнай мовы ва ўсіх функцыянальных стылях і іх жанрах замест звычайных і лёгкадаступных для разумення чатырох слоў кшталтам “калгаснікі павышаюць прадукцыйнасць працы” цэлую тыраду тыпу “калгаснікі рэгулярна прымаюць актыўны ўдзел у павышэнні прадуктыўнасці сваёй працы (працоўнай дзейнасці)” і інш. У гэтых адносінах М. Я. Цікоцкі зусім правільна заўважае: “Тэорыя штампаванасці газетнай мовы, якая зводзіць складаную праблему мовы і стылю публіцыстыкі да камбініравання і вар’іравання прыёмамі, штампамі, трафарэтамі, клішэ і іншымі слоўнымі формамі без уліку жанру і зместу твора, нагадвае фармалістычную тэорыю школу ОПОЯЗа... Новыя прыёмы атрымлівалі “пуцёўку ў жыццё” дзякуючы “астраненню” – парушэнню звычайных норм словаўтварэння, іх дэфармацыі, што надавала гэтым прыёмам навізну да наступнай аўтаматызацыі”. (М. Я. Цікоцкі. Стылістыка беларускай мовы). Вельмі часта ў літаратурна-мастацкіх творах і публіцыстыцы моўныя штампы (шаблоны, трафарэты) выкарыстоўваюцца як сродкі стылізацыі, іроніі, гратэску, сарказму і г. д. Асабліва імі любяць карыстацца такія парадысты, як М. Скрыпка, М. Пазнякоў, Г. Юрчанка і інш.

*Параўн.:* шаблон (СЛТ, 1969, с. 519), штамп (КЛЭ, VII, сс. 792-793), штамп речевой (ЛЭС, сс. 588-589), штамп, клішэ (СЛТ, 1990, сс. 171, 172), (ЭнЛіМБел, V, сс. 588-589).

**ШМАТЗЛУЧНІКАВАСЦЬ** – *гл.* ПОЛІСІНДЭТОН.

**ШМАТЗНАЧНАСЦЬ** – *гл.* ПОЛІСЕМАНТЫЗМ, ПОЛІСЕМІЯ.

**ШМАТКРОП’Е** – 1) знак прыпынку ў выглядзе трох кропак, пастаўленых адна за адной; 2) знак пропуску ў тэксце: тры або дзве кропкі, пастаўленыя побач на месцы пропуску ў тэксце.

Як асобны і своеасаблівы знак прыпынку *(гл.)* Ш. можа выконваць і раздзяляльную, і выдзяляльную, і стылістычную функцыю. Сустракаюцца прыклады з адначасовым выкананнем Ш. усіх пералічаных функцый:

*– Госці прыехалі ў Мінск... І ў нас будуць. – Яна пачала пералічаць з тэатральнымі спынкамі, з эфектам шматкроп’я:*

*... З Германіі...*
*... З Польшчы...*
*... З Латвіі...*
*... З Чэхіі...*
*... З Літвы...* (З. Бядуля. Язэп Крушынскі).

Часцей за ўсё Ш. ставіцца пасля аднаслоўных сказаў (намінатыўных, назоўных тэмы, недагавораных ці перарваных), а таксама ў канцы самых разнастайных сказаў:

*Слёзы… Кроў… Літанне… І крыжы на ўсходзе…* (П. Трус. Дзесяты падмурак); *Завод… Зямля… Аб іх казаць не нова, бо працу ведае мая рука…* (М. Чарот. Завод і зямля); *- Гэта вам, Надзея Раманаўна… Можа, паставіце дзе… успамінаць будзеце…* (У. Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха); *Мокрая, высокая трава, сонца, радасць…* (Тамсама).

Сустракаецца ў літаратурна-мастацкіх тэкстах Ш. у пачатку абзацаў:

*… Мокры снег ляпіў па нашых тварах, калі мы выйшлі на бульвар і яна спаймала таксі і ўсё стаяла ля яго і глядзела мне ў вочы.*

*… Усё ўва мне плакала, і не столькі ад кахання, колькі ад страты.* (У. Караткевіч. Чорны замак Альшанскі).

Яскравей стылістычнай функцыяй Ш. з'яўляецца афармленне разнастайных сродкаў вобразнай мовы (умаўчання *(гл.)*, паралелізму *(гл.)*, анафары *(гл.)* і інш.):

*Хіба ж на вечер той можна забыцца?*
*… Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,*
*Штосьці спявае пяшчотнае бор,*
*Пахне чабор,*
*Пахне чабор…*
(П. Броўка. Пахне чабор);

*Дзінь-дзінь,*
*дзінь-дзінь-дзінь…*
*Што гэта звініць, Хатынь?*
*Што значаць яны, твае званы?*
*Ці гэта гучаць адгалоскі*
*Той вёскі, што была да вайны,*
*Той колішняй мірнай вёскі?..*
(А. Вярцінскі. Хатынскія званы);

*Бамбёжка без канца. Два, тры самалёты гудуць, круцяцца, кідаюць бомбы… За імі прылятае новае звяно. Нервы хочуць выматаць, ці што?..* (І. Навуменка. Смутак белых начэй); *У жыцці Вялікага Лесу быццам нічога не змянілася… І разам з тым змянілася, як усё змянілася!..* (Б. Сачанка. Вялікі Лес).

Ш. ставіцца ў табуістычных словах і выразах ці замест іх. Напрыклад: *Увесь Пярэймаўскі бор падсочылі! Над саменькім возерам! Я яшчэ, шануючы вас, з голай с.. бегаў, калі ён стаяў.* (Я. Брыль. Надпіс на зрубе)*; Ён бярэ на рукі яе, на ложак нясе. Тут, у брудзе гэтым, у пекле, на вачах у гэтай раз'юшанай зграі…* (М. Зарэцкі. Голы звер).

Часта замест *Ш.* ставіцца працяжнік *(гл.)*.

*Параўн.:* многоточие (СЛТ, 1969, с. 236), (СЛТ, 1972, с. 162), шматкроп'е (СЛТ, 1990, с. 171).

**ШТАМПЫ МОЎНЫЯ** – стэрэатыпныя вобразы; шаблонныя фразы. *... Галоўнай, адметнай асаблівасцю яе [мовы газеты. – М. А.] павінны быць моўныя штампы і клішэ...* (М. Л. Цікоцкі. Стылістыка беларускай мовы). *Гл.* КЛІШЭ, ШАБЛОН.

# Э

**ЭДЫЦЫЯ** – 1) навуковае выданне тэксту, пераважна твораў класікаў, гістарычных і лінгвістычных крыніц ці дакументаў; 2) адзін з прыкладных напрамкаў ТЭКСТАЛОГІІ (СЭС, с. 1526).

Э. называюць прыкладной тэксталогіяй *(гл.)* ці эдыцыйнай тэхнікай (Ліхачоў, 1983, сс. 549-562). Д. С. Ліхачоў лічыць яе прыкладной дысцыплінай, якая мае на мэце правільнае выданне тэксту, г. зн. вырашае практычныя задачы выдання як асобных тэкстаў, так і іх зводаў *(гл.)*, збораў *(гл.)*, акадэмічных выданняў *(гл.)*, увогуле асноўная частка выдавецкай справы *(гл.)*.

Тэарэтычнай базай Э. з'яўляюцца тэксталагічныя, лінгвастылістычныя, гісторыка-літаратуразнаўчыя, сацыяльна-псіхалагічныя і этычна-эстэтычныя даследаванні таго ці іншага твора (тэксту) і яго варыянтаў *(гл.)*.

*Параўн.:* эдыцыя (ТСБМ, 5 – I, с. 442); (Булыка, 1993, с. 380).

**ЭЗОПАВА МОВА, ЭЗОПАЎСКАЕ МАЎЛЕННЕ** – "своеасаблівы від падцэнзурнага завуаліраванага пісьма, што давала магчымасць ва ўмовах жорсткай цэнзуры выказаць самыя прагрэсіўныя думкі" (ЭнЛіМБел, V, сс. 617-618; Рагойша, 1987, с. 30). Эзопаўская мова багатая на алегорыі, намёкі і іншыя прыёмы з мэтай скрыць прамы сэнс (ТСБЛМ, с. 770). Іншасказаальны падтэкст *(гл.)* ствараецца вельмі часта ў літаратурна-мастацкіх тэкстах, публіцыстыцы і літаратурнай крытыцы не толькі пры дапамозе алегорый *(гл.)*, але і перыфраз, псеўданімаў *(гл.)*, алюзій і іроніі *(гл.)*, увогуле шырокага выкарыстання імпліцытнага выражэння думкі *(гл.)*. Як правіла, да Э. М. звяртаюцца казачнікі, байкапісцы і сатырыкі. Вядзецца ад часоў і твораў Эзопа (VI ст. да н. э.). Шырокую ўжывальнасць і тэрміналагічнасць Э. М. набыло пасля шматлікага яго (яе) выкарыстання М. Е. Салтыковым-Шчадрыным.

*Параўн.:* эзопов язык (РЯЭ, сс. 402-403), (КЛЭ, 8, с. 839), (СЛТ, 1983, с. 175), (ЛЭС, с. 590), (ЛітЭС, с. 504).

**ЭКЗАТЫЗМЫ, ЭКЗАТЫЧНАЯ ЛЕКСІКА** – словы і выразы, запазычаныя з іншых моў (найчасцей малавядомых), якія адлюстроўваюць паняцці з жыцця іншых народаў і ўжываюцца з мэтай надаць маўленню своеасаблівы, мясцовы каларыт: *аул, бай, зурна, чайхана, чалма, янычар* (СЛТ, 1990, сс. 172-173). Э. – словы і выразы чужой мовы, зусім не засвоеныя нашай мовай – ні фанетычна, ні графічна, ні граматычна, ні лексічна. Часцей за ўсё яны выкарыстоўваюцца ў мове мастацкай літаратуры для апісання іншаземнага быту і звычак. Да іх можна адносіць суцэльныя іншамоўныя тэксты, якія выкарыстоўваюць нашы пісьменнікі і публіцысты ў сваіх творах, асабліва на ваенную тэматыку.

*Параўн.:* экзатызмы, экзотыка (ТСБМ, 5-II, с. 445); (ЭнЛіМБел, V, с. 618).

**ЭКЗЕГЕТЫКА** – 1) вучэнне пра спосабы навуковага прачытання, разумення, філалагічнага тлумачэння і інтэрпрэтацыі літаратурна-мастацкага твора (тэксту) у спалучэнні з рэканструкцыяй яго (пераважна старажытнага); 2) тое, што і ГЕРМЕНЕЎТЫКА, ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ ТЭКСТУ, ТЭКСТАЛОГІЯ *(гл.)*.

ЭКЗІСТЭНЦЫЯЛЬНЫ (СКАЗ) – які мае (выражае) быційнае значэнне; быційны сказ, напр., Э. намінатыўны сказ: *Раніца. Шэрае, нізкае неба. Шэрае, ціхае мора. І свежы, зноў непераможны белы снег* (Я. Брыль. Яшчэ раз першы снег). Гэтыя намінатыўныя сказы значна адрозніваюцца ад сказаў тыпу *Раніца. Неба. Мора. Свежы снег* або *Вось раніца. Вось і неба* і г. д., хоць экзістэнцыя (існаванне, быццё, быційнасць) прысутнічаюць ва ўсіх прыкладах. У Э. сказах Я. Брыля мы бачым і адчуваем не толькі прадметную, але і пачуццёва-вобразную рэальнасць свету, і дзеянне, працэс, рух, нягледзячы на тое, што адсутнічае ў выказванні дзеяслоў-выказнік, які часцей за ўсё забяспечвае граматычную прэдыкатыўнасць *(гл.)* – абавязковую прыкмету сказа-выказвання. Э. (быційныя) супастаўленні разнастайных прадметаў і паняццяў знаходзяцца ў сказах з рэдуплікацыяй назоўнага склону накшталт *Кніга – крыніца ведаў, Мінск – сталіца Рэспублікі Беларусь*. Аднак нельга зблытваць гэту з'яву з двухсастаўнымі сказамі-выказваннямі тыпу *Тут холад (Тут холадна* ці *Тут халадэча, халадзіна, хоць ваўкоў (сабак) ганяй* і г. д.); *Ёй сорамна; Ужо вечар, позна (Сорам, дзеўка, сорам, красна, позна вечарам гуляць… –* З нар.*)*.

*Параўн.:* экзистенциональный (СЛТ, 1969, с. 522), намінатыўны сказ, намінацыя (СЛТ, 1990, сс. 86-87), экзістэнцыялізм (Рагойша, 2001, с. 355).

**ЭКЛЕКТЫКА, ЭКЛЕКТЫЗМ, ЭКЛЕКТЫЧНАЕ ВЫКАЗВАННЕ** – 1) беспрынцыповае, адвольнае аб'яднанне разнародных ідэйных напрамкаў; 2) тое, што выяўляе змяшэнне (вельмі часта супрацьлеглых) пунктаў погляду, тэорый, палітычных ацэнак і г. д. Сюды найперш адносяцца старанні і імкненні аб'яднаць матэрыялізм і ідэалізм, марксізм і эмпіракрытыцызм, дыялектычны матэрыялізм і кантыянства і інш. Таксама Э. з'яўляюцца метадалагічныя прыёмы, якія не нясуць пазнавальнай нагрузкі і заснаваныя на вырваных з кантэксту фактах і фармулёўках, чым "скажаецца" сапраўднасць факта ("суб'екта", "аб'екта", "аб'ектыўнасці даследавання" і інш.), што няправамерна тлумачыць ісціну, стварае ілюзію лагічнай стройнасці і строгасці. Філосафы разглядаюць *канвергентную Э.* – дэізм як "промысел божы"; першасную аснову або форму засваення новай праблематыкі (асабліва калі запазычаныя новай сістэмай тэрміны і праблемы доўгі час захоўваюць рэліктавыя акцэнты і межы) і *дывергентную Э.*, звязаную з выяўленнем у адзіных і простых раней тэрмінах тыпалагічных адрозненняў і палярызацыі значэнняў паводле разнастайных канцэптаў. Абодва тыпы Э. уяўляюцца як заканамерныя моманты пазнання, сродкі актыўнага ўздзеяння на складзеныя тэорыі і погляды. Вельмі часта прымяняюцца ў рэкламах і прапагандзе, у сістэмах масавай камунікацыі, абапіраючыся на моду, прывычкі, традыцыі і г. д.

*Параўн.:* эклектизм (СЭС, с. 1530), эклектика (ФЭ, V, с. 543), эклектыка, эклектызм, эклектычны (ТСБЛМ, 2002, с. 771).

**ЭКСПЛІЦЫТ, ЭКСПЛІЦЫТНЫ** – яўна выражаны. *Параўн.* ІМПЛІЦЫТ, ІМПЛІЦЫТНЫ *(гл.)*.

Так называюцца звычайныя, агульнапрынятыя, маркіраваныя сродкі выражэння. Праўда, у мове мастацкай літаратуры моўныя сродкі становяцца поліфункцыянальнымі, могуць паводле волі аўтара набываць нават супрацьлеглы сэнс у параўнанні са слоўнікавым значэннем. М. Я. Цікоцкі зазначае: "… у моўнай тканіне твора могуць паралельна развівацца два планы выражэння, шчыльна звязаныя паміж сабою: адзін (знешні, эксплііцытны), які заснаваны на значэннях, другі (унутраны, імпліцытны) – заснаваны на сэнсах. Пры гэтым сэнсы могуць уступаць паміж сабою ў асобныя, адносна самастойныя, незалежныя ад значэнняў адносіны і параджаюць новыя сэнсы" (М. Я. Цікоцкі. Сугучнасць слоў жывых…). Сказанае пацвярджае аўтар ужываннем прэдыкатыўнага спалучэння "Цымбалы звіняць" К. Чорным у аповесці "Лявон Бушмар": *"...тройчы паўтараецца выраз "звіняць цымбалы". У першым выпадку, у аўтарскай мове, гэты выраз разумеецца намі адназначна, а ў вуснах Амілі і Андрэевай жонкі ён напаўняецца рознымі дадатковымі адценнямі сэнсу (прадчуванне новага, светлых перамен у жыцці герояў), якія, уласна кажучы, і надаюць гэтым словам эстэтычную якасць"* (Тамсама). Галоўная задача рэцыпіента (чытача) – эксплііцыраваць імпліцытнае, гэта значыць спасцігнуць, зразумець і ўсвядоміць змест, заключаны ў напісаным ці пачутым, і ягоны падтэкст *(гл.)*, што непасрэдна вынікае з першаснага ўжывання (значэння, сэнсу, увогуле ўсяго зместу твора). Такім чынам, эксплііцытнае – гэта выяўнае, адкрытае выражэнне думкі праз гукі і літары, словазлучэнні і сказы, абзацы і перыяды, а імпліцытнае – гэта схаванае "між радкоў", у розных двухсэнсавых пытаннях, каламбурах, іншасказаннях-алегорыях і г. д. Таму заканамерна адной з задач сучаснага тэкстазнаўства з'яўляецца ўменне паказаць у лексіцы і фразеалогіі ўсемагчымыя значэнні (не толькі інтралінгвістычныя, зафіксаваныя ў слоўніках – лексічныя, фразеалагічныя, кантэкстуальныя, тэкстуальныя і інш., але і экстралінгвістычныя – пазамоўныя, імпліцытныя, сімвалічныя) ад пэўнага, спецыяльнага, спецыфічнага ўжывання ў звязным маўленні (выказванні, тэксце).

Псіхолагі разам з лінгвістамі даказалі, што карыстанне мовай як сродкам зносін у вусным ці пісьмовым выглядзе называецца маўленчай дзейнасцю, спрошчана – маўленнем (вусным ці пісьмовым). Асноўнымі разнавіднасцямі маўленчай дзейнасці людзей з'яўляецца гаварэнне і слуханне, пісьмо і чытанне, а вынік гэтай дзейнасці – выказванні і тэксты, якія прынята называць звязным маўленнем. Выказванні і тэксты галоўным чынам ствараюцца індывідуальна, таму заканамерна можа быць індывідуальнае словаўжыванне, словаўтварэнне, словазмяненне, канструяванне словазлучэнняў, сказаў і звышсказавых (звышфразавых) адзінстваў (абзацаў, складаных сінтаксічных цэлых, перыядаў), урэшце – стварэнне індывідуальных стыляў гаварэння ці пісьма. Аднак індывідуальнае не павінна пераважаць над агульнапрынятым і кадыфікаваным маўленнем: нормы літаратурнай мовы могуць відазмяняцца і ўдасканальвацца, але яны не павінны свядома парушацца ці нават ігнаравацца.

*Параўн.:* эксплицитный, э. актуализация (СЛТ, 1969, сс. 523, 37).

**ЭКСПРЭСІВІЗАЦЫЯ, ЭКСПРЭСІЎНАСЦЬ, ЭКСПРЭСІЯ** – выразнасць; сіла праяўлення, выражэння пачуццяў, перажываняў і г. д.; наданне маўленню Э.

"Э. – выразна-маўленчыя якасці мовы, якія надаюць маўленню вобразнасць і эмацыянальнасць; Э. маўленню надаюць лексічныя, словаўтваральныя і граматычныя сродкі, экспрэсіўна афарбаваныя" (СЛТ, 1990, с. 173);

"ЭКСПРЭСІВІЗАЦЫЯ – наданне маўленню экспрэсіўнасці. ЭКСПРЭСІЯ – выяўленча-выразная якасць маўлення, якая ствараецца экспрэсіўнымі, лексічнымі, словаўтваральнымі і граматычнымі сродкамі і надае вобразны характар выказванню". (Булыка А. М. і інш. Красамоўства ў Беларусі).

*Гл.*: АСАНАНС, АЛІТЭРАЦЫЯ, ГУКАПЕРАЙМАННЕ, КАНАТАЦЫЯ, ФУНКЦЫІ МОВЫ, ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ І ЭКСПРЭСІЎНАЯ СТЫЛІСТЫКА і інш.

У сваёй "Стылістыцы беларускай мовы" М. Я. Цікоцкі адзначае, што большасці моўных адзінак побач з прадметна-лагічным значэннем уласціва стылістычная афарбоўка: эмацыянальная і экспрэсіўная. Апошняя суадносіцца з папярэдняй як родавае і відавое паняцці. Вучоны класіфікуе такія моўныя (маўленчыя) адзінкі то ў адпаведнасці з раднавіднасцямі маўлення – размоўныя і кніжныя, то ў адпаведнасці са стылямі – функцыянальна-стылістычныя і эмацыянальна-экспрэсіўныя, разглядаючы таксама асобна функцыянальную, эмацыянальную і экспрэсіўную афарбоўкі моўных сродкаў. Экспрэсію ўвогуле М. Я. Цікоцкі падзяляе на размоўную і кніжную.

На наш погляд, экспрэсія (экспрэсіўнасць) уласцівая ўсім моўным адзінкам, якія ўдзельнічаюць у звязным маўленні, асабліва пры гаварэнні ці чытанні ўголас (тут падключаюцца і такія паралінгвістычныя сродкі, як міміка, жэсты, тэмбр голасу, яго вышыня, палётнасць, тэмп маўлення і інш.). Сама Э. – гэта сукупнасць семантыка-стылістычных прыкмет той ці іншай моўнай (маўленчай) адзінкі, якая забяспечвае яе здольнасць выступаць у камунікацыйным акце як сродак суб'ектыўнага выражэння думкі. Нярварта забываць і пра станоўчыя або адмоўныя канатацыі, пра вобразныя сродкі мовы (маўлення), якія выступаюць у ролі тропаў, рытарычных і стылістычных фігур як пісьмовага, так і вуснага маўлення. Практычна гэта лёгка дасягаецца перастаноўкай (зменай) парадку слоў *(гл.)*, зменай націску (асабліва фразавага), узаемадзеяннем (змяшэннем) рознастылёвай лексікі і фразеалогіі, падключэннем да выказвання (тэксту) форм суб'ектыўнай ацэнкі і інш. У выніку актуалізацыі экспрэсіі (экспрэсівізацыі), асабліва пры пераходзе ад экспрэсіўнай лексікі да экспрэсіўнага сінтаксісу, маўленне становіцца надзвычай экспрэсіўным (г. зн. выразным, вобразным, займальным, запамінальным, узнёслым, фамільярным, дысфемічным і г. д.), што яскрава паказвае на здольнасць камунікантаў (адрасантаў, намінантаў, фігурантаў і інш.) выражаць свой псіхічны (эмацыйны, валюнтатыўны і г. д.) стан.

*Параўн.:* экспрессивность (РЯЭ, с. 404), (ЛЭС, с. 591), экспрессивный синтаксис, экспрессивная стилистика (СЭСРЯ, сс. 622-624).

**ЭКСТРАЛІНГВІСТЫЧНЫ** – пазамоўны, які адносіцца да рэчаіснасці, дзе функцыянуе і развіваецца мова. *Э. фактары – грамадска-палітычныя фактары.*

ЭКСТРАЛІНГВІСТЫЧНЫЯ СТЫЛЕЎТВАРАЛЬНЫЯ ФАКТАРЫ – тыя з'явы нямоўнай рэчаіснасці, у якіх адбываецца маўленчая камунікацыя і пад уплывам якіх праходзіць адбор і арганізацыя моўных сродкаў, г. зн. маўленне набывае свае стылёвыя характарысткі. Асноўнымі Э. С. Ф. з'яўляюцца такія, як *форма зносін* (вусная ці пісьмовая, дыялагічная ці маналагічная), *сацыяльная сфера* (бытавая, вытворчая, дзяржаўная і г. д.), *змест інфармацыі* (тэма і прадмет выказвання), *мэта зносін* (паведамленне, просьба, загад і г. д.), *умовы зносін, характар камунікантаў* і інш.

Э. С. Ф. – гэта такія з'явы пазамоўнай рэчаіснасці, у якіх адбываюцца моўныя (маўленчыя) зносіны і пад уплывам якіх адбываецца адбор і арганізацыя моўных сродкаў у пэўным стылі, іх падстылі і жанры. Гэта найперш невербальны кантэкст маўленчага акта, ад якога залежыць сам стыль (яскравы прыклад – гэта сфера выкарыстання, ад якой пайшлі нават назвы кожнага функцыянальнага стылю). Такія Э. С. Ф. называюцца першаснымі. Другаснымі можна назваць такія Э. С. Ф., як *умовы зносін і формы маўлення, вусная ці пісьмовая форма маўлення* (падрыхтаваная ці спантанная), *маналагічная або дыялагічная форма маўлення, узаемадносіны і сацыяльная роля камунікантаў* (іх узрост, эрудыцыя, тэмперамент, індывідуальнасць мыслення) і інш. Усе Э.С. Ф. узаемазвязаныя і з'яўляюцца асновай стылярыс *(гл.)* і стылістычных прыёмаў *(гл.)*, а таксама асновай класіфікацыі і ўнутранай дыферэнцыяцыі саміх функцыянальных стыляў як надзвычай складаных ("шматслаёвых") адзінстваў. Як функцыянальныя разнавіднасці літаратурнай мовы стылі мовы (маўлення) складваюцца традыцыйна і ў спалучэнні Э. С. Ф. з інтралінгвістычнымі (унутранамоўнымі) фактарамі (сродкамі). Адсюль і выдзяленне 6 базавых функцыянальных стыляў: афіцыйна-справавы (адміністрацыйны, заканадаўчы), навуковы (вытворча-тэхнічны), публіцыстычны (палітычны), мастацкі (мастацка-белетрыстычны, літаратурна-мастацкі, стыль мастацкай літаратуры), рэлігійны (царкоўна-рэлігійны, канфесійны, клерыкальны) і гутарковы (размоўны, размоўна-абыходкавы, штодзённа-бытавы). (*Гл.* артыкулы слоўніка, прысвечаныя кожнаму з названых базавых функцыянальных стыляў літаратурнай мовы). Кожны з функцыянальных стыляў той ці іншай літаратурнай мовы падраздзяляецца, як ужо заўважалася, на больш прыватныя і канкрэтныя стылістыка-маўленчыя разнавіднасці: падстылёвыя, жанравыя і г. д. (*гл.* табліцу сістэмы функцыянальных стыляў у сучаснай беларускай літаратурнай мове). Таму кожны канкрэтны літаратурны тэкст (твор, выказванне, мікратэкст) валодае адначасова і ўсімі стылярысамі макрастылю, і больш прыватнымі яго разнавіднасцямі, так званымі інварыянтамі, падстылявымі, жанравымі. Апрача агульнапрынятай класіфікацыі функцыянальных стыляў (пераважна ў еўрапейскіх стылістыках), сустракаюцца і іншыя класіфікацыі, г. зн. без уліку Э. С. Ф., напрыклад, з улікамі структуры маўленчага акта (1-я асоба – 2-я асоба, гутарковае – кніжнае маўленне, строгае – нястрогае маўленне і інш.). Таксама ёсць спробы класіфікацыі стыляў не на аснове ўзаемадзеяння Э. С.Ф. і інтрастылістычных фактараў той ці іншай літаратурнай мовы, г. зн. не з лінгвастылістычных падыходаў, а з пазіцый

(разнастайных падыходаў і аспектаў) сацыялінгвістыкі, псіхалінгвістыкі, прагматыкі, культуры маўлення і г. д. (зразумела, што не з пазіцый функцыянальнай стылістыкі). У гэтым стылёвае расслаенне (распластаванне) і стылёвыя (стылістычныя) своеасаблівасці адначасова звязаныя з разнастайнымі не толькі ўласна моўнымі (маўленчымі) сродкамі, але і з пазамоўнымі фактарамі, якія дыктуюць выбар саміх моўных (маўленчых) сродкаў пры стварэнні тэкстаў (выказванняў) і іх жанравых разнавіднасцей.

*Параўн.:* экстралінгвістычны (СЛТ, 1990, с. 173), классификация и внутренняя дифференциация функциональных стилей, экстралингвистические факторы функциональных стилей (СЭСРЯ, сс. 146-153, 624-626).

**ЭЛІПС(ІС)** – фігура маўлення з пропускам асобных слоў, словазлучэнняў, сказаў. Э. выкарыстоўваецца як мастацкі сродак для перадачы дынамічнасці, інтанацыі *(гл.)* жывога маўлення *(гл.)*. Прапускаюцца часцей за ўсё члены сказа, асабліва выказнікі: *Мой намеснік – вы. Ваш – камандзір першага аддзялення Адамчук!* (А. Кулакоўскі. Расстаёмся ненадоўга); *Усе сілы – на выкананне заданняў пяцігодкі* (газета “Звязда”); *Эзопава мова – асобны стыль выказвання, заснаваны на намёках, іншасказаннях.* (СЛТ, 1990, с. 172).

Э. стаў падставай для выдзялення эліптычных сказаў (як простых, так і складаных), паўната якіх узнаўляецца з усяго зместу сказа (выказвання), а не з падстаноўкі асобных членаў сказа: *У жыце ветру шолах, а не само жыта, як чарот*. (М. Машара. Ішоў дваццаты год); *Бярыце па мяшку – і канцы ў ваду.* (І. Навуменка. Сасна пры дарозе). Э. часта не дае магчымасці вызначыць структурны тып сказа (выказвання): *Май – каню (валам) сена дай, а сам на печ уцякай.* (Прыказка); *Загад: маўчаць.* (М. Танк. Нарач); *“Кінь ты, кажу. Сасніў хіба – канца вайне яшчэ і не чуваць.”* (К. Крапіва. Доўг); *А тут яе спатыкаюць такімі прапановамі: Васіль! Замуж!* (Ц. Гартны. Сокі цаліны). Э. найбольш эфектны і эфектыўны ў паэзіі. Напрыклад:

*На захад ідуць цягнікі –*
*Лён,*
*Жыта,*
*Сасна і бяроза…* (М. Танк. На пероне).

Ад эліптычных сказаў патрэбна адрозніваць няпоўныя сказы *(гл.)*.

*Параўн.:* эллипсис, эллиптическое предложение (СЛТ, 1972, сс. 182, 488-489), (ЛЭС, с. 592), эліпсіс (ЭнЛіМБел, V, сс. 625-626), эліпсіс, эліптычны сказ (СЛТ, 1990, с. 173).

**ЭМАЦЫЯНАЛЬНА-ЭКСПРЭСІЎНАЯ АФАРБОЎКА** – тып афарбоўкі моўных сродкаў, якая ўбірае ў сябе не толькі паняцці высокага, урачыстага, нізкага, пагардлівага і г. д. адцення слоў, словаформ і словазлучэнняў, але і паняцці станоўчай ці адмоўнай ацэнкі, у выніку чаго атрымліваюцца эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначныя словы, словазлучэнні, сказы, выказванні, тэксты. *Гл.* АФАРБОЎКА СТЫЛІСТЫЧНАЯ.

**ЭПАМАНІЁН** – верш, які складаецца з двухрадкоўяў з трэцім прамежкавым радком, які змяшчае словы, агульныя для двух астатніх радкоў:

*Горад лье грукат*
*заўсёды гоман*
*топчаш ты па бруку*
*А ўсё-такі мой бушуе*
*горад родны*
*люблю я сын яму я*
*Песні нас чароўнай*
*вучыў бурліва*
*Горад жыць бунтоўна.*

(А. Александровіч. Назва верша).

Чытаць трэба верш наступным чынам: “Горад *заўсёды* лье *гоман* грукат, топчаш *заўсёды* ты *гоман* па бруку. А ўсё-такі *горад* мой *родны* бушуе, люблю я *горад*, сын *родны* яму я. Песні *вучыў* нас *бурліва* чароўнай, горад *вучыў* жыць *бурліва*, бунтоўна”. Чытанне такога твора ўспрымаецца як разгадванне рэбуса, а захапленне ад паспяховага прачытання некалькі зніжае імкненне да ацэнкі мастацкай вартасці напісанага.

Э. быў распаўсюджаны ў эпоху барока, а з усходнеславянскіх аўтараў да такой формы верша звяртаўся Іван Велічкоўскі:

*Марія без та в рай водит*
*ст греха души*
*Арія полн той в ад сводит.*

**ЭПІГРАФ** – цытата або выслоўе, змешчаныя аўтарам перад тэкстам твора як своеасаблівы ключ да яго зместу. Э. – *выслоўе (або кароткая цытата), што змяшчаецца перад творам або перад асобным яго раздзелам, у якім аўтар раскрывае сваю задуму, ідэю твора ці яго часткі* (ТСБЛМ, 2002, с. 775). Э. могуць быць самыя разнастайныя. Напрыклад, да вершаванага апавядання “Вераніка” М. Багдановіч прыклаў такі Э.:

*“E un pensier del mio capo”.*
*(Яна – выдумка маёй галавы.),*

або да ягоных “Пентаметраў” наступны:

*Мы зерна древние лелеем,*
*Мы урожай столетий жнем.*

В. Брюсов.

М. Гарэцкі дадаў эпіграф да кожнай часткі (раздзела) аповесці “У чым яго крыўда?”, а ў частцы (раздзеле) пад лічбай VIII напісаў так: “Тут абыйдзецца без эпіграфу, а можна было б паставіць гэткі: “Свядомасць азначаецца быццём…”

Я. Купала і Я. Колас спачатку выкарыстоўвалі Э. да тых ці іншых твораў, а значна пазней здымалі іх. Так, у паэме Я. Купалы “Курган” быў наступны эпіграф-прысвячэнне: *“Памяці С. Палуяна”*, якое было знятае ў 1923 г. Затое застаўся эпіграф і план разам з прадмовай пачатай Я. Купалам і незавершанай паэмы “Гарыслава” (1912 г.): *“Не хочу разути рабынича, я за Яраполка иду!”* (З адказу Рагнеды – княжны полацкай, Уладзіміру – князю ноўгарадскаму). А. Адамовіч змясціў амаль да кожнага раздзела, акрамя “Шматпланавасці”, “Стыль – гэта

чалавек” і “Культура творчасці”, у манаграфіі “Шлях да майстэрства: Станаўленне мастацкага стылю К. Чорнага” (Мінск, 1958) у якасці эпіграфаў вытрымкі з выказванняў самога К. Чорнага.

У канчатковай, трэцяй, рэдакцыі паэмы “Сымон-музыка” Я. Колас змясціў 2 прысвячэнні: празаічнае – *“Беларускай моладзі сваю паэму прысвячаю. Аўтар”* і паэтычнае – *“Ад роднае зямлі, ад гоману бароў…”*, якія з’яўляюцца своеасаблівым эпіграфам-уступам да ўсёй паэмы.

Цікава адзначыць, што эпіграф-прысвячэнне “Вянок на магілу С. Палуяна (8 красавіка 1910 г.)”, змешчаны на асобным лісце адзінага прыжыццёвага зборніка М. Багдановіча (*гл.* факсімільнае выданне выдавецтва “Мастацкая літаратура” ў 1981 г.) стаў назвай усяго зборніка “Вянок” (Вільня: Друкарня Марціна Кухты, 1913. – 120 с.).

Э. лічацца цытаты *(гл.)*, змешчаныя перад эпіграмамі на тыя ці іншыя творы (цытуюцца абавязкова радкі, якія з’яўляюцца ключавымі ў самой пародыі). Могуць цытавацца строфы і нават суцэльныя невялічкія творы, што сталі аб’ектам пародыі *(гл.)*.

*Параўн.:* эпиграф (КЛЭ, VIII, сс. 915-916), эпіграф (ЭнЛіМБел, V, сс. 624-635).

**ЭПІКГРАМА, ЭПІГРАМА** – 1) у антычнай і старжытнай беларускай літаратуры – паэтычны жанр панегірычна-дыдактычнага характару, нават невялікі афарыстычны зварот да агульнавядомай асобы з пажаданнем або ўсхваленнем. Напрыклад: “ЕПІГРАММА. На граматіку” Л. Зізанія, эпікграма “На гроб яснавяльможнага пана Астафея Валовіча, пана Віленскага і прочых” А. Рымшы і інш.; 2) у еўрапейскай паэзіі XVIII-XIX стст. Э. – сатырычны жанр, аздоблены вастраслоўем (пуантам) у канцы. Напрыклад, Э. Вальтэра, Гётэ, Лесінга, Пушкіна і інш.; 3) невялікі, часцей за ўсё чатырохрадковы (можа быць і двух-, і васьмірадковы) верш сатырычнага характару. Творы гэтага жанру знаходзім у Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, В. Віткі, М. Танка, Р. Барадуліна і інш. (СЛТ, 1983, с. 180). Як аўтар разнастайных пародый і эпіграмаў зарэкамендаваў сябе вядомы збіральнік народнай лексікі і фразеалогіі Г. Ф. Юрчанка, які выпусціў у свет цэлы стос зборнікаў гэтага жанру: “Распрэжаны Пегас” (1965), “Вярхом на вожыку” (1968), “Немеладычныя мелодыі” (1974), “Парнаскія ўхабы” (1974), “У натхнёнай паграбельцы” (1983) і інш.

*Параўн.:* эпіграма, эпікграма (ЭнЛіМБел, V, сс. 634, 635), (Рагойша, 1979, сс. 305-307), (Яскевіч, 1999, с. 282).

**ЭПІТЭТ** – традыцыйны троп; мастацкае азначэнне прадмета ці з’явы, якасці, дзеяння ці стану з абавязковым стылістычным прызначэннем. … *эпітэты (разам з сінонімамі і фразеалагізмамі) адносяцца да залатога фонду нацыянальнай мовы, … багацце эпітэтаў у мове – паказчык яе развіцця, выразнасці, гнуткасці, здольнасці перадаваць найтанчэйшыя рухі думкі”* (У. С. Дзянісаў). У сучаснай філалогіі да Э. адносіцца ўсё маўленчае, што выступае ў атрыбутыўнай і партыцыпнай функцыях. Напрыклад, у вершы Н. Арсенневай “Пад сінім небам…”, які даў назву цэламу зборніку (Вільня, 1927), акрамя сталых, традыцыйных Э. (*сіняе* неба, *шэрая* зямля, *белыя* крыллі), бачым індывідуальна-аўтар-

скія Э. (*няпрыветныя* песні; *смуткі* зямлі; *неба* сінь; роспач *глухая, бязмежная, што гэць усё*; жыццё *зусім нязнанае*, *праўдзіва-ўзлётнае*, *натхненне, без перашкод*; нябесныя сіні *несмяротныя*; год сплывае *бясконцым светам*; на *белых* крыллях *летуцення*; слова-*чар* і г. д. А другую частку верша можна назваць поўнасцю Э. да словаспалучэння “Вершы мае…”:

*Сонца вясенняга першыя косы,*
*Грукат крыніцаў раньнія росы,*
*Восені жоўта-чырвонай адценьні,*
*Смуткі змярканьня, начы лятуценьні,*
*Сэрца развагі і сэрца парывы,*
*Песьні, што ў летку плывуць па-над нівы,*
*Плач лясуна, карагод русалчыны,*
*Чары і зводы начное часіны,*
*Смутнай балотніцы сьмех-прычытаньне,*
*Роднай старонкі ціхое каханьне,*
*Ўсё, што ў сэрцы жыве і пяе, –*
*Вершы мае…* (1925 г., снежань).

З прыведзеных прыкладаў можна рабіць выснову, што Э. можа быць слова і словазлучэнне, сказ і выказванне. Ды і калі разглядаць Э. як часціны мовы (маўлення), то, акрамя традыцыйных прыметнікаў і назоўнікаў (прыдаткаў), практычна “мастацкімі азначэннямі” могуць быць усе іншыя самастойныя часціны мовы (калі не асобна, то ў сукупнасці). Сюды можна адносіць і дзеясловы, асабліва ўтвораныя ад прыметнікаў ці прыметнікавых і партыцыпных формаў (параўн.: *ссінелае* і *самае сіняе ў свеце* Чорнае мора – Чорнае мора *сінее*; *зялёная* рунь і *вялая жоўтая* трава – *Вянуць і жаўцеюць* травы на лугах, Толькі *зелянеюць* руні на палях… (Я. Колас. Адлёт жураўлёў).

Э. выконвае самыя разнастайныя стылістычныя функцыі: эстэтычна-пазнавальную, характарыстычную, арганізацыйную, экспрэсіўную (эмацыянальную, ацэначную, вобразную) і інш. Гэта неад’емная адзінка ідыястылю В. Быкава, у творах якога разнастайным Э. адведзена першаступеннае месца. Прывядзём толькі адзін абзац з першай аповесці В. Быкава, каб пераканацца ў сказаным:

“У *спапялелую ад гора* душу байца дыхнула замілаванне *шчаслівай* мінуўшчынай яго дзяцінства, *шчымлівым* болем па ўсім тым, што *пражыта, пакінута і назаўжды ўжо страчана* для васемнаццацігадовага юнака. Ён ледзьве трымаў *крыўдлівую* спазму ў горле і глядзеў, глядзеў услед чародцы *родных з маленства птушак*, якія прынеслі ў яго пачуцці дзесяткі *да болю нясцерпных* адчуванняў… І калі ўжо яго зрок ледзь-ледзь нашчупваў у *шэрай засмужанай* высі тую *рухавую* рыску, з неба зляцеў на зямлю другі, *роспачна-абрывісты* гук, *поўны трывогі*, *просьбы і безнадзейнага* журботнага клічу:

*– Курл!.. Курл!.. Курл!..”* (В. Быкаў. Жураўліны крык).

Падкрэсленыя эпітэты не толькі разнастайныя паводле структуры, але і нясуць як аднолькавыя, так і розныя стылістычныя функцыі, у першую чаргу эмацыйныя і характарыстычныя.

Мастацкія азначэнні (эпітэты, прыдаткі, пеяратывы і дэмінутывы – *гл.*) неабходна адрозніваць ад лагічных і навуковых азначэнняў (узуальных намінацый і дэфініцый), якія часцей за ўсё выконваюць спецыяльную, метамоўную функцыю, асабліва ў навуковай мове (навуковым маўленні). Параўнаем: 1) *звонкі, зычны, прарэзлівы* голас і *звонкі, зычны, прарэзлівы* гук; 2) *звонкі зычны* гук [ж] у адрозненне ад адпаведнага яму *глухога шыпячага* гука [ш]; 3) *зычныя* і *галосныя* гукі, *зычныя* і *галосныя* літары. Калі ў першым выпадку словы “голас” і “гук” могуць быць і лагічным (у прамым сэнсе) азначэннем, то ў 2 і 3 выпадках – гэта спецыяльныя, навукова-лінгвістычныя ўжыванні слоў “звонкі”, “глухі”, “зычны”, “шыпячы”, “галосны”, “гук”, “літара”. А навуковая дэфініцыя зычных гукаў такая: “гукі, якія складаюцца (утвараюцца) з голасу і шуму”.

*Параўн.:* эпитет (СЛТ, 1969, с. 527), (РЯЭ, сс. 494-495), (КЛЭ, VIII, сс. 921-924), (ЛітЭС, с. 512), эпітэт (СЛТ, 1990, с. 175), (ЭнЛіМБел, V, с. 638).

**ЭПІФАРА** – стылістчыная фігура, сутнасць якой заключаецца ў паўтарэнні аднолькавых слоў або выразаў у канцы радкоў ці строф. *Параўн.* АНАФАРА, ПАЎТОР, РЫФМА, РЭФРЭН.

Э. класіфікуецца па-рознаму:

а) лексічная Э. (паўтарэнне аднолькавых слоў):

*Усе рэкі – сваякі,*
*І азёры – сваякі,*
*І ўсе моры – сваякі;*
*А ён не сваяк нікому.* (П. Панчанка. Акіян);

б) граматычная Э. (паўтараюцца словаформы):

*Стаю ля жыта,*
*Малюся жыту,*
*Пішу пра жыта,*
*Ізноў пра жыта:*
*Умее жыта*
*Душу лячыць.* (П. Панчанка. Ля жыта);

в) семантычная Э. (паўтарэнне сінанімічных слоў):

*У квадрата чатыры вуглы.*
*Хай вялікі ці самы малы,*
*А ўсё роўна, як ні павярні, –*
*У квадрата чатыры вуглы.*
*Час ідзе,*
*Час ляціць,*
*Час імчыць.*
*Не стрымаць,*
*Не спыніць,*
*Не разбіць…* (А. Глобус. Квадрат).

Апошнія радкі былі выкарыстаныя паэтам вышэй у іншым выглядзе (*“Не змяніць, не стрымаць, не спыніць…”).*

Граматычныя Э. дапамагаюць ствараць простую рыфму, а лексічныя і семантычныя Э. – таўталагічную рыфму.

*Параўн.:* эпифора (КЛЭ, VIII, с. 924), эпіфара (ЭнЛіМБел, V, с. 638), (Яскевіч, 1999, с. 282), (СЛТ, 1990, с. 175).

**ЭСТЭТЫКА І ЯЕ АСНОЎНЫЯ КАТЭГОРЫІ** – навука аб прыгожым, узвышаным, трагічным, камічным, агідным і інш. у прыродзе, грамадскім жыцці і мастацтве. Паняцці аб усім гэтым найцяснейшым чынам звязаны з ідэаламі і мэтамі чалавецтва ў кожную гістарычную эпоху, з уяўленнямі людзей аб справядлівасці, свабодзе, дабры і зле.

Э. – "навука, якая раскрывае сутнасць якасных характарыстык прыроднага, сацыяльнага і духоўнага быцця ў спецыфічных катэгорыях (прыгожае і агіднае, узнёслае і нізкае, трагічнае і камічнае). Даслудуе заканамернасці духоўна-палітычнага і пачуццёва-вобразнага асваення і пераўтварэння рэальнасці, у т. л. мастацтва як вышэйшай формы эстэтычных адносін чалавека да рэчаіснасці. Суадносіцца з філасофіяй (метадалагічная аснова Э.), літ.-маст. крытыкай, літаратуразнаўствам і мастацтвазнаўствам, у форме якіх рэалізуецца канкрэтнае прымяненне эстэт. паняццяў і катэгорый да сферы маст. практыкі, а таксама з этыкай і педагогікай (эстэт. выхаванне), псіхалогіяй (даследаванне стварэння і ўспрымання эстэт. аб'ектаў на індывідуальна-асабістым узроўні), дыялектычнай і фармальнай логікай (даследаванне структуры эстэт. паняццяў і катэгорый), аксіялогіяй (этсэт. аб'екты адносяцца да сферы духоўных каштоўнасцей), сац. (сацыялогіяй мастацтва) і тэхн. (дызайн і тэхн. эстэтыка) навукамі". (ЭнЛіМБел, V, с. 646). А. А. Яскевіч адзначае: "У працэсе фарміравання прафесійнага нацыянальнага мастацтва новага часу ўзаемадзейнічала некалькі фактараў: пераемнасць старажытных форм славеснасці, пазней фальклорнай эстэтыкі, прамы ці апасродкаваны ўплыў высокаразвітых узораў антычнасці у сусветным мастацтве". (Яскевіч, А. Абранне вечнасці: Універсалізм традыцыі і гістарызм сучаснасці / А. Яскевіч. – Мінск: Маст. літ., 1990. – С. 156).

З прыведзеных выказванняў вынікае, што тэрмін "Э." мае і такія значэнні, як сістэма поглядаў на мастацтва (прыгажосць, мастацкасць чаго-небудзь) і інш. Вядомы сучасны беларускі філосаф М. І. Крукоўскі лічыць, што "стыль – гэта праяўленне асноўных катэгорый у мастацтве", якія "праяўляюцца… так, што, напрыклад, узвышанаму адпавядае рамантызм, архаіка, цудоўнаму ("прекрасному") – рэалізм, класіка, камічнаму – натуралізм, маньярызм і, нарэшце, агіднаму – дэкадэнцкі абстракцыянізм" (Крюковский, Н. И. Кибернетика и законы красоты / Н. И. Крюковский. – Минск: Изд.-во БГУ, 1977. – С. 232).

Першасным кампанентам гістарычна абумоўленай эстэтычнай свядомасці, асновай эстэтычных густаў, ідэалаў і ацэнак з'яўляецца эстэтычнае пачуццё, або спецыфічнае духоўнае перажыванне (суперажыванне), выклікана ўспрыманнем (успрыняццем) прыгожага і агіднага, узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага. Адной з асноўных прычын і мэтай творчасці ў сістэме мастацкай культуры эстэтычны ідэал – вобразнае ўяўленне пра духоўна-пачуццёвую дасканаласць

і сацыяльна абумоўлены, гістарычна зменлівы крытэрый эстэтычнай ацэнкі, што выяўляецца непасрэдна ў мастацкай творчасці. Як аб'ект эстэтычных адносін да рэчаіснасці ідэал эстэтычны таксама з'яўляецца арганічным кампанентам сузірання, мыслення і практычнай дзейнасці, у якую ўваходзіць і грамадская вытворчасць. Суб'ектыўнай перадумовай эстэтычнага ідэалу з'яўляюцца развітыя эстэтычныя пачуцці, мастацкі густ і гуманістычная грамадская свядомасць. У гісторыі эстэтычнай думкі і мастацкай культуры Беларусі з неаднолькавай паўнатой і ў рэальна своеасаблівых формах раскрыліся асноўныя тыпы эстэтычнага ідэалу *(гл.)*.

*Параўн.:* эстетика (ФЭ, V, сс. 570-577), (КЛЭ, VIII, сс. 964-967), (ЛітЭС, с. 516), эстэтыка, эстэтычныя катэгорыі (СЛТ, 1983, сс. 184-185), (БПС, с. 489).

**ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ** – мэтанакіраваны працэс фарміравання ў чалавека эстэтычных адносін да рэчаіснасці; развіццё эстэтычнай культуры асобы: уменне ўспрымаць, ацэньваць і асвойваць эстэтычныя каштоўнасці ў рэчаіснасці і мастацтве (у тым ліку і мастацтве словам).

Увогуле слова "выхаванне" тлумачыцца як: 1) планамернае ўздзеянне на разумовае і фізічнае развіццё дзяцей, фармаванне іх маральнага вобліку прывіццём ім неабходных правіл паводзін; 2) навыкі паводзін, прывіццё сям'ёй, школай, асяроддзем, якія праяўляюцца ў грамадскім і асабістым жыцці (ССРЛЯ, 1991, с. 483).

Выхаванне – гэта дзейнасць па перадачы новым пакаленням грамадска-гістарычнага вопыту, планамернае і мэтанакіраванае ўздзеянне, якое забяспечвае фармаванне асобы, яе падрыхтоўкі да грамадскага жыцця і вытворчай працы. Э. В. – гэта найперш фармаванне адносін чалавека да мастацтва, увогуле да прыгожага, што існуе ў тварэннях чалавека і прыроды. Таму ў розныя эпохі падкрэслівалася выхаваўчае значэнне разнастайных відаў мастацтва: напрыклад, музыкі – у антычнасці, літаратуры – у XIX ст., усіх відаў мастацтва – у XX ст. Сёння сістэма Э. В. у цэлым выкарыстоўвае ўсе эстэтычныя з'явы рэчаіснасці – прыроду, грамадскую і вытворчую дзейнасць, побыт, сямейныя і грамадскія адносіны і інш., прычым асаблівае значэнне надаецца ўспрыманню (успрыняццю) прыгожага ў працоўнай дзейнасці, развіццю жадання ўносіць прыгожае ў працэс і вынікі працы, што станоўча ўплывае на выражэнне надзённых сацыяльных задач. Мастацкае выхаванне, мастацкая адукацыя (музычная, тэатральная, архітэктурная і інш.) ажыццяўляецца на лепшых узорах айчыннай і сусветнай культуры. Аднак усё часцей і часцей ад Э. В. як выхавання асобы адмяжоўваецца прафесійнае маст. выхаванне – фармаванне пэўных навыкаў і ўменняў у межах той або іншай мастацкай дысцыпліны. У педагогіцы вельмі часта Э. В. звязваецца са сферай пачуццяў і ўяўленняў і адасабляецца ад маральнага, інтэлектуальнага і іншай разнавіднасці выхавання, ставячы ў цэнтр увагі асабістае (асобаснае) эстэтычнае перажыванне (пакуту, асалоду, агіду і інш.). Філосафы па-ранейшаму не раздзяляюць Э. В. і маральнае В., Э. В. і развіццё пазнаваўчых здольнасцей, Э. В. і фарміраванне творчых здольнасцей, Э. В. і ідэалагічнае В. На сучасным этапе вялікую (значную) ролю адыгрывае ўзаемадзеянне Э. В. з этычным В. –

своеасаблівыя ўзаемаадносіны чалавека з рэчаіснасцю. Гэта аб'ектыўная заканамернасць, што праяўляецца як у жыцці, так і ў мастацве. У мастацкай літаратуры, жывапісе, кіна-мастацтве тыпы (вобразы-тыпы, вобразы-характары) сапраўдных герояў прыносяць рэцыпіентам (чытачам, слухачам, гледачам) эстэтычную асалоду і радасць. Адмоўныя вобразы, у першую чаргу амаральных людзей, нараджаюць пачуцці эстэтычнага асуджэння, нараджаюць пачуцці агіды да нізкага, адваротнага, нялюдскага.

Варта адзначыць, што ўзаемадзеянне эстэтыкі і яе катэгорый з іншымі навукамі не прайшло міма разнастайных філасофскіх і літаратурных напрамкаў, якія прывялі да ўзнікнення так званага эстэтычнага ідэалізму – напрамку ў заходнееўрапейскай лінгвістыцы ў пачатку ХХ ст., прадстаўнікі якога з пазіцый філасофіі, эстэтыкі і эстэтычнай філасофіі мовы прыраўноўвалі моўныя (маўленчыя) акты (як акты творчыя) да мастацтва, да паэзіі, атаясамлівалі лінгвістыку з эстэтыкай, ставячы на першы план эстэтычна-экспрэсіўную функцыю (магчымасць) мовы. Але разам з тым К. Фослер і яго паслядоўнікі далі глебу для ўзнікнення лінгвістычнай і функцыянальнай (экспрэсіўнай) стылістыкі *(гл.)*.

*Параўн.:* эстетика, эстэтическое воспитание (ФЭ, V, сс. 570-579), эстетический идеализм (ЛЭС, 1990, сс. 594-595), эстэтыка, эстэтычнае выхаванне, эстэтычнае пачуццё (ЭнЛіМБел, V, сс. 646-652).

**ЭСТЭТЫЧНАЯ ФУНКЦЫЯ МОВЫ (ТВОРА, ТЭКСТУ)** – прызначэнне моўных (моўна-выяўленчых) сродкаў задавольваць патрэбы эстэтычнага (вобразнага) мыслення і ўздзеяння на эстэтычныя ўстаноўкі адрасата (чытача, слухача, гледача). Адзін з асноўных кампанентаў прагматычнай функцыі мовы, або функцыі ўздзеяння, побач з пабуджальнай, эмацыянальнай, эмацыянальна-ацэначнай, экспрэсіўнай, кантактнай і інш. Э. Ф. М. паўнакроўна рэалізуецца ў мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі, дзе эмацыйная і экспрэсіўная функцыі мовы (маўлення) разам з вобразнай функцыяй служаць для адлюстравання ўсяго спектра эстэтычных з'яў рэчаіснасці і чалавечай свядомасці – прыгожага і агіднага, узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага і г. д., і г. д.

Э. Ф. М. уласцівы найперш пераважна тропам і фігурам маўлення, якія надаюць выказванням вобразнасць і выразнасць, выконваючы функцыю маляўнічага адлюстравання рэчаіснасці і асацыятыўна звязваючыся з нашымі зрокавымі, слыхавымі і іншымі адчуваннямі. Праўда, ва ўмелым выкарыстанні моўных (маўленчых) сродкаў і самыя звычайныя, міжстылёвыя, стылістычна нейтральныя моўныя адзінкі (з так званай нулявой стылістычнай афарбоўкай) прымаюць актыўны ўдзел у стварэнні мастацкага, эстэтычна значымага вербальнага вобраза. А эстэтычнае значэнне, або канатацыя *(гл.)*, – гэта ў шырокім сэнсе любы кампанент, дадатковы да прадметна-лагічнага (паняційнага), а таксама граматычнага зместу моўнай (маўленчай) адзінкі, прыдаючы ёй вобразна-экспрэсіўную ці эмацыянальна-ацэначную характарыстыку. У вузкім значэнні (сэнсе) моўныя (маўленчыя) адзінкі выступаюць у пераносным, другасным для іх, вытворным плане выражэння *(гл.)* і, зразумела, выступаюць у ролі тропаў ці стылістычных (сінтаксічных)

фігур *(гл.)*. Што да выкарыстання ў літаратурна-мастацкім творы пазалітаратурна-моўных сродкаў – дыялектызмаў, рэгіяналізмаў, жарганізмаў, зніжаных гутаркова-прастамоўных і іншых у такім парадку, то яны павінны быць эстэтычна апраўданыя, г. зн. выконваць эстэтычную функцыю, а за ёй астатнія, самыя нязначныя, напрыклад, часцінамоўныя. Увогуле літаратуразнавец і крытык Ул. Юрэвіч у сваёй працы "Слова і вобраз" (Мінск, 1961) даказаў, абгрунтаваўшы на значным фактычным матэрыяле, наступнае: "Камунікацыйная і эстэтычная функцыі мовы ў мастацкім творы ўзаемаспалучаны, адна без другой не існуе, адна другую дапаўняе. Гэтае адзінства абедзвюх функцый мовы абумоўлена адзінствам зместу і формы твора". І далей: "Вобразнае мысленне складае асаблівасць паэтычнай творчасці, яно з'яўляецца асновай літаратуры як мастацтва слова. Цудоўнае хараство і чароўная сіла паэзіі ў тых вобразах, якія будучы апрануты ў словы, выклікаюць у нас жывыя асацыяцыі, звязаныя з глыбокім роздумам і моўнай унутранай узрушанасцю. Чалавеку дадзена не адна толькі здольнасць разумець выказаныя словамі чужыя думкі, але і здольнасць узрушацца пачуццямі другіх людзей" (с. 4). Эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць і вобразнасць маўлення – найбольш яркія асаблівасці Э. Ф. М. як суцэльнага твора, так і кожнай яго часткі (тэксту).

*Параўн.:* функции языка, фигуры речи, тропы (ЛЭС, сс. 520-521, 542-543, 564-565), эстэтычная функцыя мовы (СЛТ, 1990, с. 175).

**ЭТЫМАЛАГІЧНАЕ ЗНАЧЭННЕ** – унутраная форма слова або словазлучэння; матываваная сувязь гукавой абалонкі слова, марфемнага складу з першапачатковым зместам: *панядзелак* ад *па нядзелі*, *чацвер – чацвёрты дзень пасля нядзелі, красавік* ад *краска, краса, красавацца* і г. д. Э. З. часам забываецца, таму яго ўстанаўліваюць пры дапамозе этымалагічнага аналізу – навуковага даследавання гістарычнай будовы слова, яго першакрыніцы і часу яго ўзнікнення, спосабу словаўтварэння і мінулых словаўтваральных сувязей і рэканструкцыі першапачатковай формы слова, яго далейшага пераафармлення. Напрыклад:

АБАВЯЗАК, ст.-бел. *обовязок* з 1557 г. (Нас. гіст.), укр. *обов'язок,* польск. *obowazek* (тс). *Гл. абавязаць.*

АБАВЯЗАЦЬ у другасным абстрактным значэнні; параўн. *обов'язати,* ст.-польск. *obiazac'*, *obwazac',* польск. *obowiazac'*, серб.-харв. *обавезати, обвезати,* славен. *obvezati,* ст.-слав. *об зати*. Тлумачэнне гэтай іэалексы даволі складанае. Яе праславянская форма **ob - v z - ati*. *Гл. вязаць.* (Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Том 1. А-Б. – Мінск: Навука і тэхніка, 1978. – С. 40).

**ЭТЫМАЛАГІЗМ ПАЭТЫЧНЫ** – від тропа, у якім перанос семантыкі з аднаго слова на іншае адбываецца на аснове іх гукавой блізкасці; гукавая метафара. Яскравым прыкладам Э. П. з'яўляюцца верша(с)казы А. Разанава:

***Дождж***

*Дождж доўгачаканы, доўгаждaны. Ён "доіцца" з неба і дагаджае траве, дрэвам, усёй зямлі.*

*Дождж прыходзіць як боскі адказ на стараславянскую – "старасялянскую" – малітву: "Хлеб наш насущный даждь нам днесь".*

*Дождж добры, калі ён у меру – у “досыць” – і калі ў пару – у сяўбу, а не ў жніво і ў дажынкі.*

*Дождж падарожнічае ўдоўжкі і ўшыркі, без сцежак і без дарог, і там, дзе ён пабывае, жыццё адраджаецца нават з прысаку, нават з жуды.*

***Бераг***

*Бераг, як правадыр, вядзе раку да самага мора, сочачы ўдзень і ўначы, каб яна не спынялася па дарозе, не збочвала, не забывалася пра мэту, аберагаючы яе самую ад яе памкненняў, ад яе нораву, ад яе “пачуцця”, і разам з тым “пастараверску” застаецца на аднойчы абраным баку, на аднойчы знойдзеным месцы, разважаючы пра асіметрычны закон Бэра, паводле якога рака аддае перавагу аднаму берагу, і правяраючы гэты закон на сабе.*

***Горад***

*Горад горды і высакародны: ён стаіць на высокім месцы – на ўзгорку, на грудзе – і, адгароджваючыся ад навакольнага асяродку вежамі і сцяною, не адлучаецца ад яго, а вылучаецца з яго – як яго цэнтр, сярэдзіна, сарцавіна.*

*Ён – бесперастаннае пераўтварэнне дольняга ў “горнае”, мінулага ў “градучае”, ён – іхнія народзіны, і таму ўсе позіркі скіроўваюцца да яго, і таму ўсе дарогі сыходзяцца ў ім, і таму ўсім крывічам і радзімічам ён, нібы ўзнагарода, родны і дарагі.*

*Горад загартаваны ў горне розных нягод і прыгод, ён перагараджае ордэну і ардзе дарогу да валадарства, і калі на ўсё горла ворагі прадракаюць: “Гора – гораду!” і абрушваюць на яго град камянёў і стрэлаў, горад адказвае ім пагардай.*

*Да горада горнуцца вёскі, лясы, пасады, палі, агароды, і ён з’ядноўвае іх у радзіму, а разнаісную грамаду – смердаў, рамеснікаў, гандляроў – гуртуе ў народ.*

*І нават калі горад знішчаецца дашчэнту, згарае да гарадзішча, народ і радзіма становяцца тым радовішчам, з якога ён адраджаецца зноўку.*

*У горадзе валадарыць Рагвалод, горад радуецца Рагнедзе.*

(А. Разанаў. У горадзе валадарыць Рагвалод).

Як відаць з твораў А. Разанава, Э. П. значна адрозніваецца ад сапраўднага, навуковага, этымалагічнага аналізу, нават і прыведзенага намі вышэй (*гл.* Э. ЗНАЧЭННЕ). Няўмелае выкарыстанне Э. П. або злоўжыванне імі ў значнай ступені перашкаджаюць сэнсавай выразнасці і мастацкасці ўвогуле таго ці іншага літаратурнамастацкага выказвання (тэксту). Некаторыя паэты рыфмуюць Э. П., і тады даследчыкі называюць такую рыфму або каламбурнай, або тэматычнай.

*Параўн.:* этымалагізм паэтычны (Рагойша, 1987, 57-58), (ЭнЛіМБел, V, с. 661).

**ЭЎФАНІЯ** – 1) мілагучнасць мовы (маўлення); прыемнае з пункту погляду фанетыкі і стылістыкі гучанне паасобных гукаспалучэнняў, слоў і словазлучэнняў; 2) гукавая арганізацыя мовы ў літаратурным творы; 3) раздзел паэтыкі. *Гл.* ФОНІКА, ГУКАПІС, АСАНАНС, АЛІТЭРАЦЫЯ.

Кожная нацыянальная мова мае свае законы мілагучнасці, абумоўленыя фанічным (гукавым, фанемным) яе ладам. У беларускай мове – гэта аканне і яканне,

дзеканне і цеканне, поўнагалоссе і рухомы націск, падоўжаныя і падвоеныя зычныя, прыстаўныя зычныя і галосныя, асіміляцыя зычных паводле мяккасці, у першую чаргу свісцячых (як звонкіх, так і глухіх) і інш. Недарэмна ў ліхія, ваенныя гады П. Панчанка, успамінаючы родную краіну і яе мову, сказаў крылатую фразу: "Усё мілагучна для слыху майго: І звонае "дзе", і густое "чаго"…". А яшчэ значна раней Ул. Дубоўка выступіў у друку з цэлым навуковым трактатам "Рыфма ў беларускай народнай творчасці" (Узвышша, 1927, № 3), у якім раскрыў трывалую традыцыю беларускай эўфаніі, што жывіла сучасную беларускую паэзію. Пра мілагучнасць і немілагучнасць у творах беларускай мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі, шмат старонак удзяліў В. П. Рагойша ў такіх працах, як "Паэтыка М. Танка" (1968), "Гутаркі пра верш" (1979), "Паэтычны слоўнік" (1979, 1987, 2004) і інш.

*Параўн.:* эўфанія (ЭнЛіМБел, V, с. 662), (СЛТ, 1990, с. 176), эўфонія (Рагойша, 2003, сс. 42-43, 157).

**ЭЎФЕМІЗМЫ** – больш культурныя, далікатныя ці прыгожыя словы або словазлучэнні, якімі заменены непрыемныя ці непрыстойныя словы або словазлучэнні: *недалёкі чалавек* замест *дурань*, *ухіляцца ад ісціны – ілгаць, нябожчык – мярцвяк, хірургічнае ўмяшанне – аперацыя, перайсці ў паважаны ўзрост – стаць старым* і г. д. Часта Э. выступаюць у ролі сімвалаў, і таму ўспрымаюцца як пэўны мастацкі прыём. У якасці Э. могуць ужывацца асобныя выразы метафарычнага, метанімічнага і перыфрастычнага характару. Гэта можна ўбачыць нават з павярхоўнага аналізу некалькіх сінанімічных радоў: *абавязак – павіннасць – місія – справа гонару; абапал – па абодва бакі – па адзін і па другі бок; абмеркаваць – разгледзець – падзяліцца думкамі; адарванасць – адасобленасць – замкнёнасць – ізаляванасць; адважны – бессмяротны – геройскі – доблесны; ашуканства – хітрыкі – камбінацыя – фокус – ліпа; баяцца – пабойвацца – не рашацца – пазіраць у кусты; блішчаць – зіхацець – люстравацца – пераліваца – залаціцца* (паводле "Слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў" М. К. Клышкі. – Мінск, 1976); *Беларусь – зямля Заслонава, Купалы; бульба – даўняя спадарожніца беларуса, другі хлеб, надзейны хлеб маёй зямлі; гарэліца – злое зелле, людская атрута, дурман, свянцоная вада (вадзіца), свянцоныя кроплі, святая вада; грэкі – сыны Элады; Грэцыя – калыска цывілізацыі; знішчаць – адпраўляць на той свет, лячыць свінцовымі лекамі; забіты – камандзіраваны ў царства нябеснае; заплакаць – заліцца слязамі, пусціць слязу; лапці – фальклорны абутак; лаяцца – хрысціць душы; маліцца – весці гутарку з алахам, гаварыць з Богам, тварыць малітву, чытаць Багародзіцу, шаптаць нешта вастрабрамскай* (паводле слоўніка Г. М. Малажай "Беларуская перыфраза". – Мінск, 1974). Цікава адзначыць, што ў дадзеных крыніцах у шматлікіх сінанімічных радах побач з эўфемізмамі змешчаныя іх і антыподы – дысфемізмы: словы і выразы, што агрубляюць выказванне ці характарыстыку пэўнай з'явы. Напрыклад:

БЛЕДНЫ – ВАСКОВЫ – БЯСКРОЎНЫ – ЗЯМЛІСТЫ;

БРАЦЬ – ГРАБАСТАЦЬ – ГРЭБЦІ – РВАЦЬ – ДРАЦЬ – ЛУПІЦЬ – ХАПАЦЬ – ЛАПАЦЬ – ЦЯГНУЦЬ – ВЫВУДЖВАЦЬ;

ДАВЕДВАЦЦА – ВЫВЕДВАЦЬ – ДАКОПВАЦЦА – ВЫНЮХВАЦЬ – ВЫВІЖОЎВАЦЬ – РАСКУСВАЦЬ (паводле слоўніка М. Клышкі);

*Жыць – піць віно жыцця, таптаць дарогі, церці камяні, хадзіць пад сонцам; памерці – выбрацца на пагост, выпрастацца пад абразамі, павянчацца з Чорнай ямаю, пабратацца з труной, парыць косці ў магіле, сысці ў магілу, упасці навекі, уцячы ў магілу; фашызм – карычневая арда, зараза, чума, чума карычневай масці; цар – каранаваны жандар, кат, каронны кат, каранаванае пудзіла на троне* (паводле слоўніка Г. Малажай). Вельмі часта эўфемізмы і дысфемізмы замяняюць табуізаваныя назвы, архаічныя і зусім новыя найменні тыпу *кансенсус, піярства, холдзінг* і інш. Працэсы эўфемізацыі і дысфемізацыі актыўна вывучаюцца ў сацыялінгвістыцы *(гл.)*

*Параўн.:* дисфемизм, эвфемизм (СЛТ, 1969, сс. 137, 521), эвфемизмы (ЛЭС, 1990, с. 590), эўфемізмы (ЭнЛіМБел, V, с. 662), табу, эўфемізмы (СЛТ, 1990, сс. 146, 176).

# Ю

**ЮВЕЛІРНАЕ (ШМАТГРАННАЕ, ФІЛІГРАННАЕ) ДАСЛЕДАВАННЕ** – тонкае, шматаспектнае даследаванне з адмысловымі назіраннямі.

Так можна гаварыць пра творчы метад Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, А. Куляшова, М. Танка, К. Крапівы, І. Мележа, В. Быкава, У. Караткевіча і іншых беларускіх пісьменнікаў (паэтаў, празаікаў і драматургаў). Так можна гаварыць пра творы (даследаванні, працы, высновы) крытыкаў і літаратуразнаўцаў, якія, не адрываючыся ад беларускага фальклору, даследавалі, даследуюць і будуць даследаваць творчыя намаганні лепшых сыноў Беларусі – дзеячаў яе культуры і навукі. Даследаванні накшталт сямікніжнай манаграфіі Я. Ф. Карскага “Беларусы”, 2-, 3-, 4-томныя “Гісторыі беларускай літаратуры”, 2-томная “Гісторыя беларускай літаратурнай мовы” і аднатомнае выданне “Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі” можна паўнапраўна называць і ювелірнымі, і шматграннымі, і філіграннымі. Да такіх адносім персанальныя даследаванні У. Юрэвіча “Слова і вобраз” (1961) і “Я. Купала” (1983), Р. Шкрабы “Літаратура і мова” (1969)і “Энергія слова” (1988), Г. Кісялёва “З думай пра Беларусь” (1974) і “Пошукі імя” (1978), А. Мальдзіса “Таямніцы старажытных сховішчаў” (1974) і “На скрыжаванні славянскіх традыцый” (1980), А. Лойкі “Янка Купала” (1982) і “Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд” (У 2 ч., 1989), А. Мельнікава “Агіяграфія Беларусі XII-XVII стст.” (1990) і “Кірыл, епіскап Тураўскі” (2000) і шмат іншых. Пра складанасці і цяжкасці ў падрыхтоўцы такога роду прац (даследаванняў) сказаў зусім правільна і сціпла Д. І. Гальмакоў – аўтар манаграфіі “Стыль прозы Якуба Коласа” (Мінск, 1973): “Аўтар не прэтэндуе на ўсебаковасць даследавання пастаўленай праблемы, вычарпальнасць ацэнак. Апошняе мажліва толькі ў сувязі з аналізам усіх бакоў творчасці

мастака на аснове комплекснага вывучэння стылю паэзіі і публіцыстыкі, крытычнай і эпісталярнай спадчыны. Свядома абмяжоўваючы рамкі і аспект даследавання, аўтар тым не менш лічыць, што на аснове сістэматычнага аналізу стылю мастацкай прозы Я. Коласа можна скласці цэласнае ўяўленне аб шматграннасці і арыгінальнасці яго таленту" (с. 4). Яшчэ на 15 гадоў раней А. Адамовіч выказаўся больш катэгарычна пра філіграннае майстэрства Я. Коласа: "Стыль гэтага пісьменніка просты і адначасова шматгранны і складаны. Гэта тое дзённае сонечнае святло, у складзе якога – усе колеры спектра. Але іх, гэтыя асобныя колеры, можна ўбачыць толькі пры спецыяльным аналізе" (Адамовіч, А. М. Шлях да майстэрства / А. М. Адамович. – Мінск, 1958. – С. 10).

*Параўн.:* шматгранны, філігранны, ювелірны (ТСБЛМ, сс. 710, 760, 778).

**ЮРЫДЫЧНАЯ АСОБА** – *гл.* АСОБА, АСОБА ФІЗІЧНАЯ І ЮРЫДЫЧНАЯ.

# Я

*Я* – філасофская катэгорыя асобы ("філасофскіх канцэпцый асобнасці"), якая выражае рэфлексійна ўсвядомленую самастойнасць індывіда. У постмадэрнісцкай філасофіі *"Я"* – фундаментальная катэгорыя філасофскіх канцэпцый асобы. У ёй у якасці асноўных, маштабных вектараў могуць быць абазначаны экзістыйна-персаналісцкая і аб'ектывісцка-сацыяльная трактоўкі "Я", у кантэксце апазіцыі якіх класічная традыцыя інтэпрэтацыі данай катэгорыі. Інтэгральнай характарыстыкай канцэпцый з'яўляецца разгляд "Я" як самадастатковага, трансцэндэнтнага па сутнасці да іншых "Я". Аб'ектывісцка-сацыяльны напрамак арыентуе на трактоўку "Я" ў якасці элемента аб'ектыўна складзенай сацыяльнай сістэмы: ад наіўнага сацыяльнага рэалізму антычнасці да сацыялізму, які мысліць "Я" ў якасці камбінацыі аб'ектыўных сацыяльных параметраў (напрыклад, "асоба як сукупнасць грамадскіх адносін" у К. Маркса). У самай сучаснай філасофіі афармляецца "філасофія дыялога", якая зыходзіць з таго, што ні аб'ектывізм *(гл.),* ні суб'ектывізм *(гл.)* не здолелі вычарпальна канкрэтна асэнсаваць фундаментальныя асновы ў "феномене моўных зносін" (Э. Левінас). М. Бубер у сваёй кнізе "Я и Ты" (Берлін, 1923, рускі пераклад ажыццёўлены ў 1993 і 1995 гг.) канстатуе, што "Я" не ёсць анталагічная (субстанцыяльная) данасць, а толькі ў якасці "адносін з Ты". Таму, паводле М. Бубера, ніякага "Я" самога па сабе проста няма, не існуе, а жыццё чалавечых істот не зводзіцца да такой дзейнасці, што мае перад сабой нейкі (некаторы) аб'ект і таму адпавядае царству "Яно". Той, хто гаворыць "Ты", не валодае ніякім аб'ектам, а з'яўляецца ў пэўных адносінах. Пастуліруючы першасць адносін, М. Бубер выдзяляе тры сферы, у якіх свет будуецца і існуе: жыццё з прыродай, жыццё з людзьмі і жыццё з духоўнымі сутнасцямі. Што да так званага "духоўнага жыцця", то, паводле М. Бубера, яно вельмі часта з'яўляецца перашкодай дзеля жыцця ў Духу, паколькі Дух – гэта адказ чалавека свайму "Ты". Інакш кажучы, Дух ёсць для М. Бубера слова, і ён існуе паміж "Я" і "Ты". Аднак чым мацнейшы адказ, тым мацней ператварае "Ты" ў аб'ект *(гл.)*, з-за чаго толькі

неаформленае, дамоўнае слова пакідае “Ты” свабодным. Дыялагічнае асобаснае “Я” М. Бубер супастаўляе з уладарным “Я” Напалеона.

*Параўн.:* “Я”, “Я і Ты” (ПЭ, сс. 978-983), “Сверх-Я” (ПЭ, сс. 677-678).

**ЯДЗЕРНЫЯ СТРУКТУРЫ** – найбольш простыя сінанімічныя мадэлі, што выкарыстоўваюцца для разнастайных трансфармацый у адпаведнасці з патрабаваннямі кантэксту; ЯДРО ВЫКАЗВАННЯ – тое новае, што паведамляе гаворачая асоба адносна тэмы. *Гл.* АКТУАЛЬНАЕ ЧЛЯНЕННЕ СКАЗА (ВЫКАЗВАННЯ), ПРЭДЫКАТЫЎНАЯ АСНОВА-ЯДРО СКАЗА.

У навучальным дапаможніку “Агульнае мовазнаўства” (Магілёў, 2006) В. І. Рагаўцоў адзначае: “У сучасным мовазнаўстве зроблена спроба размежаваць моўныя адзінкі як інварыянтныя і маўленчыя як варыянтныя. Параўн., напрыклад: фанема – фон (алафон), марфема – морф (аламорф), лексема – лекса (алалекса), сказ (мадэль) – выказванне (фраза), значэнне – сэнс. На размежаванні моўных і маўленчых адзінак грунтуецца канструкцыйны і камунікацыйны аспекты вывучэння сказа, адзін з якіх прадугледжвае вывучэнне структурных мадэляў (схем, узораў), паводле якіх будуюцца сказы ў маўленні, а другі мае на мэце вывучэнне сэнсавай структуры сказа як камунікацыйнай адзінкі (звязаны з актуальным падзелам сказа)” (сс. 60-61). Актуальны падзел (чляненне) сказа (выказвання) – гэта выдзяленне тэмы і рэмы, якое не супадае з фармальным падзелам (чляненнем) на галоўныя (дзейнік і выказнік) і даданыя (азначэнне, дапаўненне, акалічнасць) члены сказа. Справа яшчэ і ў тым, што выказванні могуць быць і нечлянімыя (нячленныя) паводле саставу (структуры) сказы: словы-сказы *(гл.)* і словаспалучэнні-сказы (напрыклад: *Так. Ага. Ну і ну! Вось табе і на! Калі ласка. Толькі і ўсяго. А няўжо ж…* і шмат інш.). Актуальнае чляненне сказа выражаецца ў парадку слоў, інтанацыі, лагічным націску і інш. Выдзяленне актуальнай тэмы можа быць у сінтаксічным выглядзе, як выцясненне яе ў самы пачатак выказвання: *А сэрца – яно не хацела старэць.* (А. Марціновіч. Не шукай сдядоў сваіх). Гэта так званая рэдуплікацыя дзейніка, выражанага аднасчасова назоўнікам і займеннікам.

Асновай сказа (выказвання) часцей за ўсё з’яўляецца так званае прэдыкатыўнае спалучэнне (пераважна гэта дзейнік і выказнік або толькі іх саставы, у якіх заключаецца прэдыкатыўнасць *(гл.)* – тая сэнсава-граматычная “сіла”, што робіць слова (спалучэнне слоў ці словазлучэнне) сказам. Аднак ядром выказвання (у адрозненне ад ядра сказа) з’яўляюцца не самі граматычны суб’ект і граматычны прэдыкат *(гл.)*, а рух думкі ад вядомага да невядомага, новага (*гл.* ТЭМА І РЭМА, ВЫКАЗВАННЕ).

Ядзерныя сказы (выказванні) добра бачацца пры трансфармацыйным аналізе – у заканамерным пераўтварэнні (трансфармацыі) адной сінтаксічнай адзінкі ў іншую, захоўваючы тоеснасць (блізкасць) значэння (сэнсу): *Паэт стварыў (напісаў) верш, Верш стварыўся (напісаўся) паэтам, Верш створаны (напісаны) паэтам, Ці паэт стварыў (напісаў) верш? Паэт не стварыў (не напісаў) верш* і г. д. Такім чынам, ствараецца сінтаксічная парадыгма сказа (выказвання). Такое атрымліваецца ў адпаведнасці з прэдыкатыўнымі, мадальнымі і камунікацыйнымі ўласцівасцямі сказа

(выказвання). На гэтай глебе ўзніклі так званыя спараджальныя граматыкі, у якіх сказы паверхневай структуры (вытворныя, дэрываты) выводзяцца з ядзерных (найбольш простых, першасных, элементарных), або сказаў глыбіннай структуры. У прыведзеных вышэй прыкладах ядзерным сказам з'яўляецца *Паэт стварыў верш.*

*Параўн.:* ядерные структуры, ядро высказывания (СЛТ, 1969, с. 530), (СЛТ, 1972, с. 493), ядзерныя структыры, ядро выказвання (СЛТ, 1990, с. 176).

**Я-КАНЦЭПЦЫЯ [1]** – вельмі важны структурны элемент псіхалагічнага вобразу асобы, які складваецца ў зносінах (камунікацыі) і дзейнасці індывіда, яго прадстаўленасць як у сабе, так і ў іншым. (Гл.: ВОБРАЗ АЎТАРА, ВОБРАЗ АПАВЯДАЛЬНІКА, ВОБРАЗ ЛІРЫЧНАГА ГЕРОЯ).

**Я-КАНЦЭПЦЫЯ [2]** – суцэльны, хоць і не пазбаўлены ўнутраных супярэчнасцей, вобраз уласнага Я, які ўключае настапныя кампаненты: а) *кагнітыўны* – вобраз сваіх якасцей, уласцівасцей, здольнасцей, знешнасці, сацыяльнай значнасці і г. д. (інакш самасвядомасці); б) *эмацыянальны* – самапавага, сябелюбства, самапрыніжэнне, самаўніжэнне і г. д.; в) *ацэначна-валявы* (інакш – самаацэнка: як рэальнае Я, ідэальнае Я, фантастычнае Я і інш.). *Гл.* Я-КАНЦЭПЦЫЯ [1], АЎТАРСКАЕ "МЫ", АЎТАРСКІ МНОЖНЫ (ЛІК).

Адным з прыёмаў мысленчай характарыстыкі герояў літаратурна-мастацкіх твораў з'яўляецца Я.-К. У сваe аповесці і раманы К. Чорны нават уводзіў суцэльныя маналогі-споведзі. Напрыклад, у рамане "Пошукі будучыні" герой пачынае сваю "споведзь" так:

*– Я завуся Люцыян Акаловіч. Спавядаюся вам ад сэрца, бо можа я ў свае дваццаць год дажываю ўжо апошнія дні свайго жыцця. Я радзіўся там, дзе і вырас, гэта дробны фальварак паміж Клецкам і Нясвіжам, бліжэй да Клецка. Гэты фальварак мой бацька арандаваў з дзевяцьсот дваццаць першага года. А ў дваццатым годзе мой бацька, разам з маёю, цяжарнаю мной, маткаю, выехалі туды пад Клецк, следам за польскім войскам, якое адыходзіла з усходняй Беларусі на захад…"* (К. Чорны. Пошукі будучыні). Такі падрабязны распавед пра сваё жыццё вядзе герой ажно на 3 старонках рамана, ужываючы займеннік "Я" разам з усімі яго склонавымі формамі 36 разоў. А ў рамане "Трэцяе пакаленне" Скуратовіч-Чарпакевіч размаўляе з Наўмынскім-Сцепуржынскім на 5 старонках, ужываючы займеннік "Я" разам з усімі яго склонавымі формамі больш за 70 разоў. Гэтым самым пісьменнік даў магчымасць сваім героям "перажыць" паўторна сваё жыццё і нібы пакаяцца ў дапушчаных грахах, промахах, няўдачах. Гэта і самавыкрыццё, і самаацэнка, і сябелюбства, і самапрыніжэнне, а ўвогуле – самахарактарыстыка, псіхааналіз *(гл.).* Псіхолагі лічаць "Я" вынікам выдзялення чалавекам самога сябе з навакольнага асяроддзя, што дазваляе яму адчуваць сябе суб'ектам *(гл.)* сваіх фізічных і псіхічных станаў, дзеянняў і працэсаў, перажыць сваю суцэльнсць ("целостность") і тоеснасць з самім сабой – як у адносінах да свайго мінулага, так і да сучаснага і будучага. "Я" фарміруецца ў дзейнасці і камунікацыі (моўных зносінах).

*Параўн.:* Я, Я-концепция (КПС, с. 419), ячаства (ТСБЛМ, 2002, с. 783).

**ЯКАСЦІ МАЎЛЕННЯ КАМУНІКАЦЫЙНЫЯ** – прыкметы культурнага маўлення, якія забяспечваюць эфектыўнасць камунікацыі і гарманічнае ўзаемадзеянне яе ўдзельнікаў (камунікантаў). Я. М. К. вызначаюцца пры ўзаемадзеянні моўных структур з пазамоўнымі: мысленнем, свядомасцю, рэчаіснасцю, умовамі камунікацыі і інш. На сучасным этапе развіцця лінгвістыкі выдзяляюць 10 асноўных камунікацыйных якасцей маўлення: правільнасць і чысціня, паўната і багацце, выразнасць і вобразнасць, дзейснасць і дарэчнасць, лагічнасць і дакладнасць, яснасць (зразумеласць) і лаканічнасць чалавечага маўлення. *Правільным* маўленнем лічыцца нарматыўнае маўленне, г. зн. адпаведнае агульнапрынятым, літаратурным нормам (праўда, яны паступова і няўхільна змяняюцца, напрыклад, арфаграфічныя нормы сучаснай беларускай мовы ўдакладняліся дзяржаўнымі пастановамі ў 1957, 1993 і 2008 гг.). *Чыстае* маўленне тады, калі ў ім адсутнічаюць беспадстаўна ўжытыя, нематываваныя моўныя адзінкі (найперш неўласцівыя беларускай літаратурнай мове рэгіяналізмы, жарганізмы, вульгарызмы і інш.). Маўленне *поўнае і разнастайнае, багатае і беднае* залежыць ад аптымальнай насычанасці ці ненасычанасці яго featured рознымі і разнастайнымі сродкамі нацыянальнай мовы, прытым без нематываванага іх паўтору як пры гаварэнні, так і пры пісьме, а таксама ад умення карыстацца функцыянальнымі стылямі мовы і маўлення. *Вобразнае і выразнае* маўленне тады, калі яно экспрэсіўнае, эмацыянальнае і звязанае з выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў мовы (эпітэтаў, метафар, параўнанняў, паралелізму і інш.), афарызмаў, цытат і г. д. Маўленне заўжды павінна быць, як правіла, *дзейсным і дарэчным* – пры здольнасці выказванняў адпавядаць мэтам і задачам камунікацыі; *лагічным і дакладным* – адпаведным законам і правілам логікі і семасіялогіі; *зразумелым і лаканічным* – недвухсэнсоўным і сціслым, г. зн. з найменшай колькасцю слоў, уменнем перадачы думкі. Маўленне павінна быць здольным фарміраваць канкрэтна-пачуццёвыя ўяўленні пра рэчаіснасць, ажыццяўляючы ўздзеянне не толькі на розум, але і на эмацыянальную частку свядомасці, падтрымліваць цікавасць і ўвагу адрасата; забяспечваць эфектыўнасць моўных (маўленчых) зносін і гарманічнае ўзаемадзеянне ўдзельнікаў камунікацыі.

Неабходна заўсёды памятаць, што ў звязным маўленні словы, словазлучэнні, сказы павінны ўжывацца з адным пэўным значэннем, г. зн. выказванне павінна быць дакладна-адназначным. Інакш атрымліваюцца двухсэнсавыя выказванні, каламбуры, ляпсусы, казусы і інш. Напрыклад, калі аб'явы накшталт *"У адзенні (верхнім) не абслугоўваем"* ці *"Боты вырабляюцца са скуры заказчыка"* выклікаюць здаровы смех, то ад лозунга *"Гарачае прывітанне воінам-вызваліцелям Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў"* ужо становіцца не да смеху. Таму кантэксту як словам і выразам, што суправаджаюць выкарыстанае канкрэтнае або абстрактнае слова ці словаспалучэнне (словазлучэнне), нават суцэльную фразу, і надаюць ім неабходную адназначнасць, адводзіцца ж такая роля, як і ключавым маўленчым адзінкам, што фарміруюць прадмет думкі ці ўсё выказванне ў вуснай або пісьмовай форме. Яшчэ Цыцэрон лічыў, што ў словах павінен быць выбар датуль, пакуль самі словы не стануць дакладнымі назвамі

паняццяў, а Мялецій Сматрыцкі ў сваёй "Граматыцы славенскай" выступіў супраць літаральнага ("слова ў слова") перакладу з адной мовы на другую, гаворачы пра адэкватнасць думкі і выказвання, мовы і маўлення. Зразумела, маўленне і мысленне – з'явы нятоесныя, але абсалютнае выражэнне і ўспрыняцце думкі – неабходныя.

Суіснаванне дзвюх разнавіднасцей беларускай нацыянальнай мовы, а таксама дзвюх форм сучаснага беларускага літаратурнага маўлення прыводзіць да заканамернага іх узаемадзеяння і ўзаемаўплыву. Таму побач з супроцьпастаўленымі дыялектнымі і літаратурнымі моўнымі адзінкамі (гукамі, словамі, словазлучэннямі, сказамі) выкарыстоўваюцца галоўным чынам агульнаўжывальныя моўныя адзінкі, якія ў пераважнай большасці і ёсць літаратурныя нормы. Але варта ўлічваць і тое, што кожны маўленчы акт звычайна суадносіцца з якой-небудзь тыповай сітуацыяй. А ўсім даўно вядома, што сапраўднае валоданне мовай заключаецца менавіта ва ўменні сказаць (напісаць) так, як гэта прынята ў пэўных умовах, для пэўнага слухача (чытача), улічваючы ягоны ўзрост і кваліфікацыю. Трэба помніць, што сферы выкарыстання той ці іншай моўнай падсістэмы (найперш лексічнай і фразеалагічнай) неадрыўныя ад галін дзейнасці чалавека, звязаных пэўнай формай грамадскай свядомасці.

Улічваючы тое, што моўныя стылі – гэта грамадска ўсвядомленыя, функцыянальна абумоўленыя і ўнутрана аб'яднаныя разнавіднасці мовы ці маўлення, якія склаліся гістарычна і залежаць ад характару і зместу выказвання, а таксама розныя спосабы і прыёмы выкарыстання мовы як сродку зносін, неабходна адрозніваць сферы грамадскага жыцця, дзе складваюцца ўсе стылі літаратурнай мовы. Так, у сферы афіцыйных і справавых зносін сфарміраваўся і бытуе афіцыйна-справавы стыль – стыль дзяржаўных дакументаў, указаў, законаў і кодэксаў, актаў, даверанасцей, пратаколаў і г. д., у публіцыстычнай сферы, або ў сферы грамадска-палітычных зносін, – публіцыстычны стыль, а ў сферы навуковых зносін – навуковы стыль. Аналагічна можна гаварыць пра гутарковы і мастацкі стылі, якія маюць больш расплывістыя рысы і нормы, чым названыя. На сучасным этапе развіцця стыляў даследчыкі вылучаюць яшчэ падстылі: заканадаўчы, канцылярскі, дыпламатычны, газетны, прамоўніцкі, навучальны, папулярны, паэтычны, празаічны, драматургічны і інш. У залежнасці ад функцыянальна-стылістычнай і эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі ўсе моўныя сродкі, што абслугоўваюць стылі і падстылі, часта кваліфікуюцца як навуковыя, публіцыстычныя, паэтычныя, гутарковыя і інш. Аднак найчасцей іх аб'ядноўваюць у два вялікія пласты: вусна-гутарковыя, ці сродкі вусных стыляў маўлення, і кніжна-пісьмовыя, ці сродкі пісьмовых стыляў маўлення.

Ужо адзначалася, што кожны стыль сучаснай беларускай мовы мае свае спецыфічныя нормы, і таму прыдатнае і патрэбнае ў адным стылі можа не падыходзіць да другога ці будзе зусім недарэчнае ў ім. Значыць, трымацца адзінства стылю – асноўнае патрабаванне як стылістыкі, так і культуры маўлення. Але на практыцы гэта адбываецца не ўсюды і не ва ўсіх.

Сёння, калі наша рэспубліка стала суверэннай дзяржавай, а беларуская мова стала дзяржаўнай мовай, усялякія захапленні іншамоўнымі сродкамі павінны

